# ГАРОДНЯ
# X – XX стст.

## Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам

Пад рэдакцыяй доктара гістарычных навук
А.Ф.Смаленчука



Гародня 2014




*ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА прысвячаецца той Гародні, якой мы ганарымся.*

*Дзякуем усім, хто з намі.*

**www.facebook.com/knihizhrodna**

---

**Каардынатары кніжнай серыі**
**“ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА”:**
Павал Мажэйка, Эдвард Дмухоўскі

---

**“Гародня X – XX стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам”** - чарговае выданне кніжнай серыі “ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА”.

З усіх старажытных беларускіх гарадоў сёння найбольш актыўна даследуецца Гародня. Кніга **“Гародня X – XX стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам”** яшчэ адзін таму прыклад. 11 гісторыкаў з Беларусі і Польшчы ажыццявілі першае ў гісторыі сумеснае беларуска-польскае даследаванне мінуўшчыны горада на сумежжы цывілізацый. Аўтары паставілі перад сабой мэту не толькі паказаць уласнае разуменне падзеяў, але і ўзаемна ўшанаваць польскі і беларускі ўнёсак у развіццё Гародні. Адначасова належная ўвага ў кнізе нададзена гарадзенскай габрэйскай суполцы, якая была значным дэмаграфічна-эканамічным чыннікам Гародні ад сярэднявечча да XX ст.

Кніга складаецца з арыгінальных тэкстаў, створаных адмыслова для гэтай кнігі і ўкладзеных у чатыры раздзелы: “X – XV стст. Горад рыцараў, дойлідаў і гандляроў”; “XV – XVIIIстст. Каралеўскі горад пад Магдэбургскім правам”; “Канец XVIII – пачатак XX ст. Горад супраць Імперыі”; “XX стагоддзе. Змаганне за горад”.

---

**Аўтары:**
Пшэмыслаў Баравік
Юры Гардзееў
Аляксандр Ерашэвіч
Аляксандр Краўцэвіч
Ян Ежы Мілеўскі
Андрэй Павач
Аляксандр Радзюк
Вольга Сабалеўская
Віктар Саяпін
Аляксандр Смалянчук (рэдактар)
Вячаслаў Швед

**Кіраўнік рабочай групы:** Павал Мажэйка
**Карэктура:** Вераніка Курсевіч
**Дызайн і падрыхтоўка да друку:** Ян Паўлёнак
У дызайне вокладкі выкарыстаныя элементы карціны Андрэя Філіповіча.

На пярэднім фарзацы: "Панарама Гародні, др. пал. 50-х гг XX ст." (здымак з калекцыі "Гарадзенскай Бібліятэкі", адрэстаўраваны У. Кіслым).

На тыльным фарзацы: "Гарадзенскі дворык". Фота М. Анішчанкі.

Здымкі ў кнізе з калекцыі “Гарадзенскай Бібліятэкі” і асабістага архіву М.Анішчанкі.

З'яўленне кнігі сталася магчымым у выніку супрацы "ГАРАДЗЕНСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ" з Калегіумам Усходняй Еўропы імя Яна Новака-Езяраньскага ва Уроцлаве і Дэпартаментам публічнай і культурніцкай палітыкі Міністэрства замежных справаў Польшчы ў межах конкурсу "Сумесная польска-беларуская дзейнасць". Кніга прадстаўляе погляды аўтараў і не з'яўляецца афіцыйнай пазіцыяй Міністэрства замежных справаў Польшчы.



Rzeczpospolita Polska
Ministerstwo
Spraw Zagranicznych

ISBN 978-83-7893-160-7
ISBN 978-83-7893-041-9 (mobi i ePub)

Copyright © Гарадзенская Бібліятэка, 2014
Kolegium Europy Wschodniej im. Jana Nowaka-Jeziorańskiego we Wrocławiu, 2014

# Змест

## КАНЕЦ XVIII – ПАЧАТАК XX СТ. ГОРАД СУПРАЦЬ ІМПЕРЫІ.



## XX СТАГОДДЗЕ. ЗМАГАННЕ ЗА ГОРАД

# Прадмова

Чаму варта прачытаць гэтую кнігу? Прынамсі з трох прычынаў.

Па-першае, таму, што гісторыя “Каралеўскага гораду з правінцыйным лёсам” неаб’ектыўная... Занадта часта за лозунгам пра аб’ектыўнасць хавалася звычайная прага “прыватызаваць” Гародню. Так, Яўстах Арлоўскі ў 1910 г. пісаў гісторыю “заходнерускага горада”, Юзаф Ядкоўскі ў 1923 г. – гісторыю “польскага горада”. Яшчэ больш дзіўнай была спроба аўтараў выдання 1964 г. (рэд. Зіновій Капыскі і Барыс Фіх) распавесці пра гісторыю Гародні як пра гісторыю “савецкага горада”. Пры гэтым не заўсёды самыя аўтары разумелі і адчувалі, што знаходзяцца ў палоне пэўнай ідэалогіі.

Патрабаванне “аб’ектыўнасці”, карані якога прасочваюцца ў наіўным перакананні пазітывістаў пазамінулага стагоддзя, што трэба пісаць так, “як было на самой справе”, сталася свайго роду праклёнам гісторыкаў. Даўно заўважана, што найменш бесстароннасці ў працах тых, хто найгалосней крычыць пра ўласную “аб’ектыўнасць”.

Навуковая дзейнасць у галіне гістарычных ведаў немагчымая без ацэначных меркаванняў і каштоўнасных арыентыраў, якія даследчык разам з адукацыяй, выхаваннем і г.д. атрымаў ад той цывілізацыі ці ад таго грамадства, да якога належаў. Апроч таго эпоха нацыяналізмаў, якая ўсё яшчэ трывае, нарадзіла

сітуацыю, пра якую адзін з беларускіх навукоўцаў трапна сказаў, што гісторыя мае нацыянальнасць...

Нельга забываць і пра спецыфіку ўласна гістарычнага даследавання. Пры самым шчырым жаданні напісаць "праўдзівую гісторыю" даследчык заўсёды будзе абмежаваны тымі крыніцамі, якія захаваліся і якія ён здолеў знайсці, а таксама ўласнай прафесійнай падрыхтаванасцю і ўменнем зразумець гэтыя сляды мінулага.

Гародня, якая ўзнікла на памежжы розных этнасаў, культур ці цывілізацый і канфесій, была горадам шматкультурным і шматканфесійным. Ігнараванне гэтага, звычайна, абарочвалася стварэннем чарговага "палімпсесту".

У гэтай кнізе адказ на "класічнае" для нашага рэгіёну пытанне "Чый горад?"знаходзіцца па-за межамі нацыянальнага наратыву, прынамсі ў яго этнакультурным варыянце.

Па-другое, гэтую кнігу варта прачытаць, бо адзін з яе галоўных герояў – гэта Гараджанін. Менавіта ён ствараў гісторыю Гародні, нават не ўсведамляючы гэтага. У кнізе прысутныя рыцары і гандляры, манахі і князі, мяцежнікі і чыноўнікі, вайскоўцы і пісьменнікі. Пры гэтым гаворка ідзе не толькі пра самых славутых і знакамітых. На старонках кнігі знайшлося месца для тых, каго невыпадкова называюць "маўклівай большасцю гісторыі". Штодзённасць жыцця "звычайных" гарадзенцаў выразна прысутнічае ў гэтай гісторыі Гародні. Нельга таксама не адзначыць, што ўпершыню ў кнізе прадстаўлена шырокая панарама жыцця і смерці гарадзенскага "габрэйскага кварталу".

У кнізе дамінуе сацыяльная гісторыя, у цэнтры якой знаходзіцца гараджанін, які ў нечым змяняецца з цягам часу, а ў нечым застаецца тым самым, лёгка пазнавальным намі гарадзенцам. Гісторыя "Каралеўскага гораду..." – гэта гісторыя зменаў нязменнай Гародні, якая ўжо тысячу гадоў узіраецца ў воды Нёмана і быццам спрабуе спыніць ход гісторыі.

Па-трэцяе, кніга складаецца з аўтарскіх тэкстаў. Яе аўтары – гэта гісторыкі з Гародні (Аляксандр Краўцэвіч, Вольга Сабалеўская, Аляксандр Радзюк, Вячаслаў Швед, Андрэй Павач, Аляксандр Смалянчук, Віктар Саяпін), з Менску (Аляксандр Ерашэвіч), з Беластоку (Ян Ежы Мілеўскі і Пшэмыслаў Баравік) і Кракава (Юры Гардзееў).

Кожны аўтар самастойна вызначаў змест параграфаў і раздзелаў, над якімі працаваў. Пры гэтым зыходным прынцыпам было асвятленне важных падзеяў палітычнай, культурнай, гаспадарчай і ваеннай мінуўшчыны горада з адлюстраваннем яго сацыяльнай гісторыі. Кожны тэкст – гэта сустрэча з цікавым суразмоўцам.

Нараджэнню кнігі моцна паспрыяла тая вялікая праца па рэканструкцыі гарадзенскай мінуўшчыны, якая на працягу апошняга 20-годдзя ператварыла Гародню ў адзін з навуковых цэнтраў вывучэння лакальнай гісторыі. Збольшага гэта намаганні руплівуцаў, якія разумеюць важнасць і адказнасць навуковай і грамадскай дзейнасці ў галіне гістарычнай памяці. Аказалася, што нават не маючы інстытуцыянальнай падтрымкі можна зрабіць для горада вельмі шмат. Дастаткова не займацца самакастрацыяй уласнай думкі...

Хочацца шчыра падзякаваць аўтарам, а таксама ўсім тым, хто падтрымаў ініцыятыву напісання гэтай кнігі, у той ці іншай ступені спрыяў навуковым даследаванням, а таксама рыхтаваў яе выданне.

***Аляксандр Смалянчук***

# Спіс скарачэнняў

| | | |
|---|---|---|
| АВАК | – | Акты Виленской археографической комиссии |
| АЗР | – | Акты, относящиеся к истории Западной России |
| ГДГАМ | – | Гарадзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей |
| ДАГАГВ | – | Дзяржаўны архіў грамадскіх аб'яднанняў Гарадзенскай вобласці |
| КПЗБ | – | Камуністычная партыя Заходняй Беларусі |
| ЛДГА | – | Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў |
| МДБ | – | Міністэрства Дзяржаўнай бяспекі |
| НГАБ | – | Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі |
| НКУС | – | Народны камісарыят унутраных справаў |
| ПКГЭ | – | Писцовая книга Гродненской экономии |
| ПСРЛ | – | Полное собрание русских летописей |
| РДВГА | – | Расійскі Дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў |
| СМЕРШ | – | "Смерць шпіёнам" |
| AGAD | – | Archiwum Główne Akt Dawnych |
| VL | – | Volumina Legum |

Летапісны Горадзен і яго археалагічнае даследаванне
Гарадская прастора ў XI – XVI стст.
Гарадзенская архітэктурная школа XII ст.
Гародня і пачатак Вялікага Княства Літоўскага
Фарпост Літвы
На схіле сярэднявечча
З'яўленне габрэйскай суполкі

# ЛЕТАПІСНЫ ГОРАДЗЕН І ЯГО АРХЕАЛАГІЧНАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ

Гародня – самы старажытны горад на Нёмане, адной з буйнейшых еўрапейскіх рэк. Галоўная адметнасць горада ад самых пачаткаў да сённяшняга дня – памежнае месцазнаходжанне. Спачатку на стыку трох вялікіх культураў: усходнеславянскай (беларускай), заходнеславянскай (мазавецкай) і балцкай (яцвяжскай). Потым каля неспакойнай граніцы з дзяржавай Тэўтонскага ордэна, затым памежжа з Польскім каралеўствам, якое захоўвалася і пасля расійскай заваёвы ў другой палове XVIII ст. Сталінскія перамеры дзяржаўных межаў пасля Другой сусветнай вайны наблізілі граніцу да горада амаль упрытык (каля 10 км напрасткі ад гарадской ускраіны). Як і ўся Беларусь, Гародня была і з'яўляецца часткай памежнай зоны паміж заходнееўрапейскай і расійскай культурна-палітычнымі прасторамі.

Памежнае становішча зрабіла вялікі ўплыў на гісторыю Гародні, у тым ліку на прасторавае развіццё і дэмаграфічна-нацыянальны склад жыхароў. Неаднаразовая змена дзяржаўнай прыналежнасці, асабліва ў XX ст. не магла не выклікаць спрэчак аб праве на ягоную гістарычную спадчыну розных народаў: беларусаў, палякаў, летувісаў, расійцаў.

Першая згадка пра горад у пісьмовых крыніцах знойдзеная ў Іпацьеўскім летапісе і адносіцца да 1128 г. Дакладней, летапісец узгадаў не сам горад, а князя *"Усеваладку з Городна"*[1], які па загадзе вялікага князя кіеўскага вывеў сваю дружыну ваяваць супраць Полацкага княства. Летапісец змясціў Усеваладку побач з палескімі князямі з Турава і Клецка, відаць, таму некаторыя даследчыкі шукалі ягонае княства на Палессі. Паводле адной з навейшых версій, Усеваладка мог паходзіць ад князёў Берасцейскай і ў шырэйшым сэнсе Тураўскай зямлі[2]. Летапісны запіс – несумненнае сведчанне васальнай залежнасці

[1] ПСРЛ. Москва, 1962. Т. 2. Стб. 292.

[2] Назаренко А. Городенское княжество и городенские князья в 12 в. // Древнейшие государства Восточной Европы. 1998. Москва, 2000. С. 169-188.

гарадзенскіх князёў ад кіеўскіх. Яшчэ раней, пад 1116 г. летапісец паінфармаваў пра шлюб Усеваладкі з дачкой Уладзіміра Манамаха Агаф'яй, але без указання пра яго гарадзенскае паходжанне[3]. Таму афіцыйнай датай заснавання Гародні прыняты 1128 г.

У сапраўднасці горад нашмат старэйшы. Як паказалі археалагічныя раскопкі, першапачатковае паселішча на Старым замку было заснаванае ўсходнімі славянамі ў канцы X – пачатку XI ст. Прыблізна ў той самы час узніклі панямонскія гарады Наваградак, Ваўкавыск і магчыма, Слонім. З гэтай храналагічнай акалічнасці выводзіцца меркаванне пра хвалю ўсходнеславянскай каланізацыі на Панямонні ў канцы X ст. Найбольш верагодна, яна была звязаная з гвалтоўным увядзеннем хрысціянства на ўсходнеславянскіх землях у 988 г. (як вядома, паганцаў хрысцілі "агнём і мечам"). Частка язычнікаў не захацела прымаць новую веру і перасялілася на далёкую ўскраіну ўсходнеславянскага арэалу, далей ад княжых цэнтраў. Гэтае меркаванне пацвярджаецца матэрыяламі археалагічных раскопак, менавіта, адсутнасцю рэчаў хрысціянскага культу ў культурных напластаваннях панямонскіх гарадоў да другой паловы – канца XI ст. Археолаг Яраслаў Звяруга сцвердзіў: *"Першыя прадметы хрысціянскага культу – літыя нацельныя крыжыкі – з'явіліся ў панямонскіх гарадах не раней за другую палову XI ст."*[4] Вядомая даследчыца Панямоння Фрыда Гурэвіч вывела: *"Насельніцтва, якое заснавала гарады Панямоння, было язычніцкім і такім заставалася да канца XI ст."*[5]

Хоць па археалагічных матэрыялах немагчыма вызначыць дакладную дату заснавання Гародні, належыць наблізіць яе да 988 г., калі хрысціянства стала афіцыйным веравызнаннем Кіеўскай Русі. Прынамсі, гэтая дата нашмат бліжэй да рэальнай, чым сённяшняя.

Праз спецыфічныя асаблівасці некаторых катэгорыяў матэрыяльнай культуры археолагі прыйшлі да высновы, што акрамя ўсходніх славян – выхадцаў з розных племянных тэрыторый – удзел у стварэнні і развіцці сярэднявечных панямонскіх гарадоў прымалі заходнія славяне і мясцовыя балты.

[3] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 284.

[4] Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в 9-13 вв. Мн., 1989. С. 196.

[5] Гуревич Ф.Д. Древние города Белорусского Понеманья. Мн., 1982. С. 19.

Шлюб у 1116 г. гарадзенскага князя з дачкой самага магутнага ўладара на тагачаснай Русі сведчыць пра тое, што Гародня адыграла не апошнюю ролю на палітычнай арэне Русі. Амаль усе летапісныя звесткі паказваюць на трывалую палітычную залежнасць Гародні ад Кіева. Па загадзе вялікага князя кіеўскага гарадзенская дружына адпраўлялася ў далёкія, небяспечныя і зусім непатрэбныя гарадзенцам паходы, вось як згаданая выправа на Полацак. Сыны Усеваладкі (у яго было тры сына і дзве дачкі) Барыс і Глеб у 1141 г. і зноў жа ў інтарэсах кіеўскага князя Усевалада хадзілі з ім на Галіч. Той Усевалад вырашаў з кім браць шлюб дочкам гарадзенскага князя – адну выдаў за чарнігаўскага князя Уладзіміра Давыдавіча, другую – за тураўскага Юры Яраславіча. Малодшы сын Усеваладкі Мсціслаў таксама быў вымушаны ўдзельнічаць у далёкіх міжусобных звадах на поўдні Русі, а ягоны брат Глеб зноў жа па закліку з Кіева ў 1167 г. пайшоў нават супраць полаўцаў. Мсціслаў Усеваладкавіч у 1184 г. таксама вадзіў дружыну ў далёкі стэп[6].

Знакаміты летапісны запіс пад 1183 г.: *"Таго ж лета Горадзен пагарэў увесь і цэрквы каменныя ад бліскання маланак і раскатаў грому"*[7] быў першай і апошняй згадкай пра сам горад у XII ст.

Пазней, да сярэдзіны XIII ст., звесткі пра Гародню ў захаваных пісьмовых крыніцах не сустракаюцца. Якраз у XII ст. актыўна развіваўся працэс палітычнага раздраблення ўсходнеславянскіх земляў. Пад канец стагоддзя палітычнае значэнне Кіева значна ўпала, парушыліся васальныя сувязі гарадзенскіх князёў з кіеўскімі. Мяркуецца, што тады на Панямонні вялося ўласнае летапісанне, але ягоныя помнікі не захаваліся. Іншыя ўсходнеславянскія летапісцы не згадвалі пра далёкую паўночную Гародню, бо яна не была звязана з іх мясцовымі справамі і інтарэсамі.

Сітуацыя змянілася ў сярэдзіне XIII ст., калі горад апынуўся ў эпіцэнтры падзеяў, звязаных з утварэннем Вялікага Княства Літоўскага (каля 1248 г.) і пераносам у Прусію сядзібы Тэўтонскага ордэна (1228 г.). Акрамя ўсходнеславянскіх летапісцаў пра Гародню пачалі пісаць храністы ордэнскай дзяржавы. Некалькі

[6] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 315, 317, 528, 631.

[7] ПСРЛ. Т. 2 . Стб. 634.

багатых на дэталі эпізодаў, звязаных з барацьбой за Гародню, змешчаныя ў Галіцка-Валынскім летапісе – асноўнай крыніцы па пачатковай гісторыі ВКЛ. Да канца Сярэднявечча (да XVI ст.) у пісьмовых крыніцах працягвала выкарыстоўвацца першая вядомая назва горада - Горадзен (Городенъ).

У XIX ст. гісторыкі пачалі дыскусію наконт лакалізацыі летапіснага Горадзена XII ст. Некаторыя даследчыкі (у тым ліку Юзаф Ядкоўскі – будучы адкрывальнік Горадзена на Нёмане) адмаўлялі яго сувязь з горадам над Нёманам па прычыне яго значнай аддаленасці ад Кіева і іншых буйных усходнеславянскіх цэнтраў. Летапісны Горадзен шукалі ў мястэчку Гарадно на Палессі (Столінскі раён). Вядомы польскі гісторык Генрык Лаўмяньскі яшчэ ў пачатку 30-х гадоў XX ст. (ужо пасля першых археалагічных адкрыццяў на Старым замку) пісаў пра наднёманскую Гародню як *"летувіскую крэпасць, якая сцерагла пераправы на Нёмане падчас выправаў на Польшчу і паўднёва-заходнюю Русь"*. Гэтае выказванне было пакінута без каментароў у перавыданні працы Лаўмяньскага ў 1983 г.[8], і часам кур'ёзна паўтараецца некаторымі сучаснымі гісторыкамі.

Па прычыне малалікасці пісьмовых крыніцаў па ранняй гісторыі горада яе вывучэнне стала справай археолагаў. Спрэчку аб лакалізацыі летапіснага Горадзена вырашылі першыя буйныя раскопкі на Старым замку ў 1932 – 1933 г., дакладней, падсыпка схілу гары, падмытай Нёманам. Зямля для падсыпкі бралася з пляцоўкі гары. Кіраўніцтва працай ажыццяўляў дырэктар мясцовага музея Юзаф Ядкоўскі. Напачатку былі адкрытыя рэшткі мураванай пабудовы, зробленай з характэрнай для XI – XII стст. тонкай цэглы-плінфы. Ю.Ядкоўскі дакладна ідэнтыфікаваў яе як княскі церам. Працяг раскопак у 1933 г. прывёў да адкрыцця яшчэ дзвюх мураваных пабудоваў, размешчаных адна над другой і сёння вядомых як Ніжняя і Верхняя цэрквы. Акрамя таго, выявілася, што культурны слой на Старым замку выдатна захоўвае арганічныя матэрыялы. Ацалелі некалькі ярусаў сярэднявечнай драўлянай забудовы. Багатая матэрыяльная культура мела тыповыя рысы ўсходнеславянскага горада.

[8] Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983. S. 52.

У выніку адкрыццяў Ю.Ядкоўскага былі вырашаныя некалькі навуковых праблемаў:

- летапісны Горадзен канчаткова акрэсліўся на беразе Нёмана,
- горад заснавалі ўсходнія славяне (беларусы),
- Гародня ў XI – XIII ст. была буйным, па тагачасных мерках, горадам з багатай матэрыяльнай культурай,
- пацвердзілася летапісная інфармацыя пра пажар 1183 г.

Варта заўважыць, што Ніжняя царква мела надзвычайнае падабенства да Каложы, як па матэрыялах, тэхналогіі будоўлі, так і па дэкаратыўным афармленні, што пазней дапамагло вылучыць мясцовую архітэктурную школу.

З гарадзенскай архітэктурнай школай XII ст. звязаныя першыя ў Беларусі гарадскія археалагічныя даследаванні, аднатаваныя менавіта ў Гародні ў 1738 г. Тады архімандрыт гарадзенскага Барысаглебскага (Каложскага) уніяцкага кляштара Ігнат Кульчынскі абследаваў галоўную кляштарную царкву (Барысаглебскую) і прыйшоў да высновы, што яна збудаваная *"каля 1200 г."* Выснову гэтую ён абгрунтаваў будаўнічым матэрыялам храма – вузкай цэглай-плінфай, якая *"падобная да полацкай кафедральнай царквы"*[9]. Варта зазначыць, што даціроўка Кульчынскага даволі дакладная (прынамсі, больш дакладная, чым высновы многіх пазнейшых аўтараў), бо сучасныя даследчыкі адносяць будаўніцтва царквы да апошніх дзесяцігоддзяў XII ст.

Даследаванне Барысаглебскай царквы было пазначана ў планах пачынальнікаў беларускай навуковай археалогіі братоў Канстанціна (1806 – 1868 г.) і Яўстафія (1814 – 1873 г.) Тышкевічаў, аднак пра іх рэалізацыю нічога невядома. Унікальны храм, дакладней ягоныя руіны, у XIX ст., малявалі У.Гразноў (выявіў знакі на плінфе, фрэскавы роспіс на сцяне і ў алтары), М.Альшынскі, В. Герсан, М.Кулеша, І.Трутнеў.

Наступныя археалагічныя даследаванні, у тым ліку раскопкі, на тэрыторыі Барысаглебскай царквы былі правед-

[9] Алексеев Л.В. Археология и краеведение Беларуси XVI в. – 30-е годы XX в. Мн., 1996. С. 14.

зеныя ў першым дзесяцігоддзі ХХ ст. расійскім архітэктарам П.Пакрышкіным, які прапанаваў праект рэстаўрацыі храма.

У 1934 г. спецыяльная камісія забараніла Ю.Ядкоўскаму працягваць раскопкі на Старым замку. Даследчыка абвінавацілі ў парушэнні методыкі даследаванняў і адхілілі ад кіраўніцтва працай. Падставай было вядзенне раскопак без уліку стратыграфічных дадзеных культурнага слоя і адсутнасць належнай фіксацыі знаходак. У 1937 – 1939 гг. даследаваннямі на замку кіраваў прысланы з Варшавы археолаг Здзіслаў Дурчэўскі, які распрацаваў стратыграфію культурнага слою Старога замка[10]. Сабраная археалагічная калекцыя была часткова страчаная за час нямецкай акупацыі ў Другую сусветную вайну. Ацалелыя керамічныя матэрыялы пасля вызвалення Гародні апрацавалі вядомыя археолагі муж і жонка Галіна і Уладзімір Галубовічы. Падрыхтаваная імі праца *“Новыя матэрыялы па гісторыі Гродна ў раннефеадальную эпоху”* да сёння захоўваецца ў выглядзе рукапісу.

Пасля Другой сусветнай вайны раскопкі адбываліся, галоўным чынам, у трох частках сярэднявечнага горада: Старым замку (дзядзінец горада эпохі Кіеўскай Русі), на тэрыторыі Барысаглебскай (Каложскай) царквы (і ў самой царкве), кляштары базыліянак.

У 1949 г. буйныя раскопкі на Старым замку правяла экспедыцыя расійскіх археолагаў пад кіраўніцтвам вядомага даследчыка архітэктуры Кіеўскай Русі Мікалая Вароніна[11]. Археолаг прыйшоў да высновы, што адкрыты Ю.Ядкоўскім церам на самай справе быў адной з замкавых вежаў. Тым не менш, пазнейшыя даследаванні знанага пецярбургскага археолага Паўла Рапапорта паказалі, што гэта ўсё ж княскі палац, які па памерах быў большы за палацы тагачасных полацкага і смаленскага князёў. Па ацалелых фрагментах *in situ* Марыяна Малеўская зрабіла навуковую рэканструкцыю ўзору падкупальнага квадрата княжай Ніжняй царквы. Астэолагі прааналізавалі багатую калекцыю касцей разнастайных жывёлаў, сабраных

10 Durczewski Z. Stary zamek w Grodnie w świetle wykopalisk, dokonanych w latach 1937-1938. Grodno, 1939.

11 Воронин Н.Н. Древнее Гродно (по материалам археологических раскопок 1932-1949 гг.). Москва, 1954.

падчас раскопак. Выявілася, што сярод іх надзвычай вялікі працэнт складаюць косці дзікіх звяроў (нашмат больш, чым у іншых усходнеславянскіх гарадах), г. зн. адным з важнейшых заняткаў гарадзенцаў было паляванне. Гэткім чынам археалогія пераканаўча вытлумачыла, чаму на гербе горада змешчана выява аленя Святога Губерта, патрона паляўнічых.

З пачатку 70-х гадоў XX ст. Гародню пачалі даследаваць беларускія археолагі. Міхась Ткачоў у 1971 г. правёў шурфоўку некаторых архітэктурных аб'ектаў на Старым замку, а Яраслаў Звяруга ў тым жа годзе распачаў раскопкі на Каложскім плато непадалёк ад Барысаглебскай царквы (працягваў іх у 1971 – 1973 г.). Даследаванні Міхася Ткачова выявілі пад падмуркам замкавай сцяны драўляныя канструкцыі з умацаванняў XII – XIII стст.

У 1977 г. разведвальныя раскопкі на Старым замку ажыццявіў Алег Трусаў. Ён працягваў даследаванні як на Старым замку, так і на тэрыторыі Каложскага манастыра ў 1981, 1983 – 1988 г. У 1992 – 1993 г. пад кіраўніцтвам А.Трусава былі раскапаныя падмуркі гатычнага Фарнага касцёла XVI ст. (г.зв. "Фара Вітаўта"), знішчанага гарадскімі ўладамі ў 1961 г.

У 1980 – 1981 г. на падворку кляштара базыліянак вёў даследаванні Ігар Чарняўскі, які адкрыў рэшткі яшчэ аднаго мураванага храма XII ст. – Прачысценскай царквы. У 1983 г. аўтар гэтых радкоў правёў там невялікія раскопкі, а ў 1986 – 1988 г. вывучаў тэрыторыю гарадзенскіх пасадаў і вакольнага горада (Новы замак). Кляштар Св. Брыгіты ў 1985 г. даследаваў Генадзь Сагановіч. У канцы 80-х гадоў раскопкі на тэрыторыі пасадаў ажыццяўляў Рыгор Акінчыц.

У апошнія гады раскопкі, звязаныя, галоўным чынам, з будаўнічымі працамі на тэрыторыі горада, праводзіліся Генадзем Семенчуком, Аляксандрам Мядзведзевым, Сяргеем Піваварчыкам.

Самыя цікавыя і важныя адкрыцці чакалі археолагаў на Старым замку. Шматгадовыя раскопкі дапамаглі вызначыць яго як

найбольш насычаны каштоўнымі археалагічна-архітэктурнымі помнікамі аб’ект ва ўсім усходнеславянскім арэале. У 1981 г., калі А.Трусаў праводзіў шурфоўку з удзелам Паўла Рапапорта, выявілася, што адкрыты Ю.Ядкоўскім “церам” XII ст. сапраўды з’яўляеццца княжым палацам, а не рэшткамі абарончай вежы. Даследчыкі прапанавалі арыгінальную версію прызначэння мураванага фрагмента абарончай сцяны XII ст. над мысам дзядзінца. Яны зазначылі, што з ваеннага пункту гледжання знойдзеная сцяна не мела істотнага значэння ў сістэме ўмацаванняў і выкарыстоўвалася як прагулачная галерэя. Сапраўды, менавіта з гэтай кропкі замкавай гары адкрываецца найлепшы краявід на пагоркі Гарадзенскага ўзвышша, пакрытыя густымі лясамі Гарадзенскай пушчы.

Раскопкі пад кіраўніцтвам А.Трусава ў 1985 – 1986 г. былі звязаныя з распрацоўкай праекта рэстаўрацыі Старога замка і мелі вынікам манаграфію “Стары замак у Гродне XI – XIII стст.” (Мн., 1993). У працэсе тых раскопак нечаканасцю стала выяўленне сцяны з плінфы XII ст. на схіле гары каля ўсходняга крыла палаца. Відавочна, лішкі цэглы-плінфы, якая засталася пасля пабудовы царквы, былі выкарыстаныя для ўзвядзення сцяны-падпоры схілу Замкавай гары.

Важную інфармацыю прынёс раскоп пасярэдзіне замкавага двара. Ён захапіў невялікі кавалак вуліцы, вымашчанай плахамі, і частку двара з жылымі і гаспадарчымі пабудовамі. Двор заставаўся практычна на тым самым месцы некалькі стагоддзяў. Змяняліся толькі гаспадары ды пабудовы, якія ставіліся на ранейшых месцах паверх зацягнутых культурным слоем ніжніх вянцоў папярэдніх будынкаў. Акрамя масы артэфактаў, добра датаваных, дзякуючы дэндрахраналагічнаму метаду, былі выяўленыя самыя старажытныя матэрыялы (фрагменты керамікі), датаваныя канцом X ст. Такім чынам, Гародня стала ў шэраг іншых панямонскіх гарадоў (Наваградак, Ваўкавыск), заснаваных славянамі-паганцамі, якія ўцяклі на Панямонне ад гвалтоўнай хрысціянізацыі.

Наступным пасля Пакрышкіна даследчыкам Каложскай царквы стаў Юзаф Ядкоўскі, які ў 1935 г. правёў невялікія па аб'ёме даследаванні ў будынку царквы і вакол яго. У галоўнай і паўночнай апсідах храма Ядкоўскі знайшоў рэшткі першаснай маёлікавай падлогі XII ст. і высветліў, што глыбіня каменных падмуркаў царквы складае каля 1,5 м[12]. Даследаванні Алега Трусава ў 1981, 1983 – 1984 г. (у 1981 г сумесна з Паўлам Рапапортам) выявілі фрагменты падлогі XII ст. і ў паўднёвай апсідзе. Таксама былі адкрытыя падмуркі падкупальных і заходніх слупоў, асновы якіх мелі не круглы (як самыя слупы), а квадратны план. Важным адкрыццём было выяўленне пад царквой больш ранняга культурнага слоя канца XI – першай паловы XII ст., што ўдакладніла час засялення Каложскага плато – XI ст.

У ходзе рэстаўрацыйных прац у 1985 – 1986 гг. на сценах царквы былі раскрытыя фрагменты фрэсак і шматлікія графіці. У адным са збаноў-галаснікоў ляжала нявыкарыстаная воскавая свечка цікавай формы, менавіта, складзеная напалову і скручаная жгутам. У выніку атрымалася падвойная свечка, бо можна было адначасова запальваць абодва яе канцы.

На тэрыторыі былога Барысаглебскага манастыра Я. Зверуга адкрыў адзін з пасадаў раннесярэднявечнай Гародні. На падворку царквы ім былі выяўленыя шматлікія пахаванні, сляды ад якіх на паверхні зямлі не захаваліся. Трохі далей на поўнач Я.Зверуга адкрыў рэшткі жылых і гаспадарчых пабудоваў XIII – XIV стст., у тым ліку дзве зямлянкі, якія згарэлі падчас пажару. У тайніку ў сцяне адной з іх быў знойдзены цікавы скарб, які складаўся з дарагіх на той час рэчаў: чатырох сошнікаў, трох сярпоў і раструшчанага керамічнага вырабу. Даследчык прыйшоў да высновы, што Каложскае плато было заселенае не пазней за XII ст.

На падворку кляштара базыліянак важнейшым адкрыццём стала знаходка яшчэ адной сярэднявечнай мураванай царквы. У першай самастойнай экспедыцыі ў 1980 г. археолаг Ігар Чарняўскі натрапіў на руіны вялікага храма XII ст. і грунтоўна яго даследаваў[13]. Па познесярэднявечных пісьмовых крыніцах

[12] Jodkowski J. Świątynia warowna na Kołożу w Grodnie. Grodno, 1936.

[13] Чернявский И.М. Пречистенская церковь XII в. в Гродно // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. С. 119-121 інш.

была высветленая назва царквы – Прачысценская. Ацалелае на падлозе падвышэнне для епіскапскага крэсла паказала, што яна была саборным гарадскім храмам. Усе характарыстыкі пабудовы (кампазіцыя прасторы, будаўнічыя матэрыялы і тэхналогіі, дэкаратыўнае афармленне) адназначна выявілі выключнае падабенства знойдзенай царквы да Ніжняй і Барысаглебскай. Высновы даследчыкаў пра асобную Гарадзенскую школу мураванай архітэктуры знайшлі яшчэ адно пацверджанне.

Раскопкі на падворку кляштара непадалёк ад Прачысценскай царквы, якія вёў аўтар у 1983 г., адкрылі двухметровы культурны слой і шматлікія артэфакты XI – XVIII стст. На жаль, на тэрыторыі падворка ў час існавання кляштара вяліся пахаванні, што моцна пашкодзіла культурны слой. Найстаражытныя са знойдзеных рэчаў паказалі, што гарадзенцы засялілі гэтую частку пасада ўжо ў XI ст.

У параўнанні са Старым замкам вельмі слаба даследавана тэрыторыя Новага замка. Па ўсіх тапаграфічных прыкметах тут мясціўся вакольны горад – галоўны гандлёва-рамесны пасад XI – XII стст., абнесены ўмацаваннямі. У савецкія часы Гарадзенскі абласны камітэт камуністычнай партыі, які займаў каралеўскі палац, на дапускаў туды археолагаў. Упершыню аўтару ўдалося атрымаць дазвол і закласці невялікі раскоп на паўднёвым ускрайку замка ў 1988 г. Жыццё тут было не такое інтэнсіўнае як на Старым замку, культурны слой мае магутнасць болей за 3 м  а найбольш раннія матэрыялы адносяцца да XI ст., калі і была заселеная гэтая частка горада. У перадмацерыковым пласце знойдзеныя сляды яшчэ аднаго мураванага храма XII ст. – блокі плінфы на вапнавай рашчыне, шматлікія фрагменты маёлікавай падлогі, фрагменты збаноў-галаснікоў ды інш. Па ўсёй верагоднасці, падмуркі царквы, (магчыма, ёй была вядомая па крыніцах канца XV – пачатку XVI ст. як Васкрасенская), знаходзіліся дзесьці побач з тым раскопам.

У 1987 – 1988 гг. аўтар вывучаў культурны слой на гарадскіх пасадах XII – XVIII стст. з мэтай выяўлення часу засялення паасоб-

ных частак горада. Акрамя шурфоў і раскопаў выкарыстоўваліся матэрыялы інжынерна-геалагічных свідраванняў, якія праводзіліся на месцы будучага будаўніцтва. Быў удакладнены час засялення некаторых гарадскіх тэрыторый, у прыватнасці, знойдзены матэрыялы XII ст. на нёманскай тэрасе на Падоле (тут да сённяшняга дня існуе вуліца Падольная – самая старажытная назва вуліцы ў горадзе). Археалагічныя раскопкі выявілі сляды гістарычнай з'явы агульнаеўрапейскага маштабу, менавіта – крызісу феадальнай Еўропы ў XIV ст., адной з праяваў якога было змяншэнне гарадской тэрыторыі. Сапраўды, у Гародні на пасадах, як і ў іншых беларускіх гістарычных гарадах, адразу над напластаваннямі XIII ст. залягаюць слаі канца XV ст.

Збор інфармацыі для рэстаўратараў быў мэтай даследаванняў на тэрыторыі кляштара брыгітак (Генадзь Сагановіч), дамоў па вуліцы Замкавай, лямуса XVIII ст. часоў Антонія Тызенгаўза. У кляштары брыгітак Генадзь Сагановіч сабраў цікавую калекцыю керамічнага і фаянсавага посуду, частка якой сёння выстаўленая ў музеі "Дом рамесніка" на вуліцы Э.Ажэшкі.

У выніку даследаванняў склаўся даволі дакладны малюнак размяшчэння культурных наслаенняў у гістарычнай частцы горада, што прыдалося для стварэння ахоўнай зоны культурнага слоя Гародні. Гэтая зона атрымала афіцыйны статус, што, аднак, не перашкодзіла сучасным уладам рэгулярна яе парушаць, часам надзвычай брутальна, як падчас г. зв. "рэканструкцыі" гістарычнага цэнтра ў 2005 – 2006 гг.

Нечаканым, але вельмі рэдкім і важным адкрыццём была выпадковая знаходка ў 1988 г. камплекта рыцарскага ўзбраення XIII ст.

Рыгор Акінчыц у 1989 – 1990 г. адкрыў на вуліцы Вялікая Траецкая рэшткі рамеснай майстэрні XVII ст. Найбольш цікавыя сярод знаходак – формы-матрыцы для вырабу кафлі, цынкавага аконнага пераплёту, завушніцаў. Рэшткі майстэрні па вырабу дэкаратыўнага і побытавага посуду выяўленыя пры езуіцкім калегіуме.

Па ініцыятыве тагачаснага намесніка старшыні гарвыканкама Аляксандра Мілінкевіча ў 1992 – 1993 гг. у скверы каля Савецкай плошчы былі раскрытыя рэшткі гатычнага Фарнага касцёла – г. зв. "Фары Вітаўта". У горадабудаўнічай кампазіцыі горада Фарны касцёл займаў цэнтральнае месца як галоўная архітэктурная дамінанта. Выявілася, што падмуркі помніка выдатна захаваліся і могуць быць выкарыстаныя для аднаўлення храма. Аднак пасля палітычных пераменаў 1994 г. праекты аднаўлення галоўнага гарадзенскага касцёла заняпалі, і на яго месцы засталася пустка, прыстасаваная пазней пад сквер.

Асобнай гаворкі заслугоўваюць падзеі 2005 – 2006 гг., калі гарадзенскія ўлады праводзілі маштабныя земляныя работы ў самым цэнтры гістарычнай часткі горада, звязаныя з "рэканструкцыяй" Савецкай плошчы. Экскаватарамі і бульдозерамі вынішчаліся каштоўныя культурныя наслаенні таўшчынёй да 4 м  якія знаходзяцца пад дзяржаўнай аховай. Археалагічныя раскопкі вяліся толькі як прыкрыццё разбурэнняў. Археолагі не мелі часу для грунтоўных даследаванняў.

Пасля пералічэння ўсіх праведзеных даследаванняў можа скласціся ўражанне, што Гародню археолагі вывучылі няблага. Аднак у сапраўднасці гэта не так. Яшчэ чакае сваіх даследчыкаў Новы замак, дзе існаванне вакольнага горада вызначана толькі па тапаграфічных прыкметах. Важнейшы ягоны элемент – абарончыя ўмацаванні – не выяўленыя, хоць месца для раскопак не бракуе. Невядомае дакладнае месцазнаходжанне Васкрасенскай царквы XII ст. Не знойдзеныя парэшткі г.зв. Малой царквы (мяркуецца, што гэта яшчэ адзін помнік Гарадзенскай архітэктурнай школы). Толькі прыблізна акрэсленая тэрыторыя горада XII – XIII стст.

Археалагічныя даследаванні, напэўна, могуць дапамагчы ў выяўленні лініі ўмацаванняў горада, узведзеных у XIV ст., калі Гародня падвяргалася рэгулярным атакам з боку Тэўтонскага ордэна. Наяўныя ў горадзе навуковыя сілы, у прыватнасці, універсітэцкія даследчыкі і археолагі ў штаце Гісторыка-

археалагічнага музея дазваляюць арганізаваць пастаянную гарадскую экспедыцыю, якая не толькі магла б папоўніць калекцыю археалагічнага музея, але і разгадаць не адну таямніцу старажытнага горада на Нёмане.

## ГАРАДСКАЯ ПРАСТОРА Ў XI – XVI СТСТ.

Як многія старажытныя гарады, Гародня пачыналася з невялікага ўмацаванага паселішча эпохі ранняга Сярэднявечча. На працягу XI – XII стст. тут сфармавалася тыповая для ўсходнеславянскіх гарадоў планіровачная структура. Гарадское паселішча складалася з трох частак: **дзядзінец** (месца жыхарства князя, умацаваны адміністрацыйны цэнтр – Стары замак); **вакольны горад** (умацаваны пасад – Новы замак); **неўмацаваныя пасады** (сягалі да сучаснай Савецкай плошчы і вуліцы Падольнай; на правым беразе Гараднічанкі каля Каложы). На пасадах утварылася сетка вуліц, размешчаных паводле радыяльна-кальцавой схемы.

Найстаражытнае паселішча ў Гародні, якое датуецца канцом X – пачаткам XI ст. адкрыта археолагамі на мысе пры ўпадзенні р. Гараднічанкі ў Нёман (Стары замак). Тут знаходзіўся дзядзінец горада эпохі Кіеўскай Русі. На Старым замку выяўленыя наймагутнейшыя культурныя наслаенні, таўшчынёй каля 10 м. Вакольны горад, па ўсёй верагоднасці, размяшчаўся на суседнім узвышшы (Новы замак), на поўдзень ад Старога замка. Таўшчыня культурнага пласта складае да 3,3 м. Найстаражытнейшыя матэрыялы, знойдзеныя падчас раскопак на Новым замку, датуюцца XI – XII стст. Паводле вынікаў археалагічных даследаванняў, можна сцвярджаць, што ў XI ст. ужо быў заселены правы бераг Гараднічанкі насу-

праць дзядзінца, а таксама тэрыторыя, якая прылягае да Старога замка з усходу. У XII ст. тут была пабудавана мураваная Прачысценская царква. У XI – XII стст. быў заселены ўчастак, што прылягае да Старога замка з паўночнага ўсходу і Падол (зараз вуліца Падольная).




***Тапаграфія Гародні XI – XII стст.***

*А – пасады, выяўленыя археолагамі; В – верагодная тэрыторыя пасадаў; С – верагодны курганны могільнік; I – дзядзінец (Стары замак); II – вакольны горад (Новы замак); III – Падол; цэрквы: 1 – Ніжняя, 2 – Прачысценская, 3 – Барысаглебская (Каложская), 4 – Малая(?), 5 – Прачысценская.*

Маляўнічай адметнасцю тагачаснага горада з’яўляліся мураваныя храмы (4 ці 5) з вельмі своеасаблівым вонкавым выглядам, што для сучасных даследчыкаў стала адной з падстаў вылучэння асобнай Гарадзенскай архітэктурнай школы XII ст. З усіх помнікаў гэтай школы толькі адна Барысаглебская царква ў паўразбураным выглядзе захавалася да нашых дзён. Яна размешчаная на правым беразе Гараднічанкі за межамі асноўнай тэрыторыі горада. Усе астатнія вядомыя нам збудаванні адкрытыя археолагамі.

Па летапісных звестках мы ведаем пра з’яўленне ў XIII ст. яшчэ адной архітэктурнай адметнасці Гародні: гатычнай вежы г.зв. валынскага тыпу на гарадзенскім дзядзінцы: *“Столпъ бо бѣ каменъ высокъ стоя передъ вороты города, и бяху въ немъ заперлися Прузи (Пруси(ы), и не бысть имъ мимо онь пойти къ городу, побивахуть бо со столпа того”*[14]. Месцазнаходжанне вежы вызначаецца даволі дакладна – каля моста, што злучае вакольны горад з дзядзінцам. Відавочна, вежа ўвайшла ў склад умацаванняў замка Вітаўта, збудаванага ў канцы XIV – пачатку XV ст.

Гэты магутны мураваны замак у гатычным стылі быў узведзены па загадзе вялікага князя літоўскага Вітаўта на месцы ранейшых умацаванняў. У плане ён паўтараў абрысы дзядзінца і меў форму няправільнага трохвугольніка. Абарончыя збудаванні замка Вітаўта грунтоўна разгледжаныя ў працы Я.Вайцахоўскага[15]. Замак меў пяць вежаў, усе яны, акрамя ўпамянутай круглай, былі ў плане квадратнымі (12 х 12 м). Гэта ўязная вежа з пад’ёмным мостам і варотамі, паўночна-ўсходняя, вежа на мысе пры ўпадзенні Гараднічанкі ў Нёман і апошняя – з боку Нёмана. Даўжыня сцен па перыметры складала каля 220 м таўшчыня дасягала 3 м. Палац размяшчаўся ў паўднёва-ўсходняй частцы замка. Ён быў прыбудаваны да абарончай сцяны. Да нашых дзён захаваліся толькі фрагменты сцен.

У XIV ст. на тэрыторыі замка над развалінамі Ніжняй царквы была збудаваная г.зв. Верхняя царква ў гатычным стылі. Па памерах яна значна саступала сваёй папярэдніцы. У плане

[14] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 878.

[15] Wojciechowski J. Stary zamek w Grodnie. Warszawa, 1938.

Верхняя царква мела квадрат са зрэзанымі вугламі са стараной 8,8 м (памеры Ніжняй царквы – (16 х 11 м).

У беларуска-літоўскіх летапісах сустракаюцца звесткі пра Ніжні гарадзенскі замак. Так, у "Хронiцы Літоўскай і Жамойцкай" гаворыцца, што ў 1399 г. *"...Нижний замок королевские жолънере на що сам Витолт з жалостью гледьял, взяли были. И так Витолт, переставши нового замку будовати, ланцук великий желъзный през Немен до Вышшого Гродненского замку припровадивши, у Брамы казал привязати"*[16].

Ніжні замак размяшчаўся на вакольным горадзе. Я.Вайцахоўскі прыйшоў да высновы, што тут было дапаможнае Верхняму замку ўмацаванне ў выглядзе абарончай сцяны, магчыма, з вежамі. Замкі дамінавалі над горадам і з'яўляліся галоўнымі цэнтрамі ў прасторавай кампазіцыі паселішча.

У некаторых дарэвалюцыйных працах упамінаецца замак на левым беразе Нёмана. Яго збудавалі крыжакі ў 1392 г. з дазволу князя Вітаўта і ўвялі туды гарнізон. Відавочна, ордэн дабіўся дазволу на будаўніцтва ў абмен за дапамогу Вітаўту ў вайне з Ягайлам. Аднак у тым жа годзе Вітаўт гэты замак разбурыў[17].

Археалагічныя матэрыялы сведчаць пра ўпадак гарадскога жыцця ў канцы XIV ст. М.Варонін адзначаў "выключную беднасць і аскепкавасць" рэчавага матэрыялу XIII – XIV стст. з раскопак на Старым замку. Відавочна, што ў гэты час прыпыніўся рост горада.

У XIV ст. асноўная пасадская тэрыторыя горада размяшчалася паміж замкам і рынкам. З поўначы і захаду тэрыторыя Гародні абмяжоўвалася Нёманам і Гараднічанкай. Вызначыць прыкладныя межы гарадской тэрыторыі ў канцы XIV – пачатку XV ст. можна па размяшчэнні могілак. Праваслаўныя могілкі знаходзіліся на Падоле, каталіцкія – каля касцёла, габрэйскія – на беразе Гараднічанкі. Відавочна, у гэты час склалася планіроўка заходняй часткі гораду, з'арыентаваная на замак, якая захоўвалася і ў наступныя часы.

[16] ПСРЛ. Т. 32. С. 67.

[17] Историческое описание города Гродно. Гродно, 1860. С. 10-11.




***Тапаграфія Гародні канца XIV – пачатку XV ст.***
*А – Рынак; В – пасады; I – Верхні замак; II – Ніжні замак; III – каталіцкія могілкі; IV – праваслаўныя могілкі; V – жыдоўскія могілкі; цэрквы: 1 – Верхняя, 2 – Прачысценская, 3 – Барысаглебская, 4 – Малая, 5 – Васкрасенская, 6 – касцёл, 7 – сінагога.*

У горадзе канца XIV – пачатку XV ст. вядомыя наступныя асноўныя збудаванні: замкі Верхні і Ніжні, царква Барыса і Глеба на правым беразе Гараднічанкі, цэрквы Прачысценская і Малая на пасадах, адпаведна на ўсход і паўночны ўсход ад Верхняга замка, Верхняя царква на Верхнім замку, Васкрасенская (?) на Ніжнім замку (усе мураваныя), драўляны касцёл і сінагога. У гэты час ужо існаваў рынак на тым самым месцы, дзе знаходзіўся

і пазней (зараз Савецкая плошча), а таксама, магчыма, былі ўмацаванні вакол пасада.

Добра вядомы дакумент 1389 г., менавіта грамата, выдадзеная князем Вітаўтам гарадзенскім габрэям, многімі даследчыкамі выкарыстоўваўся як важная крыніца па планіроўцы горада. Аднак выявілася, што грамата не аўтэнтычная, а з'яўляецца фальсіфікатам XVI ст.[18]

Несумненна, што ў другой палове XIII – XIV ст. вялікі ўплыў на жыццё горада аказвала пагроза з боку крыжакоў. Горад неаднаразова быў аб'ектам нападу, спальваўся і разбураўся. У такіх умовах задачы абароны выклікалі неабходнасць умацавання, акрамя замка, яшчэ пасада, што і было зроблена[19]. Тым больш, што асаблівасці рэльефу гэтаму спрыялі. Абрывістыя берагі Нёмана і Гараднічанкі самі па сабе стваралі прыродную абарончую лінію з поўдня і поўначы. Глыбокі яр прыкрываў вакольны горад з усходу. Дастаткова было злучыць лініяй умацаванняў гэты яр з берагам Гараднічанкі, каб атрымалася сістэма кругавой абароны. Адна з вуліц XVI ст., што падыходзіла да яра, называлася "ад рова да перавозу".

У XVII ст. пасля ўзяцця горада войскам маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча падобнае мерапрыемства было ажыццёўлена, але ў большых маштабах. Лінія ўмацаванняў злучыла берагі Нёмана і Гараднічанкі далей на ўсход.

На планах горада XVII – XIX стст., а таксама на плане-рэканструкцыі Алены Квітніцкай на 1560 г. добра заметныя вуліцы, якія плаўнай дугой ідуць ад яра да берага Гараднічанкі якраз у тым месцы, дзе найверагодней былі ўмацаванні XIV ст. На тых жа планах яскрава прасочваецца розніца ў планіроўцы заходняй і ўсходняй частак горада. Першая – больш кампактная, вуліцы ў ёй радыяльна сыходзяцца да замка, другая размешчана свабодна. Прычыну шчыльнасці забудовы заходняй часткі горада мы бачым у вымушаным размяшчэнні пасада XIV – пачатку XV ст. на невялікай тэрыторыі, абмежаванай умацаваннямі. У гэты час цэнтрам, вакол якога фармавалася Гародня, быў

[18] Vitoldiana. Codex privilegiorum Vitoldi magni ducis Lithuaniae 1386-1430. Poznań, 1986. S. 180-181.

[19] Гардзееў Ю. Магдэбургская Гародня. Гародня – Wrocław, 2008. С. 20.

Стары (Верхні) замак. Пра наяўнасць умацаваных пасадаў у Гародні пачатку XIV ст. сведчыць дакумент, выяўлены Юры Гардзеевым[20].

У горадзе неаднаразова ўзнікалі пажары, часцей за ўсё падчас вайны. У 1398 г. пры вялікім пажары ў замку ледзь не згарэў вялікі князь Вітаўт[21]. Відавочна, якраз сляды гэтага пажару выяўлены М.М.Вароніным у слоі канца XIV – пачатку XV ст.

У выніку археалагічных даследаванняў вывучана планіроўка заходняй часткі Старога замка XIV ст. У канцы XIII – XIV ст. руіны Ніжняй царквы служылі замкавымі могілкамі. Рэшткі сцен царквы яшчэ ў XIV ст. не былі поўнасцю пахаваныя пад культурным слоем. Вулічныя насцілы на тэрыторыі замка рабіліся з улікам размяшчэння церама і Ніжняй царквы. Адзін насціл працягнуўся ўздоўж паўднёвага фасада царквы з усходу на захад ад галоўнай брамы ў сярэдзіну замка. З поўначы на поўдзень паўз заходні фасад царквы, відавочна, была накіраваная такая ж маставая. Перакрыжаванне размяшчалася каля паўднёва-заходняга кута царквы. Маставыя мелі шырыню ў 2,5 м. Яны былі зробленыя з дошак на двух-трох прадольных лагах-кругляках або падцясаных бярвёнах. Завулкі паміж пабудовамі масціліся цясінамі.

Узнікае пытанне, навошта былі маставыя на паселішчы, размешчаным не на балоце, а на высокім сухім месцы? Шматлікія ярусы маставых, вымастак завулкаў і двароў узніклі праз асаблівасці штодзённага жыцця сярэднявечнага горада. Канцэнтрацыя жыцця на невялікім, абмежаваным умацаваннямі месцы, адсутнасць камунальных службаў прыводзілі да хуткага нарастання культурнага слоя – цёмнай зямлі, нанесенай на падэшвах, перамешанай са смеццем, якое выкідалі з хаты проста на падворак ці на вуліцу. Пасля нават невялікага дажджу гэты культурны слой ператвараўся ў чорную гразь. Вось на яе і намошчваліся маставыя і насцілы двароў, а пасля таго, як і яны заплывалі ці "зарасталі" зямлёй, зверху накладваліся новыя адмосткі двароў і вулічныя маставыя. За час функцыянавання аднаго драўлянага дома (звычайна, 30-40 гадоў, а на Старым

[20] Гардзееў Ю. Горадабудаўнічая культура Гародні: паміж фактам і вымыслам // Гарадзенскі палімпсест XII-XX ст. Гародня-Беласток, 2008. С. 184.

[21] Орловский Е. Гродненская старина. Гродно, 1910. С. 26-33.

замку нашмат менш), ягоныя ніжнія вянцы закрываліся культурным слоем. Новы дом ставілі проста на закрытыя зямлёй вянцы. Так узнікалі г. зв. ярусы забудовы, якія любяць даследаваць археолагі, бо яны аблягчаюць датаванне знойдзеных рэчаў, паколькі ўсе знаходкі з аднаго яруса належаць да аднаго і таго ж часу.

Асабліва хутка слой нарастаў у гарадскіх паселішчах, размешчаных на нізкіх балоцістых мясцовасцях пры зліцці рэк. Найбольш характэрныя прыклады – Менск пры ўпадзенні Нямігі ў Свіслач і Берасце – пры зліцці Мухаўца з Бугам. У Берасці амаль неверагоднай знаходкай былі раскопкі дома, які “заплыў” зямлёй ажно на 12 вянцоў!

Заходнюю частку тэрыторыі Старога замка займалі гаспадарчыя пабудовы. Амбары і хлявы былі бліжэй да ўсходняй паловы. Усе пабудовы зрубныя, пераважна з сасновых або яловых бярвенняў, сечаныя ў лапу. Сярэднія памеры – 4 х 4 м гаспадарчых пабудоў – 3 х 3 м; 2,8 х 2,8 м. Апошнія рабіліся з вертыкальных дошак і гарбыля. Печы будаваліся з гліны і камення на драўляных платформах. У пабудовах XIV ст. прадольны паз высечаны не на ніжняй, а на верхняй паверхні бярвенняў зруба. Дрэва для зруба часалася на чатыры канты. Такая ж забудова з жылымі і гаспадарчымі будынкамі выяўлена ў цэнтры замкавага двара.

У XV ст. адбылася кардынальная змена ў планіровачным развіцці Гародні, завязаная з агульным для краіны працэсам змены цывілізацыйнай арыентацыі, а менавіта ўваходам Беларусі ў сферу ўплываў заходнееўрапейскага гісторыка-культурнага арэалу. Горад набыў двухцэнтравую планіроўку – акрамя даўняга адміністрацыйнага цэнтра – Старога замка (сядзіба прадстаўніка цэнтральнай улады), узнік па ўзору еўрапейскіх гарадоў новы цэнтр (сядзіба гарадскога самакіравання) на рынкавай плошчы з ратушай. Гэтая еўрапейская асаблівасць гарадской планіроўкі была ўласцівая ўсім гарадам Беларусі, якія мелі самакіраванне (па Магдэбургскім ці іншым праве) і выразна адрознівала іх ад расійскіх гарадоў, якія яго не мелі да XIX ст.

З XV ст. па-за старажытнай часткай пасада, сфармаванага па радыяльна-кальцавой схеме, пачаў разрастацца новы на аснове прамавугольна-квартальнай схемы. Больш за дзвесце гадоў (да сярэдзіны XVII ст.) горад абыходзіўся без знешніх умацаванняў і развіццё вулічнай сеткі вызначалася галоўным чынам горадабудаўнічымі традыцыямі таго часу і асаблівасцямі рэльефу. Горад рос у асноўным ва ўсходнім кірунку паміж рэчышчамі Нёмана і Гараднічанкі. Галоўным фактарам, які вызначаў фармаванне вулічнай сеткі Гародні ў XV – XVII стст., быў накірунак дзвюх гандлёвых дарог з Вільні на Варшаву і з усходу (ад Смаленска) на захад. Ва ўсходняй частцы горада размяшчэнне вуліц увязана з напрамкам гэтых шляхоў. Рэгулярная форма галоўнага гарадскога рынку вызначылася, на думку А.Квітніцкай, хутчэй за ўсё ў канцы XV – сярэдзіне XVI ст., калі былі збудаваныя Фарны касцёл і карчма[22]. Магістралі падыходзілі да рынку з вуглоў, каб падчас кірмашу не ўскладняўся праезд праз рыначную плошчу.

Да канца XV ст. адносіцца першае дакументальнае сведчанне аб наяўнасці занёманскага пасада. У прывілеі на Магдэбургскае права, выдадзеным у 1496 г., гаворыцца, што гарадское ўпраўленне распаўсюджваецца таксама на гараджан, якія жывуць за Нёманам, і на падалян, а таксама на людзей, што пражываюць у дварах феадалаў[23]. Прывілей называе гарадскія грамадскія пабудовы, якія гораду дазвалялася ўзводзіць *"у падыходзячых месцах"*. Гэта млын, камяніца для размяшчэння вагаў іваскабойні, лазня і ратуша. Вядома месцазнаходжанне толькі ратушы (на рынку). Пра млын гаворыцца, што яго можна збудаваць на р. Нёман. У дакуменце ўпамінаюцца тры карчмы (якія на той час ужо існавалі), але іх месцазнаходжанне не выяўлена. У прывілеі згадваецца яшчэ адно грамадскае збудаванне – *"месца, дзе караюць злачынцаў, інакш, шыбеніца"*, якая размяшчалася на некаторым аддаленні ад горада, каля гарадскога лугу. На гравюры Мацея Цюндта, выкананай на 72 гады пазней, шыбеніца паказана на ўзгорку за ўсходняй ускраінай горада[24].

[22] Квитницкая Е. Д. Центры городов Белоруссии в XVI – первой половине XIX в. // Архитектурное наследство. Москва, 1982. № 31. С. 28-50.

[23] АВАК Т. 7. С. 60.

[24] Lüneburger Beiträge zur Vedutenforschung. Lüneburg, 1983. S. 103-107.

Каля 1480 г. упершыню ў дакументах упамінаецца царква Праўдзівага крыжа на Падоле[25]. Стары раён горада паміж замкам і рынкам у XV – XVI стст. заставаўся без істотных зменаў. Умацаванні XIV ст., відавочна, у гэты час былі знесены і таму не абазначаныя на планах XVII – XVIII стст. Паступова прыходзіў у заняпад і разбураўся Ніжні замак. На гравюры 1568 г. на яго месцы відаць толькі рэшткі сцен.

На гістарычных планах горада, а найлепш на рэканструкцыі А.Квітніцкай добра заўважныя дзве розныя часткі гарадской планіроўкі: першая – найстаражытная – утвораная паводле радыяльна-кальцавой схемы (XI – XIV стст., размешчана паміж Савецкай плошчай і замкамі), і другая, якая ўтварылася з XV ст. Яе галоўнымі лініямі, адносна якіх размяшчаліся вуліцы былі дзве гандлёвыя дарогі – з Вільні на Варшаву і з усходу на захад.

З уласнай арыгінальнай рэканструкцыяй развіцця планіроўкі Гародні выступіў архітэктар Юры Кішык, які спрабаваў вывесці паселішча ад г.зв. планіровачнага "верацяна", якое нібыта сфармавалася ў старажытнасці на беразе Гараднічанкі. Доказаў на яго існаванне даследчык не прывёў, таму яго "рэканструкцыя" не прынятая спецыялістамі[26].

Новы этап горадабудаўнічага развіцця пачаўся з XVII ст., калі да нашых земляў дайшла Контррэфармацыя і звязаны з ёй мастацкі ды архітэктурны стыль – барока.

[25] Вестник Западной России. Вильна. 1866. 4. Кн. 5. Т. 2. Отд. 2. С. 62.

[26] Гардзееў Ю. Горадабудаўнічая культура Гародні... С. 178-190.

## ГАРАДЗЕНСКАЯ АРХІТЭКТУРНАЯ ШКОЛА XII СТ.

Да XIV ст. у Гародні будаваліся толькі праваслаўныя храмы. Першыя цэрквы з'явіліся ў горадзе, па ўсёй верагоднасці, у другой палове XI ст. Яны ўзводзіліся з дрэва, таму ад іх не захаваліся ні рэшткі, ні якія-небудзь звесткі.

У другой палове XII ст. у Гародні ўзнікла надзвычай цікавая і самабытная школа мураванай архітэктуры. З усіх помнікаў гэтай школы толькі адна Барысаглебская царква ў паўразбураным выглядзе захавалася да нашых дзён. Яна размешчана на правым беразе Гараднічанкі за межамі асноўнай тэрыторыі горада. Усе астатнія вядомыя нам збудаванні адкрыты археолагамі.

Да іх адносяцца: княскі церам на паўднёва-заходнім ускрайку Замкавай гары; г. зв. Ніжняя царква ў цэнтры дзядзінца (ужо ў XIV ст. ляжала ў руінах); сцены з плінфы (адна, збудаваная на самым мысе, відавочна, уваходзіла ў комплекс з драўлянымі ўмацаваннямі, другая, на усходнім схіле, – падпорка гары); Прачысценская царква на пасадзе на ўсход ад дзядзінца, назва якой вядома па дакументах XVI ст. Падмурак і рэшткі сцен Прачысценскай царквы знойдзены ў 1980 г. на тым месцы, дзе храм паказаны на гравюры 1568 г. Можна меркаваць пра наяўнасць у канцы XII ст. у Гародні яшчэ двух цэркваў: на вакольным горадзе (магчыма, Васкрасенская царква вядомая па дакументах XV – XVI ст.; падчас нашых раскопак у 1987 – 1988 г. на Новым замку знойдзеныя кавалкі сцен з плінфы) і г.зв. "Малая царква" (на пасадзе на паўночны ўсход ад дзядзінца, дзе раскапаны развал плінфы), вядомая па крыніцах XVI – XVII стст. Абодва гэтыя храмы паказаныя на гравюры 1568 г. Да гарадзенскай школы належала недабудаваная царква на Замчышчы ў Ваўкавыску, рэшткі якой таксама адкрылі археолагі.

Пасля адкрыццяў Ю. Ядкоўскага ў навуковым асяроддзі паіншаму пачалі глядзець на Барысаглебскую Каложскую царкву,

якую да гэтага многія ўспрымалі як нейкую дзіўную выпадковасць, што невядома калі ўзнікла на ўскраіне горада. Новаадкрыты храм на Старым замку быў падобны да Каложы, як падобныя між сабой блізняты. Праз паўсотні гадоў археолаг Ігар Чарняўскі адкапаў на падворку кляштара базыліянак яшчэ адзін праваслаўны храм XII ст. – царкву Прачыстай Багародзіцы. Даўняе летапіснае сведчанне ад 1183 г. пра існаванне некалькіх мураваных цэркваў у Гародні поўнасцю пацвердзілася! Мікалай Варонін падчас раскопак у 1949 г. на Старым замку знайшоў фрагменты званоў Ніжняй царквы, якія, верагодна, абрушыліся падчас таго пажару. Адзін са званоў, па меркаванні даследчыка, упаў яшчэ да пажару, бо на яго асколках няма слядоў агню. На адным з абломкаў гэтага звана захавалася частка надпісу – слова "рабу", пэўна, там было і імя князя Усеваладкі.

Мураванае храмавае будаўніцтва ў сярэднявечнай Гародні працягвалася, на думку даследчыкаў, паўтары-два дзясяткі гадоў у апошнія дзесяцігоддзі XII ст. Будаўніцтва мураваных храмаў у часы Сярэднявечча было каштоўнай справай і стала магчымым дзякуючы эканамічнаму ўздыму Гародні і росту заможнасці яе жыхароў.

Несумненна, ініцыятарамі пабудовы першага мураванага храма сталі гарадзенскія князі з мясцовай дынастыі Усеваладкавічаў. У сваёй рэзідэнцыі на сённяшнім Старым замку яны збудавалі побач са сваім палацам сямейную царкву, дакладная назва якой навукоўцам засталася невядомай. Адкрытая археолагамі ў 1932 г. на глыбіні каля 5 – 6 м яна была названая "Ніжняй", паколькі над рэшткамі гэтага храма знаходзіліся руіны пазнейшай царквы канца XIV – пачатку XV ст., названай археолагамі "Верхняй". Сцены Ніжняй царквы захаваліся на вышыню да 2 – 3,5 м. Храм шасцістоўпны, памерам 18,4 х 11,7 м. Купал знаходзіўся над заходняй парай слупоў. Усе слупы квадратныя са зрэзанымі вугламі. Удалося рэканструяваць складаны ўзор падлогі ў падкупальнай прасторы, набраны з рознакаляровых фігурных плітак. Звонку ў муроўку сценаў уведзеныя шліфаваныя камяні, керамічныя пліткі і круглыя сподкі.

Побач з дзядзінцам на сённяшнім Новым замку ў XII ст. размяшчалася галоўная гарадская тэрыторыя – умацаваны “вакольны горад”, дзе пад аховай валоў, равоў і іншых абарончых збудаванняў жылі найбольш заможныя гарадзенцы. Яны ў хуткім часе пасля ўзвядзення княжай царквы замовілі будаўніцтва асобнай царквы. Яе рэшткі (кавалкі сценаў, маёлікавых плітак падлогі і крыжоў) былі знойдзеныя падчас археалагічных раскопак на Новым замку ў 1987 – 1988 гг. Аднак дакладнае месцазнаходжанне храма пакуль не выяўлена.

Па меркаванні гісторыка архітэктуры Алены Квітніцкай на падставе інвентару XVII ст., гэтая царква магла называцца Васкрасенскай. Паводле даследчыцы Наталлі Сліж, Васкрасенская царква знаходзілася ў іншым месцы, менавіта там, дзе зараз пажарнае дэпо. Назву царквы XII ст. на тэрыторыі Новага замка нельга назваць дакладна ўстаноўленай.

У хуткім часе (а магчыма, адначасова з узвядзеннем храма на вакольным горадзе) адбылося будаўніцтва Прачысценскай царквы на пасадзе побач з вакольным горадам. Дакладнае вывучэнне гэтага храма праведзена археолагамі ў 1980 г. пасля выпадковага адкрыцця ягоных падмуркаў на тэрыторыі кляштара базыліянак (вул. Давыда Гарадзенскага). Назва царквы стала вядомай дзякуючы яе ўпамінанню ў дакументах XV – XVI стст. Памеры храма 19,1 х 12,7 м. Ён трохнефны, шасцістоўпны, падкупальны квадрат, утвораны заходнімі слупамі. У цэнтральнай апсідзе захаваліся цагляныя асновы прастола і горнага месца. Знойдзены рэшткі пліткавай падлогі. Сцены звонку ўпрыгожваліся камянямі з адной шліфаванай паверхняй і керамічнымі пліткамі.

Сярэднявечны дакумент называе таксама Малую царкву, якая размяшчалася на пасадзе каля Гараднічанкі (каля сённяшняга пажарнага дэпо на вул. Вялікай Траецкай). Магчыма, гэты храм таксама быў узведзены ў XII ст. Рэшткі яго пакуль не выяўленыя.

Апошнім па часе ўзвядзення гарадзенскім мураваным храмам XII ст. стала знакамітая Барысаглебская царква, вядомая таксама як Каложская (па назве мясцовасці, дзе яна размешча-

на). Даследчыкі вызначылі гэта па больш дасканалай тэхніцы будаўніцтва гэтага храма ў параўнанні з папярэднімі. Напрыклад, дэкаратыўныя камяні са шліфаванай вонкавай паверхняй у Ніжняй царкве былі вельмі вялікімі і займалі амаль усю таўшчыню цаглянай сцяны, у якую ўмуроўваліся. Гэта аслабляла трываласць сценаў і пры дадатковай неахайнасці падчас перавязкі швоў (прамежкі паміж асобнымі цаглінамі ў радзе часам супадалі ў некалькіх радах па вертыкалі) прывяло да ранняга разбурэння храма. У XIV ст. Ніжняя царква ўжо ляжала ў руінах.

Затое ў Каложскай царкве гэтыя недахопы ўжо выпраўленыя (камяні займаюць сама болей палову таўшчыні сцяны, перавязка швоў усюды дакладна вытрыманая), таму яна нягледзячы на разбурэнні і частковы абвал у Нёман датрывала да нашых дзён.

Захавалася паўночная сцяна (не на поўную вышыню), палова заходняй, дзве апсіды, заходняя пара круглых падкупальных слупоў. Паўднёвая і частка заходняй сцяны храма ўпалі ў Нёман, падмытыя высокай вадой у 1853 г. У 1889 г. абрушылася і паўднёвая апсіда.

Храм шасцістоўпны, памерам 21,5 х 13,5 м. Таўшчыня сценаў каля 1,2 м унутраная іх паласць запоўненая цагляным ломам і дробнымі камянямі. Знешняя паверхня сценаў дэкараваная камянямі са шліфаванай паверхняй і маёлікавымі пліткамі. У муроўку ўведзена мноства збаноў-галаснікоў. Падлога была выкладзена з маёлікавых плітак. Вокны размяшчаліся толькі ў верхняй частцы сценаў.

Археалагічныя даследаванні, хоць і даволі значныя па аб'ёме, не могуць даць адказу на важнае пытанне, як выглядала завяршэнне Каложскага храма? На ўсіх малюнках XIX ст. ён паказаны ўжо ў паўразбураным выглядзе. Спецыялісты лічаць, што найлепшым рашэннем з'яўляецца кансервацыя помніка ў цяперашнім стане, па-першае, дзеля захавання навуковай карэктнасці рэстаўрацыі; па-другое, дзеля падтрымання непаўторнай аўры храма, які належыць да адзінкавых у Беларусі помнікаў сусветнага ўзроўню.

Усе гэтыя мураваныя храмы XII ст. даследчыкі адносяць да Гарадзенскай архітэктурнай школы, якая не мае аналагаў у свеце. У параўнанні з іншымі школамі мураванага дойлідства Старажытнай Русі (Полацкай, Смаленскай, Кіеўскай, Чарнігаўскай ды інш.) Гарадзенская самая невялікая. Акрамя названых цэркваў вядомы яшчэ мураваны княскі церам і частка абарончай сцяны на дзядзінцы, а таксама недабудаваны храм на Замчышчы ў Ваўкавыску.

Адметнасць гарадзенскіх храмаў заключаецца ў будаўнічай тэхніцы (асаблівая сістэма муроўкі, скошаныя вуглы слупоў і сценаў, размяшчэнне купала над заходняй часткай храма, увядзенне ў муроўку збаноў-галаснікоў і інш.) і надзвычайна багатым дэкаратыўным убранні знешняй паверхні сценаў. Шліфаваныя камяні, падабраныя па каляровай гаме, спалучаюцца з крыжовымі кампазіцыямі, выкананымі з жоўтых, зялёных, карычневых маёлікавых плітак. З падобных па колеры плітак былі выкананыя багатыя дэкаратыўныя кампазіцыі на падлогах храмаў. Сістэма ўбранства інтэр’еру гарадзенскіх храмаў была пабудавана на кантрасце ружова-белых сценаў (ружовыя шэрагі цаглінаў і белыя выгладжаныя швы з вапнавай рошчыны) з каляровай маёлікавай падлогай і залатой алтарнай перагародкай.

Для прыхаджанаў, большасць якіх жыла ў маленькіх, амаль не асветленых хатках (плошчай каля 12 кв. м), наведванне прасторных і па-мастацку ўпрыгожаных гарадзенскіх храмаў з іх вясёлкавымі сценамі, з таямніча зіхацеўшымі ў паўзмроку падлогамі, выразнымі і ўрачыстымі гукамі богаслужэння (дзякуючы галаснікам у сценах), несумненна, было сапраўднай падзеяй.

Прыкметная эвалюцыя, менавіта, удасканаленне гарадзенскіх цэркваў ад храма да храма, прывяло даследчыкаў да меркавання, што ўсе яны маглі быць творамі аднаго архітэктара, які паступова набіраўся вопыту і шліфаваў сваё майстэрства. Аўтар гэтай гіпотэзы, вядомы археолаг архітэктуры Павал Рапапорт, праз падабенства гарадзенскіх і некаторых украінскіх помнікаў вывеў, што тым дойлідам быў Пётр Міланег. Гэты, вядо-

мы з летапісу архітэктар, на замову князя Рурыка Расціслававіча ў 1199 г. узвёў цагляную сцяну ў кіеўскім Выдубіцкім манастыры. Акрамя таго, будаўнічыя прыёмы з Гародні былі ўжытыя ў Оўруцкім храме (увядзенне шліфаваных камянёў у муроўку фасадаў), у Белгарадзе на фасадзе замацаваныя маёлікавыя пліткі. У Пятніцкай царкве ў Чарнігаве вуглы зрэзаны падобна гарадзенскім цэрквам.

На падставе гэтых аналогій П.Рапапорт выказаў меркаванне, што Пётр Міланег пачынаў сваю кар'еру ў Гародні, а потым перабраўся ў Кіеў разам з гарадзенскай будаўнічай арцеллю. Да таго ж яшчэ выявілася ўжыванне галаснікоў і амфар у муроўцы Оўруцкай і Чарнігаўскай цэрквах ды супадзенне некаторых знакаў на плінфах з Гародні і царквы ў Чарнігаве.

## ГАРОДНЯ І ПАЧАТАК ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

Пасля паведамлення пра вялікі пажар 1183 г. горад больш чым на паўстагоддзя знік з поля зроку ўсходнеславянскіх летапісцаў. Да 1252 г. няма аніводнай згадкі пра горад ці пра якія-небудзь мясцовыя падзеі. Прычына ў тым, што не захаваўся ніводзін помнік мясцовага летапісання. Тым не менш, мы ведаем, што горад у той “цёмны” час перажываў росквіт. Археалагічныя раскопкі засведчылі мірнае і спакойнае жыццё гарадзенцаў у канцы XII – першай палове XIII ст., а таксама пашырэнне тэрыторыі горада ад Старога замка ў бок сённяшняй Савецкай плошчы і ўздоўж Нёмана, там, дзе знаходзіцца вуліца Падольная.

Храністы і летапісцы суседніх краінаў зноў зацікавіліся Гародняй у сувязі з новымі і надзвычай важнымі падзеямі на Панямонні, у якіх гарадзенцы прымалі самы непасрэдны

ўдзел. Гаворка ідзе пра пачатак утварэння ў Верхнім і Сярэднім Панямонні новай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага.

На жаль, доўгі час па далёкіх ад навукі прычынах за гарадзенцамі не прызнавалі актыўнай ролі ў гэтым працэсе. Паводле афіцыйнай расійска-савецкай гістарыяграфіі якраз тады (першая палова XIII ст.) Гародня была *"захоплена літоўскімі феадаламі"*. Гэтую міфалагему шмат гадоў уводзілі ў галовы гарадзенцаў праз падручнікі. Між тым, інфармацыя Галіцка-Валынскага летапісу, пісьмовай крыніцы з канца XIII ст., з якой паходзіць большасць звестак пра працэс утварэння Вялікага Княства Літоўскага, выразна супярэчыць такой інтэрпрэтацыі тагачасных гарадзенскіх падзеяў. Цікавасць складальніка летапісу да Гародні была выклікана тым, што Галіцка-Валынскае княства (буйнейшая на той час дзяржава на Русі) актыўна ўдзельнічала ў панямонскіх справах, стараючыся захаваць свае ўплывы на мясцовыя гарады-дзяржавы, найперш у Наваградку, Гародні, Ваўкавыску і Слоніме. Гэтыя гарады непасрэдна прычыніліся да стварэння ВКЛ і падтрымлівалі мясцовую дынастыю балцкага паходжання – спачатку Міндоўга і яго сына Войшалка, потым Трайдэна.

Першая пасля сямідзесяцігадовага перапынку згадка пра Гародню ў 1252 г. (па недакладнай храналогіі летапісу – 1254 г.) звязана з паходам на Панямонне валынскага войска на чале з князем Васількам Раманавічам і яго пляменнікам Раманам, сынам вядомага галіцка-валынскага князя Данілы Раманавіча. Менавіта гэты знакаміты князь – першы і апошні кароль Галіцка-Валынскай Русі – выслаў брата і сына на чале войска, якое, па сведчанні летапісца, "взяста Городенъ". Праз шэсць гадоў (1256) той жа Даніла Раманавіч зноў арганізаваў паход на Гародню: *"Захацелася яму ісці да Горадна"*, – паведаміў летапісец[27]. Нападам з боку валынянаў падвяргаліся і іншыя мясцовыя гарады: Наваградак, Ваўкавыск, Слонім, Здзітаў. Валынскія князі такім чынам імкнуліся выбіць з-пад ног маладой дзяржавы галоўную яе апору – багатыя беларускія гарады Панямоння.

[27] ПСРЛ. Т.2. Стб. 819, 847.

Узнікае пытанне, чаму мясцовыя славянскія гарады падтрымлівалі язычніка Міндоўга і яго наступнікаў і ваявалі супраць сваіх праваслаўных аднаверцаў і этнічна блізкіх русінаў – валынянаў? Адказ вельмі просты – так нашыя продкі разумелі свой грамадскі інтарэс. Мясцовая дынастыя балцкага паходжання больш адпавядала іх жыццёвым патрэбам, чым далёкія валынскія князі, хай сабе і аднаверцы. Гісторыя на сотнях і тысячах прыкладаў вучыць нас, што жыццёвыя матэрыяльныя інтарэсы для людзей бываюць важней за ўсведамленне этнічнага ці нават кроўнага сваяцтва. Пра тое, што гарадзенцы (як і іншыя жыхары Панямоння) зрабілі свой выбар цалкам свядома і добраахвотна сведчыць летапіс Галіцка-Валынскай дзяржавы. Гародня цвёрда стаяла за князем-язычнікам, не адчыняла брамы перад аднаверцамі-валынянамі, мужна ад іх баранілася і часам пераходзіла ў наступ.

Па загадзе вялікага князя літоўскага Трайдэна гарадзенскае войска ноччу на самы Вялікдзень у 1275 г. захапіла і жорстка зруйнавала горад Драгічын (зараз на тэрыторыі Польшчы) – уладанне галіцка-валынскага князя Льва Данілавіча (*"Трайдзеній паслаў гараднянаў, загадаў узяць Дарагічын... узялі на самы Вялікдзень, пабілі ўсіх ад мала да вяліка"*)[28]. У адказ князь Леў, выклікаўшы на падмогу татараў, захапіў і зруйнаваў умацаваны пасад Наваградка. Паводле вынікаў археалагічных раскопак, ад таго часу пачаўся доўгі заняпад жыцця ў гэтым раёне горада.

Абараняць Гародню ад валынска-татарскіх войскаў дапамагалі перасяленцы з Прусіі, прусы і барцяне, якія ўцяклі ад нямецкіх крыжакоў і з дазволу вялікага князя Трайдэна пасяліліся ў ваколіцах горада. У 1277 г. галіцка-валынскае войска разам з татарамі зноў ішло сюды вайной. Адзін з валынскіх атрадаў апярэдзіў асноўныя сілы і размясціўся на начлег па дарозе ад Ваўкавыска да Гародні (*"ляглі на ноч, і без варты, і даспехі свае паздымалі"*). Валынскі летапісец паведамляе далей, што нехта збег ад атрада да горада і сказаў гараджанам: *"Маўляў, людзі ляжаць на сяле без парадку. Прусы і барцяне, выехаўшы з го-*

[28] ПСРЛ. Т.2. Стб. 871.

*рада, ударылі на іх ноччу і пабілі іх усіх, а іншых схапілі і павялі ў горад"*. Назаўтра да месца падзеі падышло асноўнае валынскае войска. Да князя прыбег адзін з тых, хто здолеў уратавацца, *"нагі і босы"* (а справа была зімой - *А.К.*), *і пачаў апавядаць, што пабітыя ўсе баяры Мсціслава і Льва, і слугі ўсе пабітыя, а іншыя схопленыя"*. Валынскае войска падышло да Гародні і ўбачыла: *"... Слуп каменны высокі стаяў перад варотамі горада і ў ім заселі прусы і нельга было прайсці паўз іх да горада, бо пабівалі з таго слупа"*. Аднак валынянам удалося захапіць гэтую абарончую вежу, што выклікала жах сярод абаронцаў горада. Тым не менш, гарадзенскі замак валыняне ўзяць не змаглі, таму пачалі мірныя перамовы. Дамовіліся на тым, што здымуць аблогу, калі гарадзенцы вернуць палонных: *"Атрымалі сваіх баяраў, а горада нічога не зрабілі, так і вярнуліся ні з чым"*[29].

Так жыццё горада аказалася звязаным з лёсам Вялікага Княства Літоўскага ад самых пачаткаў гэтай дзяржавы. Няма ніякага сумнення, што гарадзенцы самі выбралі гэты лёс і падзялялі яго да апошніх дзён існавання Вялікага Княства. Тое, што выбар гэты быў не выпадковай справай, не данінай часовым выгодам, Гародня даказала ўжо ў 80-я гады XIII ст., калі стала адной з галоўных апораў маладой дзяржавы ў барацьбе з новым моцным ворагам – Тэўтонскім ордэнам.

## ФАРПОСТ ЛІТВЫ

У 1283 г. Тэўтонскі ордэн (браты-рыцары Тэўтонскага дома Дзевы Марыі) закончыў пакарэнне Прусіі. Пад гэтай датай ордэнскі храніст Пётр Дусбург запісаў: *"Explicit bellum Prussie. Incipit bellum Lethowinorum"* (*"Закончылася вайна пруская. Пачалася вайна літоўская"*).

[29] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 877 – 878.

Гародня была важнейшым стратэгічным пунктам каля прускай мяжы[30]. Тут вялікія князі рыхтавалі паходы супраць крыжакоў – назапашвалі правіянт і рыштунак, пад прыкрыццём замкаў канцэнтравалі войскі. Акрамя таго – гэта багаты горад, самы старажытны і тады адзіны на Нёмане. Браты-рыцары любой цаной хацелі горад захапіць, а гарадзенцы – абараніць.

Тэўтонскі ордэн – унікальная духоўна-рыцарская арганізацыя, якой удалося стварыць моцную еўрапейскую дзяржаву на заваяваных і каланізаваных прускіх землях. Ад старажытных балтаў-прусаў засталася толькі назва краіны з нямецкім насельніцтвам. У XVI ст. ордэнская дзяржава стала Прускім герцагствам, пазней – каралеўствам, якое і стварыла Германскую імперыю ў XIX ст. Пачыналася ж гэтая дзяржава ў 1228 г. са жменькі рыцараў Тэўтонскага ордэна, якія па запрашэнні князя Конрада Мазавецкага пасяліліся ў маленькім замку каля Віслы на самым пагранiччы з прускімі землямі. Такім чынам, Ордэн рыхтаваўся перабрацца ў Прыбалтыку з Палесціны, дзе мусульмане якраз канчалі выганяць крыжакоў са Святой зямлі.

Створаны як арганізацыя для барацьбы за хрысціянскую веру супраць няверных, Ордэн знайшоў у Прусіі багатае поле дзейнасці і бліскучыя перспектывы. За паўстагоддзя (да 1283 г.) была пакорана і ахрышчана ўся Прусія. Прадуманая палітыка засялення вольных земляў (найперш нямецкімі каланістамі-сялянамі), выдатна арганізаваная гаспадарка і гандаль прыносілі вялікія грошы. Дасканала збудаваная ваенная машына, якая забяспечыла крыжакам перамогу на прускіх раўнінах, патрабавала новага поля дзейнасці. Наперадзе была гістарычная Літва (Наваградчына, Гарадзеншчына, Віленшчына).

Вялікае Княства Літоўскае ўступіла ў гэтую вайну разам з жамойтамі, а потым і ў саюзе з Польскім каралеўствам. Вайна, дакладней, шэраг войнаў з кароткімі мірнымі паўзамі, цягнулася амаль паўтары сотні гадоў. Немагчыма падлічыць, колькі яна прынесла людскіх і матэрыяльных стратаў. Аднак у ёй гартавалася і мацавалася дзяржава, на якую з надзеяй глядзелі суседнія

[30] Пашуто В.Т. Гродно в хронике Петра Дюсбурга // Культура Древней Руси. М., 1968. С. 191-192.

рускія землі, чакаючы і шукаючы ў Вялікім Княстве Літоўскім абароны ад татараў.

Першы напад на Гародню прускія рыцары правялі ў 1284 г. Магістр з моцным войскам разрабаваў і спаліў горад пасля зацятай бітвы з абаронцамі. Пётр Дусбург паведамляў пра паходы на наш горад у 1295, 1296, 1305, 1306, 1311, 1314, 1323, 1324, 1328 гг.[31] Пералік працягнуў Віганд з Марбурга да самага канца XIV ст. Усюды пішацца пра тое самае – паход, разарэнне пасадаў (замак захапіць удалося толькі адзін раз), захоп палону і вяртанне ў Прусію. Гарадзенцы адчайна адбіваліся. Асабліва вызначыўся князь Давыд Гарадзенскі, які не толькі ўдала супрацьстаяў ордэнскім набегам, але і сам хадзіў з паходамі ў адказ на Прусію.

Часам хронікі ўтрымліваюць дэталі той вайны, якія па эмацыйным напружанні не саступаюць мастацкім творам. Вось эпізод, апісаны Пятром Дусбургам: *"У божае лета 1296, у зімнюю пару брат Зыгфрыд з Рэхбергу, комтур Балгі з многімі братамі і вершнікамі вырушыў на Літву. І калі дайшоў да ваколіцаў замка Гародні, натрапіў на свежыя сляды людзей. Пайшоў па іх брат Вальтэр, званы Голдзін, разам з некалькімі збройнымі і ўсіх спатканых забіў, акрамя аднаго, які ўцёк – падскочыў да брата Генрыха з Вердэртхащ і цяжка яго параніў. Той бараніўся і смяротна параніў нападніка. Аднак той жа русін забраў каня ў брата Генрыха і ўцёк; тады брат Вальтэр рушыў за ім па слядах крыві, якая сачылася з ягоных ранаў, дагнаў яго і забіў"*[32].

Гародня пастаянна была гатовая да аблогі. Узмацняліся не толькі замкі, але ўзводзіліся ўмацаванні вакол пасадаў, якія па меры патрэбы абнаўляліся. Нашыя продкі не толькі ваявалі з немцамі, але і многаму ад іх навучыліся, найперш у ваеннай справе і будаўніцтве. Пра паўтаравекавую вайну з крыжакамі засталося многа сведчанняў у культурным слоі на падворку Старога замка. Археолагі знайшлі тут наканечнікі арбалетных стрэлаў, фрагменты даспехаў, каменныя ядры ад катапультаў, дэталі баявых арбалетаў, пахаванні палеглых абаронцаў.

[31] Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej.Toruń, 2004.

[32] Piotr z Dusburga. Kronika Ziemi Pruskiej. S. 190.

У 1988 г. група гарадзенскіх школьнікаў прынесла ў музей некалькі рэчаў, пакрытых рудым слоем іржы. Ад аднаго позірку на іх стала ясна, што гэта сярэднявечная зброя: меч, шлем, дзіда, дроцік, кальчуга, шпоры, цуглі. Адразу выехалі на месца знаходкі – левы бераг Нёмана трохі ніжэй за мост ва ўрочышчы Пышкі. Знайшлі яшчэ пражку ад рыцарскага пояса. Пасля ачысткі і дэталёвага аналізу кожнай рэчы аказалася, што гэта ўзбраенне прафесійнага ваяра-рыцара, прычым мясцовага. Усе рэчы, за выключэннем мяча, былі зробленыя ўсходнеславянскімі (беларускімі) майстрамі ў другой палове XIII ст. Ці не той гэта беларускі рыцар, які загінуў ад крыжацкага мяча зімой 1296 г.?!

Падчас раскопак на Старым замку мы знайшлі наканечнік дзіды, які да драбнюткіх дэталяў адпавядаў наканечніку са скарбу, што яшчэ больш умацавала версію пра гарадзенскае паходжанне яго гаспадара. Зараз гэты баявы рыштунак гарадзенскага рыцара XIII ст. знаходзіцца ў пастаяннай музейнай экспазіцыі ў Новым замку.

Гарадзенская рыцарская харугва прымала чынны ўдзел у знакамітай бітве пад Грунвальдам. У гонар гэтай падзеі ў Гародні каля Каложы стаіць памятны знак-помнік, дарэчы, адзіны на ўсю Беларусь. Пасля разгрому Тэўтонскага ордэна пад Грунвальдам 15 ліпеня 1410 г. ён перастаў быць сур'ёзнай ваеннай пагрозай для Гародні.

## НА СХІЛЕ СЯРЭДНЯВЕЧЧА

Ад канца XV ст. характэрнымі для ўсёй Еўропы сталі дэмаграфічны рост, развіццё гаспадаркі і культуры. Агульнаеўрапейскі ўздым датычыў таксама і Вялікага Княства Літоўскага і ў тым ліку аднаго з яго галоўных асяродкаў –

Гародні. Горад паступова пашыраўся і разбудоўваўся. Фармавалася новая вулічная планіроўка, асноўнай адметнасцю якой была наяўнасць двух цэнтраў: замка і рынку з ратушай.

XV ст. застаецца адным з найменш вывучаных перыядаў у гісторыі горада. Так сталася па прычыне надзвычайнай малалікасці крыніцаў. Пасля перамогі над Ордэнам пад Грунвальдам спыніліся крыжацкія напады на горад, і пра яго перасталі пісаць ордэнскія храністы. У самім Вялікім Княстве Літоўскім пісаныя дакументы ў XV ст. былі вялікай рэдкасцю (колькасць іх значна павялічваецца ад паловы XVI ст.). Дзяржаўныя летапісы таксама не прысвячалі шмат увагі жыццю горада.

Крыніцы згадваюць горад толькі з сувязі з падзеямі агульнадзяржаўнага маштабу, як, напрыклад, прыезд у Гародню да вялікага князя Казіміра Ягайлавіча спецыяльнага пасольства з Польшчы з місіяй інфармавання гаспадара пра абранне яго польскім каралём.

На рубяжы XIV – XV ст. у Вялікім Княстве быў праведзены новы адміністрацыйны падзел. Гародня са сталіцы ўдзельнага княства пераўтварылася ў цэнтр Гарадзенскага павета Троцкага ваяводства. Кіраваў паветам намеснік вялікага князя, які займаўся судовымі, падатковымі, маёмаснымі справамі не толькі жыхароў павета, але і самога горада. З гарадзенскіх намеснікаў XV ст. па дакументах вядомыя Андруш Давойнавіч, Лялюш, Алёхна, Станко Судзівойевіч, Кучук, Ян Насутовіч, князь Аляксандр Юр'евіч Гальшанскі.

Спецыялістам не ўдалося знайсці пацверджанняў наданню горада Магдэбургскага права да апошніх гадоў XV ст. Гарадское самакіраванне Гародня атрымала ад вялікага князя Аляксандра 21 сакавіка 1496 г. у вялікакняскім двары Бершты падчас сойму.

Права на самакіраванне азначала юрыдычнае аддзяленне гарадской тэрыторыі ад вясковай ваколіцы. Гарадская грамада атрымоўвала ўласнае права, якое датычылася толькі яе і панавала ў акрэсленых гарадскіх межах. Звычайна, такімі межамі былі гарадскія ўмацаванні. Гародня ўмацаванняў, акрамя замкаў, не

мела. Вялікі князь Аляксандр у Магдэбургскім акце не акрэсліваў межы горада, але меў на ўвазе рэальнае сярэднявечнае паселішча вакол цэнтра, да якога дадаваў Падол і занёманскі пасад[33].

Гаспадары Вялікага Княства ахвотна наведвалі Гародню, найперш дзеля выдатнага пушчанскага палявання. У гэтым горадзе ў 1484 г. адышоў у лепшы свет каралевіч Казімір Казіміравіч, абвешчаны святым у XVI ст. Неаднаразова дзеля дзяржаўных справаў і адпачынку ў горад прыязджаў вялікі князь літоўскі і кароль польскі Казімір Ягайлавіч. Калі ён у 1492 г. захварэў, то з Вільні пераехаў у Гародню, *"бо там вельмі любіў жыць дзеля раскошных ловаў і ўсякіх пажыткаў"*. Незадоўга да смерці Казімір атрымаў ад паноў-рады згоду прыняць на вялікае княжанне яго сярэдняга сына Аляксандра. А пазней, *"мудра ўладзіўшы дзяржаўныя справы, там жа ў Горадні, жыццё сваё ў глыбокай старасці скончыў"*[34].

Пераможнае завяршэнне крыжацкіх войнаў, працяглы мірны перыяд (наступны варожы напад на горад і яго акупацыя мелі месца толькі ў 1655 г.), агульнаеўрапейскі дэмаграфічны і эканамічны ўздым прывялі да пачатку "залатога веку" Гародні. Жыхары горада маглі засяродзіцца на ўласных справах, каб наладжваць сваё жыццё, спакойна працаваць на карысць сваю і свайго горада.

## З'ЯЎЛЕННЕ ГАБРЭЙСКАЙ СУПОЛКІ

З часоў Сярэднявечча неад'ёмнай часткай гістарычнага краявіду Гародні былі габрэі. Іх з'яўленне ахутана таямніцай. Яно магло адбывацца як з паўднёвага ўсходу, так і з захаду. Адзін шлях пралягаў з Хазарыі, краіны, якая займала землі паміж Чорным і Каспійскім морам, дзе іудаізм быў дзяржаўнай рэлігіяй, праз Кіеўскую Русь, дзе габрэі аселі ўжо ў X ст. Рыгары-

[33] Gordziejew J. S. Socjotopografia Grodna w XVIII wieku. Toruń, 2002. S. 26-27.

[34] Беларускія летапісы і хронікі. Мн., 1997. С. 147.

стычнасць праваслаўя візантыйскага ўзору, прынятага ў 988 г. дваром вялікага князя кіеўскага, абумовіла прадузятасць усходнеславянскага насельніцтва ў адносінах да габрэяў, носьбітаў чужой веры, якая ўспрымалася як варожая хрысціянству. Не дзіва, што першая летапісная згадка пра габрэйскую супольку Кіева датычыць менавіта пагрому 1113 г., які адбыўся падчас безуладдзя пасля смерці вялікага князя Святаполка Ізяслававіча.

Другім шляхам пранікнення габрэяў у Гародню было перасяленне з Польшчы, куды габрэйскія купцы ўпершыню трапілі па бурштынавым шляху, што пралягаў з Рымскай імперыі да ўзбярэжжа Балтыкі яшчэ на мяжы III – IV ст. Усё часцей завітвалі яны да нашых заходніх суседзяў, рухаючыся па гандлёвым шляху з Іспаніі праз Германію, Чэхію, Ніжнюю Саксонію ў Кіеўскую Русь і Хазарыю ў V – VI стст. На землях Малой Польшчы і ў Кракаве стварэнне першых сталых габрэйскіх суполак адбылося ў XI ст.

Канец XI ст. стаў паваротным для габрэяў як Усходу, так і Захаду. У 1098 г. адбыўся першы крыжовы паход, які ўзняў хвалю антыгабрэйскіх настрояў. У Візантыі пашырыліся радыкальныя хрысціянскія рухі, часткай якіх стала антыгабрэйская палеміка. Многія габрэйскія суполкі на шляху крыжакоў былі абрабаваны альбо знішчаны. Калі ўдзельнікі крыжовых паходаў сталі вяртацца на Радзіму, у Заходняй Еўропе распаўсюдзілася антыгабрэйская істэрыя. Ратуючыся ад пагромаў, заходнееўрапейскія габрэі траплялі ў Польшчу. Яе сацыяльная сістэма дазволіла габрэям знайсці сваю нішу, стаць “сервамі казны”. Падпарадкаваныя каралю, яны абслугоўвалі патрэбы двара. Гандлёвыя інтарэсы маглі прывесці польскіх габрэяў на тэрыторыю сучаснай заходняй Беларусі. Гісторык рубяжа XIX – XX ст. Пінхус Марэк нават датаваў з’яўленне габрэяў у Гародні XII ст. Аднак да XIV ст. прысутнасць габрэяў у Гародні з’яўляецца гіпатэтычнай.

Як мова, так і ўвесь комплекс культуры гарадзенскіх габрэяў на працягу Сярэднявечча і Новага часу былі тыпова ашкеназійскімі (Ашкеназ на мове ідыш – гэта Германія), а таму, калі нават першыя габрэі, якія трапілі ў Гародню па гандлёвых

справах, былі хазарамі, яны не стварылі тут стабільнага субстрату. З'яўленне гарадзенскай габрэйскай суполкі лагічна аднесці да наступнай хвалі міграцыі з Заходняй Еўропы, што пачалася пасля вялікай эпідэміі чумы сярэдзіны XIV ст., якая суправаджалася абвінавачваннем габрэяў у наўмысным распаўсюджванні хваробы сярод хрысціян. Пагромы, прымусовая хрысціянізацыя, выгнанне, крывавы навет (абвінавачванні ва ўжыванні габрэямі ў рытуальных мэтах крыві хрысціян), падазрэнні ў апаганьванні крыжа і гостыі, прымушалі габрэяў Заходняй Еўропы вандраваць далей на ўсход.

Першае пакаленне перасяленцаў было заможным, дамінавалі купцы і ліхвяры. Арыстакратычная эліта была зацікаўленая ў іх паслугах, бо габрэі маглі пазычыць пад працэнт наяўныя грошы, дэфіцыт якіх востра адчуваўся ва ўмовах натуральнай гаспадаркі Сярэднявечча. З узмацненнем антыгабрэйскіх ганенняў у заходняй Еўропе на тэрыторыю сучаснай Заходняй Беларусі праз Польшчу рушылі нізы габрэйскай супольнасці, дробныя гандляры і рамеснікі. Перасяліўшыся на гарадзенскія землі, яны захавалі сувязі з былой радзімай, таму і ў XV ст. важнейшымі накірункамі знешніх камерцыйных сувязей гарадзенскай суполкі былі захад і паўночны захад. Як адзначыў Юры Гардзееў, у XV ст. гарадзенскія купцы-габрэі кантактавалі з польскімі, нямецкімі і чэшскімі гандлярамі. З гданьскіх гарадскіх кніг 1423-1463 гг. вядомае імя гарадзенскага купца Сломы, які гандляваў у гэтым горадзе сукном, футрамі, срэбранымі пасамі і каранямі. У той жа час гарадзенскі габрэй Мошка падпісаў гандлёвы кантракт з пазнанскімі купцамі.

Першая дакументальная згадка пра існаванне габрэйскай суполкі ў Гародні, менавіта прывілей вялікага князя Вітаўта 1389 г., сёння лічыцца падробкай. Але, калі князь і не даваў пісьмовага дазволу габрэям займацца ў горадзе гандлем і рамяством, трэба прызнаць, што ў канцы XIV ст. колькасць габрэяў у Гародні была значнай.

У дачыненні да габрэйскай суполкі перыяду традыцыі прынята ўжываць тэрмін "кагал". Ён шматзначны, бо так называлі

як самую габрэйскую суполку ў канкрэтнай мясцовасці, так і орган габрэйскага самакіравання. Адна з галоўных функцый кагалу – кіраўнічая. З гэтай мэтай абшчына абірала некалькіх старшынь (рошым) і ганаровых асоб (товім). Судовыя справы паміж габрэямі разбіраліся ў рэлігійным судзе рабінам і суддзямі (даянамі), якія ў сваіх рашэннях кіраваліся талмудычным правам. Праз спецыяльных хадатаяў, штадланаў, кагал ажыццяўляў кантакты са знешнім светам. У сферу іх дзеяння ўваходзіла абарона інтарэсаў габрэяў, прадухіленне і ліквідацыя канфліктаў. Гэтая роля звычайна прызначалася заможным людзям, якія мелі разгалінаваныя знаёмствы ў хрысціянскім свеце.

Паўсядзённае жыццё габрэйскай суполкі немагчыма без рэзніка – службовай асобы, якая выконвае рытуальны забой жывёлы. Рэзнік павінен ведаць спецыяльныя правілы і малітвы, без іх немагчыма атрымаць кашэрнае (дазволенае для ўжывання) мяса, таму габрэям забаронена набываць мяса ў іншаверцаў. Абразальнік (маэль) праводзіў цырымонію абразання, якая рытуальна далучала хлопчыка да суполкі. Тут быў таксама свой сойфер – габрэй, які займаўся перапісваннем сувою Торы. Пачэснае месца ў суполцы займаў рабін, які апекаваўся не толькі рэлігійным жыццём вернікаў, але і адукацыяй. Пры сінагозе меўся таксама кантар, які спяваў падчас набажэнства рэлігійныя гімны, і школьнік, які сачыў за станам сінагогі і парадкам у ёй. Перад пачаткам святаў школьнік абыходзіў габрэйскія падворкі і запрашаў у сінагогу. Да паслуг кагала былі служкі-стражнікі, што выконвалі даручэнні старшынь. Скарбнік адказваў за фінансавыя справы, пісар вёў летапіс суполкі (пінкас), займаўся справаводствам. Кагал выконваў таксама фіскальную функцыю, каардынаваў эканамічную, дабрачынную і асветніцкую дзейнасць. Фактычна, місіяй кагалу было забеспячэнне габрэям магчымасці жыць максімальна камфортна і абаронена ва ўмовах іншаэтнічнага акружэння і галоўнае, захоўваць сваю тоеснасць – рэлігію, маральнасць і самасвядомасць.

Адной з першых задач новай суполкі было набыццё зямлі для могілак і атрыманне дазволу на будаўніцтва сінагогі. Згодна

з габрэйскімі звычаямі, цела памерлага трэба пахаваць на працягу аднаго дня, таму могілкі не маглі знаходзіцца далёка. Акрамя таго, заўсёды існавала верагоднасць нападу на пахавальны картэж, што рухаўся ў іншы населены пункт, з боку мясцовых хрысціян, якія часта патрабавалі выкуп. Можна меркаваць, што першая гарадзенская сінагога была драўляная, і стаяла яна прыблізна на месцы сённяшняй, у цэнтры старажытнага габрэйскага квартала. Побач знаходзіліся і могілкі, знішчаныя ў XX ст.

Жыццё гарадзенскай суполкі было парушана дэкрэтам вялікага князя Аляксандра. У 1495 г. гарадзенскім габрэям разам з усімі аднаверцамі Вялікага Княства Літоўскага было загадана пакінуць межы краіны. Нерухомасць, якая ім належала, пераходзіла ў скарб, усе даўгі хрысціянаў прызнаваліся скасаванымі. Так было вырашана пытанне пра фінансаванне выдаткаў на вайну з татарамі і Маскоўскім княствам. Маёмасць гарадзенскіх габрэяў знайшла сабе новых гаспадароў у асобе віленскага біскупа, членаў магістрата і службовых асоб, набліжаных да князя. Толькі ў 1503 г., прызнаўшы карыснасць гандлёвай і ліхвярскай дзейнасці габрэяў для двара, Аляксандр Ягайлавіч дазволіў габрэям вярнуцца ў Вялікае Княства Літоўскае. Аднавілася таксама гарадзенская габрэйская суполка, прадстаўнікам якой па каралеўскім дэкрэце была вернута нерухомая маёмасць і права спагнаць скасаваныя калісьці хрысціянскія даўгі.




**Асаблівасці гарадскога права**
**Гарадзенскія парафіі**
**Горад і палітычнае жыццё краіны**
**Гарадская прастора ў XVI – XVIII стст.**
**Вёскі гарадзенскіх месцічаў і паселішчы замкавай юрыдыкі**
**Гаспадарчае жыццё і камунальная гаспадарка**
**Гарадзенскія таргі і кірмашы. Гарадскія фінансы**
**Гарадніца і пераўтварэнні Антонія Тызенгаўза**
**Гарадзенскі кагал у канцы XVI – другой палове XVIII ст.**

# АСАБЛІВАСЦІ ГАРАДСКОГА ПРАВА

XV ст. характарызавалася працэсам імклівага развіцця гарадоў і фармавання мяшчанскага саслоўя ў Вялікім Княстве Літоўскім. У выніку развіцця ўнутранага рынку гарадскія асяродкі – цэнтры валасцей – пачалі адыгрываць ролю цэнтраў рэгіянальнай вытворчасці і гандлю. Моцна спрыялі гэтым пераменам кан'юнктура еўрапейскага рынку і змены значэння гандлёвых шляхоў. Захоп туркамі Канстанцінопаля і закрыццё партоў Чорнага мора ў сярэдзіне XV ст. у сукупнасці з заняпадам Ганзы і Торунскім дагаворам 1466 г., які дазваляў бесперашкодна гандляваць з Еўропай праз Гданьск і Каралявец, прывялі да ажыўлення гандлю ў Балтыйскім рэгіёне. Перасоўванне міжнародных гандлёвых шляхоў садзейнічала таму, што праз Балтыйскае мора з Усходняй Еўропы пачало экспартавацца збожжа, попыт на якое значна ўзрос ва ўсіх еўрапейскіх краінах. Ажыўленне гандлю ў рэгіёне Балтыйскага мора і еўрапейскі попыт на вырабы сельскай і лясной гаспадаркі (збожжа, лес, воск ды інш.) стваралі магчымасці ўцягвання гарадоў рэгіёна ў вір замежнага гандлю.

Захаваныя пларіровачныя формы Гародні з'яўляюцца сведчаннем яе дынамічнага развіцця ды пашырэння гарадскіх межаў. Супольнасць засвойвае новую прастору на ўсход ад замка і сярэднявечнага горада. Горадабудаўнічыя змены былі абумоўлены эфектыўным выкарыстаннем фінансавых сродкаў, назапашаных гараджанамі. Акрамя таго, яны з'яўляюцца сведчаннем зменаў колькасных параметраў структуры насельніцтва, забеспячэння яго прыросту за кошт міграцыі.

Такім чынам, у XV ст. адбываўся працэс фарміравання новай якасці гарадской супольнасці, эканамічна актыўнай, засяроджанай на акрэсленай тэрыторыі горада, якая дынамічна развіваецца ва ўсходнім ды паўночным накірунках.

Разам з тым, Гародня як цэнтр воласці ўсё яшчэ была падпарадкавана ў адміністрацыйна-судовых і гаспадарчых адносінах

намеснікам вялікага князя, што, аднак, не адкідала магчымасці існавання пэўных форм арганізацыі самакіравання горадам.

На мяжы XV – XVI ст. вялікі князь Аляксандр Ягайлавіч выдаў гарадам шматлікія прывілеі, згодна з якімі пацвярджаліся наданні яго папярэднікаў, рэгуляваўся статус войта і габрэйскай абшчыны. Шэраг асяродкаў атрымалі Магдэбургскае права. Не выклікае сумнення, што гаспадар кіраваўся перад усім фінансавымі інтарэсамі дзяржавы. Ваенныя канфлікты з Масквой (1492-1494, 1500-1503, 1512-1522), складаныя адносіны з крымскімі татарамі вымушалі гаспадара інтэнсіўна шукаць крыніцы папаўнення дзяржаўнага скарбу.

Многія даследчыкі прыйшлі да высновы, што ініцыятыва ў развіцці самакіравання ў гарадах ВКЛ зыходзіла ад гаспадара, які быў зацікаўлены ў росце дзяржаўных даходаў. У выпадку літоўскіх і беларускіх гарадоў Магдэбургскае права даравалася менавіта дзеля паскарэння гаспадарчага развіцця, у той час як галоўным фактарам атрымання самакіравання нямецкімі гарадамі былі не фінансавыя цяжкасці дзяржавы, а эканамічны росквіт гарадскіх асяродкаў.

Менавіта сукупнасць згаданых фактараў абумовіла працэс шырокага распаўсюджвання Магдэбургскага права ў ВКЛ. У канцы XV – пачатку XVI ст. яго атрымалі Гародня, Полацак, Менск, Кіеў, Высокае, Наваградак, некаторыя паўторна (Луцк), іншыя былі пераведзены з Хэлмінскага права на Магдэбургскае (Бранск, Бельск, Драгічын, Мельнік). Дараванне Магдэбургскага права павінна было паспрыяць эканамічнаму росту гарадоў ды забеспячэнню стабільных паступленняў з гарадскіх абшчын у дзяржаўны скарб.

21 сакавіка 1496 г. у Берштах вялікі князь Аляксандр Ягайлавіч дараваў Гародні прывілей на Магдэбургскае права, у выніку якога быў запачаткаваны працэс юрыдычнага афармлення гарадской абшчыны.

Аналіз зместу прывілея не дазваляе казаць, што надан-

не Магдэбургскага права з'яўляецца вынікам настойлівых патрабаванняў з боку гараджан. У прэамбуле дакумента вялікі князь падкрэсліваў дараванне права ў мэтах стварэння лепшых умоў для гаспадарчага развіцця горада. Аднак нельга казаць пра адсутнасць ініцыятывы з боку гараджанаў. Дакументу ўласціва неразгорнутасць і пэўная скарочанасць фармулёвак. Ён не можа з'яўляцца доказам адсутнасці актыўнасці гарадскога соцыуму. Інакш кажучы, калі наданне Магдэбургскага права і не было вынікам націску гарадзенцаў, то напэўна з'яўлялася сведчаннем дасягнення горадам пэўнага ўзроўню гаспадарчага развіцця, які стварыў падмуркі фарміравання структуры гарадскога самакіравання.

У формулу падобных прывілеяў, як правіла, уваходзіла палажэнне аб пераходзе горада са звычаёвага права ("*з права літоўскага або рускага*") на Магдэбургскае. Гарадской абшчыне перадавалася тэрыторыя горада, у тым ліку Падол ("падаляне") ды абшар Занёманскага левабярэжжа. У дакуменце адзначалася, што жыхары горада павінны быць "паслухмянымі" нормам Магдэбургскага права. Аналагічна рэгуляваўся прававы статус гараджан, што жылі *"we dworach panów"*. Гэтая частка прывілея сугучная 19 артыкулу нямецкага збору законаў "Вайхбільд", які разам са зборнікам "Саксонскае люстра" належаў да асноўных крыніцаў Магдэбургскага права[1].

Згодна з воляй манарха гараджане вызваляліся з-пад адміністрацыйна-судовага падпарадкавання "*судоў юрысдыкцыі і сілы ўсялякіх ваяводаў, кашталянаў і старастаў, суддзяў, падсудкаў і іх намеснікаў ды іншых ураднікаў княства нашага*"[2]. Улада ў горадзе пераходзіла да органаў самакіравання. У прывілеі згадваюцца войт, *"старшыя райцы ці бурмістры"*, у абавязкі якіх уваходзіла вызначэнне чыншу. *"Старэйшыя горада"* павінны былі клапаціцца пра засваенне пустых пляцаў, пасяляючы на іх новых жыхароў. Урэшце ў прывілеі было падкрэслена, што войт і райцы мелі судзіць Магдэбургскім правам.

1 Das Saechsische Weichbildrecht. Jus municipale saxonicum, hrsg. A. Daniels, F. Gruber, Berlin, 1858. S. 94.

2 АВАК. Т. VII. Акты Гродненского городского суда. Вильна, 1874. С. 59-61.

Паводле прывілею, мяшчанам давалася эканамічная свабода. Жыхары горада вызваляліся ад талок, дарожнай і падводнай павіннасцей. Уводзілася права бяспошліннага гандлю для купцоў, якія вывозілі па Нёмане свае тавары ў Коўна, а таксама адмянялася ўнясенне мыта на Нецэ, воднай дарозе ў Прусію. Гараджане атрымалі пляцы, пакінутыя выгнанымі з краіны ў 1495 г. габрэямі. Ім дазвалялася штогод праводзіць тры кірмашы, збудаваць млын на Нёмане, корчмы, важніцу,васкабойню, а таксама ратушу. Гарантавалася валоданне пазямельнай уласнасцю, "уваходы" ў каралеўскія лясныя ўгоддзі, дазвалялася карыстацца сенажацямі.

Малалікасць сярэднявечных дакументальных крыніц не дазваляе рабіць выснову аб арганізацыі органаў улады і кіравання горада ў Сярэднявеччы. У той жа час ёсць падставы меркаваць, што гісторыю гарадскога самакіравання трэба пачынаць не з 1496 г. Пра гэта сведчыць менавіта тэкст прывілея 1496 г. У ім згадваюцца *"старэйшыя горада"*, да абавязкаў якіх належала прыцягненне новых жыхароў і засяленне іх на пляцах, якія пуставалі ў горадзе, і па неабходнасці – за Нёманам. Трэба адзначыць, што ў польскіх гарадах згодна з лакацыйным прывілеем прыцягненнем перасяленцаў (*osadników*) займаўся войт (*zasadźca*). Належыць заўважыць, што ў прывілеі адзначаецца таксама, што да задачаў *"mieszczan starszych Grodzieńskich"* належала рэгуляванне купецкага гандлю. На гэта звярнуў увагу беларускі гісторык Зіновій Капыскі, на думку якога "старэйшыя" з'яўляліся органам улады "дамагдэбургскага" перыяду[3].

Захаваліся сведчанні таго, што ў беларускіх гарадах ў Сярэднявеччы існавала вечавая арганізацыя. У XIII ст. у Полацку *"мужы"* кіравалі вечам *("mużу połoczanie")*, а выканаўчы орган веча складаўся са "старцаў". З.Капыскі сцвярджаў адпаведнасць тэрмінаў *"муж"* і рыжскі *"ратман"*. Здаўна існавалі *"мужы"* ў Барысаве (прывілей 1396 г.), *"старцы"* і *"мужы"* ў XV-XVI стст. у Магілёве, Мазыры, Рэчыцы, Крычаве ды Глыбокім[4].

[3] Копысский З. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. Минск, 1975. С. 78.

[4] ПСРЛ. Т. 32, Москва, 1975. С. 130.

Адсюль напрошваецца пытанне, ці можна атаясамліваць упамянутых вышэй "старэйшых" у Гародні са "старцамі" з іншых беларускіх гарадоў? Прынцып аналогіі не дазваляе зрабіць адназначныя высновы. Пытанне патрабуе далейшага вывучэння. Але можна сцвярджаць, што гарадзенскія *"starsi miasta"* у XV ст. маглі выконваць функцыі органа распарадча-выканаўчай улады, у той час як кампетэнцыя намесніка вялікага князя ўключала адміністрацыйна-судовыя функцыі[5].

У гарадзенскім прывілеі 1496 г. змешчана сціплая згадка аб тым, што адносіны ў горадзе абапіраліся на нормы *"літоўскага альбо рускага права".* Па ўсёй верагоднасці гэта ўпамінанне можа ўказваць на наяўнасць партыкулярных звычаёвых норм, якія маглі існаваць у вуснай форме. Нельга адкідваць і іншай трактоўкі тэрміна *"літоўскае права",* якое магло азначаць Судзебнік 1468 г.

Унутраны лад гарадскога самакіравання вызначаўся ў прывілеі. На яго пачатку была змешчана даволі расплывістая заўвага манарха аб тым, што дабрабыт жыхароў горада залежыць ад увядзення *"парадку добрага і слушнага",* пад чым разумелася Магдэбургскае права. Але як у рэчаіснасці выглядаў пераход "з права літоўскага або рускага" на Магдэбургскае?

У прывілеі 1496 г. згадваюцца войт, старэйшыя райцы і бурмістры. Разам з тым, у ім не асвятляецца парадак утварэння ці кампетэнцыя органаў самакіравання. Атрыманне горадам Магдэбургскага права азначала ўвядзенне пасады войта (фогта). Паводле крыніц, першым гарадзенскім войтам быў Міска[6]. Мабыць, менавіта ён разам з мяшчанамі звярнуўся да Аляксандра Ягайлавіча ў 1502 г.: *"Били намъ чоломъ войтъ и вси мѣщане мѣста Городеньского"*[7].

У адпаведнасці з нормамі Магдэбургскага права ў абавязкі войта ўваходзілі судовыя функцыі, дакладней кіраванне гарадскім судом. Трэба заўважыць, што "Саксонскае люстра" прадугледжвала элемент калегіяльнасці: войт прымаў рашэнні разам

5 Шаланда А. Замкавы суд у Гарадзенскім павеце (другая палова XV–1566 г.) // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Гародня, 2009. С. 11-12.

6 ЛДГА. Ф. 11, воп. 2, ад.з. 269, арк. 3.

7 АЗР. Т. 1. СПб, 1846. С. 346.

з лаўнікамі. Аднак у гарадзенскім прывілеі аб лаўніках нічога не гаворыцца. І гэта не адзіны адыход ад магдэбургскага канону.

29 артыкул "Вайхбільда" ўводзіў выбарнасць войта, але ў гарадах ВКЛ войт прызначаўся манархам. Прынцып прызначэння прысутны і ў Магдэбургскім праве, але ён датычыў не войта, а буркграфа, якога ў Магдэбургу прызначаў біскуп.

У адпаведнасці з "Вайхбільдам" судовай уладай у горадзе валодаў буркграф. Фогт з'яўляўся намеснікам буркграфа ў гарадскім судзе, менавіта ягоным 12-м суддзёй (*"schultheize/ scultetus advocatus"*)[8]. У беларускіх гарадах паўнамоцтвы войта былі іншымі, пераўзыходзячы правы, акрэсленыя ў Магдэбургскім праве. Аналіз войтаўска-лаўніцкага суда Гародні з 1638 да 1644 года дазволіў З. Капыскаму сцвярджаць, што мясцовы войт займаўся не толькі разборам крымінальных спраў, што прадугледжвалася нормамі Магдэбургскага права, але і маёмаснымі пытаннямі.

Адметнасць беларускіх гарадоў заключалася ў тым, што войт часта меў шляхецкае паходжанне. Будучы ўраднікам павятовых судоў, ён зрэдку прысутнічаў на пасяджэннях магістрата[9]. Аднак нельга сцвярджаць, што войты ігнаравалі гэтыя пасяджэнні. Напрыклад, 21 чэрвеня 1659 г., 14 красавіка і 17 мая 1661 г. у актавых кнігах зафіксаваны ўдзел у працах магістрата войта Канстанціна Александровіча, а 27 кастрычніка 1673 г. – войта Стэфана Александровіча[10]. Войт выконваў ролю вышэйшай улады горада і апеляцыйнай інстанцыі адносна рашэнняў магістрата. З норм Магдэбургскага права вынікала тое, што вышэйшай апеляцыйнай інстанцыяй для магдэбургскіх гарадоў з'яўляўся суд Магдэбурга. У той жа час у Прусіі вышэйшай судовай інстанцыяй для магдэбургскіх гарадоў з'яўляліся суды ў Хэлмне і Торуні, а ў XIV ст. быў заснаваны вярхоўны апеляцыйны суд у Кракаве. Малаверагоднай выглядае магчымасць апеляцыі судоў гарадоў ВКЛ у суд Магдэбурга.

Даходы войта не абмяжоўваліся штрафамі. Паводле зместу прывілея 1496 г., *"на пажытак войта"* ішлі паступленні з трох

8 Groicki B. Porządek sądów i spraw miejskich prawa majdeburskiego w Koronie Polskiej. Kraków, 1559. K. D II.

9 Яцкевіч З., Урублеўскі В. Гарадзенскі магістрат у XVII ст. // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Гародня, 2009. С. 85.

10 НГАБ. Ф. 1800, воп. 1, ад.з.1, арк. 6, 80, 94.

корчмаў і важніцы. Ён меў права пабудаваць млын на Нёмане, атрымліваў кожны трэці грош з гарадскіх чыншаў. У крыніцах другой паловы XVIII ст. гаворыцца аб тым, што гарадзенскі староста і войт, гетман вялікі літоўскі Міхал Юзаф Масальскі пабудаваў карчму *"na ulicy Wileńskiej z Rynku jadąc ku Horodnicy za Ś[więty]m. Duchem"*, а таксама валодаў Станіславаўскім фальваркам[11].

Адну з палат магістрата складала лава. У "Вайхбільдзе" ішла гаворка аб тым, што лава складаецца з 11 прысяжных (*schepphen/scabini*). Бартламей Граіцкі адзначаў, што войт *"ma przysiężników o sentecje pytać"*[12]. Нормы Магдэбургскага права не змяшчалі інфармацыі аб працэдуры іх выбараў. На думку З. Капыскага, для правядзення судовага пасяджэння было дастаткова паловы лаўнікаў. У 1661 г. у Гародні былі абраныя 7 лаўнікаў з 14 прадстаўленых кандыдатур[13]. Аналіз першакрыніц 1743 – 1767 гг. дазваляе сцвярджаць, што колькасць прысутных на пасяджэннях лаўнікаў вагалася ад двух да трох чалавек, што прыкметна адрознівалася ад XVII ст., дзе іх колькасць дасягала 10 чалавек.

Вартым увагі з'яўляецца функцыянаванне *"вылажонага"* суда, на якім старшынстваваў войт. Трэба заўважыць, што даволі часта здаралася так, што на чале суда стаяў лентвойт, які, фактычна, быў намеснікам войта. Ён выбіраўся на адзін год. Як вядома, нормы Магдэбургскага права менавіта на такі тэрмін прадугледжвалі выбары ўраднікаў магістрата. Яшчэ адна паралель тычыцца прынцыпу замяшчэння войта лентвойтам, які фармальна нагадваў адносіны буркграфа з войтам у Магдэбургу. Паводле крыніцаў пачатку XVIII ст., лентвойта замяшчаў віцэ-лентвойт.

Аднак не толькі лентвойт замяшчаў войта. Здаралася, што апошняга прадстаўляў урагнік гродскага суда. Так, напрыклад, 7 чэрвеня 1717 г. на пасяджэнні магістрата гарадзенскі гродскі суддзя Зыгмунт Боўфал[14], быў *"na miejscu Wielmożnego Jm Pana Hrehorego Józepha Kotowicza łowczego w[ielkiego] WXLit, starosty grodzieńskiego i wójta majdeburii grodzieńskiej"*.

[11] ЛДГА. Ф. 11, воп. 2, ад.з. 269, арк. 2.

[12] Groicki B. Porządek sądów i spraw miejskich prawa majdeburskiego w Koronie Polskiej. K. C III.

[13] Яцкевіч З., Урублеўскі В. Гарадзенскі магістрат у XVII ст. С. 88.

[14] АВАК. Т. VII. С. 24, 200, 257.

*“Вылажоны”* суд у Магдэбургу адбываўся тры разы ў год. Пасяджэнне цягнулася два тыдні. А вось у Гародні ў 1638 г. суд збіраўся 9 разоў, у 1639 г. – нават 12. Да таго ж ён не абмяжоўваўся маёмаснымі спрэчкамі, а таксама займаўся крымінальнымі злачынствамі, разглядаў бягучыя справы.

Гарадзенскія райцы ўпершыню ўпамінаюцца ў прывілеі 1496 г. “Вайхбільд” таксама не вызначаў працэдуры выбараў членаў магістрата. Аднак згадваюцца звычаі рамесных сходаў, на якіх выбіраліся цэхмістры. Больш увагі “Вайхбільд” удзяляў характарыстыцы райцаў, якія павінны былі мець ад 25 да 90 гадоў, пастаянна пражываць у горадзе, быць “*не вельмі багатымі, не ўбогімі, але сярэдняга стану*”, а таксама валодаць пэўным наборам станоўчых рысаў характару.

Магдэбургскае права прадугледжвала двухэтапныя выбары рады. Спачатку выбіраліся 24 ратманы (на ўзор рымскага сената) тэрмінам на год, якія прыносілі прысягу. Райцы-электары разам з войтам выбіралі двух бурмістраў тэрмінам на адзін год. На думку З. Капыскага, у Гародні выбары ўраднікаў мелі аднаступенны характар. Гарадзенскія бурмістры ў XVII ст. абіраліся штогод. У старэйшых захаваных кнігах гарадзенскага магістрата змешчаны звесткі аб выбары бурмістрамі Грыгорыя Вараб’евіча і Стэфана Гібулы (1639–1640). У 1641 г. бурмістрамі былі Станіслаў Цвікліч і Яраш Высоцкі. Пасля выбараў бурмістры выконвалі юрамент (прыносілі прысягу). Выбары ўраднікаў адбываліся на пачатку года. У XVII ст. кандыдатаў вылучаў выбарны ўрад сендыка, упаўнаважаных ад горада, які праводзіў нарады з цэхмістрамі і паспольствам.

Гарадская абшчына з’яўлялася калектыўным суб’ектам права. Трэба заўважыць, што Магдэбургскае права не прадугледжвала ўдзелу шырокіх колаў гараджан у працэсе кіравання ці ўстанаўлення кантролю за органамі гарадской улады. Аднак, як сведчаць першакрыніцы, жыхары беларускіх гарадоў імкнуліся кантраляваць дзейнасць магістрата. Аб актыўнасці жыхароў

горада сведчаць звесткі, якія паходзяць з актавых кніг Вільні, Пінска, Менска, Віцебска і Магілёва.

Фінансавыя злоўжыванні гарадзенскага магістрата згадваюцца ў прывілеі каралевы Боны 1541 г., якая абавязала гарадскіх ураднікаў рэгулярна складаць фінансавыя справаздачы яе намесніку. Дарэчы, у каралеўскім прывілеі згадваюцца прадстаўнікі мяшчанства, ці *"восем мужоў дабрадзейных, мудрых і веры годных з паспольства"*. Варта адзначыць, што ў XVII – XVIII стст. паспольства Гародні ўдзельнічала ў выбарах магістрацкіх ураднікаў.

У 1690 г. у выбарах бурмістраў удзельнічалі 44 прадстаўнікі *"całego pospolstwa"*, кватэрмайстраў, цэхмістраў, сендыкаў, лаўнікаў і ўсёй рады. Абраныя Ян Казімір Шульц і Стэфан Адамовіч павінны былі прынесці прысягу. Аднак *"communitatis"* выказалася супраць выканання юрамента на бурмістра Шульцам, што матывавалі яго даўгамі. У выбарах удзельнічаў былы бурмістр Габрыэль Разумовіч, які атрымаў 5 галасоў. Нягледзячы на гэта, ён быў абвінавачаны ў немаральных паводзінах, бо ў сакавіку 1689 г. "штурхнуў" ксяндза Германовіча[15].

Судовая дзейнасць магістрата вылучалася разнастайнасцю, якая заключалася ў функцыянаванні войтаўска-лаўніцкага і бурмістраўска-радзецкага суда. У той жа час здаралася, калі дзве магістрацкія палаты праводзілі сумесныя пасяджэнні, якія зафіксаваны ў магістрацкіх актавых кнігах Гародні XVII – XVIII стст. У XVII ст. у пасяджэннях магістрата ўдзельнічалі 2-4 райцы і 2-6 лаўнікаў, у першай палове XVIII ст. – 3-4 райцы і 2-3 лаўнікі.

У 1753 г. у магістраце пачаў ужывацца тытул прэзідэнта, г.зн. старшыні рады. Дакументы канца XVIII ст. сведчаць аб існаванні ў Гародні пасады віцэ-прэзідэнта, функцыі якога ў той час выконваў Якуб Рафановіч[16].

Даследчыкі Зміцер Яцкевіч і Вадзім Урублеўскі звярнулі ўвагу на функцыянаванне ў магістраце субдэлегата. Асоба, якая

15 НГАБ. Ф. 1761, воп. 1, ад.з. 3, арк. 20-20 адв.

16 НГАБ. Ф. 1761, воп. 1, ад.з. 15, арк. 208, 209.

выконвала гэтую часовую функцыю, замяшчала лентвойта на пасяджэннях рады[17].

Фінансавымі рахункамі ды зборам падаткаў загадваў шафар. У канцы XVIII ст. у магістраце з'явіўся "пракуратар" ("*prokurator*"), у абавязкі якога ўваходзіў кантроль за падатковымі паступленнямі і складанне справаздачы перад гарадскімі ўладамі. У 80-я гады XVIII ст. упамінаецца пасада інстыгатара, якую займаў Ян Геніуш[18].

Да канца невядома, якую функцыю выконваў кватэрмайстр, які згадваецца ў дакументах канца XVII ст. У канцы XVIII ст. кватэрмайстры мелі абавязак наглядаць за санітарна-гігіенічным станам горада.

У гарадзенскім магістраце былі ўладкаваны рамеснікі. Напрыклад, пасаду гарадскога цесляра ў другой палове XVIII ст. займаў швейцарац Ёган Якуб Прайсіг, якога называлі ў тагачасных крыніцах "*гарадзенскім баўмайстрам*"[19]. Вядома таксама, што ўжо ў XVI ст. Гародня мела свайго гадзіннікавага майстра і ка́та.

Гарадская канцылярыя мясцілася ў будынку ратушы. На чале магістрацкіх канцылярый стаялі пісары – войтаўскі і радзецкі. Першыя згадкі аб гарадзенскіх магістрацкіх пісарах паходзяць з пачатку XVI ст. У 1509 г. пісарам быў нехта Ганус[20]. У 1541 г. гэтую пасаду займаў Пётр Шаматула, які ў 1555 г. стаў войтам[21]. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што Шаматула названы *"лацінскім пісарам",* што можна трактаваць як ускоснае сведчанне карыстання магістратам "Вайхбільдам" ды "Саксонскім люстрам".

Матэрыялы канцылярыі гарадзенскага магістрата захаваліся часткова. Актавыя кнігі канца XV ст. – 30-х гг. XVII ст. зніклі. На мяжы 1659-1660 гг. войскі маскоўскага ваяводы Івана Хаванскага другі раз захапілі Гародню. Гарадскія ўлады спрабавалі вывезці архіў. Аднак пад Ліпскам маскоўскія войскі напалі на ўцекачоў і заваладалі маёмасцю, у тым ліку дакументамі магістрата. Магчыма, дакументы гарадзенскага магістрата і сёння захоўваюцца ў сховішчах расійскіх архіваў.

[17] Яцкевіч З., Урублеўскі В. Гарадзенскі магістрат у XVII ст. С. 86, 87, 92.

[18] НГАБ. Ф. 1761, воп. 1, ад.з. 14, арк. 182.

[19] НГАБ. Ф. 1761, воп. 1, ад.з. 13, арк. 307-308, 452, 890.

[20] ПКГЭ. Т. XVII. С. 102.

[21] АВАК. Т. XVII. С. 265, 351.

Акрамя актавых кніг, што складаліся гарадскімі ўладамі, у канцылярыі захоўваліся прывілеі, якія горад атрымліваў ад манархаў. Яны былі напісаныя на лацінскай, старабеларускай і польскай мовах. З канца XV ст. да XVIII ст. горад атрымаў больш за 40 такіх дакументаў, у адпаведнасці з якімі рэгуляваліся яго правы і свабоды. У 1540 г. каралева Бона Сфорца дазволіла войту і лаўнікам мець пячатку.

Відавочна, што адміністрацыйна-судовыя функцыі магістрата развіваліся на базе Магдэбургскага права. Але не толькі... Бартламей Граіцкі яшчэ ў XVI ст. сцвярджаў, што ў Польскім каралеўстве гарадское права павінна называцца не магдэбургскім, а польскім гарадскім правам ("...*Ius Municipale Polonicum, to jest miejskie polskie prawo*")[22]. І сапраўды, аналіз актавых кніг магістратаў беларускіх гарадоў сведчыць аб тым, што нормы Магдэбургскага права не з'яўляліся адзінай крыніцай дзейнасці магістрацкіх ураднікаў. Па ўсёй верагоднасці, яны дапаўняліся мясцовай традыцыяй.

У актавых кнігах Гародні ўдалося адшукаць выразныя згадкі аб тым, што падчас працэсу аб чараўніцтве ўраднікі кіраваліся Статутамі ВКЛ і "Вайхбільдам" (*"Tak tędy w tym stosując się do prawa Statutowego i Saxonowego"*). Так, пасля трохразовага катавання, прадугледжанага Статутам ВКЛ 1588 г., "вядзьмару" Максіму Знаку быў вынесены прысуд спалення за чары[23]. Вядома, што ўлады іншых беларускіх гарадоў таксама кіраваліся нормамі гэтага Статута. Напрыклад, у Менску (1600), Магілёве (1605), Берасці (1624).

Але не толькі магістрат валодаў судовымі паўнамоцтвамі ў горадзе. У беларускіх гарадах склікаліся таксама копныя суды. Гэтая архаічная судовая форма ўсталёўвалася *"для обыску шкоды од злодейства и выпытанью шкодников злодеев водле порадку права стародавного"*. У пасяджэннях прымалі ўдзел ураднікі, якія прадстаўлялі дзяржаўныя ўлады. Копны суд распаўсюджваўся на вясковае і гарадское насельніцтва.

[22] Groicki B. Porządek sądów i spraw miejskich prawa majdeburskiego w Koronie Polskiej. K. A III-IV.

[23] НГАБ. Ф. 1761, воп. 1, ад.з. 3, арк. 80.

У Гарадзенскім павеце "капа" была ўведзеная ў адпаведнасці з лістом падкаморага павета Грыгорыя Масальскага 1590 г. Дакумент рэгуляваў парадак склікання копных судоў і вызначаў месцы іх правядзення. У Гародні копны суд адбываўся *"за Немецъким ринком, подле костела Светое Тройцы"*[24]. Нямецкі рынак, які існаваў яшчэ ў XV ст., з'яўляўся адной з дамінант сярэднявечнай планіровачнай структуры Гародні. Згадка аб касцёле Св. Тройцы, які належаў кляштару аўгусцінцаў, сведчыць, што апошні адыгрываў важную ролю ў грамадскім жыцці горада на пачатковым этапе юрыдычнага афармлення гарадской абшчыны на мяжы XV – XVI ст.

Увядзенне копных судоў ва ўсіх населеных пунктах Гарадзенскага павета, у тым ліку ў адміністрацыйным цэнтры, з'яўляецца чарговым сведчаннем адметнасці функцыянавання гарадской судовай сістэмы беларускіх гарадоў.

Сацыяльная структура горада характарызавалася разнароднасцю і зменлівасцю. У тагачаснай Гародні пражывала каля 10 тыс. жыхароў, асноўную масу якіх складалі мяшчане розных веравызнанняў. Разам з тым, не ўсё гарадское насельніцтва павінна атаясамлівацца з гэтым саслоўем. У горадзе жылі прадстаўнікі іншых саслоўяў, напрыклад, шляхты і духавенства. Ва ўсіх беларускіх гарадах значны адсотак насельніцтва складалі габрэі. Таксама колькасць гараджанаў папаўнялі выхадцы з вёсак, шляхецкіх маёнткаў Гарадзенскага павета і мяшчане з розных еўрапейскіх рэгіёнаў Рэчы Паспалітай, тагачаснай Вугоршчыны, а таксама Чэхіі, нямецкіх і італьянскіх земляў, Францыі, Швейцарыі.

На працягу XVI – XVIII стст. гарадское насельніцтва папаўнялася новымі прозвішчамі. Гэты працэс можна прасачыць на прыкладзе ўзнаўлення эліт. Заможнае мяшчанства (ураднікі магістрата, цэхавыя майстры, уладальнікі нерухомасці ды купцы) складала невялікую па колькасці групу. У XVI ст. да іх ліку належалі Цвіклічы, Адамовічы, Грандзічы, Варабяёўскія ды Гібулы.

[24] Бобер І. Ліст падкаморага гарадзенскага Грыгорыя Масальскага насельніцтву Гарадзенскага павета аб правілах склікання коп і прызначэнні месцаў капавішчаў // Архіварыус. Мінск, 2001. С. 72–76.

Можна меркаваць, што міграцыя польскіх мяшчан была выклікана як геаграфічнай сумежнасцю рэгіёнаў, так і пашырэннем рэфармацыйных плыняў і актывізацыяй дзейнасці каталіцкага касцёла. Напрыклад, у сярэдзіне XVI ст. Пётр Шаматула займаў пасады гарадзенскага пісара і войта. Зрэшты, Шаматулы пражывалі ў горадзе да канца XVII ст. У другой палове XVI ст. у горадзе пачалі сяліцца высокакваліфікаваныя рамеснікі з Прусіі. У XVII ст. да групы заможных мяшчан належалі Фандэнберкі. Магістрацкі ўраднік Ганус Фандэнберк заснаваў у Гародні водаправод. Да найбольш вядомых асоб у XVIII ст. належалі прэзідэнт горада ў 50-70-х гг. італьянец Юзаф Бадаракі і швейцарскі купец і карчмар Якуб Гаўсман.

Яшчэ адзін даволі аднародны ў маёмасным плане слой мяшчанства складала паспольства. У гэтую сярэднюю і малазаможную групу насельніцтва ўваходзілі рамеснікі, дробныя гандляры і небагатыя ўладальнікі нерухомасці. На ніжэйшай прыступцы гарадской іерархічнай лесвіцы знаходзіўся “плебс” (чаляднікі, некваліфікаваныя сезонныя рабочыя, хатняя служба), а таксама лёзныя, убогія ды жабракі, які не валодалі сродкамі ўтрымання.

Разнастайнай была таксама канфесійная структура горада. На працягу XII – XVI стст. у горадзе над Нёманам функцыянавалі 9 праваслаўных храмаў ды манастыроў, што сведчыць аб колькаснай перавазе насельніцтва праваслаўнага веравызнання. Пачаткі каталіцкай абшчыны датычаць канца XIV ст. У часы Аляксандра Ягайлавіча (1492-1506) быў фундаваны касцёл Св. Мікалая ды кляштар аўгусцінцаў.

Радыкальныя змены канфесійнай структуры адбыліся ў XVII ст., калі ў горадзе функцыянавалі уніяцкія цэрквы і манастыры, а таксама пачалі закладваць свае сядзібы каталіцкія ордэны. У XVIII ст. пераважную большасць хрысціянскага насельніцтва горада складалі ўжо каталікі. Нямецкія жыхары горада XVI – XVII стст. былі пераважна каталікамі ў адрозненне ад немцаў-лютаран, якія у канцы XVIII ст. заснавалі на

Гарадніцы кірху. Дынамічнасцю характарызавалася габрэйская суполка горада. Калі ў XVI ст. яна складала каля 10%, то ў другой палове XVIII ст. дасягнула ужо 40% агульнай колькасці насельніцтва горада.

## ГАРАДЗЕНСКІЯ ПАРАФІІ

Гарадзенскія парафіі як заходняга абраду (рыма-каталіцкія), так і ўсходняга (праваслаўныя, потым грэка-каталіцкія) маюць вельмі даўні радавод.

Самы старажытны дакумент **рыма-каталіцкай парафіі** з сядзібай у Фары Вітаўта паходзіць з 1494 г. Аляксандр Ягайлавіч у ім пацвярджаў і парадкаваў папярэднія прывілеі вялікага князя, дакументы якіх згарэлі.

Вядома, што Фарны касцёл у Гародні некалькі разоў разбураўся. Храм быў моцна пашкоджаны ў час войнаў XVII ст. У 1662 г. аднатавана: "*Kościół grodzieński od Moskwy wszy[s]tek wypalony. Sklepienie bardzo niebezpieczne, miejscami wypadłe*". У часы маскоўскай акупацыі быў дашчэнту спалены будынак плябаніі, дзе захоўваліся парафіяльныя акты. Аднак шмат дакументаў ацалела. Магчыма, яны былі ўратаваныя ад пажару ці схаваныя раней. Сярод іх знаходзіліся найважнейшыя дакументы: вялікакняскія і каралеўскія прывілеі, таксама іх канфірмацыі (пацвярджэнні) для парафіяльнага касцёла, шпіталя Св. Духа, шпіталя Св. Троіцы і касцёла Св. Мікалая. Яны былі перапісаныя ў 1662 г. ксяндзом Казімірам Янам Вайшнаровічам (Woysznarowicz), які візітаваў парафію. Шпіталямі ў тыя часы называліся прытулкі для беднякоў.

Парафіяльны архіў мог таксама паменшыцца ў час Паўночнай вайны, але пра тое нам нічога невядома. Затое больш дакладна

ведаем пра шкоду, нанесеную архіву пажарам храма 8 лютага 1750 г. Цяжка меркаваць, ці былі страты ў архіве падчас пажараў у 1753 г. Затое, здаецца, у чарговым пажары касцёла ў 1782 г. акты не пацярпелі, бо плябанія не згарэла.

Частку каштоўных дакументаў пробашчы перадалі ў архіў дыяцэзіі. Вядома, што ў 1717 г. па даручэнні біскупа віленскі канонік і гарадзенскі прэпазыт Якуб Шчука (Szczuka) перадаў у архіў дыяцэзіі прывілей Жыгімонта Аўгуста з 1553 г., які пацвярджаў фундацыю парафіяльнага шпіталя каралевай Бонай. Падобна, у 1782 г. па даручэнні біскупа падпробашч перадаў у архіў арыгінальны дакумент фундацыі шпіталя Св. Духа (з 1550 г.). У Вільню быў перададзены таксама старэйшы з захаваных парафіяльных дакументаў – прывілей на пергаменце Аляксандра Ягайлавіча з 1494 г.[25] Трапіў ён туды да 1793 г., бо ў гэтым годзе архівіст зрабіў копію прывілею.

Гарадзенская парафія была адной з самых значных і багатых у Літве. У сярэдзіне XVI ст. да парафіі належала 68 дымоў[26]. У 1561 г. вялікі князь і кароль Жыгімонт Аўгуст фундаваў у Гародні мансіянарыю (вікарыят на спецыяльных правах), далучыўшы да гарадзенскага прабоства фундушы касцёла Св. Мікалая і фундаванага Бонай (у 1550 г.) шпіталя і касцёла Св. Духа. Да прабоства належала таксама маёмасць даўняга касцёла і кляштара аўгусцінцаў (Св. Тройцы), які апусцеў яшчэ ў XVI ст., найверагодней у выніку наступу Рэфармацыі. У 1553 г. каралева Бона перадала маёмасць гэтага кляштара на фундацыю парафіяльнага шпіталя Св. Тройцы. Гэта пацвердзілі каралі Жыгімонт Аўгуст і Стэфан Баторы. Касцёлы Св. Тройцы і Св. Мікалая былі знішчаныя падчас маскоўскага нападу (1655 – 1661 г.). У 1653 г. гарадзенскае прабоства плаціла падымны падатак ад 47 дымоў, а мансіянарыя – ад 45 дымоў. У 1673 г. прабоства здавала падатак ад 63 дымоў, а "*podprobostwo alias mansjonarze w mieście*" – ад 36 дымоў. У 1789 г. да прабоства належала 168 дымоў – найбольш з усіх парафіяў Гарадзенскага павета. Аднак даход тут быў трохі меншы, чым у Вялікай Бераставіцы.

[25] ЛДГА. Ф. 694, воп. 1, ад.з. 3968, арк. 21-22 адв, 24 адв.

[26] Ochmański J. Biskupstwo wileńskie w Średniowieczu. Ustrój i uposażenie. Poznań, 1972. S. 102.

Да парафіяльных уладанняў належалі юрыдыкі ў горадзе і шматлікія ўчасткі загаспадараваных земляў па-за яго межамі. На адлегласці адной мілі ад горада на тэрыторыі Гарадзенскай парафіі знаходзіўся фальварак Русота (Чаполдава), які належаў прабоству. Другі фальварак, калісьці названы Баляй, а потым Капланаўцамі, знаходзіўся на левым беразе Нёмана. Фальваркі абслугоўваліся сялянамі з вёсак Агароднікі, Русота, Літва (Салохі), Туляі, Капліца, Лясніца і Баля. Акрамя таго, да прабоства належаў засценак Гасцейкі (Chościejki), а да шпіталя Св. Духа – вёска Ямашы ў Крынкаўскай парафіі. Таксама Гарадзенскаму прабоству належалі розныя даніны, лес і ўваходы ў каралеўскую пушчу. Прабоства мела права на дзевяць азёраў, названых яшчэ ў 1494 г. у прывілеі вялікага князя Аляксандра Ягайлавіча, шпіталь Св. Духа – на тры возеры, атрыманыя ад каралевы Боны, а касцёл Св. Крыжа – на адно возера, атрыманае ад Аляксандра Ягайлавіча ў 1499 г.

Паводле матэрыялаў візітацыі 1783 г., адно з тых азёраў знаходзілася недалёка ад фальварка Русота, другое – на левым беразе Нёмана ў ваколіцы Сярэі за ракой Волкуш. Большасць з іх належыць лакалізаваць у былым Пярстунскім лясніцтве[27]. Шэсць з названых азёраў: Арлінае (Orle), Пабойна (Pobojno), Панева (Paniewo), Крывое (Krzywe), Кругляк (Kruglak) і Малое Мікашава (Mikaszewo Małe) размешчаныя ў сістэме Аўгустоўскага канала. Верагодна, тамсама знаходзілася возера Піянічнае (Pijaniczne). Паводле Уладзіслава Пацехі і Ежы Вішнеўскага, азёры былі перададзеныя прабоству яшчэ Вітаўтам[28]. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай яны апынуліся на прускім баку мяжы і адпалі ад парафіяльных уладанняў.

Па прычыне падзелаў тагачасны пробашч у 1795 г. прадаў Балю гарадзенскаму падкамораму Францішку Юндзілу за 20 тыс. польскіх злотых. Гэтыя грошы ён планаваў прызначыць на рамонт касцёла і згарэлай плябаніі. Аднак, вядома, што яны былі ўкладзеныя пад 7% у маёнтак падкаморага Бераставіцу, а ад 1 мая 1828 г. – пад 6% у маёнтак Варняны камердынера цар-

[27] Falk K. O. Wody wigierskie i huciańskie. Studium toponomastyczne. T. II. Źródła rękopiśmienne. Uppsala, 1941. V. S. 39.

[28] Pociecha W. Królowa Bona. T. III. Poznań, 1958. S. 13.

скага двара Абрамовіча. Маёнтак Капланаўцы пасля падзелаў апынуўся на тэрыторыі Прусіі, а рэшта ўладанняў разам з касцёлам – у Расіі. Прадаўшы гэтыя ўладанні, пробашч аказаўся прадбачлівым гаспадаром, у адрозненне ад гарадзенскіх канвентаў бернардзінак ды францысканцаў, якія страцілі значную частку сваіх уладанняў. Па той жа прычыне адпала таксама шпітальная вёска Ямашы.

У 1825 г. дыяцэзія заключыла дамову з Віленскім універсітэтам адносна ўладанняў гарадзенскага прабоства. За іх выкарыстанне універсітэт абавязаўся штогод выплачваць 4726 злотых і 12 грошаў на ўтрыманне ксяндзоў і парафіяльнага касцёла. Потым універсітэт здаваў парафіяльныя ўладанні ў арэнду праз аўкцыёны за большыя сумы і атрымліваў даходы для сваёй дзейнасці.

Багатае гарадзенскае прабоства мела таксама незвычайных пробашчаў. Сярод іх варта назваць каралеўскага сакратара, віленскага канонікa і жамойцкага ардынатара Вацлава Вярбіцкага (Wierzbicki) (жыў у XVI ст.). Ксёндз Адам Пліхоўскі (Plichowski) быў выбітным дзеячам Валочнай памеры, сакратаром Боны, потым Жыгімонта Аўгуста і Стэфана Баторыя, каронным рэферэндарам, пазней хелмскім біскупам. Іншы гарадзенскі пробашч Фабіян Канапацкі (Konopacki) быў унукам мальбарскага ваяводы, канонікам некалькіх капітул, папскім падкаморым, кандыдатам на вармінскага біскупа і намеснікам хелмскага біскупства, таксама дабрачынцам гарадзенскіх бернардзінаў і торунскіх бенедзікцінак.

Асаблівай згадкі заслугоўвае Станіслаў Кжыцкі (Krzycki) (? - 1626 г.), які з 14 траўня 1603 г. быў шматкроць згаданы ў актах Віленскай капітулы як віленскі канонік і гарадзенскі пробашч. З такімі тытуламі быў запісаны ў 1606 г. сярод студэнтаў у Падуі. 15 лістапада 1616 г. ён стаў віленскім схаластыкам пасля Кішкі. Ад 9 кастрычніка 1618 г. быў намеснікам на ўладаннях касцёла ў Адэльску, даходы з якіх былі прызначаныя на агульны стол ка-

федральных вікарыяў. Планаваў далучэнне адэльскіх уладанняў да гарадзенскіх, аднак у 1624 г. намесніцтва ў яго забралі. Гарадзенскае прабоства трымаў да самай смерці ў 1626 г. Пасля яго засталіся даўгі дзяржаве ў выглядзе неаплачаных падаткаў і кантрыбуцый з гарадзенскага прабоства і адэльскіх уладанняў. Пакінуў шпіталю Св. Духа пры гарадзенскім касцёле 2 тыс. злотых на адзенне для жабракоў.

У XVIII ст. пробашчамі былі між іншымі Ежы Тышкевіч, пазнейшы жмудскі і віленскі біскуп, Францішак Домат Ісакоўскі, пазнейшы смаленскі біскуп, Аляксандр Крыштап Хадкевіч, апошні вендэнскі біскуп. Варта адзначыць таксама выбітнага педагога езуіта Юзафа Мучынскага, гарадзенскага пробашча ў 1782 – 1793 гг. Ён быў прафесарам у ніжэйшых школах, прапаведнікам і прэфектам бібліятэкі ў Гародні, Слоніме і Наваградку. Напярэдадні касацыі Ордэна езуітаў у 1771 – 1772 гг. выконваў абавязкі прэфекта школаў у Гародні. Пасля касацыі быў прэфектам школаў Камісіі нацыянальнай адукацыі ў Гародні. З 1781 г. з'яўляўся рэктарам гарадзенскага школьнага аддзела. Быў таксама інфлянцкім канонікам.

Юзаф Літавор Храптовіч (1715-1783) быў сынам гарадзенскага стольніка Якуба і Тэадоры, у дзявоцтве Тымінскай. У 1736 г. паступіў у Віленскую семінарыю, у 1739 г. высвечаны на святара. Гарадзенскім пробашчам стаў у 1745 г., а смаленскім канонікам – 19 жніўня 1760 г. Заставаўся пробашчам да смерці і пастаянна жыў у Гародні. Яшчэ ў 1752 г. перадаў сваю частку спадчыны братам – земскаму пісару Каралю і ротмістру Гарадзенскага павета Томашу. Старанна апекаваўся парафіяльнымі ўладаннямі, адрамантаваў Фарны касцёл, які згарэў з 1753 г., калі два магутныя пажары знішчылі большасць гарадской забудовы. Пра гэта паведамляе надпіс на латыні на мармуровай шыльдзе ў касцёле. Быў дабрачынцам гарадзенскіх бернардзінцаў, у 1759 г. разам з братамі перадаў ім зямлю і лугі, на якіх кляштар заклаў агароды і сады.

Дакладныя межы гарадзенскіх каталіцкіх парафіяў вядомыя з 1744 г. і пазнейшых дакументаў. Памеры Фарнай парафіі паменшыліся пасля стварэння новай пры занёманскім касцёле францысканцаў. Новая парафія ахапіла левабярэжную частку горада (г.зв. Занёманскае прадмесце) і навакольныя мясцовасці, у тым ліку вёскі, якія належалі гораду. Францысканская парафія існавала ўжо ў 1698 г. Выказвалася таксама меркаванне, што яна ўзнікла годам раней[29]. Прычынай падзелу парафіі на дзве меншыя былі цяжкасці з пераправай праз Нёман, бо ў XVII – XVIII стст. пастаяннага моста праз раку не было.

Ад Фарнай парафіі часткова захаваліся арыгінальныя і ў копіях метрыкі хрышчэння, шлюбаў і пахаванняў. Яны захоўваюцца ў архіве ў Гародні, а копіі – у Вільні. Акты хрышчэння захаваліся з 1712 г., шлюбаў – з 1750 г., смерцяў – з 1756 г. Акты Занёманскай парафіі ў арыгіналах і копіях захоўваюцца ў дзяржаўных архівах у Гародні і Вільні, а таксама ў архіве парафіі Маці Божай Анёльскай у Гародні пры касцёле францысканцаў. Захаваліся метрыкі хрышчэнняў з 1698 г., шлюбаў – з 1706 г. і смерцяў – з 1758 г.

Цэнтрам кожнай парафіяльнай суполкі быў і застаецца парафіяльны касцёл, для гарадзенцаў – цудоўная Фара Вітаўта, неаднаразова знішчаная і адбудаваная. Гэта ў ёй урачыста пачыналіся сеймы Рэчы Паспалітай. "*Król Jmś [...] o godzinie circiter 10 między gwardiami, dwiema liniami od pałacu królewskiego, aż do kościoła farnego stojącemi, szedł piechotą in asystentia przytomnego Senatu, Ministrorum, status urzędników Koronnych i W[ielkiego] Ks[ięstwa] Lit[ewskiego], tudzież i posłów obojga narodów*", – чытаем у сеймавым дзённіку ад 1718 г.[30] Тут таксама праходзілі элекцыйныя імшы з нагоды выбараў новых бурмістраў.

Пры гарадзенскай Фары дзейнічалі таксама самыя буйныя і значныя ў горадзе рэлігійныя брацтвы. Брацтва Св. Тройцы разам з магістратам апекавалася алтаром той самай назвы. Яно было адоранае прывілеем папы Пія IV у 1560 г. "*To bractwo ma*

[29] Makarczyk J. Kustodia Grodzieńska Zakonu Braci Mniejszych Konwentualnych w latach 1687-1832. Grodno, 2006. S. 45.

[30] Ossolineum. Rkp. 703/1. K.1. Dyaryusz sejmu walnego grodzieńskiego zagajonego die 3 octobris 1718.

*tak wielkie przywileje, iż cokolwiek do porządku swego co postanowi lub odmieni, ma taka moc jakoby od Stolicy Apostolskiej utwierdzone było*", – чытаем у матэрыялах адной з візітацый. Алтар меў прывілей поўнага адпушчэння ў дзень Св. Тройцы.

Брацтва Св. Анёлаў Стражаў разам з магістратам апекавалася алтаром Св. Анёлаў. Яго ўвёў у касцёл кароль Жыгімонт Ваза разам з каралевай Канстанцыяй. У гарадзенскім архіве знаходзіцца прыгожа апраўленая кніга гэтага брацтва са спісамі сяброў з 1628 – 1821 г. Астатнімі алтарамі апекаваліся гарадзенскія рамесныя цэхі, а таксама *ўбогія* і музыканты. Пасля пераносу ў 1797 г. сядзібы парафіі з пашкоджанай Фары ў былы Езуіцкі касцёл сюды перайшоў і звычай апекавання алтарамі з боку цэхаў і брацтваў.

Пры Занёманскай парафіі дзейнічала брацтва Св. Антонія Падуанскага. У гарадзенскім архіве захавалася кніга гэтага брацтва. Там таксама існаваў парафіяльны шпіталь, фундаваны ў 1730 г. Канстанцыяй Лазовай (Łazowa), у дзявоцтве Юндзіл.

Пры гарадзенскай Фары існавалі могілкі, упамянутыя ўжо ў 1494 г. Пад канец XVIII ст., калі пачыналіся новыя могілкі (у маі 1792 г.), на старых было налічана 2600 надмагілляў. Як на гарадскі некропаль, размешчаны ў цэнтры горада, могілкі былі вялізныя. Аднак аналіз тастаментаў мяшчан-каталікоў з горада, гарадскіх вёсак і паселішчаў, якія належалі да замкавай юрыдыкі, паказаў, што гэта было не адзінае месца пахаванняў. Памерлых месцічаў хавалі таксама ў крыптах пад касцёлам, патрыцыяў – у крыпце брацтва Св. Тройцы, а рамеснікаў – у цэхавых крыптах. Існавалі пахавальныя крыпты рамесных цэхаў: мулярская, рыбацкая, магчыма, мясніцкая, ды інш.

Мяшчанаў хавалі таксама ў ордэнскіх касцёлах, асабліва ў крыпце Ружанцовага брацтва ў дамініканцаў. Найбагацейшыя мелі ўласныя крыпты ў бернардзінцаў. Мяшчане з левабярэжнай часткі горада і бліжэйшых гарадскіх вёсак знаходзілі вечны

спакой у францысканцаў, а таксама на могілках у Адамовічах. Самых бедных парафіянаў з гарадскіх вёсак хавалі часам на вясковых могілках (яшчэ ў 1793 г.). У 1792 г. былі закладзеныя новыя парафіяльныя могілкі за горадам. Новыя могілкі Занёманскай парафіі функцыянавалі ўжо ў 1798 г.

На тэрыторыі Фарнай парафіі дзейнічалі ордэнскія і прыватныя касцёлы і капліцы. Акрамя горада такія аб'екты знаходзіліся ў Грандзічах (кармеліцкая), Кульбаках (прыватная), Казіміраўцы (кармеліцкая) і Каханове (брыгіцкая). Таксама і ў Занёманскай парафіі функцыянавалі храмы ў Адамовічах (бернардзінак) і Калбасіне (езуіцкі). З 1818 г. парафія мела таксама філіяльны касцёл у Аўгустоўку.

**Праваслаўныя цэрквы** і царкоўная маёмасць на тэрыторыі Гародні маюць вельмі даўні, старэйшы за каталіцкі, радавод. Аднак захавалася няшмат дакументаў, якія датычаць дзейнасці парафіяў. Больш дакладныя звесткі маюцца толькі з сярэдзіны XVIII ст.

Падчас Валочнай памеры пяць гарадзенскіх цэркваў атрымалі ў гарадской вёсцы Альшанка па 2 валокі зямлі, што было тыповым забеспячэннем цэркваў усходняга абраду. Частку з тых цэркваў не ўдаецца лакалізаваць. Гэта храмы Св. Мікалая і Св. Сімяона. Затое ведаем месцазнаходжанне Васкрасенскай царквы. Яна знаходзілася на Падзамчы (г.зв. Малая), а потым пры вуліцы Рэзніцкай. Таксама вядома прыблізнае месцазнаходжанне на Падоле царквы Св. Крыжа (Чэснага Крыжа). Можна меркаваць, яна магла быць брацкай царквой, належала брацтву гарбараў. Дзякуючы археолагам, ведаем дакладнае месцазнаходжанне кафедральнай царквы (Прачысценская). З манастырскіх храмаў лёгка лакалізуецца царква Св. Барыса і Глеба на Каложы, а дзякуючы даследаванням Наталлі Сліж, таксама размешчаная там царква Св. Тройцы.

Галоўнай царквой горада была Прачысценская. Яе ранг падкрэслівае назва – саборная (кафедральная) царква. У 1565 г.

вялікі князь і кароль Жыгімонт Аўгуст фундаваў шпіталю пры царкве 10 коп грошаў штогод, тое пацвердзіў Стэфан Баторы[31].

Няшмат вядома пра пачаткі ўладанняў кафедральнай царквы ў горадзе. Яе ўчасткі не ўпамянутыя ў Валочнай памеры. Дакладныя звесткі маюцца толькі пра павелічэнне ўладанняў дзякуючы шляхецкім дараванням у першай палове XVII ст. Значна ўзбагацілі маёмасць царквы Якуб і Барбара Кунцэвічы (1614), Яраш Валовіч (1626), Мікалай Рабей Хайніцкі (1643). Сакалінскія падаравалі царкве 2,5 валокі ў гарадской вёсцы Грандзічы. Пасля вайны з Масквой кафедральная царква пераняла ўчасткі і зямлю, якія засталіся пасля храмаў, знішчаных маскоўцамі.

Прачысценская царква перайшла да уніятаў да 1626 г.[32] Падобна, што і іншыя гарадзенскія цэрквы яшчэ да войнаў сярэдзіны XVII ст. прынялі царкоўную унію і сталі грэка-каталіцкімі храмамі. Прывілей для Васкрасенскай царквы, які дазваляў адбудаваць яе пасля пажару 1613 ці 1614 г. і зацвярджаў яе фундуш, быў выданы ўжо як для царквы уніяцкай. Падчас вайны з Маскоўскім царствам у 1655 – 1661 г. варожыя войскі, праўдападобна, знішчылі ўсе уніяцкія цэрквы ў горадзе. Прынамсі, іншых на той час не было. Дакладна вядома, што былі знішчаныя царква Св. Крыжа на Падоле, царква Св. Барыса і Глеба на Каложы і, верагодна, царква Св. Тройцы на Каложы. Таксама разбурэнні не абышлі Прачысценскую царкву. Маскоўцы забілі святароў саборнай царквы Сцяпана Лацэвіча, Якуба Парфяновіча, Яна Бароўскага, спалілі царкоўныя дакументы.

Некаторыя цэрквы пасля маскоўскай навалы аднавілі сваю дзейнасць. Сярод іх была мураваная саборная Прачысценская царква, аднак яе будынак быў у дрэнным стане. Адсутнічаў дах, заменены толькі часовым пакрыццём. Аднак набажэнствы ў царкве не спыняліся. У 1720 г. згадваецца саборная царква, "*której się recenter bok uwalił*". У 1715 г. – камендар саборнай царквы а. Міхал Семіч (Siemicz). У 1723 г. адзін з месцічаў запісаў невялікую суму "*do cerkwie Sobornej na Msze święte*

[31] АВАК. Т. I, Вильна, 1865. Ч. I. № 3. С. 13-15.

[32] АВАК. Т. I. Ч. I. № 15. С. 52-54.

*z dzwonieniem*"[33]. У 1720 – 1728 г. быў узведзены новы мураваны будынак храма. Царква пацярпела пры пажары ў 1753 г. Тады згарэў таксама двор мітрапалітаў і частка забудовы базыліянак – ордэна, якія дзейнічаў пры царкве з 30-х гг. XVII ст. Пасля маскоўскай акупацыі аднавілі дзейнасць Васкрасенская царква на вул. Рэзніцкай і базыліянская царква Св. Барыса і Глеба, магчыма, і царква Св. Мікалая. У другой палове XVIII ст. у горадзе засталіся толькі дзве грэка-каталіцкія царквы: базыліянаў на Каложы і Прачысценская[34].

Пасля вайны сярэдзіны XVII ст. аднавіла дзейнасць таксама брацтва Кафедральнай царквы. Да гэтага брацтва, якое называлася Брацтва Нараджэння Найяснейшай Панны, пры саборнай царкве ў 1672 г. належалі Лявон Лашкевіч, Ян Канановіч, Ян Буракевіч, Конрад Русіновіч, Андрэй Саталайка. У брацтва ўваходзіў таксама гарадзенскі лаўнік Аляксандр Карлоўскі, які ў тастаменце 1666 г. запісаў для "*bractwa religii greckiej*" паўвалокі зямлі ў гарадской вёсцы Міцкевічы[35].

Пры мураванай саборнай царкве знаходзіліся прыходскія могілкі. Больш важныя пахаванні знаходзіліся пад падлогай храма. Паводле захаваных тастаментаў XVII – XVIII стст., можна меркаваць, што пахаванні каля царквы праводзіліся рэдка, асабліва пасля Паўночнай вайны, па прычыне ўжо невялікай колькасці уніятаў у горадзе. Існавалі таксама могілкі і пры іншых гарадзенскіх цэрквах.

Саборная царква выконвала функцыю прыходскай. Менавіта таму крыніцы акрэсліваюць святароў з яе як плябанаў, парохаў, прасвітараў, адміністратараў кафедральнай царквы. У другой палове XVIII ст. гэтыя абавязкі выконвалі а. Міхал Лянкевіч (1751 – 1770), а. Іосіф Дабжаньскі (1771 – 1791) і а. Лявон Кунцэвіч (1794 – 1797).

Лявон Кунцэвіч (Канцэвіч) (?-1842) быў адміністратарам кафедральнага сабору ў Гародні (перад 28.12.1794 да 1797 г.). Адначасова выконваў абавязкі інстыгатара гарадзенскага

[33] НГАБ. Ф. 1761, воп. 1, ад.з. 5, арк. 63.

[34] ЛДГА. Ф. 694, воп.5, ад.з. 829, арк. 6.

[35] НГАБ. Ф. 1800, воп. 1, ад.з. 1, арк.130,238 адв.

мітрапалічага кансыстара. У 1806 – 1842 гг. быў прыхадскім святаром у Балі пад Гароднях. У 1830 і 1833 г. згадваўся з тытуламі віцэ-дэкана і адміністратара Тыкоцінскага дэканата ў грэка-каталіцкай Хелмскай дыяцэзіі. Памёр як аўгустоўскі віцэ-дзекан і прыходскі святар Балі 26 красавіка 1842 г.

Абшар Гарадзенскай парафіі ўсходняга абраду больш дакладна вядомы толькі з 1784 г. Тады уніяты жылі ў вёсках Жыдоўшчына, Прыходзічы, Пагараны, Кашоўнікі, Путрышкі, Пышкі, Мёлы, Вялікая і Малая Альшанка, Малахавічы і Гібулічы. Больш за палову прыхаджанаў жылі ва ўладаннях гарадзенскіх брыгітак. У самым горадзе тады былі зафіксаваныя толькі 15 грэка-каталікоў, а ва ўсім прыходзе – 508 чалавек (109 дымоў)[36]. Вядома, што да 1715 г. прыход быў большым. Тады яго падзялілі, стварыўшы новы прыход у Лабне, які ахопліваў тэрыторыю на левым беразе Нёмана. Раней святары рэдка туды даязджалі па прычыне цяжкасці пераправы праз раку. Паселішчы, якія належалі да Лабненскага прыходу, упершыню пералічаныя толькі ў 1804 г. Сярод іх была вёска Адамавічы, дзе жыло некалькі сем'яў грэка-каталікоў.

**Лютаране** з'явіліся ў Гародні ўжо ў XVI ст. Магчыма, касцёл і кляштар аўгусцінцаў у Гародні апусцеў у сярэдзіне XVI ст. у выніку поспехаў Рэфармацыі. Лютэр жа таксама быў аўгусціянінам.

Аднак у наступныя стагоддзі лютаранская супольнасць была нешматлікай. Да яе належалі, як можна меркаваць, выключна асобы нямецкага паходжання. Але гэтая суполка была ўплывовай. У 1659 г. бачым пратэстанта Эргарда Вільда сярод гарадзенскіх лаўнікаў. У 1663 г. яго абралі гарадзенскім бурмістрам "*za zgodę wszystkich*", хоць Вільд не быў райцам. Аднак у выніку прэтэнзій з боку райцы Фолтына Шульца ён адмовіўся ад пасады, патлумачыўшы, што не можа быць выбраны "*dlatego, że jest disidentem [protestantem] i dóbr swoich własnych tu w mieście nie ma*". Але сапраўднай прычынай была,

[36] НГАБ. Ф. 1882, воп. 1, ад.з. 3, арк. 21.

хіба, даходная пасада падляснічага, якую цяжка было спалучыць з працай бурмістра. Тое, што Вільд быў пратэстантам не перашкодзіла яму быць абраным у гарадскую раду ў 1666 г. і праз год стаць кандыдатам на бурмістра.[37]

Іншы ўплывовы лютаранін гарадзенскі аптэкар Ганс Гансбах у сваім тастаменце 1667 г. падараваў аднаверцам "Księgi do nabożeństwa haszpurskiej konfesiej". Можна таксама назваць злотніка Готфрыда Варланга, сындыка і паштмайстара гарадзенскага.

Колькасць лютаранаў у горадзе вырасла ў часы Тызенгаўза, бо іх было шмат сярод запрошаных замежных рамеснікаў. У 1775 г. гарадзенскі пробашч аднатаваў значную колькасць "*Dysydentów na Horodnicy różnych rzemieślników*"[38]. У 1783 г. у правабярэжнай частцы горада было 85 лютаранаў і 12 кальвіністаў. У 1820 г. на тэрыторыі занёманскай парафіі знаходзілася 15 евангелістаў.

У горадзе не было ні кірхі, ні лютаранскіх могілак. Гарадзенскія лютэране загадвалі хаваць іх на могілках Віленскага збору (як тое зрабіў у 1793 г. Пётр Гуітард, родам са Старога Шчэціна на Памор'і) або прасілі спадкаемцаў каб цела "*wedle obrządku religiej mojej pogrzebane było*". Падобныя клопаты мелі пратэстанты таксама ў іншых гарадах. У Гародні набажэнствы пратэстантаў часам адбываліся ў прыватных дамах: "*Lutrzy i kalwini publicznych oratoriów nie mają, ale w domie swoim, osobliwie za przybyciem predykanta swego, zgromadzają się na nabożeństwach*", – занатавана ў 1783 г.[39]

У 1793 г. кароль падараваў гарадзенскай лютаранскай суполцы будынак на Гарадніцы пад кірху[40]. Фундацыю лютэранскіх цэркваў у Гародні, Шаўлях і Шадове зацвердзіў у 1793 г. апошні сейм Рэчы Паспалітай. У Гародні фундацыя складалася, акрамя мураванага дома з садам і дваром, з чатырох моргаў зямлі. Падараваны дом трэба было перабудаваць, на што сабралі сродкі самыя вернікі, якіх на той час было каля 70. На чале гміны стаў злотнік Конрад Даніэль Лондгрын (Longryn, Lungren), а сябрамі

[37] НГАБ. Ф. 1800, воп. 1, ад.з. 1, арк. 11, 28, 51.

[38] ЛДГА. Ф. 694, воп. 5, ад.з. 829, арк. 5 адв.

[39] ЛДГА. Ф. 694, воп. 1, ад.з. 3985, арк. 27 адв.

[40] AGAD. Akta gmin Kościoła Ewangelicko-Augsburskiego z terenów zachodnich guberni Cesarstwa Rosyjskiego. Nr 22. K.1-73.

рады былі між іншымі Ян Тэадор Кёс (Köss ці Kies) і пекар Раутэнберг. У 1795 г. адзначалася, што на Гарадніцы пры вуліцы Аградовай: "*Kamienica murowana teraz w niej kościół luterski*"[41]. Першым пастаянным пастырам стаў у 1797 г. Гілзеніц[42].

## ГОРАД І ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ КРАІНЫ

Гародня была адным з гарадоў ВКЛ, у якім дзейнічалі цэнтральныя дзяржаўныя ўстановы. У XV ст. тут збіралася на свае пасяджэнні Паны-рада. Прадстаўнічым органам улады ВКЛ быў таксама Вальны сойм, які праводзіўся ў Гародні ў 1501, 1506, 1522, 1566/67, 1568 гг. У сваім лісце да Паноў-рады 18 жніўня 1566 г. Жыгімонт Аўгуст тлумачыў, што ў выбары месца сойму кіруецца практычнымі меркаваннямі, а менавіта тым, што яно павінна знаходзіцца паблізу мяжы з Польскім каралеўствам.

Пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай шляхта ВКЛ неаднаразова ўздымала пытанне соймавай "альтэрнатывы" на сваёй тэрыторыі, аргументуючы просьбу аддаленасцю Варшавы, высокімі коштамі падарожжа і ўтрымання. У 1573 г. перад каранацыяй Генрыха Валуа шляхта нагадала аб магчымасці правядзення кожнага другога сойму ў Вільні, Гародні ці Берасці, дзе да Люблінскай уніі ўжо адбываліся соймы. Але толькі ў XVII ст. шляхта дамаглася правядзення сойму на тэрыторыі ВКЛ, у Гародні.

Палітычнае значэнне Гародні ўзрасло ў перыяд праўлення вялікага князя літоўскага і караля польскага Стэфана Баторыя (1576-1586). Кароль упершыню наведаў горад у 1579 г. У другой палове лютага ў Старым замку адбылася нарада, на якой абмяркоўваліся пытанні пра ваенную кампанію супраць Маскоўскай дзяржавы і вызваленне Полацка. Але гэта была не адзіная мэта караля. Усходні вектар быў толькі элементам яго

[41] ЛДГА. Ф. 1219, воп. 1, ад.з. 415, арк. 1 адв.

[42] Орловский Е. Гродненская старина. Ч. I. Гродна. Гродно, 1910. С. 165.

шырокамаштабнага плана. Стэфан Баторы імкнуўся да стварэння антытурэцкай кааліцыі, далучэння да яе маскоўскага войска і ў рэшце рэшт аб'яднання зямель падзеленай Вугоршчыны ды пазбаўлення яе ад назойлівай апекі Габсбургаў.

У 1580 г. кароль двойчы наведаў Гародню, а ў наступным 1581 г. сустракаўся ў Старым замку з пасламі Івана Жахлівага ды ўдзельнічаў у пасяджэнні Рады Сената Рэчы Паспалітай. У лютым 1584 г. у Гародні ён прыняў англійскага пасла Герберта. Шмат часу Стэфан Баторы праводзіў у Гародні пасля заканчэння Інфлянцкай вайны, г.зн. пачынаючы з 1582 г.

На сойме 1585 г. польская шляхта адкінула план чарговай вайны з Масквой. Спадзеючыся заручыцца падтрымкай літоўскай і беларускай шляхты, у верасні 1585 г. кароль прыехаў у Гародню, дзе правёў важную нараду. У яе выніку манарху ўдалося схіліць шляхту да працягу вайны з усходнім суседам. Адначасна Стэфан Баторы выношваў ідэю уніі з Маскоўскай дзяржавай. У жніўні 1586 г. ён прымаў у Гародні пасольства маскоўскага цара Фёдара. Непрымальныя прапановы царскіх дыпламатаў змусілі Баторыя ўсё ж працягваць падрыхтоўку да вайны.

Частае знаходжанне караля ў Гародні, дзе ён прымаў пасольствы, выстаўляў прывілеі, вырашаў важныя дзяржаўныя пытанні, рыхтаваў планы ваенных паходаў, спарадзіла пэўную міфалагізацыю гарадской гісторыі. Насамрэч Баторы лічыў неабходным быць як мага бліжэй да тэатра ваенных дзеянняў у час Інфлянцкай вайны. Да таго ж літоўская і беларуская шляхта выказвала настойлівыя патрабаванні аб неабходнасці знаходжання манарха на тэрыторыі ВКЛ. Урэшце рэшт у горад над Нёманам караля прыцягвалі не толькі дзяржаўныя справы. Навокал горада ляжалі шматлікія пушчы, у якіх Стэфан Баторы паляваў. Здаралася, што кароль праводзіў на паляванні больш за тыдзень.

А вось што напісаў пра Гародню ў часы Стэфана Баторыя нямецкі падарожнік Самуэль Кіхель, які наведаў горад улетку

1586 г.: *"І так 25-га [чэрвеня] добрым часам прыйшлі мы ў Гародню, адкрыты горад без муроў, проста пад якім працякае рака Мемель, што вядзе да Коўны, горада ў Літве... Яго вялікасць польскі кароль мае ў гэтым гарадку свой дом, які загадаў узвесці зусім нанова. І хоць той яшчэ не даведзены да канца, кароль тут многа спыняецца, бо мае добрую магчымасць паляваць. Да гэтага ў яго каралеўскай вялікасці асаблівае жаданне і ахвота, так што нярэдка на працягу 8 дзён не вяртаецца ў горад. 26-га [чэрвеня], а гэта была нядзеля, я бачыў у Гародні яго вялікасць польскага караля Стэфана, які ехаў на кані ад замка да храма [Фарны касцёл]. [...] Калі ён едзе, то выглядае трыумфальна, велічна і шыкоўна. Перад ім і за ім рухаецца многа дзяржаўных людзей, рыцараў і шляхціцаў, побач яго гвардзейцы, якія стаяць па абодва бакі вуліцы ад замка да храма. Гэта яго гусары і гайдукі, народ магутны і сярдзіты. Можна пабачыць многа прыгожых, далікатных і элегантных коней [...] Я ўвайшоў у храм, у якім цягам цэлай гадзіны чыталі казанні па-лацінску для Яго Каралеўскай Вялікасці. 27-га [чэрвеня] з самай раніцы кароль выправіўся з Гародні на паляванне, бо звычайна ён толькі ў нядзелю застаецца ў горадзе, і на гэты час прызначаюцца прыёмы. [...] Тут мала каменных дамоў, усе з дрэва збудаваныя, і дахі аднолькава дранкай пакрытыя, таксама, як дах вялікага храма. Хоць іншых храмаў я тут не аглядаў"*[43].

У Гародні кароль пачуваў сябе не вельмі ўтульна. Стары гатычны замак Вітаўта не адпавядаў ні функцыянальным патрэбам каралеўскага двара, ні тагачасным мастацкім густам. Баторы вырашыў правесці грунтоўную перабудову Старога замка, які атрымаў выгляд рэпрэзентатыўнага рэнесансавага палаца.

Марай караля было запрашэнне ў Гародню езуітаў і адкрыццё тут калегіума. Езуіты, аднак, не паспявалі з заснаваннем калегіумаў у іншых гарадах краіны, што тлумачылі недахопам кадраў. Стэфан Баторы вырашыў спачатку пабудаваць касцёл. Яго будаўніцтва пачалося ў 1584 г. побач з драўлянай Фарай Вітаўта. У канцы 1586 г. былі завершаны работы па ўзвядзенні

[43] Сагановіч Г. Нямецкі падарожнік Самуэль Кіхель пра Горадню часоў Стэфана Баторыя // Спадчына 2002. № 2.

будынка мураванага гатычна-маньерыстычнага касцёла, які ўзвышаўся над забудовай галоўнага рынку горада.

Існуюць спрэчныя думкі наконт аўтарства праекта перабудовы Фары. Паводле адной з іх, у 1584-1587 гг. на каралеўскім двары служыў італьянскі архітэктар Санці Гучы, які акрамя каралеўскага замка і касцёла на рынку прычыніўся да ўзвядзення мураванай габрэйскай сінагогі. Згодна з іншай версіяй, праектам перабудовы замка і касцёла займаўся Ян Марыя Бернардоні. Затое вядома дакладна, што перабудову Фарнага касцёла і Старога замка праводзіў муляр "волох" Антоні дэ Кгрып.

Паводле ўсталяванай у даўнія часы традыцыі нававыбраны манарх заўсёды пацвярджаў прывілеі на самакіраванне і правы ўсім гарадам, якія былі выстаўлены ягонымі папярэднікамі. Такі прывілей кароль надаў Гародні ў лістападзе 1576 г.

Дзеля развіцця гарадской гаспадаркі Стэфан Баторы замацаваў прывілеем права манапольнага продажу Гародняй "крупястай" солі, якая прывозілася з Караляўца і Коўна. Апроч таго, у 1576 г. ён дазволіў мяшчанам бяспошліннае варэнне піва і выраб соладу. Праз тры гады кароль падпісаў прывілеі, у якіх пацвярджаліся правы мяшчан Гародні на пабудову млына на Нёмане, а таксама адкрыццё карчмы "*піўнай, мядовай і гарэлачнай*", вызваленай ад аплаты капшчызны дзеля "*пажытку на МЕСКУЮ патрэбу*". Дбаючы пра інтарэсы гарадзенскіх мяшчан, Стэфан Баторы ў 1582 г. загадаў к не затрымліваць гарадзенскія віціны, якія вывозілі збожжа з Коўна ў Каралявец.

Часоў Стэфана Баторыя сваімі пачаткамі сягаюць гарадзенскія рамесныя аб'яднанні. У 1570 г. згодна з каралеўскім прывілеем у Гародні быў створаны зборны цэх металаапрацоўчых спецыяльнасцяў – кавалёў, слесараў, катляроў ды мечнікаў. У гэты ж час у рамесную карпарацыю вырашылі аб'яднацца мясцовыя краўцы, а потым і шаўцы. У 1579 г. у горадзе з'явіўся цэх муляраў, цесляроў, бондараў і ганчароў.

У канцы 1586 г. у краіне трымаліся моцныя маразы. Нягледзячы на гэта, у першых днях снежня Стэфан Баторы прыехаў у Гародню і тры дні правёў на паляванні. У нядзелю, якая прыходзілася на 7 снежня, у час імшы ў Фарным касцёле манарх пачуўся дрэнна. Наступныя дні кароль правёў у ложку хворы.

12 снежня 1586 г. ён памёр у Старым замку. Выказваліся розныя меркаванні наконт хваробы караля. Не выключана, што смерць была вынікам вострага запалення нырак, выкліканага атручаннем мыш'яком. Менавіта нявысветленыя акалічнасці смерці манарха прывялі да спрэчак паміж надворнымі лекарамі Мікалаем Бучэлма ды Сымонам Сымоніусам, якія вырашылі правесці анатаміраванне цела памерлага, якое адбылося 14 снежня 1586 г.

Існуе думка, паводле якой кароль быў атручаны надворным лекарам Сымоніусам. Апошні з'явіўся пры двары Стэфана Баторыя ў 1582 г. адразу ж пасля некарыснага для Івана Жахлівага Ям-Запольскага перамір'я. Звяртае ўвагу і тая істотная акалічнасць, што ранейшым месцам ягонай службы быў двор Рудольфа II Габсбурга, караля Вугоршчыны і імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі, куды гэты лекар вярнуўся пасля смерці Стэфана Баторыя. А як вядома, адносіны паміж Стэфанам Баторыем і Габсбургамі былі нацягнутымі[44].

Згодна з апошняй воляй, Стэфан Баторы хацеў быць пахаваны ў Гародні. Яшчэ на пачатку 1584 г. кароль, звяртаючыся да езуіцкага правінцыяла Кампана, распавёў пра ідэю ўзвядзення езуіцкага касцёла ў горадзе, у якім планаваў пабудаваць сабе саркафаг. Пасля смерці караля ягонае цела было складзена ў склепах гарадзенскага Фарнага касцёла. На каранацыйным сойме вызначылі дату пахавання цела караля на 23 мая 1588 г., а месцам апошняга спачыну Стэфана Баторыя стаў каралеўскі замак Вавэль у Кракаве.

У XVII ст. Гародня стала горадам соймаў Рэчы Паспалітай. Пунктам адліку з'яўляецца 1673 г., калі было прынятае рашэнне

[44] Scheuring H. Z. Czy królobójstwo? Krytyczne studium o śmierci króla Stefana wielkiego Batorego. Londyn, 1964. S. 180-220.

аб правядзенні ў горадзе кожнага трэцяга сойму Рэчы Паспалітай за выключэннем элекцыйных, каранацыйных і канвакацыйных. Трэба падкрэсліць няпростыя акалічнасці яго прыняцця. Паслы ВКЛ дамагліся гэтага рашэння, пагражаючы байкотам з боку шляхты "гістарычнай Літвы" антытурэцкай вайсковай кампаніі.

Але ці была Гародня падрыхтавана да выканання ролі палітычнага цэнтра краіны? Як сведчаць запісы кніг гарадзенскага магістрата, на мяжы 50-60 гг. XVII ст. гарадская забудова была разбурана маскоўскімі войскамі. Была знішчаная ратуша, разбураны мост на Нёмане. У 1661 г. сойм ухваліў канстытуцыю, у адпаведнасці з якой жыхары горада былі вызвалены на чатыры гады ад ўнясення падаткаў.

Праз 12 гадоў сойм прыняў рашэнне аб правядзенні соймаў у Гародні, якое не было да канца лагічным. У соймавай канстытуцыі адзначалася, што Гародня на тры гады вызваляецца ад унясення падаткаў па прычыне пажару, які спустошыў горад у 1672 г. Сапраўды, у чэрвені 1672 г. кароль Міхал Вішнявецкі выдаў лібертацыю, якой вызваляў гарадзенскіх мяшчан на 4 гады ад аплаты падаткаў і дазволіў карыстацца лесам каралеўскіх пушчаў з мэтай адбудовы сядзіб.

На каранацыйным сойме 1676 г. было вырашана прызначыць на адбудову замка 30 тыс. злотых. Паводле даследчыка Ежы Лілейкі, на замкавым дзядзінцы з боку Нёмана было ўзведзена адмысловае збудаванне Пасольскай і Сенатарскай залаў, у якіх планавалася праводзіць парламенцкія пасяджэнні[45].

Скліканы ў 1677 г. сойм у чарговы раз ухваліў вызваленне горада ад унясення падаткаў ды ад пастою войска, нагадваючы аб неабходнасці адбудовы Ратушы, рамонце камяніц і перанясенні сядзіб незаможных мяшчан, захаванні мер супрацьпажарнай бяспекі. Леснікам было забаронена чыніць перашкоды мяшчанам, якія планавалі аднавіць свае дамы і выкарыстаць будаўнічы матэрыял з каралеўскай пушчы. Акрамя таго, камісары павінны былі вызначыць пляцы ў адным з раёнаў горада з мэтай узвяд-

[45] Lileyko J. Przebudowa Starego Zamku w Grodnie na cele sejmowe w latach 1673 - 1678 // Kultura artystyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w epoce baroku. Warszawa, 1995. S. 134.

зення пасольскіх сядзіб, ці, як было адзначана, “*żeby w jednym miejscu miasto poselskie było*”[46].

Хто быў найбольш зацікаўлены ў правядзенні соймаў у Гародні? У першую чаргу гаворка ідзе аб вялікім літоўскім канцлеры, адміністратары каралеўскіх эканомій Кшыштафе Пацы. У той час магнацкі род Пацаў меў амаль неабмежаваную ўладу ў ВКЛ.

Першы сойм у Гародні адбыўся на мяжы 1678-1679 гг. у адноўленым Старым замку. Гэтая падзея знайшла адлюстраванне ў сатырычна-з’едлівым творы *Na sejm grodzieński*, аўтарам якога быў Вацлаў Патоцкі:

*Ale to rzecz zapisania godna,*
*że Litwa sejm z Warszawy przeniosła do Grodna,*
*Gdzie dotąd wilki z dzikie sejmowały świnie,*
*Trudno też o inakszy dowcip na boćwinie.*

Але ўжо наступны гарадзенскі сойм (1688) быў сарваны. Паслы пачалі пакідаць горад з-за дрэнных бытавых умоў, бо добраўпарадкаванне горада засталося на паперы. Адбудовы Ратушы і моста на Нёмане не адбылося. Драўляныя крамы і яткі не былі перанесены з Рынку. Да таго ж заканадаўцы выказалі пажаданне аб пабудове водаправоду ў горадзе.

Таксама не адбыўся сойм, які быў запланаваны на мяжы 1692-1693 г. Вядомыя сваімі палітычнымі амбіцыямі Казімір Ян і Бенядзікт Сапегі спешна дабудоўвалі палац на рагу Рынку і Азёрскай (Брыгіцкай) вуліцы, у якім планавалася праводзіць соймавыя пасяджэнні. Але вялікі князь літоўскі і кароль польскі Ян Сабескі выказаўся супраць Гародні як месца правядзення гэтага сойму.

Наступны гарадзенскі сойм адбыўся ў 1718 г. у палацы Сапегаў, што сведчыць аб нездавальняючым стане Старога замка. У часы Аўгуста ІІ соймы збіраліся яшчэ тры разы – у 1726, 1729 і 1730 гг. Два апошнія “надзвычайныя” соймы скончыліся безвынікова. У перыяд панавання Аўгуста ІІІ соймы засядалі ў Горадні ў 1744 г. і 1752 г., а ў часы Станіслава Аўгуста – у 1784 г.

[46] Volumina Legum. T. V. S. 254-255.

і 1793 г. Падчас апошняга былі зацверджаныя ўмовы ІІ падзелу Рэчы Паспалітай.

У другой палове XVIII ст., дзякуючы намаганням надворнага літоўскага падскарбія Антонія Тызенгаўза, у Гародню быў пераведзены шэраг цэнтральных дзяржаўных установаў. Гэта тычыцца Скарбовай камісіі ВКЛ, якая ў адпаведнасці з рашэннем сойму распачала свае пасяджэнні 2 студзеня 1765 г. у мурах гарадзенскага Старога замка. У замку, акрамя таго, захоўваўся архіў ды каса камісіі. Вядома таксама, што камісія двойчы пераязджала. Спачатку ў кляштар бернардзінцаў, а потым у палац вялікага падскарбія Міхала Бжастоўскага на Рынку. З 1765 г. у Гародні таксама працавала Вайсковая камісія ВКЛ. Праз год тут пачалі праводзіцца кадэнцыі Асэсарскага суда, а таксама кадэнцыі Галоўнага трыбунала ВКЛ[47].

У літаратуры можна сустрэць сцвярджэнне, што палітычная функцыя Гародні абумовіла яе гаспадарчы росквіт. Гэтую думку трэба прызнаць не да канца абгрунтаванай. Разам з тым, адмаўляць уплыў узмацнення палітычнай ролі горада на яго развіццё не прыходзіцца.

Сапраўды, адным з галоўных вынікаў гэтага была перабудова Старога замка ды ўзвядзенне Новага замка. Палітычны фактар, калі і не з'яўляўся галоўнай прычынай фарміравання шматлікіх юрыдык, то ў выпадку Гародні, напэўна, аказваў сур'ёзны ўплыў на скарачэнне мяшчанскага фонду нерухомай маёмасці і стан гарадскіх фінансаў.

Знаходжанне ў горадзе "Ягонай Каралеўскай Мосці", асабліва падчас соймаў, з'яўлялася для гарадскіх улад нагодай для атрымання канфірмацыі ці прывілею, якім замацоўваліся нададзеныя гораду вольнасці і правы. Сказанае пацвярджаюць прывілеі Жыгімонта Старога 1506 г., Жыгімонта Вазы 1589 г. Для Гародні асаблівае значэнне мелі соймы 1718 г. і 1744 г., на якіх былі падпісаныя каралём прывілеі, што пацвярджалі старадаўнія правы горада.

[47] Kościałkowski S. Z dziejów Komisji Skarbowej Litewskiej w początku panowania Stanisława Augusta (1765-1780) // Ateneum Wileńskie. 1924. Nr 2, z. 7-8. S. 375-377.

Каралеўскія наданні атрымоўвалі таксама мясцовыя рамесныя цэхі. Напрыклад, у 1633 г. у Гародні кароль Уладзіслаў IV пацвердзіў правы кравецкага цэху, а ягоная канфірмацыя адбылася на першым гарадзенскім сойме ў 1679 г. Янам III Сабескім. Палітычны фактар таксама спрыяў развіццю рынку паслуг будаўніча-дрэваапрацоўчых ды адзежна-скураных рамёстваў.

Соймы прыцягвалі ўвагу сучаснікаў, якія наведвалі горад і пакідалі пісьмовыя сведчанні пра яго стан. Так, падарожніку Вільгельму Шлемюлеру (Wilhelm Schlemüller) у час сойма 1752 г. кінуліся ў вочы не толькі касцёлы, цэрквы ды палацы магнатаў, але і рэгулярная забудова горада: "*За выключэннем гэтага дзядзінца [замкавага], вуліцы Замкавай і Рынку, уся Гародня драўляная, пераважна драўляныя, але прыгожыя палацы чаргуюцца з беднымі халупамі*". Галоўная плошча была апісана ім наступным чынам: "*Некалькі яшчэ больш значных дамоў мураваных на Рынку. У сярэдзіне бачны руіны велізарнага гмаху, дзе купцы раскладваюць свой тавар*"[48].

За расповедам асаблівасцей панарамы горада хавалася шэрая рэчаіснасць яго штодзённасці ды гаспадарчых магчымасцей гараджан. На думку курляндскага падарожніка, горад не быў у стане ўтрымліваць на працягу некалькіх тыдняў соймавых паслоў ды каралеўскую світу – не хапала харчавання і жытла, якое да таго ж было вельмі дарагім.

Палітычная роля горада прымушае задумацца аб статусе мяшчанскага саслоўя і яго ўдзеле ў палітычным і заканадаўчым жыцці краіны. У адрозненне ад куды больш згуртаванай шляхты гарады не праяўлялі саслоўнай салідарнасці, ігнаруючы магчымасць правядзення адзінай палітыкі. Яны змагаліся за свае правы паасобку, самастойна займаючыся вырашэннем партыкулярных інтарэсаў.

Галоўным апекуном гарадоў былі вялікія князі, якія даравалі ім прывілеі. Напрыклад, Вільня ў першай палове XVI ст. валодала правам непасрэднага звароту да манарха. Менавіта фак-

[48] Schlemüller W. Dyaryusz podróży polskiey na sejm grodzieński Roku Pańskiego 1752 odbytej // Litwa i Ruś. 1912. T. II. Nr 1. S. 8-9, 12.

тарам каралеўскай апекі тлумачыцца адсутнасць гарадоў на соймах. Яны ігнаравалі гэты заканадаўчы орган, што ў пэўным сэнсе было палітычнай блізарукасцю, асабліва ўлічваючы тэндэнцыю ўзмацнення ролі сойма і шляхты.

Гарады ВКЛ па ўзроўні свайго эканамічнага развіцця саступалі шматлюдным і эканамічна больш развітым асяродкам Еўропы. Эканамічнае становішча гарадоў абмяжоўвала іх палітычныя памкненні.

У сваю чаргу шляхта не была зацікаўлена ў пашырэнні правоў мяшчанства. Напрыклад, у польскім сойме ў 1518 і 1537 гг. мелі месца спробы з боку шляхты выдалення прадстаўнікоў Кракава. Аднак, згодна з пастановай віленскага і варшаўскага соймаў 1563/64 гг. і кіруючыся прынцыпам раўнапраўя, было вырашана, што Вільня павінна мець аналагічныя правы з Кракавам, які пасылаў сваіх прадстаўнікоў у сойм.

У той жа час большасць гарадоў была пазбаўлены права ўдзелу ў працах сойма, за выключэннем тых, што валодалі набілітацыйным прывілеем. Магчымасць пасылаць "аблегатаў", г.зн. прадстаўнікоў з правам дарадчага голасу, мелі Кракаў, Варшава, Вільня (1568), Львоў (1658), Гданьск, Камянец ды Люблін. Цалкам магчыма, што ў XVII ст. гэтае права атрымалі таксама Магілёў (1661), Віцебск і Гародня (1677)[49].

На сойм гарадскія паслы накіроўваліся з інструкцыяй, у адпаведнасці з якой павінны былі дзейнічаць, а пасля вяртання складалі справаздачу. Як правіла, на звычайным сойме прысутнічала па 2 гарадскія паслы, а на элекцыйным ці каранацыйным – 5-6. Аднак нават набілітаваныя прадстаўнікі гарадоў не мелі магчымасці ўдзельнічаць у заканадаўчых працах сойма. Мабыць, па гэтых прычынах саслоўнае прадстаўніцтва мяшчан у сойме так ніколі не сфарміравалася.

Істотнай перашкодай для развіцця Гародні ў XVI – XVIII стст. былі войны, эпідэміі і пажары. Так, вялікія разбурэнні і страты прынесла Гародні вайна сярэдзіны XVII ст. Увесну 1654 г. 100-ты-

[49] Яцкевіч З. Набілітацыйныя прывілеі для гарадоў ВКЛ: Магчымасці і рэалізацыя на прыкладзе Магілёва // Białostocczyzna. 2001. Nr 1. S. 154.

сячнае маскоўскае войска ўварвалася ў межы ВКЛ. На працягу першых двух гадоў вайны вораг заняў амаль усю тэрыторыю Вялікага Княства. У жніўні 1655 г. была захоплена Вільня, а потым войскі ваяводы Чаркаскага і казакоў Залатарэнкі занялі Гародню. Толькі ў сакавіку 1659 г. горад быў вызвалены, калі пасля доўгай аблогі ваявода Апрэлеў здаў яго войскам Паўла Сапегі. Падчас наступлення ворага ў снежні 1659 г. горад быў зноў захоплены войскамі ваяводы Івана Хаванскага. Канчаткова Гародня была вызвалена толькі ў 1661 г.

Наступствам вайны быў дэмаграфічны крызіс. Колькасць насельніцтва ў Гарадзенскім павеце ў сярэдзіне XVII ст. скарацілася на 33,2%. Частка насельніцтва загінула ці ўцякла з горада. Захоп Гародні маскоўскімі войскамі абярнуўся руйнаваннем сядзіб гараджан, храмаў ды будынкаў грамадскага прызначэння. У кнігах гарадзенскага магістрата 60-х гг. XVII ст. даволі часта можна сустрэць запісы аб сядзібах, спаленых маскоўскім войскам[50]. Як ужо адзначалася, падчас вайны бясследна знікла частка гарадскога архіва, захопленая войскамі ворага на мяжы 1659 і 1660 гг.

Вялікім выпрабаваннем для горада стала Паўночная вайна 1700 – 1721 гг. Вясной 1702 г. у Гародню ўвайшлі войскі шведскага караля Карла XII. У 1702 – 1705 гг. Гарадзенскі павет стаўся арэнай манеўранай вайны паміж шведамі і ўзброенымі сіламі Сапегаў, з аднаго боку, і канфедэрацыяй на чале з Грыгорыем Агінскім, Міхалам Сэрвацыем Вішнявецкім і Людвікам Пацеем, з другога. У верасні 1705 г., калі расійскія войскі авалодалі вялікай часткай Прыбалтыкі, Пётр I распрацаваў план стварэння вайсковай базы на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Галоўная роля адводзілася Гародні. Карл XII пачаў сцягваць войскі ў накірунку горада. Аднак расійскія часткі, якія падтрымлівалі сілы Сандамерскай канфедэрацыі, адмовіліся ад барацьбы і ў сакавіку 1706 г. спешна пакінулі горад, спаліўшы мост праз Нёман.

[50] НГАБ. Ф. 1800, воп. 1, ад.з. 1, арк. 7.

У 1707 – 1708 гг. шведскія і расійскія войскі некалькі разоў спыняліся ў Гародні на пастой, а ў лютым 1708 г. вялі баі за горад. Апошні раз вайна закранула горад у 1711 – 1715 гг., калі тут спыняліся расійскія і саксонскія войскі.

Падзеі другой паловы XVII – пачатку XVIII ст. прычыніліся да заняпаду горада. У 1713 г. Аўгуст II вызваліў горад аб падатковага цяжару, а праз пяць гадоў Гародня атрымала чарговы каралеўскі прывілей.

Не абмінулі Гародню драматычныя падзеі паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Расійскі генерал Павел Цыцыянаў, які стацыянаваў у Гародні, атрымаў загад аб адступленні. Аднак перад вывадам вайсковых частак з горада 5 мая 1794 г. ён ва ўльтыматыўнай форме патрабаваў ад гарадзенцаў выплаціць вялізную кантрыбуцыю, пагражаючы знішчыць горад артылерыйскім агнём. Атрыманыя грошы не задаволілі генерала, які спустошыў скарб ВКЛ, касу Каралеўскай эканоміі ды мясцовай пошты. Нельга не нагадаць, што праз год Цыцыянаў атрымаў пасаду генерал-губернатара абрабаванага ім горада[51].

9 мая жыхары павета абвясцілі аб далучэнні да паўстання. Цывільна-вайсковая камісія – Гарадзенскага павета набрала 500 рэкрутаў і 1200 шляхецкіх валанцёраў. Гарадскія рамеснікі займаліся вырабам і рамонтам зброі. Паўстанцы выцягнулі са дна Нёмана затопленыя расійскія гарматы, а па загадзе Касцюшкі з касцёлаў былі знятыя званы. Людвісарскімі (ліцейнымі) работамі кіраваў капітан артылерыі Фрыдэрык Юсці. Для патрэбаў паўстанцаў сукно вырабляла гарадніцкая суконная мануфактура.

Пасля 12 жніўня 1794 г. у Гародню пераехала Цэнтральная Дэпутацыя ВКЛ. 29 верасня дзеля абмеркавання плана ваенных дзеянняў сюды прыбыў Тадэвуш Касцюшка. Кароткі гарадзенскі эпізод паўстання скончыўся 1 кастрычніка, калі Дэпутацыя пакінула горад.

Даволі часта ў тыя даўнія часы трагічнае жніво збіралі эпідэміі. Напрыклад, у 1559 г. *“у месте Городенском поветрее мо-*

[51] Urwanowicz J., Woltanowski A. Kontrybucja grodzieńska generała Pawła Cycjanowa a spis ludności miasta z 1794 roku // Grodno w XVIII w. Miasto i ludność (na tle trendów rozwojowych od średniowiecza do 1939 roku). Białystok, 1997. S. 45-48.

*ровое пановало и по всих сторонах небезпечно было*". У 1657 г., – падчас вайны з Масквой, у горадзе "*учинилось на люди моровое поветрие большое*". У 1708 г. горад закранула эпідэмія чумы, прынесеная, як можна меркаваць, шведскімі войскамі.

Трагедыяй тагачасных гарадоў таксама былі пажары, якія вынікалі са стану забудовы, г.зн. пераважна шчыльнага драўлянага будаўніцтва ды адсутнасці сістэмы супрацьпажарнай бяспекі. Гародня гарэла шмат разоў. У маі 1672 г. пажар знішчыў значную частку гарадской забудовы. У 1705 г. расійскія войскі спалілі прадмесці горада. Аднак найбольшае няшчасце напаткала горад у 1753 г., калі здарыліся два вялізарныя пажары, якія спустошылі шматлікія мяшчанскія і габрэйскія дамы, шляхецкія сядзібы і палацы магнатаў, будынкі кляштараў базыліянак, дамініканцаў, бернардзінцаў, брыгітак ды шпіталя Св. Духа.

## ГАРАДСКАЯ ПРАСТОРА Ў XVI – XVIII СТСТ.

Атрыбутам гарадской абшчыны з'яўлялася тэрыторыя, на якую распаўсюджвалася ўлада магістрата. Аднак прывілей 1496 г. дакладна не акрэсліў абшар горада, агаворваючы ўключэнне ў гарадскія межы Падола і занёманскага левабярэжжа, якое пачало засяляцца ў XV ст. Як жа выглядаў горадабудаўнічы ансамбль тагачаснай Гародні?

Найбольш старадаўняя частка горада сфармавалася ў сутоцы Нёмана і Гараднічанкі. Амаль да канца XVI ст. на замкавым узвышшы стаяў Стары гатычны замак, які ў 80-я гады XVI ст. быў перабудаваны ў рэнесансавы каралеўскі палац. Пашкоджаны падчас расійскай аблогі ў 1655 г., ён быў адноўлены ў 70-х гг. XVII ст. дзякуючы намаганням канцлера Кшыштафа Паца. Аднак у 1708 г. замак ізноў быў моцна знішчаны.

Нягледзячы на гэта, згодна са звычаем шляхта збіралася ў Старым замку, дзе адбываліся пасяджэнні соймікаў, а таксама працы земскага і гродскага судоў Гарадзенскага павета. Надзеі на адраджэнне Старога замка былі канчаткова пахаваныя ў 30-я гады XVIII ст. У 1729 г. абрынулася частка ягонага будынка, а ў 1735 г. пажар знішчыў рэшту замкавых забудаванняў.

На каралеўскім двары Аўгуста II выспеў і пачаў здзяйсняцца план пабудовы новага каралеўскага палаца ў Гародні, у якім меркавалася праводзіць соймы. Будоўля была ўзведзена на тэрыторыі старажытнага вакольнага горада і "*Domus regia*", вядомага па крыніцах XVI ст. У 1737 – 1742 гг. саксонскі архітэктар Карл Фрыдрых Пёпельман узвёў Новы каралеўскі палац. У 1744 г. у ім упершыню адбыўся сойм.

На тэрыторыі старажытнага вакольнага горада, верагодна, знаходзілася таксама Васкрасенская царква, узведзеная яшчэ ў XII ст. У 1613 г. яна згарэла.

У Сярэднявеччы ў выніку засялення тэрыторыі падзамча сфарміраваўся шэраг пасадаў, якія мясціліся на поўначы і паўночным усходзе замка. У XVII ст. насупраць замка (зараз у гэтым месцы пажарная частка), над ровам Гараднічанкі стаяў "*малы папоўскі манастырык пад замкам*". У XVIII ст. манастыр прыйшоў у заняпад, а на яго месцы ў канцы стагоддзя былі збудаваны каралеўская канцылярыя ды стайні.

На ўсход ад замка ляжала царква Прачыстай Багародзіцы, якая выконвала функцыі сабornай. У 1635 г. каля яе пасяліліся базыліянкі, накіраваныя сюды мітрапалітам Вельямінам Руцкім з Вільні. Праз сем гадоў кіеўскі мітрапаліт Антоні Сялява перадаў манашкам пляцы пад пабудову манастыра. Драўляныя збудаванні базыліянак у 1655 г. былі знішчаныя падчас ваенных дзеянняў. У 1720 – 1751 гг. на сродкі мітрапаліта Лявона Кішкі быў узведзены новы мураваны кляштар з царквой. Аўтарам праекта будоўлі быў італьянскі архітэктар Юзаф Фантана.

У значнай ступені планіровачнае сеціва горада было прывязана да рэльефу мясцовасці і гідраграфіі. На беразе Нёмана быў узведзены замак, да якога гарнуліся шматлікія пасады са сваімі цэрквамі. З цягам часу горад развіваўся ў паўднёва-ўсходнім напрамку. Уздоўж Нёмана сфарміраваўся Падол. Горад пашыраў свае межы таксама ў паўночным накірунку. Гараджане пачалі засвойваць землі над Гараднічанкай. Нагадаем, што гэты прыток Нёмана амаль да канца XVIII ст. выконваў ролю прыроднай мяжы горада.

У XV – XVIII стст. раён Гараднічанкі быў заселены габрэйскім насельніцтвам. Тут знаходзілася сінагога. Першыя ўпамінанні аб зборы, ці *"школе жыдоўскай"*, паходзяць з 1540 г. Вядома таксама, што рабін Мардухай бен Абрагам Яфе ў 1575 – 1578 гг. пабудаваў мураваны храм. У 1617 г. святыня згарэла, і кароль Жыгімонт Ваза дазволіў габрэям узвесці новую мураваную сінагогу *"абавязкова на тым самым месцы, дзе старая была"*.

У паўночным кірунку ад сінагогі на рачной тэрасе знаходзіліся старыя могілкі, ці *"копишча их где змарлых своих ховают"*, згаданыя ў першай палове XVI ст. Могілкі займалі вялізны фрагмент гарадской тэрыторыі, а на іх размяшчэнне паказвалі назвы вуліц, напрыклад: *"вуліцы Плябанскай з Рынку да жыдоўскіх могілак"*, *"вуліца з рынку Нямецкага каля могілак жыдоўскіх"* (Могілкавая). У канцы XVIII ст. магістрат Гародні і адміністрацыя Гарадзенскай эканоміі ўзнялі пытання аб пераносе могілак за горад, *"якія б жыды абмураваць, дрэвамі аздобіць і хаваць сваіх памерлых будуць маглі"*[52].

Дамінантай гэтага раёна з'яўляўся Нямецкі рынак. Да яго збягаліся вуліцы, якія ішлі дзвюма парамі па заходнім ускрайку плато, што цягнулася над тэрасай Гараднічанкі. Назва рынку дагэтуль застаецца не высветленай, хаця Алена Квітніцкая лічыла, што назву рынку далі крыжакі. Ёсць падставы меркаваць, што асваенне раёна пачалося яшчэ ў Сярэднявеччы.

У XV ст. Нямецкі рынак па-ранейшаму выконваў ролю аднаго з найбольш ажыўленых рынкаў горада. Менавіта на ім

[52] Vitoldiana. Codex privilegiorum Vitoldi magni ducis Lithuaniae 1386-1430, opr. J. Ochmański, Warszawa-Poznań, 1986. S. 180-181.




*Гародня ў 1560 г. План (паводле Квитницкая Е.Д. Планировка Гродно в XVI-XVIII вв. // Архитектурное наследие. №17. М, 1964. с.12)*

у канцы XV ст. быў пабудаваны кляштар аўгусцінцаў з касцёлам Св. Тройцы. У сярэдзіне XVII ст. кляштарныя збудаванні былі спалены, і неўзабаве кляштар спыніў сваё існаванне.

У XV ст. пасля паразы Тэўтонскага ордэна распачаўся хуткі рост гарадской тэрыторыі, фарміраванне новай планіровачнай сеткі, якую з замкам злучала вуліца Замкавая. Хаця гэтая вуліца ўпершыню згадваецца ў крыніцах 30-40-х гг. XVI ст., пачаткі яе фармавання сягаюць да XV ст. У сувязі з тым, што вулічныя сядзібы былі заселены габрэямі, яна мела другую назву "*вуліца Жыдоўская з Рынку да Замка*".

Калі ў сярэднявечнай Гародні ўсе вуліцы збягаліся да замка, ствараючы тым самым радыяльна-кальцавое павуцінне, то пасля зрыцця абарончых валоў горад пашырыў свае межы, займаючы вялізны абшар, размешчаны на ўсход і поўнач ад старога горада. Новае вулічнае сеціва характарызавалася пэўнай рэгулярнасцю. Цэнтральным акцэнтам гэтага горадабудаўнічага арганізма стаў Рынак.

На Рынку знаходзілася Ратуша, у якой адбываліся пасяджэнні магістрата, месцілася гарадская канцылярыя, дзе захоўваліся каралеўскія прывілеі і гарадскія кнігі. Можна меркаваць, што яе будынак быў пастаўлены неўзабаве пасля атрымання горадам права на самакіраванне. Згодна з медзярытам Матэвуса Цюндта і Ёгана Адэльгаўзера 1568 г., гэта быў двухпавярховы будынак з гадзіннікавай вежай ды назіральнай супрацьпажарнай пляцоўкай. Хутчэй за ўсё, на другім паверсе адбываліся пасяджэнні магістрата. На першым паверсе мясціліся "*крамы, медніца, ратушная бочка*" ды "*камора для пастрыгання сукна*". У сутарэннях ратушы была гарадская вязніца.

Паколькі будынак ратушы быў знішчаны ў сярэдзіне XVII ст., пасяджэнні магістрата працяглы час праходзілі ў камяніцах ураднікаў, якія акрэсліваліся *"domem sądowym"*. Гарадскія ўлады планавалі адбудаваць сваю сядзібу. Аднак гэтыя планы

перакрэслілі падзеі Паўночнай вайны. Ратуша была адноўлена толькі ў 80-я гг. XVIII ст.

На Рынку знаходзіліся таксама іншыя аб'екты грамадскага прызначэння, у тым ліку студня. Побач з будынкам ратушы размяшчаўся комплекс гандлёвых крам. Бліжэй да вуліцы Мастаавой мясціліся "*яткі мясныя хрысціянскія*", а каля іх – "*крамы шэўскія*" і "*мураваныя крамы купецкія*". Свае крамы ў Рынку мелі рыбакі.

Старэйшай каталіцкай святыняй Рынку быў каталіцкі касцёл Унебаўзяцця Маці Боскай, фундаваны каля 1392 г. вялікім князем Вітаўтам. У 1551 г. каралева Бона распарадзілася аб рамонце драўлянай Фары Вітаўта. У 1584-1587 гг. італьянскі архітэктар Санці Гучы, які працаваў пры двары караля Стэфана Баторыя, узвёў новы мураваны гатычна-маньерыстычны храм.

Будынак касцёла быў моцна пашкоджаны падчас акупацыі горада маскоўскімі войскамі (1655-1661). У XVIII ст. Фара знішчалася некалькі разоў - у час Паўночнай вайны, а потым пажарамі 1753, 1782 гг. Менавіта таму ў канцы XVIII ст. з моцна пашкоджанага касцёла парафія была перанесена ў паезуіцкі касцёл Св. Францішка Ксаверыя, які знаходзіўся на супрацьлеглым баку Рынка.

У 1622 г. у горадзе пасяліліся езуіты. Каля 1637 г. ва ўсходнім баку галоўнага Рынка манахі паставілі невялікі драўляны касцёл Св. Пятра і Паўла. У 1678-1700 гг. яны ўзвялі мураваны касцёл, а ў будынку старога касцёла размясцілі школу.

Галоўны фасад касцёла ўпрыгожвалі карынфскія пілястры ды каваныя дзверы, выкананыя ў 1744 г. кавалём Ежы Біршам, скульптуры Св. Ксаверыя і апосталаў Пятра і Паўла (праца Георга Гіса, 1768 г.), што знаходзяцца ў арачных нішах. На адну з барочных вежаў у 1725 г. быў перанесены гадзіннік. У 1750-1752 гг. муляр Хрысціян Бурман надбудаваў вежы.

Сваёй прыгажосцю вылучаўся інтэр'ер храма. Галоўны алтар касцёла пабудаваў у 1736-1737 гг. рэзчык Ян Хрысціян Шмідт з Рэшаля. Драўляны алтар вышынёй 21 метр складаўся з трох ярусаў. У ніжнім знаходзіліся скульптурныя выявы Св. Францішка Кса-

верыя, 10 апосталаў і фундатараў алтара Самуэля Лазовага і Канстанцыі з Юндзілаў Лазовай, у другім – Ісуса Хрыста, чатырох евангелістаў і чатырох айцоў касцёла. Алтар завяршала выява Глорыі.

На пачатку XVIII ст. у касцёле былі пабудаваныя 12 бакавых алтароў паводле праекта Хрысціяна Поўкера з Каралява́ца. Мастацкім элементам інтэр'ера касцёла з'яўляўся амбон, аздоблены скульптурнымі выявамі евангелістаў і анёлаў, пазалочаны разьбой у стылі ракако. У 1768 г. майстар Ёган Майльфельт паставіў новыя канфесіяналы (стыль ракако). У сярэдзіне XVIII ст. быў выкананы фрэскавы цыкл – 14 сюжэтных кампазіцый на тэму жыцця апекуна касцёла Св. Францішка Ксаверыя.

У 1709 г. побач з касцёлам быў узведзены асобны будынак аптэкі, да якога ў 1763 г. быў прыбудаваны другі паверх.

З Рынку выходзілі галоўныя вулічныя артэрыі горада. Напрыклад, у бок Гараднічанкі з галоўнага Рынку вяла ламаная Плябанская вуліца (цяпер Кастрычніцкая).

Галоўнай артэрыяй паўночнай часткі горада была вуліца Віленская, якая выходзіла з Рынка ў паўночным накірунку. У 30-я гады XVII ст. на вуліцы быў збудаваны драўляны кляштар дамініканцаў. Пасля пажару 1708 г. манахі ўзвялі мураваны касцёл Найсвяцейшай Маці Божай Ружанцовай, а ў 1737 г. пачалося ўзвядзенне двухпавярховага мураванага кляштара, якое расцягнулася на 30 гадоў. У XVI ст. блізу тагачаснай гарадской мяжы быў пастаўлены шпіталь Св. Духа, заснаваны ў 1550 г. каралевай Бонай Сфорцай.

Пры ўездзе ў горад знаходзілася Віленская брама, ад якой вуліца Віленская пераходзіла ў Віленскі гасцінец. Побач з гасцінцам узвышалася царква Св. Мікалая.

Паралельна з Віленскай цягнуліся: Калюцінская, Залатарская (цяпер Урыцкага) ды "*вуліца каля дом Яна Хайноўскага да вады*" (цяпер Гараднічанская).

Адной з усходніх восей горада, якая бегла з Рынку, з'яўлялася Азёрская вуліца (цяпер вул. Маркса). У першай палове XVII ст.

у горадзе заснавалі сваю сядзібу брыгіткі, якім давялося ставіць свой кляштар ужо па-за старадаўнімі межамі, за Азёрскай брамай. Драўляны касцёл брыгіткі ўзвялі ў 1642 г. У 1645-1651 гг. быў збудаваны мураваны храм Дабравешчання Найсвяцейшай Маці Божай. Барочны фасад касцёла ўпрыгожваў фрыз, аформлены ў тэхніцы сграфіта, а кляштарную агароджу – раннебарокавыя парталы з маньерыстычным арнаментам. У канцы XVIII ст. на тэрыторыі кляштара быў пастаўлены драўляны лямус, які захаваўся да нашага часу.

Паралельна з Азёрскай ішлі Мірсніцкая/Рэзніцкай вуліца (цяпер вул. Кірава). Сюды ў 1613 г. была перанесена Васкрасенская царква. У другой палове XVIII ст. храм ужо не дзейнічаў.

У XVIII ст. на вуліцы Дзям'янаўскай (цяпер вул. Свярдлова) быў збудаваны кляштар баніфратраў. Галоўнай задачай братоў міласэрнасці была апека над хворымі, таму на тэрыторыі сядзібы знаходзіўся шпіталь. У канцы XVIII ст. у гэтым раёне з'явіліся Бернардзінская гара (Курганская вуліца), а таксама Сянны рынак.

З галоўнага Рынку ў паўднёвым напрамку ішлі Маставая вуліца, якая яшчэ ў XVI ст. вяла да нёманскай пераправы, паралельна называючыся *"вуліцай Вялікай да мосціка на Падоле"*. У XVII ст. у выніку заняпаду старога моста на Нёмане кірунак вуліцы змяніўся. Яна ішла ўжо паміж кляштарнымі будынкамі бернардзінцаў ды бернардзінак, паварочваючы побач з касцёлам Кармеліцкага кляштара на паўднёвы ўсход, у бок новай пераправы.

У канцы XVI ст. выношваліся праекты заснавання кляштара бернардзінцаў. Яго ўзвядзенне распачалося ў 1596-1597 гг. У 1605-1617 гг. быў перабудаваны касцёл Адшукання Св. Крыжа. Сучасны фасад быў нададзены ў 1682-1686 гг. У 1788 г. свой сучасны выгляд атрымала касцёльная званіца, да якой дабудавалі два ярусы. Па прычыне таго, што будоўля касцёла расцягнулася на некалькі стагоддзяў, у яго архітэктуры назіраецца спалучэнне традыцый готыкі (кантрафорсы, спічастыя вокны апсіды) ма-

ньерызму і барока (галоўны фасад, дэкаратыўнае афармленне галоўнага алтара).

У 20-30-я гг. XVII ст. у Гародні былі заснаваны сядзібы іншых каталіцкіх ордэнаў. У 1621 г. на супрацьлеглым узвышшы, побач з вуліцай Маставой на сродкі манаскіх пасагаў і з фундацыі літоўскага падканцлера Казіміра Сапегі былі ўзведзены будынкі кляштара бернардзінак з барокавым касцёлам Нараджэння Найсвяцейшай Маці Божай. У другой палове XVII ст. у Гародні пасяліліся манахі ордэна кармелітаў босых. Новы барокавы касцёл кармелітаў босых быў пастаўлены ў сярэдзіне XVIII ст.

У XVI ст. пад заходнім адхонам Старога замка, над Гараднічанкай, раслі каралеўскія сады. Яшчэ ў XVIII ст. кароль валодаў пляцамі на *"Падгор'і над рэчкай Гараднічанкай"*, якая ішла ад Замкавага ўзвышша ў накірунку Віленскага гасцінца. Каралеўскія садоўнікі засялялі таксама абшар падэшвы былога вакольнага горада, дзе сфарміравалася вуліца Садоўніцкая (цяпер вул. Заводская).

Ад замкавых узгоркаў у паўднёва-ўсходнім напрамку цягнуўся адзін са старажытных гарадскіх раёнаў – Падол. На Падоле знаходзілася царква Св. Крыжа, якая ў даўнія часы называлася "Чэснахрэскай". Па сваёй архітэктуры царква ўяўляла тып рэнесанснай ратонды, якая была завершана не купалам, а шмат'яруснай канструкцыяй. Побач з царквой жылі гарбары, брацтва якіх апекавалася ёй і могілкамі. Пачынаючы з сярэдзіны XVII ст. царква пачала занепадаць, і доўгі час яна выкарыстоўвалася манахамі ордэна кармелітаў босых.

Па-за заходнімі ўскрайкамі горада знаходзіўся пасад з праваслаўным манастыром і Барысаглебскай царквой. Будынак царквы, які належаў базыліянам, быў двойчы пашкоджаны ў сярэдзіне XVII ст. і ў часы Паўночнай вайны. Манастырскім пабудовам пагражаў таксама Нёман. Аб тэмпах вымывання берагоў ракой сведчыць супастаўленне выявы царквы на плане 1706 г. са зместам інструкцыі сойміка шляхты Гарадзенскага

павета 1720 г. Калі на плане выразна відаць, што царква стаіць у пэўнай адлегласці ад берагавога схілу, то ў 1720 г. шляхта выказвала занепакоенасць апаўзаннем тэрасы, на якой стаяў храм.

Паводле дадзеных Валочнай памеры Гарадзенскай эканоміі, складзенай у 1560 – 1561 гг. "*спраўцам*" гарадзенскага староства Себасцянам Дыбоўскім ды гаспадарскім рэвізорам Лаўрынам Войнам, горад падзяляўся на старадаўнюю правабярэжную і левабярэжную занёманскую часткі (апошняя была заселена ў XV ст.). Рэльеф Занёманскага прадмесця нечым нагадваў абшар Падола, раскінутага на некалькі рачных тэрасах. Тут знаходзіўся Рынак, з якога выбягалі вуліцы Навадворская, Горніцкая, Лабенская і Рабяёўская.




***Гародня ў 1758 г. План (РДВГА. Ф. 846, воп. 16, ад.з. 21871)***

У 1635 г. упіцкім старастам Яўстафіем Курчам ды яго-най жонкай Зузанай з Тышкевічаў быў фундаваны кляштар францысканцаў. Манахі пачалі будавацца на старадаўнім занёманскім Рынку, ад якога вяла дарога да нёманскага перавозу. У крыніцах 1675 г. згадваецца драўляны касцёл Маці Божай Анёльскай, на месцы якога ў першай палове XVIII ст. быў узведзены мураваны храм у стылі барока.

У даўнія часы жылыя дамы ды іншыя пабудовы ў горадзе ўзводзіліся пераважна з дрэва. Акрамя таго, у Гародні ставіліся фахверкавыя будоўлі, г.зн. пабудовы з драўляным каркасам, якія запаўняўся бітай цэглай ці друзам. Іх уладальнікамі былі рамеснікі і паспольства. Пераважалі адна- і двухпавярховыя сядзібы з падстрэшнікамі, дах якіх быў крыты гонтам. Да таго ж будаваліся дамы, першы паверх якіх быў мураваны, а другі ўзводзіўся ў тэхніцы прускага муру[53].

Камяніцы ставіліся пераважна ў цэнтры горада заможнымі мяшчанамі, купцамі ды ўраднікамі магістрата. У канцы XVII ст. найбольшая колькасць камяніц знаходзілася на Замкавай вуліцы, што вынікала не толькі з яе ролі (вуліца злучала замак з Рынкам), але і з-за таго, што тут знаходзілася сядзіба гарадзенскага старасты. У 60-90-я гг. XVIII ст. новыя камяніцы пачалі будавацца на Віленскай ды Маставой вуліцах.

Да таго ж у горадзе ставіліся дворыкі і магнацкія палацы Радзівілаў і Сапегаў на Рынку, Масальскіх – на Замкавай вуліцы, Пшэздзецкіх – над Нёманам, Агінскіх – на Садоўніцкай, Сангушкаў – на Скаліманаўскай, Радзівілаў – на Занямонні.

У даўняй Гародні мяшчанскія сядзібы, вытворчыя аб'екты і нават магнацкія палацы ставіліся з даступнага драўлянага матэрыялу. Да таго ж незаможныя жыхары крылі дахі саломай, а мураваныя каміны наогул адсутнічалі.

[53] Якимович Ю. Зодчество Белоруссии XVI - середины XVII в. Мн., 1991. С. 101-102.

У XVI ст. планавалася ўвесці першыя меры супрацьпажарнай бяспекі. У 1541 г. магістрат быў абавязаны штогод складаць каралеве Боне рэвізію аб стане забудовы, а мяшчане – трымаць ваду

побач са сваімі сядзібамі. У 1744 г. кароль Аўгуст III выдаў распараджэнне аб неабходнасці кожнаму жыхару мець спецыяльны рыштунак на выпадак пажару. У другой палове XVIII ст. гарадскія ўлады праводзілі рэвізіі супрацьпажарнага і санітарнага стану горада, нагадвалі гараджанам аб неабходнасці выканання норм супрацьпажарнай аховы. У часы Чатырохгадовага сойму (1788-1792) комплексныя меры супрацьпажарнай бяспекі ў Гародні спрабавалі ўвесці мясцовыя павятовыя ўлады, г.зн. Цывільна-вайсковая парадкавая камісія Гарадзенскага павета.

Яшчэ адной важнай праблемай горада з'яўлялася адсутнасць вулічных брукаў і каналізацыі. Дрэнны стан вулічнага пакрыцця непакоіў каралеву Бону Сфорцу, якая загадала гарадзенскім мяшчанам замасціць камянямі вулічную прастору[54]. Аднак нягледзячы на шматлікія каралеўскія прывілеі, у якіх манарх настойліва патрабаваў давесці да ладу пакрыццё вуліц ды рынкаў і падтрымліваць іх у належным парадку, нават кляштары не заўсёды дбалі пра гэта.

Заходняя мяжа горада праходзіла ўздоўж рэчышча Гараднічанкі. Паўночную яго мяжу ў XVI ст. вызначала Віленская брама, што знаходзілася ў збегу Віленскай і Калюцінскай вуліц. Аднак ужо ў першай палове XVII ст. гарадская мяжа была перасунута за браму. Тое самае адбылося з усходняй мяжой горада, якая ў XVII ст. знаходзілася за комплексам кляштара брыгітак. Паўднёвую мяжу на Занёманскім прадмесці вызначалі роў за Горніцкай вуліцай ды гарадскі выган пры вуліцы Лабенскай.

Росту тэрыторыі горада спрыяла і тое, што Гародня не мела абарончых умацаванняў. Дакументы дазваляюць сцвярджаць, што фартыфікацыі вакол горада маглі быць пабудаваны гараджанамі напярэдадні наступу маскоўскіх войскаў на Гародню ў 1654 г. Не выключана, што ў 1656 г. маскоўскі акупацыйны гарнізон пад пагрозай вайны са Швецыяй мог пашырыць лінію гарадзенскіх валоў. У час Паўночнай вайны яшчэ адна лінія абарончых умацаванняў была ўзведзена на Занёманскім прадмесці горада.

[54] АВАК. Т. VII. С. 76.

Горад з Занёманскім прадмесцем злучаў драўляны мост, які ўпершыню згадваецца ў 1486 г.[55] Каб трапіць у горад, трэба было праехаць праз вежу-браму, у якой знаходзілася вартоўня і пункт мытнага кантролю. Ад моста ў горад і на замак узбягала вуліца, якая ішла ровам паміж двума ўзгоркамі. Не выключана, што ў часы Стэфана Баторыя мост быў перабудаваны.

У сувязі з разбурэннем драўлянага моста ў 1646 г. на сойміку было прынята рашэнне аб узвядзенні новага, мураванага. Аднак у XVII ст. гэты намер не дачакаўся ажыццяўлення. Аб гэтым можна меркаваць, аналізуючы планы горада 1758 ды 1780 гг.[56], на якіх мост адсутнічаў. Згадка пра новы мост датуецца 1795 г. Паколькі мост быў разбураны, у горадзе функцыянаваў паром на Падоле.

## ВЁСКІ ГАРАДЗЕНСКІХ МЕСЦІЧАЎ І ПАСЕЛІШЧЫ ЗАМКАВАЙ ЮРЫДЫКІ

У выніку гаспадарчай актыўнасці гарадзенскіх месцічаў (у тым ліку габрэяў) у XV і XVI ст. у гарадской ваколіцы яны сталі ўладальнікамі значнага абшару засвоеных земляў па абодвух берагах Нёмана, часам даволі далёка ад горада. Землі выкупляліся ў шляхты і гаспадарскіх падданых. З цягам часу тут узніклі паселішчы, якія належалі мяшчанам і найчасцей называліся вёскамі, фальваркамі або гарадскімі сёламі, часам прадмесцямі. Некаторыя з іх увайшлі ў гарадскую рысу ў XIX і XX ст., іншыя існуюць і сёння.

У выніку Валочнай памеры землі ў ваколіцах Гародні аказаліся перамераныя і падзеленыя на валокі. Тады ж у 1560 – 1561 г. былі ўпарадкаваныя і ўладанні мяшчанаў. З гарадскіх вёсак былі створаныя тыповыя г.зв. *аднавуліцоўкі*, а ўчасткі і іх жыхары падпарадкаваныя магістрату. Сем з тых вёсак размяшчаліся на пра-

[55] Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. М., 1892, С. 174.

[56] РДВГА. Ф. 846, воп. 16, ад.з. 21871, 21872.

вым, а дзевяць – на левым беразе Нёмана. Разам яны ахоплівалі каля 400 валок зямлі. Пазней горад стаў уласнікам дзевяці валок у Сухім Сяле, якое таксама называлася Гараднiца.

Паводле тагачаснага права, жыхары гарадскіх вёсак, нягледзячы на тое, што жылі з зямлі, былі мяшчанамі і карысталіся Магдэбургскім правам. Сярод самых багатых гарадзенцаў (патрыцыяту) было шмат такіх, хто меў дом у горадзе і ворную гаспадарку ў вёсцы. Часам яны пастаянна жылі ў вёсцы, у тым ліку нават дзеючыя бурмістры, хоць гэта забаранялася гарадскімі прывілеямі.

Самай вялікай гарадской вёскай былі Грандзічы, якія займалі два вялікія ўчасткі зямлі. Калі выязджаць з Гародні ў кірунку Гожы, то з левага боку знаходзіліся дамы і ўчасткі Грандзічаў, а з правага – Манчына (Mączyna) ці Менчына (Męczyna). З часам другая назва знікла, і ўсё паселішча пачало называцца Грандзічы. У 1775 г. тут жылі 77 гаспадароў і 4 шляхціцы. Напрыканцы XVIII ст. у Грандзічах было 89 дымоў. Паселішча стала такім вялікім, што ў пачатку наступнага стагоддзя яго часам называлі мястэчкам.

Назва вёскі выводзіцца ад роду гарадзенскіх мяшчанаў, прадстаўнікі якога ўжывалі прозвішча Гранда або Грандзіч. Яго прадстаўнікі мелі тут зямлю ўжо ў 80-я гг. XV ст. Потым Рыгор Гранда значна павялічыў сваю маёмасць, на што атрымаў ад гаспадара пацвярджэнне ў 1510 г.[57] У часы Валочнай памеры род Грандзічаў меў у тым сяле 18 валок. Грандзічы належалі да гарадзенскага патрыцыяту, мелі дамы каля Рынку, на вуліцах Віленскай і Дзям’янаўскай. Сымон Гранда ў XVI ст. быў гарадзенскім бурмістрам. У наступныя стагоддзі гэты род трохі збяднеў.

У вёсцы дзейнічала капліца кармелітаў босых, якая ў крыніцах упершыню згадваецца ў 1759 г., але, магчыма, з’явілася нашмат раней. Здаецца, яна называлася капліцай Св. Ісіадора, так як і брацтва пры ёй. На яе месцы ў 1818 г. за кошт жыхароў была пастаўленая новая драўляная капліца з трыма алтарамі. Чарговая, ужо мураваная капліца Св. Роха была асвечаная ў 1908 г. Сёння там дзейнічае парафія пад той жа назвай.

[57] Lietuvos Metrika. Knyga Nr 8 [8] (1499-1514). Užrašymų knyga 8. Vilnius, 1995. Nr 498. S. 360-361.

Таксама на правым беразе Нёмана знаходзіліся невялікія гарадскія вёскі Лапенкі (Алішковічы) і Капліца (Перахрыставічы), невялікі гарадскі надзел Дзегцяры, дзе паселішча не ўзнікла. На ўсход ад горада над самой ракой ляжала невялікая гарадская вёска Панямонне, больш вядомая як Панямунь, дворык караля Станіслава Аўгуста. У 1630 – 1772 гг. вёска належала гарадзенскім езуітам, якія мелі тут місійны пункт і двор. Манахі купілі яе ў Эйсмантаў. Пасля ліквідацыі ордэна паселішча стала ўласнасцю каралеўскай эканоміі. У 1873 г. было занатавана: "*W Poniemoniu pojezuickim pałac nowo zbudowany, piękny, drewniany, od JW Rzewuskiego marszałka nadwornego koronnego, oficyny i stajnie murowane, ale pusty i niedokończony jeszcze*". Падчас гэтай будовы жыхароў вёскі (некалькі дамоў) перавялі ў іншае месца "*przy mieście za cegielnią*", стварыўшы новае паселішча Засценак.

Таксама на правым баку Нёмана знаходзілася гарадское ўладанне Каханава (Ходарава, Каханаў). У часы Валочнай памеры ўсе ўчасткі тут належалі шляхце, хоць падлягалі юрысдыкцыі магістрата. На зямлі Андрэя Няпжэцкага (Nieprzecki) з малапольскай шляхты герба Кучаба ўзнікла вёска Прыходзічы, а на ўладанні гаспадарскага дваранія Беняша Млынскага вырасла вёска Жыдоўшчына. Крыштап і Аляксандра (у дзявоцтве Сабеская) Весялоўскія, два фундатары гарадзенскіх брыгітак, выкупілі тут зямлю на патрэбы фундацыі кляштара. Гэты закуп зацвердзіў кароль Уладзіслаў Ваза і сейм. У дваровай вёсцы Каханаў брыгіткі паставілі касцёл.

На левым беразе Нёмана, а на правым – Ласасянкі знаходзіліся гарадскія вёскі Калбасін, Малахавічы, Гнойніца, Гібулічы, Цвіклічы, Вялікая і Малая Альшанкі. У Калбасіне большасць зямлі належала гарадзенскім габрэям. Яны атрымалі яе падчас Валочнай памеры як замену за купленыя імі гарадскія пляцы. Аднак габрэі гэтую зямлю прадалі, яна стала ўласнасцю шляхты, а з 30-х гг. XVII ст. – гарадзенскіх дамініканцаў і езуітаў, якія арганізавалі тут свае фальваркі.

Езуіты ў 1709 г. збудавалі ў Калбасіне новы касцёл і двор. На гарадскім уладанні Альшанка сфармаваліся два паселішчы – Вялікая і Малая Альшанкі. Акрамя гарадскіх участкаў тут знаходзіліся 10 валок, якія ў час Валочнай памеры былі перададзеныя гарадзенскім цэрквам. Па 2 валокі атрымалі цэрквы Васкрасенская, Св. Сімяона, Прачысценская, Св. Крыжа і Св. Мікалая. Пазней усе ўчасткі апынуліся ў валоданні Прачысценскай царквы, бо астатнія перасталі дзейнічаць, галоўным чынам, з-за знішчэння у часы маскоўскай акупацыі сярэдзіны XVII ст. Вялікай гарадской вёскай былі Малахавічы, якія займалі два надзелы зямлі – Малахавічы і Гнойніца. Апошняя назва, напэўна, паходзіла ад рэчкі, якая цякла праз вёску.

Назвы недалёкіх Гібулічаў і вялікай гарадской вёскі Цвіклічы паходзяць ад гарадзенскіх мяшчанскіх родаў. Цвіклічы, прадстаўнікі якіх ужывалі таксама прозвішча Цвікло і Цвікла, найбольшага ўплыву дасягнулі ў XVII ст. Тады яны шмат разоў займалі пасады бурмістраў, абраных на год (Станіслаў у 1641 і 1642 гг., Казімір у 1665 г., Адам у 1662, 1664, 1670, 1672 гг., а таксама пасаду лентвойта (Станіслаў у 1633, 1638, 1645 гг. і Казімір у 1662 – 1664, 1666 – 1671 гг.).

Казімір Цвікліч (? – 1671 г.) быў злотнікам, сынам Станіслава Цвікліча, райцы, шматразовага гарадзенскага бурмістра і лентвойта. Ягонай маці была, магчыма, Ганна Рэкіцкая (Рэкуцкая) або нехта Дзем'янаўна (імя невядомае). Падчас маскоўскай акупацыі ён уцёк з Гародні і схаваўся ў Красным Бары, які належаў Храптовічам. 4 лютага 1662 г. быў выбраны гарадзенскім лаўнікам. Стаў райцам у пачатку 1664 г. Пасаду бурмістра Гародні займаў ад 21 лютага 1665 г. да 20 лютага 1666 г. Лентвойтам быў ад 4 лютага 1662 г. да канца 1664 г. і паўторна ад 29 траўня 1666 г. да смерці.

Ажаніўся з Марыянай Паульсен, дачкой гарадзенскага райцы, бурмістра і лентвойта Гануса Паульсена. Перадаў ёй у пажыццёвае валоданне г.зв. Цвіклікаўскую камяніцу на Рынку. По-

тым камяніца павінна была перайсці да іх адзінай дачкі Ганны. Казімір Цвікліч быў адным з найбагацейшых гарадзенскіх мяшчанаў. Яго маёмасць ацэньвалася ў некалькі дзясяткаў тысяч злотых. Тастаментам ад 15 студзеня 1671 г. ён фундаваў алтар у бернардзінскім касцёле. Быў пахаваны ў сямейнай крыпце ў гэтым жа касцёле.

З роду Гібулічаў паходзіў Стэфан Гібула, бурмістр у 1639 і 1640 гг.

На левым беразе Ласасянкі знаходзіліся вялікія гарадскія вёскі Баранавічы, Міцкевічы і Адамовічы. На землях апошняй над самым Нёманам насупраць замкавых Пышак узнікла невялікае паселішча Пышкі (мейскія). У той частцы Адамовічаў, якая належала бернардзінкам, у XVII ст. была збудаваная капліца, назву якой мы не ведаем. У 1667 г. у ёй узгадваецца цудоўны абраз Маці Божай Адамовіцкай. Назва гэтай вёскі звязаная з сям'ёй Адамовічаў. Пасаду бургамістра займалі Ян (1644, 1653, 1657-1660 гг.) і Стэфан (1690, 1692 гг.) Адамовічы. Назва вёскі Міцкевічы (Міткевічы) паходзіць, верагодна, ад Багдана Сцяпанавіча Міткевіча, служэбніка Астафія Валовіча або яго бацькі Сцяпана Міткевіча. Больш даўняя назва Карлава ўзнікла ў сувязі з гарадзенскімі родамі Карлоўскіх і Квач-Карлоўскіх. Назва вёскі Баранавічы, магчыма, паходзіць ад блізкай рэчкі Баранава.

Пасля III падзелу Рэчы Паспалітай гарадскія вёскі на левым беразе Нёмана апынуліся ў Прусіі, а рэшта горада – у Расіі. Аднак пасля прынясення прысягі прадстаўніка горада прускаму каралю было дазволена збіраць з тых вёсак гарадскія падаткі. Для каталікоў, адрэзаных ад парафіяльнага францысканскага касцёла, была арганізаваная новая парафія ў Адамовічах.

Частка земляў у гарадскіх вёсках ужо ў часы Валочнай памеры належала шляхце і духавенству. З часам менавіта гэтыя сацыяльныя групы авалодалі большасцю гарадскіх земляў. Пад уладай магістрата ў 1770 г. засталіся толькі няпоўныя 133 валокі. Да гарадзенскіх манаскіх ордэнаў перайшлі гарадскія ўладанні

Каханаў (брыгіткі), Калбасін (езуіты і дамініканцы), Панямунь (езуіты), Лапенкі (кармеліты), а таксама ўсе гарадскія землі ў прыналежным да Гарадзенскай эканоміі ўладанні Тарусічы (францысканцы). Значныя ўладанні мелі ордэны ў Грандзічах-Мончыне (кармеліты), Адамовічах (бернардзінцы). У гарадскіх вёсках мелі землі таксама францысканцы (Баранавічы, Адамовічы, Альшанка, Манчын), базыліяне (Грандзічы) і гарадзенскія парафіі, менавіта рымска-каталіцкая (Баранавічы, Грандзічы) і грэка-каталіцкая (Грандзічы). Ад горада да шляхты перайшло ўладанне Дзегцяры. Ордэны арганізавалі на здабытых гарадскіх землях фальваркі, пасялілі там прыгонных сялянаў, якія адраблялі прыгон.

Працэс выхаду гарадскіх земляў з-пад улады магістрата быў затрыманы ў 1775 г., калі горад вярнуў даволі шмат гарадскіх валокаў. У 1781 г. пад уладай магістрата зарэгістравана 151 валока. Паколькі працэс пераходу нерухомасці ад мяшчанаў да шляхты і духавенства праходзіў больш інтэнсіўна ў горадзе, чым у гарадскіх вёсках, у XVIII ст. мяшчанаў падлеглых магістрату было больш у вёсках, чым у самым горадзе. Паказваюць на гэта даныя з 1789 г., калі ў гарадскіх вёсках зафіксавана 347 дымоў пад юрысдыкцыяй магістрата, а ў самым горадзе толькі 199 дымоў з 1052 апісаных у люстрацыі.

У выніку разрастання горада ў XIX – XXI стст. і глыбокіх дэмаграфічных пераменаў найбольш нашчадкаў тагачасных гарадзенскіх месцічаў сёння можна сустрэць не ў горадзе, але ў тых даўніх гарадскіх вёсках, якіх яшчэ горад не паглынуў.

У 1496 г. Магдэбургскае права для Гародні не ахапіла некаторыя часткі горада, якія сталі пачаткам замкавай юрыдыкі. Рамеснікі і іншыя катэгорыі яе насельнікаў былі патрэбныя для абслугоўвання гаспадарскага замка. У склад замкавай юрыдыкі ўвайшлі ўчасткі як у самім горадзе, так і некаторыя паселішчы паблізу ад яго.

У 1560 г. падчас перамервання (Валочная памера) левабярэжнай часткі горада, Занёманскага прадмесця адно з такіх паселішчаў было залічанае да горада. Яно знаходзілася

ў ваколіцы вуліцы Лабенскай і заходняй часткі занёманскага рынку. Падчас памеры была ўпарадкаваная зямельная маёмасць і ў іншых паселішчах, заселеных замкавымі рамеснікамі: Пышках, Мёлах і Рылёўцах (Рылоўцах).

Над Нёманам паміж землямі вёскі Грандзічы, Гарадніцай і ракой знаходзілася паселішча Пышкі, заселенае замкавымі рыбакамі. У 1680 г. тут жылі тры рыбакі. У час Паўночнай вайны паселішча апусцела, што было занатавана ў 1708 і 1712 г., аднак потым яго засялілі зноў. Побач знаходзіўся г.зв. засценак Мелоўнікі ці Мёлы. У XVI ст. у ім жылі замкавыя вапняры, якія выпальвалі вапну, пазней тут пасяліліся рыбакі. У 1680 г. у Мёлах было зарэгістравана 12 гаспадарак рыбакоў, а ў 1705 г. паселішча налічвала 13 – 14 дамоў. Мёлы і Пышкі належалі да замкавай юрыдыкі яшчэ ў 1775 г. Потым яны былі далучаныя да Станіславаўскага ключа Гарадзенскай эканоміі.

Рылоўцы, якія таксама называліся Занямоннем, знаходзіліся на левым беразе Нёмана на поўдні ад Занёманскага прадмесця. Там ляжалі землі, прызначаныя выключна для замкавых рамеснікаў, муляраў, гонтаўнікаў, бондараў, рыбакоў, вапняроў цагельнікаў і цесляроў. З цягам часу, калі вялікія князі ўсё радзей наведвалі Гародню, змяншалася значэнне адпрацоўкі на замку і раслі даходы з чыншу. Ужо ў сярэдзіне XVII ст. рамеснымі павіннасцямі на замак былі абкладзеныя толькі 35% земляў вёскі, а з астатніх збіралі чынш. У 1680 г. у вёсцы засталіся выключна чыншавыя землі. У 1650 г. яе жыхары былі пераведзеныя ў Занёманскае прадмесце. Тады паўторна была перамераная левая частка горада. Жыхары Рылоўцаў атрымалі ўчасткі пры вуліцы Горніцкай, якую з таго часу яшчэ называлі Рылоўскай. Гэтыя ўчасткі былі часткай замкавай юрыдыкі, але яе жыхары надалей апрацоўвалі зямлю ў Рылоўцах. У часы Тызенгаўза тут быў збудаваны двор, названы ў гонар апошняга караля – Аўгустова.

У часы маскоўскай акупацыі ў 1655 – 1661 г. былі знішчаныя фальваркавыя пабудовы двара Гарадніца, але яшчэ раней тэ-

[58] AGAD. Zbiór kartograficzny. Nr 67-1.

рыторыя Гараднiцкага фальварка была зменшаная па прычыне адсутнасцi рабочых рук.

У 1679 – 1680 гг. былi злiквiдаваныя фальваркi амаль ва ўсёй Гарадзенскай эканомii. Тады да замкавай юрыдыкi была далучаная вёска Зарыца, значная частка вёскi Сухое Сяло (Гараднiца) i землi былога фальварка ў Гараднiцы. Тэрыторыя апрацаваных земляў у замкавай юрыдыцы павялiчылася i налiчвала болей за 100 валок. Для жыхароў вёскi гэта азначала пераход з прыгону на чынш. Зарыца, размешчаная на поўнач ад горада, заставалася ў складзе замкавай юрыдыкi да часоў Тызенгаўза. У 1783 г. Зарыца была ў пажыццёвым уладаннi iнстыгатара Гарадзенскай эканомii. Потым вёска была далучаная да Станiславаўскага ключа. У 1794 г. у ёй налiчвалася 12 дымоў.

Землi Гарадзенскай эканомii, да якой належала замкавая юрыдыка, шчыльна атачалi горад, не даючы яму ў сярэдзiне XVIII ст. магчымасцi расцi тэрытарыяльна[58]. Затое Гарадзенская эканомiя заклала ў апошнiя дзесяцiгоддзi незалежнасцi некалькi юрыдыкаў, забудавала прадмесце Гараднiцу i спрабавала арганiзаваць каля вусця Ласасянкi фабрычнае мястэчка Кунштаў.

## ГАСПАДАРЧАЕ ЖЫЦЦЁ І КАМУНАЛЬНАЯ ГАСПАДАРКА

Гародня выконвала функцыi вытворчага i гандлёвага цэнтра мясцовага рынку. Асноўную масу насельнiцтва горада складалi рамеснiкi ды прадстаўнiкi вытворча-абслуговых прафесiй, якiх у горадзе налiвалася каля 100.

Формай арганiзацыi рамяства былi цэхi. Першыя рамесныя аб'яднаннi заснаваны ў часы Стэфана Баторыя. Як ужо адзначалася,

у 1570 г. кароль надаў прывілей зборнаму цэху металаапрацоўчых спецыяльнасцей, у склад якога ўваходзілі кавалі, кацельшчыкі і мечнікі. Шматпрофільны цэх існаваў яшчэ ў XVIII ст., яднаючы кавалёў, слесараў, мечнікаў, сёдзельнікаў ды шліфавальшчыкаў.

У 1579 г. з'явіўся зборны цэх муляраў, цесляроў, бондараў і ганчароў. Свае цэхі заснавалі таксама шаўцы і краўцы. У XVII ст. існавалі гарбарскі і цырульніцкі цэхі. Паводле прывілея караля Жыгімонта Вазы, у 1630 г. быў арганізаваны цэх злотнікаў. У 1698 г. было створана аб'яднанне рыбакоў.

Структура цэхавага рамяства не была стабільнай. У XVIII ст. сваё існаванне спыніў цэх злотнікаў, што можна патлумачыць зніжэннем попыту на іх паслугі ў выніку ваенных падзей сярэдзіны XVII – пачатку XVIII ст. У XVIII ст. са старонак актавых матэрыялаў зніклі цэхі стэльмахаў, рымараў, сёдзельнікаў і шапачнікаў. Таксама здаралася, што прадстаўнікі некаторых прафесій выходзілі са зборнага цэха, адасабляючыся ў асобную арганізацыю. Напрыклад, у другой палове XVIII ст. з цэха будаўнічых прафесій выйшлі ганчары і стрыхары.

Паводле дадзеных 1775 г., у горадзе працавалі 9 рамесных аб'яднанняў, а ў канцы XVIII ст. налічвалася ўжо 14 цэхаў: гарбарскі, шавецкі, кравецкі з кушнерамі, зборны кавальскі са слесарамі і мечнікамі, сёдзельнікаўскі, мулярскі, ганчарскі, цяслярскі з пілоўшчыкамі і бондарамі, сталярскі, цагельная кампанія, трацкі (пільшчыкаў), рыбацкі, рэзніцкі і фурманскі.

Кожны цэх меў свае атрыбуты. У будынку ратушы ці ў парафіяльным касцёле захоўваліся цэхавыя харугвы, а ў цэхавых скрынях складваліся прывілеі, статуты, кнігі, пячаткі і фінансавыя сродкі. Спрэчныя пытанні вырашаліся на пасяджэннях унутранага суда – капы. Карпаратыўнасць прафесійнага жыцця ўвасаблялася ў рэлігійных брацтвах. Цэхі апекаваліся алтарамі ў парафіяльным касцёле. У XVII ст. свае алтары ў Фары мелі злотнікі, цырульнікі, рэзнікі і рыбакі, прадстаўнікі зборнага цэха будаўнічых спецыяльнасцяў. Пра царкву Св. Крыжа на Па-

доле і старажытныя могілкі дбала уніяцкае брацтва гарадзенскіх гарбароў. Акрамя таго паасобныя рамесныя аб'яднанні муляраў, стрыхароў ды вапнікаў валодалі корчмамі.

Нягледзячы на тое, што цэхі імкнуліся манапалізаваць рынак вытворчасці і вырабаў, у горадзе існавала значная колькасць рамеснікаў, якія не былі аб'яднаны ў карпарацыі. Шмат рамеснікаў ("партачоў)" жыло ў юрыдыках.

Вышэйшыя прыступкі ў галіновай іерархіі гарадзенскага рамяства займалі будаўнічыя і адзежна-скураныя рамёствы. Попыт на іх паслугі вызначаўся гарадзенскімі соймамі, а таксама находжаннем у горадзе розных дзяржаўных устаноў.

Сацыяльна-прафесійнай тапаграфіі Гародні не было ўласціва засяленне адной вуліцы прадстаўнікамі адной рамеснай прафесіі ці цэха. Аднак нельга не заўважыць таго, што рамеснікі пэўных прафесійных груп пасяляліся ў непасрэднай блізкасці да крыніц ці сыравіны, патрэбных для вытворчасці. Напрыклад, гарбары, стрыхары і млынары будавалі свае сядзібы на беразе ракі.

На гарадзенскім рынку функцыянавала каля 15 будаўнічых і сумежных з імі дрэваапрацоўчых прафесій. Адной з галоўных з'яўлялася мулярства. Найбольш славутым гарадзенскім мулярам канца XVI – першай паловы XVII ст. быў "волох" Антоні дэ Кгрып, будаўнічы рэнесанснага Старога замка і новага Фарнага касцёла. Заказчыкамі мясцовых муляраў былі магнаты ды кляштары. Напрыклад, на пачатку XVIII ст. мулярскі цэхмістр Тамаш Пярсіцкі ўдзельнічаў у пабудове езуіцкага касцёла.

Да ліку старажытных рамёстваў адносілася стрыхарства. Першае ўпамінанне аб стрыхарах, якія займаліся вырабам цэглы, датуецца 1505 г. У XV – XVII стст. вялікая група прадстаўнікоў гэтай прафесіі пражывала на Занёманскім прадмесці. На плячах вялікакняскай юрыдыкі, побач з мостам, стаялі цагельні, ці "*плитницы господарские*". Выраб цэглы быў прыбытковай справай. У XVII ст. цагельнямі на Падоле валодалі таксама езуіты і бернардзінцы.

Гарадзенскія ганчары выраблялі дахоўку, посуд ці прадметы хатняга ўжытку, а каменячосы – жорны ці тачыльныя камяні, надмагільныя пліты ды помнікі. Не шмат інфармацыі захавалася аб мясцовых брукарах, што хутчэй за ўсё вынікала з невялікага попыту ў горадзе на іх паслугі. Зрэшты, брук на вуліцах быў хутчэй выключэннем, чым правілам.

Цесляры ў крыніцах XVI ст. называліся “дойлідамі”. Вядомым “*гарадзенскім баўмайстрам*” XVIII ст. быў швейцарац Ёган Якуб Прайсіг. Ён працаваў на замову магістрата ды адміністрацыі Гарадзенскай эканоміі, будуючы тартакі і млыны. Вырабам рэчаў хатняга ўжытку займаліся бондары, скрыннікі і саннікі. У 1674 г. згадваецца цэх гарадзенскіх сталяроў.

Вядомай асобай быў архітэктар Юзаф Сака, паводле праектаў якога ўзводзіліся розныя будоўлі, у тым ліку прыгарадныя каралеўскія палацы. Славуты італьянец узначальваў школу будаўнічых на Гарадніцы.

Істотнае месца ў структуры гарадскога рамяства займалі металаапрацоўчыя прафесіі, звязаныя з вырабам і рамонтам металічных гаспадарча-побытавых рэчаў, упрыгожанняў ці зброі.

У гэтай групе рамёстваў колькасна вылучаліся кавалі, замочнікі, шліфавальшчыкі, кацельшчыкі, бляхары і цвікары. Попытам карысталіся канвісары, якія выраблялі алавяны і бронзавы посуд, а таксама званы. Да гэтай групы належалі таксама мечнікі, шабельнікі. У другой палове XVIII ст. у горадзе з’явіліся біксмахеры, якія рамантавалі зброю. Яшчэ адной спецыяльнасцю гэтай групы былі платнеры, якія займаліся аздобай халоднай зброі. У першай палове XVI ст. у горадзе жыў каралеўскі платнер *немец Марцін*.

У першай палове XV ст. гарадзенскімі злотнікамі былі Даменік і Павел. Яны выраблялі залатыя ды срэбраныя ланцужкі, сігнеты, пярсцёнкі і іншыя ўпрыгожанні. У 1789 г. у спісе гарадзенскіх рамеснікаў фігуравалі 12 хрысціянскіх майстроў (6 злотнікаў і 6 ювеліраў), а таксама 7 злотнікаў габрэйскага паходжання.

Варта адзначыць, што злотнікі займаліся вырабамі з каштоўных металаў, а ювеліры да таго ж і апрацоўкай каштоўных камянёў.

Адзежна-скураныя рамёствы прадстаўлялі шаўцы, якіх у XVI ст. называліся “чабатарамі”. Гарадзенскі шавецкі цэх быў самым шматлікім рамесным аб’яднаннем. Вялікую групу складалі краўцы, першая згадка аб якіх паходзіць з каралеўскага прывілея Гародні 1526 г. Мясцовыя кушняры, якія займаліся вырабам футраў, у XVII ст. заснавалі цэх. У XVIII ст. кравецтва і кушнерства перайшло ў рукі габрэйскіх рамеснікаў. У канцы стагоддзя ў раёне над Гараднічанкай пражывала каля 50 габрэйскіх краўцоў і каля 30 кушняроў. У гэты час у Гародні налічвалася таксама каля двух дзясяткаў пасамоннікаў ці пазументнікаў, якія ўпрыгожвалі адзенне гузікамі, шыкоўнымі тасёмкамі, стужкамі ды аблямоўкамі.

Адной з найбольш старажытных рамесных прафесій горада з’яўлялася гарбарства. У валочнай памеры Гародні 1560-1561 гг. гарбароў называлі “дубатолкамі”. У XVII ст. у горадзе існаваў гарбарскі цэх. Групу рамёстваў па вырабе скураных рэчаў пашыралі рымары, якія выраблялі конскую вупраж, і сёдзельнікі. Да групы прадстаўнікоў футрана-скураных рамёстваў належалі шапачнікі, вышывальшчыкі, замшнікі.

Да ліку рамеснікаў, звязаных з перапрацоўкай сыравіны, адносіліся рагожнікі ці вяровачнікі. У даўнія часы шырока ўжываліся вырабы з воску (свечкі, канцылярскія пячаткі, матрыцы для рамесных адліваў). Паводле прывілею на Магдэбургскае права 1496 г., мяшчане атрымалі права будовы “*каморы воску*”. Трэба адзначыць, што воск быў адным з асноўных прадуктаў, які вывозіўся ў Прусію ды Польшчу. Вырабам расліннага масла займаліся алейнікі. Захавалася імя аднаго з іх. У другой палове XVIII ст. Станіслаў Каваліцкі валодаў алейнай майстэрняй на Ерусалімскай вуліцы.

Сярод харчовых рамёстваў трэба ўзгадаць пекараў, якія пяклі жытні і пшанічны хлеб. Паводле дадзеных 1789 г., у Гародні

налічвалася 20 пекараў. Харчовы рынак горада абслугоўвалі таксама рэзнікі, паштэтнікі і рыбакі.

У горадзе не бракавала бровараў, якія ўзводзілі не толькі заможныя мяшчане ці каралеўскі скарб, але таксама магнаты і кляштары. Гарадскія млыны знаходзіліся не толькі ў самім горадзе, напрыклад, на Занёманскім прадмесці, але і па-за ягонымі межамі на Ласасянцы. Імі валодалі як заможныя мяшчане, так і кляштары езуітаў і кармелітаў босых. Гарадзенскі войт Грышка Пуцяціч на пачатку XVI ст. пабудаваў на Нёмане конны млын. У фальварку Гнойніца ў XVIII ст., які належаў Радзівілам, працавалі два млыны – плавок і вятрак. Брыгіткі на Падольнай вуліцы валодалі ветраным млынам.

Звесткі пра півавараў і саладоўнікаў з’яўляюцца на старонках дакументаў у XVI ст. Прычым гарадзенскія піваварьі выкарыстоўвалі мясцовую сыравіну, аб чым, напрыклад, сведчаць згадкі пра лугі хмелю. Бровары функцыянавалі ў юрыдыках шляхты і кляштараў. Як правіла, яны ставіліся побач з корчмамі ці мядовымі і піўнымі шынкамі.

Гарадскія корчмы былі не толькі пунктамі харчавання яны забяспечвалі начлег і прытулак падарожным, а таксама давалі магчымасць баўлення вольнага часу. Адна з найстарэйшых у горадзе знаходзілася на рагу Рынку і вуліцы Віленскай. У XVIII ст. у Гародні функцыянавала каля 50 заезных дамоў, уладальнікамі якіх з’яўляўся магістрат, Гарадзенская каралеўская эканомія, кагал ды шляхта. Корчмы будаваліся ў найбольш “неўралгічных” пунктах горада на вуліцах Віленскай, Азёрскай, Маставой, Рэзніцкай, Дзям’янаўскай, а таксама на Занёманскім прадмесці побач з перавозам.

У даўнія часы жыхары горада актыўна ўжывалі мёд. Зрэшты, у ваколіцах горада было шмат пасек ды бортных дубоў. У XVIII ст. існаваў мядовы склад на Лабенскай вуліцы ў Занёманскім прадмесці. У Гародні былі таксама кандытары ці “*цукернікі*”.

З абслугай гараджан былі звязаны розныя групы прафесій. Лекарскай практыкай у старадаўняй Гародні займаліся цырульнікі. У 1650 г. у горадзе быў заснаваны цырульніцкі цэх. З другой паловы XVIII ст. у горадзе практыкавалі выкладчык гарадніцкай школы Кароль Юзаф Вірыён Ян Утрыц, Аўгуст Людвік Бэкю і Бернард Міхельсон. На пляцах баніфратарскага кляштара пражываў хірург Кароль Рэйнхардт.

Гарадзенскія аптэкары адносіліся да ліку заможных жыхароў горада. Яны былі членамі магістрата ды набывалі сядзібы ў прэстыжнай цэнтральнай частцы Гародні. У 1687 г. аптэку на Рынку заснавалі езуіты. У другой паловы XVIII ст. найбольш вядомымі аптэкарамі былі Юзаф Прайз и Зыгфрыд Шмідт. Да гэтай прафесійнай групы належалі таксама лазебнікі.

Са штодзённай працай шляхецкіх павятовых судоў ды магістрацкіх канцылярый былі звязаныя пераплётчыкі, ці інтралігатары. Яны займаліся аправай кніг ды пераплётам актавых дакументаў. Адным з найбольш вядомых пераплётчыкаў другой паловы XVIII ст. быў Борух Есялёвіч, які, акрамя таго, займаўся гандлем кніг. Паводле дадзеных 1789 г., у горадзе было 11 прадстаўнікоў гэтай прафесіі.

Аб гарадзенскіх кнігарах захавалася не шмат звестак. У візітацыі гарадзенскай Фары 1783 г. згадваецца, што на касцельных пляцах стаяў дом кнігара. Ім маглі быць, згаданыя ў крыніцах Андрэй Бельскі ці Мікалай Юхновіч. Гандлем кнігамі ў той час займаліся таксама Борух Есялёвіч (Замкавая вуліца), Дамінік, Юзаф Кужалеўскі, Лейба Беркавіч, Давід Іцкавіч, Берка Арановіч, якія на пачатку 1792 г. атрымалі пашпарты гарадзенскай Цывільна-вайсковай камісіі з дазволам на гандаль *“друкаваным словам”*. Вядома таксама, што адным з месцаў, куды яны вывозілі на продаж *“кніжкі жыдоўскія”*, была Вільня.

Аб гарадзенскіх друкарах можна казаць пачынаючы з другой паловы XVIII ст. У 1775 – 1796 гг. у Гародні існавала каралеўская друкарня, неабходнае абсталяванне для якой з Вільні прывёз падскарбі

надворны літоўскі Антоні Тызенгаўз. Яе першым кіраўніком быў ксёндз Кароль Маліноўскі, а з 1780 г. друкарню ўзначальваў Ян Ясінскі. У 1788-1792 гг. прадпрыемства арандаваў Борух Ром. У друкарні публікаваліся соймавыя матэрыялы, календары, белетрыстыка, тэалагічная, гістарычная, філасофская літаратура, а таксама “Gazeta Grodzieńska”. У 1794 г. друкарню заснаваў Ян Ясінскі, а ў 1792 – 1802 гг. у горадзе працавала друкарня Боруха Рома.

Звесткі аб гарадзенскім гадзіннікавым майстры фіксуюцца ў XVI ст., калі каралева Бона абавязала гарод утрымліваць яго. У XVIII ст. у горадзе пасялілася невялікая група еўрапейскіх рамеснікаў гэтай спецыяльнасці – Франсуа (Fransois), Самуэль Крыгер (Krigier), Андрэй Дыфінглер і Антоні Гульёнеці.

Транспартны рынак горада абслугоўваў фурманскі цэх. Шмат фурманаў служыла ў заможных жыхароў горада. Іх паслугі не былі таннымі. Так, Георг Форстэр успамінаў, што ў 1784 г. за падарожжа ў карэце з Гародні ў Вільню ён заплаціў аж 200 злотых.

Значнымі грашовымі сродкамі валодалі купцы. Ужо ў XVI ст. гарадзенскія купцы падтрымлівалі актыўныя кантакты са шматлікімі еўрапейскімі гарадамі. Аднак вайна з Масковіяй у сярэдзіне XVII ст. і ваенныя падзеі пачатку XVIII ст. адмоўна паўплывалі на развіццё гандлю.

У XVIII ст. вялізныя фінансавыя сродкі ў горадзе былі назапашаны купцамі, якія гандлявалі алкагольнымі напоямі ды каланіяльнымі таварамі (цукрам і кавай). У групу найбольш заможных купцоў уваходзілі Ян Далькоўскі, які прыбыў з Прусіі, швейцарскі карчмар ды купец Якуб Гаўсман, Якуб Рафановіч і чэх Францішак Крэйбіх. Купцы даволі часта засядалі ў органах гарадскога самакіравання. Напрыканцы XVIII ст. да катэгорыі заможных купцоў належалі Шрайбер і Шмуйла Баярскі, Лейба Абрамовіч, Шлёма Юдэлёвіч, Тэадор Давід Шэрэс. Акрамя мяшчан і габрэяў гандлем у горадзе займаліся паплечнікі надворнага падскарбія Антонія Тызенгаўза, напрыклад, кантралёр мануфактур і дырэктар мытнай каморы Ян Людвік Бэкю.

Да абавязковых элементаў паўсядзённага жыцця кожнага горада адносіліся аб'екты грамадскага прызначэння. У даўнія часы жыхары горада забяспечваліся вадой з Нёмана ці Гараднічанкі. Гараджане будавалі калодзежы таксама на сваіх падворках. На гарадскім Рынку паміж Фарным касцёлам і будынкам Ратушы знаходзілася гарадская студня, перабудаваная майстрам Ёганам Прайсігам у канцы XVIII ст.

На пачатку XVII ст. бурмістр Ганус Фандэнберг заснаваў першую гарадскую водаправодную сетку. Вада паступала з Нёмана на Рынак. У XVIII ст. яшчэ адзін водаправод быў пракладзены над Гараднічанкай. Ён забяспечваў вадой горад і Стары Замак.

Вядома таксама, што ў горадзе ў перыяд Новага часу на беразе Нёмана і Гараднічанкі будаваліся лазні. Так, уласную лазню ў XVIII ст. меў каралеўскі двор на Гарадніцы.

## ГАРАДЗЕНСКІЯ ТАРГІ І КІРМАШЫ. ГАРАДСКІЯ ФІНАНСЫ

Разам з Магдэбургскім правам у 1496 г. Гародня атрымала таксама права на тры штогадовыя кірмашы працягам у тыдзень. Яны праходзілі ў свята Аб'яўлення Святога Крыжа, Св. Маргарыты і Св. Андрэя. Падчас кірмашоў купцы з іншых гарадоў маглі гандляваць без дазволу магістрата і без аплаты. Што датычыць купцоў з Вільні і Коўны, то яны маглі весці гандаль без дазволу магістрата і ў любы іншы час. Аднак, як падаецца, гарадзенскія кірмашы ніколі асабліва не квітнелі. А ў 1540 г. было занатавана, што "*кірмашы даўно ўжо палі*" па прычыне занадта высокага мыта для купцоў[59]. Гарадзенскія кірмашы згадваюцца і ў пазнейшыя часы. "*Кірмаш у Гародні вельмі слабы*", – занатаваў у сваім

[59] АВАК. Т. VII. Ч. IIА. № 10. С. 72.

дзённіку 18 верасня 1663 г. Храпавіцкі[60]. Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што яны потым зніклі зусім.

У XVIII – XIX стст. вельмі моцным канкурэнтам Гародні былі кірмашы ў недалёкай Зэльве ў Ваўкавыскім павеце. Яны прыносілі да 40 тыс. гадавога даходу. У 1786 г. у Гародні згадваецца толькі адзін кірмаш у дзень Узнясення Святога Крыжа. А ў 1783 г. у візітацыі было запісана: "*Кірмашоў ніякіх няма і ніколі*"[61]. Хоць гарадзенскія таргі згадваюцца ў шматлікіх прывілеях для Гародні, аніводны з іх не канкрэтызуе дні, калі яны адбываліся. У XVI ст. у якасці дня гарадзенскіх таргоў шмат разоў згадваецца толькі панядзелак. Але ў такім вялікім горадзе больш ці менш актыўны гандаль, несумненна, праходзіў на працягу ўсяго тыдня.

Гарадзенскія крамы на рынку першы раз згадваюцца ў XVI ст. Напэўна, як у многіх іншых гарадах, гарадзенская Ратуша спалучала судова-адміністратыўныя функцыі з гандлёвымі. Пасля знішчэння ратушы маскоўскімі войскамі ў 1655 г. гандаль вёўся ў яе руінах. "*Пасярэдзіне [Рынку] відныя руіны вялікага гмаху, дзе купцы раскладваюць свой тавар*", – занатаваў у 1752 г. Вільгельм Шлемюлер[62].

Гандлем займаліся ў крамах, мясных лаўках, але таксама адбываўся продаж з воза. Вядома, што існаваў таксама гандаль з рук. Каля крамаў выстаўляліся столікі, на якіх раскладваліся дробныя тавары. Можна было таксама перакусіць. Гандляркі прапаноўвалі прыгатаванае мяса і іншыя стравы.

Прадаваліся самыя розныя тавары. Інструкцыя 1783 г. паказвае, што можна было купіць на гарадзенскім рынку ў гандлёвы дзень. У бочках* прадавалі збожжа (пшаніцу, жыта, ячмень, авёс) і стручковыя расліны (сачавіцу, боб, гарох). Таксама бочкамі мералі гародніну. Прапаноўваліся яблыкі, грушы, вішні і арэхі, таксама замежныя грэцкія і турэцкія арэхі, якія важыліся на "камень"**. "Бочкамі" прадаваліся грэчка, мак, льняное семя, насенне каноплі, а таксама піва. Апошняе мела шмат гатункаў,

[60] Chrapowicki J.A. Diariusz. Część pierwsza lata 1656-64, oprac. T. Wasilewski. Warszawa, 1878. S. 423.

[61] ЛДГА. Ф. 694, воп. 1, ад.з. 3985, арк. 28.

[62] Schlemüller W. Dyaryusz podróży polskiej na seym grodzieński roku pańskiego 1752... S. 12.

* мера сыпкіх рэчываў і вадкасці ў ВКЛ. Прыблізна адпавядала 19 пудам пшаніцы, 18 жыта і г. д. – *заўв. рэд*

** старабеларуская адзінка вагі для цвёрдых, сыпкіх рэчываў, вадкасцяў, якая не мела пастаяннага вагавага эквіваленту – *заўв. рэд*

але ў асноўным яго дзялілі на таннейшае, ці звычайнае (ардынарнае), і даражэйшае, ці двайное (дуплетнае). Прадаваліся як мясцовыя вырабы, так і прадукты з наваколля. Больш моцныя напоі прадавалі на гарнцы. У продажы была звычайная гарэлка, араматызаваная (гарэлка люкраваная), мёд сотавы, сыта і ліпец, а таксама рафінаваныя напоі, такія, як гданьская гарэлка, ратафія (наліўка з садавіны), венгерскае віно.

Можна было купіць рыбу, як прэснаводную, так і марскую, у вялікім асартыменце. Каменямі прадавалі "*вялікую рыбу*": асятроў, бялугу, самоў, ласосяў, шчупакоў, траску, ляшчоў, судакоў, окунёў, вугроў, міногаў, камбалу, а таксама *штокфіш* – сушоныя трасковыя гатункі рыбы. Прадавалася таксама "*дробная рыба*", сушоная і салёная. Бочкамі можна было купляць "*ардынарную*" (звычайную) сялёдку, а галандскую сялёдку – "ахтэлямі"*.

З харчовых тавараў у продажы прапаноўваліся воцат у гарнцах і тавары, якія важылі на камені, менавіта аліўкі, разынкі, міндалі, рыс, галандскі сыр, кава, перац, імбір, аніс, крупы. Бочкамі прадавалася соль, копамі (па 60 штук – *заўв. рэд*) – яйкі і сыры, фасамі (слова запазычана з нямецкай мовы, *Fass* – пасудзіна – *заўв. рэд.*) – масла. Акрамя таго, гандлявалі рознай гароднінай, грыбамі, жывой птушкай, быдлам, авечкамі, свіннямі. Прадавалася дзічына: касулі, зайцы, дзікія птушкі, напрыклад, амялушкі. Можна было купіць нават бульняговы цукар.

Таксама гандлявалі смалой, дзёгцем, канаплёй, хмелем, шклом, шкурамі, кажухамі. У продажы былі металы, тканіны і сыравіна для іх вырабу (воўна, бавоўна і лён). Гандлявалі бандарскімі, такарскімі і ганчарскімі прыладамі. Без праблему можна было набыць звычайны і паліваны керамічны посуд.

Прадавалася таксама мэбля, менавіта крэслы, столікі, канторкі, камоды ды інш. Для транспартных патрэбаў можна было купіць коней, сані, экіпажы, брычкі, калымагі, вазкі. Усе яны прапаноўваліся як з коламі, так і без іх. Асобна прадаваліся колы як да пасажырскіх,

* мера аб'ёму, роўная 1/8 бочкі – *заўв. рэд*

так і грузавых павозак, таксама кашы ці паўкошыкі з лазы (насцілы пад ногі і з бакоў вазоў). Такім возам можна была прывезці, напрыклад, набытыя будаўнічыя матэрыялы, у прыватнасці абпаленую цэглу, дахоўку, гонт, будаўнічае дрэва, пячную кафлю, непалёную вапну, ліставое шкло, пілаваны лес, жэрдкі, латы. На вазы можна было загрузіць таксама колы, жэрдзі для плота, мяхі, сечку, салому, вугаль, дранку, лыка, розныя сельскагаспадарчыя прылады, у тым ліку сошнікі, косы, рэшаты, сіты.

Калі мы ўлічым, што інструкцыя 1783 г. называе толькі некаторыя катэгорыі тавараў, а  напрыклад, пад словам "метал" трэба разумець як сыравіну, так і цэлы шэраг металічных вырабаў, то можна сказаць, што на гарадзенскім торгу было амаль усё. А ў 1539 г. адзін з гарадзенскіх мяшчан купіў на торгу ў Гародні "*нявольную дзеўку*"[63].

Можна меркаваць, што падчас розных дзяржаўных з'ездаў у Гародні з'яўлялася шмат ахвотнікаў да дарагіх прадметаў раскошы. Выраслі ў гэты час і даходы гандляроў. Рост абаротаў гарадзенскага гандлю ў час г.зв. "соймавага года", калі ў горадзе праходзіў сойм Рэчы Паспалітай, можна ацаніць на падставе павелічэння на 100% падатку на прыватныя крамы. Многія госці Гародні адзначалі, што падчас сеймаў значна раслі цэны. Ужо згаданы В.Шлемюлер у 1752 г. нават запісаў цэны на асноўныя прадукты. Дык вось, хлеб каштаваў у тры разы даражэй, чым належала. Дарагая была таксама рыба. Мяса можна было набыць па памяркоўнай цане. Іншы падарожны ў 1793 г. запісаў: "... *Жыллё і харчаванне былі незвычайна дарагімі*"[64]. Таксама было і ў 1784 г. Яшчэ перад пачаткам сойма адна з газет звяртала ўвагу на невялікі рынак прадуктаў харчавання ў Гародні, што "*пры ўсё большым з'ездзе пагражае нам вялікай дарагавізнай*"[65].

Цэны на важнейшыя тавары з гарадзенскага торгу 1786 г. друкаваліся ў выдаваным пад рознымі назвамі "Гандлёвым дзённіку" ("Dziennik Handlowy"). Інфармацыю ў газету падаваў гарадзенскі войт Юзаф Зеліньскі. А сын гарадзенскага райцы

[63] АВАК. Т. XVII. № 24. С. 9-10.

[64] Schulz F. Podróże Inflantczyka z Rygi do Warszawy i po Polsce w latach 1791-1793, oprac. W. Zawadzki. Warszawa, 1956. S. 40-41.

[65] Suplement do Gazety Warszawskiej. Nr 76 z 22 września 1784 r.

Караля Тапольскага прысылаў інфармацыю пра цэны ў Беластоку. Газета публікавала цэны толькі асноўных прадуктаў, але падавала таксама меры вагі і ёмкасці, якімі карысталіся. Цэны з Гародні прывязваліся да камісійных бочак, якія дзяліліся на 144 гарнцы, і камянёў, падзеленых на 40 фунтаў. Падвойныя (дуплетныя) гарнцы выкарыстоўваліся ў гандлі гарэлкай, алеем і мёдам; на фунты прадавалася сала, шчаціна, селітра. Воўна дзялілася на тры гатункі паводле якасці. Фаска масла складалася з шасці гарнцаў. Цэны валовых скураў залежалі ад іх велічыні. Гэтыя прыклады сведчаць, што ў Гародні выкарыстоўваліся меры, прынятыя ў ВКЛ[66]. У 1786 г. адзначалася, што па прычыне адсутнасці блізкіх буйных таварных складаў "*грамадзянін танней на Рынку здабудзе, чым у складзе*".

Для зручнасці як пакупнікоў, так і гандляроў на гарадзенскім торгу пільнаваліся адзінкі меры і вагі тавараў. Гарадскія прывілеі прадпісвалі рабіць гэта магістрату: "...*Каб няправільных вагаў і няправільных мер і локцяў у месце не было*"[67]. "*Будуць таксама мець у ратушы меру збожжа, г.зн. ратушную бочку, і меру мёду, г.зн. медніцу*", – было запісана ў прывілеі на Магдэбургскае права.

Па прычыне розных ашуканстваў, асабліва ў гандлі збожжам, каптуровы суд Гарадзенскага павета ў 1675 г. загадаў, каб *бочка* была замацаваная ланцугом каля ратушы. Яна павінна была складацца з 72 гарнцаў. Карэц ці паўбочкі, мусіў мець 32 гарнцы, палова карца – 16, цвэрць – 9 гарнцаў. Солад і авёс перад пакупкай можна было "таптаць", г.зн. ушчыльняць. Замяраў прадавец, а торг пачынаўся не раней, чым у 8 гадзін раніцы[68].

Хоць гарадзенскія меры і вагі да гэтай пары добра не вывучаныя, аднак выразна відаць клопат магістрата пра іх добрае ўтрыманне і ўпарадкаванне. З захаваных фрагментаў гарадскіх рахункаў ведаем, што ў 1762 г. было патрачана 43 злотыя 8 грошаў і 1 шэлег на рамонт медніцы і гарнца. У 1770 г. запісаныя 17 злотых, выданых "*за гарнцы новай меры*". У 1772 г.

[66] Dziennik Handlowy. 1786, cz. I-VI (styczeń-czerwiec). S. 11-12, 153-154, 216, 280.

[67] АВАК. Т. VII. Ч. IIА. № 12. С. 77.

[68] НГАБ. Ф. 1761, воп. 1, ад.з. 2, арк. 408.

рамонт гарнцаў каштаваў магістрату 4 злотыя, а ў 1773 г. было патрачана 24 злотыя на рамонт "*вагі і шаляў у ратушы*". У 1774 г. кавалю заплацілі 4 злотыя за акоўку чвэрці для мерання збожжа і 6 злотых "*бляхару за бляшаны цэхавы гарнец для мерання гарэлкі контрагентам у горадзе*"[69].

Пасля смерці ў 1784 г. гарадзенскага райцы Караля Тапольскага, які адначасна быў беластоцкім поштмайстрам, у яго камяніцы на вул. Замкавай знаходзіліся два гарнцы, у тым ліку адзін камісійны, і камісійныя паўгарнцы.

Пра гарадскія фінансы Гародні да сярэдзіны XVII ст. няшмат можна сказаць, бо гарадскія кнігі да 1638 г. не захаваліся. Паводле прывілею каралевы Боны з 1541 г., за гарадскія фінансы адказвалі бурмістры ("літоўскі" і "рускі"). Яны павінны былі зрабіць фінансавую справаздачу на працягу двух тыдняў пасля выбараў. Гэта называлася "*чыненнем лічбы*". Як паказваюць гарадскія акты, бурмістры гэтага не рабілі, і не заўсёды па сваёй віне.

Аналіз захаваных гарадскіх кніг XVII – пачатку XVIII ст. паказвае, што гарадскія рахункі трактаваліся як прыватныя дакументы бурмістраў, а не як афіцыйныя акты. Складваецца ўражанне, што ў гэтай справе ў горадзе панаваў вялікі балаган. На працягу вельмі доўгага часу не было спісаў плацельшчыкаў падаткаў, пра што сведчаць дакументы 1666 г. Стварэння такіх спісаў дамагаліся самі падаткаплацельшчыкі. Страта лаўнічай пячаткі, трыманне гарадскіх актаў і прывілеяў у прыватных дамах, прыкладанне пячаткі да дакументаў нашмат пазней пасля заканчэння тэрміну службы на гэтай пасадзе, раскраданне грошай і будаўнічых матэрыялаў, сабраных на адбудову знішчанай маскоўцамі ратушы – толькі некаторыя факты з тых парушэнняў. Праўда, пасля войнаў сярэдзіны XVII ст. фінансавая сітуацыя горада была цяжкай да такой ступені, што магістрат заклаў за даўгі на пэўны час частку галоўнага гарадскога Рынку.

Улады спрабавалі паправіць сітуацыю. Каралеўскія камісары ў 1650 г. выдалі дэкрэт, які забараняў бурмістрам збіраць гарадскія

[69] НГАБ. Ф. 1761, воп. 1, ад.з. 6, арк., арк.1098, 1101, 1121, 1122.

падаткі і выдаткоўваць грошы. Гэтым павінны былі займацца эканомы – “*людзі, добра ў горадзе аседлыя і ні ў нічым не падазраваныя*”. Адказныя за збор гарадскіх падаткаў эканомы маглі выдаваць грошы толькі па даручэнні бурмістраў. Тыя пасля сканчэння тэрміну на пасадзе павінны былі разлічвацца перад новымі бурмістрамі і цэхмайстрамі, г.зн. перад радай і прадстаўнікамі насельніцтва. За парушэнні пры збіранні “*бруковага і сталовага*” эканомы караліся фінансава і арыштам на тыдзень. Камісары даручылі таксама павялічваць гарадскія даходы праз аўкцыёны.

Звычайныя месцічы ў XVII ст. патрабавалі ад патрыцыяту кантраляваць збор падаткаў, даўгі і выдаткі горада. Былых бурмістраў змушалі рабіць дакладныя фінансавыя справаздачы, падавалі пратэсты ў гродскі суд, скаргі каралеўскім камісарам, дамагаліся перадаць пад кантроль гарадскіх сындзікаў частку фінансаў у выглядзе “*ганарараў ад новых мяшчан, якія праз працу эканомам прывыклі акупацца*” (1666 г.). Аднак значных вынікаў гэта не прыносіла.

Трохі болей ведаем пра фінансы гарадскога самакіравання ў другой палове XVIII ст. У пачатку гэтага перыяду бюджэт горада складаў усяго некалькі тысяч злотых, а ў 80-я гады – дасягнуў 30 – 35 тыс. злотых. Гэта было вынікам рэформаў, праведзеных магістратам, а таксама люстрацыі з 1775 г. і дзейнасці дзвюх гарадзенскіх камісій “Boni Ordinis”. Першая з іх дзейнічала ў 1776 – 1780 гг., другая – у 1783 – 1786 гг.

Даходы горада складаліся з падаткаў, якія магістрат накладаў на нерухомасць у горадзе і гарадскіх вёсках (участкі і апрацаваная зямля), аплаты ад рамеснікаў, даходаў са здачы ў арэнду маёмасці і іншых больш дробных прыходаў. Гарадскія даходы планаваліся. Захавалася кніга планаваных бюджэтных даходаў Гародні з 1772 – 1783 гг., якая называлася “*Пратакол дыспартыметаў...*”.

Вельмі важнай пазіцыяй даходаў быў падатак з апрацаванай зямлі ў участкаў у гарадскіх вёсках. Да 1775 г. гэтыя аплаты,

якія называліся *“валочная складка”*, складалі каля паловы ўсіх прыходаў гарадской касы (46 – 57%). Потым у выніку росту іншых даходаў удзел гэтага падатку зменшыўся, але і надалей складаў значныя сумы. У гэты перыяд плата з валокі складала 24 злотыя ў год. Іншым падаткам з нерухомасці было *“пляцовае”*, якое збіралася з забудаваных пляцаў у горадзе, а таксама з зямлі, на якой стаялі прыватныя мясныя лаўкі. Спачатку гэта была нязначная сума ў бюджэце. Пасля дакладных апісанняў нерухомасці люстратарамі ў 1775 г. даходы з пляцовага падатку пачалі расці і ў 80-я гады XVIII ст. дасягалі 1300 – 1400 злотых.

Збор з цэхаў меў характар пагалоўнага падатку. Яго збіралі так, як і ўсе іншыя падаткі – дзвюма часткамі: у сакавіку і верасні. Цэхавыя майстры плацілі па 2 злотыя, а чаляднікі і іншыя памочнікі – па адным. Цэхі аддавалі грошы вельмі неахвотна, не заўсёды і вельмі нерэгулярна. Затое ахвотна дапамагалі магістрату абкладаць падаткам пазацэхавых рамеснікаў, у тым ліку прыбыўшых у горад. Даходы ад цэхавых збораў складалі сама болей 627 злотых у год (1785 г.). Нашмат больш паступала ад пазацэхавых рамеснікаў. Аплаты збіралі з гандляроў віном, адкупшчыкаў віна, тракціршчыкаў, ювеліраў, кухараў, пекараў, цукернікаў, гадзіннікавых майстроў, кніжных гандляроў, мастакоў, майстроў па замках, сталяроў і цесляроў. Габрэі былі вызваленыя ад такіх падаткаў.

Пасля люстрацыі 1775 г. належала збіраць з жыхароў горада і гарадскіх вёсак падымны падатак, г.зн. дзяржаўны падатак з дамоў. Раней яго аплачвалі з касы магістрата.

У бюджэце Гародні надзвычай важным сродкам даходу была здача ў арэнду гарадской маёмасці (крамаў, корчмаў, кардэгардыяў, гарадскога падворка). Крамы аддавалі ў арэнду звычайна на тры летнія перыяды, галоўным чынам, гарадзенскім габрэям. Хрысціяне наймалі іх вельмі рэдка. Агулам у 1781 г. горад мог здаваць каля 80 крамаў. Потым да 1786 г. было збудавана яшчэ некалькі, агульная іх лічба складала каля 90.

З 1778 г. дзве крамы арэндаваў гарадніцкі кантар. У іх прадаваліся тавары з гарадзенскіх мануфактураў. Габрэі былі, як правіла, арандатарамі некалькіх гарадскіх корчмаў. Хоць корчмы называліся гарадскімі, толькі некалькі з іх належалі гораду. Прыватныя корчмы з гарадскіх вёсак плацілі ў гарадскую касу за права гандляваць напоямі. Даходы са здачы ў арэнду ў другой палове XVIII ст. пастаянна раслі і з цягам часу сталі галоўнай крыніцай фармавання бюджэту горада. У 1783 – 1786 гг. даходы па гэтым артыкуле дасягалі 11 – 11,5 тыс. злотых у год (31,5 – 39% усіх даходаў).

Значны прыбытак горад атрымліваў ад манапольных гарадскіх аплатаў – "бруковага" і "торговага", якія збіраліся з гандляроў. "Торговае" збіралася паводле прывілею на Магдэбургскае права, "бруковае" – па прывілеі караля Жыгімонта ад 20 кастрычніка 1627 г. Спачатку даходы ад апошняга павінны былі ісці на рамонт гарадскога бруку. Паводле інструкцыі з 1783 г., "бруковае" было спалучанае з "торговым", што выклікала большую разнастайнасць аплатаў у залежнасці ад віду тавару, які перавозіўся на вазах.

Гарадской манаполіяй былі таксама меры і вагі. "Памернае" збіралася ад тавараў, якія вымяраліся гарнцамі і бочкамі, за выключэннем селядцоў і солі. "Вагавае" горад браў з тавараў, якія важыліся ў камянях. Магістрат здаваў у арэнду адразу ўсе зборы, спачатку на падставе гадавых, потым трохгадовых кантрактаў. Арандатарамі выступалі галоўным чынам гарадзенскія габрэі. З 1775 г. заключэннем кантрактаў на гарадскія манапольныя зборы занялася камісія "Boni Ordinis" (Камісія добрага парадку), што значна павысіла іх даходнасць.

Да гарадскіх расходаў належалі, акрамя дзяржаўных падаткаў, перш за ўсё кошты абслугі гарадскога доўгу, інвестыцыі, судовыя кошты, утрыманне гарадской адміністрацыі, выезды сяброў магістрата, хабары і іншыя дробныя справы.

Сярод расходаў Гародні як сталіцы звяртаюць на сябе ўвагу сродкі, патрачаныя на ўрачыстасці. Яны не былі значнымі.

Гарадзенскі магістрат, таксама як і ў іншых гарадах Рэчы Паспалітай, з нагоды якой-небудзь важнай падзеі ладзіў урачыстую ілюмінацыю горада, гарматныя салюты, наймаў капелы, арганізоўваў пачастунак, прыбіраў гарадскі брук. Такімі падзеямі найчасцей былі прыезд якой-небудзь важнай асобы, гадавіна каранацыі, выбараў, імяніны манарха, таксама імяніны падскарбія Тызенгаўза і пачатак пасяджэнняў Трыбунала.

"Газета Варшаўская" ў 1792 г. (№ 19) паведаміла пра святкаванне ў гарадской Ратушы прыняцця Канстытуцыі 3 мая: *"Шляхетны магістрат Выдзеленага Вольнага Места Рэчы Паспалітай Гародні, крануты гжэчнасцю ЯМ падкаморыя і ўсяго павета, запрасіў узаемна да сябе ЯММ урадоўцаў, грамадзян і шляхту. З гэтай прычыны каля сёмай гадзіны вечара на ратушы і ва ўсім горадзе была відаць яркая ілюмінацыя. Праз некаторы час пасля прыбыцця ЯМ маршалка з усім паветам у ратушную залу, пасля поўнага ўзаемнай ласкавасці павітання, праўдзівай павагі і задавальнення, калі шляхетны ЯП Юзаф Зеліньскі войт Выдзеленага Вольнага Места Рэчы Паспалітай Гародні падаў прыклад як гаспадар, пачаліся заздравіцы Найяснейшага Пана, сеймавых станаў, прынятай Канстытуцыі, ЯММ урадоўцаў і ўсяго павета, шляхетнага магістрата і грамадзян горада, пры гуках музыкі з паўторным співаннем оды В.Карпіньскага [на дзень 3 мая], пышным страляннем з марціры, адным словам, пры паўсюднай радасці ўсяго павета і горада бавіліся ў залах ратушы да позняй ночы".*

Нядорага каштавала ўтрыманне гарадской адміністрацыі. Бурмістры, райцы і лаўнікі выконвалі свае абавязкі бясплатна. Плату атрымліваў кат (гарадскі майстар), генерал і гарадскія пахолкі. Горад у тыя часы ўтрымліваў 2 – 4-х пахолкаў, якім выдавалася аднолькавая вопратка: боты, убранне, шапка і штаны, яшчэ пояс, каляровыя накідкі, кунтуш і кажух, часам куртка. Колеры былі жоўтыя, аздобленыя чырвонай каймой. Жоўты колер тады лічыўся адпаведным для мяшчанскага стану. Таксама гарадскі генерал атрымліваў адзенне ад горада. Яму куплялі так-

сама кірэю (kireję) або бекешу. Гарадскому майстру (кату), акрамя пастаяннага заробку, давалі яшчэ кватэру і дровы на зіму. Пазней пастаянны заробак плацілі таксама гарадскому касіру. Існаванне гэтай пасады зафіксавана з 1759 г. Касіра выбіралі з ліку асабліва дасведчаных райцаў. Падчас дзейнасці Камісіі добрага парадку з касы горада плацілі таксама сябрам камісіі і прынятаму на працу гарадскому пракурору.

Самыя вялікія выдаткі ішлі на абслугу гарадскога доўгу. У 1770 – 1775 гг. кошты абслугі доўгу складалі ў сярэднім 50% ад усіх выдаткаў. Пазыкі бралі звычайна ў мясцовай шляхты, ордэнаў і патрыцыяту пад 7 – 10 % гадавых. Аддавалі іх гадамі. У 1773 г. доўг гарадской касы ў пяць разоў перавышаў планаваныя даходы.

Вельмі каштоўнымі былі таксама судовыя справы. Акрамя заробку ката, далучаліся ўтрыманне пад арыштам і судовыя выдаткі. Паколькі горад вёў шматгадовыя працэсы ў судах розных інстанцый з уладальнікамі юрыдык, выдаткі былі вялікія. Трэба было аплачваць адвакатаў, пакрываць судовыя кошты, збіраць патрэбныя дакументы, часта рабіць падарункі. Асабліва дорага каштавалі выезды сяброў магістрата па судовых справах у Варшаву.

У другой палове XVIII ст. горад рабіў каштоўныя інвестыцыі. Укладваў грошы ў камунальную інфраструктуру, менавіта ў брук, водаправод, гарадскую студню і ў комплекс будынкаў на галоўным Рынку. Апошнія ўкладанні даволі хутка вярталіся, бо збудаваныя крамы прыносілі гораду надзвычай высокія даходы.

Вельмі высокімі былі таксама выдаткі на кантрыбуцыі і вайсковыя паборы, звязаныя з кватэраваннем у Гародні расійскай арміі (1772 – 1773 гг.) У выніку гарадская касса панесла вялікія страты, звязаныя са збядненнем насельніцтва, якое не магло плаціць падаткі. У 1769 г. кантрыбуцыю з горада ўзялі барскія канфедэраты (18 тыс. злотых). Велізарную кантрыбуцыю – больш за 100 тыс. злотых – змусіў заплаціць горад пад пагрозай артылерыйскага абстрэлу расійскі генерал Павал Цыцыянаў у 1794 г.

# ГАРАДНІЦА І ПЕРАЎТВАРЭННІ АНТОНІЯ ТЫЗЕНГАЎЗА

Двор Гарадніца згадваецца ўжо ў крыніцах XVI ст. У XVII ст. тут стаяў драўляны вялікакняскі палац у атачэнні саду з сажалкай. Можна меркаваць, што непадалёку каралеўскага двара на Гарадніцы знаходзілася капліца Св. Мікалая, якая, верагодна, была заснавана ў часы вялікага князя Аляксандра Ягайлавіча.

У 70-я гг. XVIII ст. аблічча Гарадніцы пачало змяняцца радыкальным чынам у выніку рэфармацыйнай актыўнасці кіраўніка гарадзенскай каралеўскай эканоміі і падскарбія надворнага Антонія Тызенгаўза (1733-1785), які вырашыўператварыць Гародню ў адзін з буйнейшых эканамічных і культурных цэнтраў ВКЛ.

На працягу кароткага адрэзка часу гэтае прадмесце было забудавана будынкамі адміністрацыйнага, культурнага і прамысловага прызначэння. Праектам ансамбля Гарадніцы займаліся дрэздэнскі архітэктар Іаган Георг Мёзэр і італьянец Юзаф Сака. Дамінуючым акцэнтам усяго комплексу была плошча з палацам Антонія Тызенгаўза (цяпер плошча А.Тызенгаўза). На палацавых задворках месціўся батанічны сад. Паўночны бок плошчы займалі дзве афіцыны – музычная і тэатральная (крывая). На паўднёвым баку была ўзведзена гасціная афіцына. Меркавалася, што з часам адміністрацыйна-культурны комплекс Гарадніцы папоўняць будынкі Медычнай акадэміі і тэатра.

Галоўнай артэрыяй Гарадніцы была вуліца Раскоша (цяпер вул. Элізы Ажэшкі), якая бегла ўздоўж паўночнай мяжы Гародні з аўстэрыяй, кафенгаўзам і корчмамі. З часам на Раскошы былі пастаўлены 20 тыпавых аднапавярховых драўляных домікаў з мураванай франтавой сцяной, у якіх прадугледжвалася пасяліць замежных майстроў.

Ва ўсходняй частцы Гарадніцы ў рэчышчы Ласасянкі Тызенгаўз пабудаваў мануфактурны комплекс. Паводле падлікаў Станіслава Касцялкоўскага, ён складаўся з 23 прадпрыемстваў,

на якіх было ўладкавана 1328 чалавек, у тым ліку 43 майстры, каля 600 вучняў і некалькі соцень рамеснікаў-саматужнікаў. Акрамя вольнанаёмных работнікаў на мануфактурах шырока выкарыстоўвалася праца прыгонных. Таксама працавалі дзяўчаты-прадзільшчыцы, габрэі і нават лёзныя* і арыштанты гарадніцкай вязніцы.

Сваімі пачаткамі гарадніцкія мануфактуры сягаюць да канца 60-х гг. XVIII ст. Да ліку найбуйнейшых належала суконная мануфактура, для якой падскарбі набыў неабходнае абсталяванне ў Каралеўцы. У мануфактуры было ўладкавана 400 рабочых. Другім вялікім прадпрыемствам стала палатняная мануфактура. У 1772 г. адміністрацыя эканоміі падпісала дамову са швейцарскім майстрам Даніэлем Вілі, які абавязаўся яе заснаваць. Праз 5 гадоў мануфактура пераехала ў Ласосна.

Парадаксальна, што Тызенгаўз не рабіў стаўку на адкрыццё мануфактур, вырабы якіх карысталіся попытам шырокага кола пакупнікоў. Да ліку прадпрыемстваў, якія праглыналі вялізныя сродкі, належала гарадніцкая персіярня. У 1770 г. на Гарадніцы з'явіліся ліёнскія майстры Вінсэнт дзю Пінэй (Du Piney) і Інард (Inard), якія распачалі выраб паясоў паводле французскіх, а не турэцкіх узораў. У 1774 г. на Гарадніцу прыехала яшчэ адна група майстроў з Фларэнцыі і славуты ліёнскі ткач Франсуа Сэліман. Цэны паясоў ваганіся ў межах ад 24 да 108 злотых. Нават самі запрошаныя спецыялісты выказвалі скепсіс наконт мэтазгоднасці функцыянавання прадпрыемства.

Верагодна, у 1767 г. на Гарадніцы з'явілася залататкацкая мануфактура, склады якой былі запоўнены нерэалізаванай прадукцыяй. Спадзяючыся на попыт на панчохі з шоўку, бавоўны ды воўны, Тызенгаўз заснаваў панчошную мануфактуру. У 1770 г. на Гарадніцы з'явілася таксама камлотная мануфактура, якая займалася вырабам ангорскай тканіны і падкладкі пад адзенне.

У 1768 г. з Караляўца было дастаўлена абсталяванне для заснавання гарадніцкай васкабойні. Праўда, неўзабаве прад-

* збяднелыя гараджане і беглыя сяляне. Жылі ў гарадах, не мелі маёмасці і выконвалі працы па найму.

прыемства было перанесена з Гарадніцы ў Ласосна. У 1777 г. яе наведаў кароль Станіслаў Аўгуст, які замовіў партыю свечак і паходняў.

У 1774 – 1780 гг. на Гарадніцы з'явілася яшчэ некалькі прадпрыемстваў. Да іх ліку адносілася карункавая фабрыка, якой кіравала "пані" дэ Фальвіль (de Folville) з Бруселя, і фабрыка капялюшаў. Значныя сродкі былі ўкладзены ў заснаванне карэтнай фабрыкі. Дырэктарам мануфактуры быў адзін з найбольш вядомых парыжскіх карэтнікаў. Разам з тым па прычыне высокіх цэнаў згаданыя прадпрыемствы не маглі пахваліцца шырокім колам кліентаў.

У 70-х гг. XVIII ст. на Гарадніцы пачалі будавацца розныя металаапрацоўчыя прадпрыемствы (ліцейная майстэрня і майстэрня па вырабе зброі). Шырокія магчымасці развіцця адчыняліся перад прадпрыемствамі пераапрацоўкі сыравіны, напрыклад, гарбарняй.

У мэтах каардынацыі вытворчага цыкла і гандлёвага абмену на Гарадніцы была створана мануфактурная кантора, якую ўзначальваў Якуб Бэкю. Кіраўніком камерцыйнага аддзела быў прызначаны Ян Людвік Бэкю. У функцыі братоў Бэкю ўваходзіла арганізацыя працы мануфактур, набыццё абсталявання і сыравіны, наведванне кірмашоў дзеля продажу мануфактурных вырабаў і вядзення гандлёвых перамоў, пошукі рынкаў збыту і вярбоўка рамеснікаў. У розных гарадах ВКЛ адчыняліся аптовыя склады і крамы па продажы гарадзенскай прадукцыі. У 1777 г. дзеля замацавання на прыбалтыйскім рынку з'явілася ідэя ўвядзення пасады гандлёвага агента ў Мітаве, а таксама заснавання фабрычнага склада ў Варшаве.

У апошнія гады кіравання А.Тызенгаўза Якуб Бэкю і Іаган Міндэр падрыхтавалі два мемарыялы, у якіх правялі аналіз працы мануфактур, звяртаючы ўвагу на памылковасць гаспадарчай палітыкі. Яны звярталі ўвагу на нерэнтабельнасць часткі мануфактур, абумоўленай няўдалай арганізацыяй кіравання вытворчасцю,

неэканомным выкарыстаннем сыравіны, празмернымі фінансавымі затратамі, праблемамі са збытам прадукцыі. Крытыкі прапанавалі закрыць “дарагія” мануфактуры і заняцца выпускам прадукцыі, якая знойдзе масавага спажыўца, напрыклад, зрабіць стаўку на суконную ці палатняную мануфактуры, васкабойню і гарбарню.

Памылковай, на думку аўтараў мемарыялаў, з’яўлялася таксама кадравая палітыка і заробкавая сістэма. Запрашэнне вялікай колькасці высокакваліфікаваных майстроў істотна біла па каралеўскай кішэні. Гэтую праблему прапанавалася вырашыць шляхам ашчаднасці сродкаў ці адпраўлення за мяжу на вучобу мясцовых рамеснікаў.

Духоўны клімат эпохі Асветніцтва завітаў на Гарадніцу. Дзеянні падскарбія ў гэтай галіне адрозніваліся шматпланавасцю. Дзякуючы ягоным намаганням была створана нядзельная школа для маладых рамеснікаў. Тызенгаўз настойліва праводзіў палітыку заснавання сеткі пачатковых школ *“для прыстойнай адукацыі сялянскіх, мяшчанскіх і габрэйскіх дзяцей”* пры парафіях, у вёсках і мястэчках эканоміі.

Паколькі Тызенгаўз сутыкнуўся з праблемай недахопу кваліфікаваных спецыялістаў, то адной з першых навучальных установаў гаспадарча-прыкладнога профілю была гарадніцкая школа каморнікаў на чале з Юзафам Маркевічам. Першакласных спецыялістаў, менавіта рахмістраў, кантралёраў, пісараў і рэгістратараў рыхтавала школа рахункаводаў Францішка Барановіча. Бухгалтарскія веды можна было здабыць на курсах, якія для персаналу Гандлёвай канторы праводзіў Іаган Эрнэст Родэрэр (Roederer).

Вялікіх будаўнічыя планы Тызенгаўза абумовілі з’яўленне чарговай гарадніцкай школы будаўнікоў, якую ўзначальваў Юзаф Сака. Школу наведвалі 11 юнакоў з Гародні і яе ваколіц, якія вывучалі архітэктурны малюнак, матэматыку, праводзілі назіранні за мануфактурнымі працамі, набывалі рамесныя навыкі цесляра сталяра ды інш.

Найбольш вядомай гарадніцкай школай была Медычная акадэмія, заслугі ў заснаванні якой належалі перш за ўсё Тадэвушу Даўнаровічу, які ўвесну 1775 г. завітаў у Ліён. Лёс звёў яго з прафесарам мясцовага *College de Medecine* Жанам Эмануэлем Жылiберам.

Жылібер падпісаў кантракт і абавязваўся закласці на Гарадніцы медычную школу і батанічны сад. Менавіта арганізацыі саду вучоны прысвяціў асноўную ўвагу. Мясцовы батанічны сад, у якім у 1777 г. было недзе каля 1200 гатункаў флоры, бясспрэчна належаў да ліку найлепшых у Еўропе. У садзе можна было сустрэць не толькі экзоты раслiннага свету, але і такія гатункі, з якіх выраблялiся лекі і неабходныя для прамысловасці кампаненты фарбавання.

Штодзённыя работы, звязаныя з заснаваннем батанічнага саду Жылібер спалучаў з навуковай дзейнасцю, збіраючы расліны ў ваколіцах Гародні, а таксама ў іншых рэгіёнах краіны. Гэта дазволіла яму падрыхтаваць шэраг прац. Сказанае тычыцца *Flora Lithuanica*[70], у якой было апісана 778 гатункаў раслін нёманскай даліны.

У 1777 г. адчыніла свае дзверы Каралеўская медычная акадэмія, у якой вывучаліся хірургія, акушэрства, ветэрынарыя, прыродазнаўства і замежныя мовы. Сваім багаццем вылучалася акадэмічная бібліятэка. На яе паліцах знаходзілася каля 3 тыс. кніг. Калекцыя кабінета натуральнай гісторыі складалася з 10 тыс. мінералаў, фізічных і астранамічных інструментаў, анатамічных, заалагічных і батанічных экспанатаў, якія выкарыстоўваліся на занятках і падчас навуковых доследаў. Зыходзячы з надзённых патрэб і разумення развіцця сістэмы аховы здароўя, пры Акадэміі быў заснаваны шпіталь, у якім лячыліся працаўнікі мануфактур, персанал гарадніцкай эканамічнай адміністрацыі.

У 1779 г. адбыўся першы выпуск. Аднак у 1781 г. Акадэмія была пераведзена ў Вільню. Разам з выкладчыкамі і вучнямі Гародню пакінуў Жылібер.

[70] Flora Lithuanica inchoata seu enumeratio plantarum quas circa Grodnam collegit et determinavit (1781).

У 1773 г. упершыню згадваецца гарадзенскі кадэцкі корпус, дырэктарам якога быў маёр Францішак Фройліх. У першыя гады існавання корпуса заняткі праводзіліся ў будынку, размешчаным у камяніцы Сангушкаў на гарадзенскім Рынку (дом знаходзіцца на рагу сучаснай вул. Савецкай і Савецкай плошчы). Напрыканцы 70-х гг. XVIII ст. Тызенгаўз дамовіўся з Сангушкамі і перанёс корпус у іх палац, які месціўся непадалёку Гарадніцы на вуліцы Скаліманаўскай (цяпер вул. Гараднічанская).

Школьныя заняткі наведвала больш за 20 юнакоў, якія паходзілі з сем'яў шляхты і ўраднікаў эканоміі. Разам з фехтаваннем, муштрай і “жаўнерскімі забавамі” ў навучальнай праграме шмат часу адводзілася геаграфіі, алгебры, арыфметыцы, геаметрыі, малюнку, французскай і нямецкай мовам і каліграфіі.

Культурнае ажыўленне эпохі Асветніцтва, а таксама паўсядзённыя патрэбы гаспадарчага жыцця непазбежна дыктавалі рост попыту на друкаванае слова. У 1775 г. у распараджэнні Антонія Тызенгаўза аказалася набытае за 2 тыс. чырвоных злотых абсталяванне друкарні віленскіх езуітаў. Першым кіраўніком каралеўскай друкарні падскарбі прызначыў былога езуіта, ксяндза Караля Маліноўскага.

Прадукцыя гэтай друкарні была разнастайнай. Тут выдаваліся соймавыя друкі, судова-палемічная літаратура, пастановы дзяржаўных устаноў, рэлігійная літаратура, навуковыя трактаты, мастацкія і папулярныя кніжкі, школьныя падручнікі. Асобнай старонкай яе гісторыі былі перыядычныя выданні, менавіта гаспадарчыя календары і газеты. У 1776 г. пачала выходзіць “Gazeta Grodzieńska”, на старонках якой змяшчаліся навіны з-за мяжы і краю, звесткі пра жыццё каралеўскага двара, міністэрскія пастановы, распавядалася пра ўрачыстасці і розныя цікавыя падзеі і здарэнні.

У 1765 г. пасдкарбі пачаў здзяйсняць план заснавання музычнай капэлы, для якой ужо ў верасні гэтага ж года ў Каралеўцы была замоўлена вялікая партыя інструментаў. На чале капэ-

лы стаяў скрыпач Лявон Сітанскі. У 1769 г. падскарбі падпісаў 4-гадовы кантракт са скрыпачом Тадэвушам Вежбалоўскім. Таксама былі запрошаныя спявак Ян Дамінік Гіблер, італьянскі кампазітар Каміле Абатэ, які разам з ксяндзом Санці Фінучы нейкі час выконваў ролю "прэм'ераў" капэлы. У рэпертуар гарадніцкай капэлы ўваходзілі вакальна-інструментальныя творы і інструментальная музыка. Капэла Тызенгаўза суправаджала тэатральныя пастаноўкі, выступала на каралеўскіх імянінах, шляхецкіх сходах і падчас імшы ў Фарным касцёле.

На мяжы 1771 – 1772 гг. у падскарбія выспела ідэя заснавання балетнай трупы. Асноўным касцяком трупы былі прыгонныя сяляне. У перыяд найбольшага росквіту калектыў дасягаў 60-асабовага складу. Пошукамі артыстаў займаўся Лявон Сітанскі, які ў сакавіку 1772 г. выправіўся ў першае замежнае падарожжа. У 1773 г. падчас побыту ў Фларэнцыі лёс звёў яго з балетмайстрам Гаэтанам Пецінэці, які згадзіўся прыняць удзел у стварэнні трупы на Гарадніцы. У выніку ў красавіку 1774 г. Сітанскі вярнуўся дамоў разам з 12-асабовай італьянскай трупай. Пазней умовы Тызенгаўза прыняў таксама італьянскі танцор з Балоніі Казіма Аўгустын Марэлі, які падпісаў кантракт і прыехаў у Гародню.

Заняткі адбываліся ў будынку музычнай школы. Акрамя спеву, тэорыі музыкі, кампазіцыі, ігры на інструментах і танца ў школе выкладаліся арыфметыка, чытанне, пісьмо, малюнак, пісанне нотаў і французская мова.

Паралельна з адкрыццём школы Тызенгаўз узяўся за здзяйсненне пастаноўкі оперных спектакляў. Ён вёў актыўную перапіску з Радзівіламі, мяркуючы набыць партытуры сімфоній Гайдна, утрымліваў у Варшаве карэспандэнтаў, якія паведамлялі аб магчымасці пакупкі новых музычных твораў.

На тэатральных падмостках пераважаў заходнееўрапейскі рэпертуар, у першую чаргу, італьянскія оперы і камедыі. Партытуры італьянскіх опер, патрэбныя касцюмы і дэкарацыі

пазычаліся ў варшаўскага антрэпрэнёра Францішка Рыкса і нават прывозіліся з Парыжа.

Першыя тэатральныя пастаноўкі адбыліся ў 1777 г. Па прычыне адсутнасці прыстасаванага тэатральнага будынка ўсе прадстаўленні ішлі ў палацы Тызенгаўза, а потым у трапезнай паезуіцкага кляштара. Няма ніякіх сумненняў, што падскарбі разглядаў магчымасць узвядзення тэатральнага будынку. Аднак у выніку раптоўнага адхілення ад кіравання эканоміяй ён так і не паспеў здзейсніць гэты план.

Няшмат вядома пра рэпертуар гарадніцкага тэатра. Захаваныя звесткі дазваляюць сцвярджаць, што ў 1778 г. на Гарадніцы былі пастаўлены оперы “Севільскі цырульнік” Пьера Бамаршэ і “Магніфік” Грэтры. Верагодна, у гэтым жа годзе гледачы маглі назіраць “Балет пекараў” і “Сялянскі балет”, харэографам якіх быў Гаэтана Пецінэці.

Улетку 1780 г. Антоні Тызенгаўз быў абвінавачаны ў несумленным вядзенні гаспадаркі і адхілены ад кіравання каралеўскімі эканоміямі. Ён знайшоў часовае прыстанішча ў Варшаве.

Калі наступіў крах Тызенгаўза, на Гарадніцы запанавала разгубленасць. Частка артыстаў пакінула горад. Гаэтана Пецінэці выехаў у Нясвіж. Дзейнасць школы была часова прыпынена.

У высновах спецыяльнай соймавай камісіі па дзейнасці былога кіраўніка Каралеўскай эканоміі і падскарбія надворнага адзначалася, што расходы скарбу перавышалі ягоныя даходы, камісійныя кнігі і пратаколы складаліся неахайна. Камісія палічыла неабходным правядзенне дадатковай праверкі дзейнасці Скарбавай камісіі ВКЛ і метадаў кіравання Тызенгаўза. 1 жніўня 1782 г. Скарбавая камісія ўхваліла дэкрэт, паводле якога экс-падскарбі быў абвінавачаны ў шматлікіх злоўжываннях і неабгрунтаваным выкарыстанні бюджэтных сродкаў.

Жыццё Антонія Тызенгаўза скончылася ў ноч з 30 на 31 сакавіка 1785 г. Ён быў пахаваны ў родавым склепе ў парафіяльным касцёле ў Жалудку паблізу Гародні.

У 1886 – 1887 гг. Марыя Пшэздзецкая, якая паходзіла з Тызенгаўзаў, замовіла ў львоўскага скульптара Томаша Дыкаса помнік, які быў пастаўлены ў гарадзенскай Фары. Сёння імем Антонія Тызенгаўза названа плошча ў Гародні. На Гарадніцы засталося няшмат будынкаў з часоў падскарбія. У 1958 г. з 85 гарадніцкіх будынкаў заставалася толькі 20. Пачынаючы з сярэдзіны 60-х гг. XX ст. "зніклі" 8 з 9 басняцкіх домікаў на былой вуліцы Раскошы. У пачатку XXI ст. лічба пабудоў, узведзеных ці закладзеных у часы Тызенгаўза, скарацілася да 8.

## ГАРАДЗЕНСКІ КАГАЛ У XVI – XVIII СТСТ.

У XVI – XVII стст. гарадзенскі кагал быў адным з найбольш уплывовых і заможных на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Ён належаў да пяці галоўных суполак Літоўскага Ваада, органа самакіравання габрэйскай супольнасці, які кантраляваў усе галіны жыцця аднаверцаў, менавіта гаспадарчую дзейнасць, грамадскія і рэлігійныя справы, асвету, паўсядзённае і нават сямейнае жыццё габрэяў. Мэтай Вааду, які распачаў сваю працу ў 1623 г., была каардынацыя дзеянняў асобных габрэйскіх суполак, раскіданых па ўсёй тэрыторыі ВКЛ. Яго пастановы для ўсіх кагалаў Вялікага Княства Літоўскага былі абавязковымі.

Ваад спрабаваў прадухіліць канфлікты з хрысціянамі, а таму пільна сачыў за тым, як выглядалі і паводзілі сябе насельнікі габрэйскіх кварталаў па-за іх межамі. Напрыклад, лічылася небяспечным выклікаць зайздрасць суседзяў хрысціян заможным ладам жыцця, бо гэта магло прывесці да пагромаў. Ваад клапаціўся пра захаванне высокай маральнасці, падтрымліваў вучоных, знаўцаў рэлігійнага закона і моладзь, якая цягнулася да талмудычнай навукі, апекаваўся ўдовамі, сіротамі,

ахвярамі пагромаў ды войнаў і габрэямі, якія трапілі ў няволю. Ваад таксама выступаў у якасці пасрэдніка падчас спрэчак паміж асобнымі суполкамі. Але бадай што важнейшым надзённым пытаннем, якое разглядаў Літоўскі Ваад, было размеркаванне дзяржаўных падаткаў сярод габрэйскіх кагалаў. Магчымасць непасрэднага ўдзелу ў гэтым працэсе дазваляла прадстаўнікам Гародні перакласці пэўную частку падатковага цяжару са сваёй на іншыя суполкі.

Гарадзенскія габрэі дамагліся замацавання за сабой важных правоў. У часы Боны Сфорцы яны атрымалі права звяртацца да суда самой каралевы. Каралі Стэфан Баторы і Уладзіслаў IV далі мясцоваму габрэйству новыя і пацвердзілі старыя прывілеі на валоданне нерухомасцю, узвядзенне сінагогі, утрыманне могілак, ажыццяўленне гандлёва-рамеснай дзейнасці. Прынцыповае значэнне для габрэяў, жыхароў хрысціянскай дзяржавы, мела забеспячэнне магчымасці жыць згодна з рэлігійнымі запаветамі іудаізму. Іх вялікім поспехам стаўся дазвол не з'яўляцца ў суд і не даваць прысягу ў дні габрэйскіх святаў, што зафіксаваў прывілей 1669 г.

Наогул, габрэі былі падпарадкаваны гарадскому кіраванню і старасту. Аднак у гарадскім судзе разбіраліся толькі спрэчкі паміж хрысціянамі і габрэямі, а некрымінальныя справы ўнутранага жыцця кагалу разглядаліся ў рэлігійным габрэйскім судзе. За габрэямі было замацавана права даваць прысягу ў сінагозе на роднай мове. Калі габрэя выклікалі ў суд, яго маглі суправаджаць два сведкі-габрэі, якія прадстаўлялі кагал і сачылі за тым, каб правы аднаверца не парушаліся.

У сярэдзіне XVI ст. суполка налічвала каля 1 тыс. чалавек, што складала каля чвэрці гарадзенцаў. Захаваліся звесткі пра тое, што ў 1540 г. мясцовыя габрэі выплачвалі 17% гарадскіх падаткаў. У гэты ж час з 543 гарадскіх нерухомасцяў 60 знаходзіліся ва ўласнасці габрэяў. Як падлічыў Юры Гардзееў, у другой палове XVI ст. працэнт габрэяў у Гародні складаў каля 10, а ў другой палове XVIII ст. дасягнуў ужо 40. Да гэтага росту моцна

прычынілася міграцыя. Вядома, напрыклад, што ў сярэдзіне XVII ст. Гародня прыняла бежанцаў з Украіны, дзе казакі Багдана Хмяльніцкага разгарнулі крывавую бойню такога маштабу, што сёння некаторыя гісторыкі лічаць яе першым генацыдам габрэяў Усходняй Еўропы.

У 1764 – 1765 гг. у горадзе, агульная колькасць насельніцтва якога перавысіла 6,5 тыс. чалавек, занатавана 2 555 габрэяў, а ў 1794 г. – 2 760. Хуткая дынаміка росту габрэйскай супольнасці тлумачыцца высокім натуральным прыростам, адносна вялікай працяглсцю жыцця габрэяў у параўнанні з хрысціянамі і лепшым станам сістэмы аховы здароўя. Апошняму спрыяла не толькі наяўнасць асобнага комплексу рэлігійных запаветаў, накіраваных на захаванне чысціні, якія змяншалі рызыку эпідэмічных хвароб, але і наяўнасць у магдэбургскай Гародні асобнага габрэйскага шпіталя.

У Гародні, як і ў іншых беларускіх гарадах, не было габрэйскага гета паводле заходнееўрапейскіх узораў, г. зн. тэрыторыі, дзе за высокімі мурамі была прымусова зачынена габрэйская супольнасць, прадстаўнікі якой маглі пакідаць свой квартал толькі зрэдку па камерцыйных справах. Першыя пакаленні гарадзенскага габрэйства сяліліся супольна ў большай ступені з уласнага жадання. Гэта не толькі дапамагала ў выпадку небяспекі хутка арганізаваць абарону, спрашчала гаспадарчае ўзаемадзеянне, але таксама дазваляла кагалу больш эфектыўна кіраваць справамі суполкі, а рабінату – забяспечыць выкананне шэрагу рэлігійных пастаноў, што падавалася праблемным у выпадку дысперснага рассялення. Напрыклад, габрэі не могуць маліцца паасобку, для гэтага павінен скласціся міньян – сход як мінімум сямі мужчын. Прадстаўнікі габрэйскай супольнасці не маюць права падчас рэлігійных свят пераадольваць вялікія адлегласці і выносіць рэчы з хаты, нават калі гэта малітоўнік альбо ключы. Гэта робіць немагчымым наведванне сінагогі для чалавека, які жыве далёка ад яе, але праблему можна вырашыць пры дапамозе эйруву – вяроўкі, якой сімвалічна адзначаюцца

межы нерухомасці. Пры гэтым увесь квартал ператвараецца ў адну агульную вялікую сімвалічную "габрэйскую хату", унутры якой можна рухацца і пераносіць рэчы.

У Гародні габрэйскі квартал быў абмежаваны *"вуліцай Жыдоўскай з Рынку да Замка", "вуліцай Цеснай Жыдоўскай з вуліцы Вялікай Замкавай", вуліцай Школьнай Жыдоўскай і "вуліцай над ровам Гарадніцы"*. Галоўнай воссю габрэйскага квартала была вуліца Жыдоўская (сёння вул. Замкавая), якая злучала два асноўныя цэнтры Гародні – Замак і цэнтральную гандлёвую плошчу або Рынак. У цэнтры габрэйскага квартала знаходзіліся кагальны дом, дзе адбываліся сходы старшынь, і лазня, якая для габрэйскай супольнасці мела не толькі гігіенічнае, але і рытуальнае значэнне. Абрад амавення быў абавязковым для сойфера перад пачаткам перапісвання габрэйскага Святога Пісання Торы, для нявесты перад шлюбам і кожнай замужняй жанчыны пасля заканчэння "перыяду нечысціні". Тут таксама знаходзіліся габрэйскі дабрачынны шпіталь і сінагога.

Жыхары габрэйскага квартала вылучаліся знешнім выглядам. Традыцыйны касцюм не мяняўся стагоддзямі і быў падпарадкаваны рэлігійным запаветам. Мужчыны апраналі тунікападобную кашулю, наверх – запазычаны ў сярэднявечнай польскай шляхты доўгі чорны лапсердак (накшталт кафтана), абвіты чорным пасам. Сярод галаўных убораў пераважалі шапкі асаблівага "габрэйскага фасону", нават улетку пераважна футраныя (якасць футра сведчыла пра сацыяльнае становішча гаспадара і была агаворана пастановамі Вааду), або ярмолкі (маленькія шапачкі, якія не здымаліся ў памяшканні). Абутак – чаравікі. Прычоска – пейсы (доўгія валасы на скронях) і бароды. Спецыяльныя накідкі, каробачкі тфілін і талесы дапаўнялі адзенне падчас набажэнства ў сінагозе. Жанчыны апраналіся менш экзатычна, іх строі былі больш блізкімі да еўрапейскай моды адпаведнага перыяду. У святочныя дні яны аддавалі перавагу сукням з шоўку і аксаміту. Рэлігійная традыцыя загадвала замужнім габрэйкам галіць валасы на галаве і насіць галаўны ўбор, якім

магла быць хустка, парык, спецыяльная павязка накшталт чалмы альбо капялюш. Гонарам жанчын былі ўпрыгожанні са шляхетных камянёў і перлін, але Ваад перыядычна выдаваў дэкрэты, якія забаранялі багата апранутым габрэйкам пакідаць межы свайго квартала.

У XVI ст. Гародня ператварылася ў важны цэнтр рэлігійнай навукі і традыцыйнай габрэйскай адукацыі. Гэтаму спрыяла з'яўленне на пасадзе галоўнага рабіна Натана бар Шымона Шапіра Ашкеназі, які набыў вядомасць як выдатны знаўца святой мовы іўрыта і яго граматычнай сістэмы. Спадчынай славутага рабіна стаў шэраг рэлігійных трактатаў і талмудычных каментараў.

Рэлігійным жыццём кагалу ў другой палове XVI ст. кіраваў рабін Мардухай бен Абрахам Яфэ. Гэты славуты талмудыст нарадзіўся ў 1530 г. у Празе, каля дзесяці гадоў жыў і вучыўся ў Італіі, дзе набыў вядомасць у якасці знаўцы філасофіі, астраноміі і матэматыкі. У Гародню ён трапіў у 1577 г. па запрашэнні кагалу. Мардэхаю Яфэ было прапанавана ўзначаліць мясцовы габрэйскі суд бес-дзін і ешыбот (вышэйшую талмудычную ўстанову, выпускнікі якой звычайна станавіліся рабінамі). Як прадстаўнік гарадзенскага кагалу, Мардэхай Яфэ прымаў актыўны ўдзел у працы Літоўскага Вааду. Слава гарадзенскага рабіна, каментатара Талмуда гучала па ўсёй Еўропе, а яго рэлігійны трактат "Левуш алхут" ("Царскае адзенне") карыстаўся вялікім аўтарытэтам.

Да часоў Мардэхая Яфэ належыць важнейшая падзея ў жыцці гарадзенскага габрэйства – будаўніцтва мураванай сінагогі. Упершыню ў дакументах гарадзенская сінагога згадваецца пад 1540 г. Мураванай яна стала ў 1575-1578 гг. Яе будаўніцтва вялося па праекце знакамітага італьянскага архітэктара Санці Гучы, які ажыццявіў перабудову каралеўскага замка.

Галоўная сінагога, узведзеная ў стылі барока, мела свае адметнасці, якія не сустракаліся ў іншых будынках такога тыпу. Напрыклад, арон-ха-кадэш (шафа для захоўвання Торы), якая ў адпаведнасці з традыцыяй павінна была знаходзіцца ва

ўсходняй частцы памяшкання, накіраванай на Іерусалім, у гарадзенскай сінагозе была трошкі ссунутая. Мардэхай Яфэ лічыў, што на ўяўнай лініі паміж арон-ха-кадэшам і Святым горадам не павінна нічога стаяць, каб не перашкаджаць духоўнай сувязі з Палесцінай. Сінагога адрознівалася незвычайнай вытанчанасцю і раскошай. Як і ў іншых сінагогах таго часу, яе падлога знаходзілася трохі ніжэй за ўзровень зямлі. Абрады і рытуалы гарадзенскай сінагогі адрозніваліся ад тых, што былі прыняты ў іншых сінагогах Вялікага Княства Літоўскага. Напрыклад, тут выконваліся піюты – рэлігійныя гімны, аўтарам якіх лічыцца сам Мардэхай Яфэ.

На пачатак XVI ст. прыпадае першая згадка пра габрэйскія могілкі, якія цягнуліся ўздоўж ракі Гараднічанкі на поўнач ад сінагогі. У час пажару 1617 г. бажніца згарэла, і гарадзенскі кагал дамогся ад Уладзіслава IV каралеўскага прывілею на ўзнаўленне сінагогі на старых падмурках. У запісе, занесеным у акты Гарадзенскага земскага суда, было падкрэслена: *"У горадзе Гародні здалося нам карысным, каб як вуліцы парадныя, пабудаваныя для ўпрыгожання гораду, так і вуліца Жыдоўская, якая ляжыць пасярод Замкавай, бяспечны ад агню былі, ад чаго і бяспека замку ды палацаў нашых каралеўскіх залежыць, каб была старанна ўпрыгожана і пабудавана ўмацаванаю"*. Пры гэтым новы будынак сінагогі не павінен быў узвышацца над існуючымі гарадскімі пабудовамі. Вядома, што ў XVI ст. акрамя галоўнай сінагогі гарадзенская суполка мела яшчэ некалькі бес-мідрашоў (малітоўных дамоў, дзе таксама адбывалася вывучэнне Торы і Талмуда).

У другой палове XVIII ст. з Гародняй было звязана жыццё яшчэ аднаго славутага габрэйскага мысляра, кабаліста рабіна Аляксандра Залкінда бен Мошэ. Ён быў аўтарам талмудычнага трактата "Іесод ве-Шореш ха-Авода" ("Аснова і сутнасць служэння"), у якім разглядаліся рэлігійныя законы, звязаныя са святамі, і этычная праблематыка. Гарадзенскі рабін быў вучоным са смелым і крытычным розумам. Ён не пабаяўся давесці, што

ў разуменні рэлігійнага закона і апісанні геаграфіі старажытнай Палесціны памыляўся адзін з галоўных габрэйскіх аўтарытэтаў – сярэднявечны мысляр Рашы.

Аляксандр Залкінд бен Мошэ набыў сярод жыхароў Гародні рэпутацыю чалавека святога жыцця. Каб ушанаваць яго памяць, талмудыста пахавалі насуперак звычаю ў талесе (спецыяльная накідка, якую апранаюць падчас малітвы мужчыны-габрэі як сімвал пагружэння ў святасць прадпісанняў Торы і адданасці Богу) з поўным камплектам цыцыт (пэндзлікі з нітак, якія замацоўваюцца на талесе). Аляксандр Залкінд перад смерцю папрасіў хаваць побач з ім толькі праведнікаў, таму на адлегласці 100 метраў вакол яго магілы было пустое месца. Менавіта гэта і дазволіла знайсці магілу рабіна ў XX ст. на закінутых габрэйскіх могілках.

У XVII ст. адбыліся істотныя змены ў гарадской сацыятапаграфіі. Пасля пажару 1617 г. габрэі былі пазбаўленыя права набываць зямлю ў раёне Замка. Дазвалялася будаўніцтва новых хат толькі на старых папялішчах, што прывяло да цеснаты ў габрэйскім квартале. Калі ў 1673 г. Гародня, дзякуючы соймам, фактычна, ператварылася ў другую сталіцу Рэчы Паспалітай, пачаўся хуткі працэс будаўніцтва магнацкіх рэзідэнцый. Найбольшым прэстыжам карыстаўся раён, прылеглы да каралеўскага замка, менавіта тыя вуліцы, якія са старажытнасці былі заселены габрэямі. Падняліся кошты на нерухомасць, і пачаўся працэс выцяснення габрэяў на Падол.

Колькасць габрэйскага насельніцтва ў Гародні працягвала хутка павялічвацца, стары квартал быў перанаселены, таму ў першай палове XVIII ст. працягваўся працэс асваення габрэямі іншых гарадскіх раёнаў. Асобныя рамеснікі перасяляліся ў юрыдыкі кляштараў і магнатаў, але большасць перабіралася ў Занёманскую частку горада, якая абязлюдзела пасля Паўночнай вайны. Пабудовы правабярэжнай Гародні былі спалены расійскай арміяй.

Як сведчыць “Люстрацыя дымоў у Гарадзенскім павеце” 1775 г., габрэі жылі на большасці вуліц Гародні. На Замкавай вуліцы налічвалася 6 габрэйскіх і 5 хрысціянскіх камяніц, 13 габрэйскіх і 15 хрысціянскіх драўляных дамоў, а таксама 2 карчмы – адна габрэйская, другая хрысціянская. Максімальная канцэнтрацыя габрэйскіх дамоў была адзначана на *“вуліцы Плябанскай з Рынка”* – 26 габрэйскіх і 8 хрысціянскіх і на *“вуліцы над ровам Гарадніцы”* – адпаведна 39 і 1. У Занёманскім фарштаце ў 1775 г. стаялі ўжо 44 габрэйскія дамы і адна карчма. Агульная колькасць нерухомасці, што належала габрэям у Гародні, дасягала ў тым годзе 221 дома і 4 корчмаў (агульная колькасць гарадскіх дамоў складала 552). У 1794 г. мясцовым габрэям толькі на тэрыторыі Занёманскага фарштата належаў ужо 151 дом з агульнай колькасці 203.

Хутка на гэтым прадмесці каля габрэйскіх хат з’явіўся малітоўны дом (школка), упершыню ўзгаданы ў 1760 г. У драўляную сінагогу ён быў перабудаваны Бейсам Хахесасам. У 1789 г. каля бажніцы з’явіліся могілкі. Сінагога ў Занёманскім фарштаце была драўлянай і непафарбаванай. Яна складалася з трох ярусаў і ў вышыню дасягала каля 11 метраў. Галоўны фасад сінагогі быў звернуты да вуліцы двухпавярховым бабінцам на ўсю шырыню будынка. Аднасхільны дах бабінца плаўна пераходзіў у двухсхільны дах самой сінагогі. Вельмі прыгожа, “у елачку”, быў абшыты дах франтона. Па баках бабінец быў фланкіраваны двух’яруснымі прыбудовамі-вежачкамі, якія былі завершаны дахам у выглядзе двух невялікіх купалаў. У будынак вялі два ўваходы – адзін для жанчын праз лесвіцу на другі паверх у галерэю, другі для мужчын, якія маліліся ў зале на першым паверсе.

Ва ўсходняй частцы залы знаходзіўся незвычайнай прыгажосці драўляны арон-ха-кадэш з выявамі льва, аленя і птушак, якія ўзляталі з галінак дрэва. На сцяне з левага боку ад яго можна было прачытаць радкі са Святога Пісання і малітваў. Пра блізкасць Усявышняга нагадвала фраза: *“Ведай, перад кім стаіш”*. З правага боку знаходзілася месца кантара, побач з ім стаяла старажытная ханукія – падсвечнік для 8 свечак, якія

выкарыстоўваўся на свята Хануку. Свята адзначалася тыдзень, і кожны дзень запальвалася па свечцы. У цэнтры малітоўнай залы знаходзілася зробленая ў выглядзе разной альтанкі біма – узвышэнне, на якім адбывалася чытанне Торы.

У сярэдзіне XVI ст. гарадзенскія габрэі былі прыкметным чыннікам гарадской гаспадаркі. Значная частка габрэйскіх купцоў і ліхвяроў абслугоўвала патрэбы арыстакратыі. У дакументах згадваюцца Рубін Шломавіч і Рубін Доктаравіч, *"служэбнікі каралеўскай міласці"* пры каралеве Боне Сфорцы падчас яе знаходжання ў горадзе, Іегуда Багданавіч, *"купец каралеўскай міласці"*, нашчадкі якога Іегудзічы былі вядомыя сваім багаццем і ўплывовасцю.

Гарадзенскія габрэі не толькі гандлявалі самымі рознымі таварамі ў стацыянарных крамах, але і займаліся разносным гандлем. Купцы ўдзельнічалі ў замежных кірмашах, у тым ліку ў знакамітым Лейпцыгскім. Іх поспехі ўздымалі прэстыж Гародні і прываблівалі габрэйскіх перасяленцаў з Наваградка, Новага Двара, Тыкоціна і іншых месцаў. Галоўнымі канкурэнтамі гарадзенскіх купцоў былі прадстаўнікі габрэйскай суполкі Берасця (у габрэйскай традыцыі Брыск).

Гарадзенскія габрэі куплялі на мясцовым кірмашы ў шляхты і сялян зерне і адпраўлялі яго па Нёмане ў Каралявец. Пры гэтым вяртацца з Балтыкі з селядцамі і соллю ім было забаронена. Купцы-габрэі маглі купляць гэтыя тавары оптам у хрысціянскіх гандляроў, а потым прадаваць у розніцу. Вынясення такога вердыкту дамагліся ў 1501 г. ад караля Жыгімонта Вазы канкурэнты-хрысціяне. Прадметам продажу былі таксама габрэйскія рэлігійныя кнігі, скуры, тканіны, мёд, прадметы раскошы, жыта, авёс, грэчка, ячмень. Сярод гарадзенскага габрэйства былі ліхвяры, якія давалі грошы мяшчанам і шляхце з умовай вяртання пазычанай сумы з адсоткамі.

У сярэдзіне XVII ст. габрэйскія гандляры ў Гародні валодалі шматлікімі крамамі на Рынку. У 1662 г. іх права на валоданне

нерухомасцю на галоўнай плошчы горада было юрыдычна замацавана. Гэтай перамозе папярэднічала працяглая барацьба з магістратам, які спрабаваў забараніць ім купляць тут дамы. На Рынку знаходзіўся галоўны каталіцкі храм горада Фарны касцёл, і радыкальныя хрысціянскія колы падазравалі, што габрэі, назіраючы праз свае вокны за хрысціянскай цырымоніяй (напрыклад, хросным ходам), смяюцца з абрадаў каталіцкай веры. Дарэчы, у лістападзе 1669 г. кароль Міхал Карыбут Вішнявецкі загадаў, каб габрэі замуравалі вокны сваіх крам і дамоў, якія выходзілі на Рынак.

Папулярным сярод заможных габрэяў заняткам была арэнда гарадскіх падаткаў, напрыклад, маставога і васковага. Яны таксама арэндавалі і набывалі ва ўласнасць сельскагаспадарчыя ўгоддзі. Аднак пасля Люблінскай уніі 1569 г. колькасць арандатараў скарацілася, бо яны не маглі вытрымліваць канкурэнцыю з буйнымі землеўласнікамі-арыстакратамі, што карысталіся дзяржаўнымі ільготамі.

Важнае месца ў традыцыйнай структуры заняткаў гарадзенскага габрэйства займала рамяство. Габрэі займаліся вытворчасцю канатаў і скуры, ювелірных, шкляных і металічных вырабаў. У пераліку габрэйскіх рамеснікаў знойдзем каменацёсаў, кушняроў, пазуменшчыкаў, бляхараў і ліцейшчыкаў. Сярод габрэяў Гародні былі друкары, напрыклад, у сярэдзіне XVIII ст. з Нямеччыны Антоніем Тызенгаўзам быў запрошаны друкар Нохім Гісер (гэтае прозвішча перакладаецца з ідышу як друкар). Вядома, што першая кніга, надрукаваная на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага на іўрыце ў 1788 г., была менавіта гарадзенскім выданнем. Амаль поўнай была манаполія габрэяў на фурманства.

Значная доля рамеснікаў працавала на задавальненне патрэб прадстаўнікоў самой габрэйскай супольнасці. Гэта было выклікана існаваннем асобных рэлігійных запаветаў. Асабліва тычыцца гэта харчавання. Так, для святочнага стала падчас Пейсаху неабходны спецыяльны хлеб – маца, зроблены без выкары-

стання дражджэй. Для штотыднёвага свята шабату быў патрэбны здобны пшанічны хлеб у форме касы – хала. Мяса для габрэйскага стала таксама становіцца кашэрным толькі калі атрымана з габрэйскай рэзні. Згодна з традыцыямі іудаізму, можна было ўжываць мяса буйной рагатай жвачнай жывёлы, *“якая мае раздвоеныя капыты”*, з птушкі – толькі хатняй, з рыб – лускаватай. Трэфным (забароненым) лічылася і лічыцца мяса з крывёю і ўсе земнаводныя. Нельга таксама ўжываць дзічыну, бо асноўнай умовы кашэрнасці, менавіта імгненнай без пакутаў смерці жывёлы або птушкі, паляванне не гарантавала. Выраб вопраткі таксама быў падпарадкаваны рэлігійнаму кантролю. Згодна з традыцыяй, у адным адзенні не могуць сустрэцца ніткі расліннага і жывёльнага паходжання. Значыць, выраб адзення і вытворчасць прадуктаў для габрэйскай супольнасці нельга было даверыць людзям іншай рэлігійнай прыналежнасці. Таму сярод габрэйскіх рамеснікаў Гародні заўсёды было шмат краўцоў і хлебапёкаў.

Адным з папулярных заняткаў габрэйскага насельніцтва Гародні быў выраб і продаж спіртных напояў. Вядомы імёны габрэяў-шынкароў пачатку XVIII ст.: Файвіш Аронавіч, Арон Шэвялевіч, Вігдар Янкелевіч, Моўша Эбяровіч, Эльяш Маркавіч, Шмойла Абрамавіч, Эльяш Моўшавіч, Вольф Натанавіч, Гірш Абрамавіч, Ёсель Кельманавіч. Яны з’яўляліся арандатарамі корчмаў, якія належалі кляштарам і магнатам. Пры гэтым пэўная доля спіртных напояў выраблялася спецыяльна для габрэйскай супольнасці, напрыклад, разынкавае віно, якое з’яўлялася на сталах у Пейсах і Пурым.

Рамеснікі хрысціянскага і габрэйскага веравызнанняў канкурыравалі паміж сабой, што адлюстравана ў архіўных дакументах. Хрысціяне імкнуліся не дапускаць габрэяў у свае цэхі і пры гэтым спрабавалі дамагчыся ад караля прывілею на манапольнае права продажу цэхавых вырабаў у горадзе. Зрэдку атрымлівалася вырашыць пытанне юрыдычным шляхам, напрыклад, дамова 1652 г. дазволіла габрэйскім краўцам, кушнярам і шапачнікам збываць сваю прадукцыю ў Гародні без выплаты грошай на карыць хрысціянскіх цэхаў. Магчыма, гэта

звязана з узнікненнем у сярэдзіне XVII ст. асобнага габрэйскага кравецкага цэха, які ў 1706 г. нават спрабаваў падпарадкаваць сабе хрысціянскі кравецкі цэх.

Пры гэтым трэба зазначыць, што адносіны паміж хрысціянскай і габрэйскай супольнасцямі Гародні не былі ідылічнымі. З абодвух бакоў існавалі стойкія адмоўныя этнічныя стэрэатыпы, адбывалася жорсткая канкурэнцыя паміж мяшчанствам і купецтвам двух канфесій. Сацыяльныя і канфесійныя канфлікты эпохі Новага часу прывялі да абвастрэння адносін паміж гарадскімі супольнасцямі.

У ноч з 31 ліпеня на 1 жніўня 1666 г. у горадзе адбыўся габрэйскі пагром. Некалькі хрысціян напалі на габрэйскія крамы і хаты, абрабавалі іх, сапсавалі тавары, а гаспадароў пабілі. На судзе пагромшчыкам быў вынесены жорсткі прысуд, менавіта 1,5 месяца турмы і 200 злотых кары на карысць ахвяр.

У 1790 г. гарадзенская суполка перажыла “крывавы навет” – падазрэнне ва ўжыванні габрэямі ў рытуальных мэтах крыві хрысціянскіх немаўлят. Рабін Эльзар бен Шлома Вельбловер быў абвінавачаны ў тым, што ён нібыта забіў хрысціянскую дзяўчыну. Габрэй быў асуджаны на чвартаванне, кароль не зацвердзіў прысуд, а калі яму данеслі, што адмяніць пакаранне немагчыма, Станіслаў Аўгуст дэманстратыўна пакінуў горад. Варварскае пакаранне адбылося ў прысутнасці тысяч мясцовых хрысціян і некалькіх габрэяў, якія прыйшлі, каб малітвай падтрымаць няшчаснага і забраць яго цела для пахавання.

На пачатку XVIII ст. Літоўскі Ваад вылучыў Гарадзеншчыну ў асобную адміністратыўную адзінку з правамі самакіравання. Цэнтрам для яе на непрацяглы час стала вялікае мястэчка і значны цэнтр габрэйскай культуры Індура (на ідышы – Амдур). У 1720 г. кіраванне было перададзена Гародні, куды перабралася таксама рэзідэнцыя акружнога рабіна.

Гарадзенскі кагал меў уласны герб з выявай аленя, вобраз якога нярэдка сустракаецца ў габрэйскай рэлігійнай літаратуры.

# ПАДЗЕННЕ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ: БЯССІЛЛЕ І ЗМАГАННЕ

Час рэфарматарскай дзейнасці ў Рэчы Паспалітай супаў з падзеямі французскай буржуазнай рэвалюцыі, ідэі і лозунгі якой паўплывалі на частку грамадства Рэчы Паспалітай. У канцы 1792 г. у Гародні распаўсюджваліся звароты з заклікам *“Няхай жыве французская рэвалюцыя!”* Прывід шкоднага ўплыву “якабінскай заразы” напалохаў манархічныя колы ўсёй Еўропы, не выключаючы і Расіі. Між тым, многія збянтэжаныя дэпутаты Вялікага сейма не маглі зразумець навешанага на іх “ярлыка”. Адзін з дэпутатаў заявіў: *“Імператрыца называе патрыётаў “якабінамі”. Я ж думаю, што “якабіны” супраць законнага манархічнага кіравання і ўлады каралеўскай, а мы, наадварот, абараняем трон і права нашай Айчыны...”* Іншы нават жартаваў: *“Я думаю, што нас называюць “якабінамі”, таму што ў нас расійскі пасол Як*аб Сіверс!”[1] З мэтай прадухілення распаўсюджвання пагрозлівых якабінскіх уплываў каралеўскія двары не знайшлі *“іншых спосабаў для сваёй бяспекі, як зменшыць Рэспубліку Польскую ў цяснейшых межах і далучыць польскія правінцыі да памежных з імі абласцей”*[2].

Зрэшты, гэта было толькі адной з агучаных падставаў ліквідацыі Рэчы Паспалітай. Падзенне гэтай дзяржавы значна пашырала тэрытарыяльныя валоданні Расіі, Прусіі ды Аўстрыі, умацоўвала іх уплывы ў еўрапейскай палітыцы. Вядома, што толькі пасля краху Рэчы Паспалітай і далучэння да Расіі вялізных тэрыторый сучасных прыбалтыйскіх дзяржаваў, Украіны, Беларусі і Польшчы яе пачалі ў Еўропе называць “імперыяй”.

Для фармальнага зацвярджэння расійска-прускай канвенцыі аб другім падзеле Рэчы Паспалітай у Гародні сабраўся надзвычайны сойм Рэчы Паспалітай, які праходзіў з 17 чэрвеня да 23 лістапада 1793 г.[3] (за гэты час усяго адбылося 101 пасяджэнне). Гародня было абрана месцам правядзення сойма не толькі дзеля трымання старадаўняй традыцыі, але і таму, што ў го-

[1] Энгельгардт Л.Н. Записки. М., 1997. С. 111.

[2] Вейдемейер А. Двор и замечательные люди в России во второй половине XVIII столетия. Спб., 1846. Ч. 2. С. 130+131.

[3] Пасля далучэння да Расіі Гародня пачала жыць па Юлінскаму календару. Датаванне падзей пасля 1795 г. па «старому стылю».

радзе дзейнічала Таргавіцкая канфедэрацыя, якая праводзіла прарасійскую палітыку.

Адну з найважнейшых роляў у анексіі тэрыторыі шляхецкай рэспублікі сквапнымі суседзямі адыграў расійскі надзвычайны і паўнамоцны пасол у Рэчы Паспалітай, нашчадак старажытнага дацкага дваранскага роду 62-гадовы граф Якаў Сіверс, майстра інтрыгаў і крывадушнасці. Ён выкарыстоўваў усе сродкі (шантаж, подкуп, пагрозы, запалохванне ды інш.) дзеля дасягнення пастаўленай мэты. Я.Сіверс добра ведаў, як выклікаць павагу да сябе і страх мясцовай шляхты перад уласнай асобай.

Час яго побыту ў Гародні – гэта панарама раскошнага жыцця, калі чаргаваліся бясконцыя балі, пышныя абеды і пікнікі, ганаровыя ўрачыстасці, прадстаўнічыя візіты і звычайныя папойкі. Складваецца ўражанне, што мясцовыя магнаты і шляхта, якія прыбылі ў горад з розных куткоў Рэчы Паспалітай, прадчуваючы пагібель уласнай дзяржавы, намагаліся як мага больш "схапіць паветра перад смерцю" і падчас шматлікіх забаўляльных мерапрыемстваў пілі, елі, танцавалі...

Якаў Сіверс прыбыў у Гародню пад грукат гармат яшчэ 21 сакавіка 1793 г. і размясціўся ў трохпавярховым доме каралеўскай эканоміі. Ён пісаў да старэйшай дачкі: *"Дагэтуль жыву тут адасоблена. Стол накрываецца на 16 ці 18 прыбораў і яшчэ іншы на 10 ці 12. Але на наступным Святым тыдні мой дом адкрыецца для публікі балем і вячэрай. Будзе 150 гасцей, у тым ліку 45 дам і дзяўчын"*[4]. На другі дзень святкавання расійскі пасол даваў баль. *"Былі 44 дамы,* – пісаў ён малодшай дачцэ Луізе Іксkуль, – *некалькі старых, некалькі намешчыц, шмат прыгожых дзяўчын і жанчын. Яны здаваліся вельмі задаволенымі, шмат танчылі і яшчэ больш дзівіліся пышнасці вячэры на 50 прыбораў. Пасля вячэры баль працягваўся, але каля паўночы ўсе разышліся. Я пратанцаваў некалькі паланэзаў... Паміж іншымі была графіня Патоцкая, якая з надзвычайнай прыемнасцю танцавала казачка; англезы ішлі дрэнна, а менуэт зусім не танцавалі..."*[5]

[4] Иловайский Д. Гродненский сейм 1793 г. Последний сейм Речи Посполитой. М, 1870. С. 30+31.

[5] Иловайский Д. Гродненский сейм 1793 г. Последний сейм Речи Посполитой. С. 36-37.

Падобным чынам прайшлі імяніны расійскага пасланніка 14 ліпеня. *"Мне дасылалі кошыкі і вазоны з кветкамі, букеты і нават італьянскія вершы. Князь біскуп віленскі даў вялікі абед на 50 прыбораў, а спадарыня кашталянша графіня Ажароўская арганізавала вялікі вячэрні баль і вячэру..."* Пышныя святкаванні цягнуліся цэлы тыдзень у выглядзе абедаў, раўтаў, вячэраў, феерверкаў і ілюмінацый. У апошні дзень святкавання, 21 ліпеня, адбылася тэатральная пастаноўка французскай п'есы *"La proverb"*. Пасля абеду ўсе дэпутаты сойма, а таксама расійскія і польскія афіцэры накіраваліся ў батанічны сад, дзе Ажароўская ўласнаручна запаліла феерверк. Потым публіку запрасілі на вячэру, якая перайшла ў баль на ўсю ноч.

Наступны дзень прынёс новае свята ўжо з нагоды імянін жонкі спадчынніка расійскага прастола Марыі Фёдараўны. Якаў Сіверс даваў абед на 60 асобаў. Праз некалькі дзён ужо Пулаўскі ладзіў у сябе баль у гонар графа Мікалая Зубава, які спыніўся ў Гародні на шляху з Пецярбурга ў Варшаву. 27 жніўня расійскі пасол даваў баль і вячэру на 150 асобаў у гонар караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Потым баль і канцэрт з удзелам італьянскай трупы адбыўся ўжо ў Мікалая Зубава. 5 верасня святкавалі заключэнне Расіяй Яскага міру з туркамі.

Сойм прыцягнуў у горад шматлікіх гасцей. Гародня змяніла сваё знешняе аблічча. Прыезджыя занялі амаль усе дамы і будынкі, у садах былі пабудаваны шалашы з галінаў і дошак для коней, экіпажаў і прыслугі. Каля езуіцкага кляштара на Базарнай і Замкавай плошчах у ятках, будках, перасоўных лаўках і палатках гандлявалі немцы, рускія, армяне, англічане, персы, казанскія татары, габрэі і палякі з Вільні, Варшавы і Любліна. Мадыстка Ле Ду з Варшавы прыбыла са штатам француженак. Яе кватэра на Саборнай вуліцы стала свайго роду "эльдарада" для знатных дам.

Ліфляндскі падарожнік, які праязджаў праз Гародню перад пачаткам сойма, пісаў: *"Нашы штаб-афіцэры ў пышных каля-*

*скаx, запрэжаных шасцёркай ці чацвёркай коней, раз’язджалі па вуліцах, а польскія магнаты ў сціплых экіпажах трымаліся ад іх збоку. Шмат крамаў, адкрытых варшаўскімі мадысткамі... Навакольны край не вылучаецца багаццем, таму кватэры і харчовыя прыпасы празмерна дарагія. Пакой з ложкам каштаваў у дзень ад 1 да 3 дукатаў, а прыстойны абед – ад 8 да 12 злотых. За вазок сена плацілі ад 3 да 4 дукатаў”*[6].

Шчодрыя грашовыя ўзнагароды прыхільнікам Кацярыны II (кожны дэпутат каштаваў да 200 чырвонцаў у месяц), абеды, забеспячэнне хаўруснікаў кватэрамі і экіпажамі дазволілі 17 чэрвеня пачаць працу сойма. Нязгодным з падрыхтаванымі рашэннямі спынялі выплаты, накладвалі секвестр на маёнткі, арыштоўвалі. Аднак дэпутаты пагадзіліся весці перамовы аб узаконьванні падзелу тэрыторыі рэспублікі толькі з Расіяй.

Сойм стаў полем барацьбы паміж нязначнай колькасцю патрыятычна настроеных дэпутатаў і большасцю карумпаваных, баязлівых і хісткіх крывадушнікаў і прыстасаванцаў. Час праходзіў у віры спрэчак, зацяжных перамоваў, рэзкіх пратэстаў і... выразных саступак патрабаванням Расіі і Прусіі у выніку галасаванняў.

Першы перыяд працы сойму працягваўся з 17 чэрвеня па 22 ліпеня, калі разглядалася пытанне аб заключэнні трактата з Расіяй. 21 чэрвеня маршалак Станіслаў Бялінскі зачытаў ноты расійскага і прускага паслоў аб ратыфікацыі іх захопаў. Ноты былі аднолькавыя, што сведчыла аб згодзе манархаў. Кароль у адказ нагадаў аб сваім далучэнні да Таргавіцкай канфедэрацыі з умоваю захавання цэласнасці Рэчы Паспалітай.

24 чэрвеня Сіверс і прускі пасол Людвік Бухгольц зноў выступілі з нотамі, дамагаючыся выбару дэлегацыі для падпісання трактатаў, па форме падобных да трактатаў першага падзелу 1772 г. Дэпутат Юзаф Кімбар заклікаў палату прысягнуць, што яна не дапусціць падзелу краю. На наступным пасяджэнні біскуп Юзаф Касакоўскі са згоды караля прапанаваў выбраць дэлегацыю не для падпісання трактата, а для нара-

[6] Иловайский Д. Гродненский сейм 1793 г. Последний сейм Речи Посполитой. С. 156

ды і ўзгадненняў. 107 галасамі супраць 24 такая дэлегацыя была выбрана ў складзе Юзафа Касакоўскага, кашталяна Пятра Ажароўскага, віленскага біскупа Ігнацыя Масальскага, арцыбіскупа Варшаўскага Войцаха Скаржэўскага, усіх міністраў і некаторых дэпутатаў.

28 чэрвеня Касакоўскія пазнаёмілі дэпутатаў з планам вечнай уніі Польшчы з Расіяй, *“каб Польшча і Расія лічыліся на будучыню як адно непадзельнае цэлае”*. Гэта была спроба пазбегнуць падзелу краіны і атрымаць дапамогу Расіі ў змаганні з прэтэнзіямі Прусіі.

3 ліпеня праходзіла абмеркаванне інструкцыі для дэлегацыі. Дэпутат Залескі ўзняў голас у падтрымку прапановы Касакоўскага аб уніі з Расіяй. Акрамя таго, абмяркоўваліся пытанні асабістай бяспекі дэпутатаў, вяртанне захопленых тэрыторыяў, магчымасці дапамогі з боку Аўстрыі.

Расійскаму паслу Сіверсу не падабалася зацягванне справы, ён дамагаўся хуткіх і станоўчых крокаў. Каб паўплываць на паслоў, пад Гародню сцягваліся дадатковыя войскі. Каля горада размясціўся лагер пяхотнага палка, з Занёманскага фарштата ў цэнтр пераводзіліся пяхотныя і казацкія часці. На ўсіх дарогах паставілі вайсковыя пікеты, а з Коўна быў выкліканы казацкі полк. Сіверс пагражаў, што не выпусціць нікога з залы пасяджэнняў, пакуль не будзе вызначана дэлегацыя з паўнамоцтвамі да падпісання трактата. Быў аддадзены загад аб арышце найбольш актыўных дэпутатаў Юзафа Панінскага і Служэўскага, але тыя здолелі выехаць з Гародні.

Ціск і пагрозы адыгралі сваю ролю. 5 ліпеня 74 галасамі супраць 59 была прынятая інструкцыя дэлегацыі, якую абралі толькі 10 ліпеня. У яе склад увайшлі сенатары біскупы Войцах Скаржэўскі, Юзаф Касакоўскі, Ігнацы Масальскі, кашталяны П.Ажароўскі і Аборскі, ваявода віленскі Міхаіл-Геранім Радзівіл, паслы Шыман Касакоўскі, Юзаф Анквіч, К.Янкоўскі, А.Валеўскі ды інш., літоўскія міністры маршалак вялікі ВКЛ Людвік

Тышкевіч, Людвік Канстанты Плятэр, гетман вялікі літоўскі Міхаіл Казімір Агінскі, Антоні Дзяконскі, каронныя міністры князь Антоні Сулкоўскі, гетман польны Юзаф Забела.

11 ліпеня па жаданні Сіверса склад дэлегацыі папоўніўся яшчэ шасцю дэпутатамі. Кароль вызначыў іх сам, не раіўся з соймам, што выклікала абурэнне дэпутатаў. На пасяджэнні гэтага ж дня прачыталі ноту Сіверса, у якой пасол Кацярыны II патрабаваў неабмежаваных паўнамоцтваў для дэлегацыі і хутчэйшага заключэння трактата. Сіверс пагражаў выслаць войскі для ваеннай экзекуцыі ў каралеўскія эканоміі, маёнткі і нават кватэры дэпутатаў сойма – канфіскаваць маёмасць Рэчы Паспалітай. На гэтыя пагрозы адказаў дэпутат А.Карскі: *“Губляем усё, але захаваем хоць апошнюю ўласнасць – шляхетнасць! Яе ніколі не зможам лепш праявіць чым сёння”*[7].

22 ліпеня 1793 г. трактат з Расіяй быў падпісаны. У ім абвяшчаўся вечны мір паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай, акрэсліваліся будучыя межы, пры гэтым Расія атрымлівала занятыя тэрыторыі, але гарантавала цэласнасць рэштак Рэчы Паспалітай. Абодва бакі адмаўляліся ад тэрытарыяльных захопаў і прэтэнзіяў. Расія гарантавала свабоду палітычнага рэфармавання Рэчы Паспалітай і заяўляла пра свабоду для каталіцкага веравызнання і недатыкальнасць маёмасці касцёлаў і духавенства. Трактат падлягаў ратыфікацыі на працягу шасці тыдняў.

Другі перыяд працы Гарадзенскага сойма ўмоўна пачаўся 23 ліпеня і працягваўся да 25 верасня. Галоўным пытаннем было падпісанне аналагічнага трактата з Прусіяй. Прускі пасол Бухгольц меў сярод дэпутатаў вельмі слабую падтрымку з пяці чалавек, бо большасць лічыла менавіта Прусію ініцыятарам падзелаў Рэчы Паспалітай і прычынаю ўсіх няшчасцяў краіны. Нянавісць да паўночнай суседкі выйшла на вуліцы горада. Уначы былі выбітыя шыбы ў доме прускага пасла. Удзень на плошчы перад езуіцкім кляштарам спалілі партрэт прускага караля, а імёны яго “паплечнікаў” вывесілі ў сейме на пацеху публікі,

[7] Kraszewski J. Polska w czasie trzech rozbiorów. 1772-1799. T. III. Warszawa, 1903. S. 315.

пазней разагнанай казакамі. Толькі 3 жніўня сойм упаўнаважыў дэлегацыю, якая падпісала трактат з Расіяй, зрабіць тое самае з Прусіяй.

Тым часам набліжаўся тэрмін ратыфікацыі трактата з Расіяй. Многія дэпутаты выступалі супраць. Так, дэпутат Шыдлоўскі заявіў: *"Мы звыкліся з подласцю, ужо другі раз са страхам аддаем наш край з крывадушнай надзеяй, што выратуем рэшткі. Можа хутка прыйдзе час, калі прыйдзецца аддаць у трэці раз..."*[8] 17 жніўня пасля бурлівага пасяджэння, калі патрыёты спрабавалі перашкодзіць чытанню трактата, ён быў ратыфікаваны 66 галасамі супраць 21.

Ад Рэчы Паспалітай засталася меншая палова, ды і то не надоўга. 26 жніўня Падгорскі ўнёс прапанову прыняць трактат з Прусіяй. Шыдлоўскі, наадварот, прапанаваў разарваць усе дамовы з Прусіяй, бо яна не выконвала палажэнняў трактатаў 1773 і 1789 гг. 28 жніўня Бухгольц стаў пагражаць захопам Кракава і Сандамірскага ваяводства. Абураныя тонам прускай ноты, патрыёты заклікалі падтрымаць прапанову С.Шыдлоўскага. На Падгорскага крычалі: *"Здраднік!"* і пагражалі соймавым судом.

Зламаць супраціў атрымалася толькі гвалтам. 2 верасня 1793 г. Горадня была аточана войскам так, што ніхто не мог выйсці з дому без пісьмовага дазволу камenданта. Два батальёны грэнадзёраў з 4 гарматамі, пры каторых стаялі з запаленымі кнотамі кананіры, размясціліся ў замкавым двары. У калідорах замка стаялі расійскія вартавыя. Генерал Раўтэнфельд з дванаццаццю расійскімі афіцэрамі ўвайшлі ў залу пасяджэнняў і селі за дэпутацкімі лавамі. Маршалак сойма Бялінскі растлумачыў гэтыя меры тайнаю змоваю супраць караля.

15 верасня біскуп І.Масальскі, К.Мячынскі, Валовіч і некалькі дэпутатаў пайшлі да караля з прапановай стварэння новай Гарадзенскай канфедэрацыі. Кароль згадзіўся. Усе прысутныя пры гэтым падпісалі акт аб яе стварэнні, а на наступны дзень подпісы паставілі амаль усе дэпутаты. У гэты

[8] Kraszewski J. Polska w czasie trzech rozbiorów. 1772-1799. T. III. S. 323-333.

ж час прыбыў кур’ер з Берліна з інфармацыяй, што Прусія адмовілася ісці на ўступкі. Бухгольц ізноў пагражаў захопам новых тэрыторый Польшчы. Дэпутаты-ліцвіны, каб унікнуць прымусу і ганьбы, паціху сталі ўцякаць з Гародні. Я.Сіверс загадаў расставіць на гасцінцах вайсковыя пікеты з загадам арыштоўваць кожнага, хто не будзе мець пісьмовага дазволу на выезд. 16 верасня паслы Юзаф Краснадэмбскі, Францішак Мікорскі, Юзаф Шыдлоўскі, Тамаш Скаржынскі былі арыштаваныя і ноччу вывезеныя з горада.

23-24 верасня адбылося знакамітае “нямое” пасяджэнне. Напачатку дэпутаты сталі патрабаваць выпусціць арыштаваных. Да Сіверса двойчы пасылалася дэлегацыя, ездзіў нават віленскі біскуп, але ўсё дарэмна. Расійскі пасол заявіў, што не вызваліць, нават калі атрымае загад з Пецярбурга, бо гэтага нібыта патрабуе сітуацыя. Больш за тое… Ён паабяцаў арыштаваць і тых дэпутатаў, што засталіся, калі трактат не будзе прыняты. А.Рачынскі прапанаваў пратэставаць, абвясціць дэкларацыю аб гвалтах і *“зачыніцца ў абсалютным маўчанні”*, якое, на яго погляд, будзе самым лепшым тлумачэннем *“нашых пачуццяў і стану”*. Яго падтрымаў кароль, сказаўшы, што там, дзе нельга выказваць свае погляды, застаецца толькі маўчаць.

Пры магільным маўчанні быў зачытаны праект трактата. Генерал Раўтэнфельд паведаміў пра загад Сіверса нікога не выпускаць з залы, пакуль не пройдзе галасаванне, і паабяцаў прынесці саломы, каб было дзе спаць. Сойм моўчкі выслухаў пагрозы. Прачыталі дэкларацыю Анквіча, якая тлумачыла сітуацыю і неабходнасць падпарадкавацца сіле. Таксама маўчалі. Сакратар прачытаў праект зацвярджэння дэлегацыі для падпісання трактата з Прусіяй. У адказ ізноў маўчанне. Генерал Раўтэнфельд падышоў да караля і прапанаваў паставіць праект на галасаванне. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі адказаў, што не мае ўлады прымусіць дэпутатаў спыніць маўчанне.

Генерал сабраўся ўжо выклікаць жаўнераў, і тут маршалак Бялінскі прыступіў да галасавання. Ён запытаў дэпутатаў: *“Ці згодныя, каб дэлегацыя падпісала праект?”.* Адказам было маўчанне. Бялінскі двойчы паўтарыў пытанне перад “нямой” залай і заявіў, што рашэнне прынята аднагалосна. Ён выклікаў канстытуцыйную дэлегацыю, якая моўчкі падпісала трактат. У 3.30 ночы кароль закрыў пасяджэнне.

У выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай да Прусіі адышла тэрыторыя больш чым ў 1 тыс. кв. міляў з насельніцтвам больш за 1,1 млн. чалавек.

Трагедыя, якая лунала ў паветры Гародні, нейкім парадаксальным чынам перапляталася са шматлікімі святочнымі імпрэзамі. Удзень дэпутаты казалі патрыятычныя прамовы, ганьбілі Прусію, а вечарамі за грошы расійскай і прускай дзяржаваў ладзілі застоллі, адзначалі імяніны Сіверса і караля. Расійскі гісторык Міхаіл Кастамараў з гэтай нагоды пісаў: *“Пасланнікі, якія прыехалі забіваць Польшчу, частавалі палякаў, а палякі, па сваім звычаі, пілі і танцавалі над выкапанай магілай сваёй Айчыны”*[9]. Гэта назіралі і сучаснікі. Вось, што пісаў Шчураўскі Хуго Калантаю: *“Тут лічаць, што ні адзін народ так весела не аддае другому сваёй зямлі і людзей, як палякі, бо танцуюць”*[10].

Пасля 25 верасня пачаўся апошні перыяд працы Гарадзенскага сойма, калі галоўнымі пытаннямі былі заключэнне саюзнага трактата з Расіяй і прыняцце новай (Гарадзенскай) канстытуцыі. Праект дамовы Рэчы Паспалітай з Расіяй аб саюзе і сяброўстве паступіў на разгляд сойма 14 кастрычніка. Умовы яго былі выкладзены ў 17 артыкулах, сярод іх фігуравалі ўзаемныя гарантыі недатыкальнасці чужых тэрыторый, вырашэнне пытанняў аб вайне і міры са згоды абодвух бакоў. Імператрыца Кацярына II станавілася гарантам Канстытуцыі Рэчы Паспалітай, расійская і польская шляхта атрымоўвалі роўныя правы ў Расіі і Польшчы. Да гэтага трактата далучалася дамова пра гандаль. Пераважнай большасцю галасоў праект быў прыняты.

[9] Костомаров Н.И. Последние годы Речи Посполитой. М., 1994. С. 561.

[10] Kraszewski J. Polska w czasie trzech rozbiorów. 1772-1799. T. III. S. 337.

18 лістапада пачалося абмеркаванне тэксту новай канстытуцыі, якая, адхіляючы праграму Таргавіцкай канфедэрацыі, была камбінацыяй расійскіх пажаданняў з артыкуламі канстытуцыі 1775 г. і рэформамі 1788 г. 23 лістапада канстытуцыя была прынята.

На апошнім пасяджэнні ўночы 24 лістапада была абраная Пастаянная Рада. Каля 9 гадзін раніцы дэпутаты ў замкавай капліцы адспявалі *Te Deum*. Гарадзенскі сойм скончыўся. Дэпутаты разыходзілася панурыя, смутныя, з пачуццём сораму. Кароль пастарэў і збляднеў. Разам з расійскім паслом Сіверсам ён выехаў у Варшаву.

Разам са шкодным "якабінізмам" на беларускую зямлю прыйшлі навамодныя норавы і звычкі. Знамянальна, што адна з каханак польскага караля, французская эмігрантка маркіза Люлі, менавіта ў Гародні прадэманстравала жаночую вопратку без кашулі[11]. Новы стыль адзення палохаў прыхільнікаў старога традыцыйнага ладу жыцця. Гародня ім бачылася сталіцай распусты. Здзіўлены і збянтэжаны свабодай нораваў гарадскіх салонаў валынскі шляхціц Ян Дуклан Ахоцкі апісаў знешні выгляд каханкі генерала Паўла Цыцыянава Франусі на адным з баляў. Яна была "апранутая" (хутчэй распранутая) па новай модзе: *"Босыя ножкі, усе пальцы ног, аздобленыя дарагімі камянямі, пярсцёнкі развешаныя нібы кольчыкі, тапкі замест боцікаў, падобныя да манаскіх і прывязаныя белымі стужкамі, што абмотвалі нагу аж да калена. Замест кашулі – сукенка з нейкай вельмі лёгкай тканіны, паднятая на правай назе гірляндай вышэй калена. Грудзі цалкам адкрытыя..."* Асобы, што ішлі ззаду ці танцавалі побач, наступалі на хвост лёгкай сукенкі, якія абрываўся і ўводзіў у сорам неасцярожную модніцу. Казалі, што генерал патраціў на каханку каля 30 тыс. руб.

Але барацьба за Айчыну працягвалася. 24 сакавіка 1794 г. на Рынку Кракава Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка (1745-1817) урачыста прынёс прысягу *"ваяваць за Айчыну і зламаць*

[11] Рассказы о польской старине. Записки XVIII века Яна Дуклана Охотскага с рукописей, после него оставшихся, переписанные и изданные И. Крашевским. СПб., 1874. Т. 1. С. 313

*яе аковы"*. У Ратушы ён падпісаў Акт паўстання, пад якім потым паставілі подпісы ўсе ахвотныя, прыблізна некалькі тысяч чалавек. Пасля Касцюшкі ў Ратушы выступіў былы дэпутат ад Кракава на Чатырохгадовы сойм Аляксандр Ліноўскі, які сказаў, што пакуль ён тут гаворыць *"дойдзе справа, падобная кракаўскай і да Варшавы, Гародні і Вільні"*. Ён не памыліўся.

Наогул, у паўстанні прыняло ўдзел каля 150 тыс. чалавек (90 тыс. войска, 15 тыс. гарадской міліцыі, 40 тыс. паспалітага рушэння). На землях Беларусі і Літвы Касцюшку падтрымалі больш за 30 тыс. чалавек з ліку шляхты, духавенства, мяшчан і сялян.

У ноч з 22 на 23 красавіка 1794 г. атрад Якуба Ясінскага, стваральніка тайнай арганізацыі "віленскіх якабінцаў" ("Віленская змова"), пачаў паўстанне і захапіў Вільню. Камандзір мясцовага гарнізона М. Арсеннеў быў арыштаваны, амаль тысяча расійскіх жаўнераў трапіла ў палон. Арыштаваны гетман вялікі літоўскі Сымон-Марцін Касакоўскі (удзельнік сейма 1793 г.) быў павешаны як здраднік.

Вырвацца з Вільні ўдалося толькі капітану М. Тучкову і маёру Раўтэнбергу. Прыхапіўшы гарматы, яны адышлі да Гародні, ператвараючы шлях свайго адступлення ў выпаленую зямлю.

24 красавіка 1794 г. каля віленскай Ратушы быў абвешчаны *"Акт паўстання Народа Вялікага Княства Літоўскага"*. У ім заяўлялася аб аднаўленні вольнасці, грамадзянскай роўнасці і значэнні кракаўскага акта пра пачатак паўстання[12]. У гэты ж дзень была створана Найвышэйшая Літоўская рада як паўстанцкі орган улады на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, у якую ўвайшоў і прадстаўнік ад Гародні Францішак Мушынскі.

Прускі пасол Людвік Бухгольц, апавядаючы пра падзеі ў Вільні ў лісце Фрыдрыху Вільгельму II, адзначыў: *"У Гародні павінны былі здарыцца такія ж падзеі, але генерал князь Цыцыянаў, які там начальстваваў, адышоў з горада са сваім гарнізонам і заняў вельмі выгодныя пазіцыі каля Гарадніцы над Нёманам, дзе акапаўся"*[13].

[12] Стогн. Паўстанне і вайна 1794 года ў Літоўскай правінцыі. Дакументы. Мінск, 2002. С. 54.

[13] Buchholtz L. Powstanie kościuszkowskie w świetle korespondencji posła pruskiego w Warszawe. Warszawa, 1983. S. 134.

Як вядома, расійскі генерал, пагражаючы гораду артылерыйскім абстрэлам, прымусіў гарадзенцаў заплаціць вялізную кантрыбуцыю, якая склала больш за 100 тыс. руб., і апроч таго, абрабаваў скарбніцу, касу каралеўскай эканоміі, мясцовую пошту. Расійцы забралі нават частку абсталявання і сукно гарадзенскай суконнай фабрыкі. 5 мая яны адышлі ў накірунку Наваградка.

9 мая ў мястэчку Сакулка паблізу, Гародні прадстаўнікі гарадзенцаў і мясцовыя жыхары пад кіраўніцтвам свайго маршалка Францішка Боўфала сабраліся пад аховаю невялікай каманды татарына Азулевіча і абвясцілі аб далучэнні да паўстання.

Была выбрана мясцовая паўстанцкая ўлада – Гарадзенская парадкавая камісія, якая з 14 мая знаходзілася ў Новым замку. Яе пасяджэнні адбываліся ў той самай зале, дзе зусім нядаўна засядаў апошні сойм Рэчы Паспалітай.

Падскарбі вялікі літоўскі, камандзір віленскіх стралкоў у паўстанні і вядомы кампазітар Міхал Клеафас Агінскі ўспамінаў, што Камісію ўзначаліў Францішак Боўфал, а яе сябрамі (камісарамі) былі Канстанцін Ельскі, Яўхім Храптовіч, а таксама амаль палова сяброў Гарадзенскага магістрата. У крымінальным судзе засядалі К.Абрамовіч, Я.Ясінскі, Ф.Міхалкевіч, А.Гопэ, Станіслаў Гоўвальт, М.Грамыка, у камісіі парадку – А.Гуліанеці, А.Мальчэўскі, Б.Плонскі, у дэпутацыі бяспекі - Я.Скродзкі, І.Шаняўскі, у скарбовай дэпутацыі – П.Пастольскі, Ю.Зялінскі, Я.Канопка. Агінскі таксама прыгадаў, што ў Гародні знаходзіліся паўстанцкія войскі, якія рыхтаваліся да баявых дзеянняў[14].

Камісія прыклала шмат намаганняў па прапагандзе ідэй паўстання і мабілізацыі людзей у шэрагі інсургентаў. Адным з моцных агітацыйных сродкаў фарміравання грамадскай думкі былі друкаваныя адозвы. Варта адзначыць, што ў друкарнях Гародні былі выдадзеныя 123 адозвы і брашуры, нават больш чым у Вільні.

З 23 жніўня па 1 кастрычніка ў Гародні дзейнічала Цэнтральная дэпутацыя ВКЛ, галоўны выканаўчы орган улады паўстанцаў у межах рэштак Вялікага Княства Літоўскага. Гэта, фактычна,

[14] Ogiński M. Pamiętniki o Polsce i Polakach od 1788 r aż do końca roku 1815. T. 1. Poznań, 1870. S. 317.

ператварыла горад у часовую сталіцу ВКЛ. З сярэдзіны верасня Гародня з часткай Гарадзенскага павета па сутнасці заставаліся адзінай тэрыторыяй якую кантралявалі паўстанцы. Сюды прыбылі ацалелыя паўстанцкія атрады Т.Ваўжэцкага са Жмудзі, А.Хлявінскага і П. Грабоўскага з-пад Вільні.

14 верасня Якуб Ясінскі даслаў Касцюшку рапарт з праектам ваенных дзеянняў супраць Прусіі. Ён прапанаваў сабраць у Гародні вайсковыя часці Рамуальда Гедройца, Тамаша Ваўжэцкага, батальёны стральцоў з Ломжы, узмацніць іх артылерыяй і менавіта адсюль пачаць наступ.

16 верасня "Вольная газета Варшаўская" надрукавала ліст-зварот гарадзенскага шляхціца, гарачага патрыёта і свядомага рэспубліканца Даўкшы да "грамадзяніна Коцела" з наступнымі радкамі: *"Калі ёсць такія грамадзяне, што ўцякаюць з Гародні, то гэта не я. Я подла ўцякаць не буду. Калі пойдзеш, як павінен, да войска, вазьмі мяне з сабою. Я не маю кар'ерных амбіцый, хачу толькі змагацца за Бацькаўшчыну [...] Усё сэрца маё поўнае нянавісці да дэспатаў [...] Сапраўдны рэспубліканец не патрабуе ніякіх выгод. Сухары і трохі саломы пад бок павінны гартаваць яго цела".*

Пасля вераснёўскіх баёў пад Крупчыцамі і Цярэспалем, дзе войскі паўстанцаў пацярпелі паражэнне ад корпуса генерала Аляксандра Суворава, ім прыйшлося адыходзіць у Польшчу. Менавіта ў гэты час у Залессі Міхала Клеафаса Агінскага нарадзіўся славуты паланэз "Развітанне з Радзімай".

Касцюшка спрабаваў выратаваць становішча. 29 і 30 верасня начальнік паўстання разам з сакратаром Юльянам Нямцэвічам прыязджаў у Гародню дзеля прыспешвання мабілізацыі. Вядомы яго загад, выдадзены ў Гародні 30 верасня 1794 г., у якім ён абяцаў кожнаму жаўнеру ў спадчыннае ўладанне зямлю з нацыянальнага фонду. У кароткі час Гародня дала каля 5 тыс. жаўнераў з гараджанаў і шляхты. Як адзначаў гісторык Юзаф Ядкоўскі, *"гарадзенскія мяшчане масава сталі ў шэрагі службы аховы краю"*[15]. Менавіта ў Гародні за мужнасць і самаахвяр-

[15] Jodkowski J. Grodno. Wilno, 1913. S. 43.

насць з рук кіраўніка паўстання ганаровыя пярсцёнкі атрымалі Я.Ясінскі, Т.Ваўжэцкі, С.Макраноўскі, маёр Корсак, Р.Гедройц, паручнік Я.Гарноўскі.

З Гародні Касцюшка вярнуўся ў свой лагер Макраны пад Варшаваю. Юльян Нямцэвіч успамінаў, што *"звычайна мяккі і словаахвотлівы жартаўнік Касцюшка пасля вяртання з Гародні, замкнуўся ў сабе. Што і гаварыць, справа горкая. Расійскія войскі захапілі Вільню, не сёння-заўтра зоймуць і Гародню"*[16].

Сапраўды, неўзабаве ацалелыя часці паўстанцкага войска разам з сябрамі Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ пад пагрозай акружэння былі вымушаны пакінуць Гародню і праз Саколку і Беласток накіравацца ў Варшаву дзеля яе абароны. 3 кастрычніка войскі генерал-паручніка О.В.Дэрфельдэна занялі Гародню.

Пасля разгрому паўстання пачаліся арышты і расправы. Асноўную масу арыштаваных адпраўлялі ў Смаленск, некаторыя засталіся ў Гародні. Напрыклад, у Старым замку ўтрымліваліся два непасрэдныя ўдзельнікі смяротнага пакарання гетмана Сымона Касакоўскага, менавіта капітан Калантай, які арыштаваў гетмана і *"ўздымаў чэрнь да бунту"*, і паручнік Міхайлоўскі.

Між тым, новым гаспадаром краю стаў генерал-губернатар Эстляндскі, Курляндскі і Віленскі Мікалай Рапнін, які абраў месцам сваёй рэзідэнцыі Гародню. Ужо 28 снежня 1794 г. новаму генерал-губернатару ў Гародні прысягнулі 2,5 тыс. мясцовых шляхціцаў, духоўных асобаў і мяшчанаў. Такім чынам, Гарадзеншчына, фактычна, была далучаная да Расійскай імперыі яшчэ да трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай. 28 чэрвеня 1795 г. было створанае Вярхоўнае Літоўскае праўленне.

Князь М.Рапнін атачыў сябе вялізнай світай (больш за 150 чал.). Але сам жыў *"на паходную ногу"*. Кожны дзень з 7 гадзін раніцы займаўся справамі, прымаў наведвальнікаў. У 14 гадзін накрываўся стол на 120 асоб, але часам ад'ютантам не хапала месца. Пасля абеду адпачываў 20-30 хвілін, потым ізноў займаўся справамі, а ў добрае надвор'е выязджаў верхам

[16] Niemcewicz J.U. Pamiętniki czasów moich. Paryż, 1848. S. 217.

за горад. На стайні трымаў да 40 верхавых коней. У 20 гадзін прыходзіў у гасцёўню да княгіні, з якой вячэралі 30-40 дам і мужчын, у 23 гадзіны ішоў адпачываць. Два разы ў тыдзень ладзіў балі, на якія прыязджалі госці з Варшавы і Львова. У Гародні кватаравалі Старааскольскі і Пскоўскі пяхотныя палкі, камандзіры якіх Канаўніцын і Фёдар Лівен таксама кожны дзень ладзілі "стол" для сваіх афіцэраў[17].

Адзначым, што расійскія ўлады захавалі ранейшую сістэму падаткаабкладання. У час паўстання 1794 г. і пасля яго падаўлення кантрыбуцыйныя сумы прызначаліся для пакрыцця коштаў барацьбы з інсургентамі. Збор падаткаў ажыццяўляўся паводле палажэнняў Літоўскай скарбовай камісіі. У пачатку лістапада 1794 г. для збору падаткаў з дазволу Паўла Цыцыянава быў створаны асобны Скарбовы дэпартамент пры Гарадзенскай парадкавай камісіі на чале з Віктарам Шумкоўскім. У склад Дэпартамента ўваходзілі харунжы Людвіг Панцэжынскі, суддзя гродскі Францішак Гасеўскі, Юзаф Яленскі, падпалкоўнік Тадэвуш Сухадолец. Камісарам быў былы скарбовы рэгент Камінскі, сакратаром – былы сакратар скарбовай камісіі Валенты Пжэсмыцкі, касірам – Казімір Язерскі. Падаткі збіраліся пад пагрозай вайсковай экзекуцыі, а грошы ішлі на ўтрыманне расійскага войска.

Скарбовы дэпартамент пры Гарадзенскай парадкавай камісіі таксама займаўся зборам мыта і даходаў секвестраванай Гарадзенскай эканоміі. У сярэдзіне сакавіка 1795 г. было абвяшчана пра захаванне ў Літве адкупной сістэмы збораў на аснове ранейшых соймавых пастаноў і рашэнняў Літоўскай скарбовай камісіі. Таксама захоўваліся адмысловыя падаткі: чопавы (з піцейных устаноў), сосавы (з тытуню), кансумпцыйны (з мяса), а таксама збор з клеймавання ігральных карт. Чопавы і сосавы падаткі складалі ў Гародні суму 10,8 тыс. руб., кансумпцыйны – 4,6 тыс. руб.

У снежні 1794 г. былы кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі атрымаў указ Кацярыны II, які вызначыў месцам яго пражывання Гародню.

[17] Воспоминания Фёдора Петровича Лубяновского 1777-1834. М., 1872. С. 86-89.

Гародня стала прытулкам апошняга караля Рэчы Паспалітай. Пад канвоем эскадрона драгун і 30 казакоў яго прывезлі з Варшавы ў Гародню генерал А.Тармасаў і граф І. Безбародка. У горад ён пераехаў са сваім дваром, які налічваў каля 200 чалавек, на пачатку студзеня 1795 г.

Панятоўскі жыў на другім паверсе Новага замка. Каля авальнай залы для аўдыенцыяў была ягоная спальня, паблізу – пакоі доктара Боцклера, сакратара Станіслава Бадэні, камердынера Францішка Рыкса. У суседнім пакоі днём і ноччу знаходзіліся дзяжурныя шамбеляны. Астатнія пакоі займала сям'я караля, да якой улетку далучыліся ягоныя сёстры Людвіка Замойская і Ізабэла Браніцкая, а таксама іншыя блізкія сваякі. У левым крыле замка знаходзіліся гаспадарчыя памяшканні. У афіцынах кватэравалі сакратары і пажы, а таксама ад'ютант А.Бышэўскі з сям'ёю. Рэшткі двара размясціліся ў памяшканнях Старога замка і суседніх арэндаваных дамах.

Станіслава Аўгуста Панятоўскага трактавалі амаль як арыштанта. Пра гэта даволі яскрава сведчыць тайная інструкцыя М.В.Рапніна начальніку Гарадзенскага гарнізона генералу П.Цыцыянаву. Каралю і ягонаму двару забаранялася весці карэспандэнцыю з замежнымі дварамі і іх міністрамі праз мясцовую пошту і прыватных людзей. Усе лісты павінны былі прайсці расійскую цэнзуру і атрымаць санкцыю генерал-губернатара. Цыцыянаў павінен быў пільна сачыць, як часта і з кім сустракаецца кароль, фіксаваць працягласць сустрэчаў. Спісы гасцей дастаўляліся Рапніну кожны вечар. Забаранялася правядзенне якіх бы ні было нарадаў. Каралеўскія апартаменты, як і ўсе дзверы Старога і Новага замка, іншых дамоў, дзе жылі члены каралеўскага двара, строга ахоўваліся. Кожны дзень дзяжурны афіцэр складаў рапарт, які праглядалі фактычны маршалак двара Безбародка і князь Рапнін.

На ўтрыманне двара Панятоўскага штомесяц выдавалася да 11 тыс. дукатаў. Грошы ішлі на каралеўскі стол, зарплату службе, ацяпленне і асвятленне замка ды іншыя патрэбы.

Прыстаўлены да караля граф Ілля Безбародка вёў штодзённыя запісы пра яго лад жыцця[18].

У 6 гадзін раніцы яго будзіў дзяжурны шамбелян. Пасля ранішняга туалету Панятоўскі выпіваў шклянку булёну і ішоў у кабінет, дзе чытаў карэспандэнцыю, дыктаваў сакратару лісты, пісаў успаміны. Каля 11, а часам 12 гадзін пачынаўся прыём гасцей. Калі аўдыенцыі не было, Станіслаў Аўгуст выбіраўся на прагулку. Узімку ён гуляў на тэрыторыі Замка, а з канца сакавіка пачаў выязджаць у карэце ў ваколіцы Гародні – Пышкі, Панямунь, Каханова, Аўгустовак, Караліно, Грандзічы, Ласосну, Станіслававова. Яго суправаджаў вайсковы атрад з графам Безбародкам і адзін з шамбелянаў. Пасля вяртання кароль гуляў у більярд, а ў 14 гадзін сядаў абедаць. Пасля абеду ішоў у свае пакоі, зрэдку – у залу для аўдыенцыяў. Пры добрым надвор'і выязджаў за горад з кім-небудзь з сям'і або з госцем. Мог наведаць кляштар або касцёл. Вячэраў адзін, потым працаваў у кабінеце і каля 22 гадзін ішоў спаць.

25 лістапада 1795 г. у Новым замку (па іншай версіі ў былым палацы А. Тызенгаўза, дзе знаходзілася адміністрацыя Рапніна) Станіслаў Аўгуст Панятоўскі падпісаў адрачэнне ад прастола. 25 снежня з'явіўся Указ Сенату і Маніфест аб далучэнні *"на вечныя часы да Імперыі Нашай"* абласцей Вялікага Княства Літоўскага.

У выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай Расія захапіла рэшткі Слонімскага, Наваградскага, Слуцкага, Ашмянскага, Браслаўскага, Берасцейскага паветаў; Ваўкавыскі, Віленскі, Вількамірскі, Лідскі, Упіцкі, Ковенскі паветы; часткі Троцкага і Гарадзенскага паветаў; большасць тэрыторыі Жмудскага княства. Агульная плошча складала 2185 кв. міляў з насельніцтвам каля 1,2 млн. чалавек. Вялікае Княства Літоўскае, як і ўся Рэч Паспалітая, перастала існаваць.

Пасля смерці Кацярыны II імператар Павел I запрасіў экскараля ў Пецярбург. 15 лютага 1797 г. былы кароль пакінуў Гародню і пасяліўся ў сталіцы Расійскай Імперыі, дзе праз год памёр.

[18] Гл. Журнал пребывания его величества короля польского Станислава Августа в Гародні 1795-1796 гг., веденный приставом при нём генерал-поручиком Ильёй Андреевичем Безбородком... М., 1870.

Але нават пасля адрачэння ад прастола апошняга караля сітуацыя ў краі заставалася напружанай. Ідэі вольнасці і незалежнасці знаходзілі новых прыхільнікаў. Так, паводле мемуарыста М.Залескага, у 1795 г. гарадзенец і былы камердынер Дзяконскіх задумваў *"рэвалюцыю, пачаткам якой павінна было стаць забойства князя Рэпніна і караля"*. Выкрытага змоўшчыка прыгаварылі да пакарання смерцю, але ён памёр раней, калі *"з яго катаваннямі выцягвалі праўду"*[19].

З іншых крыніц вядома, што ў маі 1796 г. Мікалай Рапнін даведаўся, што дробная шляхта па ўзоры ранейшых падзеяў у Вільні планавала нечакана напасці на кватэры расійскіх вайскоўцаў і арыштаваць генерал-губернатара. 30 красавіка 1796 г. ён паведамляў Ланскому, што *"тут у Гародні выкрытая змова паміж дробнымі шляхціцамі ўзбунтавацца, у кватэрах на нас напасці"*.

Пры гэтым генерал-губернатар быў упэўнены, што ніхто з заможных асобаў не далучыцца да руху. Расследаванне *"недарэчнай, абуральнай змовы сярод дробнай шляхты"* ён даручыў слонімскаму віцэ-губернатару М.Волкаву і князю Дз. Лабанаву-Растоўскаму. У лік падазроных трапілі камердынер літоўскага падскарбія Дзяконскага Андрэй Любавецкі, гарадзенскі ротмістр Снарскі, шляхціцы Тэадор Занеўскі, Ян Горскі, Міхаіл Пачобут, Юзаф Нявінскі, Франц Кратовіч, святар з мястэчка Скідаль Лявон Канцэвіч.

Даносчык шляхціц Хыбоўскі нібыта чуў ад Любавецкага, што 300 чалавек гатовы вынішчыць расійскі гарнізон у Гародні і навакольных вёсках. Хваляванні сялян і шляхты ў Ваўкавыскім павеце павінен быў арганізаваць Пачобут, каб потым прыбыць да Любавецкага ў Гародню на дапамогу. У адным з напісаных за мяжу лістоў Любавецкі раіў скарыстацца вайной Расіі са Швецыяй і Турцыяй *"для аднаўлення заняпалага народа і веры святой"*.

У выніку ў Гародні былі арыштаваныя шляхціцы

[19] Zaleski M. Pamiętniki Michała Zaleskiego, wojskiego Wielkiego księstwa Litewskiego, posła na sejm czteroletni. Poznań, 1879. S. 228

Любавецкі, Снарскі і яшчэ 10 асобаў. Вярхоўнае Літоўскае праўленне прыгаварыла Любавецкага і Снарскага *"за парушэнне спакою, якое не прынесла яшчэ шкоды, а скончылася толькі звар'яцелым намерам"* да ссылкі ў Сібір на катаргу (з пазбаўленнем дваранскай годнасці), замененай потым зняволеннем у Аляксандраўскім равеліне Петрапаўлаўскай крэпасці Пецярбурга (пры Кацярыне II) і Шлісельбургскай крэпасці (пры Паўле I). Астатнія "змоўшчыкі" вызваляліся[20]. *"Нічога важнага з гэтай спробы быць не магло"*, – запэўніў князь Рапнін Кацярыну II у лісце ад 7 мая, аднак, для перастрахоўкі ўсё ж такі загадаў вывезці войскі з горада ў летнія лагеры, каб *"не засталі нас у ложку"*[21].

Расійскае панаванне ў Гародні пачалося з адміністратыўнага перадзелу. Каралеўскі горад ператвараўся ў правінцыю. Напачатку статус горада панізіўся да ўзроўню павятовага (уезднага) цэнтра ў складзе Слонімскай (1795), а потым Літоўскай (1797) губерняў. У студзені 1801 г. была ўтвораная Літоўска-Гарадзенская губ. (так яна называлася да 1840 г.) з цэнтрам у Гародні.

У ліпені 1802 г. указам Сената быў зацверджаны герб Літоўска-Гарадзенскай губ.: у верхняй частцы шчыта – *"ездок в латах, скачущий на белом коне в правую сторону, у которого в правой руке поднятая вверх сабля, а на левую надет серебряный щит с красным восьмиконечным крестом"* (Пагоня) у чырвоным полі, у ніжняй – выява зубра ў срэбрным полі. Пазней герб змянілі, і на шчыце застаўся толькі зубр у чырвоным полі (1845). У 1878 г. была змененая і выява зубра (*"золотой зубр с черными глазами и языком"*), а гербу нададзеная расійская імператарская карона, стужкі і лісце дуба.

28 жніўня 1802 г. былі зацверджаны штаты ўстановаў Гарадзенскай губерні. Апроч губернатара ўводзіліся пасады віцэ-губернатара (з гадавым акладам у 1875 руб.), трох дарадцаў (2250 руб. на тры пасады), скарбніка ("казначея") (750 руб.), асэсара (450 руб.), чатырох прысяжных (400 руб. на чаты-

[20] Mościcki H. Dzieje porozbiorowe Litwy i Rusi. Wilno, 1910-1913. T. 1. S. 388.

[21] Сборник Русского исторического общества. Т. 16. СПб., 1875. С. 435.

ры пасады), сакратара (375 руб.), перакладчыка (без акладу)[22]. Апроч таго, выдзяляліся 5500 руб. у год на канцылярскіх служачых і выдаткі канцылярыі. Варта звярнуць увагу на розніцу грашовага ўтрымання: прысяжны атрымліваў у 18 разоў менш за віцэ-губернатара.

Гарадзенскія чыноўнікі апраналіся ў адмысловы мундзір. У Поўным зборы законаў Расійскай імперыі ён апісваецца наступным чынам: *"Кафтан тёмно-зелёного цвета, воротник и обшлага бархатные, красного цвета, подкладка белая, камзол и исподнее платье белые, пуговицы белые с изображением герба"*[23].

Вышэйшай службовай асобай у іерархічнай сістэме кіравання губерні быў губернатар, які з 1801 г. прызначаўся Сенатам з наступным зацвярджэннем імператарам. Губернатар адказваў за кіраванне губерняй, вырашаў адміністрацыйныя, судовыя, паліцэйскія, фінансавыя, гаспадарчыя справы, валодаў ваеннай уладай, яму падпарадкоўваліся ўсе губернскія і выбарныя органы ўлады. Па асабістым меркаванні ён прызначаў і звальняў службоўцаў, кантраляваў адміністрацыйныя ўстановы і ўмешваўся ў іх працу, меў права накладаць пэўныя спагнанні судовым і паліцэйскім органам за невыкананне яго распараджэнняў, кантраляваў паступленне ў казну дзяржаўных падаткаў, сачыў за спагнаннем нядоімак, рэкруцкімі наборамі, кантраляваў фінансавую дзейнасць губернскіх устаноў, даваў указанні адносна разгляду судовых справаў, мог запатрабаваць любую справу для асабістага разгляду ды інш.

Трэба адзначыць, што празмерная цэнтралізацыя кіравання без належнай сістэмы кантролю, шырокія паўнамоцтвы і неабмежаваныя магчымасці чыноўнікаў непазбежна спараджалі практыку пратэкцыянізму і службовых злоўжыванняў. Сапраўдным бічом адміністрацыйнай машыны Расійскай імперыі было хабарніцтва, якое з'яўлялася адным з прызнаных сродкаў узбагачэння.

Так, у 1803 г. быў звольнены з пасады гарадзенскі губернатар Дзмітры Кошалеў, які разам з мытнымі чыноўнікамі спрыяў

[22] НГАБ. Ф. 295, воп. 1, ад.з. 139, арк. 176-176 адв.

[23] Полное собрание законов Российской империи. Т. 27. СПб., 1830. С. 190.

кантрабандзе. У віну беламу губернатару таксама паставілі *“прыхільнасць да палякаў”* і… перавялі на службу ў Тамбоўскую губ. Цікава, што ягоны выкрывальнік сотнік Аляксееў быў атручаны. Улады спрабавалі змагацца з хабарніцтвам. Так, сенацкі ўказ ад 11 кастрычніка 1821 г. забараняў *“приношения в знак признательности”* начальнікам губерняў і іншым асобам. Але праблема засталася…

Постаці гарадзенскіх губернатараў вельмі адрозныя. Гэта хабарнік Дзмітры Кошалеў; масон Міхал Бутаўт-Анджэйковіч; ініцыятары даследавання Друскеніцкіх крыніц Міхаіл Бабяцінскі і Рыгор Дапельмайер, браты рэвалюцыянераў Станіслаў Урсын-Нямцэвіч і Дзмітры Крапоткін; рэфарматар Ксаверы Друцкі-Любецкі і русіфікатар Пётр Сталыпін; віцэ-старшыня камітэта па будаўніцтве храма Хрыста Збавіцеля Хрыстафор фон дэр Ховен; дабрачынцы Аляксандр Зураў і Мікалай Цеймерн ды інш. Мясцовае паходжанне мелі толькі Васіль Ланскі, Друцкі-Любецкі, Урсын-Нямцэвіч і Бутаўт-Анджэйковіч, якія кіравалі губерняй да паўстання 1830 г. Потым мясцовая арыстакратыя ўжо не мела шансаў на кар’еру губернатара, бо адной з галоўных задач расійскай палітыкі стала русіфікацыя беларускіх і літоўскіх земляў.

Агульнае кіраванне губерняй ажыццяўляла губернскае праўленне, на чале якога стаялі губернатар, некалькі дарадцаў і віцэ-губернатар. Праўленне павінна было інфармаваць насельніцтва пра ўказы, законы і распараджэнні імператара, урада і губернатара, сачыць за іх выкананнем. Справаводства вялося канцылярыяй праўлення. Большасць спраў вырашалася ў камітэтах і камісіях. Пры праўленні быў губернскі пракурор, які ажыццяўляў агульны нагляд за выкананнем законаў.

Другой асобаю ў губерні быў віцэ-губернатар як непасрэдны памочнік губернатара ва ўсіх галінах кіравання. Ён наглядаў за справаводствам і парадкам вядзення спраў у праўленні і канцылярыях асобных адміністратыўных устаноў. Пры адсутнасці губернатара часова выконваў яго абавязкі. Да 1845 г.

віцэ-губернатар узначальваў Скарбовую палату, якая займалася дзяржаўнай маёмасцю (да 1838 г.), эксплуатацыяй і аховай дзяржаўнага лесу, ажыццяўляла нагляд за выдачай пасведчанняў на вінакурэнне, дзейнасцю піцейных устаноў, ажыццяўляла ўнутраны фінансавы нагляд ды інш.

Існавалі таксама Палаты крымінальных і грамадзянскіх спраў, Прыказ грамадскай апекі *(“общественного призрения”)*, Лекарская ўправа, Землеўпарадкавальная і Будаўнічая часткі.

У губернскай Гародні таксама гаспадарыў магістрат, у склад якога ўваходзілі два бурмістры, некалькі ратманаў і лаўнікі, якіх таксама паступова ператварылі ў дзяржаўных чыноўнікаў. Яны вырашалі пытанні эканамічнага і культурнага жыцця горада, а таксама судовыя справы па крымінальных злачынствах.

У Гародні знаходзілася сядзіба Шляхецкага дэпутацкага сходу. З’езды шляхціцаў падзяляліся на звычайныя і надзвычайныя. Першыя збіраліся адзін раз у тры гады ў зімовы час на 15 дзён. Другія адбываліся па загадзе або з дазволу губернатара. Падчас з’ездаў жыццё горада ажывала і напаўнялася падзеямі і асобамі. На павятовых сходах вырашаліся саслоўныя справы: складанне спіса шляхты з вызначэннем правоў кожнага з іх на ўдзел у паседжаннях сходу, выбары дэпутата для рэвізіі, разглядаліся справаздачы аб выкарыстанні і стане шляхецкай скарбніцы, ацэньваліся кандыдаты на пасады ў павятовыя ўстановы. Пры гэтым забаранялася абмяркоўваць пытанні аб асновах дзяржаўнага ладу.

На сходах выбіралі маршалка шляхты. Тэрмін *“прадвадзіцель дваранства”* пачаў ужывацца толькі з 1831 г. Павятовыя маршалкі на практыцы былі актыўнымі дзеячамі мясцовай адміністрацыі: старшынствавалі на пасяджэннях камітэтаў і камісій, збіралі для начальнікаў губерній статыстычны матэрыял аб ураджайнасці, цэнах на харчаванне і будаўнічыя матэрыялы, зборах падаткаў і г.д., выконвалі даручэнні губернатараў. Гарадзенскімі павятовымі маршалкамі ў першай трэці XIX ст. былі Людвік Панцэржынскі, князь Ксаверы Друцкі-Любецкі,

Станіслаў Гоўвалд, князь Канстанцін Святаполк-Чацвярцінскі, Караль Баржэцкі.

Губернскі маршалак павінен быў дакладваць у Міністэрства ўнутраных спраў *"откровенно и доверительно обо всём, что может способствовать исполнению благотворительных видов Его Императорского Величества"*. Зразумела, што на пасады маршалкаў (як, наогул, на ўсе выбарныя месцы) маглі трапіць толькі *"добранадзейныя* асобы". Верагодна, менавіта такімі былі Станіслаў Урсын-Нямцэвіч, Павел Барэйша, ужо згаданыя Л.Панцэржынскі, князі К.Святаполк-Чацвярцінскі і К.Друцкі-Любецкі, Калікст Межаеўскі, граф Казімір Грабоўскі.

Панараму жыцця і знешні выгляд горада на мяжы XVIII – XIX стст. лягчэй уявіць з меркаванняў ягоных гасцей, вайскоўцаў ці падарожнікаў, бо менавіта ім у большай ступені кідалася ў вочы адметнасць Гародні. Горад выклікаў змешаныя пачуцці. Госці звярталі ўвагу на гарадскія кантрасты, дзе раскоша суседнічала з галечай, з забалочанымі і засмечанымі вуліцамі, "прыстойныя" дамы чаргаваліся з халупамі.

Немец К.Фаерабэнд занатаваў свае ўражанні ў лістах, накіраваных сябру з Гародні ў 1799 г.: *"З першага погляду відаць на адным баку даволі сучасныя і масіўныя будынкі, а на другім – шэраг драўляных без комінаў і амаль без шыбаў халупаў, якія пагражаюць абвалам"*[24]. Толькі Каралеўская вуліца, якая вяла да Новага замка, аздабляла горад. Другі падарожнік, расійскі мінералог і хімік Васіль Севяргін, апісваючы Гародню і навакольны край, заўважыў на рынках буракі, гарох, сачавіцу, шпінат, шчавель, пятрушку, цыбулю, жыта, пшаніцу, лён і каноплі і нават у невялікай колькасці бульбу. Ён таксама пісаў пра дзікія ігрушы, слівы, яблыні і барбарыс, адзначыў высокія цэны на дровы (сажань каштаваў 6 руб. срэб.) і соль, што прывозілі з-за мяжы (гарнец неачышчанай каменнай солі каштаваў 16 кап. срэб.)[25].

[24] Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шлях вялі праз Беларусь. Мн., 1980. С. 126.

[25] Севергин В.М. Записки путешествия по западным провинциям Российского государства, или Минералогические, хозяйственные и другие примечания, учинённые во время проезда через оныя в 1802 г. СПБ., 1803. С. 115-116, 121.

# ГАРОДНЯ Ў ЧАС НАПАЛЕОНАЎСКІХ ВОЙНАЎ

Калі на палітычным небасхіле Еўропы заззяла зорка Напалеона Банапарта, а разам з гэтым паляцелі чуткі аб яго бліскучых перамогах і стварэнні польскіх легіёнаў, занепакоеныя царскія ўлады паспрабавалі адгарадзіць памежныя губерні *"жалезным мурам"* ад непажаданай інфармацыі. Пачалася кампанія *"антырэвалюцыйнага псіхозу і палітычнай інквізіцыі"* супраць замежнікаў. Выключэннем былі толькі раялісты.

З Гародняй пэўным чынам звязаны лёс французскай каралеўскай дынастыі. Справа ў тым, што нейкі час (сакавік 1801 г. – ліпень 1804 г.) у Варшаве ў доме Васілеўскага на Кракаўскім прадмесці разам з жонкай і невялікім дваром знайшоў прытулак граф дэ Ліль. Пад гэтым прозвішчам жыў брат пакаранага смерцю Людовіка XVI, які ў 1795 г. пасля смерці сына апошняга абвясціў сябе каралём Францыі Людовікам XVIII.

25 ліпеня 1804 г. ён разам з герцагам Ангулемскім Луі Антуанам дэ Бурбонам пакінуў Варшаву і выехаў у Гародню. У іх свіце знаходзіліся кардынал дэ Маніарэнсі, граф Антуан Луі Франсуа дэ Аварэ, ксёндз дэ Пен, граф дэ Блака, маркіз дэ Вас, лекар, капелан і тры камердынеры. Пасля адпачынку ў Беластоку 8 жніўня падарожнікі дасягнулі Гародні, дзе атрымалі ліст Аляксандра І, які выказваў незадавальненне жаданнем Людовіка XVIII сустрэцца з уласным братам графам дэ Артуа (будучы кароль Карл X). Таксама ў Гародні Людовік XVIII напісаў ліст шведскаму каралю Густаву IV. Пазнейшы шлях выгнанцаў ляжаў на Рыгу і Мітаву.

Асноўным тэатрам баявых дзеянняў падчас войнаў антынапалеонаўскіх кааліцый з'яўлялася тэрыторыя Аўстрыйскай імперыі і Прускага каралеўства. Гэтыя войны моцна паўплывалі на сітуацыю ў Беларусі. З пачатку 1799 г. уздоўж заходніх межаў Расійскай імперыі, ад Балтыкі да Бе-

расця, размяшчаліся войскі 50-тысячнай арміі Барыса Моріца дэ Ласі ў складзе карпусоў Бенкендорфа і самога дэ Ласі для *“назірання і ўтаймавання”* ненадзейнага прускага караля, а ў выпадку неабходнасці – падтрымкі войскаў, якія выступілі за мяжу. Галоўная кватэра дэ Ласі вясной 1799 г. была пераведзена з Вільні ў Гародню і папоўнілася прысланым Замежнай калегіяй Пятром Убры і палкоўнікам Івановым. Пазней у Галоўную кватэру прыбылі генералы Доцішан, Нумсен, Бенкендорф, Цітоў ды інш.

У гэтай арміі квітнела карупцыя. Калі праверылі дакументы, то знайшлі *“багаты ва ўсім недахоп”*. Начальнік правіянцкага дэпо Скасарэўскі меў толькі 25 тыс. руб., таму харчаванне і асабліва фураж здабывалі шляхам рэквізіцый. Выпраўляць справы ў Гародню прыехаў прадстаўнік Правіянцкага дэпартамента В. Ханыкоў, які, відаць, не знайшоў крыміналу, бо праз тры дні вярнуўся ў сталіцу.

Ад’ютант новага ваеннага губернатара Фёдар Лубяноўскі пакінуў цікавыя ўспаміны аб распарадку дня свайго начальніка, шатландца па паходжанні Барыса дэ Ласі. Абедзенны стол генерала быў руска-шатландскі. Штодня на ім былі адны і тыя ж стравы – капуста, бульба з рыбаю на распаленай патэльні, ростбіф, плум-пудзінг. Сам генерал не сядаў за стол, а хадзіў навокал у мундзіры пры шпазе з фуражкай на галаве, распальваючы апетыт гасцей прымаўкамі. Ішоў адпачываць у 19 гадзін, а прачынаўся у 3 гадзіны, пачынаючы дзень двума кубкамі моцнай кавы. У 6 гадзін еў аўсяную кашу на вяршках, а потым да 17 гадзін еў толькі шакалад. У 18 гадзін канчаў дзень зноў двума кубкамі моцнай кавы. Звычайна ў 7 гадзін падпісваў дакументы[26].

У час кампаніі 1805 г. у гарадзенскай аптэцы былі сканцэнтраваны значныя медыцынскія запасы, а ў горадзе адчынены часовы палявы шпіталь.

Значна больш падзеяў былі звязаныя з наступнай вайной Расіі з Прусіяй супраць Францыі 1806 – 1807 гг. 16 кастрычніка 1806 г. у Гародні была падпісана расійска-пруская ваенная кан-

[26] Воспоминания Фёдора Петровича Лубяновского… С. 154-156.

венцыя аб парадку забеспячэння расійскіх войскаў правіянтам і фуражом у час знаходжання іх на прускай тэрыторыі. У Гародні знаходзіўся генерал-правіянтмайстар князь Шахоўскі. Горад ператварыўся ў важны пункт назапашвання вайсковага рыштунку, зброі, абмундзіравання, абутку, правіянту, фуражу, лекаў (менавіта тут былі галоўныя аптэкарскія склады) ды інш. У ліпені 1807 г. у Гародню было адпраўлена на паштовых фурманках для арміі Лявонція Бенігсена з Пецярбурга больш за 6 тыс. шынялёў і больш за 7 тыс. пар ботаў.

Губернскі цэнтр запаланілі хворыя і параненыя. Да 5 тыс. чалавек размяшчалася ў манастырах, цэрквах і жылых пабудовах. Ляжалі пераважна на падлогах. Не хапала лячэбнага персаналу. На кожнага медыка прыходзілася больш за 500 хворых. Шмат людзей памірала ад хваробаў і ран. У прыватнасці, камандзір 1 егерскага палка палкоўнік Якаў Давыдоўскі, паранены пад Пултускам, памёр менавіта ў Гародні. На магіле быў пастаўлены помнік, які пазней наведаў імператар Аляксандр I.

Падчас вайны 1806 – 1807 гг. у *“польскіх правінцыях”* Расійскай імперыі шырока распаўсюджваліся пракламацыі, брашуры, пісьмовыя малітвы, якія ўзвялічвалі культ Напалеона і заклікалі далучацца да французскіх войскаў. Важнейшыя ваенныя і палітычныя навіны кампаніі 1806 – 1807 гг., асабліва падзеі ў Польшчы, выклікалі выразную цікавасць мясцовага насельніцтва. Разыходзіліся чуткі аб трыумфальным маршы напалеонаўскага войска на Вільню і Гародню[27]. Губернскі сакратар Харытонаў даносіў 6 жніўня 1807 г. гарадзенскаму губернатару Васілю Ланскому, што ў замежнай карэспандэнцыі, атрыманай з Варшавы ад нейкага Крэйтца на імя былога суддзі Сакалоўскага, утрымлівалася паведамленне, што нібыта *“іх войска хутка атрымае загад выступіць у паход да расійскіх межаў і менавіта да Гародні”*[28].

Французскія ваеннапалонныя, якія знаходзіліся на ўтрыманні ў Вільні і Гародні, адчувалі спагаду, клопат і падтрымку мясцо-

[27] Une femme de diplomate. Lettres de madame Reinhard à sa mère 1798 – 1815 / Traduites de l’allemand et publiées pour la sociètè d’histoire contemporaine par la baronne de Wimpffen, nèe Reinhard. Paris, 1900. P. 262.

[28] НГАБ у Гародні Ф. 1, воп. 1, ад.з. 107, арк. 17.

вага насельніцтва, якое забяспечвала гэтых пакутнікаў вайны вопраткай, прадуктамі, часам грашыма. Вядомы ў будучым вайсковы пісьменнік Філіп-Поль Сегюр у студзені 1807 г. ва ўмовах зімовай сцюжы рухаўся па маршруце Гародня – Наваградак – Менск – Барысаў – Ляды да Волагды. У Гародні, дзякуючы грашовай дапамозе, ён набыў цёплае адзенне.

Пасля заключэння Тыльзіцкага міру 1807 г. былы вораг Расіі стаў яе саюзнікам, у сувязі з чым пачалося вяртанне ваеннапалонных дадому. У снежні 1807 г. межы Расійскай імперыі пакідалі французскія, італьянскія, галандскія, польскія, баварскія, вюртэмбергскія, саксонскія, гесен-дармштацкія, бадэнскія ды іншыя былыя ваеннапалонныя генералы, афіцэры і салдаты. Для забеспячэння адпраўкі з Гародні за мяжу ніжніх чыноў было выдаткавана больш за 11,7 тыс. руб. на пакупку адзення і абутку. З Вільні ў Гародню былі накіраваныя генерал, дзесяць штаб-афіцэраў, 179 обер-афіцэраў, 270 унтэр-афіцэраў, 1,6 тыс. салдат, – разам звыш 2 тыс. чалавек[29].

На рубяжы стагоддзяў Гародня неаднаразова станавілася месцам дыслакацыі розных расійскіх вайсковых адзінак. Працяглы час (1797-1803) тут кватараваў Мурамскі мушкецёрскі полк. Напярэдадні вайны 1812 г. у горадзе жылі генерал-маёр Іван Дорахаў, атаман Мацвей Платаў, карпусны начальнік Фердынанд фон Вінцэнгеродэ (у доме графа Валіцкага).

Пачынаючы вайну з Расіяй, Напалеон намерваўся даць генеральную бітву ўжо ў “гістарычнай Літве”, разбіць галоўныя сілы расійскай арміі і прымусіць імператара Аляксандра I шукаць замірэння. У ноч на 12 чэрвеня у ваколіцах Панямуні французскія сапёры навялі тры пантонныя масты, па якім раніцай пачала пераправу паўночная групоўка “Вялікай арміі” пад камандаваннем Напалеона (каля 220 тыс. салдат і афіцэраў пры 527 гарматах). 15 чэрвеня ў ваенныя дзеянні ўключылася паўднёвая групоўка Жэрома Банапарта (каля 80 тыс. чал. пры 159 гарматах).

[29] ЛДГА. Ф. 378, 1807, ад.з. 284, арк. 626, 627-627а, 628.

Яшчэ раней, 6 чэрвеня, М.Платаў атрымаў прадпісанне перавесці часці свайго казацкага корпуса з Беластоцкай вобласці ў раён Гародні. 12 чэрвеня Міхаіл Барклай дэ Толі пацвердзіў загад, што ў выпадку пераходу напалеонаўскіх войскаў праз мяжу Расіі неабходна дзейнічаць на іх флангах, адпаведна абставінам. У гэты ж дзень расійскі імператар Аляксандр І загадаў сканцэнтраваць казацкі корпус атамана Мацвея Платава каля Гародні дзеля аховы пераправы праз Нёман, а таксама каб стрымаць авангарды праціўніка і тым самым даць магчымасць правесці эвакуацыю.

Ужо 13 чэрвеня войскі М.Платава падышлі да горада. У склад корпуса ўваходзілі данскія, татарскія, калмыцкія і башкірскія конныя палкі, а таксама конна-артылерыйская рота.

Між тым, 8 корпус праціўніка ўжо рухаўся на Гародню па беластоцкай дарозе, а польскі корпус Юзафа Панятоўскага – з Аўгустова праз вёску Ласосну. Польскі авангард генерала Ж. Алікса дэ Во ў складзе трох палкоў (2,7 тыс. чал. пяхоты, 1,5 тыс. кавалерыі і дзве гарматы) з групоўкі Жэрома Банапарта намагаўся захапіць пераправу праз Нёман.

Раніцай 16 чэрвеня вестфальска-польскі атрад уступіў у Занёманскі фарштат, дзе сустрэў адпор. Невялікі авангард з корпуса Платава ў вёсцы Ласосна на аднайменнай рэчцы завязаў перастрэлку з перадавым авангардам польскага корпуса Ю.Панятоўскага. Потым казакі адступілі да Гародні і пры актыўнай падтрымцы гарнізоннага батальёна ў ваколіцах горада вялі інтэнсіўную перастрэлку. Познім вечарам з падыходам асноўных сілаў польскай пяхоты, абстраляўшы непрыяцеля з гармат, яны пакінулі Гародню, спаліўшы драўляны мост праз Нёман. Разам з казакамі змагаліся салдаты мясцовага гарнізоннага батальёна пад камандаваннем прапаршчыка Мікалая Іўшына, якія паспелі знішчыць масты праз р. Ласосну. Гарадзенскі паліцмайстар калежскі асэсар Пётр Высочын атрымаў загад М.Платава спаліць плывучы мост праз Нёман.

Уначы корпус М.Платава накіраваўся праз Бераставіцу да Ліды. Разам з расійскімі казакамі і салдатамі гарадзенскага гарнізоннага батальёна на амаль 3 тыс. фурманак з горада выехалі каля 50 чыноўнікаў, у тым ліку губернатар В.Ланскі, віцэ-губернатар Міхаіл Бутаўт-Анджэйковіч, дарадцы губернскага праўлення, скарбнік (з наяўнымі грашыма), архівы, абозы з казённай і вайсковай маёмасцю, хворыя са шпіталя. Яшчэ раней у Менск былі адпраўленыя харчаванне, зброя, вайсковы рыштунак, хворыя ды інш. Для нагляду за рухам праціўніка М. Платаў пакінуў вайсковыя каманды.

Па наведзеных сапёрамі праз Нёман мастах, а таксама з дапамогаю шматлікіх лодак, прапанаваных мясцовымі жыхарамі, напалеонаўскія войскі пераправіліся праз раку. Раніцай 17 чэрвеня горад быў у іх руках. Яны захапілі 60 палонных. Аднак асноўныя часці спыніліся за мілю ад горада. Спачатку ў горад увайшлі ўланы Юзафа Панятоўскага. 18 чэрвеня ў Гародню ўступілі войскі вестфальскага караля, брата французскага імператара Жэрома Банапарта. Сам Жэром, які разлічваў на польскую карону, ехаў у атачэнні світы з 60 вершнікаў. Пяхота падышла пазней – 19-21 чэрвеня. Большасць мясцовага насельніцтва з радасцю вітала напалеонаўскія войскі як збавіцеляў ад расійскага панавання. Жэрома Банапарта за горадам сустрэў новы гарадскі мэр, а шляхта і чыноўнікі віталі ўжо на кватэры, у каменным доме былога віцэ-губернатара Максімовіча.

Галоўны штаб вестфальскага караля размясціўся ў доме Валіцкага, а князя Ю.Панятоўскага – у доме губернатара. Жэром Банапарт, галоўны камендант горада дывізіённы генерал Аляксандр Ражнецкі, начальнік артылерыі 8 корпуса Алікс ды іншыя генералы жылі за кошт горада, які забяспечыў іх асвятленнем, слугамі і ўсім неабходным. Пачаліся балы, урачыстыя прыёмы аддэпутацый, пышныя аўдыенцыі. 20 чэрвеня ў Гародні адбыўся парад войскаў 8 армейскага корпуса.

Затрымка Жэрома Банапарта ў Гародні на пяць сутак дазволіла войскам 2 расійскай арміі генерала Пятра Баграціёна адарвацца ад праціўніка. План Напалеона навязаць расійскаму генералу бітву быў сарваны. Толькі 22-24 чэрвеня войскі Жэрома Банапарта пакінулі горад і накіраваліся ў бок Наваградка наўздагон за адступаючай арміяй Баграціёна.

Мясцовыя жыхары ў розных формах аказвалі дапамогу напалеонаўскаму войску. Так, шляхціцы М.Дзяконьскі і Юндзіл прадставілі Жэрому Банапарту інфармацыю аб стане расійскіх войскаў. Памешчык Павел Рафіновіч перадаў каменданту горада падпалкоўніку Л. Штокмаеру больш за 300 стрэльбаў, адбітых у расійскіх войскаў каля вёскі Вішнёўка (наваколле Зэльвы), а таксама мундзіры Сумскага гусарскага палка. Мясцовая шляхта даставіла каменданту горада сабраную на палях баёў зброю, кінутую адступаўшымі расійскімі войскамі.

20 чэрвеня 182 жыхары Гарадзенскага павета на чале з Людвікам Панцэжыньскім паставілі свае подпісы пад актам добраахвотнага далучэння да Генеральнай Канфедэрацыі Каралеўства Польскага. Гэты дакумент павінен быў паспрыяць адраджэнню Рэчы Паспалітай. На наступны дзень да іх далучыліся жыхары Гарадзенскага і Сакольскага паветаў. Дэлегатамі на Генеральную канфедэрацыю былі абраны Ігнаці Ляхніцкі і Казімір Даўнаровіч.

22 чэрвеня генерал Аляксандр Ражнецкі ініцыяваў у Гародні Акт далучэння да Генеральнай канфедэрацыі мясцовых жыхароў і вайскоўцаў з дывізіі генерала Л.Камянецкага. Ён звярнуўся да насельніцтва з просьбай падпісаць акт, *“не падобны на той, пад якім нас прымушалі падпісвацца дрыжачай рукой пад грукат зброі ў атачэнні войскаў праціўніка”*. Канфедэрацыя пастанавіла сфарміраваць пяхотны полк па ўзоры польскіх палкоў. 15 ліпеня жыхары Гарадзенскага павета аднавілі Акт канфедэрацыі ў кафедральным саборы.

З асаблівым размахам мясцовыя жыхары адзначалі дзень нараджэння Напалеона 3 жніўня і імператрыцы Марыі Луізы 16 жніўня, а таксама перамогі напалеонаўскай арміі пад Смаленскам і Барадзіном, заняцце Масквы.

Адно з падобных святкаванняў пачалося з гарматных стрэлаў. У 10 гадзін прадстаўнікі цывільных уладаў наведалі інтэнданта Гарадзенскага дэпартамента і старшыню адміністрацыйнай камісіі Шасенона і разам з ім накіраваліся да гарадзенскага губернатара ле Брэна. Пасля набажэнства ў касцёле адбыўся вайсковы парад, потым – абед у губернатара. У 11 гадзін увесь гарнізон быў пастаўлены ў дзве лініі ад старога замка ўздоўж Дамініканскай вуліцы да губернатарскага дома. Вечарам горад быў ілюмінаваны, на шматлікіх дамах красаваліся транспаранты і надпісы. Муніцыпалітэт арганізаваў баль і вячэру ў палацы княгіні Любецкай, а для “простага народу” з 16 гадзін ладзіліся забавы і раздаваліся напоі. На вуліцах гучала музыка. Абвясцілі аб перамозе пад Смаленскам і захопе 30 тыс. палонных і 90 гармат. Салдаты атрымалі двайныя рацыёны, арыштанты і палонныя – бясплатнае харчаванне[30].

У Гародні заставаўся невялікі гарнізон. Камендантам горада быў прызначаны падпалкоўнік Л.Штокмаер (пазней палкоўнік Борстэль). Асноўны паток маршавых папаўненняў для “Вялікай арміі” ішоў праз Вільню, Менск і Віцебск. У адрозненне ад іншых губернскіх цэнтраў у Гародні да 15 затрымаўся толькі маршавы полк 5 армейскага корпуса маёра Ю.Шыманоўскага (1200 чалавек). З генералітэту ў горадзе пэўны час жыў генерал-маёр прынц Гесен-Гамбургскі[31].

На Гарадзеншчыне, як і на іншых занятых напалеонаўскімі войскамі тэрыторыях, спачатку ствараліся разнастайныя часовыя цывільныя структуры ўлады адроджанага ВКЛ як дапаможнае звяно для хутчэйшага выканання загадаў французскага камандавання. У Гародні гэтую ролю ў чэрвені – ліпені выконвала Рада канфедэрацыі, якая складалася з чатырох аддзелаў (правіянцкі,

[30] Kuryer Litewski. 1812, Nr 78.

[31] Акты, документы и материалы для политической и бытовой истории 1812 года... Под редакцией К.Военского. СПб., 1909. Т. 1. С. 450.

паліцэйскі, фінансавы і палітычны) і выканаўчага органа ў складзе 12 чалавек пад старшынствам Людвіга Панцэжыньскага (сакратар Ю.Камінскі). Рада Гарадзенскай канфедэрацыі мела стасункі з французскім Упраўленнем складоў і шпіталяў. Але праіснавала яна нядоўга. Упаўнаважаны Камісіі Часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага князь Антоні Гедройц 5 ліпеня прыбыў у Гародню і зачыніў яе.

Спачатку французскі імператар не перашкаджаў працэсу стыхійнага з выразным патрыятычным запалам утварэння часовых органаў мясцовага кіравання (разнастайных канфедэрацкіх і часовых радаў, камітэтаў аховы правіянцкіх складаў, падтрымкі грамадскага парадку і асабістай бяспекі жыхароў, цывільных камісій часовага кіравання рэгіёнамі і гарадамі, часовых камісій для забеспячэння харчаваннем французскага войска і г.д.), якія паўставалі на вызваленых салдатамі "Вялікай арміі" тэрыторыях былога ВКЛ. Аднак потым Напалеон уніфікаваў органы цывільнай адміністрацыі па прыкладзе адпаведных органаў дзяржаўнага кіравання Францыі і ўвёў французскую адміністрацыйна-тэрытарыяльную сістэму. Губерні былі перайменаваны ў дэпартаменты, паветы – у дыстрыкты, воласці – у кантоны.

У адпаведнасці з новай структурай у Гародні былі заснаваныя выканаўча-распарадчыя органы ўлады і кіравання. Узніклі Адміністрацыйная камісія Гарадзенскага дэпартамента, падпрэфектура дыстрыкта і муніцыпальная рада. Адміністрацыйная камісія ўключала тры аддзяленні (юстыцыі, унутраных спраў і паліцыі на чале з былым губернскім маршалкам Л.Панцэжыньскім; вайсковае і правіянцкае пад кіраўніцтвам палкоўніка І.Ляхніцкага; фінансаў, духоўных спраў і адукацыі пад старшынствам берасцейскага павятовага маршалка Яна Нямцэвіча, якога змяніў Тадэвуш Анджэйковіч).

У жніўні пры Адміністрацыйнай камісіі была ўведзеная пасада дырэктара казённых маёмасцяў і даходаў. Гарадзенскую пад-

прэфектуру дыстрыкта ўзначальваў Ю.Камінскі, а яе членамі былі Сыльвестровіч (яго замяніў Гласка), Эдвард Пілецкі, Ігнаці Ёча, Ігнаці Вольмер, Францішак Клімовіч.

У горадзе з прадмесцем дзейнічала муніцыпальнае праўленне таксама з чатырма аддзяленнямі (паліцэйскім, фінансаў і правіянту, кватэрмайстарскім, а таксама па справах рэлігіі) на чале з мэрам (прэзідэнтам) і ягоным намеснікам. Мэрам стаў памешчык і дэпутат двух соймаў Мучынскі. У складзе муніцыпальнай Рады было 12 чалавек (Станіслаў Задарноўскі, Аляксандр Крыдэль, суддзя земскі Ян Сакалоўскі ды інш.).

Гародня была падзелена на тры кварталы на чале з паліцэйскімі квартальнымі наглядчыкамі (Антон Жымкевіч, Стэфан Забіцень, Станіслаў Макарэвіч)[32], якія падпарадкоўваліся галоўнаму наглядчыку. Месячнае ўтрыманне гарадзенскага муніцыпальнага праўлення складала 1000 руб. Асноўныя функцыі гарадскога кіравання рэгламентаваліся ў адмысловых Палажэннях ад 5 жніўня 1812 г. Камісіі Часовага ўрада ВКЛ, якія былі ўведзеныя ва ўсіх чатырох дэпартаментах княства. Асноўныя напрамкі дзеянняў муніцыпалітэта зводзіліся да арганізацыі гарадской паліцыі, адміністравання ўсімі гарадскімі фондамі і задавальнення рэквізіцыйных патрэбаў напалеонаўскага войска.

Адначасова была створаная сістэма ваенна-адміністрацыйнага кіравання краем. Спачатку пасаду гарадзенскага губернатара выконваў прызначаны Жэромам Банапартам Аляксандр Ражнецкі (17 чэрвеня–20 чэрвеня ці 22 чэрвеня). Пасля выхаду з горада войскаў Жэрома Банапарта губернатарам горада быў пакінуты Людвіг Камянецкі, які, верагодна, займаў гэтую пасаду да 9 ліпеня. Найбольш складаная сітуацыя з вызначэннем трэцяга губернатара, якім быў французскі генерал. У розных крыніцах фігуруюць розныя імёны. Аднак найбольш верагоднай кандыдатурай можна лічыць барона Жана Антуана Брэнэ, прызначанага на гэтую пасаду Напалеонам.

[32] НГАБ у Гародні. Ф. 1, воп. 19, ад.з. 1141, арк. 122.

Інтэндантам стаў аўдытар Дзяржаўнага Савета Шасенон. Менавіта з яго асабой звязаны г.зв. "канфлікт пакаленняў" паміж маладымі і энергічнымі, часам недасведчанымі ў адміністрацыйных справах інтэндантамі і больш сталымі членамі Адміністрацыйнай камісіі. Фанабэрысты Шасенон, які атрымліваў жалаванне з мясцовага скарбніцтва, *"рваў пратаколы пасяджэнняў, ставіў экзекуцыі членам* (пасылаў на пастой салдат у дамы няўгодных яму чыноўнікаў – рэд.)*, браў са скарбу грошы, а ўсе спрэчкі з гэтай нагоды, звычайна, заканчваліся на яго карысць"*[33].

Асноўная задача дзейнасці органаў напалеонаўскай адміністрацыі на землях Беларусі падчас вайны 1812 г. зводзілася да арганізацыі ўзброеных фарміраванняў, забеспячэння ўсім неабходным войскаў і збору грашовых сродкаў.

У Гародні размяшчалася кватэра 20 пяхотнага палка барона Адама Бішпінга. У верасні тут была створаная нацыянальная гвардыя, якая складалася з двух кампаній валанцёраў і вальтыжэраў (кожная па 119 чал.) на чале з Шастакоўскім і была ўзброеная трафейнымі расійскімі стрэльбамі. Трэцяя частка гвардзейцаў была абмундзіравана за кошт горада.

Таксама ў Гародні з'явіліся жандары з ліку мясцовай шляхты (прыблізна па сто жандараў на кожны дыстрыкт). Аднак у Гарадзенскім дэпартаменце ў дзейснай службе знаходзілася толькі палова, астатнія жылі ва ўласных дамах і чакалі загаду. Жандары атрымлівалі 60 кап. жалавання ў суткі і фураж (15 фунтаў саломы і 10 фунтаў сена)[34]. Іх часта выкарыстоўвалі падчас пакаранняў. На чале жандармерыі ў Гародні стала адмысловая Камісія.

Многія жыхары Гарадзенскага дыстрыкту падтрымалі паход Напалеона. Так, у пяхоту "Вялікай арміі" паступілі 293 чал., у кавалерыю – 142, у жандары – 107, у гвардыю – 100 і г.д. Як ужо адзначалася, у Гародні таксама была сфармаваная нацыянальная гвардыя[35]. Камендант Л.Штокмаер двойчы атрымліваў ад гарадзенцаў зброю, сабраную на месцах баёў. Яна была пе-

[33] Акты, документы и материалы для политической и бытовой истории 1812 года... Т. 1. С. 435.

[34] Для даведкі: 1 пуд = 16,38 кг, 1 фунт = 0,41 кг, 1 асьміна = 28,8 кг, 1 бочка = 491,96 л, 1 гарнец = 3,276 л, вядро = 12,3 л, 1 чвэрць (для сыпкіх рэчываў) = 209,6 л. (пачатак XIX ст.)

[35] НГАБ у Гародні. Ф. 1, воп. 19, ад.з. 1141, арк. 126.

рададзеная сфарміраваным часцям. Знамянальна, што Напалеон забараніў гандляваць зброяй на ўсёй тэрыторыі, занятай ягонымі войскамі.

Жыхары Гародні і павета ўдзельнічалі як у бягучым забеспячэнні харчаваннем і фуражом вайсковай групоўкі Жэрома Банапарта, так і ў стварэнні запасных складоў правіянту і фуражу. Паводле загаду вестфальскага караля, 10 ліпеня ў Гародні быў заснаваны склад на 500 тыс. рацыёнаў хлеба, ялавічыны, гарэлкі і зеляніны, які потым папаўняўся коштам шасці памешчыцкіх маёнткаў і пакінутых расійскімі войскамі прыпасаў у мястэчках Сталовічы, Любча ды інш. Найбольш інтэнсіўнае напаўненне складоў адбывалася ўвосень пасля ўборкі ўраджаю. З мэтаю назапашвання хлеба Гарадзенская адміністрацыйная камісія ў верасні наогул забараніла вінакурэнне (у 1810 г. у Гародні налічвалася 15 прыватных вінакурняў, заводаў і г.д. з гадавой вытворчасцю 2510 вёдраў віна, на якія выкарыстоўвалася каля 800 чвэрцяў мукі).

Пра "апетыты" напалеонаўскіх інтэндантаў сведчаць дадзеныя г.зв. "раскладкі" планаваных паставак харчавання і фуражу ў Гарадзенскі склад ад 19 кастрычніка 1812 г. У прыватнасці, інтэнданты планавалі сабраць у Гарадзенскім дыстрыкце жыта 6499 бочак, аўса 9569 бочак і 81 гарнец, сена і саломы па 3500 цэнтнераў. Ваўкавыскі дыстрыкт быў абавязаны даставіць у склад жыта 5878 бочак, аўса 8722 бочкі і 90 гарнцаў, па 3500 цэнтнераў сена і саломы. Жыхары Лідскага дыстрыкту павінны былі сабраць жыта 7623 бочкі, аўса 11337 бочак і 57 гарнцаў, а таксама па 1000 цэнтнераў сена і саломы.

Крыніцы сведчаць, што, прынамсі, Гарадзенскі і Лідскі дыстрыкты планы паставак выканалі на 100%.

Гародня заставалася буйным цэнтрам медыцынскага абслугоўвання хворых і параненых. У ліпені ў горадзе за кошт грашовых збораў з гараджан у трох вялізных будынках быў створаны шпіталь на 1200 чал., у якім размяшчаліся ў розны час

ад 700 да 2 тыс. хворых (сярэдзіна лістапада). Таксама хворых і параненых накіроўвалі ў кляштары і прыватныя дамы (усяго да 2 тыс. ложкаў). Акрамя гарадзенскага галоўнага шпіталя меўся таксама шпіталь у сяле Станіслававе (зараз тэрыторыя горада) для 200 саксонцаў. Для нагляду за шпіталямі ў Гарадзенскую шпітальную камісію ў кастрычніку 1812 г. былі абраныя Ян Урсын Нямцэвіч, які стаў яе кіраўніком, а таксама ў якасці дэпутатаў Петрыкоўскі (ад духавенства), Марцін Халявінскі (ад шляхты), Анджэй Заверскі (ад мяшчанаў).

Трэба прызнаць, што Камісія Часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага не выдаткоўвала грошы на ўтрыманне шпіталя і аптэкі. Пазней, калі яны перайшлі ў падпарадкаванне напалеонаўскіх уладаў, пастаўку бялізны і мэблі ўзяла на сябе Адміністрацыйная камісія дэпартамента, а іншых рэчаў – горад. Утрыманне шпіталя абыходзілася ў 500 тыс. руб. У якасці наглядчыкаў пры шпіталях выкарыстоўвалі таксама расійскіх палонных.

Прыватны пастаўшчык Солен у лістападзе выказаў жаданне ўзяць шпіталь на водкуп з выплатай яму па 2,5 франка за кожнага хворага і параненага, у той час як начальнік шпіталя Пегасі і інтэндант Шасенон давалі па 1,5 франка. У шпіталях выкарыстоўвалі медыкаменты, рэквізаваныя ў прыватных аптэках, а таксама прывезеныя з Прусіі, і трафейныя. Вядома, што ў ліпені ў Гародню прыбылі 10 фурманак розных трафейных медыкаментаў, захопленых у расійскіх войскаў. Акрамя таго, Адміністрацыйная камісія загадала збіраць лекавыя расліны і дастаўляць іх у Гародню. У снежні недахоп кадраў прымусіў улады мабілізаваць для працы ў шпіталі ўсіх наяўных лекараў.

Важнай праблемай было забеспячэнне дровамі. У Гародні для ста печаў, у якіх штодня выпякалася па 100 тыс. порцый сухароў, а таксама дзеля ацяплення шпіталяў ды іншых будынкаў летам штомесяц выкарыстоўвалася больш 4,5 тыс. вазоў дроў. Адміністрацыйная камісія загадала даставіць

19 тыс. сажняў дроў, у тым ліку з Гарадзенскага дыстрыкту – 3 тыс. Дровы рэквізаваліся ці купляліся. У адпаведнасці з загадам ад 14 кастрычніка планавалася даставіць у Гародню з Гарадзенскага, Ваўкавыскага, Лідскага, Слонімскага і Наваградскага дыстрыктаў з кожнай "душы" па 1 возе дроў.

Даволі цяжкай была фурманкавая павіннасць. Вядома, што са 150 фурманак, на якіх у горад у кастрычніку даставілі вайсковы рыштунак, уладальнікам вярнулі толькі 1/3.

Насельніцтва таксама абкладалася шматлікімі падаткамі і зборамі. Збіраліся сродкі на абмундзіраванне 1/3 часткі літоўскай гвардыі. Амаль усе жыхары былі абкладзены падаходным падаткам у памеры 1/7 ад прыбыткаў, плацілі г.зв. *"асабовае аднаразовае ахвяраванне"* ад 15 грошаў (7,5 кап.) да 500 злотых (75 руб.), існавалі таксама зборы на кантаністаў і жандараў. Але тут узніклі істотныя праблемы. У цэлым з Гарадзенскага дыстрыкту з планаваных больш чым 1,8 тыс. руб. улады, фактычна, атрымалі толькі каля 1,2 тыс. руб. У Гародні таксама спаганялі традыцыйныя гарадскія зборы, якія ў ліпені склалі каля 1,5 тыс. руб, а ў жніўні – звыш 2 тыс.[36]

Асобныя прадстаўнікі шматнацыянальнай "Вялікай арміі" паводзілі сябе на чужой зямлі як варвары. У былым езуіцкім будынку салдаты паламалі шафы з паперамі, забралі дровы для шпіталя. Сафійскі праваслаўны сабор стаў складам аўса і сена. Жаўнеры пазабіралі начынне з бакавога прыдзела Святога Мікалая, выламалі іканастас, а абразы выкарыстоўвалі замест дроваў. Напалеонаўскія войскі рэквізавалі ў жыхароў горада звыш 678 пудоў хлеба, шэсць бочак круп, 15 пудоў хмелю, больш за 5,5 тыс. пудоў фуражу, больш чым 600 бочак збожжа (жыта, пшаніца, гарох, ячмень, авёс, грэчка), вялікую колькасць курэй, гусей, качак, а таксама мяса, масла ды інш.

Абменныя курсы розных грашовых знакаў вызначалі мясцовыя ўлады. Параўнанне коштаў прадуктаў харчавання і фуражу на працягу ліпеня – снежня 1812 г. сведчыць пра пэўную

[36] НГАБ у Гародні. Ф. 1168, воп. 1, ад.з. 9, арк. 60 адв.

стабілізацыю гарадской гаспадаркі. Па многіх пазіцыях кошты нават зменшыліся. Так, у прыватнасці, асьміна мукі ў ліпені 1812 г. каштавала 1 злоты (зл.), а ў снежні – 17 грошаў (гр.), гарнец грэчкі 1 зл. 6 гр. і 15 гр., адпаведна, камень сена – 1 зл. 10 гр. (у снежні кошт не змяніўся), фунт мяса (кошт вагаўся) – 9 – 10 гр. і 10 – 24 гр., гарнец піва – 1 зл. 18 гр. і 26 гр., гарнец гарэлкі – 5 зл. 10 гр. і 3 зл. 28 гр.

У верасні 1812 г. на гарадскім рынку можна было набыць бочку жыта за 30 зл., бочку пшаніцы за 64 зл., бочку аўса за 22 зл., гарнец грэчкі за 20 гр., пуд сена за 25 гр., фунт свініны за 10 гр., фунт сала за 20 гр. і фунт рыбы за 6-16 гр.

Паштовыя зносіны Гародні з Вільняй канчаткова спыніліся на самым пачатку снежня. Магчыма, якраз таму мясцовых жыхароў, упэўненых у перамогах французаў, прыход расійскіх войскаў застаў знянацку.

Заняцце Гародні павінен быў ажыццявіць атрад генерал-ад'ютанта Адама Ажароўскага, які падыходзіў да горада з боку Ліды ў канцы лістапада. Між тым, на пачатку снежня у Гародні знаходзіліся два маршавыя батальёны баварцаў, да якіх пазней далучыліся кавалерыйская брыгада і пяхотны полк Давідовіча з аўстрыйскага атрада генерала Ф.Фрэліха (4 тыс. чал. і 30 гармат).

Ф.Фрэліх спачатку адмовіўся здаваць горад. Аднак з падыходам авангарда атрада Дзяніса Давыдава, сітуацыя змянілася. 8 снежня салдаты Давыдава паблізу горада захапілі ў палон двух гусараў з аванпастоў аўстрыйцаў. Давыдаў загадаў іх адпусціць. Пачаліся перамовы. У выніку генерал Фрэліх дамовіўся з ротмістрам А.Чачэнскім з атрада Давыдава, што расійскія войскі не будуць пераходзіць Нёман на адлегласці бліжэй, чым тры мілі ад горада і заключаць часовае замірэнне на двое сутак.

У выніку напалеонаўскія войскі 8 снежня пакінулі горад, захаваўшы ў цэласці правіянцкія склады (Давыдаў пераканаў аўстрыйцаў, што ў выпадку іх знішчэння ўсе страты будуць кам-

пенсаваныя коштам жыхароў горада). З Гародні выйшлі 5-6 тыс. салдат і афіцэраў напалеонаўскай арміі, у тым ліку кавалерыйскія і пяхотныя часці баварцаў, літоўскі полк А.Бішпінга, конная артылерыйская рота Рудольфа Тызенгаўза і літоўскія жандары князя М.Радзівіла.

Атраду Давыдава, які ўступіў у горад 9 снежня з боку Скідзеля дасталіся значныя вайсковыя, харчовыя (5030 чвэрцяў жыта ды інш.) запасы, а таксама медыкаменты (агульным коштам каля 1 млн. руб.). Таксама былі захопленыя палоннымі (661 салдат і афіцэр праціўніка). Адначасна з палону былі вызваленыя амаль 500 чал. За бяскроўнае вызваленне горада Давыдаў атрымаў пазней ордэн Св. Уладзіміра III ступені.

Дзяніс Давыдаў распарадзіўся паставіць пасты на вуліцах, а таксама варту пры складах і шпіталях. Сам расійскі афіцэр пад вясельным габрэйскім балдахінам рухаўся да плошчы, дзе яго сустрэў натоўп габрэяў на чале з кагальнымі. Пасля грукату барабана гарадской паліцыі ён перад натоўпам на Параднай плошчы зачытаў адозву да гараджан: *“...Я ўвайшоў сюды пры дапамозе мірнай дамовы, мог тое ж зрабіць моцаю зброі, але я ахвяраваў славаю атрада майго для выратавання горада, які належыць Расіі, бо вам вядома, што бітва на вуліцах заканчваецца рабункамі ў дамах, а рабунак – пажарамі...”*

Начальнікам горада быў прызначаны падпалкоўнік Храпавіцкі, а кіраўніком паліцыі – кагальны. Ад насельніцтва на працягу двух гадзін патрабавалася здача ўсёй агнястрэльнай зброі пад пагрозай расстрэлу на плошчы. Грамадскую бяспеку і парадак забяспечвалі казацкія патрулі. Пасля 17 гадзін забаранялася збірацца разам, больш чым 5 асобам.

Славуты расійскі партызан загадаў замяніць ранейшую сімволіку, якая праслаўляла французаў і Напалеона, сведчыла пра захоп Масквы на іншую, якая ўзвялічвала моц расійскай зброі і імператара. Самая прыкметная выява была на балконе аптэкара. На ёй арлы Францыі і Польшчы раздзіралі на часткі

двухгаловага арла Расіі. Давыдаў загадаў да французскага і польскага арлоў дадаць яшчэ двух і паказаць, як яны ў страху адлятаюць ад адзінага рускага арла.

Да дня нараджэння расійскага імператара Аляксандра І (12 снежня) жыхары павінны былі вывесіць выявы, якія праслаўлялі перамогу расійскіх войскаў. Калі збянтэжаны аптэкар выказаўся наконт цяжкасці выканання замены ў вызначаны час, Давыдаў паабяцаў прыставіць да яго дома варту. У полымі раскладзеных казакамі вогнішчаў былі знішчаны алегарычныя карціны і творы, што праслаўлялі Напалеона і французаў. Пад грукат сякер паваліўся слуп, пастаўлены ў памяць захопу Напалеонам Масквы.

На ўрачыстым набажэнстве 12 снежня ксёндз, які раней славіў Напалеона, выказваў падзякі за збаўленне ад *"ярма французскага дэспатызму"*, узвялічваў расійскага імператара і войска. Пасля ўрачыстасцяў да Давыдава пацягнуліся з візітамі прыніжаныя прадстаўнікі мясцовай эліты. Аднак данскі "швейцар" з пікаю прапусціў толькі Анджэйковіча, графа Валіцкага і венгерскага ўраджэнца Рота.

Дзяніс Давыдаў разам з паліцмайстрам Храпавіцкім размясціўся ў доме Любецкага на гарадской плошчы насупраць Ратушы. Давыдаў трохі ведаў горад, бо пасля Тыльзіцкага міру 1807 г. ён некалькі дзён правёў тут у свайго сябра князя Барыса Чацвярцінскага. На гэты раз хвароба затрымала яго ў горадзе на пяць дзён. Між тым атрад без камандзіра ўжо 13 снежня выступіў у Ганёндз. У гэты ж дзень у горад увайшла кавалерыя генерал-лейтэнанта Фёдара Корфа, а пазней падышла пяхота генерала Міхаіла Міларадавіча.

Разбурэнні вайны 1812 г. абмінулі горад над Нёманам. Амаль усе ягоныя жыхары засталіся ў родных мясцінах. Калі ўвесну 1812 г. горад налічваў каля 11,3 тыс. жыхароў, то ў снежні – трохі болей за 11,1 тыс. Дамы не былі спаленыя, жыхары пазбеглі рабункаў, хоць страцілі частку маёмасці (агульныя страты рухомай маёмасці склалі болей за 48 тыс. руб.[37]).

[37] НГАБ у Гародні. Ф. 1, воп. 19, ад.з. 1141, арк. 72а-73.

Жыццё паступова вярталася да мірнага ладу. Новы 1813 г. пачынаўся забавамі і святамі мясцовай эліты. Рускі пісьменнік Фёдар Глінка пісаў 2 (13) студзеня з Гародні: *"Учора вечарам было тут г.зв. Касіно, збор па квітках. Дом збору быў асветлены. Актыўныя патрыёткі, уяўныя аматаркі Айчыны спачатку вельмі няласкава глядзелі на сваіх прыгожых пераможцаў – рускіх афіцэраў. Яны імкнуліся паказаць сябе гарачымі прыхільніцамі свабоды, засмучанымі яе стратай, са слязьмі ў вачах... Але зайгралі мазурку і ўсе пусціліся танцаваць. Здаецца, польскія жанчыны павінны найменш баяцца заваёвы. Іх спрыт, розум і цудоўныя вочы здаўна гарантавалі ім перамогі над сэрцамі мужчын".*

...На ўскрайку гарадзенскіх праваслаўных могілкаў (зараз вул. Антонава) ёсць помнік з надпісам: *"Здесь погребено тело генерал-лейтенанта Сергея Николаевича Ланского с честию и славою служившего, на поле брани от полученной раны под селением Краоном февраля 23-го дня, к общему сожалению своих товарищей и подчинённых, преставился в городе Намюре, от рождения на 35 году, сего 1814 года марта 18 дня по полуночи в два часа".*

Вайну 1812 г. Ланскі сустрэў камандзірам Беларускага гусарскага палка, які фарміраваўся з ураджэнцаў Беларусі і стаяў паблізу Гародні. Ён быў смяротна паранены ў бітве пад Краонам у Шампані, дзе часткі яго дывізіі прыкрывалі адыход войскаў князя Варанцова. Цела прывезлі ў Гародню і пахавалі на могілках, дзе ўжо знаходзілася магіла ягонага бацькі мясцовага памешчыка Мікалая Ланскога.

## ЖЫЦЦЁ ГОРАДА Ў ПЕРШАЙ ТРЭЦІ XIX СТ.

Эканамічнае развіццё Гародні пачатку XIX ст. было звязана пераважна з цэхамі рамеснікаў. Горад заставаўся рэгіянальным цэнтрам рамеснай вытворчасці. Праўда, на працягу першай

чвэрці стагоддзя колькасць гарадскіх рамеснікаў істотна зменшылася. Калі ў 1800 г. іх было каля 1700 чал., то ў 1825 г. толькі 665. Гэта былі гарбары, краўцы, шаўцы, кушнеры, шапачнікі, кавалі, ганчары, муляры, брукары, фурманы, піевавары ды іншыя. Значная частка рамеснікаў, як і раней, была аб'яднана ў цэхі, якія заставаліся іерархічнымі арганізацыямі і складаліся з вучняў, падмайстраў (чаляднікаў) і майстроў, адносіны паміж якімі рэгуляваліся статутам. На чале цэхаў стаялі старшыя майстры або цэхмайстры, а ўсе цэхі ў горадзе падпарадкоўваліся рамеснай управе. Паступова ўлады пазбавілі цэхі той самастойнасці, якую яны мелі ў часы Рэчы Паспалітай. У выніку іх уплыў на развіццё рамяства значна зменшыўся. У 1829 г. гарадзенскі губернатар пісаў у Міністэрства ўнутраных спраў, што *"мяшчане, хрысціяне і габрэі па родах іх рамяства хоць і падзяляюцца на цэхі, але суполкі іх ніякіх капіталаў не маюць"*.

У спадчыну ад Антонія Тызенгаўза засталося некалькі былых каралеўскіх мануфактур, пабудаваных на Гарадніцы і ў Ласосне: палатняная (1766-1845), суконная (1766-1860), гарбарная (1770-1860), суконна-фарбавальная (1779-1860). На першай выраблялі палатно для абрусаў і сурвэтак, муслін, батыст; на другой – рознае сукно і камлот (ваўняная тканіна з дамешкам шоўкавай або баваўнянай ніткі); на трэцяй – апрацоўвалі скуру і выраблялі з яе пэўную прадукцыю.

Паступова развівалася і фабрычна-завадская вытворчасць. У 1806 г. у горадзе было тры прадпрыемствы такога тыпу: тытунёвае, скураное і шарсцяное; у 1821 г. іх стала ўжо сем: тры суконныя, два капялюшныя, два скураныя. Даволі тыповай для горада была гісторыя вытворчасці капелюшоў "ад Бурды".

Мешчанін Міхель Бурда прыехаў у Гародню з мястэчка Крынкі ў 1796 г. Ажаніўся і адчыніў майстэрню па вытворчасці капелюшоў (*"шляпочный завод"*). У 1813 г. яна знаходзілася ў драўляным доме, які арэндаваўся ў Веніяміна Янкелевіча, а з 1816 г. – ва ўласным доме "заводчыка". Невядома, колькі было

першапачатковага капіталу, але ў 1819 г. М.Бурда меў асабістага капіталу 200 руб. срэбрам. Верагодна, спачатку вытворчасць абмяжоўвалася толькі адным станком, на якім працаваў сам Бурда з памочнікам. Пазней на "заводзе" з'явіліся два ці тры вольнанаёмныя рабочыя. Яны выраблялі з заячай і авечай шэрсці капелюшы трох тыпаў: паўпуховыя круглыя, простыя шарсцяныя і простыя габрэйскія вялікія. У 1813 г. было зроблена 530 капелюшоў (адпаведна – 30, 200, 300 шт.), у 1814 і 1815 гг. – 400, на што, відаць, уплывалі ваенныя падзеі, бо з 1816 па 1830 г. аб'ём вытворчасці хістаўся ў рамках 220-375 капелюшоў. Прадаваліся яны ў асноўным у Гародні. М.Бурда памёр у 1833 г., і прадпрыемства зачынілася.

У Гародні развіваліся пераважна галіны прамысловасці, звязаныя з мясцовай сыравінай. Гэта была вытворчасць прадуктаў харчавання, дрэваапрацоўка, выраб паперы, вытворчасць цэглы, кафлі і вапны, апрацоўка скуры, тэкстыльная прамысловасць.

Важнай формай гандлю былі базары, на якія сяляне прывозілі хлеб, крупы, мёд, воск, хмель, солад, сена, скуры ды інш. На базарах гандлявалі таксама рамеснікі. Па нядзелях, серадах і пятніцах базары працавалі на Сенным рынку (зараз аўтастаянка на вул. Вялікай Траецкай) і на плошчы каля Скідзельскай заставы (зараз раён аўтавакзала). Існаваў базар і на левым беразе Нёмана. У 1845 г. з дазволу Міністэрства ўнутраных спраў у Гародні быў заснаваны Іванаўскі кірмаш, які пачынаўся 25-26 чэрвеня і працягваўся адзін месяц.

Развіццё прамысловасці і рост колькасці гарадскога насельніцтва стваралі ўмовы для пашырэння сеткі стацыянарнага гандлю. Вось як расла колькасць гандлёвых лавак у дарэформенны час: у 1833 г. – 89, у 1840 г. – 131. Тут гандлявалі прамысловымі таварамі і прадуктамі харчавання.

Значную ролю ў міжрэгіянальным і знешнім гандлі адыгрывала Гарадзенская прыстань. Рака Нёман з прытокамі і каналам Агінскага злучала Гародню з Менскай і Валынскай губернямі,

Каралеўствам Польскім і Прусіяй. Так, у 1837 г. з прыстані было адпраўлена 113 судоў і 20 плытоў з грузам на суму амаль 1 млн. руб. Вывозілі пераважна збожжа, крупы, муку, гарэлку, дрэва, паташ, льняное і канаплянае масла і семя, шэрсць, сала ды інш. А вось прывозілі ў Гародню машыны, метал і вырабы з яго, аптэчныя матэрыялы, соль, селядцы, віна, сыравіну для прамысловай вытворчасці ды інш. У 1837 г. да прыстані прышвартавалася 55 судоў і 285 плытоў з грузам на суму звыш 400 тыс. руб.[38]

У міжрэгіянальным гандлёвым абмене Гародня была найбольш звязаная з Масквой, Кіевам, Харкавам, Палтавай, Крэменчугом і Пецярбургам. Склады гарадзенскіх купцоў знаходзіліся ў Маскве, Пецярбургу, Адэсе, Кіеве, Вільні ды інш. Памежнае знаходжанне горада садзейнічала пасрэдніцкай дзейнасці купцоў і гандлю мясцовых памешчыкаў з Каралеўствам Польскім і Прусіяй (Данцыг і Каралевец). Дадзеныя па гарадзенскай мытні сведчаць, што ў 1838 г. праз яе вывезлі ў Польшчу нявырабленых скураў, нячэсанага льну і пенькі, сала, тытуню, хлеба, шчаціны, авечай шэрсці і г.д. на суму 54 тыс. руб.[39]

У грамадска-палітычным і культурным жыцці Гародні пачатку XIX ст. важную ролю адыгрывалі масонскія ложы. Як вядома, першая ложа на тэрыторыі Рэчы Паспалітай узнікла пры каралеўскім двары ў Варшаве. У 1781 г. Вялікі майстар (магістр) Ігнацi Патоцкі падрыхтаваў Канстытуцыю Вялікага Усходу Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага. 26 лютага 1784 г. яе падпісалі дэпутаты адной вялікай ложы, трох правінцыяльных і дзевяці сімвалічных ложаў. У іх ліку была гарадзенская правінцыяльная ложа "Шчаслівае вызваленне" (*"L'beureuse Delivrance"*). Канстытуцыя вылучала Вялікапольскую, Малапольскую і Літоўскую правінцыі, на чале якіх стаялі намеснікі Вялікага майстра. Літоўскую правінцыю ўзначальваў першы майстар кафедры гарадзенскай ложы "Шчаслівае вызваленне" Людвік Гутакоўскі[40].

Ложа ў Гародні ўзнікла ў 1781 г. Яна была "правінцыяльнай" (г.зн., што магла ствараць ложы першых ступеняў) і працавала

[38] НГАБ у Гародні. Ф. 1, воп. 4, ад.з. 659, арк. 9.

[39] Бобровский П. Материалы для географии и статистики России. Гродненская губерния. Ч. 2. СПб., 1863. С. 409.

[40] Małachowski-Łempicki St. Wolnomularstwo na ziemiach dawnego WKL (1776-1822). Dzieje i materiały. Wilno, 1930. S. 9.

на французскай мове. У Цэнтральнай бібліятэцы імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы захаваўся пергамент з подпісамі ўсіх 17 "братоў" ложы "Шчаслівае вызвалення", якія давяралі майстру Антонію Гадэну прадстаўляць іх перад вышэйстаячымі масонскімі арганізацыямі.

Наогул, трэба адзначыць, што тагачасныя масоны працавалі паўлегальна. Іх дзейнасць не была поўнай таямніцай ні для ўладаў, ні для грамадскасці. Больш за тое, у пэўны момант было прэстыжным належаць да ложы.

Майстрам ложы "Шчаслівае вызваленне" быў знакаміты Жан Эмануэль Жылібер, намеснікам – Якуб Бэкю, скарбнікам – Ян Людвік Бэкю, сакратаром – Фрыдэрык Шрайбер. Фактычна, "братамі" ложы была тагачасная гарадзенская эліта з асяроддзя Антонія Тызенгаўза.

Як доўга існавала ложа, сказаць цяжка. Ёсць звесткі, што яна спыніла сваю дзейнасць яшчэ ў XVIII ст. Таксама згадваецца факт перадачы Вялікім Усходам імя гарадзенскай ложы нясвіжскім масонам у 1810 г. Але вядомы польскі даследчык Станіслаў Малахоўскі-Лэмпіцкі апублікаваў спіс "братоў" ложы на 1820-1821 гг. Паводле яго даследвання, у 1821 г. у "Шчаслівым вызваленні" было 79 "братоў"[41]. Асноўную масу складалі мясцовыя чыноўнікі і вайскоўцы.

Кожны год адбываліся выбары "афіцэраў" ложы: майстра кафедры, ягонага намесніка, дазорцы, прамоўцы, скарбніка, суддзі, ялмужніка (ці "жабрака"). Майстар, як галоўны адміністратар ложы, падтрымліваў кантакты з правінцыяльнай ложаю, прадстаўляў кандыдатуры "братоў" на больш высокую ступень (усяго тры ступені – майстар, чаляднік і вучань), падпісваў дакументы.

Выкананне рашэнняў майстра кантралявалі два дазорцы. Яны ж тлумачылі незразумелыя заданні і сачылі за дысцыплінай. Наступная пасада ў іерархіі ложы – прамоўца. Ён павінен быў добра ведаць Канстытуцыю, звычаі і прадпісанні масонаў, каб

[41] Małachowski-Łempicki St. Wolnomularstwo na ziemiach dawnego WKL (1776-1822). S. 53.

не дапускаць парушэнняў. Прамоўца выступаў па сутнасці кожнай справы, даваў заключэнне на пададзеныя скаргі і заявы адпаведна з правам масонаў. Звычайна пасля яго выступу майстар пачынаў дыскусію. У 1821 г. прамоўцам быў старшыня Слуцкага земскага суда Адам Гарабурда.

Дзве наступныя пасады – скарбнік і суддзя. Пад апекаю першага знаходзіўся бюджэт ложы і фінансавыя разлікі. Другі вырашаў судовыя справы братоў ложы. Ялмужнік распараджаўся грашыма, якія былі сабраныя на дапамогу бедным, наведваў хворых "братоў". На яго імя падаваліся прашэнні аб дапамозе. У 1820 г. ялмужнікам быў аптэкар Караль Ронге.

Сакратар ложы вёў справаводства і перапіску. У 1820 г. сакратаром быў магістар права Людвік Развадоўскі. Майстар абрадаў рыхтаваў цырымоніі і сачыў, каб падчас іх кожны "брат" быў на сваім месцы. Мечнікам, да абавязкаў якога належала нясенне меча на цырымоніях, у 1820 г. быў былы камердзінер Тадэвуша Касцюшкі, амерыканскі грамадзянін Ян Лаперэ. Дырэктар гармоніі кіраваў музыкай і спевамі падчас працы ложы, банкетаў і ўрачыстасцяў. У 1820 г. ім быў музыкант Пётр Корбут. Таксама варта назваць такіх братоў "Шчаслівага вызвалення", як былы старшыня Менскага галоўнага суда Адам Гюнтэр, сенатар і кашталян Аўгуст Кіцкі, сенатар Юзаф Дыянізі Мінасевіч.

У 1817 г. у Гародні ўзнікла яшчэ адна масонская ложа "Сябры чалавецтва". Галоўным ініцыятарам, заснавальнікам і першым майстрам быў былы маршалак Гарадзенскай губерні Калікст Межаеўскі. Да ліку заснавальнікаў ложы таксама належалі адстаўны палкоўнік войскаў ВКЛ Ігнаці Ляхніцкі, доктар Бернард Міхельсон, асэсар губернскага праўлення Рыгор Бялоцкі, сакратар шляхецкага сходу Міхал Вітаноўскі, дарадца Віленскай скарбавай палаты Ануфры Крыдзель, адстаўны капітан былога войска Каралеўства Польскага Юзаф Бжэзіна і гарадзенскі злотнік Філіп Майне.

Ложа “Сябры чалавецтва” была “сімвалічнай”, бо вяла працы ў першых трох ступенях: вучня, чалядніка і майстра. Навука масонаў сімвалічных ложаў складалася з выпрацавання сямі абавязкаў, менавіта даверу, шчырасці, міласэрнасці да бедных, паслухмянасці, лагоднасці, адвагі і маўчання.

Гарадзенскія масоны падпарадкоўваліся віленскай правінцыйнай ложы “Дасканалая еднасць”. Пра гэта сведчыць і пячатка апошняй, на якой быў размешчаны сімвал гарадзенскай ложы – літары P.L.(*“Przyjaciele Ludzkosci”*). Дэпутат ложы ўваходзіў у Вялікі Усход Польшчы і Літвы. У 1819 г. ім быў старшыня ломжынскага грамадзянскага трыбунала Віктар Рамбялінскі.

У 1821 г. у ложы было 146 “братоў”, сярод якіх пераважалі чыноўнікі і вайскоўцы. У 1820-1821 гг. майстрам ложы “Сябры чалавецтва” быў Міхал Бутаўт-Анджэйковіч, а ягонымі намеснікамі – рэгент Галоўнага суда ў Гародні Вінцент Яноўскі і старшыня дэпартамента гэтага суда Антоні Елец. Ролі дазорцаў выконвалі сакратар дваранскага сходу Міхал Вітаноўскі (якога пазней замяніў дарадца Скарбовай палаты Вінцэнт Стычынскі) і прэзідэнт Гародні Казімір Крэйбіх. Пасаду прамоўцы займалі ў 1821 г. адвакат Галоўнага суда Бенедыкт Паўлоўскі (бацька пісьменніцы Элізы Ажэшкі) і асэсар гэтага ж суда Дамінік Вітаноўскі.

Ложа “Сябры чалавецтва” вылучалася дабрачыннай дзейнасцю. Віленская правінцыйная ложа ставіла яе ў прыклад іншым ложам, адзначаючы міласэрнасць гарадзенскіх “братоў”, іх узаемадапамогу, павагу да іншых “братоў”, руплівасць. Пасяджэнні адбываліся ў адмысловым гмаху масонскай ложы. Пазней ён быў перададзены Гарадскому таварыству дабрачыннасці, да стварэння якога ў 1820 г. масоны мелі непасрэдныя адносіны. Яны ж дамінавалі ў адміністрацыі гэтага Таварыства.

Безумоўны ўплыў масонаў на стварэнне патаемных таварыстваў першай чвэрці XIX ст. Нельга не пагадзіцца з польскім гісторыкам Станіславам Дабранскім, які заўважыў палітызацыю масонаў, што было пэўным парушэннем абвеш-

чаных імі задачаў: *"Не маючы магчымасці адкрыта выказваць свае палітычныя погляды, польскія і літоўскія масоны пачынаюць "працаваць" у сваіх ложах пад покрывам строгай таямніцы, ствараючы розныя патаемныя таварыствы, якія імкнуліся да звароту згубленай вольнасці і аднаўлення загінуўшай дзяржавы"*[42].

Былы масон віленскай ложы "Руплівы ліцвін" С.Міцканеўскі пры разглядзе ягоных фінансавых прэтэнзій да ложы заявіў: *"... Галоўная таямніца масонаў заключаецца ў наступным: усталяваць паміж людзьмі ўсялякага стану вольнасць і роўнасць, зліквідаваць дэспатызм або самадзяржаўнае кіраванне".* Гэтая заява мела характар публічнага даносу, бо С. Міцканеўскі, фактычна, абвінавацiў масонаў у падрыхтоўцы *"рэвалюцыі, падобнай да тых, што былі ў* Францыі*, Іспаніі, Партугаліі, Неапалі, Турыне"*[43].

Відавочна, што масоны мелі дачыненне таксама да ідэі вызвалення сялян ад прыгону на прыкладзе г.зв. остзейскіх губерняў, г.зн. без зямлі. У снежні 1817 г. гэтае пытанне абмяркоўвалася на дваранскіх выбарах у Вільні. Было вырашана падаць прашэнне да імператара аб стварэнні камітэта для складання праекта паляпшэння становішча сялян.

У жніўні 1821 г. выйшаў указ Аляксандра I аб закрыцці масонскіх ложаў і тайных таварыстваў. 30 лістапада віленскі генерал-губернатар Андрэй Рымскі-Корсакаў выдаў падобнае распараджэнне адносна падначаленых яму губерняў. Адпаведна зачыняліся ўсе ложы на тэрыторыі Беларусі, а іх архівы, грошы, рэчы, прадметы абраднасці і сімволікі па прадпісанні Вялікага майстра Аляксандра Ражнецкага збіраліся дзеля іх захавання.

Усе дзяржаўныя чыноўнікі, настаўнікі школ, прафесары, вайскоўцы павінны былі даць падпіску аб непрыналежнасці да масонскіх ды іншых тайных таварыстваў у краі ці за мяжой. У гарадзенскім архіве захавалася частка падпісак масонаў двух узораў. Адна сцвярджала, што падпісант ніколі не належаў да масонскіх ложаў, а другая, што належаў, але канчаткова

[42] Добрянский С.Ф. Очерки из истории масонства в Литве // Записки Северо-Западного отдела имп. Рус. Географического общества. Кн. 4. 1913 г. Вильна, 1914. С. 104, 105, 116.

[43] Добрянский С.Ф. Очерки из истории масонства в Литве. С. 130.

адышоў ад масонаў. Такім чынам, легальная гісторыя масонства была завершана.

Улады падазравалі, што дзейнасць масонаў усё ж працягваецца. Сенатар Навасільцаў загадаў гарадзенскаму губернатару ў маі 1823 г. мець *"пільны нагляд, ці не збіраюцца былыя масоны ў каго-небудзь са сваіх сяброў або ў трэцім месцы пад выглядам сяброўскіх размоў, ці часта бываюць такія сустрэчы і сходы, ці запрашаюцца на іх пабочныя асобы, чым яны займаюцца, і ці не відаць уплыву якой-небудзь асобы на гэтыя сходы?"*[44]. Губернатар М.Бутаўт-Анджэйковіч у адказ супакойваў начальства, але, відаць, не быў да канца шчырым, бо ёсць звесткі, што дзейнасць "Сяброў чалавецтва" працягвалася. Прынамсі пісьменніца Эліза Ажэшка пазней успамінала: *"Бацька мой быў вальнадумцам, як гэта тады называлася, вальтэрыянцам. Ведаю, што паміж 1825 і 1840 гг. належаў да адной з масонскіх ложаў, якія існавалі ў Літве"*[45].

Нягледзячы на імператарскія ўказы і забароны, ідэі вольнасці і роўнасці ўсё ж пашырыліся сярод пэўнай часткі эліты. Летам 1825 г. у Літоўскім асобным корпусе, раскватэраваным на тэрыторыі Гарадзенскай губерні, аформілася патаемнае таварыства "Ваенных сяброў". Як пазней высветліла следства, ідэя стварэння арганізацыі належала былому філамату адстаўному афіцэру Міхаілу Рукевічу. Арганізатарамі Таварыства былі таксама капітан Канстанцін Ігельстром, паручык Аляксандр Вягелін, падпаручык Гофман і радавы А.Угрычыч-Трабінскі. Калі да гэтых вайскоўцаў дабавіць падпаручыка Э.Пятроўскага, дык атрымаецца поўны склад "першай ступені" таварыства.

"Другую ступень" (*"Згода"*) склалі пераважна цывільныя асобы: канцылярыст Беластоцкага галоўнага суда Людвік Вронскі, служачы Беластоцкага дваранскага сходу Аляксандр Грынявіцкі, шляхціц Іван Высоцкі, настаўнік гімназіі Фелікс Ардынскі. Трэцяй ступенню з'яўлялася былое самастойнае таварыства *"Заране"*: Франц Баркоўскі, Карл Ардынскі, Андрэй

[44] НГАБ у Гародні. Ф. 1, воп. 1, ад.з. 2860, арк. 59 адв.

[45] Цыт. па: Jankowski E. Eliza Orzeszkowa. Warszawa: PIW, 1966. S. 21.

Яневіч – усе вучні Беластоцкай гімназіі. Усяго да таварыства належала да 45 чалавек.

Апроч ідэалаў вольнасці сябры Таварыства марылі пра развіццё асветы, пашырэнне ідэі ўзаемадапамогі і г.д. Даследчыкі звярнулі ўвагу на падабенства праграмы "Ваенных сяброў" з праграмай "Паўночнага таварыства" дзекабрыстаў. Таксама падтрымлівалі адносіны з польскім Патрыятычным таварыствам.

24 снежня 1825 г. Літоўскі піянерны батальён, фурштацкая і пантонная каманды (больш за 1 тыс. чал.) у Браньску пад Беластокам адмовіліся прысягаць Мікалаю І. Спроба ўзняць на паўстанне іншыя вайсковыя часці не ўдалася, пачаліся арышты.

Следчая камісія ў Беластоку дапытала звыш 140 чалавек. У тым ліку сёстраў Рукевіча Карнелію і Ксаверыю. Яны не толькі ведалі пра існаванне патаемнага таварыства, але і прымалі ўдзел у некаторых яго пасяджэннях. Пра гэта згадвалася ў ваенна-судовай справе паручыка Самагіцкага палка І. Пац-Памарнацкага.

Карнелія і Ксаверыя Рукевічы зрабілі неацэнную паслугу тайнай арганізацыі. Калі Ігельстрома арыштавалі, яго слуга Павел Паршнёў перадаў Ксаверыі зялёны куфэрак з паперамі, якія яна спаліла разам з усімі дакументамі. Следчая камісія прымусіла яе прызнацца ў гэтым. Аднак вельмі важныя дакументы ў рукі следчых так і не трапілі. Сенатар Навасільцаў у рапарце цэсаравічу Канстанціну Паўлавічу тлумачыў паводзіны Ксаверыі баязлівасцю і жаданнем дапамагчы брату, а *"таксама неразуменнем іх важнасці"*. Ксаверыя, сапраўды, любіла брата і свайго жаніха А.Вягеліна, але не баязлівасць і слабасць прымусілі яе спаліць дакументы, а менавіта разуменне іх важнасці і антыўрадавай сутнасці. Ксаверыя ведала, што сваім учынкам яна ратуе "Ваенных сяброў". З годнасцю трымалася падчас следства і яе сястра Карнелія.

Камандуючы Літоўскім асобным корпусам вялікі князь Канстанцін Паўлавіч распарадзіўся выслаць сёстраў у Сібір

на пасяленне. Аднак царская канфірмацыя была мякчэйшай: *"Сёстраў шляхціца Рукевіча Ксаверыю і Карнелію замест вызначанай Яго Высокасцю кары трымаць у кляштары: Ксаверыю – адзін год, а Карнелію – шэсць месяцаў".* Сёстры Рукевіч адбывалі пакаранне ў брыгіцкім кляштары ў Гародні ў 1827-1828 гг. Паводле той жа канфірмацыі Рукевіч, Вягелін і Ігельстром былі асуджаныя на 10 гадоў катаргі з наступным пасяленнем у Сібіры. Грынявіцкі, Вронскі, Высоцкі і Ардынскія атрымалі па 5 гадоў катаргі, іншыя трапілі ў арыштанцкія роты Бабруйскай крэпасці.

З Гародняй быў звязаны лёс двух сяброў іншых дзекабрысцкіх арганізацый. Так, сакратар і скарбнік Таварыства злучаных славян Ілля Іваноў да пераезду на Украіну служыў у Гарадзенскай паштовай канторы. Ён быў асуджаны на 8 гадоў катаргі ў Чыце і Пятроўскім заводзе. А вось сябра Паўночнага таварыства Андрэй Кажэўнікаў трапіў у Гародню ўжо пасля адбыцця пакарання. З 1856 па 1862 г. ён кіраваў Гарадзенскай палатай дзяржаўнай маёмасці.

Культурнае і духоўнае жыццё Гародні першай трэці XIX ст. адбывалася ўжо ва ўмовах імперскай палітыкі, прыярытэтамі якой была падтрымка праваслаўнай царквы на беларускіх землях і паступовы пераход да палітыкі русіфікацыі.

Ва ўмовах прыгонніцкай імперыі, заклапочанай умацаваннем сваёй улады на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, сістэма адукацыі развівалася надзвычай марудна. Прыкметнай падзеяй для Гародні стала адкрыццё ў 1820 г. першай ланкастэрскай школы (школа ўзаемнага навучання). Кіраваў школай дваранін Альбін Фармасовіч, які прайшоў навучанне ў Вільні. Аднак развіцця гэтая сістэма не атрымала. Наогул, паводле падлікаў гісторыка Іны Соркінай, у 1829 г. у Гародні і павеце існавалі толькі шэсць навучальных устаноў, у т.л. адна гімназія, адно павятовае і два прыходскія вучылішчы, два пансіёны. Настаўнікаў было ўсяго 12, а вучняў – 319[46].

Асобна трэба адзначыць адукацыйную дзейнасць манахаў-дамініканцаў. У 1803 г. школа пры кляштары перайшла ў падпа-

[46] Соркіна І. Адукацыя ў Гродне ў першай палове XIX ст. па матэрыялах фонду канцылярыі гродзенскага губернатара // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Гародня, 2009. С. 260-290.

радкаванне Віленскага ўніверсітэта, які стаў на чале Віленскай навучальнай акругі. Школа адпавядала ступені павятовага вучылішча. Кіравалі ёй дамініканцы, яны ж займалі пераважную большасць настаўніцкіх пасадаў, але кіраўніка (прэфекта) з 1803 г. зацвярджала кіраўніцтва Віленскага ўніверсітэта.

У школе выкладаліся наступныя прадметы: у I класе – чытанне і пісьмо на лаціне, пачаткі арыфметыкі і геаграфіі, катэхізіс; у II класе – лаціна, катэхізіс, арыфметыка, геаграфія, чыстапісанне; у III класе – граматыка лацінскай мовы, гісторыя, геаграфія, пачаткі матэматыкі і прыродазнаўства, маральная навука; у IV класе – тэарэтычная і прыкладная матэматыка, гісторыя Грэцыі, пачаткі фізікі, прыродазнаўства, рыторыка, правілы вершаскладання; у V класе (двухгадовы курс) – фізіка, алгебра, паліталогія, прыродазнаўства, рыторыка і паэзія; у VI класе – права, сусветная гісторыя, прыродазнаўства, логіка, рыторыка, паэтыка. Акрамя гэтага існаваў і VII клас – падрыхтоўчы альбо пачатковы. Закон Божы вывучалі на працягу адной гадзіны ў нядзельныя і святочныя дні да 1834 г., пасля – колькасць заняткаў павялічылася да двух гадзін у кожным класе. Навучанне вялося на польскай мове.

У 1823 г. пачалося рэфармаванне вучылішча. Было спынена выкладанне некаторых прадметаў паліталагічнага цыкла і ўзмоцнена выкладанне лацінскай і грэчаскай моваў, а таксама рускай, якая стала абавязковай. Колькасць класаў скарацілася да 5 (было 7), справаводства было пераведзена на рускую мову. А 14 верасня 1825 г. распараджэннем Міністра народнай асветы павятовае вучылішча было ператорана ў дамініканскую гімназію. Аднак пры кляштары па-ранейшаму існавала таксама і вучылішча.

Агульная колькасць вучняў вагалася ад 84 (у 1807 г.) да 307 (у 1831 г.). Іх канфесійная прыналежнасць была дастаткова разнароднай, бо ў школе навучаліся каталікі, уніяты і праваслаўныя. Тое ж датычыла і саслоўнай прыналежнасці. Тут вучыліся дзеці практычна ўсіх саслоўяў.

Прэфектам школы да 1827 г. быў айцец Караль Чапліц, пасля яго айцец Станіслаў Снарскі, прызначаны на гэтую пасаду без згоды Віленскага ўніверсітэта. Выбухнуў скандал, у выніку якога ўпершыню пасаду прэфекта гімназіі заняў свецкі чалавек магістр філасофіі Вінсэнт Наксяновіч. Як заўважыла даследчыца Раіса Зянюк, дзейнасць апошняга заключалася пераважна ў напісанні справаздачаў, якія больш нагадвалі даносы дырэктару вучылішчаў Гарадзенскай губерні. У іх прэфект даводзіў да ведама начальства, што ўсе выкладчыкі гімназіі і вучылішча "несостоятельны" для таго, каб навучаць моладзь, паколькі не маюць дастатковай адукацыі. Акрамя гэтага да справаздачаў дадаваліся падрабязныя звесткі адносна маральнага боку жыцця манахаў.

Як устанавіла Раіса Зянюк, у 1828 г. настаўнікаў у дамініканскай школе налічвалася 11, сярод іх – адзін праваслаўны святар, адзін свецкі выкладчык і дзевяць дамініканцаў. У 1831 г. з 14 выкладчыкаў гімназіі і павятовага вучылішча пры ёй 13 належалі да ордэна дамініканцаў (а. Кандыд Зялёнка, Альберт Стацэвіч (Закон Божы каталіцкага веравызнання), Ігнат Няцюнскі (грэчаская, лацінская, польская мовы і логіка), Антоні Доўкінт (гістарычныя навукі), Фульгенцы Ляскоўскі (натуральная гісторыя і фізічныя навукі), Стэфан Дзянгелеўскі (матэматычныя навукі), Пётр Карны (нямецкая мова), Лукіян Календа (французская мова), Леў Пячора (руская мова), Яўстах Ралевіч (польская і лацінская мовы), Рох Песляк (нямецкая мова), Алойзы Садкоўскі (геаграфія, арыфметыка і геаметрыя), Фелікс Ніхілевіч (настаўнік пачатковага класа). Закон Божы для вучняў праваслаўнага веравызнання а таксама рускую і славянскую мовы выкладаў праваслаўны святар – пратаіерэй Васіль Папоў[47].

Трэба адзначыць, што гімназія мела багатую бібліятэку, мінералагічны і заалагічны кабінеты, хімічную лабараторыя. Быў батанічны сад, дзе расло каля 550 рэдкіх раслін, дрэваў і кустарнікаў. Вяліся метэаралагічныя назіранні, дадзеныя якіх

[47] Зянюк Р. Дзейнасць каталіцкага духавенства ў галіне адукацыі ў Гродне ў канцы XVIII – XIX ст.// Гарадзенскі палімпсест. 2011. Мн., 2012. С. 197-200.

накіроўваліся ў Віленскі ўніверсітэт, перадаваліся дзяржаўным установам і прыватным асобам.

Сярод выпуснікоў гарадзенскай гімназіі быў філамат Адам Сузін (1816), сябра Адама Міцкевіча, удзельнік падпольнай арганізацыі Шымона Канарскага (1835-1838 гг.).

Галоўнай прычынай закрыцця гімназіі стала *"деятельное участие доминиканов а вслед за ними и их питомцев в мятеже 1831 г."*, а таксама *"обнаружение участия монахов в злонамеренных замыслах"*[48]. Справа па закрыцці дамініканскай школы доўжылася нядоўга. Па распараджэнні губернатара М. Мураўёва прэфект а. К.Зялёнка перадаў расійскім уладам школьны інвентар, дакументацыю і вучэбную бібліятэку. Пасля гэтага ён быў высланы ў Арэнбург.

Наогул, пасля падаўлення паўстання 1830 – 1831 гг. актыўная педагагічная дзейнасць каталіцкага духавенства была спынена. Пачалася касацыя каталіцкіх кляштараў, а разам з імі і школ, якія там існавалі. Пяць гадоў Гародня жыла без гімназіі. Толькі ў жніўні 1836 г. адбыўся ўрачысты акт адкрыцця Гарадзенскай губернскай гімназіі.

У Гародні першай трэці XIX ст. было некалькі добрых бібліятэк. Кнігазбор дамініканскага кляштара налічваў ад 10 тыс. да 15 тыс. тамоў тэалагічных і свецкіх кніг XVI – пачатку XIX стст., а таксама рукапісаў. У бібліятэку дамініканцаў трапілі кнігі з бібліятэкі гарадзенскіх езуітаў пасля касацыі іх ордэна (1773). Бібліятэка бернардзінскага кляштара налічвала каля 2 тыс. кніг. Іх колькасць значна павялічылася пры ксяндзы Гінтаўце.

Рашэнне аб адкрыцці гарадской публічнай бібліятэкі было прынята камітэтам папячыцеляў у верасні 1830 г., але Міністэрства народнай асветы дазволіла яе адкрыць толькі ў ліпені 1834 г. Колькасць кніжнага фонду была нязначнай. Так, у 1840 г. бібліятэка захоўвала 304 назвы кніг і перыядычных выданняў (1161 асобнік), а праз тры гады – 380 назваў (1427 асобнік). Пераважалі афіцыяльныя перы-

[48] Соркіна І. Адукацыя ў Гродне ў першай палове XIX ст. С. 260-290.

ядычныя выданні і такая ж літаратура, бясплатна перададзеная ведамствамі і прыватнымі асобамі. Сярод чытачоў было найбольш чыноўнікаў і памешчыкаў (у 1840 г. – 40 чытачоў).

З 1803 па 1838 г. у Гародні працавала друкарня Зымеля Нахімовіча, якая выдавала на ідыш і на польскай мове. З 1820 г. на базе былой каралеўскай друкарні пачала дзейнасць Гарадзенская губернская друкарня. Менавіта ў ёй з 1838 г. пачалі выдавацца "Гродненские губернские ведомости".

Гарадзенскі тэатр першай трэці XIX ст. пачынаў сваё існаванне як камерцыйны (антрэпрыза). У горадзе выступалі тэатральныя трупы з Варшавы, Вільні (Бонч-Тамашэўскага), часам замежныя калектывы. У 1802-1809 гг. вядомая актрыса Саламея Дэшнер арганізавала пастаянны тэатр. Спачатку ёй дапамагаў артыст Ян Шыманскі, які ўзначальваў другую антрэпрызу ў Гародні. Да 1803 г. дзве трупы выступалі папераменна, а потым аб'ядналіся. У 1806 г. пасля смерці Дэшнер тэатр узначаліў Шыманскі. Ставіліся французскія камічныя оперы і італьянская опера-буфа, музычна-сцэнічныя пастаноўкі польскіх кампазітараў, драматычныя творы, вадэвілі, аперэты.

Музычнае жыццё канцэнтравалася перш за ўсё ў навучальных установах. У прыватным пансіёне Філжана сярод прадметаў якія выкладаліся, былі музыка і танцы. У мужчынскай гімназіі існаваў аркестр пад кіраўніцтвам І.Дабравольскага. У 1837 г. адбыўся канцэрт юнай гарадзенскай скрыпачкі Тэафілі Юзафовіч (Бароўскай), якая хутка стане вельмі вядомай.

У рэлігійным жыцці горада свае пазіцыі ўмацоўвала праваслаўная царква. У лютым 1804 г. загадам Свяшчэннага Сінода "Фара Вітаўта" (Фарны касцёл) былаператвораная ў праваслаўную царкву Св. Сафіі.

## ГАРАДЗЕНЦЫ *VERSUS* УЛАДА

Адной з галоўных падзей грамадска-палітычнага жыцця Гародні 30-х гадоў XIX ст. стала паўстанне 1830-1831 гг. Яно распачалося ў лістападзе 1830 г. у Варшаве і мела нацыянальна-вызваленчы характар. Паколькі адной з яго мэтаў было аднаўленне еднасці зямель былой Рэчы Паспалітай, то кіраўнікі разлічвалі на падтрымку з боку былога ВКЛ, і гэтыя спадзяванні не аказаліся марнымі.

Узімку 1830-1831 г. на тэрыторыі Гарадзеншчыны пачалі з'яўляцца пракламацыі і адозвы з заклікамі падтрымаць паўстанне. Іх дастаўлялі сяляне, якія перавозілі харчовыя запасы з Каралеўства Польскага. Часта гэтыя адозвы за Нёманам і Бугам прышпільваліся ім на грудзях нібыта ў якасці "ахоўных білетаў". А ў красавіку 1831 г. патрыятычныя заклікі сталі рэгулярна з'яўляцца ў розных частках горада. Пракламацыі варшаўскіх уладаў перадаваліся мясцовымі жыхарамі з рук у рукі. Так, напрыклад, за іх неаднаразовае чытанне ў горадзе былі арыштаваны повар Ю.Кіжалевіч і лёкай І.Паўлоўскі.

З мэтай недапушчэння пашырэння паўстання і барацьбы з усялякай "крамолай" улады паспрабавалі дзейнічаць на апярэджанне. Ужо 1 снежня ў Гародні (як па ўсёй губерні) было ўведзена ваеннае становішча. Між іншым, гэта азначала, што ўсё цывільнае насельніцтва аўтаматычна трапляла пад юрысдыкцыю ваенна-палявых судоў. Іншым прафілактычным мерапрыемствам стала канфіскацыя ў мясцовага насельніцтва ўсіх тыпаў зброі. Па тых жа прычынах не былі ў тым годзе адпушчаны на традыцыйныя калядныя вакацыі вучні гарадзенскай гімназіі.

З рэгіёнаў у Гародню пад пільны паліцэйскі нагляд былі перамешчаны асобы, палітычная добранадзейнасць якіх выклікала ва ўладаў найбольшыя падазрэнні. Напрыклад, гэта тычылася берасцейскага маршалка шляхты Караля Нямцэвіча (пляменніка знакамітага літаратара Юльяна Нямцэвіча). Але падобная

мера прывяла да цалкам супрацьлеглых вынікаў. Менавіта ў губернскім цэнтры К. Нямцэвіч узначаліў тайны паўстанцкі камітэт, у які яму ўдалося ўцягнуць некаторых мясцовых служачых і чыноўнікаў. У горадзе неаднаразова ладзіліся патаемныя сходы, падтрымлівалася сувязь з іншымі рэгіёнамі. Пра гэта ведалі многія жыхары горада, але мясцовыя ўлады нічога не заўважалі або не жадалі заўважаць. У выніку ў красавіку 1831 г., калі ўсё было падрыхтавана, К. Нямцэвіч без усялякіх перашкод пакінуў горад і ўзначаліў паўстанцаў у Белавежскай пушчы. А губернатар Міхал Бабяцінскі быў адпраўлены ў адстаўку.

Падзеі ўзброенай барацьбы 1831 г. абмінулі Гародню. Паколькі тут былі сканцэнтраваныя значныя сілы царскіх войскаў, паўстанцы перанеслі ўсю сваю актыўнасць у рэгіёны. Такая тактыка прынесла свой плён. У выніку падобных дзеянняў у красавіку 1831 г. Гародня, фактычна, апынулася ў ізаляцыі. Усе эстафеты і пошты ў Вільню і Санкт-Пецярбург станавіліся лёгкай здабычай інсургентаў. Справа дайшла да таго, што губернскае начальства пасылала свае паведамленні ўсляпую.

Прыкладна ў той жа час баявыя дзеянні максімальна наблізіліся да горада. 30 красавіка месцічы былі абуджаны моцнай кананадай. Гэта ўрадавыя войскі дзейнічалі супраць інсургентаў у Аўгустоўскай губерніі А паколькі мяжа апошняй праходзіла толькі ў некалькіх кіламетрах ад тагачаснай Гародні, то страляніна выклікала ў горадзе пэўную паніку, асабліва сярод габрэяў.

На ўсе гэтыя падзеі наклалася яшчэ адно здарэнне, якое непакоіла месцічаў куды больш, чым непасрэдна паўстанне. Справа ў тым, што ў красавіку 1831 г. у горадзе пачалася эпідэмія халеры. Паколькі гэта быў першы выпадак масавага захворвання халерай у XIX ст., то паратунку, фактычна, не было. Яе ахвярамі сталі многія гарадзенцы.

Абапіраючыся ў першую чаргу на вайсковыя сілы дзеючай і рэзервовай армій, расійскія ўлады жорстка падавілі паўстанне.

Дзеля большага застрашвання навакольнага насельніцтва яны здзейснілі некалькі паказальных экзекуцый. Адна з іх мела месца ў Гародні. 9 красавіка 1831 г. а 4-й гадзіне раніцы па рашэнні ваенна-палявога суда быў расстраляны шляхціц, які ўзначальваў невялікі паўстанцкі атрад. Паводле водгукаў сведкаў, гэтая падзея мела вялікі рэзананс, тым больш, што падобная мера пакарання не ажыццяўлялася тут з 1813 г.

Параза паўстання мела шэраг глыбокіх палітычных і сацыяльна-культурных наступстваў як для Гародні, так і для ўсяго рэгіёна ў цэлым. Важным элементам рэпрэсіўнай палітыкі стала дзейнасць Губернскай камісіі для *“вызначэння ступені віны мяцежнікаў, секвестра і канфіскацыі іх маёнткаў”*. Створаная на падставе царскага ўказа ад 17 ліпеня 1831 г. яна на працягу некалькіх гадоў (да кастрычніка 1834 г.) распараджалася лёсам былых паўстанцаў і іх маёмасцю.

Асноўнай задачай Камісіі было вызначэнне ступені іх “віны”, аднясенне да пэўнай катэгорыі “злачынцаў”. Пасля “злачынцаў” або перадавалі ваенна-палявому суду, што дзейнічаў пры гарадзенскім арданас-гаўзе, ці адразу высылалі ў дзеючую расійскую армію на Каўказ ці ў Сібірскія батальёны. Зрэдку вызвалялі ад пакарання. Ад праследу не выратоўвала нават эміграцыя за мяжу. На падставе рашэнняў, што прымаліся ў гэтым следчым органе, многія былыя паўстанцы былі пазбаўлены сваёй маёмасці ў сябе на радзіме. Так, у 1837 г. лічба канфіскаваных маёнткаў па Гарадзенскай губерні складала 80 зямельных валоданняў (у т.л. 4 пакляшторныя), а таксама 4 дамы. Сярод апошніх былі дамы гарадзенскіх месцічаў Аляксандра Антусевіча і Аляксандра Макоўскага.

У параўнанні з іншымі аналагічнымі органамі, што дзейнічалі, напрыклад, у Менску ці Вільні, гарадзенская следчая камісія вылучалася найбольшай жорсткасцю ў дачыненні да былых паўстанцаў. Прычына гэтага крыецца ў асобе мясцовага губернатара, які, дарэчы, яе ачольваў. У жніўні 1831 г. на гэтую

пасаду быў прызначаны Міхаіл Мураўёў, будучы кат паўстання 1863 г. Ужо тады на Гарадзеншчыне ім былі апрабаваны некаторыя элементы той палітыкі, якія стануць асновай рэпрэсіўнай сістэмы ў 1863-1865 гг.

Сярод іншага гэта праявілася ва ўвядзенні г.зв. “абывацельскіх кніг”, новай сістэмы паліцэйскага кіравання, уладкаванні “рагатак” (караулаў) на ўездах ва ўсе населеныя пункты, арганізацыі аблаваў з прыцягненнем сотняў сялянаў і г.д. Падчас свайго знаходжання на пасадзе гарадзенскага губернатара М.Мураўёў таксама распрацаваў некалькі аналітычных “запісак” з прапановамі па пераўтварэнні Беларуска-Літоўскага краю. Некаторыя з іх былі рэалізаваны ўжо на пачатку 30-х гг. XIX ст., некаторыя чакалі ажыццяўлення яшчэ 30 гадоў.

Ужо на самым пачатку знаходжання на пасадзе губернатара Мураўёў стаў насаджаць новыя парадкі. Ім была распачата беспрэцэдэнтная для таго часу рэвізія ўсіх прысутных месцаў губерні. Не шкадуючы людзей і вострых фармулёвак, М. Мураўёў усім раздаў “на гарэхі”. Многія чыноўнікі пасля падобнай рэвізіі былі вымушаныя пісаць заявы аб звальненні, некаторыя былі пазбаўлены месцаў працы без падобных цырымоній. Пры гэтым губернатар нават у афіцыйных распараджэннях не саромеўся дэманстраваць свавольства: *”не выдаваць пасведчання аб звальненні, пакуль не прывядзе ўсе справы ў парадак”, “нядбайнага справаводцу пакінуць пад арыштам”, “прымусіць у 10 дзён выправіць усе хібы”, “засядацеля... на гаўпвахту”* і г.д.

Істотнай падзеяй у жыцці Гародні стала з’яўленне ў штаце гарадзенскай адміністрацыі стаўленікаў новага губернатара. Гэта прывяло да канфлікту (як прыхаванага, так і адкрытага) паміж новымі і старымі кадрамі служачых. Пікам гэтага супрацьстаяння стаўся канфлікт губернскага маршалка шляхты князя Чацвярцінскага з самім М. Мураўёвым. Розгалас аб гэтай справе быў досыць вялікі і дасягнуў нават Санкт-Пецярбурга.

Супраціў новым парадкам і непасрэдна асобе начальніка губерні выразна выявіўся ў працы згаданай следчай камісіі. Члены Камісіі, якія ў пэўнай ступені прадстаўлялі мясцовую грамадскасць (той жа князь Чацвярцінскі, Караль Бажэцкі, Міхал Вольскі ды інш.) адкрыта не пагаджаліся з тымі прысудамі, якія выносіліся гэтым органам. Аднак яны былі ў меншасці і маглі толькі пратэставаць.

Яшчэ адным новаўвядзеннем М. Мураўёва ў Гародні стала абвязковае святкаванне рэлігійных і афіцыйных святаў імперыі (гадавіна ўступлення імператара на трон, дзень народзінаў спадчынніка прастола і г.д.). Суправаджальнымі атрыбутамі найбольш значных з гэтых падзей была страляніна з гармат, вайсковая музыка, абед у губернатара. Начальнік губерні патрабаваў ад усіх чыноўнікаў (у т.л. і выбарных) абавязковай прысутнасці на ўрачыстай службе ў царкве ў парадных мундзірах. У дадатак да ўсяго мясцовая эліта была вымушана рэгулярна выказваць “почтение” губернатору.

Вельмі насычаным палітычнымі падзеямі выдаўся 1833 г. Нягледзячы на паразу паўстання, на землі Беларусі, Літвы і Польшчы з Францыі была арганізавана адмысловая выправа эмісараў – “экспедыцыя Заліўскага”. Спадзяючыся на новы ўсплёск рэвалюцыйнага руху ў Еўропе, канспіратары мелі намер узняць новае паўстанне.

Паводле распрацаванага ў Парыжы плана, у Гародні дзейнічаў эмісар Марцелі Шыманскі. Яго кандыдатура была невыпадковай. Сам эмісар нарадзіўся ў горадзе над Нёманам, тут жыла яго маці. У 1831 г. як студэнт Віленскага універсітэта ён прыняў самы актыўны ўдзел у паўстанні, за што следчая камісія аднесла яго “віну” да найвышэйшай катэгорыі.

Тайна вярнуўшыся на радзіму ў 1833 г., М.Шыманскі пачаў актыўна вербаваць прыхільнікаў новага паўстання, як у самім горадзе, так і ў яго ваколіцах. Ён прыцягнуў да барацьбы вучняў і настаўнікаў мясцовай гімназіі і шляхетнага пансіёну (што, дарэ-

чы, прадвызначыла лёс гэтых навучальных устаноў), ксяндзоў, шляхту, былых калегаў-студэнтаў. Сярод апошніх вылучалася постаць Пятра Цэхановіча, які ў той час знаходзіўся пад следствам і наглядам паліцыі па справе прафесара Ігната Анацэвіча. Аднак гэта не перашкодзіла П. Цэхановічу прыняць актыўны ўдзел у змове, за што ён пасля быў высланы ў Вятку. Там, дарэчы, ён пазнаёміўся з Аляксандрам Герцэнам, які з цяплынёй узгадваў яго ў сваім творы “Былое и думы”.

За кароткі час М.Шыманскаму ўдалося стварыць канспіратыўную арганізацыю. Ім быў нават распрацаваны план захопу Гародні. Але ўсе гэтыя задумкі аказаліся марнымі, бо ўлады ведалі аб прыбыцці эмісараў і падрыхтаваліся. Аднак пасля арышту Шыманскі праявіў сябе не з лепшага боку. Падчас следства ім былі раскрыты імёны не толькі ўсіх тых асоб, якіх ён уцягнуў у змову, але і ўся іншая інфармацыя аб падрыхтоўцы і арганізацыі “экспедыцыі” эмісараў. Сведчанні М.Шыманскага пацягнулі за сабой ланцужок арыштаў у Гародні і ваколіцах.

Значную ролю ў вядзенні следства і вынясенні канчатковых вердыктаў па гэтай справе зноў жа адыграў губернатар М.Мураўёў. Асабліва выразна гэта выявілася ў выпадку з эмісарам Міхалам Валовічам, які дзейнічаў на Слонімшчыне. У адрозненне ад М.Шыманскага, М.Валовіч зрабіў стаўку на сялян, з якімі ён арганізаваў напад на паштовую карэту з мэтай здабыцця грошай. Схоплены падчас аблавы, ён разам з іншымі людзьмі з атрада быў дастаўлены ў Гародню. Тут трапіў у рукі мясцовага губернатара. Дабіўшыся ад вышэйшых уладаў карт-бланшу на правядзенне максімальна хуткага следства і паказальнага пакарання, Мураўёў па-свойму скарыстаў гэтыя паўнамоцтвы. Ён не цураўся асабіста збіваць падследчых, прымяняў катаванні розгамі падчас допытаў, усімі спосабамі зневажаў годнасць арыштаваных па гэтай справе. Чуткі, а пасля і скаргі аб падобных дзеяннях начальніка губерні дайшлі да віленскага генерал-губернатара, але апошні абараніў свайго падначаленага.

Успамін аб тых здарэннях застаўся ў ананімнай творчасці гарадзенцаў. Вось толькі некаторыя вытрымкі з арыгінальных вершаў, што хадзілі па горадзе з рук у рукі ў 1835 г.:

*Przy twym odjeździe, Nikołaiewiczu,*
*Wskaż nam ukryty grób po Wołowiczu...*
*Przecież Nieba łzom ludzkim ubłagać się dały,*
*Straszną (z) Grodna potworę za Wołgę wygnały...*[49]

21 ліпеня 1833 г. у Гародні адбылося публічнае пакаранне смерцю Міхала Валовіча. Працэдура была выканана каля парахавых складоў. Некалькі тысячаў гарадзенцаў прысутнічала падчас выканання прысуду. Яны былі настолькі ўражаны тым, што адбывалася, што ніводзін гук не парушыў цішы. Баючыся таго, што магіла М.Валовіча можа стаць месцам сімвалічнай памяці гарадзенцаў, М.Мураўёў загадаў перахаваць яго цела ўпотай і ноччу.

Іншыя асобы, якія далучыліся да М.Валовіча і М.Шыманскага, былі пакараныя шпіцрутэнамі, ссылкаю ў глыб Расіі, адпраўкай у салдаты. Сярод іх быў прэфект гарадзенскай дамініканскай гімназіі ксёндз Зялёнка. У якасці месца яго пакарання была абрана Арэнбургская губерня. Там акрамя сваёй асноўнай пастарскай дзейнасці ён займаўся працай па вывучэнні краю. Сярод іншага – пераняў і ўзначаліў музей, што быў заснаваны яшчэ Тамашам Занам.

30-я гады XIX ст. былі сапраўды бурлівымі ў палітычным жыцці Гародні і ўсяго рэгіёна. Наступнай значнай падзеяй гэтага дзесяцігоддзя стала стварэнне на Гарадзеншчыне Шыманам Канарскім разгалінавай сеткі патаемнай арганізацыі “Zwiazek Ludu Polskiego”. Нягледзячы на тое, што асноўныя яе ячэйкі былі размешчаныя ў рэгіёнах, агітацыя вялася і ў Гародні. У прыватнасці, ёй займаўся сябра “Садружнасці” Людовік Орда (стрыечны брат мастака і кампазітара Напалеона Орды). Ён не

[49] Падчас свайго адʼезду, Мікалаевіч, / Пакажы, дзе ты схаваў труну з Валовічам... / Пачутыя нарэшце Небам людскі плач і благанні / Страшэнную пачвару з Гродна за Волгу выгналі... (пераклад А.Радзюка)

абмяжоўваўся выключна вуснай прапагандай сярод гарадзенцаў, а таксама забяспечваў іх нелегальнай літаратурай.

Што тычыцца апошняй, то яна рознымі шляхамі пранікала ў горад з-за мяжы. Шматлікія факты выяўлення забароненых кніг, брашур і часопісаў у горадзе і на мытні сведчаць, што такая прадукцыя карысталася попытам у месцічаў. Але яе захаванне было справай досыць небяспечнай і магло прывесці да жорсткіх рэпрэсій з боку расійскіх уладаў. У гэтым мог пераканацца гарадзенскі губернскі сакратар Тэафіл Янкоўскі. У 1848 г. падчасператрусу ў яго кватэры былі выяўлены "крамольныя паперы", у тым ліку перапісаная ад рукі справаздача эміграцыйнага камітэта ў Парыжы за 1832 г. У 1849 г. ён быў высланы ў Казанскую губерню.

Славутая "вясна народаў" 1848 г. таксама пакінула пэўны след у гарадскім жыцці. Гарадзенцы не былі абыякавымі назіральнікамі, пра што сведчаць хаця б спробы ўцёкаў за мяжу трох месцічаў (Паплаўскага, Цяшэйкі і Адамкевіча). Дакладна вядома, што для дваіх з іх гэтая спроба аказалася няўдалай. Больш пашчасціла гарадзенскаму гімназісту Зянону Будзінскаму, якому ўсё ж такі ўдалося перабрацца ў ахопленую рэвалюцыямі Еўропу.

Дарэчы, калі даць веры ўспамінам (ці фантазіям?) Юльяна Алана (Julian Allan), губернская гімназія ў гэты час таксама была ахоплена дзейнасцю некалькіх тайных таварыстваў[50]. Больш за тое, яе вучні мелі намер у 1848 г. аказаць дапамагу жыхарам Кракава ў іх змаганні з аўстрыйскай тыраніяй. Улады даведаліся, гімназія была аточаная казакамі, і толькі дапамога аднаго з прафесараў дапамагла аўтару ўцячы ў Еўропу, а пасля ў Амерыку.

Нягледзячы на досыць спакойныя з палітычнага гледзішча 40-50-я гг., расійскія ўлады ўвесь час працягвалі пільна сачыць за месцічамі, якія выклікалі ў іх нейкае падазрэнне ў нелаяльнасці да рэжыму. За імі ў горадзе быў наладжаны афіцыйны і тайны паліцэйскі нагляд. Напрыклад, у 1855 г. такой паліцэйскай меры ў Гародні былі падвергнутыя 18 чалавек, значную частку з якіх складалі г.зв. "палітычныя". Гэта былі пераважна ўдзельнікі

[50] Allen J. Autocrasy in Poland and Russia. New York, 1854. P. 15-16.

паўстання 1831 г., тайных таварыстваў 30-х гг., многія з якіх ужо паспелі адбыць пакаранне і вярнуцца дамоў, а таксама лекары. Існаваў жорсткі кантроль за іх перамяшчэннямі, дзейнічалі абмежаванні па службе на дзяржаўных і выбарных пасадах.

Сярод паднаглядных знаходзіўся нават былы гарадзенскі віцэ-губернатар Канстанцін Максімовіч. Але трапіў ён у гэты спіс не за палітычныя погляды, а за службовыя злоўжыванні, з-за якіх гарадзенская казённая палата не далічылася каля 16 тыс. руб. срэбрам і амаль 190 тыс. руб. асігнацыямі. За гэта была канфіскавана яго двухпавярховая камяніца ў Гародні (зараз “дом віцэ-губернатара” на вул. Э. Ажэшкі).

Гарадзенскі супраціў тых гадоў меў не толькі палітычную, але і эканамічную і нават нацыянальную праяву. Ён выяўляўся ў байкатаванні, ігнараванні, парушэнні тых распараджэнняў і прадпісанняў уладаў (як мясцовых, так і цэнтральных), што закраналі ў першую чаргу матэрыяльныя інтарэсы месцічаў. Яскравым прыкладам падобнай формы мірнага супрацьстаяння сталі падзеі пачатку 50-х гг. XIX ст.

Тады ў горадзе ўводзіліся новыя правілы гандлю спіртным, якія не спадабаліся месцічам. Быў арганізаваны сапраўдны байкот (пераважна габрэямі), сэнс якога заключаўся ў адмове ад набыцця і спажывання моцных напояў у Гародні. Але жыць без алкаголю было цяжка. Таму гарадзенцы, ігнаруючы піцейныя ўстановы горада, зрабілі месцам масавага паломніцтва корчмы, што знаходзіліся па-за гарадскімі межамі. Надзвычайную папулярнасць у гэты час набывала карчма “Сакрэт”.

Найбольш бурлівым у палітычным жыцці Гародні выдаўся пачатак 60-х гадоў XIX ст. Каталізатарам развіцця падзей у рэгіёне выступіла суседняе Каралеўства Польскае. Таксама пэўную ролю адыграў рост нацыянальнага руху ва ўсёй Заходняй і Цэнтральнай Еўропе. Вонкавай праявай незадаволенасці ў гэты час становяцца масавыя рэлігійныя дэманстрацыі, якія ахапілі значную частку Літвы, Беларусі і Украіны. Гэтая форма

пратэсту ўзнікла ў адказ на расстрэл царскімі войскамі падобных шэсцяў у Варшаве ў лютым і красавіку 1861 г. Рух салідарнасці з ахвярамі варшаўскіх падзей (як і пазней з ахвярамі "Крывавай нядзелі" 1905 г.) у хуткім часе набыў рэгіянальныя формы, напоўніўся новым зместам.

Цікава адзначыць, што пачатак масавых выступленняў у Гародні па часе амаль супаў з надзвычай моцнай навальніцай, што пранеслася над горадам 5 чэрвеня 1861 г. Як паведамляў паліцмайстар, у выніку выпадання граду незвычайнай трохграннай і пласкай формы і вагою ад 3-х да 4-х лотаў (што складае ад 38 да 51(!) грама), было выбіта больш за 10 тыс. шкляных шыбаў. А ўжо праз тыдзень ён жа паведаміў пра першы выпадак спявання забароненых гімнаў у Бернардзінскім і Фарным касцёлах. Паводле паліцмайстра, ініцыятарам і натхніцелем масавага гарадзенскага руху стала жонка губернскага маршалка шляхты Калікста Ажэшкі.

Асноўнымі формамі супрацьстаяння месцічаў у гэты час становіцца спяванне патрыятычных і рэлігійных песняў (гімнаў), паўсюднае выкарыстанне адмысловай сімволікі (вопраткі, медальёнаў ды іншых аксесуараў), абліванне чарніламі ці выбіванне шыбаў у дамах найбольш адыёзных прадстаўнікоў мясцовай адміністрацыі, масавыя зборы гарадзенцаў каля палаца губернатара, асвістванне яго карэты, "кашачыя" канцэрты гімназістаў на занятках, распаўсюджванне нелегальнай літаратуры, акцыі салідарнасці са звольненымі ці ў іншы спосаб пакаранымі ўдзельнікамі тых падзей, збіццё некаторых прадстаўнікоў праваахоўных органаў, забавы з ліхтарамі на вуліцах, скаргі ў Сенат і іншыя дзяржаўныя органы імперыі і г.д. Акрамя таго, у горадзе пачаўся актыўны збор грашовых сродкаў, частка з якіх пайшла на патрэбы будучага паўстання.

Месцамі супрацьстаяння гарадзенцаў з уладамі ў гэты час акрамя касцёлаў становяцца вуліцы, плошчы, вучэльні, тракціры і іншыя піцейныя ўстановы, тэатр – фактычна, уся публічная пра-

стора тагачаснага горада. Ёсць звесткі, што нават каля Каложы летам 1861 г. збіраліся жыхары, каб скласці ўрачыстую прысягу пад сценамі разбуранага храма. Падобна, што Каложская царква ў XIX ст. мела сімвалічнае значэнне для гарадзенцаў абедзвюх хрысціянскіх канфесій. Пацвярджэннем гэтаму з'яўляецца таксама верш "Да Каложы", напісаны Станіславам Праневічам і прызнаны ўладамі "крамольным" у 1865 г.

Упершыню ў гісторыі горада рух супраціву меў такі масавы характар. Ён ахапіў вялікое кола прадстаўнікоў розных сацыяльных колаў. Акрамя чыноўнікаў і служачых, якія складалі яго аснову, актыўны ўдзел у ім прынялі прадстаўнікі розных прафесійных груп. Сярод іх можна было сустрэць лекараў, чыгуначнікаў, правізараў аптэк, тракціршчыкаў, мяснікоў, шаўцоў, вайскоўцаў, павівальных бабак, вучняў і настаўнікаў, рыбакоў, муляраў і шмат каго яшчэ. Вялікая роля ў арганізацыі і правядзенні многіх акцый належала жанчынам. Таксама прымалі ў іх удзел і некаторыя праваслаўныя месцічы.

Адной з найбольш шматлюдных акцый у Гародні сталі провады асуджанага на ссылку ў Тамбоў былога афіцэра Вольскага. Як вынікае з рапарта гарадзенскага паліцмайстара, у акцыі прыняло ўдзел каля 300 чалавек, аднак, у справаздачы Трэцяга аддзялення сцвярджаецца, што іх было каля тысячы. Вялікі рэзананс атрымала спроба мясцовых жыхароў арганізаваць "урачыстае" развітанне губернатару Івану Шпееру, які пакідаў Гародню. Дзеля гэтага каля карчмы Урбаноўкі сабралася вялікая колькасць ахвочых. Але губернатар выехаў, фактычна, уцёк з горада іншым шляхам і пэўна, не чуў тых посвістаў і словаў, што несліся наўздагон яго экіпажу.

Сімвалічны характар павінна была мець рэлігійная працэсія, арганізаваная ксяндзом Юльянам Маеўскім 14 жніўня 1861 г. Аднак улады зрабілі ўсё магчымае, каб яна не адбылася. Увесь цэнтр горада быў ачэплены войскам, на Нёмане разведзены плывучы мост, прыняты іншыя меры перасцярогі. За падоб-

ную "антыўрадавую" дзейнасць віленскі генерал-губернатар Уладзімір Назімаў меў намер узорна пакараць Ю.Маеўскага, прысудзіўшы яго да расстрэлу, аднак заступніцтва міністра ўнутраных спраў Пятра Валуева выратавала апошняму жыццё[51].

На рост руху супраціву ўлады адказалі ўзмацненнем рэпрэсій. Сярод іх – звальненні са службы, ссылка, пазбаўленне пенсій, забарона насіць вопратку пэўных тыпаў, грашовыя штрафы, турэмнае зняволенне, увядзенне паліцэйскіх судоў, выключэнне з навучальных устаноў, увядзенне рэквізіцыйнага спосабу харчавання вайскоўцаў, прыцягненне дадатковых афіцэраў МУС, канфіскацыя ўсіх відаў зброі, забарона гарадзенцам хадзіць па вуліцах у цёмныя гадзіны сутак без ліхтароў, новая "раскладка" пастою вайскоўцаў, павелічэнне грашовага ўтрымання тайным агентам і нарэшце, увядзенне ў губерні ваеннага становішча.

Дадзеныя меры прынеслі той вынік, на які і разлічвалі ўлады. Істотным фактарам стала замена губернатара. Гэтую пасаду ў верасні 1861 г. заняў генерал Аляксандр Дранякін, аб якім не вельмі добрым словам узгадвалася ў другім выпуску нелегальнай "Гутаркі двух суседаў", якая пачала з'яўляцца на Гарадзеншчыне ў 1861 г.

З заканчэннем маніфестацый нацыянальна-вызваленчы рух выйшаў на новую ступень свайго развіцця. Пачалася падрыхтоўка ўзброенага паўстання. Гэтая фаза была звязана з прыбыццём і дзейнасцю ў Гародні Кастуся Каліноўскага. Не выклікае сумненняў, што 1861 г. аказаў значны ўплыў на ход усіх далейшых падзей. Як адзначаў падчас следства паплечнік Каліноўскага начальнік паўстанцкіх сіл Гарадзенскага павета Станіслаў Сільвястровіч, *"варшаўскія падзеі 1861 г. абудзілі мой першы запал. Жалобныя набажэнствы, якія былі наступствам, няспыннае спяванне гімнаў у касцёлах распалілі гэты запал яшчэ больш..."*[52]

[51] Дневник П.А. Валуева, министра внутренних дел. Т. 1. 1861-1864. М., 1961. С. 113-114.

[52] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 1, адз. з. 40, арк. 28.

# ГОРАД І ГАРАДЗЕНЦЫ Ў 30-50-Я ГАДЫ XIX СТ.

Збіраючыся наведаць іншы горад ці краіну, спрактыкаваны падарожнік зазвычай пачынае сваё знаёмства з новым месцам з дапамогай даведніка. Такім даведнікам па Гародні другой трэці XIX ст. можа быць кніга Роберта Сірса "Ілюстраванае апісанне Расійскай імперыі", выдадзеная ў Нью-Ёрку ў 1855 г.

Вось што адзначыў Р. Сірс: *"Гародня, сталіца губерні, размешчана часткова на ўзвышшы, часткова ў даліне, на правым беразе ракі Нёман. Яна хаатычна забудавана і складаецца ўперамежак з камяніц і драўляных дамоў. Дзве ці тры вуліцы добра брукаваныя і даглядаюцца належным чынам, але астатнія ў вялікім бязладдзі і надзвычай брудныя. У ёй знаходзяцца тры неблагія палацы, адзін з якіх быў узведзены Аўгустам III, каралём Польшчы. Месца для рынку даволі прасторнае і зручнае. Там дзевяць касцёлаў, дзве грэчаскія і адна лютэранская царквы, сінагога; медычная школа з бібліятэкай, заснаваная каралём Станіславам Аўгустам; кабінет натуральнай гісторыі; батанічны сад і пэўная колькасць адметных будынкаў знаці. ... Ладзяцца тры штогадовыя кірмашы. Па Нёмане ажыццяўляецца значны гандаль. Гародня – гэта стары горад XII стагоддзя, раней лічыўся другім горадам Літвы і нават спаборнічаў з Вільняй за першынство. Яго насельніцтва – каля 6 тысяч"*.

У гэтых фактах і лічбах адсутнічае вобраз самога горада. Гэта не дзіўна, бо аўтар тут ніколі не быў. Паспрабуем дапоўніць карціну тагачаснай Гародні звесткамі падарожнікаў, якія ў 40-50-я гг. XIX ст. наведвалі яе.

Канстанцін Арсеньеў, які прыбыў сюды 25 чэрвеня 1844 г., патрапіў на нейкае афіцыйнае свята. Горад быў ілюмінаваны, а ў губернатарскім садзе гучала музыка. Сярод адметных мясцінаў горада падарожнік назваў рэзідэнцыю караля Стэфана Баторыя, дом, у якім ён памёр, палац, дзе Станіслаў Аўгуст

падпісаў адрачэнне ад каралеўскага трона. Замак, у якім адбылася гэтая падзея,ператварылі ў ваенны шпіталь, а наверсе паставілі тэлеграф, з якога адкрываўся прывабны краявід. Аднак у падарожніка былі таксама падставы для пэўнага смутку. Так, Арсеньеў выказаў апасенне, што старая Каложская царква можа абваліцца ў Нёман, звярнуў увагу на нізкі ўзровень развіцця прамысловасці і гандлю[53].

*"І вось перад намі, пад намі ў глыбіні стары і заўсёды чынны Нёман, уздымае на сваіх хвалях сто віцін, а за ім вялікі гістарычны горад ва ўсім хараstве раскінуўся на гарах, над прорвамі; і вось перад табой каралеўскі палац, перароблены на шпіталь, і старажытны замак Баторыя [...] Аднак, ёсць у ім нешта прывабнае, грандыёзна прывабнае ў гэтым фантоме былой велічы [...]"*, – узрушана дзяліўся сваімі ўражаннямі ад сустрэчы з Гародняй у 1856 г. медык-вандроўнік Тэадор Трыплін.

Але ў цэлым горад не апраўдаў спадзяванняў мемуарыста. Ён падаўся яму нежывым. Найбольш каштоўныя назіранні аўтара тычыліся цэнтральнай часткі: *"Прыглядзеўся лепей да рынку: цудоўная панарама, над якой дамінуюць вежы навакольных касцёлаў, а менавіта Дамініканаў, Фары, Брыгітак і праваслаўнага храма. Шмат вуліц вядуць да гэтага рынку: Маставая дзвюма адгалінаваннямі, Замкавая, Дамініканская, Залатарская, Брыгіцкая і нават Баніфратарскі завулак. Сярэдзіна рынку абгароджана бар'ерам, абсаджана дрэвамі* (пазней гэтыя таполі былі спілаваны па загадзе губернатара Івана Шпеера – А.Р.) *і пасыпана пяском. Яна служыць месцічам для шпацыраў, і таму імі ж называецца Цялятнікам".*

Паводле гэтых нататкаў, у Гародні ўжо тады існаваў музей: *"...Дом князя Чацвярцінскага, які размешчаны паміж агародамі ў чароўным месцы, утрымоўвае некалькі вельмі добрых карцін і некалькі старажытных булаў, буздыганаў, шабель і ручніц. Падаецца, што гэта адзіная ў горадзе карцінная галерэя і адзіны музей горада".*

[53] Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мінск, 1980. С. 68.

Ва ўсіх гэтых апісаннях Гародні бракуе самага галоўнага. За вонкавымі характарыстыкамі гарадскога аблічча і мясцовых адметнасцяў не відаць месцічаў і іх праблем. Чым яны жылі, як змяніліся ўмовы іх пражывання ў параўнанні з папярэднім часам, якія тэндэнцыі назіраліся ў арганізацыі гарадской прасторы і гаспадаркі? Каб знайсці адказы на гэтыя пытанні, варта прыцягнуць статыстычныя матэрыялы.

Паводле "Ваенна-статыстычныя агляду Гарадзенскай губерні" 1849 г., у Гародні ў той час налічвалася 969 дамоў, у тым ліку 29 дзяржаўных, 15 царкоўна-манастырскіх, 22 вайсковых. Таксама ў горадзе знаходзілася адна праваслаўная царква, сем каталіцкіх касцёлаў, два праваслаўныя манастары і чатыры каталіцкія кляштары, адна евангелістычная царква і дзве сінагогі.

Апроч таго, у горадзе было 248 "кафейных дамоў", 138 гандлёвых лавак, дзесяць заезных дамоў, шэсць вінных паграбаў, пяць тракціраў і гасцініц і дзве лазні (пэўна, гарадскія). Што тычыцца апошніх, то ў некаторых прыватных лазнях можна было не толькі памыцца, але добра выпіць і закусіць. Справа ў тым, што прадпрымальныя месцічы выкарыстоўвалі лазні ў якасці падпольных шынкоў і нават здавалі іх дзеля гэтага ў арэнду. Улады, у сваю чаргу, вялі бескампрамісную барацьбу з падобным відам "кормчества".

Колькасць гатэляў і заезных дамоў увесь час мянялася. Большасць прыезджых, якія карысталіся паслугамі мясцовага гасцінічнага сэрвісу ў першай палове XIX ст., адзначалі яго невысокую якасць. Кожная асоба, якая ўязджала ў горад, праходзіла пашпартны кантроль на адной з застаў. Акрамя таго, праверка дакументаў адбывалася пры рэгістрацыі непасрэдна ў гатэлі ці двары. Адносна спектра паслуг, які аказваўся апошнімі, вядома, што некаторыя з іх забяспечвалі сваіх пастаяльцаў сталом. Той жа Тэадор Трыплін узгадваў, што на сняданак у тракціры ён замовіў цецярукоў і ласося, які быў якраз вылаўлены ў Нёмане. Праўда, ён зрабіў агаворку, што такая раскоша ў выбары страваў была выпадковай.

Выклікае здзіўленне ў прыведзеным вышэй "статыстычным аглядзе" лічба "кафейных дамоў". Калі супаставіць яе з агульнай колькасцю пабудоў у горадзе, атрымоўваецца, што ў кожным чацвёртым доме горада месцілася кавярня. Няўжо гарадзенскія месцічы ў тыя часы былі такімі каваманамі? Адказ на гэтае пытанне крыецца хутчэй за ўсё ў тым, што аўтар апісання падпалкоўнік Калмберг скарыстаў неадпаведны тэрмін для азначэння піцейных установ, што тады функцыянавалі ў горадзе. Верагодна, тут меліся на ўвазе харчэўні. Іх колькасць пададзена абсалютна дакладна. У той час у горадзе дзейнічала каля 250 піцейных установ. Акрамя ўзгаданых харчэўняў гэта былі тракціры, шынкі, рэстарацыі, "водачныя выставы", "штофныя" і "вядзёрныя лаўкі", "буфеты", "аўстэрыі" і г.д. Палітыка цэнтральных і мясцовых уладаў была накіравана на жорсткую рэдукцыю агульнай колькасці піцейных установ, незалежна ад іх тыпу і назвы.

Пры ажыццяўленні падобных мерапрыемстваў мясцовае кіраўніцтва сутыкнулася з адкрытым і тайным супрацівам месцічаў. У ім прымалі ўдзел як уладальнікі піцейных установ (пераважна габрэі), так і звычайныя гарадзенцы, кліенты. Сярод асноўных формаў барацьбы быў перавод свайго бізнесу на нелегальныя рэйкі, пісанне шматлікіх скаргаў, байкот, масавы "шопінг" за танным алкаголем за мяжу (у Каралеўства Польскае, якое пачыналася ў Ласосне) і г.д. З гэтай сферай была таксама шчыльна звязана дзейнасць па нелегальнай перапраўцы тавараў з-за мяжы. Алкагольныя прадукты (ром, арак, спірт, портар) былі важнымі складнікамі кантрабанды, якая квітнела ў тыя гады ў Гародні і яе наваколлі.

Вернемся да "статыстычнага агляду" падпалкоўніка Калмберга. Наступныя характарыстыкі, што прадстаўлены ў ім, тычацца колькасці садоў і агародаў. Так, у горадзе налічвалася 56 прыватных садоў, адзін публічны сад і 170 агародаў. У розніцу на агульную колькасць месцічаў лічбы атрымоўваюцца зусім невялікія. Сапраўды, вырошчванне гародніны і садавіны ў самім горадзе не адыгрывала значнай ролі. Прадукты завозіліся з навакольных вёсак, з іншых рэгіёнаў.

Паводле дадзеных Калмберга, у Гародні не было кірмашоў, а асноўны гандаль адбываўся на рынку па чацвяргах і нядзелях. У тым, што рынак і Рыначная плошча займалі важнае месца ў гарадской прасторы, сумнявацца не выпадае. Падобная форма гандлю па пэўных днях існавала і на іншых плошчах (напрыклад, Сянной). А вось наконт кірмашоў, аўтар, відаць, памыліўся, бо з сярэдзіны 40-х гг. XIX ст. праводзіўся Іванаўскі кірмаш (праўда, не вельмі папулярны). Таксама ў 50-я гг. тут ладзіўся Петрапаўлаўскі кірмаш, працавалі базары.

Паводле той жа крыніцы, структура гарадской прамысловасці ўключала пяць піваварных бровараў, чатыры свячныя заводы, столькі ж цагляна-вапнавых, тры палатняныя (пэўна суконныя) прадпрыемствы, тры тытунёвыя і па адным гарбарным і капялюшным. Акрамя таго, у лік прамысловых устаноў статыстыка залічыла чатыры конныя млыны. Паравыя машыны хоць і з'явіліся ў губерні напрыканцы 30-х гг. XIX ст., але ў губернскім цэнтры яны яшчэ адсутнічалі.

Патрабуюць верыфікацыі звесткі аб колькасным складзе гарадзенцаў у той час. Афіцыйныя дадзеныя падаюць лічбу ў 10 тыс. мужчынскага і 6 тыс. жаночага насельніцтва. З іх нібыта толькі 320 (2% ад агульнай колькасці жыхароў) займаліся рамяством. Падобныя лічбы выклікаюць моцнае сумненне.

Але ў цэлым Калмберг досыць трапна адзначыў тыя змены, што адбыліся ў вытворчай сферы горада ў параўнанні з папярэдняй эпохай: *"У прамысловых адносінах Гародня згубіла сваю ранейшую важнасць. У 1775 г., у часы Польскай дзяржавы, там існавалі розныя мануфактуры і завадскія прадпрыемствы, фабрыкі і будынкі заводчыкаў займалі цэлы квартал у горадзе, а зараз там толькі відаць іх рэшткі"*[54].

Важнае значэнне ў эканамічным і штодзённым жыцці гарадзенцаў адыгрывала рака, на якой размяшчаўся горад. Для гарадзенцаў яна мела некалькі ўвасабленняў. У першую чаргу, Нёман злучаў. Ён звязваў горад і цэлы рэгіён з Прусіяй,

[54] Военно-статистическое обозрение Гродненской губернии. Т. IX, ч. 3. СПб, 1849. С. 104.

з'яўляючыся тым самым галоўнай экспартнай артэрыяй губерні. Да ўтварэння ў 1842 г. Ковенскай губерні Гародня была не толькі найбуйнейшым, але і адзіным губернскім горадам на гэтай рацэ. Менавіта праз гэты водны шлях у Каралевец ішоў асноўны экспартны паток збожжа (пераважна жыта), бабовых і іншых артыкулаў мясцовай сельскай гаспадаркі. Стратэгічнае значэнне меў сплаў карабельнага лесу, на які тады яшчэ былі багатыя навакольныя лясы і пушчы.

У сувязі з актыўнай эканамічнай эксплуатацыяй ракі адметную ролю ў гарадскім жыцці адыгрываў рачны порт. Звычайна, як толькі Нёман вызваўляўся ад лёду, пачыналася навігацыя. Мясцовыя памешчыкі спаборнічалі, чые судны першымі дойдуць да пункта прызначэння. У гэты час асноўнымі тыпамі судоў на Нёмане заставаліся віціны, паўвіціны, баты і берліны. З іх найбольш папулярнай была віціна. Яна ўмяшчала да 15 тыс. пудоў грузаў. Пад ветразем рабіла 5-9 вёрстаў у гадзіну. На віціне плавалі стырнік, канцавы і да 12 рабочых. Такая колькасць была абумоўлена тым, што на адваротным шляху гэтыя караблі часта даводзілася цягнуць супраць плыні. Гэтых работнікаў яшчэ называлі "бічэўнікі". Набіраліся яны зазвычай з прыгонных уладальніка віціны. Перад рэйсам памешчык мусіў паклапаціцца ў Гародні аб забеспячэнні іх пашпартамі на праезд у Прусію.

Акрамя таго, Нёман актыўна выкарыстоўваўся і для патрэбаў унутранага гандлю, як у межах самой губерні, так і для перавозкі тавараў у Коўна. Не ўсе судны, што выходзілі ў рэйс, дасягалі месца свайго прызначэння. Некаторыя з іх разбіваліся, сядалі на мель, ішлі на дно па іншых прычынах.

Актыўны карабельны рух на рацэ ствараў для гарадзенцаў пэўныя перашкоды ў штодзённым жыцці. Гэта было звязана з тым, што кожны раз для суднаў якія праплывалі, даводзілася разводзіць пераправу. Нярэдкімі былі выпадкі, калі віціны яе зносілі.

Нёман таксама забяспечваў жыхароў рыбай. У горадзе паранейшаму існаваў адмысловы рыбацкі цэх. Асноўным даку-

ментам, які рэгуляваў яго дзейнасць усё яшчэ быў прывілей Аўгуста II 1698 г. У адпаведнасці з ім рыбакі за права манапольнага рыбнага промыслу на Нёмане плацілі штогадовы падатак у гарадскі бюджэт. У сярэдзіне XIX ст. ён складаў 10 руб. 50 кап. срэбрам. Акрамя сваёй асноўнай дзейнасці прадстаўнікі гэтага цэху вялі барацьбу з праявамі браканьерства на рацэ.

У некаторых выпадках нёманская вада нават ужывалася ў якасці пітной. Так было, напрыклад, у гарадзенскім астрозе, калі там узнікалі праблемы з калодзежам. Для сваіх штодзённых патрэб месцічы бралі ваду са студняў.

Разам з тым, Нёман раз’ядноўваў. Уздоўж яго праходзіла мяжа з Каралеўствам Польскім. Але ў першую чаргу ён падзяляў горад на дзве часткі. Нягледзячы на тое, што яны былі злучаны пераправаю, у некаторых выпадках перабрацца на іншы бераг было досыць праблематычна. Напрыклад, уначы альбо ўвесну ці ўвосень, калі па рацэ інтэнсіўна ішла кра. Калі мост з розных прычын не дзейнічаў, працаваў паром. Некаторыя гарадзенцы мелі дадатковую крыніцу даходаў, перавозячы людзей ці невялікія грузы на чаўнах. Узімку месцічы пераходзілі Нёман па лёдзе.

Дарэчы, пераправа з’яўлялася важным артыкулам для папаўнення мясцовага скарбу. Як сведчыць даходная частка гарадскога бюджэту за 1847 г., паступленні за карыстанне пераправай складалі больш за 1 тыс. руб. срэбрам. У большасці выпадкаў плату за магчымасць пераехаць праз Нёман спаганяў не горад, а арандатар пераправы. Апошні ўносіў у магістрат усю суму за год (ці за некалькі гадоў) і адказваў за яе ўтрыманне.

Нельга не адзначыць яшчэ адную функцыю гэтай ракі – разбуральную. Падчас паводак Нёман наносіў значную шкоду гарадзенцам і іх дамам. Яго ахвярай таксама станавілася архітэктурная спадчына горада. У 1853 г. у выніку апоўзня ў раку абрынулася частка Каложскай царквы, самага старажытнага храма горада. Гэта была адна з найвялікшых стратаў у гарадскім абліччы за ўсё XIX ст.

Неад'емнай часткай эканамічнага жыцця і мясцовага самакіравання тагачаснай Гародні было прыняцце гадавога бюджэту. Як і ўсе падобныя фінансавыя дакументы, ён меў даходную і расходную часткі.

Бюджэт дапамагае даследчыкам уявіць многія цікавыя аспекты гарадской штодзённасці. Матэрыялы "Гарадзенскіх губернскіх ведамасцяў" за 1838 г. дазваляюць уявіць асноўныя крыніцы паступленняў і выдаткаў бюджэту Гародні[55].

Усе паступленні ў тым годзе склалі 6786 руб. 92 кап. срэбрам і 5593 руб. асігнацыямі. Асноўнымі крыніцамі прыбытку былі падаткі, звязаныя з гандлем, вытворчасцю і продажам алкагольных напояў, карыстаннем дарогамі і пераправай праз Нёман. Даволі шмат грошай (3600 руб. асігн.) унеслі ў бюджэт уладальнікі нерухомай маёмасці *"дзеля асвятлення горада ліхтарамі".* Звяртае на сябе ўвагу *"чынш з земляў гарадскіх вёсак",* што працягвалі сваё існаванне (каля 300 руб. срэбрам). З прамысловых аб'ектаў фігураваў толькі "гарадскі цагляны завод", уладальнік якога ўнёс у бюджэт 75 руб. асігн. Дзеля параўнання можна адзначыць, што ўладальнікі гасцініц, рэстарацый, "кофейных домов" і харчэўняў выплацілі гораду 400 руб. асігн. 100 руб. срэбрам унеслі ў гарадскі скарб *"трымальнікі гарадскога тэатра".* Падобна, што тэатр карыстаўся поспехам у гарадзенцаў. А самы маленькі унёсак (10 руб. срэбрам) паступіў ад гарадскіх арэляў, якія, дарэчы, не згадваюцца ў іншых дакументах.

Аналіз выдаткаў сведчыць, што асноўныя фінансавыя сродкі горада накіроўваліся на ўтрыманне праваахоўных органаў і пажарнай каманды (разам каля 13 тыс. руб. асігн.). Выдаткі на рамонт будынкаў і дарог у 1838 г. склалі каля 4200 руб. асігн., а асвятленне горада абышлося болей чым у 3700 руб. асігн. Цікава, што на *"ўтрыманне магістрату"* пайшло ўсяго каля 200 руб. асігн. Агульная сума выдаткаў склала 23856 руб. 43 кап. асігнац. Пры гэтым гарадскі бюджэт не меў дэфіцыту, бо пасля вайны

[55] Інфармацыя прадстаўлена гісторыкам Аляксандрам Ерашэвічам.

з Францыяй курс асігнацый моцна ўпаў. Напрыклад, у 1815 г. 1 руб. срэбрам каштаваў 20 руб. асігнацыямі (заўвага рэд.).

Яшчэ большую інфармацыйную насычанасць аб штодзёным побыце гарадзенцаў маюць фінансавыя дакументы асабістага паходжання. Давайце зазірнём у расходную кнігу нябеднай гарадзенскай сям'і за тры лютаўскія дні 1835 г.[56]

Так, 23 лютага за адпраўку з пошты ліста было заплачана 10 кап., а пакупка 1 пуда сена абышлася ў 1 руб. 24 лютага "шопінг" быў больш актыўны: за пяць булачак заплацілі 10 кап., столькі ж каштавала пакупка дзвюх буханак хлеба. Вяршкі для кавы абышліся ў 5 кап., адзін селядзец "для прыслугі" каштаваў 3 кап., палова кварты солі – 4 кап., кварта круп – таксама 4 кап., паўфунта масла – 14 кап., шэсць апельсінаў (!) – 3 руб., два курыныя яйкі – 3 кап., адзін фунт свечак – 24 кап. і яшчэ ў 10 кап. абышлася пакупка 10 абаранкаў.

25 лютага адзін гарнец крупы для Верцілішак быў куплены за 28 кап. За тузін гульнявых карт заплацілі 24 руб. (!), а за 4 фунты мяса – 24 кап. і г.д. Акрамя таго, у дадзеным дакуменце зафіксаваны такія адметныя артыкулы выдаткаў, як *"жабракам", "за агурок і расол агурковы", "за кішку ў Верцялішкі", "краўцу"* і г.д.

Варта адзначыць, што на працягу ўсёй першай паловы XIX ст. у Гародні, фактычна, суіснавалі дзве манетарныя сістэмы, менавіта расійская (разлікі ў рублях і капейках), а таксама польская (у злотых і грошах).

Разглядаючы тыя змены, што адбыліся ў розных сферах жыцця Гародні ў 30 – 50-я гг. XIX ст., варта зазначыць, што найбольш значныя з іх закранулі сферу адукацыі.

Рэформа сістэмы сярэдняй адукацыі ў Расійскай імперыі пачалася ў 1828 г. На беларускіх землях яна мела свае асаблівасці, звязаныя з тым, што яе правядзенне па часе супала з разгромам паўстання 1831 г. Адпаведна за закрыццём усіх навучальных установ старога тыпу выразна прасочваўся палітычны падтэкст. Першым крокам у ажыццяўленні гэтай рэформы стала

[56] ЛДГА. Ф. 1282, воп. 1, адз. з. 4519, арк. 15-16.

ліквідацыя Віленскай навучальнай акругі і самога Віленскага універсітэта *“як галоўнага гнязда вальнадумства”*.

У Гародні галоўнай навучальнай установай на пачатку 30-х гг. XIX ст. з’яўлялася мужчынская гімназія, што дзейнічала пры дамініканскім кляштары. Закрыццё кляштара і гімназіі было звязана з раскрыццём у горадзе канспіратыўнай сеткі, якая была тут створана эмісарам М.Шыманскім. 25 мая 1833 г. па абвінавачанні *“ў зламысных намерах”* былі арыштаваны два манахі-настаўнікі гімназіі. Сябрамі арганізацыі аказаліся і некаторыя вучні. Таксама быў арыштаваны дырэктар і ўтрымальнік гарадзенскага прыватнага пансіёну для дзяўчынак І.Фіжан.

Пытанне аб будучыні дамініканскай гімназіі вырашалася ў сталіцы на самым высокім узроўні. Але ключавую ролю ў вызначэнні яе лёсу адыграла пазіцыя губернатара М.Мураўёва. Як сведчыў віленскі генерал-губернатар кн. Далгарукаў, імператар уласнаручна звярнуўся да яго з запытам наконт лёсу гімназіі і пансіёна. Генерал-губернатар у сваю чаргу ўсклаў адказнасць за прыняцце рашэння на М.Мураўёва. З падачы апошняга Мікалай І загадаў скасаваць кляштар і вучылішча. Апошняе вырашылі перατварыць у свецкую гімназію са “шляхетным пансіёнам” і павятовае вучылішча са школай узаемнага навучання.

Але адкрыццё новых навучальных устаноў адбылося не адразу. Гэта было звязана з тым, што дамініканскія муры ў 1833 г. былі выкарыстаны пад вязніцу, а пасля тут пачаўся рамонт. Пакуль ён ішоў, новая гімназія распачала сваю працу 5 красавіка 1834 г. у палацы Любецкага на Магістрацкай плошчы. З мэтай прыцягнення вучняў па горадзе развешваліся друкаваныя абвесткі з паведамленнямі аб прыёме. Адначасова пры гімназіі была адчынена ланкастэрская школа, трохі пазнейзгаданы “шляхетны пансіён”. Вяртанне гэтых навучальных устаноў у падамініканскія муры адбылося толькі праз два гады, менавіта ў жніўні 1836 г.

Заснаванне новай губернскай гімназіі ў 1834 г. азначала не проста змену назвы на шыльдзе гэтай установы. Асноўны сэнс

пераменаў заключаўся ва ўніфікацыі мясцовай адукацыйнай сістэмы з той, што існавала ў цэнтральных губернях імперыі. Вынікам гэтай рэформы стала змена праграм навучання, перавод яго на рускую мову, замена ўсіх настаўнікаў і г.д.

У гарадзенскай гімназіі, як і ў ва ўсіх іншых сярэдніх навучальных установах таго часу, адукацыя мела выразны саслоўны характар. Акрамя таго, сегрэгацыя навучання ажыццяўлялася па гендарнай і рэлігійнай прыкметах. Габрэйскія дзеці Гародні ў першай палове XIX ст. не наведвалі навучальныя ўстановы, у якіх навучаліся хрысціяне. Для іўдзеяў у горадзе дзейнічалі пераважна традыцыйныя для гэтай супольнасці школы, якія не падпарадкоўваліся Міністэрству народнай адукацыі. У той час у горадзе над Нёманам існавалі таксама адукацыйныя ўстановы для асобных хрысціянскіх груп. Напрыклад, у 1846 г. тут была адкрыта евангелічна-пратэстанцкае прыходскае вучылішча.

Што тычыцца жаночай адукацыі, то яе асноўнай формай у гэты час працягвалі заставацца прыватныя пансіёны. Іх колькасць вызначалася попытам на дадзеную паслугу ў мясцовай супольнасці. Звычайна ў Гародні дзейнічалі 1-2 падобныя пансіёны. Таксама сярод дзяўчынак было распаўсюджана хатняе навучанне. У горадзе былі запатрабаваны настаўнікі музыкі і танцаў. Значнай падзеяй у развіцці ўсёй сферы адукацыі стала адкрыццё ў 1860 г. сямікласнай жаночай Марыінскай гімназіі.

Адметную ролю ў жыцці тагачаснай Гародні адыгрывалі лекары. Гэта былі адны з найбольш паважаных асоб гарадской супольнасці. Сярод іх былі тыя, хто займаўся вольнай практыкай і тыя, хто служыў на дзяржаўнай службе, ветэрынары і правізары аптэк і нават цырульнікі. Пацвярджэннем высокага статуса асоб гэтай прафесіі служыць той факт, што менавіта лекар (Цэлестын Цэханоўскі) стаў цывільным паўстанцкім начальнікам Гародні ў 1863 г. Актыўная палітычная пазіцыя многіх медыкаў горада і наваколля таксама выявілася падчас антыўрадавага руху 1861 г.

Сярод лекараў, якія карысталіся найбольшай павагай гарадзенцаў (і ўладаў) былі браты Забелы. Старэйшы Казімір на працягу 1840 – 50-х гг. займаў пасаду інспектара гарадзенскай урачэбнай управы і быў адной з ключавых фігур у прафесійнай іерархіі. Малодшы Павал у розныя гады працаваў павятовым і гарадскім урачом, гарадавым штабс-лекарам, урачом гарадзенскай акруговай лячэбніцы. Аб высокім прафесійным узроўні мясцовых эскулапаў і той пашане, якая выказвалася ім з боку месцічаў сведчаць успаміны іх расійскага вайсковага калегі Івана Метрапольскага, данясенні паліцмайстраў, а таксама падарожны дзённік Т.Трыпліна, які не хацеў пакідаць горад над Нёманам, не сустрэўшыся з Забеламі.

Таксама вартая асобнай увагі постаць Ізыдора Нагумовіча. Гэты лекар пасля вяртання з ссылкі ў 1839 г. (куды ён трапіў за аказанне медычнай дапамогі эмісару М. Валовічу) пасяліўся ў Гародні. Акрамя сваёй профільнай дзейнасці ён займаўся даследаваннем мінеральных крыніц і іх лекавых якасцей у Друскеніках. Ён стаў адным з найбольш актыўных прапагандыстаў новага курорта. У 1841 г. у Гародні выйшла з друку яго кніга “Способы лечения минеральными водами в Друскениках” (на польскай мове, пазней была перакладзена і на рускую). Шмат у чым дзякуючы менавіта гэтаму чалавеку, Друскенікі хутка набылі папулярнасць не толькі сярод гарадзенцаў, а і сярод жыхароў усяго рэгіёна.

Адкрыццё аздараўленчага цэнтра паблізу Гародні мела для апошняй вельмі важныя сацыяльна-культурныя наступствы. У 40 – 50-я гг. Друскенікі набылі вялікую папулярнасць. Іх наведванне, часта не столькі для лячэння, колькі як даніна тагачаснай модзе, стала абавязковай часткай свецкага жыцця. У выніку ўлетку жыццё ў Гародні, фактычна, спынялася. Затое яно квітнела і віравала на курорце. На некалькі месяцаў Друскенікі станавіліся “сталіцай” губерні. Сюды накіроўваліся купцы, афіцыялісты, памешчыкі, чыноўнікі, аферысты і вайскоўцы. Сюды, мінаючы Гародню, ехалі музыканты, везлі новыя пастаноўкі тэатраль-

ныя трупы, спяшаліся прадстаўнікі іншых творчых прафесій. Красамоўным з'яўляецца і тое, што, паводле праекта 1852 г., першая параходная лінія на Нёмане павінна была злучыць менавіта гэтыя два населеныя пункты.

Асноўным відам аказання медычных паслуг у гэты час заставаўся выклік лекара да хворага. У некаторых выпадках гарадзенцы звярталіся па дапамагу да фельчараў, аптэкараў і цырульнікаў. Апошнія для атрымання адпаведнага сертыфіката здавалі адмысловы экзамен на прафесійную прыдатнасць. Усе лекарскія паслугі былі платныя, але ў некаторых выпадках медычны работнік мог адмовіцца ад ганарару. Таксама віталіся падарункі лекарам.

Стацыянарнае лячэнне хворых у Гародні ў 30 – 50-я гг. XIX ст. было развіта яшчэ досыць слаба. Вядома, што ў горадзе функцыянавала акруговая лячэбніца, дзейнічалі некалькі шпіталяў, у тым ліку габрэйскі і вайсковы. Апошні размяшчаўся ў будынку Новага замка і быў месцам частых інспекцый вялікага князя Канстанціна Паўлавіча. Пасля 1836 г. шпіталь, які функцыянаваў пры кляштары баніфратраў і спецыялізаваўся пераважна на псіхічных хваробах, перайшоў у распараджэнне Прыказа грамадскай апекі. Акрамя таго, у горадзе дзейнічаў яшчэ шэраг дробных медычных устаноў, якія аказвалі дапамогу толькі пэўным катэгорыям гарадзенцаў (пры гімназіі, турме і г.д.)

На працягу першай паловы XIX ст. Гародня заставалася адзіным губернскім цэнтрам на тэрыторыі сучаснай Беларусі, дзе існаваў і фукцыянаваў прафесійны тэатр. Асноўнай тэндэнцыяй развіцця гэтага віду мастацтва стала яго паступовая камерцыялізацыя. З мэтай прыцягнення гледачоў акцёры былі вымушаныя ўвесь час прапаноўваць новы рэпертуар. Вынікам гэтага "канвееру" стала зніжэнне мастацкай вартасці тэатральных паказаў.

Звычайна будынак тэатра на Гарадніцы арэндаваўся адным з антрэпрэнёраў. Плата за яго карыстанне ўносілася ў гарадскі магістрат. У большасці выпадкаў тэрмін арэнды складаў адзін

год. Заключэнне падобнага кантракта давала права кіраўніку трупы на манапольнае выкарыстанне тэатральнай камяніцы на ўвесь вызначаны дакументам перыяд. Але, як правіла, цягам аднага года гарадзенцы маглі ўбачыць выступленні некалькіх тэатральных калектываў. Тлумачыцца гэта тым, што, калі асноўная група актораў выязджала на гастролі, прыязджала іншая.

У 1830 – 1850 гг. гарадзенцы мелі магчымасць пазнаёміцца з выступленнямі некалькіх дзясяткаў такіх калектываў. Найбольшы след у тэатральным жыцці горада пакінуў антрэпрэнёр Станіслаў Навакоўскі. Таксама тут гастралявалі прафесійныя трупы з Вільні і Варшавы. Акрамя традыцыйных прадстаўленняў на сцэне гарадзенскага тэатра практыкаваліся бенефісы вядомых актораў ці актрыс, выступленні прыезджых музыкантаў. Верагодна, менавіта на Гарадніцы 19 і 24 жніўня 1849 г. адбыліся фартэп'янныя канцэрты Камілы і Міраслава Марцінкевічаў, якія сваім талентам пакарылі многія гарады Беларусі і Літвы. На жаль, невядома, ці суправаджаў іх у той паездцы іх бацька Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.

Іншай важнай тэндэнцыяй у развіцці тэатральнага мастацтва можна лічыць паступовае пранікненне на сцэну (у т.л. гарадзенскую) рускай мовы. Яшчэ адным незваротным працэсам стала паступовае разбурэнне самога будынка тэатра на Гарадніцы. Фактычна, ён увесь час знаходзіўся ў аварыйным стане. Фінансаў на капітальны рамонт улады так і не знайшлі, абмяжоўваючыся падтрыманнем яго жыццяздольнасці.

У адрозненне ад будынка тэатра, гарадзенскі астрог заўсёды знаходзіўся пад пільным наглядам і апекай вышэйшай мясцовай улады. Узведзены ў 1820 г. турэмны замак неаднаразова перабудоўваўся і рамантаваўся. Часткова гэтыя пераўтварэнні былі выкліканы неабходнасцю прыстасавання пенітэнцыярнай сістэмы да зменаў расійскага заканадаўства. Толькі з сярэдзіны XIX ст. турма пачала выкарыстоўвацца ў якасці месца адбыцця пакарання. Да гэтага часу яе асноўнай фунцыяй было папярэдняе зняволенне падчас вядзення следства.

У сувязі з гэтымі пераменамі ў 1853 г. да корпуса турэмнага замка былі прыбудаваны два флігелі з дзесяццю адмысловымі камерамі для адзіночных падследчых арыштантаў. У 1854 г. на ніжнім паверсе паезуіцкага кляштара, які прылягаў да астрога, з'явіліся пяць камер для вязняў, што ўтрымліваліся па судовых прысудах. Агульная ўмяшчальнасць астрога такім чынам складала трохі больш за 90 чалавек. Рэальная ж колькасць размешчаных тут арыштантаў магла быць нашмат большай.

Умовы ўтрымання ў гарадзенскім астрозе былі вельмі цяжкімі. Смурод, неатынкаваныя муры, паўсюдная вільгаць, холад, недахоп святла – вось што чакала тых, хто трапляў за краты.

У першай палове XIX ст. у турме захоўваўся саслоўны прынцып размеркавання зняволеных. Шляхта трымалася асобна ад іншых арыштантаў. Гэтая адметнасць выяўлялася і пры забеспячэнні асоб вышэйшага саслоўя ежай. На іх утрыманне выдаткоўвалася ў 1,5-2 разы больш сродкаў, чым на арыштантаў ніжэйшага стану.

Сістэма харчавання ў гарадзенскім астрозе была зменена ў канцы 30-х гг. XIX ст. Калі раней грашовыя сродкі выдаваліся арыштантам на рукі, і яны самі клапаціліся аб закупцы правіянта, то з гэтага часу прадукты пачалі закупацца і пастаўляцца ў астрог у цэнтралізаваным парадку. У аснове рацыёну гарадзенскіх вязняў быў хлеб. Яго норма доўгі час заставалася нязменнай – 2 ½ фунты. Рэшту складалі самыя танныя прадукты, якія можна было набыць на мясцовым рынку: розныя крупы, з якіх пасля варылася каша ці баланда, гарох, капуста (у розным выглядзе), шчаўе (у сезон), буракі, у якасці запраўкі – сала, а ў посныя дні – алей.

Гарадзенскі турэмны замак таксама актыўна выкарыстоўваўся ў якасці перасыльнага цэнтра. Ён акумуляваў у сябе тых арыштантаў, якія былі прызначаны да катаржных работ, пасялення ў Сібір, адпраўляліся ў арыштанцкія роты ці

ў салдаты па прыгаворах судоў, што дзейнічалі ў розных гарадах губерні. Таксама ён выконваў ролю этапнага пункта, дзе адбываўся дзённы адпачынак і начлег перасыльных з суседняга Царства Польскага, якія пасля накіроўваліся далей. Менавіта гэтая катэгорыя вязняў дамінавала сярод іншых груп зняволеных.

Для гарадзенцаў першай паловы XIX ст. відовішча закутых у кайданы, злучаных адным прэнтам і аднолькава апранутых вязняў з напалову выгаленымі галовамі, якія бразгаючы жалезам, лямантуючы на розных мовах або жаласліва просячы міластыню, пад вартай інваліднай каманды рухаліся па цэнтральных вуліцах і плошчах горада, было з'явай звычайнай.

Акрамя гарадскога астрога пад вязніцы ў 30-50-я гг. таксама выкарыстоўваліся пакармеліцкі, дамініканскі, бернардзінскі, а таксама некаторыя жаночыя кляштары, маёнтак Станіслава. Іх няпрофільнае выкарыстанне не было працяглым. Яго абумовіла рэзкае павелічэнне колькасці арыштантаў (пераважна палітычных).

Мясцовы астрог з'яўляўся месцам жыхарства гарадзенскага ката, бо прадстаўнікі дадзенай прафесійнай групы, звычайна, рэкрутаваліся з ліку былых вязняў. Апроч таго, абмежаванне яго свабоды было абумоўлена ненадзейнасцю самога ката, які пры першай магчымасці імкнуўся... уцячы. Гэтая "прафесія" лічылася адной з найменш прэстыжных і найменш паважаных сярод усіх рамёстваў, што існавалі тады ў горадзе. У астрозе "заплечных спраў майстар" жыў асобна ад рэшты зняволеных і атрымоўваў удвая большае ад іх грашовае ўтрыманне.

Асноўнай функцыяй ката было выкананне судовых прысудаў, якія прадугледжвалі фізічнае пакаранне злачынцаў. Заканадаўствам Расійскай імперыі быў вызначаны дыферэнцыянаваны падыход у іх ажыццяўленні. У сувязі з гэтым у распараджэнні гарадзенскага экзекутара была пуга (забаронена ў 1845 г.), бізун (плець), розга. Найбольш цяжкія знявечанні наносіліся пугай.

Фізічныя пакаранні ў той час мелі абавязковы публічны характар. Дзеля гэтага ў Гародні ў 40-я гг. XIX ст. быў пабудаваны эшафот з прэнгерам (слупом ганьбы), да якога прывязвалася ахвяра падчас экзекуцыі. Эшафот з прэнгерам захоўваліся ў паліцыі, а ў выпадку неабходнасці іх усталёўвалі на цэнтральнай плошчы горада.

Цікавы выпадак здарыўся з гарадзенскім катам Сямёнам Свёклам. У канцы 40-х гг. XIX ст. ён папросту адмовіўся ад выканання сваіх абавязкаў. Гэтая акцыя пратэсту прывяла да калапсу мясцовай судова-карнай сістэмы. Каб выйсці з сітуацыі, улады былі вымушаны запрашаць “майстроў заплечных спраў” з Менска і Вільні.

На многія аспекты гарадскога жыцця XIX ст. аказаў уплыў фактар вайсковай прысутнасці. Яго складана ацаніць адназначна. З аднаго боку, крыніцы сведчаць пра выпадкі канфліктаў (маштабных і не вельмі) паміж месцічамі і вайскоўцамі. Найчасцей іх ахвярамі станавілася габрэйская супольнасць горада. Не выклікала асаблівага энтузіязму сярод месцічаў практыка вайсковага пастою. З іншага боку, армія была важным спажыўцом многіх паслуг і тавараў. На армію арыентаваліся суконныя прадпрыемствы, якія актыўна развіваліся ў гэты час у губерні і ў наваколлях гораду. Размяшчэнне войска ўплывала на гарадскую забудову. Мілітарны аспект адыграў важную ролю ў будаўніцтве чыгункі, якая ў 1861 г. прайшла праз Гародню, злучыўшы Санкт-Пецярбург і Варшаву. Гэта была адна з найбольш адметных падзей у жыцці горада і месцічаў таго часу. Адначасова з гэтым быў узведзены чыгуначны мост праз Нёман, які таксама актыўна выкарыстоўваўся ў якасці пешаходнага.

Фактар вайсковай прысутнасці шмат у чым вызначаў структуру і лакалізацыю піцейных устаноў Гародні, паколькі тыя мелі тэндэнцыю размяшчэння бліжэй да казармаў. Менавіта салда-

ты і афіцэры стымулявалі таксама попыт на аказанне інтымных паслуг. У Гародні развівалася прастытуцыя.

У першай палове XIX ст. прастытуцыя яшчэ не набыла такога маштабу, які яна атрымала ў другой палове стагоддзя. Першыя згадкі аб наяўнасці публічных дамоў датуюцца 1826 г. Як сведчаць дакументы, прастытуцыя ў горадзе мела шматнацыянальны характар. Напрыклад, утрымальнікам бардэля магла быць габрэйка, а "абслугоўваючы персанал" – хрысціянскі. Пры гэтым у прытон мог быць launched пераетвораны, фактычна, кожны жылы дом. Спецыяльных будынкаў пад бардэлі не існавала. Акрамя таго, у горадзе інтымныя паслугі аказвалі г.зв. "адзіночкі". У 1842 – 1843 гг. адбылася інстытуцыялізацыя прастытуцыі ва ўсёй імперыі. Асноўны сэнс гэтага новаўвядзення абмяжоўваўся абавязковым медычным наглядам за прадстаўніцамі гэтай прафесіі. У выніку прастытуткі (у т.л. гарадзенскія) былі падзелены на легальных (з білетам) і нелегальных.

Згаданыя перамены ў розных сферах не заўсёды вызначалі штодзённасць жыцця гарадзенцаў. Новыя павевы і тэндэнцыі не так хутка прымаліся і адаптаваліся супольнасцю. Як і ў папярэднія дзесяцігоддзі, гадавы цыкл жыцця месцічаў і надалей вызначаўся ўсё тымі ж з'явамі і падзеямі. Істотную ролю ў гэтым цыкле працягваў адыгрываць рэлігійны кампанент. Функцыянаванне ўсіх канцылярый і іншых органаў кіравання ў горадзе ў пэўныя дні, фактычна, спынялася з прычыны таго, што ўсе чыноўнікі наведвалі храм. Традыцыйнымі заставаліся асноўныя віды дзейнасці гарадзенцаў. Нязначныя змены спазнала ўнутранае і знешняе аблічча горада. Як і раней, Гародня і яе жыхары цярпелі ад пажараў.

Пажары вялікія і маленькія былі часткай штодзённага побыту. 13 сакавіка 1832 г. гарадзенец Караль Бажэцкі ў сваім дзённіку запісаў: *"Пажар некалькіх хацін на прадмесці каля Францішканскага кляштара асвяціў цэлы горад".*

Важнай падзеяй у справе барацьбы з агнём стала заснаван-

не прафесійнай пажарнай дружыны. Яе станаўленне адбывалася ў канцы другога – пачатку трэцяга дзесяцціgoддзя XIX ст. Каманда была забяспечана супрацьпажарным інструментам, мела ў сваім распараджэнні коней. Як і сёння, акрамя сваіх асноўных функцый, пажарныя часта прыцягваліся для выканання іншых (няпрофільных) работ у горадзе.

Сярод іншых адметных падзей жыцця горада гэтага часу адзначым наступныя:

- 1830 г. заснавана першая публічная бібліятэка;
- 1835 г. адкрыты губернскі статыстычны камітэт;
- 1838 г. утвораны гарадзенскі Апякунскі камітэт па справах турмы;
- 1839 г. адкрыта метэаралагічная станцыя;
- 1843 г. ліквідаваны баніфратарскі кляштар у Гародні;
- 1860 г. заснавана Асобая часовая камісія для правядзення сялянскай рэформы ў Гарадзенскай губерніі

Апошняя падзея стала прадвеснікам новых павеваў у жыцці горада. Надыходзіў час мадэрнізацыі і кардынальных зменаў не толькі сацыяльна-эканамічнага ўкладу, але і ўсіх іншых сфераў.

## МЯЦЕЖНЫ ГОРАД

У 1861 г. у Гародню з мэтаю стварэння падпольнай антыўрадавай арганізацыі прыехаў выпускнік Санкт-Пецярбургскага універсітэту Вікенці Канстанцін (Кастусь) Каліноўскі. Паводле ўспамінаў паўстанца Фелікса Ражанськага, ён быў прыхільнікам ідэі народнага паўстання, якое павінна было знішчыць маскоўскае панаванне. Каліноўскі разлічваў выкарыстаць асабістыя сувязі і знаёмствы з гарадзенцамі...

Якой была Гародня напачатку 60-х гг.? Пасля Пецярбургу і Вільні, дзе ў тым жа годзе Каліноўскі няўдала спрабаваў знайсці месца службы як "кандыдат права", горад наўрад ці зрабіў на яго добрае ўражанне. Павел Баброўскі ў гісторыка-статыстычным апісанні Гародні (1863) намаляваў не вельмі прывабны вобраз губернскага горада.

Згадаўшы гістарычную адметнасць горада (замкі і маляўнічыя руіны Каложы), Павел Баброўскі заўважыў, што ў горадзе ёсць толькі некалькі брукаваных вуліцаў з камяніцамі, а пераважная частка гарадзенцаў (усяго каля 20 тыс. жыхароў) жыла ў невялікіх драўляных дамках, якія часта нагадвалі сапраўдныя "халупы". Большасць вуліцаў крывыя і цесныя, забудаваныя без плану і настолькі стыхійна, што часам бывала цяжка з'арыентавацца, па якой вуліцы ідзеш. Ходнікаў, звычайна, не было, а асвятлялі горад толькі 150 газавых ліхтароў. Выключэннем былі вуліцы Замкавая, Дамініканская і Раскошы. Найпрыгажэйшай часткай горада П.Баброўскі лічыў не Парадную плошчу з высокімі каменнымі гмахамі і будынкам Ратушы, дзе месціліся гандлёвыя крамы і магістрат, а Гарадніцу, цэнтрам якой была Губернатарская плошча з домам губернатара і будынкам губернскага праўлення, за якімі пачыналіся сады. Таксама тут знаходзіўся прыгожы Архіерэйскі дом з Духоўным вучылішчам і адноўлены будынак гарадскога тэатра.

Прыведзеная П.Баброўскім статыстыка складу насельніцтва паводле веравызнання, сведчыць пра колькасную перавагу габрэйскай супольнасці (53%), якая мела дзве сінагогі. Праваслаўныя (16%) і каталікі (30%) мелі па восем храмаў. Паводле саслоўнай прыналежнасці ў горадзе колькасна дамінавалі мяшчане (54%), за імі ішлі асабістыя і патомныя дваране (18%) і сяляне (12,1%). Рамеснікі, як і вайскоўцы, складалі толькі 3% усіх жыхароў. Дробны гандаль знаходзіўся ў руках габрэяў.

Прамысловасць у горадзе перажывала заняпад. Як інакш ахарактарызаваць тагачаснае становішча горада, які яшчэ памятаў старасту Антонія Тызенгаўза і ягоныя эканамічныя

ператварэнні? У сярэдзіне XIX ст. у Гародні было толькі некалькі цагляных і свечных заводаў, пяць бровараў, чатыры млыны і адна цыгарная “фабрыка”. Колькасць работнікаў і рамеснікаў нязначна пераўзыходзіла колькасць зафіксаваных гарадской статыстыкай жабракоў.

Горад з Занёманскім фарштатам звязваў плавучы мост на плакштоўтах (баржах), збудаваны ў 1832 г., які ўжо патрабаваў сур’ёзнага рамонту, а вясной і летам яго замяняў парам. Звычайнай з’явай гарадскога жыцця былі вялізныя чэргі на пераправе. Іншай істотнай праблемай гарадскога жыцця быў недахоп калодзежаў і адсутнасць водаправоду. Воду для піцця часта бралі з Нёмана і прадавалі бочкамі. Гасцей горада (у тым ліку і Каліноўскага ў 1861 г.) чакалі 17 пастаялых двароў з 60 гасцявымі пакоямі. П.Баброўскі ацаніў іх як “даволі неахайныя”.

Сярод навучальных установаў горада вылучаліся дзве гімназіі – мужчынская (1834) з цудоўнай бібліятэкай колішняга Дамініканскага кляштара і жаночая (1860). У 1859 г. у розных навучальных установах горада вучылася каля 1,5 тыс. дзяцей, большасць якіх наведвала габрэйскія школы (хедэры і талмудторы). П.Баброўскі таксама падкрэсліў адукацыйнае значэнне гарадскіх бібліятэк. У 1860 г. у Гародні ўжо амаль 30 гадоў дзейнічала публічная бібліятэка. Таксама можна было карыстацца кнігазборам мужчынскай гімназіі. Асобна П.Баброўскі спыніўся на бібліятэцы ксяндза Гінтаўта, у якой знаходзіліся інкунабулы і рэдкія выданні друкарань розных еўрапейскіх краінаў. Ксёндз таксама валодаў унікальнай калекцыяй жывапісу з палотнамі Рубенса і Вандэйка.

Сярод новых з’яваў жыцця, якія давалі гораду пэўныя перспектывы, П.Баброўскі назваў пабудову Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі з “цудоўным” чыгуначным мостам праз Нёман, а таксама адкрыццё ў горадзе электрычнага тэлеграфу. Апісанне Гародні П.Баброўскі закончыў пералікам першачарговых мерапрыемстваў, якія павінны былі значна палепшыць жыццё гараджанаў, а такса-

ма павялічыць фінансавыя паступленні ў гарадскі бюджэт. Пры гэтым ён абапіраўся на прапановы чыноўніка гаспадарчага дэпартаменту Міністэрства ўнутраных справаў Мушынскага, якія той прадставіў у рапарце Віленскаму генерал-губернатару Назімаву. Адзначалася неабходнасць стварэння Гарадской думы для кіравання і каардынацыі гаспадарчага жыцця, пабудовы пастаяннага мосту праз Нёман, а таксама водаправоду, пераносу штогадовага кірмаша з Зэльвы ў Гародню, уладкавання гарадзенскай прыстані і пабудовы чыгункі, якая б звязала Гародню з Пінскам. Амаль усё з пералічанага будзе калісьці зробленае...

Аднак бліжэйшай перспектывай Гародні сталася паўстанне супраць расійскіх уладаў, якое распачалося ў Варшаве ў студзені 1863 г. Горад ізноў праявіў свой непакорлівы і вольналюбівы характар.

Як ужо адзначалася, у 1861 г. гарадзенцы адгукнуліся на звесткі пра расстрэл у Варшаве мірнай дэманстрацыі. Гародня далучылася да антыўрадавых дэманстрацый і спявання польскіх патрыятычных гімнаў, што адбывалася ў Царстве Польскім. Пасля жнівеньскай дэманстрацыі, якую ўзначаліў ксёндз Ю.Маеўскі, у горадзе і губерні было ўведзенае ваеннае становішча.

У гэтым жа годзе, дзякуючы актыўнасці Каліноўскага, у Гародні ўзнікла падпольная арганізацыя, у якую, паводле ўспамінаў Ф.Ражанскага, увайшлі апроч яго і Каліноўскага, губернскі сакратар Эразм Заблоцкі, доктар Баляслаў Заблоцкі, інспектар лясной школы Валеры Урублеўскі, афіцэр Ян Ванькові, каморнік Ільдэфонс Мілевіч, згаданы ксёндз Гінтаўт, а таксама ксяндзы Ян Заржыцкі і Ігнат Казлоўскі з ваколіцаў горада. Імёны іншых сяброў арганізацыі Ф.Ражанскі, на жаль, не здолеў прыгадаць.

Затое ён упэўнена сцвярджаў, што ўсе сябры Гарадзенскай арганізацыі прытрымліваліся "дэмакратычных прынцыпаў" і рыхтавалі "народнае паўстанне". Іх называлі "чырвонай партыі-

яй". Адной з галоўных задачаў Гарадзенскай арганізацыі сталася падрыхтоўка паўстання, у т.л. ідэалагічная.

Магчыма, менавіта ў Гародні пачыналася выданне славутай "Мужыцкай праўды", якая выходзіла за подпісам *"Яські-гаспадара з-пад Вільні"* і заклікала сялянаў да змагання "За вольнасць нашу і вашу". Газета даносіла да людзей "мужыцкую праўду", давала адказы на найбольш вострыя пытанні жыцця. Яе выданнем і распаўсюдам займаліся сябры арганізацыі В.Урублеўскі, Ф.Ражанскі, С.Сангін (Сонгін) і сам Каліноўскі.

У Нацыянальным гістарычным архіве ў Гародні захаваўся рапарт прыстава Слонімскага павета гарадзенскаму губернатару І.Галеру ад 27 кастрычніка 1862 г., у якім ён паведамляў, што здолеў устанавіць імя чалавека, які едучы на паштовых конях праз в. Шайнякі на гасцінцы Ваўкавыск – Гародня, выкінуў на дарогу скрутак з некалькіх нумароў "Мужыцкай праўды"[57]. Гэтым чалавекам быў Каліноўскі…

Напярэдадні паўстання Кастусь Каліноўскі ўжо ўзначальваў Літоўскі правінцыяльны камітэт у Вільні, які стаў цэнтрам падрыхтоўкі паўстання ў Беларуска-Літоўскім краі. Але і Гародні адводзілася вялікая роля. Напрыканцы года ў горадзе актыўна цыркулявалі чуткі пра пачатак паўстання ў Царстве Польскім, збіраліся нават сродкі (2% ад заробку) на закуп зброі. У сувязі з гэтым у поле зроку паліцыі трапіў губернскі сакратар Антон Блажаеўскі, арыштаваны ўжо ў студзені 1863 г.

Кім былі тыя гарадзенцы, што адгукнуліся на заклік Каліноўскага і далучыліся да змагання? Ва ўжо згаданым архіве Гародні захаваліся матэрыялы Гарадзенскай ваенна-следчай камісіі. Сярод іх – спіс 148-мі мясцовых "мяцежнікаў", якія знаходзіліся пад следствам у перыяд з 10 лютага па 1 верасня 1863 г. і былі зняволеныя ў гарадзенскім турэмным замку[58].

Звесткі, атрыманыя з гэтага спіса, дазваляюць зрабіць пэўныя высновы адносна характару паўстання на Гарадзеншчыне. Напрыклад, сярод тых, хто быў прыцягнуты Гарадзенскай ваенна-

[57] Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861-1862 гг.: материалы и документы / гл. ред. : С. Кеневич. М., 1964. С. 477-478

[58] НГАБ у Гродне. Ф. 3, воп. 1, ад.з. 33, арк. 1 адв. – 22 адв.

следчай камісіяй да адказнасці, можна адзначыць вялікую долю сялянства (22,3%). Відавочна, што мясцовыя сяляне, у т.л. і тыя, што пражывалі ў горадзе, актыўна падтрымалі паўстанне. Так, у спісе фігуруюць імёны сялянаў, што працавалі на чыгунцы, Івана Філістовіча і Казіміра Крэвеня. Падчас бою трапілі ў палон сяляне Мацвей Адашкевіч і Восіп Зуброўскі і г.д.

Але ўсё ж такі галоўнай сілай паўстання заставалася шляхта. Прадстаўнікі гэтага саслоўя складалі сярод арыштаваных 48,6%. У прыватнасці, гэта Дамінік Рамаоўскі і ягоная 15-цігадовая дачка Пелагея, Уладзіслаў Пачэ(о)бут, Ян Вільчыкевіч, Эдуард Гінтаўт ды інш. Сярод "мяцежнікаў" аказалася 13 прадстаўнікоў мясцовага чынавенства – ад калежскага асэсара Канстанціна Касмоўскага да надворнага дарадцы Восіпа Хоміча і губернскага сакратара Аляксандра Эйсманта. Мяшчане складалі 7,4% з арыштаванных (напрыклад, аптэкар Адольф Шмідт, тэлеграфіст Адам Пржыбылка, друкары Станіслаў Блашынскі і Карл Янкоўскі). Духавенства было прадстаўлена двума каталіцкімі ксяндзамі – Фадзеем Гадлеўскім і Феліксам Вайнеўшам.

Самай значнай падзеяй паўстання ў Гародні стала спроба захопу цягніка групай моладзі на чале з начальнікам чыгуначнай станцыі Леанам Кульчыцкім 2 сакавіка 1863 г. Яны планавалі даехаць да станцыі Парэчча і далучыцца да атрада Людвіка Нарбута. На станцыі адбыўся бой. Толькі невялікая частка групы здолела пакінуць Гародню, большасць апынулася ў турэмным замку. У спісе фігуруюць 42 зняволеныя па гэтай справе. Сярод іх было шмат вельмі маладых людзей. У прыватнасці, гэта гімназісты (усяго 14) разам з настаўнікам гімназіі Станіславам Навакоўскім.

Найбольш вядомым "ваенным злачынцам" са спісу арыштаваных быў адстаўны штабс-капітан Станіслаў Завістоўскі, які камандаваў паўстанцкім атрадам. Ён быў дастаўлены ў гарадзенскую турму 18 чэрвеня. У той жа дзень ягоную справу прадставілі вайсковаму губернатару. Канчаткова лёс

С.Завістоўскага вызначыў камандуючы войскамі Віленскай вайсковай акругі. 10 ліпеня 1863 г. паўстанец быў расстраляны ў Ваўкавыску.

Не ўсе з арыштаваных здолелі з годнасцю вытрымаць выпрабаванні лёсу і ўмовы зняволення. Так, Адольф Кашуба (16 гадоў) і Юзаф Гамуліцкі (18 гадоў) далі паказанні, паводле якіх да адказнасці былі прыцягнутыя 8 чалавек. Дарэчы, следства па іх справе цягнулася амаль 2 месяцы. Яго матэрыялы камісія прадставіла вайсковаму губернатару Гародні толькі 30 красавіка, у той час як тэрмін следства для большасці арыштаваных складаў 1–2 тыдні. Відавочна, што ўлады імкнуліся зрабіць максімальную "зачыстку" Гародні.

Месяцам найбольшых рэпрэсій стаў сакавік, калі 48 чалавек апынуліся пад следствам. У ліпені з 29-ці арыштаваных 8 чалавек трапілі ў турму па даносу "немца Рашпіхлера" (так у дакуменце). Наогул, большасць арыштаваных прымалі непасрэдны ўдзел у паўстанні, але каля 30 асобаў утрымліваліся ў зняволенні з фармулёўкай *"па падазрэнні"*.

Таксама, неабходна адзначыць прысутнасць у гэтым спісе жанчын і дзяўчат, сярод якіх вылучаюцца постаці сясцёр Схаластыкі, Леакадзіі і Камеліі Германавічуўнаў з пазначэннем *"дочкі уніяцкага святара"*. Прыпіска вартая асобнай увагі з улікам таго, што уніяцкая царква была афіцыйна зліквідаваная расійскімі ўладамі яшчэ ў 1839 г.

Цікавыя высновы наконт сацыяльнага складу ўдзельнікаў паўстання на Гарадзеншчыне зрабіў Аляксандр Радзюк, які прааналізаваў ведамасці палітычных арыштантаў Гарадзенскай ваенна-следчай камісіі за перыяд з кастрычніка 1863 г. па снежань 1864 г. Паводле ягоных падлікаў, *"асобы прывіліяваных саслоўяў"* (памешчыкі, чыноўнікі, афіцэры, дробная шляхта) складалі каля 53% удзельнікаў паўстання, а "непрывіляваных" (сяляне, мяшчане, салдаты) – каля 35%.

У красавіку 1863 г. у Гарадзенскім павеце быў сфармаваны

паўстанцкі атрад пад кіраўніцтвам Аляксандра Лянкевіча (“Ляндэра”). Ён налічваў каля 200 чалавек і падтрымліваў актыўныя стасункі з гарадзенцамі. Паўстанцкім начальнікам горада ў гэты час быў Цэлястын Цэханоўскі. 22 красавіка паблізу Гародні (“Святое балота” каля м. Азёры) адбыўся бой з расійскімі салдатамі і казакамі атрада падпалкоўніка Мантэйфеля. У рапарце расійскага афіцэра паведамлялася пра тое, што паўстанцы страцілі загінуўшымі і патануўшымі 40 чал., пяцёра былі ўзятыя ў палон.

У ліпені камісарам Гарадзенскага ваяводства стаў Эразм Заблоцкі. Аднак, сілы былі няроўныя... У жніўні быў арыштаваны Ц.Цэханоўскі. Ягоны пераемнік Юзаф Руткоўскі быў арыштаваны ўжо ў верасні. Апошнім паўстанцкім начальнікам горада быў Уладзіслаў Жалкоўскі. Нягледзячы на няўдачы паўстанцкіх атрадаў і шматлікія арышты сярод гарадзенцаў, горад працягваў змаганне.

Месцам зняволення “злачынцаў” стаў гарадзенскі турэмны замак, размешчаны ў будынку колішняга езуіцкага калегіума ў цэнтры Гародні. Ён не быў належным чынам падрыхтаваны да прыёму вялікай колькасці арыштантаў. Умовы ўтрымання зняволеных у 60-я гг. XIX ст. былі вельмі цяжкімі. Даследчык гісторыі гарадзенскай турмы Вячаслаў Лісіцын адзначыў адсутнасць каналізацыі і ацяплення. Таксама адсутнічалі або былі моцна пашкоджаныя драўляныя падлогі. Гэта стварала вялікія праблемы, тым больш што арыштаваным па справе паўстання былі забароненыя ўсе перадачы. Арыштанты не мелі магчымасці атрымліваць цёплае адзенне або прадукты харчавання. У многіх камерах адсутнічала шкло ў вокнах, і адміністрацыя вырашала гэтую праблему з дапамогай дошак. У выніку ўзніклі вялікія праблемы з вентыляцыяй і чыстым паветрам. Сур’ёзнай праблемай быў кепскі санітарны стан вады для піцця. Турма не мела сваёй студні, і ваду дастаўлялі ў бочках з Нёмана.

Дарэчы, усе гэтыя турэмныя “выгоды” давялося перажыць таксама брытанскаму падданаму, хатняму настаўніку А.Біспінга Фартэск’ю Андэрсану, арыштаванаму ў верасні

1863 г. па падазрэнні ў кантактах з паўстанцамі. Улады не здолелі даказаць факт злачынства, і Ф.Андэрсан пакінуў межы імперыі[59]. Хоць Эразм Заблоцкі ў сваіх паказаннях на следстве прыгадваў прыезд разам з К.Каліноўскім у маёнтак Аляксандра Біспінга Вярэйкі якраз у перыяд знаходжання там англічаніна.

Вялікая колькасць арыштаваных у 1863 г. змусіла ўлады шукаць новыя турэмныя памяшканні. Яны паспрабавалі вырашыць праблему, ператварыўшы ў турму гарадзенскі Стары замак. Умовы ўтрымання заняволеных у гэтым замку таксама былі даволі цяжкімі.

Гістарычныя дакументы знаёмяць нас з гарадзенскімі мяцежнікамі, даносяць атмасферу паўстання, загнанага ў турэмныя казематы. Яны дапамагаюць убачыць тых, хто, звычайна, ніколі не выходзіць з ценю Кастуся Каліноўскага, Валерыя Урублеўскага, Зыгмунта Серакоўскага ды іншых правадыроў. А між тым якраз гэтыя постаці "другога плану" неслі на сабе асноўны цяжар змагання, і без іх ні само паўстанне, ні ягоныя правадыры ніколі не сталі б гонарам айчыннай гісторыі.

Гарадзенская ваенна-следчая камісія была расфарміраваная толькі ў маі 1866 г. Фактычна, да гэтага часу ўлады ўсё яшчэ працягвалі змаганне з гарадзенскімі мяцежнікамі.

Жорсткую палітыку русіфікацыі Беларуска-Літоўскага краю адміністрацыя сціпла называла "дэпаланізацыяй", хоць на самой справе яна датычыла ўсяго каталіцкага насельніцтва. Расійскія ўлады абвясцілі каталіцкае веравызнанне галоўнай прыкметай польскасці і тым самым парадаксальным чынам паспрыялі пашырэнню польскасці ў Гародні і ва ўсім Краі.

Палітыка ўладаў, якая між іншым забараняла палякам набываць зямлю, прадугледжвала іх татальнае звальненне з дзяржаўных установаў, а таксама забараняла друк на польскай, беларускай і літоўскай мовах, уводзіла пакаранні за размову па-польску ў "публічных месцах", падзяліла гарадзенцаў.

[59] Андэрсан Ф. У гродзенскай турме. Верасень 1863 г. // Горад святога Губерта. Альманах лакальнай гісторыі. Гродна, 2013. С. 42-81.

Знікала колішняя салідарнасць. Некаторыя змянялі веравызнанне, афармлялі дакументы, што з'яўляюцца карэннымі рускімі або беларусамі і ператвараліся ў сапраўдных лёкаяў рэжыму, іншыя зацята абаранялі сваю веру і не адмовіліся ад мары пра вольнасць…

Настроі жыхароў Гарадзеншчыны выдатна адлюстраваліся ў адміністратыўных справах, распачатых у сувязі з *"нанесением оскорблений по адресу особы Его Императорского Величества".* У Нацыянальным гістарычным архіве ў Гародні атрымалася выявіць 239 справаў за перыяд з 1866 па 1891 гг., геаграфія якіх ахоплівала ўсю губерню[60]. Што ж выклікала незадавальненне людзей, якое абарочвалася публічнай знявагай асобы імператара?

У пераважнай большасці выпадкаў галоўнай прычынай была антыкаталіцкая палітыка расійскіх уладаў (60%), а таксама мерапрыемствы, накіраваныя супраць мясцовай польскай супольнасці і польскай культуры (20%). Так, імператара часта зневажалі ў сувязі з закрыццём касцёлаў (напр.: *"Каб зямля павыкідала косткі памерлага* (Аляксандра II - А.С.) *за тое, што пакасаваў нашыя касцёлы")*, пагаршэннем матэрыяльнага становішча касцёлаў і каталіцкага духавенства (напр.: *"Каб яго* (Аляксандра II - А.С.) *халера задавіла, каб ён стаў такім самым жабраком як касцёл, каб яго самога абабралі, як абабралі ксяндза",* парушэннем традыцый касцёльнага набажэнства (напр.: *"Каб Гасудару дабра не было, бо забараняе спяваць гімны па-польску, а патрабуе па-руску")*, увядзеннем абавязковых святочных набажэнстваў у сувязі з памятнымі датамі ў жыцці правячай дынастыі ды інш.

Людзі таксама абураліся забаронай размаўляць па-польску ў грамадскіх месцах (напр.: *"Хутчэй імператара павесяць, чым хто-небудзь забароніць мне размаўляць па-польску"),* дэманстравалі сваю гатоўнасць ізноў распачаць узброеную барацьбу. Людвік Макар у спрэчцы з сялянамі на пытанне: *"А ты хто такі?" адказаў*: *"Хто я? Паляк! Раней быў мяцеж, і ведайце, што хутка, вельмі хутка зноў пайду біць маскалёў. Я цвёрда*

[60] Смалянчук А. Беларуская гісторыя: знайсці чалавека. Мінск, 2013. С. 73-83

*ў гэтым перакананы".* Мешчанін Вікенцій Радзевіч прапанаваў праграму сацыяльна-палітычных пераўтварэнняў: *"Гасудара трэба было б забіць, а іншага не прымаць, а выбраць з народа на адзін год. Калі будзе добры, то пакінуць на другі год, і ўсім жылося б добра".*

У перыяд вайны паміж Расіяй і Турцыяй 1877 – 1878 гг. многія публічна выказваліся за перамогу Турцыі. Напр., Лявонцій Пшыбытак заявіў: *"Гасудар нікому дабра не зрабіў і не зробіць. Як абдзіраў, так і будзе вас абдзіраць да апошняй кашулі... Калі б Турцыя захапіла Расію, то я хацяб перад смерцю ўбачыў бы святло".* Таксама сцвярджалася нелігітымнасць панавання пераемнікаў Мураўёва і выказвалася надзея на хуткае вяртанне польскай улады. Міхал Грахоўскі ў спрэчцы катэгарычна заявіў: *"Праз 15 дзён тут будзе Польшча".*

Аднак варта адзначыць і тое, што большасць адміністрацыйных справаў распачыналася з даносаў. Відавочна, што данос з'яўляўся сродкам звесці асабістыя парахункі, вырашыць пэўны канфлікт з дапамогай жандараў, адпомсціць за крыўду. Канфесійная прыналежнасць даносчыкаў была вызначана толькі ў 34 выпадках: праваслаўныя складалі 41%, іудзеі - 30%, каталікі - 27%. Цікава, што амаль усе праваслаўныя даносчыкі паведамлялі пра знявагу імператара прадстаўнікамі мясцовай каталіцкай шляхты. Прыблізна палова такіх справаў была спынена з-за адсутнасці доказаў віны. Следчыя досыць крытычна ставіліся да сялянскіх даносаў. Іх прычынамі зачастую быў не факт знявагі імператара, а асабістыя парахункі, якія ўзнікалі на глебе сацыяльных канфліктаў.

Як пэўны кур'ёз сёння ўспрымаецца справа, якая распачалася па даносу настаўніка закона Божага Крыніцкай народнай школы Гарадзенскага пав. святара Пранеўскага. Аднойчы ён заўважыў падручнік з разарваным партрэтам Аляксандра II. Магчыма, ён палічыў сваім "грамадзянскім абавязкам" паведаміць пра гэта паліцыі. Распачалася справа, якая цягнулася адзін год і тры ме-

сяцы (?!) Нарэшце, высветлілася, што партрэт падчас гульні выпадкова разарвалі дзеці. “Злачынцаў” апраўдалі.

У апошнюю трэць XIX ст. шэрагі гарадзенскіх мяцежнікаў папоўніліся рабочымі, рамеснікамі і разначыннай інтэлігенцыяй. Пачатак рабочага руху ў Гародні, звычайна, звязваюць з забастоўкай падмайстраў-краўцоў, якая адбылася ў верасні 1879 г. Яны патрабавалі скарачэння працоўнага дня.

Наогул, забастоўкі канца XIX ст. мелі пераважна эканамічны характар і былі звязаныя з дзейнасцю такіх партый, як Усеагульны габрэйскі саюз у Польшчы, Літве і Расіі (БУНД) і Польская партыя сацыялістычная (ППС). І першыя, і другія вялі марксісцкую прапаганду сярод мясцовага габрэйскага пралетарыяту, бо іншага амаль не было. Да найбольш актыўных агітатараў належалі чыноўнік Мікалай Дзем’яновіч і лекар Сяргей Галюн, якія арганізавалі ў 1887 г. марксісцкі гурток.

У 90-я гг. XIX ст. іх працу працягваў ураджэнец Гародні Пётр Шумаў. Па яго ініцыятыве быў створаны Рабочы камітэт, які наладзіў сувязі з ППС. Паступова важным цэнтрам дзейнасці ППС у Беларусі сталася Гародня. Рускі па нацыянальнасці, П.Шумаў быў прыхільнікам ідэі незалежнасці Польшчы і амаль да канца 1906 г. кіраваў дзейнасцю ППС у горадзе. Ён меў непасрэднае дачыненне да арганізацыі забастовак на тытунёвай фабрыцы Ёселя Шарашэўскага ў 1899 і 1900 гг.

Так, у забастоўцы 1899 г., якая працягвалася 13 дзён, удзельнічала каля 700 работніц. Ё.Шарашэўскі атрымліваў вялізарныя прыбыткі ад свайго тытунёвага бізнесу, але заробкі на яго фабрыках былі ніжэйшымі ў рэгіёне. Забастоўка прымусіла павысіць расцэнкі. Аднак істотнага паляпшэння становішча работніцаў не адбылося. Фабрыка Шарашэўскага і на пачатку XX ст. заставалася цэнтрам забастовачнага руху ў Гародні.

Рэвалюцыя прыйшла ў Гародню ў студзені 1905 г. разам са звесткамі пра растрэл мірнай дэманстрацыі ў Пецербургу. “Крывавая нядзеля” выклікала ўсеагульны пратэст.

Забаставалі работнікі большасці прамысловых і часткі рамесных прадпрыемстваў, адбылася дэманстрацыя пад лозунгам "Далой самаўладдзе!"

Наступная хваля забастовачнага руху прыйшлася на канец вясны – пачатак лета. Ізноў спынілі працу работніцы тытунёвай фабрыкі Шарашэўскага, патрабуючы павышэння заробкаў, баставалі рабочыя пераплётнай фабрыкі Харына, губернскай друкарні, механічнага завода Файнгольда, а таксама краўцы, гарбары, пажарнікі ды інш. Вельмі часта адбываліся масавыя пратэстныя дэманстрацыі, арганізаваныя ППС, БУНДам і сацыял-дэмакратамі, дзеля разгону якіх даводзілася выклікаць войскі і паліцыю.

Увядзенне ў горадзе стану "ўзмоцненай аховы" і размяшчэнне ў ім дадатковых вайсковых частак не змяніла сітуацыю. Гарадзенцаў абуралі нізкія заробкі і кепскія ўмовы працы. Але не толькі... Ва ўмовах палітызацыі грамадскага жыцця моцнае незадавальненне выклікаў Маніфест ад 6 жніўня 1905 г. пра ўвядзенне дарадчай Дзяржаўнай Думы. Марылася пра сапраўднае абмежаванне самаўладдзя.

Канец першага года рэвалюцыі азнаменаваўся чарговым уздымам змагання гарадзенцаў супраць імперскіх уладаў. 12 кастрычніка пачалі забастоўку чыгуначнікі, якіх падтрымалі рабочыя іншых прадпрыемстваў. Быў відавочным палітычны характар забастоўкі. 19 кастрычніка яна стала агульнай.

У гэты дзень у кафедральным Сафійскім саборы наАраднай плошчы быў адслужаны малебен і зачытаны Маніфест ад 17 кастрычніка, які даравaў народам Расіі свабоду слова і сумлення, свабоду сходаў і саюзаў, а таксама абвяшчаў скліканне не дарадчай, а заканадаўчай Думы. У гэты момант вакол сабору сабралося каля 5 тыс. чалавек, якія вырашылі адразу ж скарыстацца з абвешчанай свабоды. Гарадзенцы накіраваліся да дому губернатара з патрабаваннем вызвалення палітзняволеных. Атрымаўшы адмову і абяцанне перадаць патрабаванні вы-

шэйшаму начальству, яны вярнуліся на плошчу і паспрабавалі зрабіць гэта самастойна, аднак, каля турмы ўжо знаходзіліся ўзмоцненыя каравулы. Паступова дэманстрацыя ператварылася ў народнае гулянне. Як паведамляў начальнік Гарадзенскай жандарскай управы, *"хаджэнне па вуліцам з чырвонымі ліхтарамі і песнямі працягвалася ўвесь вечар"*.

У канцы кастрычніка і ў лістападзе хваляванні закранулі таксама частку гарадзенскага гарнізона. Салдаты 12 і 26 артылерыйскіх брыгадаў патрабавалі свабоды вайсковых сходаў, ліквідацыі ваенных судоў, скарачэння тэрміну службы і адмены смяротнага пакарання. Супраць самаўладдзя выступіла таксама вучнёўская моладзь. 22 лістапада забаставалі вучні старэйшых класаў мужчынскай гімназіі, іх падтрымала моладзь гарадскога вучылішча, а таксама настаўнікі. Як кур'ёз выглядае тое, што абмеркаванне гімназістамі пытання пра працяг забастоўкі адбывалася ў найвялікшай залі губернатарскага палаца, якую ў іх распараджэнне "любезно" прадставіў губернатар Блок. Апошняй моцнай праявай рэвалюцыйнага змагання гарадзенцаў стала снежаньская агульнагарадская забастоўка.

У студзені 1906 г. была створаная Гарадзенская група РСДРП, дзейнічалі арганізацыі ППС, БУНДа, эсэраў і анархістаў. Такім чынам, на пачатку другога года рэвалюцыі ў Гародні існавалі амаль усе нелегальныя палітычныя партыі, якія імкнуліся да ліквідацыі самаўладдзя. Гарадзенскія дзеячы ППС у 1904 – 1905 гг. выдавалі на польскай і рускай мовах нелегальную газету "Вестник свободы".

Рэпрэсіі і палітычныя ўступкі, на якія пайшлі ўлады, аслабілі рэвалюцыйны рух. Многія гарадзенцы пачалі звязваць свае надзеі з выбарамі ў Дзяржаўную Думу.

Адной з першых заявіла свае палітычныя амбіцыі Канстытуцыйна-Каталіцкая партыя Літвы і Беларусі (ККПЛіБ), створаная ў студзені 1906 г. па ініцыятыве віленскага біскупа Эд-

варда Ропа. Яе праграма грунтавалася на палажэннях энцыклікі папы Льва XIII *“Rerum novarum”* (1891), якая прычынілася да фармавання хрысціянска-дэмакратычнай ідэалогіі.

Гарадзенскае каталіцкае духавенства прыняло актыўны ўдзел у стварэнні гэтай партыі. Так, 12 студзеня 1906 г. у доме гарадзенскага дэкана Юлія-Алаізія Элерта адбыўся сход ксяндзоў, які аднагалосна пастанавіў далучыцца да партыі і ў духу яе праграмы весці працу сярод парафіянаў. Было створанае мясцовае аддзяленне партыі, якое на пачатку сакавіка абрала кандыдатам у дэпутаты ксяндза М.Руткоўскага.

Актыўнасць сяброў Канстытуцыйна-каталіцкай партыі напалохала ўлады, і яе сходы былі забаронены загадам віленскага генерал-губернатара Кржывіцкага. Тым не менш, паводле данясенняў спецыяльнага чыноўніка Дзмітрыева-Мамонава, якраз гэтая партыя вылучалася найбольшай актыўнасцю ў Гарадзенскай губ.

Падчас выбарчага губернскага сходу ў Гародні, які працягваўся два дні, склаўся саюз рускіх памешчыкаў, сялянаў і гарадскіх выбаршчыкаў, сярод якіх дамінавалі габрэі. Гэта абумовіла перамогу “праваслаўна-кансерватыўнай партыі”, дзе пераважалі сяляне, а асаблівай праўрадавай актыўнасцю вылучаўся памешчык з Беластоцкага павету Міхаіл Ярогін. Мясцовая польская супольнасць здолела правесці ў Думу толькі аднаго свайго прадстаўніка. Ім стаў сябра ККПЛіБ ксёндз Антоні Сангайла з Пружанаў. Ад “гарадской курыі” былі абраныя прысяжны паверааны Уладзімір Якубсон і чыноўнік Міністэрства юстыцыі Майсей Астрагорскі, які належаў да партыі кадэтаў. Гэты колішні выпускнік Гарадзенскай гімназіі быў вядомым спецыялістам па юрыспрудэнцыі.

Трэба адзначыць, што мясцовая польская супольнасць даволі востра перажывала паражэнне на выбарах. На старонках віленскага “Кур’ера літэўскага” з’явілася некалькі публікацыяў, аўтары якіх аналізавалі прычыны “ганебнай” няўдачы. Між іншым адзначалася вялікая актыўнасць польскай грамадскасці

падчас выбарчай кампаніі, “душою” якой стаў князь В.Друцкі-Любецкі. Толькі падчас абрання выбаршчыкаў ад горада на губернскі сход польскія актывісты раздалі 13 тыс. лістовак, расклеілі 6 тыс. плакатаў. Аднак сказалася колькасная перавага габрэйскіх выбаршчыкаў[61].

Слабым суцяшэннем для мясцовых палякаў стала абранне ў Дзяржаўную Раду віцэ-старшыні Гарадзенскага таварыства сельскай гаспадаркі Дзмітрыя Карыбут-Дашкевіча.

Абранцы Гародні не належалі да найбольш актыўных дэпутатаў Думы. Яны нават не паспелі належным чынам праявіць сябе. І Дзяржаўная Дума аказалася занадта бунтарскай для ўраду і была распушчаная Указам імператара Мікалая ІІ. Чыноўнікаў абавязалі зрабіць усё магчымае, каб наступныя выбары прывялі да дамінавання ў Думе праўрадавай большасці.

Нягледзячы на выразны спад рэвалюцыйнага руху ў 1906 г. у горадзе не было спакою. Актыўна дзейнічалі мясцовыя анархісты, баевікі ППС і эсэры. У траўні 1906 г. была кінутая “бомба” ў кватэру фабрыканта Харына, які абвясціў лакаўт. У жніўні была знойдзеная “бомба” ў кватэры саўладальніка пераплётнай фабрыкі “Нёманская”. А праз некалькі дзён баевікі ППС здзейснілі начны напад на будынак Акруговага суда. 1 верасня 1906 г. адбылося пакушэнне на прыстава Сачка, а праз тры дні быў застрэлены паліцэйскі Карпук. 10 верасня эсэр Волах застрэліў жандарскага падпалкоўніка Грыбаедава. Гэта было пакаранне за ўдзел апошняга ў арганізацыі Беластоцкага пагрому. Прынамсі пра гэта заявілі самі эсэры ў адмысловай лістоўцы[62].

У лютым 1907 г. у Гародні адбыліся выбары ў ІІ Думу. На рашаючы з’езд прыехала 105 выбаршчыкаў: 36 – ад землеўласнікаў, 43 – ад сялянаў, 26 – ад гарадской курыі. Сітуацыя была даволі заблытанай. Хадзілі чуткі пра папярэднюю дамоўленасць сялянскіх дэпутатаў з гарадскімі выбаршчыкамі, якія прадстаўлялі габрэйскую супольнасць губерні. Каб аслабіць уплывы габрэйскіх арганізацый і польскіх землеўласнікаў, мясцовая улада пайш-

[61] Kurjer Litewski. Nr 61 ад 16.03.1906 г.; Nr 81 ад 12.04.1906 г.

[62] Швед В. Губернскі Гродна. Аповеды з гісторыі горада (канец 18 – пачатак 20 ст.). Баранавічы, 2003. С. 130-131.

ла на прамое парушэнне закону, выкарыстоўваючы г.зв. “адміністратыўны рэсурс”. Галоўным аб’ектам апрацоўкі сталі сялянскія выбаршчыкі, якія напярэдадні заключылі пагадненне з выбаршчыкамі ад гарадской курыі.

Ужо *postfactum* “Наша Ніва” (№ 8) распавяляла пра абедню, якую праводзіў “архіерэй” (на самой справе гэта быў епіскап Гарадзенскі і Берасцейскі Міхаіл) спецыяльна для сялянскіх дэпутатаў на губернскі выбарчы сход. Ён скончыў абедню чарнасоценнай прамовай у якой *“лаяў жыдоў апошнімі словамі”* і пераконваў, што памешчыкі – гэта лепшыя сябры мужыкоў. З антысеміцкай прамовай выступіў таксама губернскі маршалак шляхты П.Невяровіч.

Пасля выхаду з царквы сяляне даведаліся, што іх асабістыя рэчы перанесены з гасцініцы ў Народны дом, куды ім прапанавалі перабрацца. Паліцыя паклапацілася аб тым, каб да самога губернскага з’езду сялянскія выбаршчыкі знаходзіліся ў поўнай ізаляцыі. Сялянаў фактычна прымусілі пайсці на пагадненне з рускімі памешчыкамі. Пазней гарадскія выбаршчыкі падалі скаргу, якую падтрымалі некаторыя сялянскія дэпутаты. Апошнія прасілі адмяніць вынікі выбараў, заяўляючы, што былі *“адурманеныя духоўнымі асобамі”*.

Прыкметную ролю ў гэтым “дурмане” адыгралі таксама праўрадавыя і чарнасоценныя арганізацыі Гародні. Напрыклад, Выбарчы аддзел Сафійскага праваслаўнага брацтва пашыраў заведама хлуслівую інфармацыю нібыта “польскія паны” хочуць вярнуць панаванне над сялянамі, імкнуцца да стварэння “шляхецкай дзяржавы” і г.д.

У выніку дэпутатамі Думы зноў сталі пераважна кансерватыўныя элементы Гарадзеншчыны. Выключэннем быў толькі прысяжны паверany Станіслаў Ячыноўскі. Ён называў сябе “беспартыйным кандыдатам”, але па сваіх поглядах належыў да групоўкі краёўцаў кансерватыўнай арыентацыі, якія імкнуліся адстойваць інтарэсы Беларуска-Літоўскага краю як ад

расійскага, так і ад польскага цэнтралізму.

Пасля разгону II Думы і прыняцця новага заканадаўства, якое значна абмежавала гарантаваныя Маніфестам 17 кастрычніка 1905 г. выбарчыя правы, выбары ў III (кастрычнік 1907 г.) і IV (кастрычнік 1912 г.) Дзяржаўныя Думы вялікай цікавасці сярод гарадзенцаў ужо не выклікалі. Характэрна, што падчас гэтых выбараў упэўнена перамагалі мясцовыя "чарнасоценцы" і вялікарускія нацыяналісты. Варта назваць імёны інспектара народных вучылішчаў Васіля Тычыніна (III Дума), віцэ-губернатара Аляксея Азнабішына і настаяцеля Сафійскага сабора пратаіерэя Якава Грышкоўскага (абодва IV Дума).

Гародню і Гарадзеншчыну ў пэўным сэнсе можна лічыць радзімай "заходнерускай ідэі". Гісторык Андрэй Ціхаміраў убачыў у гэтым пэўны парадокс[63]. На самой справе тут відавочная заканамернасць. Якраз у шматканфесійнай і шматнацыянальнай Гародні радыкальная расійшчына сустракалася з іншым светам, які для яе быў непрымальным. Менавіта тут узнікалі і пашыраліся як арганізацыі вялікарускіх чарнасоценцаў, так і прыхільнікаў "заходнерусізму".

У гісторыі апошняга даўно мінаваў той этап, калі на першым плане стаяла ідэя своеасаблівай адметнасці Беларускага краю не толькі ад Польшчы, але і ад Цэнтральнай Расіі. Для "заходнерусізму" пачатку XX ст. была характэрная жорсткая барацьба з польскасцю і пашырэнне ідэі прыналежнасці Беларускага краю да "вялікай праваслаўнай Расіі". Пры гэтым беларускі нацыянальны рух трактаваўся выключна як "польская інтрыга" антырасійскай накіраванасці.

З Гародняй быў непасрэдна звязаны лёс вядомага прапагандыста "заходнерусізму" Лук'яна Саланевіча (1866-1938) і ягонага сына Івана Саланевіча (1891-1953), аўтара "Народнай манархіі" (1952). У Гародню Л.Саланевіч прыехаў у 1899 г., а ўжо праз два гады выйшла з друку ягоная кніга *"Краткий исторический очерк Гродненской губернии за сто лет ее существова-*

[63] Ціхаміраў А. Саланевічы і Гродна // ARCHE. 2010. № 1-2.

*ния”*. Аўтар імкнуўся даказаць, што беларусы з’яўляюцца толькі часткай рускай нацыі, якая доўгі час падвяргалася апалячванню і акаталічванню, а падзелы Рэчы Паспалітай напрыканцы XVIII ст. спрыялі іх доўгачаканаму “ўз’яднанню”.

У лютым 1909 г. пры падтрымцы кіраўніка ўраду Пятра Сталыпіна, які калісьці нядоўга займаў пасаду гарадзенскага губернатара, Л.Саланевіч выдаў першы нумар газеты “Белорусская жизнь”. Аднак спроба публічнага выступлення з “заходнерускай ідэяй” у даволі радыкальнай сацыяльнай афарбоўцы аказалася няўдалай. Першы нумар газеты стаў таксама яе апошнім нумарам. У 1911 г. выданне аднавілася пад назвай “Северо-западная жизнь”. Да сакавіка 1913 г. газета выдавалася ў Гародні.

Андрэй Ціхаміраў падлічыў, што бацька і сын, Лука і Іван Саланевічы амаль 14 гадоў пражылі ў Гародні. Але для абодвух беларуская зямля была толькі тэрыторыяй руска-польскага суперніцтва, а беларускі рух разглядаўся як “польская інтрыга”. Гарадзенская адміністрацыя і значная частка мясцовай інтэлігенцыі, прадстаўнікі “вольных прафесій” цалкам падзялялі гэтую пазіцыю.

Ідэалогія “заходнерусізму” была адчувальнай таксама ў працах вядомага мясцовага даследчыка гарадзенскай даўніны Яўстаха Арлоўскага (1863-1913). Настаўнік гісторыі і геаграфіі настолькі грунтоўна падыходзіў да вывучэння мінуўшчыны, што здолеў адным з першых даказаць, што ў звестках Іпацеўскага летапісу XII ст. фігуруе менавіта горад на Нёмане, а не Гарадная на Піншчыне, як было прынята лічыць у расійскай гістарыяграфіі. У апошнім, напрыклад, былі пераканаными такія навуковыя аўтарытэты як Мікалай Карамзін і Сяргей Салаўёў. Галоўнай працай Я.Арлоўскага стала кніга “Гродненская старина. Часть 1. Город Гродно” (1910). Аўтар паспрабаваў ахапіць амаль усе сферы жыцця, распавядаючы гісторыю горада ад дагістарычных часоў да пачатку XX ст. У кнізе адчувальнае аўтарскае захапленне гісторыяй Гародні. Канцэптуальна яна не адрознівалася ад

ранейшых працаў, напрыклад, кнігі згаданага Л.Саланевіча, але прыведзеная багатая гістарычная фактура дазваляла ўважліваму чытачу рабіць самастойныя высновы. І некаторыя іх зрабілі...

Гаворка ў першую чаргу пра вучня Я.Арлоўскага вядомага гарадзенскага гісторыка і археолага, заснавальніка Гістарычнага музея Юзафа Ядкоўскага (1890-1950). Ягоныя працы належалі ўжо да іншай гістарыяграфічнай эпохі. Галоўная кніга Ю.Ядкоўскага "Grodno" (Вільня, 1923) канцэптуальна прадстаўляла сабою альтэрнатыўную "заходнерусізму" польскую версію мінулага Гародні. Вядома, што Ю.Ядкоўскі яшчэ ў гімназічны перыяд жыцця быў сябрам гуртка ППС, наведваў курсы польскай гісторыі і літаратуры ў доме Э.Ажэшкі. Аднак ягонае "тутэйшае" паходжанне і імкненне да аб'ектывізму ў даследаваннях выводзілі яго за рамкі ідэалогіі "ўсходніх крэсаў" і рабілі пэўным "мяцежнікам" у польскай гістарыяграфіі.

У апошняе 50-годдзе Расійскай імперыі быў відавочным вялікі патэнцыял мяцежнасці Гародні, імкненне часткі яе жыхароў да свабоды як неабходнай умовы годнага чалавечага жыцця. Але відавочнае таксама іншае, а менавіта падзеленасць гарадзенцаў.

Гародня, як горад на заходняй мяжы Расійскай (пазней Савецкай) імперыі заўсёды была перанасычаная найбольш вернымі яе служкамі, гатовымі без усялякіх сумненняў выконваць усе загады цэнтру, нават калі яны шкодзілі развіццю горада. Адміністрацыйны корпус горада адрозніваўся выразнай варожасцю да дэмакратычных каштоўнасцяў і свабоды нацыянальнага жыцця, а значная частка культурніцкай эліты аказалася няздольнай пераадолець духоўны сервілізм і толькі абслугоўвала адміністрацыю.

## ГАСПАДАРЧЫ І КУЛЬТУРНІЦКІ РЭВАНШ

Сваё права *“людзьмі звацца”* гарадзенцы адстойвалі не толькі са зброяй у руках або падчас рэвалюцыйных стачак і дэманстрацый. Паражэнні ва ўзброеным змаганні супраць дэспатызму і палітыкі нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту прымушалі шукаць іншыя шляхі да годнага жыцця. У другой палове XIX ст. такімі шляхамі сталі развіццё гаспадаркі і нацыянальна-культурніцкая дзейнасць. Ужо прыклад бацькі “дыктатара Літвы” Сымона Каліноўскага, які быў уладальнікам невялікай ткацкай фабрыкі, сведчыць пра тое, што гэтая альтэрнатыва была добрая вядомая на Гарадзеншчыне.

Моцным штуршком да паскарэння эканамічнага развіцця Гародні і ўсяго рэгіёну сталася развіццё шляхоў зносінаў і сувязі. У 1862 г. па паўночна-заходняй частцы губерні была пракладзена першая ў Беларусі чыгунка Гародня – Парэчча. Гэтыя першыя 50 вёрстаў былі часткай чыгункі, якая злучала Гародню з Пецярбургам і Варшавай. У горадзе была збудаваная чыгуначная станцыя. У 1886 г. чыгунка звязала горад з Баранавічамі і Беластокам, а пазней былі пабудаваныя лініі Гародня – Ваўкавыск і Гародня – Сувалкі.

Чыгунка стала моцным канкурэнтам Гарадзенскай прыстані, якая, аднак, яшчэ доўга адыгрывала значную ролю ў міжрэгіянальным і ўнутраным гандлі. Таксама працягвалася будаўніцтва паштовых шляхоў. У другой палове XIX ст. гарадзенскія купцы трымалі крамы ў Маскве, Пецярбургу, Варшаве, Кіеве, Вільні і Адэсе, гандлявалі з Царствам Польскім, Аўстра-Венгрыяй і Прусіяй, вывозілі свае тавары ў партовыя гарады Рыгу і Лібаву. Праўда, важнай галінай эканомікі і фінансаў горада “заходні накірунак” гандлю так і не стаў.

У Гародні з’яўляліся банкі, крэдытныя ды іншыя фінансавыя ўстановы. Гарадзенскае аддзяленне Дзяржаўнага банка адкрылася ў 1883 г. Праз два гады пачаў дзейнічаць Сялянскі пазямель-

ны банк, пазней – аддзяленне Рускага гандлёва-прамысловага камерцыйнага банка, таварыствы ўзаемнага крэдыту ды інш. Капіталы накіроўваліся пераважна ў гандаль і прамысловасць па перапрацоўцы лесу і льну.

У 1861 г. у Гародні з'явіўся тэлеграф, а ў 1885 г. была створаная Гарадзенская паштова-тэлеграфная акруга. Тэлефонная станцыя адчынілася толькі ў 1907 г. і спачатку забяспечвала сувяззю адно дзяржаўныя ўстановы.

Буйнейшым прадпрыемствам горада была тытунёвая фабрыка, якая належала купцам Шарашэўскім. Гісторыя фабрыкі пачалася ў ліпені 1861 г., калі Гарадзенскае губернскае праўленне дазволіла адкрыць невялікую майстэрню па перапрацоўцы тытуню ў махорку купцу Абраму Гордану і мешчаніну Лейбе Шарашэўскаму. Як падлічыў гісторык Андрэй Вашкевіч, у 80-я гг. XIX ст. майстэрня пературылася ў буйную фабрыку, дзе працавала каля 800 рабочых, штогод выраблялася да 30 тыс. пудоў тытуню і каля 150 тыс. цыгарэтаў. Гэтым пераменам паспрыялі прадпрымальніцкія здольнасці Ёселя Шарашэўскага. Менавіта ён адным з першых у Беларусі пачаў выпуск цыгарэтаў. Прадукцыя фабрыкі неаднаразова атрымлівала срэбныя медалі на міжнародных выставах у Маскве (1882), Амстэрдаме (1884), Новым Арлеане (1885), Парыжы (1889).

У 1900 г. на фабрыцы працавала ўжо каля 1,5 тыс. рабочых. У 1907 г. яна стала акцыянерным прадпрыемствам, а кошт яе гадавой прадукцыі перавысіў 4 млн. руб. Пры гэтым прадукцыя ўсіх іншых прадпрыемстваў горада не перавышала 300 тыс. руб. Шарашэўскія сталі адной з багацейшых прадпрымальніцкіх дынастый у імперыі.

З іншых прадпрыемстваў варта назваць бровар Юзафа Кунца ў былым палацы Агінскіх і Сапегаў на беразе Нёмана, заснаваны ў 1877 г. Напярэдадні Першай сусветнай вайны ён належаў Браніславу Краткоўскаму і выпрабляў каля 315 тыс. вёдзер піва штогод (каля 6 млн. бутэлек). Гарадзенскае піва прадавалася па ўсёй Расійскай імперыі.

Гародню таксама ведалі дзякуючы ўнікальнай алоўкавай фабрыцы, адной з чатырох у імперыі. Яна была заснаваная ў 1878 г. сынам купца Майсеем Эльяшавым. Вытворчасць алоўкаў патрабавала прафесійных ведаў і спецыяльнага абсталявання дзеля драблення, абпальвання і наваскоўвання графіту. Па падліках А.Вашкевіча, у сярэдзіне 80-х гг. на фабрыцы працавала каля 50 рабочых, якія штогод выпускалі 11 тыс. гросаў (1 грос = 144 алоўка) высокаякаснай прадукцыі.

Моцны ўдар па развіццю гарадской гаспадаркі і дабрабыту гараджанаў нанёс пажар 1885 г. Раніцай 29 мая загарэўся дом на Малай Траецкай вуліцы. Сухое надвор'е і моцны вецер паспрыялі хуткаму распаўюджванню полымя. За кароткі час яно ахапіла ўсю цэнтральную частку горада. Гародня сталася сапраўдным пеклам. Відавочцы сцвярджалі, што нават каменныя гмахі складваліся як картачныя домікі.

Пажарныя, якія па распараджэнню Гарадской управы займаліся рознымі працамі на вуліцах горада і нават за яго межамі, спазніліся з рэагаваннем і не здолелі супрацьстаяць стыхіі. Тым больш, што запасаў вады хапіла толькі на адну гадзіну працы. Гарадзенскае таварыства водазабеспячэння і гарадскі водаправод (1876 г.) падчас пажара аказаліся бездапаможнымі. Ваду давялося браць з Нёмана і бочкамі развозіць па горадзе. На дапамогу прыехала пажарная каманда з Беластоку, якая разам з гарадзенскімі пажарнымі тушыла ачагі полымя і на наступны дзень[64].

Пажар атрымалася спыніць толькі а 4-й гадзіне ночы. Горад быў знішчаны. Згарэлі большасць будынкаў на тэрыторыі ад р.Гараднічанкі да чыгуначнага палатна, ад Саборнай плошчы да Гарадніцы. Ацалелі збольшага толькі Фарны (паезуіцкі) і Брыгіцкі касцёлы, мужчынская і галоўны корпус жаночай гімназіі. Ад пажару пацярпела больш 3 тыс. чал., а маёмасныя страты склалі каля 3 млн. руб. Значная частка знішчанай маёмасці не была застрахаваная. Многія гарадзенцы за некалькі гадзінаў ператварыліся ў жабракоў.

[64] Супрон М. Арганізацыя прафесійнай пажарнай службы ў Горадні ў XIX - пачатку XX ст. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Мінск, 2012. С. 324.

Пагарэльцаў пачалі размяшчаць у пустых вайсковых казармах, бо салдаты знаходзіліся ў летніх лагерах, у мужчынскай гімназіі, у калідорах кляштараў і касцёлаў, у канторах і прыватных кватэрах. Не хапала харчавання, і людзі атрымлівалі толькі два фунты хлеба ў суткі. Становішча ўскладнялася яшчэ і тым, што невялікія пажары ў Гародні і наваколлях працягваліся некалькі тыдняў. Гарадзенцы мелі шмат прэтэнзіяў да гарадскіх уладаў, якія не праявілі неабходнай аператыўнасці ні ў тушэнні пажару, ні ў арганізацыі эфектыўнай дапамогі пагарэльцам.

Затое актыўна дзейнічала гарадзенская грамадскасць. Пісьменніца Эліза Ажэшка стала "душой" г.зв. "дамскага камітэту дапамогі". Якраз яна ў чэрвені 1885 г. даслала ліст у рэдакцыю пецярбургскай газеты "Край" ("Kraj", рэд. Эразм Пільц), імкнучыся арганізаваць максімальна шырокую дапамогу гарадзенцам.

Вось фрагмент ліста: *"Некалькі дзён таму мой родны горад стаўся здабычаю полымя. Не была гэта такая вогненная бяда, якая нярэдка наведвае людскія пасяленні і пасля нанясення пэўных шкод хутка [...] пройдзе. Была гэта адна з тых катастрофаў, якая ў некалькі гадзін шматтысячную грамаду пазбавіла жылля і хлеба, маёмасці і спакою [...] адбіраючы ў іх нават надзею на лепшую будучыню. [...] Пагроза і небяспека атачаюць нас паўсюдна; калі шырокі свет не прыйдзе нам з дапамогаю, горад з руінаў сваіх не ўстане, жыхары яго ператворацца ў адну з жабрацкіх групаў"*[65]. Ад імя роднага горада пісьменніца заклікала дапамагчы пацярпелым.

Цэнзура не дазволіла друкаваць гэты ліст, але намаганні Э.Ажэшкі ды іншых прадстаўнікоў грамадскасці не былі марнымі. Дапамога ў горад ўсё ж прыйшла, і ў гэтым вялікая заслуга менавіта гарадзенскіх жанчын. Карэспандэнты "Краю" шмат пісалі пра самаахвярную дзейнасць згаданага "дамскага камітэту", які ўзначальвала жонка гарадзенскага губернатара Пацёмкіна, а віцэ-старшынёю была Э.Ажэшка. На пачатку чэрвеня гэты камітэт звярнуўся да "ўсіх грамадзянак" Віленскага ге-

[65] Цыт. па: Швед В. Губернскі Гродна. С. 90, 94.

нерал-губернатарства: *“Мы, жанчыны, звяртаемся да жанчын. Уласцівае вам пачуццё міласэрнасці няхай адкрые вашыя сэрцы, каб прыняць мукі галодных, хворых, апранутых у абпаленае аддзенне. Няхай вашая міласэрнасць будзе такой гарачай, наколькі вялікай з’яўляецца нашая бяда. Наш старажытны горад ляжыць у руінах. Дапамажыце выжыць яго жыхарам!”*[66]

Адбудова горада завяршылася толькі ў апошняй дэкадзе XIX ст. Пры гэтым горад прыкметна павялічыў сваю тэрыторыю. У 1897 г. у Гародні пражывала каля 47 тыс. чал., прычым мужчыны складалі больш за 57%. Гэты дэмаграфічны перакос тлумачыцца знаходжаннем у Гародні вялікага вайсковага гарнізону (амаль 9,5 тыс. салдат і афіцэраў). Відаць, расійскія ўлады ніяк не маглі забыць Каліноўскага і яго гарадзенскіх прыхільнікаў...

Вынікі спісу 1897 г. дазволілі гісторыкам Адаму Дабраньскаму[67] і Іне Соркінай[68] скласці даволі поўную дэмаграфічную карціну Гародні на рубяжы стагоддзяў.

Паводле саслоўнай прыналежнасці ў горадзе дамінавалі “мяшчане”, якія складалі 58,9%, потым ішлі сяляне – 29,0% (тут варта ізноў прыгадаць вайскоўцаў!), патомная і асабістая шляхта – 9,3%, духавенства хрысціянскіх веравызнанняў – 0,3%.

Пытанне пра нацыяльнасць у спісе адсутнічала. Арганізатары перапісу выдатна разумелі яго складанасць для большасці жыхароў імперыі. Эпоха нацыяналізму толькі распачыналася на яе абшарах. У сваіх разважаннях наконт нацыянальнага складу насельніцтва даследчыкі, звычайна, карыстаюцца дадзенымі па роднай мове і веравызнанню. Усяго жыхары Гародні назвалі 27 моваў, але найбольш пашыранымі аказаліся габрэйская (47,7%), руская (22,4%), польская (14,5%) і беларуская (11,6%). Апошні паказчык асабліва цікавы з улікам таго, што расійскія ўлады, большасць праваслаўнага і каталіцкага духавенства, а таксама значная частка мясцовай інтэлігенцыі не жадалі прызнаваць беларускую мову як самастойную. Без уліку вайскоўцаў колькасць тых, што прызналі роднай мовай габрэйскую павялічвалася да

[66] Kraj. 1885, Nr 25 (карэспандэнцыя Максімільяна Абрэмбскага )

[67] Dobroński A. Mieszkańcy Grodna w 1897 roku // Grodno w XVIII wieku. Miasto i ludność (na tle trądów rozwojowych od średniowiecza do 1939 roku). Pod red. A.Woltanowskiego i J.Urwanowicza. Białystok, 1997. S. 174-188.

[68] Соркіна І. Насельніцтва Гародні паводле апублікаваных матэрыялаў Першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расійскай імперыі 1897 г. // Гарадзенскі палімпсест. XII-XX стст. Гародня-Беласток, 2008. С. 112-135.

63%, польскую – да 16-18%. Паказчыкі па рускай і беларускай мовах змяншаліся адпаведна да 10-12% і 5-7%.

Атрымлівалася, што з улікам войска кожны другі гарадзенец быў габрэем, а кожны пяты належаў ці імкнуўся належыць да прывіліяванай супольнасці “вялікарусаў”. Колькаснае дамінаванне габрэяў пацвярджаюць таксама дадзеныя па канфесійнаму складу. З улікам войска, іудзеі складалі больш 48,3% насельніцтва, праваслаўныя – больш 30%, а каталікі – каля 18,5%. Без войска другі паказчык змяншаўся да 18,5%, а трэці ўзрастаў да 20,4%. Супастаўляючы гэтыя лічбы з дадзенымі па роднай мове сярод асобных канфесійных групаў, А.Даброньскі выказаў меркаванне, што колькасць палякаў у Гародні ў 1897 г. складала 16-18%, а беларусаў – 5-7%. Прычым у абодвух выпадках значная частка гарадзенцаў мела вялікія праблемы з вызначэннем уласнай нацыянальнасці.

Дадзенымі па ўзроўню пісьменнасці сярод гарадзенцаў трэба карыстацца вельмі асцярожна, бо галоўным крытэрыем пісьменнасці было уменне чытаць па-руску. Перапіс выявіў 53,9% пісьменных гарадзенцаў (60,7% сярод мужчынаў і 44,8% сярод жанчынаў). Пры гэтым, паводле А.Даброньскага, сярод тых, хто меў адукацыю, якая выходзіла за межы пачатковай школы, было шмат мужчынаў з польскамоўнай групы і жанчынаў з беларускай. Сітуацыя з габрэямі па гэтаму паказчыку выглядала катастрафічнай.

235 гараджанаў мелі дыпломы аб вышэйшай адукацыі або вучыліся ў універсітэтах. Прычым жанчынаў сярод іх было толькі 20. Трохі болей за 2,9 тыс. чал. закончылі або вучыліся ў сярэдніх навучальных установах. Параўнанне ўзроўню адукацыі сярод розных узроставых катэгорыяў польскамоўнай групы дазволіла А.Даброньскаму зафіксаваць рост колькасці адукаваных сярод папуляцыі 10-19 гадоў (24%). Для параўнання сярод дваццацігадовых ён складаў 9%, а сярод трыццацігадовых – толькі 7,5%. Затое сярод саракагадовых гэты паказчык даходзіў

да 20,7%, сярод пяцідзесяцігадовых – складаў 20,2%, а сярод шасцідзесяцігадовых – 20%. Гэтыя падлікі сведчаць як пра абмежаваныя адукацыйныя мажлівасці палякаў пасля разгрому паўстання 1863 г., так і пра тое, што напрыканцы XIX ст. палітычная сітуацыя істотна змянілася.

Цікавасць выклікае сацыяльна-прафесійны склад насельніцтва Гародні. На пачатку 1897 г. г.зв. "занятасць насельніцтва" сярод карэнных жыхароў складала 42,3% (57,3% мужчынаў і 29,3% жанчынаў), а з улікам войска павялічвалася да 54%. Нізкая доля жанчынаў абумоўленая іх загружанасцю сямейнымі ды хатнімі справамі. Сярод цывільнага насельніцтва дамінавалі людзі, занятыя ў прамысловасці і рамястве (34,4%), потым ішлі гандлёва-фінансавая сфера і паслугі (11,5%), адміністрацыя і г.зв. "свабодныя прафесіі" (10,5%), камунікацыя і сувязь (4,2%) і нават сельская гаспадарка (1,8%). Краўцамі і краўчыхамі працавала 1675 чал., за імі шлі рабочыя тытунёвай прамысловасці, будаўнікі, столяры, рабочыя харчовай прамысловасці, транспорту і пошты і г.д. У сферы гандлю пераважалі ўладальнікі дробных крамаў і купцы. У адміністрацыі судзе і паліцыі было занята 733 чал., а ў сферы адукацыі і выхавання – 349 чал. Духавенства хрысціянскага веравызнання налічвала 110 чал., а іудаізму – 46.

Такім чынам, Гародня заставалася шматнацыянальным і шматканфесійным цэнтрам. Палітыка уніфікацыі і русіфікацыі не здолела пераламіць даўнія традыцыі гарадскога жыцця.

Увосень 1913 г. "Наша Ніва" (№ 46) са спасылкай на дадзеныя Гарадзенскага адраснага стала паведаміла, што ў горадзе пражывае 59 340 чал., з іх іудзеяў – 35 213, каталікоў – 13 626, праваслаўных – 9 444, пратэстантаў – 510, мусульман – 547.

Адначасна, Гародня, нягледзячы на відавочныя зрухі ў эканоміцы і гандлю, па-ранейшаму заставалася горадам з невялікім эканамічным патэнцыялам і сціплай інфраструктурай. Горад не выкарыстоўваў усе магчымасці чыгуначнага транспар-

ту і тыя шансы, якія давала яму суседства з Царства Польскім. Не хапала капіталаў. Падобна, што галоўныя задачы мясцовых уладаў знаходзіліся ў палітычнай сферы. Магчыма, менавіта гэта было прычынай упартага нежадання супрацоўнічаць з грамадствам, асабліва з той часткай, якая не належала да супольнасці “вялікарусаў”.

Адпаведна, вельмі марудна адбываліся змены ў штодзённым жыцці гарадзенцаў. Цікавыя замалёўкі гэтай штодзённасці ў 1909 – 1910 гг. з’явіліся на старонках беларускай “Нашай Нівы”. Іх аўтарам быў гімназіст і сябра Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі Павал Аляксюк.

Да найбольш характэрных сюжэтаў належалі праблемы медыцыны і гігіены, асвятленне вуліц, крымінальныя здарэнні, гаспадарка і адукацыя. Вось некаторыя фрагменты гарадзенскай штодзённасці вачыма П.Алексюка:

Кастрычнік 1909 г.: *У горадзе халера, якой доўга не было. За тры тыдні памерла 30 чалавек... Зараз наводзіцца чысціня, але больш для вачэй. Калі гаспадар не хоча прыбіраць бруд, то ўсё так і застаецца. Калі паліцыя не будзе глядзець за чысцінёй, то халера будзе множыцца.*

Лістапад 1909 г.: *Горад наш губернскі, а парадкі не губернскія. На адной вуліцы шмат ліхтароў, а на іншых няма. Па некаторых завулках боязна хадзіць уначы, а яшчэ і злодзеі цягаюцца. Трэба ставіць ліхтары на пустых вуліцах; Цяпер набіраюць навабранцаў у войска. На вуліцы лепш не выходзіць: “Сядзі дома і не вытыкай носа”.*

Люты 1910 г.: *У нашым горадзе ёсць такія падворкі, што як залезеш туды, то і ног з балота не выцягнеш: хоць па “скорую помач” пасылай. Ёсць і іншыя парадкі: на Саборнай, напрыклад, столькі таўчэцца народу, не маючы, відаць, нічога лепшага для работы, што калі патрэба здарыцца прайсьці, то і людзям і сабе паадбіваеш бакі.* (Інфармацыю папярэджваў загаловак: У нашым Гродне усё модне).

Сакавік 1910 г.: *Сярод бела дня вывозяць гарадскія бруды, ад якіх "аж насы рве". Калі-ж гэткім парадкам прыйдзе канец?*

Красавік 1910 г.: *У горадзе бруд, смурод; вечарамі такая цемь, што і прайсьці трудна. Тратуары паламаныя. Паліцыя, праўда, пішэ часам пратаколы; але з гэтым бывае ўсяляк...; Фабрык у Гародні мала. Адна вялікая – тытунёвая І.Шэрашэўскага. Нядаўна ён звольніў 100 непатрэбных работнікаў, выплаціўшы ім 2 тыс. руб. Тыя за гэтыя грошы заснавалі ручную фабрыку тытуню. Тавар пайшоў добра. Шэрашэўскі нават знізіў цэны; Тутэйшы гандаль апроч некалькіх багацейшых і 2-3 гуртовых крамаў у руках габрэяў; Педагагічнае таварыства часта праводзіць публічныя лекцыі. Плата невялікая, а карысць вялізарная. Найбольш прыходзіць жыдоў, а наш брат "усё ззаду на хвасьце"; Да леташняга году горад быў падзелены Нёманам на дзве часткі. Багацейшыя трымаліся аднаго берагу, а бедакі, шукаючы таннае жыллё, перабіраліся на другі бераг. Летась збудавалі мост, і цэны выраўняліся: "І тут, і там дзяруць добра!" Пайшлі скаргі на домаўладальнікаў. Гарадская дума прызначыла камісію, каб спыніць рост цэнаў.*

Травень 1910 г.: *Гарадзенская санітарная камісія баіцца вяртання халеры. Шмат гамоняць з гэтай нагоды, а тым часам на прыватных падворках такія бруды, што бадай і сама халера пасароміцца ўткнуць туды свой нос...; Гарадзенскія каталіцкія прытулкі для сірот бядуюць, што нашы дактары апрача аднаго Д-скага ня хочуць дарма лячыць. Захварэў Д. і ніхто не згадзіўся памагчы бедным. Сорам!; Непарадак у Гарадзенскай публічнай бібліятэцы: кнігі выдаюцца неакуратна, а многія згінулі.*

Чэрвень 1910 г.: *Гарадзенская санітарная камісія рыхтуецца бараніць горад ад халеры... Трэба было б каб першнаперш санітарная камісія звярнула ўвагу на тые скрынкі, куды выліваюцца памыі і ўсялякія бруды; скрынкі гэтыя бываюць часта густа пад самымі вокнамі кватэр бедных жыцелёў.*

Праблема здароўя гарадзенцаў хвалявала не толькі П.Алексюка. Карэспандэнт *Nemo* "Нашай Нівы" ў артыкуле "До-

ктарская помач у Гарадзенскай губ.” (1910, № 52) адзначаў, што паводле забеспячэння медыцынскай дапамогай горад знаходзіцца на 56 месцы ў Расійскай імперыі (з 89 губ.): *“Хваробы пануюць тутака страшэнныя, дый то найбольш тыя, аб каторых за граніцай мала чутно і каторые родзіць недаеданьне, дрэнны харч, гразь, вільгаць, наагул некультурнасць і беднасць”*. Па “брушному тыфу” – у 1904-1905 гг. Гародня аказалася на трэцім месцы ў Расіі, па пнеўманіі – на чацвёртым (1904), па сыпному тыфу – на пятым, па тэмпах змяншэння насельніцтва – на сёмым месцы.

Актуальнай праблемай гарадзенскага жыцця было п’янства, якое неаднаразова згадвалася ў крымінальнай хроніцы. У прыватнасці, у сакавіку 1910 г. п’яны салдат удзень у цэнтры горада смяротна параніў нажом палкоўніка Нікіціна. Кур’ёзна выглядала паведамленне пра ўвядзенне Гарадской управай новых правіл для лодачнікаў-перавозчыкаў у 1910 г., бо правілам № 1 было патрабаванне цвярозасці.

Карэспандэнты “Нашай Нівы” таксама звярнулі ўвагу на дзейнасць Хаўрусу рабочых Гародні, які ўзнік увесну 1910 г. Рабочыя сабралі пэўны капітал, *“пааткрывалі пасьля свае крамы, пекарні; маюць цяпер ужо свайго доктара, сваю аптэку, кнігарню і іншыя карысныя рэчы; даюць падмогу грашмі беднейшым таварышам і гэтакім парадкам шмат дабра і карысьці робяць для сваіх братоў-працоўнікоў”*. Летам 1910 г. Таварыства планавала адчыніць некалькі крамаў, але сустрэла супраціў габрэяў, якія пагражалі збіць цэны. Рабочыя адказалі байкотам габрэйскіх гуртовых крамаў.

Нашаніўскі карэспандэнт, які схаваўся пад псеўданімам *Сухаволец*, распавёў пра перамены гарадзенскага жыцця, у вялікай ступені абумоўленыя рашэннем цэнтральных уладаў пра ператварэнне горада ў буйны вайсковы цэнтр і пра будаўніцтва ў ім ваеннай крэпасці. Яе павінны былі закончыць увосень 1914 г. Гэтае рашэнне паспрыяла развіццю мясцовай прамысловасці і гандлю. Сухаволец пісаў пра тое, што ў горадзе паболела

жыхароў, што вока радуюць *“пекныя магазыны, сьвеціцца электрычэства, недахват толькі трамваёў”*. Аднак незадавальненне гарадзенцаў выклікала з’яўленне шматлікіх рабочых з Расіі (*“кацапаў”*), якія працавалі на будаўніцтве крэпасці і жылі пераважна ў Занёманскім фарштаце. Тут запанавала расійская гутарка і пэўныя звычаі. Так, у нядзелю і на святы вуліцы занёманскай часткі горада былі напоўненыя рабочымі, якія весяліліся, гулялі і прапівалі зробленае за тыдзень. Нормай жыцця сталі сваркі і бойкі каля вінных лавак.

Рост ваеннага значэння Гародні абярнуўся з’яўленнем плану пераносу губернскага цэнтра ў павятовы горад. Хадзілі чуткі, што праз год усе губернскія ўстановы будуць пераведзеныя або ў Беласток, або ў Слонім.

Тым не менш у першыя дзесяцігоддзі ХХ ст. у горадзе адбыліся і пазітыўныя змены ў штодзённым жыцці. Вялікую ролю ў гэтым адыграла развіццё тэхнікі і культуры. Так, у канцы 1912 г. была збудаваная першая электрастанцыя, якая забяспечвала электраэнергіяй цэнтр горада. Не адразу гарадзенцы ацанілі ўсе выгоды новага тыпу энергіі. Спачатку толькі 116 чалавек “падпісаліся” на электрычнасць.

Напрыканцы ХІХ ст. у самым высокім месцы горада былі збудаваныя дзве воданапорныя вежы – “Кася” і “Бася”. Аднак вада для піцця і гатавання ежы па-ранейшаму бралася ці з уласных студняў, ці з Нёмана. Пры гэтым перад Першай сусветнай вайной штодзённае спажыванне вады “звычайнай” гарадзенскай сям’ёй складала прыблізна 30-40 л. Пакончыць з гэтай антысанітарнай практыкай першымі паспрабавалі нямецкія акупацыйныя ўлады ў 1916 г., калі пачалі выкарыстоўваць падземныя воды.

Важнай падзеяй гарадскога жыцця стала з’яўленне ў горадзе кінематографа. У 1908 г. ён пачаў дзейнічаць у г.зв. доме Чартка на вул. Саборнай. Уладальнік Якаў Крывашэін назваў яго “Электра-Біёграф”. Праз некаторы час з дазволу губерната-

ра мяшчанін Раман *Завістоўскі* перабудаваў уласны дом пад кінематограф "Люкс".

Даследчыца Таццяна Касатая лічыць першым у горадзе стацыянарным кінатэатрам "Кінематограф", які быў пабудаваны па ініцыятыве адстаўнога штабс-капітана Сяргея Манастырскага на вул. Паштовай. Прашэнне на будаўніцтва было накіравана ў Гарадзенскае губернскае праўленне напачатку траўня 1914 г., адкрыццё адбылося ўжо падчас вайны ў жніўні 1915 г.

Па звесткам гарадской управы на пачатку 1913 г. у Гародні налічвалася каля 20 аўтамабіляў (большасць належала Упраўленню будаўніцтвам крэпасці) і два матацыклы. Адным з прыватных уладальнікаў быў добра вядомы гарадзенцам лекар і грамадскі дзеяч Аляксандр Тальгейм. Улетку 1913 г. усе аўтамабілі прайшлі тэхнічны агляд, а неўзабаве "шафёр-механік" Б.Гародка атрымаў першы ў горадзе патэнт на *"права пастаноўкі таксаматора"*[69].

Адбываліся істотныя перамены ў развіцці друку. На пачатку XX ст. да існуючых "Гарадзенскіх губернскіх ведамасцей" (з 1838 г.) дадаліся "Гарадзенскія епархіяльныя ведамасці" (1901-1915). Іх гісторыя пачалася ўказам Свяцейшага Сіноду, а галоўнымі задачамі з'яўлялася інфармаванне пра гісторыю і сучасны стан праваслаўя ў "Паўночна-Заходнім краі", а таксама дапамога праваслаўнаму духавенству ў змаганні з іншымі веравызнаннямі. Першым рэдактарам быў Мікалай Дзікоўскі. Падчас рэвалюцыі 1905 – 1907 гг. і пасля яе да гэтых афіцыйных выданняў далучыўся цэлы шэраг прыватных газетаў ("Голос Гродны", 1906; "Гродненская копейка", 1912; "Северо-Западная жизнь", 1912-1913 ды інш.).

У чэрвені 1912 г. многія гарадзенцы набылі першы нумар газеты "Наше Утро" (выдаўца І.Мейлаховіч, рэдактар В.Гееўскі). Гэта была газета ліберальнага накірунку, якая змагалася супраць вялікарускіх чарнасоценцаў, абараняла правы тых, каго гарадзенскія чыноўнікі зняважліа называлі "инород-

[69] Черепица В. ...Не потерять связующую нить. История Гродненщины XIX - XX столетий в событиях и лицах. Гродно, 2003. С. 182-183

цамі". У 1912 г. у адным з нумароў газеты быў апублікаваны артыкул рэдактара "Нашай Нівы" Аляксандра Уласава "Край с пятью национальностями", у якім адстойвалася права на свабоднае нацыянальна-культурнае развіццё кожнага народу Беларуска-Літоўскага краю.

Як ужо адзначалася, на пачатку XX ст. у палітычным і культурным жыцці Гародні усё большую ролю адыгрывалі нацыянальныя працэсы, якія раней былі толькі адным з элементаў сацыяльных адносінаў. Агульнаеўрапейскія тэндэнцыі станавіліся ўсё больш відавочнымі. Імперская палітыка з характэрным для яе імкненнем да уніфікацыі і ўмацавання пазіцый "вялікарускага племені" пачала сустракаць усё больш адчувальны нацыянальны супраціў.

Вытокі наступіўшай "эпохі нацыяналізмаў" былі прысутныя ўжо ў XIX ст. І гэта, нягледзячы на ўзмоцненую русіфікацыю Беларуска-Літоўскага краю, звязаную з постаццю віленскага генерал-губернатара М.Мураўёва і ягоных пераемнікаў, якая стрымлівала культурнае развіццё Гародні. Варта нагадаць, што пасля разгрому паўстання 1863 г. нават забаранялася публічна размаўляць па-польску. На вуліцах Гародні можна было ўбачыць папярэджанні: *"Говорить по-польски запрещается".* Быў дазволены друк толькі на рускай мове, якая дамінавала ў галіне адукацыі, а ксёндз-канонік Фердынанд Сенчыкоўскі ў 70-я гг. XIX ст. пры актыўнай падтрымцы чыноўнага апарата спрабаваў яе ўвесці ў каталіцкае набажэнства.

Тагачасную дзяржаўную палітыку ў горадабудаўніцтве мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі акрэсліў тэрмінам "урбіцыд" (забойства горада). Гаворка ідзе пра палітыку вынішчэння "тутэйшага" ўрбаністычнага асяроддзя як апірышча культурнай і ментальнай адметнасці карэнных гарадзенцаў. Разам з мясцовымі традыцыямі горадабудаўніцтва ўлады імкнуліся сцерці ўсе праявы еўрапейскасці. Актыўна рэалізоўваліся праекты пабудоваў і перабудоваў, якія павінны былі даказваць спрад-




# ПЛАНЪ ГОРОДА ГРОДНО.

Составленъ въ Губернской Чертежной въ 1880 году.

КАЗЕННЫЯ И ОБЩЕСТВЕННЫЯ ЗДАНІЯ.

1) Губернаторскій д. и Губернское Правленіе.
2) Театръ.
3)–8) Казенныя зданія.
9) Архіерейскій домъ.
10) Софійскій соборъ.
11) Церковь во имя Александра Невскаго.
12) Борисо-Глѣбскій монастырь.
13) Женскій монастырь.
14) Мѣсто б. православной церкви на Коложѣ.
15) [illegible]
16) Бернардинскій костелъ.
17) Бригитскій костелъ.
18) Фарный костелъ.
19) Францисканскій костелъ.
20) Упраздненный Кармелитскій костелъ.
21) Лютеранская кирха.
22) Мужская гимназія.
23) Маріинская женская гимназія.
24) Домъ Благотворительнаго Общества.
25) Окружная лечебница.
26) Тюремный замокъ.
27) Гостинный дворъ.
28) [illegible]
29) Домъ умалишенныхъ.
30) Лѣтній военный госпиталь.
31) Зимній военный госпиталь.
32) Пожарная команда.
33) Замокъ.
34) Казармы.
35) [illegible]
36)–37) Пороховые погреба.
38) Фурштатскій дворъ.
39) Провіантскій магазинъ.
40) Вокзалъ С. Петерб.-Варшавской ж. д.
41) Зданіе водопровода.
42)–47) Еврейскія школы.
48) Синагога.
49) Еврейская лечебница.
50) Еврейскій пріютъ.

***Гародня ў 1880 г. План***

вечную "рускасць" Гарадзеншчыны. Віленскі генерал-губернатар К.Каўфман, наведаўшы Гародню, заявіў: *"Тут будет Тамбов!"* У русіфікацыі старажытнага горада, як і ўсіх беларускіх земляў, асаблівая роля адводзілася менавіта царкоўнаму будаўніцтву.

Рашаючая ролю павінна было адыграць губернскае *"Церковно-строительное присуствие"*, створанае ў 1867 г. у адпаведнасці з Палажэннем Камітэту міністраў *"О порядке устройства православных церквей в девяти губерниях Западного края"*. Новая ўстанова займалася фінансаваннем царкоўна-будаўнічых працаў, пабудовай праваслаўных храмаў і перабудовай каталіцкіх касцёлаў і уніяцкіх цэркваў у праваслаўныя. Пасаду старшыні займаў гарадзенскі губернатар.

Ужо ў 1864 г. пачалося будаўніцтва новай праваслаўнай царквы пры былым уніяцкім кляштары Раства Багародзіцы, у 1865 – 1867 гг. ішла перабудова былога Дамініканскага (у той час ужо Гімназічнага) касцёла ў праваслаўную царкву, адбывалася рэканструкцыя Марфінскай царквы на праваслаўных могілках, у 1866 г. распачалося будаўніцва Аляксандра-Неўскай царквы на Гарадніцы. Адносна апошняй некаторыя даследчыкі гавораць пра імкненне дойліда ўлічыць еўрапейскія традыцыі мясцовага будаўніцтва. Стыль царквы часам вызначаецца як "маскоўскае барока". Аднак падобны падыход быў выключэннем. Дамінавала жаданне ўсё перарабіць у г.зв. "псеўдарускім стылі".

Менавіта ў гэтым стылі ў 1896 г. была пабудаваная Уладзімірская царква ў Занёманскім фарштаце, якая павінна была стаць цэнтрам "праваслаўнага жыцця" гэтай часткі горада. Той жа "псеўдарускі стыль" дамінаваў у праекце перабудовы Сафійскага сабору пасля пажара 1892 г., які быў распрацаваны акадэмікам Міхаілам Чагіным. Сінод вылучыў на адбудову і рэканструкцыю сабора больш за 150 тыс. руб. У выніку знешні выгляд храма цалкам змяніўся. Нішто не нагадвала яго першасную гісторыю як каталіцкага касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі або па вызначэнні гарадзенцаў "Фары Вітаўта". Над

храмам узвышаліся пяць купалоў, пафарбаваных у фіялетавы колер з залатымі зоркамі. Яшчэ тры купалы ўзвышаліся над паўночным і паўднёвым прытворамі. У заходняй частцы храма была збудаваная высокая вежа. Унутры храма – тры дубовыя іканастасы з пазалотай. Храм быў асвечаны ў 1899 г.

Актыўную ролю ў рэканструкцыі Сабора, а таксама ва ўсіх царкоўна-будаўнічых працах канца XIX – пачатку XX ст. адыгрывала Гарадзенскае Сафійскае праваслаўнае брацтва. Яно ўзнікла ў 1882 г. і імкнулася да пашырэння і ўмацавання уплываў праваслаўнай царквы на Гарадзеншчыне. Першым кіраўніком брацтва быў протаіерэй А.Апоцкі, а ў склад "братчыкаў" уваходзілі обэр-пракурор Сінода К.Пабеданосцаў, гісторык М.Каяловіч, архіепіскап Літоўскі і Віленскі Аляксандр і нават сам імператар Мікалай II і імператрыца (з лістапада 1914 г.).

На пачатку XX ст. быў збудаваны таксама Пакроўскі сабор, узорам для якога стала царква Каспійскага пяхотнага палка ў Новым Пецяргофе.

Застаецца яшчэ дадаць, што ў 1896 г. аднавіліся набажэнствы ў Каложскай Барысаглебскай царкве. Паводле праекта гарадзенскага дойліда П.Раманава, з паўднёвага, а часткова заходняга і ўсходняга бакоў царквы былі збудаваныя лёгкія драўляныя сцены. Пажаданне сяброў Археалагічнай камісіі *"эту постройку производить без малейшей порчи древних стен"*[70] было выканана дакладна...

Такім чынам, на пачатку XX ст. Гародня істотна змяніла свой канфесійна-архітэктурны выгляд. Яна, безумоўна, не стала Тамбовам, але ўжо не так моцна адрознівалася ад расійскіх гарадоў, як гэта было, напрыклад, напрыканцы XVIII ст. Праваслаўная царква і расійская школа павінны былі закончыць тое, што пачыналі расійскія войскі.

Аднак, нават гэты ціск не быў у стане знішчыць нацыянальна-культурную і гістарычную адметнасць Гародні. Горад жыў і змагаўся...

[70] Судьба Борисоглебской (Коложской) церкви в описаниях Михаила Кояловича и епископа Иосифа (вторая половина XIX в.) // Горад святога Губерта. Мінск, 2011. С. 55.

Найбольш яркай зоркай на культурным небасхіле Гародні другой паловы XIX – пачатку XX ст. была пісьменніца Эліза Ажэшка (1841-1910). Яна нарадзілася ў маёнтку Мількаўшчына на Гарадзеншчыне. У 1858 г. вянчалася ў Бернардзінскім касцёле Гародні, а потым пераехала ў маёнтак Людвінава на Палессе, які належаў мужу Пятру Ажэшку. Падчас паўстання 1863 г. дапамагала змагарам "За вольнасць нашу і вашу", хавала ў сваім доме аднаго з кіраўнікоў паўстання Рамуальда Траўгута, якога пазней тайна вывезла ў Царства Польскае. Пасля арышту і высылкі мужа вярнулася ў Мількаўшчыну, дзе займалася самаадукацыяй, пачала пісаць літаратурныя творы. Яе літаратурны дэбют прыйшоўся на 1866 г., калі на старонках варшаўскага "Тыгодніка ілюстраванага" было апублікаванае апавяданне *"Obrazek z lat głodowych" ("*Карцінка з галодных гадоў*")*.

У 1869 г. Эліза Ажэшка пераехала ў Гародню. Пасля закрыцця ў Вільні кнігарні пісьменніцы (1882) горад на Нёмане стаўся яе галоўнай майстэрняй. Дзякуючы творам Э.Ажэшкі ў польскай літаратуры масава з'явіліся г.зв. "малыя героі" – рамеснікі, гандляры, беднаата. Пісьменніца паказвала твар горада, раней невядомы чытачам. Яна знаходзіла сюжэты ў судовай залі, на вузкіх завулках горада, у кватэрах гарадской беднаты. "Каралевай… пакутлівай праўды" назваў яе Францішак Багушэвіч. Многія яе творы можна разглядаць як гістарычны дакумент, дзе ў літаратурнай форме распавядаецца гісторыя Гародні другой паловы XIX – пачатку XX ст. Менавіта тут нарадзіўся і галоўны твор пісьменніцы раман "Над Нёманам" (1888), які набыў незвычайную папулярнасць у чытачоў.

Пра многае даводзілася казаць "эзопавай мовай", тым больш, што значную частку свайго гарадзенскага перыяду жыцця пісьменніца знаходзілася пад паліцыйным наглядам. Тым не менш значнае месца ў яе творчай спадчыне займала таксама публіцыстыка, дзе закраналіся многія балючыя праблемы культурна-нацыянальнага і палітычнага жыцця (напр., "Патрыятызм і касмапалітызм", 1880; "Пра габрэяў і габрэйскае пытанне", 1882).

Падчас рэвалюцыі 1905 – 1907 гг. пісьменніца актыўна ўключылася ў польскую грамадска-культурную дзейнасць. У лістападзе 1905 г. віленскі "Кур'ер Літэўскі" (№ 63) апублікаваў ліст, якім Ажэшка адгукнулася на заклік збіраць сродкі на помнік Адаму Міцкевічу ў Вільні. Паводле яе меркавання, больш чым помнік патрэбная польская школа імя Міцкевіча. Пісьменніца паведаміла, што яна пераслала 100 руб. сабраных палякамі ў Гародні, на польскую школу.

Маніфест Мікалая II ад 17 кастрычніка 1905 г. мясцовая польская супольнасць зразумела, як дазвол на адкрыццё польскіх школ. Яны пачалі ўзнікаць па ўсёй тэрыторыі губерні. Улады прынялі контрмеры... Увесну 1906 г. "Гродненские губернские ведомости" пачалі публікаваць інфармацыю ад пакараннях за адкрыццё "тайных" польскіх школ. Губернатар Ф.Зэйн стварыў адмысловую Камісію дзеля вызначэння "этнічных межаў" пражывання палякаў у губерні. У лістападзе Камісія падвяла вынікі сваёй дзейнасці. Палякаў за межамі Гародні яны не знайшлі. Сярод "знойдзеных" групаў насельніцтва звяртае на сябе ўвагу катэгорыя *"беларусаў-каталікоў, якія размаўляюць па-польску" (!?)*[71].

Аднак на пэўныя ўступкі ўлады ўсё ж вымушаныя былі пайсці. Напрыканцы 1905 – 1906 навучальнага года пачалося выкладанне польскай мовы ў старэйшых класах Гарадзенскай мужчынскай гімназіі, а ў лістападзе 1906 г. – у жаночай. Падобна, што Э.Ажэшка адыграла прыкметную ролю ў гэтых поспехах. А вось зацвердзіць статут арганізацыі "Асвета" не атрымалася. Губернатар увесну 1907 г. адмовіўся яго падпісваць. Рэвалюцыя ішла на спад...

Пісьменніца мела непасрэднае дачыненне да актывізацыі польскага культурнага жыцця ў Гародні. Пасля працяглага перапынку тут адбываліся гастролі вядомых польскіх музыкантаў, тэатральных трупаў з Варшавы і Вільні. Эліза Ажэшка была пастаянным госцем на гэтых сустрэчах, якія ператвараліся ў сапраўдныя святы польскай культуры. Вось як яна апісвала ў адным з лістоў

[71] НГАБ у Гародні. Ф. 1, воп. 18, ад.з. 1097, арк. 133.

атмасферу канцэрту аркестра Варшаўскай філармоніі: *“Немагчыма перадаць, што я пражыла, калі тыдні два назад у прысутнасці ўзрушанай публікі на сцэне мясцовага тэатру [...] гучаў паланэз Шапэна, а потым мы пачулі прыгожы голас акторкі, якая чытала класіку польскай паэзіі. Яе засыпаў дождж кветак. Узрушаная публіка слухала стоячы. Шмат хто плакаў...”*[72]

Дом Элізы Ажэшкі быў заўсёды адкрыты для гарадзенскай інтэлігенцыі, для пісьменнікаў і паэтаў, у т.л. беларускіх. Тут часта бываў Францішак Багушэвіч. Пісьменніца высока ацэньвала і падтрымлівала ягоную творчасць. Спецыяльна для беларускага тэатру (трупа Ігната Буйніцкага) яна напісала п’есу “У зімовы вечар”. Вацлаў Ластоўкі ў некралогу на старонках “Нашай Нівы” (1910, № 20) пісаў, што яе смерць сталася вялікай стратай не толькі для польскага народу, але і для ўсяго культурнага свету: *“Эліза Ажэшка ў мнагалетняй сваёй працы старалася шырыць у грамадзянстве ідэалы і думкі агульналюдскія, старалася будзіць міласць да нешчаслівых і пакрыўджаных жыццём, міласць да чалавека”*. У гэтым жа доме адбываліся тэатралізаваныя пастаноўкі на польскай мове, якія ладзілі сябры Таварыства прыхільнікаў драматычнага і музычнага мастацтва “Муза”, якое ўзнікла пры непасрэдным удзеле пісьменніцы.

Гарадзенцы любілі і паважалі “Пані Элізу”. У горадзе жыла памяць пра яе дапамогу пагарэльцам 1885 г. Людзі чыталі і ведалі яе творы. Беларуская пісьменніца Людвіка Сівіцкая (“Зоська Верас”) прыгадвала, як падчас цяжкай хваробы пісьменніцы ў 1910 г. вуліцу перад яе домам пакрылі тоўстым слоем саломы, каб грукат колаў фурманак не трывожыў хворай[73].

Яе пахаванне ў Гародні ператварылася ў дэманстрацыю вялікай любові і павагі з боку гарадзенцаў. Карэспандэнт “Кур’ера літоўскага” паведамляў, што каля 15 тыс. чал. прыйшлі да дому Э.Ажэшкі 23 мая 1910 г. дзеля развітання. Жалобнае набажэнства ў Фарным касцёле вёў сябра і спаведнік памерлай ксёндз Ст. Мілкоўскі. Адсюль працэсія накіравалася на Фарныя

[72] Orzeszkowa E. Listy. Warszawa, 1938. T. 2. Cz. 2. S. 196.

[73] Зоська Верас. Успаміны // Я помню ўсё: Успаміны, лісты. Укладальнік Міхась Скобла. Гародня-Вроцлаў, 2013. С. 16.

каталіцкія могілкі, дзе прагучалі апошнія развітальныя словы. І ўсё гэта адбывалася ў атачэнні паліцыі, якая была прыведзеная ў стан павышанай пільнасці.

Гародня была радзімай вядомага габрэйскага паэта Лейбы Найдуса (1890-1918), які ўласнай творчасцю значна ўзбагаціў пісьмовую культуру на мове ідыш. У горадзе ён атрымаў пачатковую адукацыю і сюды ж вярнуўся пасля заканчэння рэальнага вучылішча ў Вільні. Першы зборнік паэзіі выйшаў у Вільні ("Лірыка", 1915), а праз тры гады ўжо ў Гародні быў выдадзены зборнік "Флет Пана". Пасля ягонай заўчаснай смерці[74] таксама ў Гародні выйшаў з друку зборнік "Інтымныя напевы" (1919). У апошнія гады жыцця Л.Найдус шмат выступаў з чытаннем вершаў і выкладамі, падрыхтаваў да друку часопіс "Нёман" (1916), перакладаў на ідыш шэдэўры сусветнай паэзіі. Крытыкі адзначалі ягонае наватарства, асабліва ў галіне паэтычнай рытмікі і сюжэтаў.

На жаль, многія тагачасныя ўраджэнцы Гародні здолелі рэалізаваць свой патэнцыял, толькі пакінуўшы родны горад. Ён не быў утульным месцам для жыцця і працы многіх таленавітых гарадзенцаў. Так, скульптар Ілля Гінцбург (1859-1939) большую частку жыцця пражыў у Пецярбурзе (Ленінградзе), дзе і праславіўся ў галіне партрэтнай і жанравай скульптуры. Тэатральны мастак і мадэльер Леў Бакст (Розенберг) (1866-1924) пасля вучобы ў Пецярбурзе і Парыжы працаваў у Маскоўскім мастацкім тэатры, выкладаў жывапіс у прыватнай мастацкай школе ў Пецярбурзе, адным з вучняў якой быў Марк Шагал. У 1910-1920 гг. працаваў у тэатрах Лондана, Нью-Ёрка, Рыма, быў вядучым дэкаратарам славутых "Рускіх сезонаў за мяжой" Сяргея Дзягілева.

Будучыя славутыя навукоўцы браты Урублеўскія пасля заканчэння гарадзенскай гімназіі працягвалі навучанне за межамі беларускай зямлі, якая не мела ўласнага універсітэту. Зыгмунт Урублеўскі (1845-1888), які ў маладосці прымаў удзел у паўстанні

[74] Магіла славутага паэта была знішчаная падчас разбурэння г.зв. "новых жыдоўскіх могілак" на пачатку 1960-х гг. Паводле рашэння гарадскіх уладаў, на могілках збудавалі... гарадскі стадыён.

1863 г. і быў высланы ў Сібір, стаў вядомы даследаваннямі ў галіне дыфузіі газаў і фізікі нізкіх тэмператураў, першым у свеце атрымаў вадкі кісларод. У 1882 г. ён узначаліў кафедру фізікі Ягелонскага універсітэту. Эдвард Урублеўскі (1848-1892) праславіўся даследаваннямі хімічнага складу газаў і быў адным з заснавальнікаў Расійскага фізіка-хімічнага таварыства. Station Станіслаў Урублеўскі (1854-1928) доўгі час узначальваў Цэнтральнае упраўленне вайсковай прамысловасці Польшчы. Вітаўт Урублеўскі (1899-1927) працаваў прафесарам Вышэйшай тэхнічнай школы ў Варшаве.

У Гародні нарадзіўся і закончыў гімназію вядомы польскі гісторык прафесар віленскага Універсітэту імя Стэфана Баторыя Станіслаў Касцялкоўскі (1881-1960), аўтар грунтоўнага даследавання гісторыі каралеўскіх эканомій у Рэчы Паспалітай, а таксама жыцця і дзейнасці падскарбія надворнага і гарадзенскага старасты Антонія Тызенгаўза.

Часткова на пытанне пра прычыны адтоку талентаў з Гародні адказаў ужо Іван Саланевіч (1891-1953), які прыгадваючы сваё навучанне ў гарадзенскай гімназіі, заўважыў: *“В мои годы это был тихий провинциальный заскорузлый ужас”*[75].

Маштабы інтэлектуальнага жыцця губернскай Гародні, а таксама ідэалагічны і палітычны ціск з боку адміністрацыі і чынавенства зусім не спрыялі росквіту мясцовых талентаў.

Але пры гэтым Гародня сама станавілася часовым прытулкам для многіх славутых людзей. Адным з іх быў Людвік Заменгоф (1859-1917), добра вядомы сучаснікам як *“доктар Эсперанто”*. Праект універсальнай мовы “эсперанта” быў распрацаваны ім яшчэ ў 1887 г. і ўвасобіўся ў выданні падручніка. На жаль, адсутнасць фінансаў перашкодзіла працягваць працу над гэтым праектам. Трэба было зарабляць на жыццё. З 1893 па 1897 г. Л.Заменгоф меў у Гародні афтальмалагічны кабінет і займаўся прыватнай лекарскай практыкай. Адначасна ўдзельнічаў у працы Таварыства лекараў Гарадзенскай губерні. Аднак фінансавая

[75] Цыт. па: Соркіна І. Навучальныя ўстановы, настаўнікі і вучні Гродна ў 60-я гг. XIX ст. – пачатку XX ст. // Гарадзенскі палімпсест. 2010. С. 378.

сітуацыя палепшылася толькі пасля пераезду ў Варшаву (1897), што і дазволіла завяршыць працу над праектам.

У 1892 г. у Гародню пераехала сям'я Адама Багдановіча, у якога незадоўга да пераезду нарадзіўся сын Максім. Да 1896 г. будучы славуты паэт жыў у горадзе. Ягоны бацька працаваў у банку, адначасна быў дырэктарам публічнай Народнай бібліятэкі, пісаў творы па беларускай этнаграфіі і гісторыі. Менавіта ў гэты час выйшлі з друку "Пережитки древнего миросозерцания у белорусов: Этнографический очерк" (1894), а таксама невялікая брашура "Про панщину: Рассказ из белорусской жизни времён крепостного права" (1894), якая прыгадвала чытачам жахі прыгону. Маці будучага паэта Марыя Апанасаўна памерла хутка пасля нараджэння яго сястры Ніны (1896) і была пахаваная на праваслаўных могілках. Пасля гэтага бацька з дзецьмі пераехаў у Ніжні Ноўгарад.

У 1909 г. у 6 клас прыватнай жаночай гімназіі Баркоўскай у Гародні прыйшла новая вучаніца Людвіка Сівіцкая, будучая беларуская пісьменніца і дзеячка, больш вядомая пад псеўданімам "Зоська Верас" (1892-1990). Яна адразу ж далучылася да заснаванага ксяндзом Францішкам Грынкевічам у тым самым годзе Гуртка беларускай моладзі. З яго і пачынаецца ўласна беларускае культурнае жыццё ў Гародні. Сябрамі гуртка сталі вучні старэйшых класаў гарадзенскіх гімназій. Апроч Людвікі Сівіцкай да яго належалі будучы вядомы беларускі палітык Павал Аляксюк, актывісты беларускага руху Адам Бычкоўскі, Адольф Зянюк ды інш. Мэтаю гуртка было аб'яднанне беларускай моладзі, самаадукацыя і арганізацыя беларускага культурнага жыцця ў горадзе і наваколлі. Гурток быў нелегальны, але дзякуючы таму, што ксёндз Ф.Грынкевіч быў выкладчыкам Закона Божага, бяспека сходаў гарантавалася.

19 лютага 1910 г. у Гародні адбылася першая беларуская вечарына. Яе праграма ўключала рэферат П.Аляксюка "Беларусы і іх нацыянальнае Адраджэнне", беларускія песні і вершы,

пастаноўку аднаактавай п’есы Марка Крапіўніцкага “Па рэвізіі”. У наступным месяцы пра гэтую падзею паведаміла “Наша Ніва”. П.Аляксюк на яе старонках (1910, № 13) заўважыў, што Гародня – горад беларускі, але *“дагэтуль аб беларусах нешта мала было чутно, і толькі цяпер пачалі яны тут будзіцца. Спачатку, праўда, ішло туга, але пасьля што раз болей і болей пачалі цікавіцца беларускім адраджэньнем, і вось цяпер ужо маем нямала беларусоў, каторые душой і сэрцэм прыналежаць да сваёй бацькоўшчыны... Найбольш нас цешыць і тое, што і нашы браты – славяне – расійцы і палякі – спагадаюць нам тутака, а найболей то цешацца літвіны, што беларускі народ, каторага сілы ешчэ не выкарыстаны, а нават і не пачынаны, прачнуўся”*.

На чарговую вечарыну, якая адбылася ў 1911 г. быў запрошаны адзін з стваральнікаў “Нашай Нівы” Іван Луцкевіч, які пазней на старонках газеты (№ 8) падзяліўся сваімі ўражаннямі: *“Я дзіваваўся, гледзячы на артыстоў, як яны умелі падглядзець, падсьцерагчы характар вясковых сватаньнёў, умелі ўстроіць усё так, як яно папраўдзі бывае ў хаце беларускай. [...] Добра сыгралі ўсе, і відаць, што аддаюцца справе з цэлым агнём маладых сваіх дум. Казалі вершы беларускія чыстым выгаварам нашай мовы; відаць было, што горад і школа не здалелі мовы роднай скалечыць, маленькая дзяўчынка ў народнай опратцы сказала верш Сівіцкай “Што я люблю”, гаварыла з такім зразуменьнем, што ўлівала веру, што гэтыя маладыя сілы Беларусі патрапяць так гарача, так ідэальна пакахаць “і край, і лес, і ноч, і дзень, і свой народ і ўсіх людзей”, што яны не паўстыдаюцца імені беларус. [...] Я вынес адтуль з сабой думку, што часу не змарнаваў, і не маркоціўся, а напроціў уздыхнуў атмасферай здаровай, чагось навучыўся. Вынасіў падзякаваньне за прыемный вечар і веру, што гродзенская беларуская моладзь родную справу пасуне ўперад”*.

Гурток ладзіў падобныя вечарыны таксама ў навакольных вёсках. У 1910 – 1911 навучальным годзе ён значна пашырыўся і складаўся ўжо з трох секцыяў: малодшай, сярэдняй і старэй-

шай. Была сабраная добрая бібліятэка беларускай літаратуры. У гэты час "Нашу Ніву" ў Гародні выпісваў не толькі Ф.Грынкевіч, але таксама ксёндз Вацлаў Родзька, які служыў у Фарным касцёле. Падпісчыкі "Нашай Нівы" жылі таксамаў наваколлях горада. У прыватнасці, гэта настаўнікі Блажэвіч з Сапоцкіна і Раман Зарэцкі з в. Дзярэчынок.

Пад ціскам духоўных уладаў Ф.Грынкевіч быў вымушаны адысці ад кіраўніцтва. Гэта прывяло да пэўнай дэзарганізацыі дзейнасці беларускай моладзі. Гурток спыніў сваё існаванне ў 1913 г., а яго апошняй справай стала выданне аднадзёнкі "Колас беларускай нівы".

Івану Луцкевічу таксама належыць адно з першых апісанняў Гародні, апублікаванае ў беларускім друку. На старонках "Нашай Нівы" (1911, № 8) ён пісаў: *"Горад наш ляжыць над Нёманам. Сваімі старымі будоўлямі, касьцёламі, палацам Тызенгаўзоў, старымі дамамі – ён паказывае, што калісь людзі дбалі аб яго красе. Мешаніна дереўляных і каменных будоўлі, распалажэньне гораду дае маляўнічы і сімпатычны выгляд Гродні. Люба перейсціся сёред гэтых будоўлі: відаць, што тандэт і вульгарызацыя не зачапіла даўняго хараства. Жыцьцё ў Гродні плыве на палавіну патрыярхальна. Шчыра прывітаюць брата! Німа тэй гарачкі вялікіх гарадоў. Такая атмосфера наводзіць на чалавека паважныя думкі, падбівае разглядацца ў мінулых часах. Гурткі маладых пачынаюць займацца літэратурай, навукай, а пазнаўшы яе, ня дзіва, што сэрцы іх гарачыя сільней забьюцца, а сымпатіі пакіруюцца да ўласнаго беларускаго народу".*

Аднак развіццё беларускага руху сустракала на Гарадзеншчыне вялізныя перашкоды. Яны часткова адлюстраваліся ў "нашаніўскіх" нататках Вацлава Ластоўскага "З падарожжа па Гродзеншчыне" (1912, № 32). Власт адзначыў чысціню беларускай мовы "беларусоў-гродзенчукоў" і звярнуў увагу на раскол, які адбыўся сярод мясцовай інтэлігенцыі. Апошняя падзялілася на "польскі" і "расійскі" лагеры, ваюючыя паміж сабой за "душу

беларуса": *"Тутэйшыя палякі лічаць за "сваіх" беларусоў-каталікоў; праваслаўныя расійцы – "сваімі" лічаць праваслаўны люд".*

Пры гэтым, як заўважыў аўтар, ні адныя, ні другія *"ня хочуць бачыць і ведаць, што беларус можэ вытварыць сваю ўласную культуру, пачаць жыць сваім асобным жыцьцём"*. В.Ластоўскі сцвярджаў, што *"людзей, каторыя бы адносіліся справядліва да адраджэньня беларускаго народу, тут, у Гродзеншчыне мне прыходзілася спатыкаць менш, чым у іншых мейсцах"*. Ён прывёў прыклады абурэння кніжных гандляроў, якое выклікала ў іх адно толькі пытанне пра беларускія кнігі. Адразу пачыналіся маналогі пра "беларускую інтрыгу", накіраваную ці то супраць палякаў, ці то супраць расійцаў, у залежнасці ад канфесійнай прыналежнасці гандляра. Адной з галоўных прычынаў такога становішча, на думку дзеяча Адраджэння, была пазіцыя як мясцовай "інтэлігенцыі", так і гарадзенскага праваслаўнага і каталіцкага духавенства, адмаўляючага існавання беларусаў.

Вяртаючыся да праблемы вобразу Гародні на старонках "Нашай Нівы", трэба адзначыць, што ўвосень 1913 г. у публікацыях газеты (№ 38, 39) упершыню быў ужыты беларускі варыянт назвы горада – Горадна. Улетку 1915 г. на старонках газеты (№ 19-20) з'явіўся іншы беларускі варыянт назвы – Горадня. Вацлаў Ластоўскі менавіта гарадзенскім нарысам распачаў серыю артыкулаў "Нашы гарады".

Першы вядомы нам беларускамоўны агляд гісторыі горада з большага быў заснаваны на публікацыях Я.Арлоўскага. Аднак у адрозненні ад вядомага даследчыка гарадзенскай мінуўшчыны, які падзяляў дактрыну заходнерусізму, Вацлаў Ластоўскі трактаваў Гародню, як *"спрадвечнае паселішчэ беларускае"*. Якраз гэтым сцвярджэннем ён і распачаў гістарычны нарыс. Ягонымі галоўнымі сюжэтамі стала хрысціянізацыі Гародні, барацьба з крыжакамі і татарамі, падпарадкаванне Літве, войны з Масквой і шведамі, палітычны росквіт Гародні ў другой палове XVIII ст., рэформы Антонія Тызенгаўза, падзел Рэчы

Паспалітай і расійскае панаванне ў горадзе. Характарызуючы Гародню пачатку XX ст., аўтар зазначыў, што пераважная большасць гарадзенскіх палякаў і расійцаў – гэта нашчадкі колішніх беларусаў. І дадаў, што яны *"як зазвычай усякія перакіньчыкі, у восем разоў большые ворагі беларускаго адраджэньня за самых найпраўдзіўшых палякоў і расійцоў"*. Тым не менш, паводле В. Ластоўскага, *"сам жэ фундамэнт Гародні і аколіцы яго заселены беларусамі, як і тысячу гадоў таму назад"*. Цікава, што гарадзенскі нарыс быў першым у серыі артыкулаў, якія рыхтаваў В.Ластоўскі. Наступны матэрыял быў прысвечаны Вільні, але ваенныя падзеі і закрыццё газеты не дазволіла апублікаваць яго цалкам.

Хіба не будзе перабольшваннем сцвярджэнне, што "Наша Ніва" пачала свайго роду нацыянальную прыватызацыю Гародні. Амаль усе падзеі культурнага жыцця горада, якія асвятляліся на старонках газеты, былі звязаныя толькі з беларускім Адраджэннем. Карэспандэнты і чытачы газеты неаднаразова крытыкавалі гарадзенцаў за нацыянальную пасіўнасць, але нават гэта не парушала агульнай карціны беларускай Гародні, бо крытыка адбывалася ў межах "нашаніўскага дыскурсу". "Свае" крытыкавалі "сваіх", а "чужыя" папросту выдаляліся з вобраза беларускай Гародні. Рэдакцыя неаднаразова ўжывала выраз "наш горад", а В.Ластоўскі ўпершыню паспрабаваў з дапамогай гістарычных аргументаў даказаць спрадвечную беларускасць Гародні.

## ЧАС ПЕРАМЕНАЎ. 1914 – 1921.

Першая сусветная вайна, якая распачалася напрыканцы ліпеня 1914 г., стала пачаткам вялікіх пераменаў у гісторыі горада.

Намаганнямі расійскіх вайскоўцаў вакол яго ўжо ў 1912 г. пачалі ўзводзіцца крэпасныя фарты. Праз два гады Гародню атачалі 13 фартоў з бетоннымі ўмацаваннямі. Паміж фартамі знаходзіліся палявыя пазіцыі, якія складаліся з некалькіх ліній акопаў, умацаваных бетаніраванымі апорнымі пунктамі. Аднак закончыць будаўніцтва да пачатку вайны так і не здолелі. Яно працягвалася нават напярэдадні нямецкага штурма ў жніўні 1915 г. Нягледзячы на гэта Гародня ўсё ж ператварылася ў моцную ваенную крэпасць.

Упершыню гараджане пачулі залпы гарматаў ужо ў верасні 1914 г. Нямецкія войскі нанеслі паразу расійскім арміям у бітве пры Таненберге ва Усходняй Прусіі і наблізіліся да горада. У Гародні пачалася паніка. Жыхары пакідалі яе на ўсіх відах транспарту, “штурмавалі” вакзалы, а гарадская і губернская адміністрацыя спешна эвакуіравалася ў Слонім. З гэтага моманту жыццё Гародні цалкам вызначала вайна.

Атмасферу тагачаснага горада добра перадаюць лісты Юзафа Ядкоўскага да археолага і гісторыка Вандаліна Шукевіча: *“Няма цукру, солі і белага хлеба. Чорная соль кавалкамі... Крыжакі ўжо блізка. Толькі Нёман аддзяляе нас ад бяды [...] Мінулым вечарам і ўсю ноч мы забаўляліся слуханнем музыкі пекла [...] Сцэны так сутрасаюцца, што пісаць немагчыма. [...] Нашыя выязджаюць сёння коньмі да Наваградку [...] На вуліцы Тэлеграфнай засталося 3-4 чалавекі, якія не маюць магчымасці выехаць. На Паштовай трохі болей, аднак да вечара і яна апусцее. У самым горадзе яшчэ не разарваўся аніводны снарад, але гэта часова. Перад намі ўвесь час маячыць твар смерці [...] У Гародні не засталося цывільных установаў”* (12 верасня 1914 г.);

*“Я ніколі не быў занадта нярвовым, аднак ад гукаў той “музыкі”, якую мы маем прыемнасць слухаць у Гародні, можна атрымаць інфаркт! Дзесяць дзён “гралі” гарматы на адлегласці 18 вёрстаў і нават бліжэй, каля Гожы. У апусцелым горадзе гэтыя гукі выклікалі незвычайнае ўражанне”* (3 кастрычніка 1914 г.).

Дарэчы, Ю.Ядкоўскі, каб пазбегнуць прымусовай эвакуацыі і не страціць уласную калекцыю прадметаў даўніны, запісаўся санітарам у расійскае войска і непасрэдна назіраў усе жахі вайны. У адным з лістоў ён распавядаў пра параненых, якіх без перавязкі дастаўлялі ў гарадзенскі шпіталь на пяты-шосты і нават на восьмы (?!) дзень пасля ранення.

Аднак напрыканцы верасня 1914 г. нямецкія войскі былі адкінутыя ад Гародні. У горад вярнуліся жыхары, а разам з імі і адміністрацыя.

Нормай жыцця прыфрантавой Гародні сталі рэквізіцыі маёмасці, неабходнай для войскаў. У першую чаргу яны датычылі транспартных сродкаў – аўтамабіляў, матацыклаў, верхавых коней, усіх тыпаў павозак. У горадзе рэзка падскочылі цэны на харчаванне і паліва. Спробы гарадскіх уладаў спыніць гэты рост былі малаэфектыўнымі. Тое ж датычыла і спробы ўвядзення "сухога закону". У снежні 1914 г. (№ 50) "Наша Ніва" паведамляла пра асуджэнне ваенным камендантам генералам Міхаілам Кайгародавым на тры месяцы турмы мясцовых гандляроў алкагольнымі напоямі.

У горадзе выбухнула шпіёнаманія. Пачалася дэпартацыя пэўных катэгорый насельніцтва. Першымі дэпартаванымі былі грамадзяне іншых краінаў, у т.л. і краінаў-саюзніцаў Расіі, потым прыйшла чарга мясцовага "нядобранадзейнага элементу". Так, з Гародні і наваколляў масава высылаліся грамадзяне Расіі нямецкага паходжання, габрэі, якіх агульна абвінавачвалі ў здрадзе і схільнасці да шпіянажу на карысць Германіі. У сакавіку 1915 г. пад пагрозай турэмнага зняволення ўлады забаранілі публічнае ўжыванне нямецкай мовы. Шалела цэнзура.

У лютым 1915 г. пасля чарговай паразы расійскага войска ва Усходняй Прусіі нямецкія дывізіі зноў наблізіліся да Гарадзенскай крэпасці. На поўнач ад Гародні ў раёне населеных пунктаў Сапоцкін, Рацічы, Галынка, Селіванаўцы, ішлі вельмі жорсткія баі. Нямецкае камандаванне разлічвала схо-

ду захапіць горад, але ў выніку крывапралітных баёў наступ быў спынены.

У гэты час горад перажыў другую хвалю эвакуацыі. Ю.Ядкоўскі пісаў у лісце да В.Шукевіча: *“Апроч вайскоўцаў і жменькі гандляроў-габрэяў у Гародні фактычна нікога не засталося. Кананаду цяпер слабей чуваць, затое часцей у горадзе “салюты” ад Таўбэ* (тып самалёта – А.С.), *якія цягнуцца гадзінамі. Дарагавізна казачная. Растлумачыць гэта можна толькі адсутнасцю падвозу. І праўда, нават білеты да станцыі Гародня не прадаюцца [...] Усе разбегліся, пакінуўшы маёмасць на волю лёсу, а дакладней, на волю салдатні. Вайсковыя пастоі надоўга застануцца ў памяці [...] Што можна знішчыць, тое нішчаць, разводзячы вогнішчы на падлогах! Зусім як у сярэднявечы!”* (8 сакавіка 1915 г.).

Улетку 1915 г. сітуацыя Гародні зноў рэзка пагоршылася. Як паведамляла “Наша Ніва”, 15 чэрвеня камендант загадаў рыхтавацца да эвакуацыі. Прычым усім “небагатым сем’ям” давалася права дармовага праезду. У ліпені быў прарваны фронт паміж Віслай і Бугам і пачаўся вывад расійскіх армій з Польшчы. У жніўні гарадская і губернская адміністрацыя былі эвакуіраваны пераважна ў Калугу. У горадзе засталося каля 25 тысяч жыхароў.

У ноч на 6 жніўня 1915 г. камендант крэпасці генерал М.Кайгародаў атрымаў тэлефанаграму ад камандуючага фронтам, якая ператварала Гарадзенскую крэпасць ва “ўмацаваную пазіцыю” і загадвала пачаць эвакуацыю крэпасных баепрыпасаў і маёмасці. Гэты загад перадвызначыў лёс Гародні.

Нямецкі штурм пачаўся 18 жніўня. У выніку цяжкіх баёў ужо на наступны дзень праціўнік авалодаў дзевяццю фартамі на левым беразе Нёмана, а раніцай 20 жніўня сходу пачаў фарсіраванне ракі. Камендант горада і ягоны штаб не здолелі належным чынам арганізаваць абарону аслабленай крэпасці. Пасля непрацяглых вулічных баёў нямецкія войскі авалодалі го-

радам. Але познім вечарам расійскія часці пайшлі ў контратаку. Жорсткія баі разгарнуліся ў раёне чыгуначнага вакзалу і сучаснай плошчы А.Тызенгаўза, маёнтка Станіслава і казармаў на сучаснай вул. Чырвонаармейскай.

Вулічныя баі скончыліся вечарам 21 жніўня адступленнем расійскіх войскаў. Дашчэнту былі разбураныя чыгуначны вакзал, губернатарскі палац і казармы, узарваныя масты. Загінуўшых расійскіх і нямецкіх салдат пахавалі ў брацкіх магілах каля вёсак Рацічы, Пласкаўцы, Селіванаўцы.

Імперыя Раманавых назаўсёды страціла Гародню.

Нямецкая акупацыя цягнулася да красавіка 1919 г. Гэты перыяд вельмі моцна змяніў горад і ягоных насельнікаў.

Памеры акупаванай нямецкімі войскамі тэрыторыі ў паўночнай частцы Усходняга фронту ўвосень 1915 г. перавышалі 100 тыс. кв. км. Па ініцыятыве ваеннага камандавання тут стваралася свайго роду мілітарная дзяржава *Обэр Ост* на чале з фельдмаршалам Паулем фон Гіндэнбургам. Яна ўключала сучасныя Усходнюю Польшчу, Заходнюю Беларусь, Літву і частку Латвіі. На думку нямецкага гісторыка Маціяса Баціса, *"гэтая адзінка не была ні герцагствам, ні імперыяй, ні краем, ні губерняй. Яна не ўлічвала нацыянальныя, культурныя або дзяржаўныя традыцыі. Стваралася нешта абсалютна новае. Над усім дамінавала германская ваеншчына ў постаці галоўнакамандуючага"*[76]. Аднак сапраўдным архітэктарам гэтай "ваеннай дзяржавы" быў начальнік штаба Усходняга фронту генерал-маёр Эрык Людэндорф.

Разуменне перспектываў існавання *Обэр Ост* змянялася. Калі ў 1915 г. яго тэрыторыя, у т.л. і Гародня разглядалася як зона акупацыі, то ўжо праз год прыналежнасць горада да Германіі не выклікала сумненняў у берлінскіх уладаў. Чыноўнікі абмяркоўвалі шляхі поўнагаператварэння Гародні ў нямецкі *Garten*.

Увесну 1916 г. была ўтвораная акруга "Гародня", якая складалася з пяці раёнаў – "Гародня", "Ліда", "Плянты", "Васілішкі" і "Ра-

[76] Баціс М. Ober Ost і нямецкая акупацыя Гародні ў Першую сусветную вайну паводле Дзённіка Курта Кламрота // Гістарычны альманах. 2012. Том 18. С. 47.

дунь". У горадзе знаходзілася кіраўніцтва гарадской (бургамістр капітан Ганс Вайсэнборн) і раённай адміністрацый. Якраз у гэты час для службы ў гарадской адміністрацыі прыехаў ротмістр Курт Кламрот, які на старонках уласнага Дзённіку даволі падрабязна апісаў жыццё горада ў 1916 г.

Нягледзячы на разбурэнні, горад прыемна ўразіў ротмістра ўласнай архітэктурай, ландшафтам, чысцінёю вуліцаў, і разнастайнасцю вулічнага натоўпу: *"Па гэтых вуліцах цякло суцэльным патокам стракатае жыццё ўсходняга горада: габрэі ў сваіх кафтанах, беларусы ў кажухах і сялянскіх чаравіках, бабы ў паласатым адзенні, дзіўныя сялянскія вазы і тыповыя рускія дрожкі, а паперад гэтага – элегантна і модна апранутыя пані і паны"*[77].

Паводле падлікаў нямецкай адміністрацыі, у чэрвені 1916 г. усё насельніцтва налічвала каля 24,5 тыс. чал. Апроч габрэяў і палякаў чыноўнікі зафіксавалі прысутнасць беларусаў, "велікаросаў", "іншых рускіх", латышоў, немцаў, літоўцаў ды інш. Паводле дадзеных па веравызнанню, дамінавалі іудзеі (15,6 тыс.) і каталікі (7,6 тыс.). Праваслаўныя складалі толькі каля 1 тыс. жыхароў, таксама сустракаліся пратэстанты і мусульмане.

Гэтыя падлікі прывёў у сваім Дзённіку К.Кламрот. Зразумела, што яны не могуць прэтэндаваць на дакладнае адлюстраванне нацыянальнай і канфесійнай спецыфікі горада. І тым не менш лічбы сведчаць, што, нягледзячы на бежанства, дэпартацыі і высяленні, Гародня ўсё ж захавала ўласнае шматкультурнае і шматканфесійнае аблічча. Яно моцна супярэчыла пашыранаму ў Германіі стэрэатыпу пра маналітную Расію з рускім насельніцтвам. Дарэчы, аўтар Дзённіка хутка заўважыў варожасць, якая існавала паміж польскай і габрэйскай элітамі гораду.

Адразу пасля заканчэння баёў у Гародні ўзнік Грамадзянскі камітэт з ліку найбольш уплывовых гараджанаў. Менавіта ён узяў на сябе адказнасць за арганізацыю жыцця горада. Прадметам першаснай увагі сталі харчаванне, фінансы і забеспячэнне насельніцтва дровамі. Камітэт узначаліў князь Яўстах Сапега, які

[77] Гародня 1916 г. на старонках Дзённіка ротмістра Курта Кламрота // Горад святога Губерта. Выпуск VI. Гародня, 2012. С. 48.

вызначыў ягоную структуру, наладзіў бухгалтэрыю і пазычыў гарадскому скарбу грошы на першачарговыя патрэбы. Да красавіка 1916 г. гэты Камітэт дзейнічаў даволі аўтаномна, паколькі нямецкая ўлада займалася пераважна рэквізіцыямі харчавання і сыравіны, карала за ўкрывальніцтва беглых ваеннапалонных, пашкоджанні ліній сувязі і г.д. Распараджэнні акупацыйнай улады друкаваліся ў газеце "Grodnoer zeitung", якая пачала выходзіць 1 снежня 1915 г. на ідыш, польскай і нямецкай мовах.

У красавіку 1916 г. адбыліся карэнныя змены ў сістэме кіравання. Грамадзянскі камітэт быўператвораны ў дарадчы орган. Бурмістр Г.Вайсэнборн узначаліў Гарадскую раду, якая складалася з шасці секцыяў, якія вырашалі праблемы агульнага кіравання і фінансаў; гарадской гаспадаркі; харчавання; санітарнага стану; дабрачыннасці; школьнай адукацыі.

Але арганізацыя гарадскога жыцця заўсёды знаходзілася на другім плане дзейнасці нямецкай адміністрацыі. Галоўнай задачай заставалася забеспячэнне харчаваннем нямецкага войска і насельніцтва Германіі. Адпаведны загад генерала Людэндорфа заканчваўся рашучай заявай пра безумоўны прыярытэт *"жыццёвых інтарэсаў нямецкага народу перад мясцовымі інтарэсамі"*.

Асаблівым цяжарам для насельніцтва акупаваных тэрыторыяў, у тым ліку і для гарадзенцаў сталіся рэквізіцыі ўраджаю, прадуктаў харчавання і жывёлы. Таксама варта адзначыць манаполію нямецкай адміністрацыі на гандаль, якая час ад часу пагражала паралічам гаспадарчаму жыццю цэлага рэгіёну, нарыхтоўку сыравіны (асабліва драўніны) для патрэбаў войска і Германіі і звязаны з гэтым прымусовы набор у працоўныя батальёны, дзе людзі вельмі цяжка працавалі ў жахлівых умовах за мінімальную аплату. Фактычна адбывалася мэтанакіраванае рабаванне Краю, які станавіўся закладнікам імперскіх амбіцый ужо берлінскіх палітыкаў.

Палітыка кіраўніцтва *Обэр Ост* абярнулася голадам для мясцовага насельніцтва. Нямецкія ўлады ўвялі картачную сітэму

размеркавання прадуктаў харчавання. Улетку 1916 г. дзённая норма для дарослага чалавека складала 200 г мукі ў пераліку на спечаны з гэтай колькасці хлеб, 250 г бульбы, 12 г цукру, 30 г крупы, 40 г варэння. Тыднёвая норма мяса на чалавека складала 200 г разам з касцямі, дзеці да 12 год пры размеркаванні мяса не ўлічваліся. У далейшым гэтыя нормы толькі змяншаліся.

Увядзенне прадуктовых картак у цэлым палепшыла становішча бяднейшых гарадзенцаў. Таксама варта адзначыць намаганні К.Кламрота ў барацьбе з "чорным рынкам" і крадзяжамі прадуктаў харчавання, у развіцці дабрачыннасці, дзе яго падтрымалі асобныя прадстаўнікі мясцовай польскай грамадскасці, якія за ўласны кошт арганізоўвалі бясплатныя абеды.

Праблема фінансавання гарадскога бюджэту ў значнай ступені была вырашаная дзякуючы знаходцы падземных крыніцаў мінеральнай вады, гандаль якой аказаўся даволі паспяховым. Таксама эфектыўным з пункту гледзішча агульнагерманскіх інтэрэсаў аказаўся продаж алкагольных вырабаў выключна за залатыя манеты. К.Кламрот у Дзённіку пісаў пра "залаты дождж" і 20 тыс. руб. золатам, якія Гарадская рада пераслала ў Германію.

Дзённік Курта Кламрота – каштоўная крыніца па гісторыі нямецкай акупацыі, але ён "маўчыць" пра тое, што Гародня да сакавіка 1917 г. была рэкардсменам па колькасці крымінальных і грамадзянскіх працэсаў у *Обэр Ост.* Больш за тое, для горада нават існавала асобная падсуднасць, частымі былі смяротныя пакаранні. Нічога не гаворыцца ў Дзённіку пра той гвалт, якім суправаджаліся рэквізіцыя і канфіскацыя сабранага ўраджаю, пра трагічны лёс мужчынаў, якіх гвалтам мабілізавалі ў згаданыя працоўныя батальёны. Пры першай мажлівасці яны ўцякалі ў лес і далучаліся да г.зв. "бандаў".

Увесну 1916 г. нямецкая адміністрацыя Гародні занялася таксама школьнай справай. Насуперак афіцыйнаму курсу *Обэр Ост,* які імкнуўся да ліквідацыі існуючых школаў і ўвядзення ня-

мецкай манаполіі на адукацыю, у Гародні адчыніліся польскія, габрэйскія, літоўскія, беларускія школы і некалькі нямецкіх. Ва ўсіх школах нямецкая мова была абавязковым прадметам.

Гісторык Уладзімір Ляхоўскі адзначыў, што ўжо напрыканцы 1915 г. на тэрыторыі *Обэр Ост* існавала каля 1 тыс. "саматужных" прыватных і грамадскіх школаў. Прычым на Віленшчыне і Гарадзеншчыне дамінавалі польскія школы, якія мелі падтрымку з боку вясковых і мяшчанскіх грамадаў, заможных гараджанаў, землеўласнікаў і каталіцкага духавенства. У далейшым акупацыйныя ўлады ўвялі цэнтралізаваную сістэму кіравання і пачалі зачыняць прыватныя школы. На пачатку 1918 г. легальнае прыватнае школьніцтва было цалкам знішчанае. Затое паводле падлікаў нямецкіх даследчыкаў, у акрузе "Беласток-Гародня" з кастрычніка 1916 па красавік 1918 г. колькасць афіцыйных беларускіх школаў узрасла з 3 да 79, а лік беларускіх школьнікаў перавысіў 3 тыс.

Менавіта школьная адукацыя стала першай арэнай нацыянальнага змагання. Найбольш актыўна на гэтай арэне дзейнічала польская супольнасць. Якраз гарадзенскія палякі першымі дамагліся ад нямецкіх уладаў дазволу на адкрыццё пачатковых школаў, а ў студзені 1916 г. адчынілася таксама сярэдняя польская школа. Адным з піянераў польскай адукацыі ў горадзе быў ужо згаданы ксёндз Францішак Грынкевіч.

У красавіку 1916 г. у будынку Барыса-Глебскага кляштара (вул. Маставая) адкрылася першая ў Гародні беларуская пачатковая школа. Ініцыятарамі яе адкрыцця былі Вацлаў Ластоўскі і Антон Луцкевіч. Дзякуючы віленскім беларусам вучні атрымалі неабходныя падручнікі і школьныя прыналежнасці. Настаўнікамі былі Тэкля Станішэўская і Аляксандр Грыкоўскі.

Пра вастрыню нацыянальных спрэчак сведчаць радкі з некралогу на смерць Т.Станішэўскай, апублікаванага на старонках віленскай газеты "Беларуская думка" ў маі 1919 г. (№ 13): *"Горадзень у той час з беларускага боку быў пустыняю. Сьвядомая беларуская моладзеж з надыходам немцаў была або вы-*

*везена, або сама выехала і рассыпалася па ўсходняе Беларусі і Маскоўшчыне. У Гародні бушавала польская чорная сотня, якая [...] захацела спалянізаваць гэтае спрадвечнае беларускае места і з гэтаю мэтаю натужала ўсе свае сілы. Над усім беларускім быў зьдзек. З другога боку праваслаўная царкоўная служба (псаломшчыкі і інш.), што асталася пасьля выехаўшых у Маскоўшчыну праваслаўных сьвяшчэннікаў, пры сваім фанатызьме і цемнаце была найвялікшым прыяцелем усяго маскоўскага і непрыяцелем беларускага, што пры тым уплыве на народ, што гэная служба мела падчас нямецкай акупацыі, перадавалася і самому народу. [...] Перашкоды былі нязвычайныя. [...] Праціўнікі беларускага Адраджэньня ня грэбавалі ніякімі спосабамі барацьбы проціў беларускіх дзеячоў, і ўсё імі ўжывалася – ад звычайнае агітацыі да абвінавачваньня перад нямецкай уладаю ў расійскім шпіонстве".*

Эмацыйнасць беларускіх ацэнак тагачаснай сітуацыі не складана зразумець. Стартавыя пазіцыі беларускага руху ў Гародні былі найгоршымі. Так, на момант узнікнення першай беларускай пачатковай школы ў горадзе ўжо існавалі і дзейнічалі польскія школы рознага ўзроўню, некалькі польскіх грамадскіх і дабрачынных арганізацый, у тым ліку музычнае таварыства "Муза", Дом працы, Адукацыйная рада, працягваў існаваць Грамадзянскі камітэт пад кіраўніцтвам князя Я.Сапегі.

Каардынатарам гэтай актыўнай грамадскай дзейнасці на карысць мясцовай польскай супольнасці і пашырэння польскай асветы было Польскае Таварыства дапамогі ахвярам вайны, больш вядомае ў горадзе як *Польскае* таварыства. У ліпені 1916 г. да яго кіраўніцтва належалі ўжо згаданы князь Я.Сапега, а таксама гарадзенскі дэкан ксёндз Адам Жаброўскі, ксёндз Антоні Курыловіч, адвакат Казімір Гедройц, граф Міхал Красіньскі, доктар Аляксандр Тальгейм, інжынер Ежы Цытаржынскі ды інш.[78]

Таксама існавалі габрэйскія школы і прытулкі, Таварыства культуры "Judisz kunst" ды інш.

[78] L. J-czyk. Praca społeczna, dobroczynna i oświatowa w Grodnie // Głosy z-nad Niemna. Jednodniówka Grodzieńska. 1917. I. Wilno, 1918

Без істотнай дапамогі звонку беларуская справа вялікіх шансаў не мела. Але такая дапамога была неабходнай і для іншых супольнасцяў, у т.л. і для палякаў, якія мелі непараўнальна лепшыя, чым беларусы, магчымасці для развіцця ў Гародні нацыянальнага руху. Апошняе стала відавочным увосень 1918 г., калі Расійская імперыя стала фактам гісторыі, а Германская імперыя апынулася ў адным кроку ад капітуляцыі і рэвалюцыі.

Дзеячы польскага руху ад пачатку Першай сусветнай вайны па абодвух баках фронту шукалі магчымасці вяртання "польскага пытання" ў парадак дня еўрапейскай палітыкі. І гэтая дзейнасць аказалася плённай. У лістападзе 1916 г. манархі Германіі і Аўстра-Венгрыі падпісалі Маніфест аб стварэнні "самастойнага" Польскага Каралеўства ў расійскай частцы Польшчы. Значную ролю ў гэтым адыгралі "легіёны" Юзафа Пілсудскага, якія ваявалі на баку Цэнтральных дзяржаваў. Пасля расійскай Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Часовы ўрад князя Львова прызнаў права Польшчы на самавызначэнне. У ліпені 1917 г. Юзаф Пілсудскі быў інтэрнаваны, а ягоныя часткі расфарміраваныя за адмову прынесці прысягу імператарам Цэнтральных дзяржаваў. Праз месяц Польскі нацыянальны камітэт узнік у Парыжы, дзе пачалося фарміраванне польскай арміі на чале з генералам Галерам. У студзені 1918 г. прэзідэнт ЗША Вудро Вільсон заявіў пра неабходнасць стварэння польскай дзяржавы з выхадам да Балтыйскага мора, а ў чэрвені Польшча была прызнаная краінай, якая ваюе на баку Антанты. Нарэшце, у кастрычніку 1918 г. Рэгенцыйная Рада Польшчы абвясціла незалежнасць дзяржавы.

Якраз у гэты час і вызначалася палітычная будучыня Гародні. Паводле ўмоваў Берасцейскай мірнай дамовы ад 3 сакавіка 1918 г. яна заставалася пад нямецкім кантролем. Савецкая Расія часова саступіла. Палітычнае змаганне за горад распачалі польскія палітыкі, кіраўнікі Літвы, незалежнасць якой была прызнаная Германіяй 16 лютага 1918 г., і дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Апошнія абвясцілі незалежнасць БНР 25 сакавіка 1918 г. у Менску, але не дамагліся яе прызнання з боку г.зв. "вялікіх дзяржаваў".

Увосень 1918 г. у горадзе адбывалася пэўная кансалідацыя польскіх нацыянальных сіл. У сярэдзіне лістапада тут ужо існаваў Польскі дэмакратычны камітэт, Польская арганізацыя вайсковая, Самаабарона Гарадзеншчыны (генерал М.Сулеўскі) і Галоўная Рада Гарадзенскай зямлі. Асноўнымі мэтамі дзейнасці польскіх арганізацый станавілася стварэнне вайсковых частак і правядзенне павятовага з'езду, які павінен быў прыняць зварот да Варшавы з просьбай далучэння горада і ўсяго рэгіёну да Польшчы.

Імкненне мясцовай польскай грамадскасці да свайго роду нацыянальнай прыватызацыі Гародні праявілася і на старонках друку. У 1918 г. у віленскай друкарні ксяндза А.Руткоўскага была выдадзена брашура *"Głosy z-nad Niemna. Jednodniówka Grodzieńska"*. Выданне прысвячалася памяці Тадэвуша Касцюшкі і рыхтавалася да 100-годдзя з дня яго смерці. Але асаблівую ўвагу прыцягвае гістарычны раздзел зборніка з артыкуламі пра "польскі перыяд" гісторыі Гародні (*"Grodno w polskim okresie jego dziejów"*), адносіны да горада Элізы Ажэшкі, лёс езуіцкага калегіума і палаца А.Тызенгаўза ды інш. Усе гэтыя тэксты, аўтары якіх не пазначаныя або схаваныя пад псеўданімамі ці крыптонімамі, яднала перакананне ў моцы польскай гістарычнай традыцыі Гародні, у неабходнасці яе аднаўлення як падмурку для далейшага развіцця горада і працы сучасных пакаленняў дзеля росквіту польскай нацыі. Варта адзначыць, што ў першым з гэтых артыкулаў уласна "польскі перыяд" гісторыі Гародні распачынаўся падзеямі Крэўскай уніі і заканчваўся смерцю каралеўскага старасты Антонія Тызенгаўза.

А вось беларускія грамадска-палітычныя сілы адзінства не мелі. На працягу восені 1918 г. паміж рознымі беларускімі групоўкамі ў Гародні ішла зацятая барацьба. У вялікай ступені гэта было абумоўлена надзвычай невыгоднай сітуацыяй для беларускай працы. Паводле беларускага дзеяча І.Антонава, у жніўні 1918 г. у Гародні пражывала каля 28 тысяч габрэяў, 9 тысяч каталікоў і толькі 3 тысячы праваслаўных, пераважна беларусаў[79].

[79] Цыт. па: Латышонак А. Жаўнеры БНР. Вільня, 2009. С. 75

На гэты момант тут існавала толькі адна беларуская арганізацыя “Сувязь культурна-нацыянальнага Адраджэння Беларусі”, якую яшчэ ў 1917 г. стварыў Аляксандр Грыкоўскі. У 1918 г. яна ўзмоцнілася дзякуючы вяртанню ў Гародню свядомых беларусаў-рэпатрыянтаў (у прыватнасці, Паўла Аляксюка і Андрэя Якубецкага), а ў верасніператварылася ў Гарадзенскі Беларускі нацыянальны камітэт (БНК), які дзейнічаў як прадстаўніцтва Віленскай Беларускай Рады.

Апроч беларусаў з магчымасці вярнуцца ў Гародню скарысталі таксама многія былыя царскія чыноўнікі, вайскоўцы і праваслаўнае духавенства. Яны стварылі Гарадзенскую расійскую управу, якая на пачатку снежня правяла Першы гарадзенскі беларускі губернскі з’езд. Матэрыялы гэтага з’езду сведчаць, што яго арганізатары не бачылі аніякай розніцы паміж беларусам і рускім. Фактычна адбылося палітычнае вяртанне ў Гародню дактрыны “заходнерусізму”. Аднак дыскусіі, якія разгарнуліся падчас з’езду, прымусілі кіраўнікоў (Яўграф Курлоў) унесці пэўныя карэктывы ў сваю дзейнасць. У прыватнасці, створаная арганізацыя атрымала назву “Гарадзенская беларуская губернская ўправа”.

Напрыканцы 1918 г. яна наладзіла адносіны з урадам Літвы і Міністэрствам беларускіх справаў (МБС) пры гэтым урадзе (Язэп Варонка) і выказвалася за далучэнне Гарадзеншчыны да Літвы на правах аўтаноміі. Аднак гарадзенцаў такая перспектыва зусім не вабіла, а дзеячы польскіх арганізацый глядзелі на дзейнасць Я.Курлова і ягоных аднадумцаў як на спробу вярнуць расійскую ўладу[80].

У сярэдзіне снежня ўжо Гарадзенскі БНК правёў у Гародні павятовы з’езд, у якім удзельнічалі вядомыя беларускія палітыкі Вацлаў Ластоўскі, Аркадзь Смоліч, Лявон Заяц ды інш. З’езд абраў Беларускую павятовую сялянскую раду і выказаўся за Гародню ў незалежнай Беларусі. Выразна пазначылася канфрантацыя паміж арганізацыямі, якія прэтэндавалі на прадстаўніцтва беларускіх інтарэсаў.

[80] Блашчак Т. Міністэрства беларускіх справаў ураду Літоўскай Рэапублікі (1918-1924) // ARCHE. 2010. № 102. С. 240

Напрыканцы лістапада па ініцыятыве кіраўніка нямецкай адміністрацыі барона Зекендорфа ў горадзе быў створаны новы орган самакіравання Часовы гарадскі камітэт, які павінен быў прыняць ад немцаў гарадскую гаспадарку. У ягоны склад увайшлі прадстаўнікі габрэйскага, польскага і беларускіх камітэтаў. Камітэт узначаліў паляк Эдвард Лістоўскі. Трэба прызнаць, што ў Камітэце адразу распачалася палітычная барацьба, у якой пазіцыі нешматлікіх беларускіх прадстаўнікоў аслабляліся спрэчкамі паміж імі.

Вельмі насычаным палітычнымі падзеямі аказаўся канец 1918 г. На гэта паўплываў наступ Чырвонай арміі, пасля таго як Савецкі ўрад у лістападзе 1918 г. заявіў пра ануляванне ўсіх ранейшых дамоваў з Германіяй.

Урад БНР пакінуў Менск. 27 снежня ў Гародню прыехаў кіраўнік Рады міністраў БНР Антон Луцкевіч і шэраг сяроў Рады. Гатэль "Еўропа" стаўся галоўнай сядзібай беларускіх палітыкаў, а Гародня на некалькі месяцаў ператварылася ў неафіцыйную сталіцу БНР. Аднак беларускі ўрад не меў фінансавых сродкаў, і ягоныя ўплывы былі моцна абмежаваныя.

3 студзеня 1919 г. у Гародню таксама прыехаў кіраўнік МБС Язэп Варонка. Гісторык Тамаш Блашчак лічыць перыяд дзейнасці МБС у Гародні самым інтэнсіўным за ўсю гісторыю гэтага ведамства. Да пачатку сакавіка тут знаходзіліся канцылярыя, Вайсковы сакратарыят, Аддзелы грамадзянскіх справаў, друку і інфармацыі.

Фактычна са студзеня па сакавік 1919 г. Гародня з'яўлялася цэнтрам беларускага руху. Апроч урада БНР і МБС у горадзе дзейнічалі тры беларускія культурна-асветніцкія арганізацыі "Беларуская хатка", "Лучына" і "Бацькаўшчына", выходзілі газеты "Беларускі народ" і "Бацькаўшчына". Таксама на Гарадзеншчыне працавалі 42 беларускія школы. Паводле інфармацыі газеты "Беларус" (№ 3), напрыканцы сакавіка ў горадзе адбыўся Беларускі настаўніцкі з'езд, па вынікам якога быў створаны "Беларускі вучыцельскі хаўрус Гарадзеншчыны".

Апроч таго з канца 1918 г. у Гародні пад эгідай МБС адбывалася фармаванне беларускіх вайсковых частак у складзе літоўскай арміі. Дзякуючы вялізарным высілкам капітана Мікалая Дзямідава быў сфармаваны Першы Беларускі пяхотны полк і спецыяльны батальён камендатуры. Разам яны налічвалі прыблізна 1150 чал.[81] Варта адзначыць, што гэта адбылося пры вельмі моцным супраціве з боку дзеяча ў польскага руху, дзе асаблівай актыўнасцю адрозніваўся Камісар польскага ўраду на Гарадзеншчыне Станіслаў Іваноўскі.

Аднак беларускія нацыянальныя сілы так і не здолелі дасягнуць паразумення. Найважнейшай кропкай нязгоды стала праблема выбару саюзніка ў новай сітуацыі. Пралітоўскі накірунак, якога прытрымліваўся Язэп Варонка і Гарадзенская беларуская губернская управа цалкам залежыў ад немцаў, дзеянні якіх у гэты перыяд, па вызначэнню даследчыка Алега Латышонка, мелі ўсе прыкметы хаосу. А вось А.Луцкевіч разлічваў на польскую падтрымку.

Рознагалоссі сярод беларусаў выразна паўплывалі на выνікі выбараў у Гарадскую Раду, якія адбыліся ў лютым. Паводле падлікаў Андрэя Чарнякевіча, ад беларускіх арганізацый былі абраныя толькі двое радных (У.Боеў і П.Аляксюк), у той час як габрэйскія арганізацыі атрымалі 23 месцы, а польскія – 11. Рэальных магчымасцяў уплываць на прыняцце важных для жыцця гораду рашэнняў беларусы не мелі.

Тым часам палітыкі Антанты прынялі рашэнне пра перадачу немцамі Гарадзенскай крэпасці польскім вайскоўцам, што ў вялікай ступені перадвызначыла палітычную будучыню горада. Пра гэтае рашэнне беларусы даведаліся ў лютым, і паступова пачалася эвакуацыя беларускіх арганізацый. Праўда, у Гародні застаўся Беларускі полк, што, паводле А.Латышонка, магло адбыцца па волі ўраду БНР, які ў гэты час, дзякуючы ўкраінскаму крэдыту пачаў фінансава ўтрымліваць беларускіх вайскоўцаў. Камандаванне палка падпісала дамову з польскімі

[81] Латышонак А. Жаўнеры БНР. С. 77.

вайскоўцамі наконт ягонага магчымага выкарыстання ў вайне з бальшавікамі.

Таксама ў сакавіку прадстаўнікі беларускіх сацыялістычных партый і арганізацый правялі сход, на якім была створана Цэнтральная Беларуская рада Гарадзеншчыны (ЦБРГ), на чале якой стаў П.Аляксюк.

Апошнія месяцы нямецкай акупацыі Гарадзеншчыны былі надзвычай цяжкімі для цывільнага насельніцтва. Хаос і распад германскай мілітарнай моцы абарочваўся масавымі гвалтамі і тэрорам, рабаваннем і вывазам чужой маёмасці. Пры гэтым нямецкая адміністрацыя прымусіла Гарадскую раду заплаціць вялікую суму за тыя рэшткі гарадской гаспадаркі, якія не былі вывезеныя і разрабаваныя. Пратэстуючы супраць нямецкіх рабункаў, 30 сакавіка 1919 г. Галоўная польская рада Гарадзенскай зямлі зноў звярнулася да Варшавы з просьбай узяць Гарадзеншчыну пад апеку і абарону Польшчы. Мемарандум падпісалі старшыня Рады ксёндз Л.Жаброўскі, віцэ-старшыня Ст.Іваноўскі, сакратар А.Жабакліцкі ды інш.[82]

28 красавіка 1919 г. польскія войскі занялі Гародню. На наступным дзень Прэзідыум ЦБРГ выступіў з заявай "Да беларускага народу": *"Учора старая Гародня пабачыла сьцягі войск Польскай Дзяржавы, якія занялі гэтае адвечнае беларускае места. Стрэньце, Беларусы, новых госьцеў свайго краю з поўным спакоем і пэўнасьцю. Дзяржава Польская ваюе з Маскоўшчынай, якая ніколі не была прыязнай да нас, больш таго, якая дзікім і цёмным* гвалтам *душыла і душыць дагэтуль нашае нацыянальнае жыцьцё [...] Войскі польскія ідуць для барацьбы туды на Усход. Але разам з тым мы ў гэты нязвычайны час, калі важыцца доля народаў, павінны яшчэ мацней і галасьней сказаць на ўвесь сьвет, што жыве незалежная Беларусь; няхай на абшарах яе нямецкую акупацыю зьмяніла польская, адно панаваньне саступае месца другому, але ў нашых сэрцах дванадцацёхміліённага народу жыве гэтая ідэя і ніхто ня зможа яе задушыць.*

[82] Gierowska-Kałłaur J. Zarząd Cywilny Ziem wschodnich (19 lutego 1919 – 9 września 1920). Warszawa, 2003. S. 47.

*Нас, гаспадароў сваёй зямлі, не зрабіць падуладнымі! Ніхто ня зможа адняць наша права на незалежнае існаваньне. У імя гэтай вялікай праўды цясней лучыцеся з намі – Вашымі прадстаўнікамі. Толькі ў такой еднасці мы зможам адстаяць сваю волю, сваю Незалежную Беларускую Народную Рэспубліку!"*

Першапачаткова польска-беларускія адносіны развіваліся даволі паспяхова. Так, 3 мая Беларускі полк удзельнічаў у парадзе польскіх войскаў. У Гародні па ініцыятыве У.Курбскага ўзнікла арганізацыя "Грамада беларускай моладзі". Дзякуючы намаганням аднаго з кіраўнікоў беларускіх эсэраў Тамаша Грыба пачала выходзіць газета "Родны край" як орган ЦБРГ. Паступова ініцыятыва ў гарадзенскім беларускім руху пераходзіць у рукі эсэраў.

Пэўнай радыкалізацыі беларускага руху паспрыяла раззбраенне польскімі ўладамі Беларускага палка. 29 красавіка полк перайшоў у падпарадкаванне польскага каменданта Гарадзенскай крэпасці. Гэтыя перамены выклікалі стыхійную дэмабілізацыю. Полк пакідалі беларусы. Урэшце польскія ўлады прынялі рашэнне пра яго раззбраенне і ліквідацыю. Гэта адбылося 11 чэрвеня пасля таго, як камандаванне палка адмовілася выканаць загад каменданта пра передыслакацыю ў Слонім. Салдат-каталікоў адвялі ў польскія казармы, а астатнім уручылі пасведчанне пра дэмабілізацыю.

Польска-беларускі канфлікт у Гародні наспяваў. Яго прыспешыла публікацыя артыкула Янкі Чарапука "Правам ці мячом" на старонках "Роднага краю" (1919, № 5), які заклікаў да змагання за незалежнасць: *"...Усе разам грамадой станемо под нацыянальна-рэвалюцыйны штандар Беларусі і ўсе пойдзем здабываць вольнасьць незалежнасьць, руйнуючы гнёзды двухглавых і аднаглавых арлоў, якія раскіданы па нашай зямліцы..."* У адказ па Гародні пракацілася хваля арыштаў сярод беларускіх дзеячаў.

Пачаўся наступ на беларускае школьніцтва. Рэалізацыя гэтага курса стала важным накірункам працы школьнага інспектара

Р.Вазнякоўскага. Зачыняліся таксама беларускія арганізацыі. Увесну 1920 г. у горадзе засталіся толькі Грамада беларускай моладзі, Гарадзенская беларуская вучыцельская Рада і Гарадзенскі БНК, які ўзначаліў Сяргей Баран.

Але ўлетку 1920 г. пачаўся наступ Чырвонай арміі. У сярэдзіне ліпеня часткі 3 коннага корпусу Гая прарваліся да Гарадзенскай крэпасці. 19-23 ліпеня ў горадзе і наваколлі ішлі цяжкія баі. Горад гарэў, але пажары былі наступствам не толькі артылерыйскіх абстрэлаў, але і марадзёрства і рабункаў маёмасці мясцовага насельніцтва, у першую чаргу габрэяў, чым асабліва адрозніваліся польскія салдаты.

Толькі 24 ліпеня бальшавікі канчаткова занялі Гародню. У гэты ж дзень быў створаны Гарадзенскі ваенна-рэвалюцыйны камітэт (рэўкам). Ад пачатку жніўня на чале яго стаяў паляк Адам Славінскі (Качароўскі), а намеснікам быў беларус Міхаіл Кунда[83]. 25 ліпеня быў арганізаваны Ваенны трыбунал і павятовая міліцыя. Распачалася барацьба з "контррэвалюцыйным элементам".

Гісторык Андрэй Чарнякевіч упэўнены, што перамога Чырвонай арміі падарвала веру гараджанаў у моц польскай зброі, а гвалт і рабункі з боку адступаючых польскіх вайскоўцаў паспрыялі саветызацыі насельніцтва, асабліва габрэяў. Партыя Бунд нават арганізавала некалькі мітынгаў у падтрымку савецкай улады, а габрэі былі даволі шырока прадстаўленыя ў рэўкаме. Частка мясцовага польскага насельніцтва таксама пайшла на супрацоўніцтва з бальшавікамі.

Дзеячы мясцовага беларускага руху віталі палітычныя перамены і далучыліся да фарміравання новых органаў улады. Так, Сяргей Баран стаў кіраўніком юрыдычнага аддзела рэўкама, Аркадзь Смоліч уладкаваўся кіраўніком агранамічнага пададзелу, іншыя беларускія дзеячы заняліся арганізацыяй культурнага жыцця і школьніцтвам.

Аднак даволі хутка высвятлілася варожае стаўленне бальшавікоў да нацыянальна-культурнай працы беларусаў.

[83] Чарнякевіч А. "Новая ўлада". З гісторыі саветызацыі Гародні ў гады польска-бальшавіцкай вайны // Гістарычны альманах. 2012. Том 18. С. 91

У сярэдзіне верасня былі арыштаваныя і вывезеныя з горада ў якасці закладнікаў кіраўнік Гарадзенскага БНК С.Баран і сакратар Камітэту Сымон Якавюк. Стаўленне беларусаў да савецкай улады кардынальна змянілася. Яны нават пачалі планаваць "нацыянальна-вызваленчую акцыю", якую маглі ўзначаліць кіраўнікі беларускай вайсковай арганізацыі "Зялёны дуб" палкоўнік Вячаслаў Адамовіч і ягоны сын. Але гэтыя перамены не абмяжоўваліся толькі беларусамі. За кароткі час свайго панавання бальшавікі здолелі настроіць супраць сябе абсалютную большасць гарадзенцаў.

Асабліва цяжкімі аказаліся апошнія дні савецкай улады, калі ўжо прыйшла інфармацыя пра разгром войскаў камандарма М.Тухачэўскага пад Варшавай. Андрэй Чарнякевіч на падставе матэрыялаў польскага гарадзенскага друку 20-30-х гг. сцвердзіў, што ў гэты час з Гародні ў накірунку Ліды было вывезена каля 400 польскіх закладнікаў, сярод якіх былі каталіцкія святары з Францішканскага і Фарнага касцёлаў. На гарадскіх ускраінах расстрэльвалі закладнікаў з Цэнтральнай Польшчы. Таксама загінулі гарадзенцы, якія ўваходзілі ў склад мясцовай Польскай арганізацыі вайсковай ды інш.

Вось, як пазней апісваў вынікі "бальшавіцкага раю" Юзаф Ядкоўскі: *"Дзесяткі растраляных і сотні вывезеных у глыб Расіі польскіх закладнікаў, здзекі над палякамі, знішчэнне гаспадаркі, рабунак ўсяго, што можна было за гэты час разрабаваць..."*

Звесткі пра набліжэнне польскіх войскаў выклікалі паніку сярод савецкіх вайскоўцаў і чыноўнікаў. Эвакуацыя больш нагадвала панічныя ўцёкі. Беларускія дзеячы засталіся ў горадзе.

26 верасня 1920 г. у Гародню разам з войскам вярнулася польская ўлада. Беларуска-польскія адносіны на пачатку складваліся даволі добра. Прынамсі аднаўленне дзейнасці беларускіх арганізацый і органаў друку не сустракала перашкодаў. Больш за тое, стараста Альфонс Розэн і прэзідэнт горада Эдвард Лістоўскі абяцалі падтрымаць беларускае школьніцтва. Га-

радзенская газета “Беларускае слова” ў сваім першым нумары за 2 кастрычніка 1920 г. абвяшчала галоўнаю мэтаю беларускай краёвай інтэлігенцыі дасягненне незалежнасці і выказвала ўпэўненасць, што *“дэмократычная Польшча, напісаўшая на штандары сваім імя і ідэю Пілсудскага, чынна паможа Беларусі здабываць незалежнасьць”*. У гэтым жа нумары паведамлялася пра другі тыдзень мірных перамоваў у Рызе паміж дэлегацыямі Савецкай Расіі і Польшчы.

Аднак у Рызе перамагла не ідэя федэралізму Ю.Пілсудскага, а канцэпцыя Р.Дмоўскага, накіраваная на пабудову нацыянальнай польскай дзяржавы. “Рыжская мяжа”, якая падзяліла беларускія і ўкраінскія землі, перакрэслівала надзеі на існаванне незалежнай беларускай дзяржавы.

Рэакцыя беларусаў была даволі вострай. Тое ж “Беларускае слова” (№ 9) адгукнулася артыкулам “Падзел Беларусі”: *Сталася! Мір няспраўядлівы, ня лічачыся з існаваньнем жывых народаў, Рыжскі мір, падпісаны. Збыліся даўнія летуценьні польскай эндэцыі. Удалося ім нарэшце падзяліць Беларусь і правесьці лінію падзелу цераз самое сэрца яе, каб ужо ні пры якіх варунках не магла яна адрадзіцца ў сваёй суцэльнасьці, у сваім даўнім вялічу. [...] Мір падпісаны... Мы не такога міру спадзяваліся і не такіх адносін да нашай справы Польскага ўраду. [...] Мы не спадзяваліся такой капітуляцыі дэмакратычнай Польшчы. [...] Смутныя, смутныя перспектывы... Бацькаўшчына мусіць запозна абудзілася да жыцьця, што ўсё складаецца не на яе карысьць, усюдых яна праіграе, і цяпер, калі ўсе суседзі яе сталі ўжо на ўласныя ногі, яна ляжыць бяспомачная і бязабаронная...”*

А праз некалькі дзён газета (№ 13) ўжо заклікала чытачоў не апускаць рукі, а працягваць дзейнасць за незалежную і непадзельную Беларусі: *“Нашыя дамаганьні незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі можа і не здзейсьняцца ў цэласьці зараз жа. Мы хацелі перамогі справядлівасьці, легкага і добрага развязаньня справы. Доля судзіць іначай. Яна прымушае нас*

*прайсці доўгую школу цярпеньняў, каб тая незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі, якой мы ўрэшце дабʼемся, каб яна мела ў нашых вачох належную цану, каб мы ведалі, чым яе адкупілі. І за тым у сьведамага беларуса не павінны адваліваццa рукі ад жалю зза недасьцігнутага ідэалу, а наадварот, рукі гэтыя павінны набірацца новых сілаў, каб рабіць, рабіць, каб цяжкай працай сваёй зблізіць ідэалы справядлівасьці".*

1 лістапада 1920 г. Гарадзенскі БНК заявіў афіцыйны пратэст супраць Рыжскай дамовы. На гэтым польска-беларускае супрацоўніцтва ў Гародні закончылася. Пачаўся чарговы перыяд канфрантацыі. У студзені 1921 г. загадам старасты Рагалевіча было зачыненае "Беларускае слова" і спыненая дзейнасць Гарадзенскага БНК. Камітэт перайшоў на нелегальнае становішча.

## ГАБРЭЙСКІ КВАРТАЛ ГУБЕРНСКАГА ГОРАДА

У канцы XVIII – пачатку XX ст. гарадзенскія габрэі былі адметнай сацыяльнай групай з выразна акрэсленымі эканамічнымі функцыямі. Яны зʼяўляліся важным для гарадской гаспадаркі гандлёва-прамысловым класам.

Гародня трапіла ў склад мяжы габрэйскай аселасці, г.зн. тэрыторыі ў заходняй і паўднёвай частцы Расійскай імперыі, якую нельга было пакідаць вернікам іудзейскага веравызнання. Яна зʼяўлялася своеасаблівым востравам у прасторы сельскай акругі, дзе габрэям з 1804 г. таксама было забаронена пражываць. Усё гэта абумовіла высокую ступень канцэнтрацыі габрэяў менавіта ў горадзе. У 1807 г. тут жыло каля 2,5 тыс. габрэяў, у 1848 – амаль 8, 4 тыс., а ў 1897 – без малага 47 тыс. Але пры гэтым доля габрэяў сярод усіх гарадзенцаў нават зменшыла-

ся. Так, у 1816 г. яны складалі 85% гараджанаў, у 1859 г. – 53%, у 1887 г. – 69%, а ў 1898 г. – 50%.

Змяншэнне долі габрэяў звязана як з колькасным ростам хрысціянскай супольнасці ў выніку наплыву чыноўнікаў і вайскоўцаў, так і з хуткім развіццём суседняга Беластока як буйнога прамысловага цэнтра. Беласток вабіў магчымасцю знайсці працу на фабрыцы ці заводзе. У выніку, калі ў 1843 г. габрэйскае насельніцтва Гародні складала больш за 8,5 тыс. чал., а Беластока – каля 6,8 тыс., то ў 1855 г. у губернскай Гародні налічвалася толькі каля 8,5 тыс. габрэяў, а ў павятовым Беластоку іх колькасць дасягнула 9,3 тыс.

На працягу апошняй чвэрці XVIII – першай паловы XIX ст. большасць гарадзенскіх габрэяў належала да мяшчанскага саслоўя. Гэтая група ўключала нізы габрэйскага грамадства – дробных гандляроў, пасрэднікаў, нецэхавых рамеснікаў, падзёншчыкаў. Сюды таксама трапілі службовыя асобы кагалу, рабіны і служкі пры сінагозе. У 1807 г. сярод мужчынскай часткі габрэйскага насельніцтва было 65% мяшчан (1,7 тыс.).

Саслоўе "фабрыкантаў і рамеснікаў" вылучалася ў асобную групу згодна фіскальнай логіцы. Сюды трапілі зарэгістраваныя ўладамі ўласнікі кустарных майстэрань і мануфактур, цэхавыя рамеснікі. У 1807 г. у Гародні яны складалі 30% мужчынгабрэяў (785 чал.).

Да саслоўя купцоў належалі толькі 24 чалавека (0,9%). Трапіць у купецкае саслоўе было прэстыжна і карысна, бо для прадстаўнікоў гэтай сацыяльнай групы існавалі ільготы. Яшчэ Кацярына II дазволіла купцам плаціць падаткі не кагалу, а ратушы ці магістрату, што пазбаўляла ад неафіцыйных кагальных "складчын". Купцы I гільдыі маглі пакідаць мяжу аселасці дзеля гандлю, а закон 1859 г. нават дазваляў ім разам з сем'ямі жыць па ўсёй тэрыторыі імперыі, у тым ліку ў сталіцах. Пасля ўвядзення ў 1827 г. рэкруцкай павіннасці для габрэяў найважнейшым стала тое, што дзяцей купцоў не бралі ў армію. Многія бацькі на

апошнія грошы куплялі пасведчанне, каб уратаваць сыноў ад 25-гадовай рэкрутчыны. Адпаведна, не ўсе гарадзенскія купцы (асабліва III гільдыі) былі заможнымі гандлярамі.

Сярод габрэяў Гародні былі нават земляробы – 10 чал. (0,4%). У часы праўлення Аляксандра I і Мікалая I урад імкнуўся змяніць прафесійную структуру габрэяў шляхам насаджэння "вытворчых" заняткаў. Лепшым сродкам перавыхавання *"лянівых габрэяў, якія эксплуатуюць і рабуюць хрысціян"* (так характарызавалі габрэяў расійскія рэфарматары XIX ст.), лічылася земляробства, у сувязі з чым у мяжы габрэйскай аселасці ствараліся спецыяльныя габрэйскія калоніі. Час паказаў бесперспектыўнасць такой палітыкі. На тэрыторыі Беларусі ў адрозненні ад стэпавых маланаселеных прастораў паўднёвага захаду, калоніі не далі ніякага эканамічнага эфекту, а канчаткова збяднеўшае падчас пераезду габрэйскае насельніцтва хутка стала вяртацца да традыцыйных заняткаў. Верагодна, зафіксаваныя ў 1807 г. гарадзенскія земляробы чакалі сваёй чаргі на перасяленне ў калонію.

У сярэдзіне XIX ст. структура вызначаных дзяржавай саслоўяў пачала размывацца. З'явілася саслоўе "спадчынных ганаровых грамадзян", да якога далучаліся за мецэнацтва, выбітныя поспехі ў мастацтве альбо прамысловасці. Сярод славутых яго прадстаўнікоў была сям'я гарадзенскага друкара Мейлаховіча.

У 40-я гг. сярод гарадзенскіх габрэяў сустракаліся таксама адстаўныя ваенныя, якія пасля вяртання з арміі атрымалі права сяліцца за мяжой аселасці.

З сярэдзіны XIX ст. пачалося фарміраванне гарадзенскай габрэйскай інтэлігенцыі еўрапейскага тыпу. Гэта былі настаўнікі, якія скончылі рабінскія (пазней габрэйскія настаўніцкія) вучылішчы і працавалі ў казённых (дзяржаўных) навучальных установах з прадстаўнікамі сваёй супольнасці, медыкі і юрысты з вышэйшай адукацыяй, нешматлікія служачыя дзяржаўных устаноў (законы неаднаразова забаранялі людзям габрэйскага веравызнання працаваць у дзяржаўных структурах). У большасці

выпадкаў для спрашчэння акультурацыі ў хрысціянскім грамадстве габрэйская інтэлігенцыя мяняла імёны на еўрапейскія альбо хрысцілася, таму назваць дакладную колькасць прадстаўнікоў гэтых прафесій немагчыма.

Легітымным органам габрэйскага самакіравання ў часы Расійскай імперыі заставаўся кагал, пастаўлены пад кантроль магістрата. Кагал ажыццяўляў ахову правапарадку і гарантаваў дзяржаве збор падаткаў. Ён кіраваўся прынцыпам "кругавой парукі", менавіта колькасць падатку з асобнай сям'і вызначалася суполкай у адпаведнасці з маёмасным станам сям'і. Пры гэтым заможныя плацілі за тых, з каго плацяжы спагнаць было немагчыма.

Кагал каардынаваў абавязковую для габрэяў дабрачынную дзейнасць. Спецыяльныя службовыя асобы (габаі) узначальвалі брацтвы, якія дастаўлялі бедным прадметы першай неабходнасці, збіралі пасаг незаможным нявестам, хавалі памерлых, забяспечвалі прадметамі першай неабходнасці хворых, дзяцей і парадзіх з ліку беднякоў.

У першай палове XIX ст. на Нямецкім рынку (зараз вул. Малая Траецкая) быў адчынены габрэйскі шпіталь. У 1868 – 1871 гг. для яго быў узведзены будынак на вул. Татарскай на 60 ложкаў. У 90-я гг. XIX ст. у шпіталі працавалі тры аддзяленні – інфекцыйнае, унутраных хваробаў і хірургічнае. У штаце акрамя фельчараў з'явіліся два лекары, а папярэдне хворых два разы на тыдзень наведваў лекар вайсковага шпіталю. Пры суполцы працавала багадзельня, заснаваная ў 1878 г. Мураваны двухпавярховы будынак на вул. Баніфратэрскай мог прыняць 20 пастаяльцаў – старых і інвалідаў.

У 1870 г. пачалася гісторыя дзіцячага прытулку. Арганізацыя існавала за кошт скрыначнага падатку, сродкаў суполкі і ахвяраванняў. Дом сірот некалькі разоў мяняў адрас. Спачатку ён знаходзіўся на вул. Пераца (зараз вул. Вялікая Траецкая). У 1900 г. пераехаў на вул. Дамініканскую, 17 на месца былога габрэйскага шпіталя, для якога быў пабудаваны новы корпус.

У 1914 г. быў узведзены мураваны двухпавярховы будынак з лазняй на Скідальскім рынку. Тут жылі 80 дзяўчынак і хлопчыкаў ва ўзросце ад аднаго да 18 гадоў. Яны бясплатна атрымлівалі харчаванне, вопратку, пачатковую адукацыю і медыцынскую дапамогу. Прытулак падзяляўся на пансіён для сірот і аддзяленне для дзяцей з бяднейшых сем'яў, якія прыходзілі на вучобу.

Некаторыя брацтвы займаліся вывучэннем Торы і Талмуда, запісвалі гісторыю абшчыны ў пінкасы і г.д. Дзеля аслаблення сацыяльнага напружання і з'яднання суполкі кагал узяў на сябе функцыю рэгулятара яе эканамічнага жыцця. З дапамогай херэма (праклёну, адлучэння ад Сінагогі) ён прадухіляў магчымасць канкурэнцыі сярод габрэяў і самастойна вызначаў права асобных сем'яў на водкупы, арэнду і іншыя прыбытковыя заняткі (хазака).

Кагал меў уласныя капіталы, якія ўзнікалі за кошт ажыццяўлення спецыяльных "складчын" і фінансавых аперацый. Значных выдаткаў патрабавала ўтрыманне кагальнай адміністрацыі і немаёмасных членаў кагалу, адпраўка дэлегацый у іншыя гарады ды інш. Практычна заўсёды абшчына мела запазычанасці перад дзяржавай. Для папаўнення кагальнай касы кіраўніцтва суполкі пастаянна звярталася за пазыкамі. Цікава, што сярод яе крэдытораў у першай палове XIX ст. былі многія гарадзенскія каталіцкія манастыры, у тым ліку бернардзінцы і бернардзінкі, кармеліты і францысканцы.

У XIX ст. гарадзенскі кагал, як і іншыя структуры габрэйскага самакіравання на тэрыторыі мяжы аселасці, канчаткова ператварыўся ў алігархічную ўстанову, якая забяспечвала панаванне заможных ці "лепшых сем'яў". У Гародні асабліва вылучаліся Броўды, Ашкеназі, Шарашэўскія, Фрумкіны і Собалі. Кагальнае кіраўніцтва знаходзілася ў цесным кантакце з рабінамі. Свецкая і духоўная ўлады ўзаемна ўмацоўвалі свае пазіцыі. Першая патрабавала пацвярджэння легітымнасці і адпаведнасці сваіх рашэнняў нормам рэлігійнага закона, другая – фінансавання. Асэнсаваўшы адзінства мэтаў,

галоўнай з якіх было панаванне над габрэйскімі масамі, яны сталі дзейнічаць супольна.

Уплыў кагальна-рабінскіх вярхоў грунтаваўся на аўтарытэце рэлігіі, якая пранізвала ўсе бакі грамадскага і асабістага жыцця і падтрымлівалася кругавой парукай пры ўнясенні падаткаў. Жабрацкі стан большасці габрэяў цалкам аддаваў іх ва ўладу мясцовай "алігархіі".

Канфрантацыя абвастрылася з увядзеннем рэкруцкай павіннасці. У прыватнасці, заможныя прымушалі беднякоў разлічвацца сынамі за шматгадовыя пазыкі. Пачаліся масавыя "падчысткі" метрык. Рэкруцкія старасты замест уласных сваякоў аддавалі ў войска адзіных сыноў бедных удоў, некалькіх дзяцей з адной сям'і, хворых, і нават тых, хто не дасягнуў прызыўнога ўзросту або даўно з яго выйшаў. У пэўны момант старасты нават сталі здаваць у рэкруты 8-12-гадовых дзяцей за *"неплацёж падаткаў і парушэнне грамадскага парадку"*.

У Гародні з'явіліся "лаўцы душ", якія лавілі габрэяў, адбіралі ў іх пашпарты альбо трымалі ў астрозе да таго часу, калі канчаліся тэрміны дзеяння папер і потым здавалі ў рэкруты як *"тых, што не маюць сталага месца жыхарства"*.

У 1844 г. кагалы былі скасаваныя. У Гародні з'явілася г.зв. "габрэйскае грамадства", падпарадкаванае магістрату і дзяржаўнаму суду. Былі пакінуты толькі пасады зборшчыкаў падаткаў і рэкруцкіх стараст. Але на самой справе ўраду не ўдалося падарваць панаванне габрэйскай "алігархіі". Яна працягвала ўладарыць, маючы грошы і выкарыстоўваючы рэлігійны аўтарытэт.

Штодзённасць жыхароў габрэйскай Гародні XIX – пачатку XX ст. цалкам залежала ад сацыяльнага і маёмаснага становішча сям'і.

У сярэдзіне XIX ст. паскорыўся "выхад" заможных за межы гістарычных габрэйскіх раёнаў. На рубяжы стагоддзяў эліта габрэйскага грамадства, якая жадала падкрэсліць дыстанцыю

паміж беднасцю сваіх аднаверцаў і ўласнай фінансавай паспяховасцю, перасялялася туды, дзе жылі заможныя хрысціяне, г.зн. на цэнтральныя вуліцы горада. Умовы жыцця былі тут значна лепшымі, а набыццё нерухомасці станавілася выгодным укладаннем капіталу.

Пасля пажару 1885 г. многія габрэйскія сем'і сярэдняга дастатку перабраліся ў раён Гарадніцы, забудаваны новымі цаглянымі дамамі ў стылі эклектыкі. Невысокая шчыльнасць забудовы, двары поўныя дрэваў і іншай расліннасці, а таксама дынамічнае развіццё гэтага гарадскога квартала, ягоная аддаленасць ад прамысловых прадпрыемстваў зрабілі Гарадніцу прывабнай для сярэдняга класу.

Беднякі жылі ў цяжкіх санітарна-гігіенічных ўмовах старых габрэйскіх кварталаў. Сучаснікі апавядалі пра неверагодную беднасць, нізкую якасць жытла і вопраткі на тубыльцах. Квартал у пойме ракі Гараднічанкі ствараў уражанне трушчобаў. Мясцовыя габрэі адчувалі моцны дыскамфорт ад бруду, адсутнасці дрэваў, перанаселенасці і смуроду з сметнікаў. Паветра было сапсавана шкоднымі выкідамі прамысловасці, спакою не даваў пыл і грукат. Заможныя гаспадары рамесных майстэрань і дробных заводаў змяшчалі іх на першых паверхах жылых дамоў.

Пажар 1885 г. значна павялічыў колькасць жабракоў, што не мелі ні маёмасці, ні даху над галавой.

На габрэйскіх вуліцах трымалі коз, курэй, гусей і кароў. Бедная сям'я магла не мець хлява, таму жывёлы і людзі ўзімку жылі амаль што разам. У бедных габрэйскіх раёнах да сярэдзіны XX ст. (!) адсутнічаў водаправод. Ваду набіралі з прыватных студняў. Яе пастаўлялі таксама вадавозы, якім даводзілася браць ваду з Нёмана і ўздымацца з ёй на высокі бераг ракі. Гэтым займаліся пераважна габрэі.

Каналізацыя адсутнічала, прыбіральні стаялі побач з дамамі. Брудную ваду і памыі выносілі з хаты і вылівалі ў сцёкавыя

раўкі і нават на двор. Усё гэта пагражала эпідэміямі. У хатах беднякоў узімку панаваў холад. Будынкі абаграваліся пры дапамозе рускіх печак, якія патрабавалі шмат дроваў, на што не хапала сродкаў. У дамах заможных сустракаліся каміны, якія хоць сагравалі, але часта дымілі і таксама патрабавалі шмат дроваў. Падлогу часцей клалі драўляную, але ў многіх хатах пераважалі земляныя падлогі. Каб захаваць цяпло, вокны рабілі маленькімі, таму ў хаце звычайна было цёмна. На свечках эканомілі, запальвалі іх толькі на святы.

Істотна адрознівалася таксама харчаванне прадстаўнікоў "вярхоў" і "нізоў" габрэйскай Гародні. Так, меню заможнай сям'і складалася з супу на ялавічыне і смажаніны, моцна прыпраўленай духмянымі травамі. Рыбу (любілі фаршыраванага шчупака) гатавалі пераважна на святы. У кожным доме пяклі хлеб, на шабат – халы з пшанічнай мукі добрага гатунку, а на Песах – мацу.

Бедныя габрэі ў будзённыя дні перабіваліся чым-небудзь, каб толькі не галадаць. Галоўнай ежай быў крупнік – аўсянка з бульбай, боршч і фарфл (макаронныя вырабы) альбо лакшыня, куды дадавалі кропельку малака. Таксама харчаваліся хлебам, селядцом, кашай і поснай заціркай. Птушка і мяса з'яўляліся толькі на святы. Самыя бедныя рабілі лакшыну з жытняй мукі. Для заспакаення смагі выкарыстоўвалі самае таннае піццё – сырую ваду. Толькі хворыя пілі ў якасці лекаў цыкорый і розныя "прыправы". Традыцыя спажывання гарбаты замацавалася ў сярэдзіне XIX ст., а кава была прадметам раскошы.

Структура занятасці гарадзенскіх габрэяў склалася пад уплывам гістарычных умоваў. Ні на тэрыторыі Германіі, дзе зарадзілася культура ашкеназі, ні ў Рэчы Паспалітай, ні ў Расійскай імперыі габрэі не былі паўнапраўнымі грамадзянамі. Права ўласнасці габрэяў на зямлю было абмежавана, а ў некаторыя перыяды ім, наогул, забаранялася яе набываць.

Каб займацца гандлем альбо рамяством, а часам нават для пражывання на тэрыторыі дзяржавы, яны павінны былі мець дазвол улады. Аднак,  нават маючы прывілей, габрэі не былі ўпэўнены ў трываласці свайго становішча, бо шматразова перажывалі прымусовыя высяленні. Адпаведна, земляробства тут не мела шансаў на развіццё. Традыцыі іудаізму забаранялі жанчынам наймацца служанкамі да хрысціян і займацца разносным гандлем, патрабаванні кашрута не дазвалялі апрацоўваць свініну і свіныя скуры і г.д. Са свайго боку расійскі ўрад забараняў габрэям арандаваць у памешчыкаў землі з прыгоннымі сялянамі. Выраб і продаж алкагольных напояў неаднаразова то дазваляўся, то забараняўся ўладамі.

Аднак, нягледзячы на ўсе складанасці, гарадзенскія габрэі самым актыўным чынам удзельнічалі ў эканамічным жыцці горада. Асабліва вабіў іх гандаль. Як пісаў нямецкі даследчык гісторыі гаспадаркі С.Вайнрыб, у канцы XVIII ст. доля гандляроў сярод габрэйскай супольнасці складала 25-30%, што ў 13 разоў перавышала гэтую долю сярод хрысціян. Іншыя заняткі габрэяў таксама спалучаліся з гандлем. Шынкары і фактары куплялі ў вясковых жыхароў прадукты земляробства і прапаноўвалі ім вырабы гарадскіх рамеснікаў і прадметы раскошы. Калі габрэй быў заняты ў сферы абслугоўвання (напрыклад, быў цырульнікам), то ўзнагароду, якая нярэдка мела натуральны характар (яйкі, хлеб і г.д.), ён таксама нёс на кірмаш.

У канцы XVIII ст. самая буйная група габрэяў-гандляроў у Гародні пасрэднічала паміж горадам і вёскай. Яны пастаўлялі памешчыкам з гарадскога рынку соль і вырабы з жалезу, а з сельскай мясцовасці на кірмаш на габрэйскіх вазах ехала збожжа, сена, салома і малочныя вырабы.

А вось замежны гандаль быў у заняпадзе. Падарожнік Васіль Севяргін, які наведаў Гародню ў першыя гады XIX ст., адзначаў, што хоць хрысціянскае купецтва тут было шматлікім, замежныя тавары прапаноўвалі выключна габрэі. Багатыя купцы Шмой-

ла Яшунскі, Лейзэр Собаль, Абрам Вісцінецкі, Метэн, Гінзбург гандлявалі з Прусіяй, Саксоніяй і Аўстрыяй. Хоць гарадзенскія купцы па-ранейшаму прывозілі па Нёману піламатэрыялы і хлеб у Каралевец, а таксама перыядычна з'яўляліся на Лейпцыгскім кірмашы, аб'ём гандлю ўсё ж скарачаўся. Гаспадарка на беларускіх землях знаходзілася ў крызісе, і ўсё менш было пакупнікоў на прадметы імпарту.

Затое купцы часцей наведвалі кірмашы ў гарадах і мястэчках Беларусі (асабліва гэта тычыцца знакамітага Зэльвенскага), прывозілі ў Гародню тавары з Царства Польскага і Расіі. Габрэі манапалізавалі дробны гарадскі гандаль, дзе пераважалі невялікія капіталы, бо асноўнымі кліентамі з'яўляліся незаможныя мяшчане і сяляне.

Наогул, недахоп капіталаў быў ледзьве не асноўнай праблемай гарадзенскіх купцоў. Прыходзілася звяртацца па пазыкі да аднаверцаў і заможных хрысціян, крэдыторамі купецтва з'яўляліся таксама манастыры.

Пра мізэрнасць гандлю сведчыць наступны факт: у 1822 г. сярэдні памер габрэйскага гандлёвага капіталу ў Гародні складаў усяго 275 руб. Нават у павятовых гарадах Гарадзенскай губ. ён быў большым: у Лідзе – 515 руб., у Ваўкавыску – 475 руб. Магчыма, кошты і заробкі зніжаліся ў выніку больш моцнай канкурэнцыі паміж гандлярамі.

Тое ж самае адбывалася ў рамесніцкім асяроддзі. Беднасць габрэйскага насельніцтва была выклікана перанаселенасцю мяжы аселасці і вузкасцю прафесійнай сферы. Горад не патрабаваў столькі шаўцоў, краўцоў і гандляроў, але знайсці іншую працу было немагчыма. На дзяржаўную службу габрэяў не прымалі, буйная прамысловасць адсутнічала, выехаць у Цэнтральную Расію не дазваляла мяжа аселасці, а самаізаляцыя габрэйскай супольнасці ў межах уласнай традыцыйнай культуры на працягу першай паловы XIX ст. закрывала для яе прадстаўнікоў шлях акультурацыі і атрымання "вольнай прафесіі".

Гандлёвае жыццё канцэнтравалася перш за ўсё на Рынку. На галоўнай плошчы гораду знаходзілася шмат крамаў і лавак, адныя з іх належалі габрэям, другія яны арэндавалі ў магістрата (напрыклад, у 1834 г. у арэндзе габрэяў знаходзілася 83 крамы). Тут стаялі будкі рамеснікаў, якія гучна рэкламавалі свае вырабы, па Рынку хадзілі латочнікі, пасрэднікі (фактары) спынялі селяніна і памешчыка, прапаноўваючы карысны "гешэфт". На Рынку прызначалі сустрэчы, дэманстравалі новыя строі, збіралі інфармацыю пра гандлёвых партнёраў і перспектыўных жаніхоў. Нарэшце, менавіта тут ствралася грамадская думка.

Гандаль таксама квітнеў на вузкіх вуліцах габрэйскага квартала. Падарожнікі распавядалі пра шматлікія латкі каля хатаў, з якіх прадавалі абаранкі, рыбу, гаспадарчыя дробязі. Тут справы вялі жанчыны, часцей за ўсё старэйшыя дочкі, а іх маці ў гэты час мылі бялізну і прыбіралі ў дамах багатых габрэяў, сядзелі ў крамах альбо рамеснічалі.

Кошты ў габрэйскіх крамах звычайна былі меншымі, чым у хрысціянскіх, таму што стратэгія купцоў-габрэяў базавалася на хуткім абароце капіталаў. Навацыяй была шматпрофільнасць крамаў, дзе можна было купіць усё ад галантарэі і бакалеі да вопраткі і калёснай мазі. Перамозе габрэяў над хрысціянскімі гандлярамі таксама спрыяла вялікая працягласць працоўнага дня (габрэйскія крамы працавалі да апошняга кліента) і актыўная рэклама паслуг.

Гандляры таксама разносілі інфармацыю (нямецкі гісторык Хайка Хаўман лічыў іх свайго роду культурнымі пасрэднікамі) і былі самымі актыўнымі прадстаўнікамі габрэйскага боку ў адносінах з хрысціянскім светам.

Бяднейшыя прадстаўнікі гарадзенскага габрэйства ў першай палове XIX ст. выступалі ў якасці фактараў (маклераў). Яны даставалі патрэбныя тавары і збывалі лішкі, кантактавалі з купцамі і сялянамі, што набліжала іх да гандляроў. Розніца паміж прадстаўнікамі гэтых прафесій заключалася ў адсутнасці

ў фактара ўласнага капіталу. Яго задача зводзілася да таго, каб звесці пакупніка з прадаўцом, сабраць належную інфармацыю. Марай кожнага была пасада "асабістага фактара" пры магнаце, даручэнні якога трэба было выконваць. Цікава, што яна нярэдка была спадчыннай.

Фактары знаходзіліся на самым нізе купецкай іерархіі, а на вяршыні яе панавалі пастаўшчыкі скарбу ("казны") Моўша Андрэс, Мендэль Собаль, Лейзэр Леў, Броўда, Абрам Эпштэйн, Борух Камянецкі, Янкель Данцыг ды інш. Якраз яны ў 30-50 гг. XIX ст. забяспечвалі правіянцкія склады расійскай арміі на тэрыторыі Гарадзенскай губерні харчовымі прыпасамі, фуражом, свечкамі і вопраткай.

Габрэі пераважалі сярод рамеснікаў. Дакументы сведчаць, што ў 1835 г. сярод рамеснікаў Гародні было каля 1,3 тыс. іудзеяў (70%) і толькі 556 хрысціян. Але гэтая інфармацыя няпоўная. Большасць габрэяў не ўваходзілі ў цэхі, а таму не трапілі ў дзяржаўную статыстыку. Дарэчы, цэхі спрабавалі змагацца з "габрэйскім нашэсцем". Напрыклад, у 1826 г. майстры рыбацкага цэха звярталіся да губернатара са скаргай на падрыў свайго "бізнесу" з боку габрэяў.

Габрэі Гародні праяўлялі высокую актыўнасць у сферы фінансаў. Канец XVIII – першая палова XIX ст. – час развіцця дробнага ліхвярства, а ў 60-70-я гг. XIX ст. габрэйскія "алігархі" актыўна ўваходзілі ў існуючую фінансава-крэдытную сістэму.

Вялікі ўплыў мелі габрэі ў Першым і Трэцім гарадзенскіх таварыствах узаемнага крэдыту. Іх мэтаю было забеспячэнне магчымсці атрымаць дробны крэдыт на працяглы час пад невысокі працэнт бедным слаям гарадскога насельніцтва, у першую чаргу рамеснікам і гандлярам. У 1896 г. купец першай гільдыі М.Эльяшаў адчыніў у Гародні банкірскую кантору, якая вяла ўлік векселяў, чыгуначных накладных і квітанцый транспартных таварыстваў, давала пазыкі пад працэнтныя паперы і тавары, прымала грошы па ўкладах і на цякучы рахунак

і г.д. Працягвалі існаваць таксама ламбарды, напрыклад, Лейбы Смажановіча. Напярэдадні Першай сусветнай вайны ў Гародні было шэсць габрэйскіх банкаў.

Шмат габрэяў было сярод арандатараў. Напрыканцы XVIII – у першай палове XIX ст. заможныя купцы і мяшчане бралі на ўтрыманне гарадскія і спецыяльныя габрэйскія падаткі (свечкавы і скрынкавы зборы), арандавалі пераправы. Папулярным заняткам была арэнда сукнавальных і мукамольных млыноў у прадмесцях Гародні, напрыклад, на тэрыторыі сучаснага раёну Фолюш. На рубяжы XIX – XX ст. заможныя габрэі ператвараліся ў ранцье.

Вельмі распаўсюджаны быў выраб і продаж алкагольных напояў, які ажыццяўляўся праз корчмы, харчэўні і піцейныя дамы. Акрамя гарэлкі тут прапаноўвалі халодныя закускі (гародніну, селядцы, яйкі).

У 1856 г. у Гародні габрэйскія пункты продажу алкаголю размяркоўваліся наступным чынам. На Брыгіцкай вул. месціліся пяць заезных двароў і два піцейных дома, на Баніфратэрскай – адпаведна чатыры і дзевяць, на Маставой – 18 піцейных дамоў, на Бернардзінскай – пяць, на Падольнай – 14. Занёманскі фарштат прапанаваў паслугі чатырох заезных двароў, 19 піцейных дамоў, адной карчмы з гатэлем і чатырох вінных склепаў, якія належалі габрэям.

Вінакурні, піваварныя заводы і склады належалі Хае Яфэ, Льву Велеру і Малцы Каўфман. У 1886 г. габрэі валодалі 95,3% усіх пунктаў па вытворчасці і продажу алкаголю ў Гародні. Статыстыка сведчыць, што "габрэйская прысутнасць" у вінакурэнні пастаянна расла. Перапіс 1897 г. адзначыў наяўнасць у Гародні 176 вінакурняў, гаспадарамі якіх былі габрэі. У 1898 г. да іх далучыўся яшчэ і бровар у Занёманскім фарштаце. Лепшы гатэль горада, "Еўрапейскі", які падарожнікі хвалілі за чысціню і камфорт, таксама належаў габрэю.

У першай палове XIX ст. знаходзім шмат габрэяў сярод уласнікаў невялікіх заводаў і мануфактур. Адным з самых ста-

рых габрэйскіх прадпрыемстваў была фабрыка капелюшоў М.Бурды, заснаваная ў 1795 г. Гэта прадпрыемства пераважна арыентавалася на задавальненне попыту прадстаўнікоў габрэйскай супольнасці. У 1805 г. было заснавана прадпрыемства Б.Ізабелінскага. Кліенты прыносілі скуры, а майстар апрацоўваў іх за папярэдне вызначаны кошт. Такога ж тыпу прадпрыемствам былі скураныя заводы гарадзенскага мешчаніна В.Лейпуньскага (1838-1846) і Хаі Фінавай. У 1818 г. пачалася гісторыя панчошна-фланэлевай фабрыкі габрэяў А.Монеса і Г.Фарбера. Цагляныя заводы належылі Б.Андрэсу, Н.Баткоўскаму, А.Бадылькесу і М.Собалю. Сярод майстроў-мылавараў былі габрэі С.Лямперт, Л.Кур'янскі ды інш.

Гародня была цэнтрам тытунёвай вытворчасці. У 1861 г. пачало выпуск сваёй прадукцыі найбуйнейшае ў Беларусі прадпрыемства гэтай галіны – фабрыка Лейбы Шарашэўскага і Абрама Гардона. На Усерасійскай выставе 1882 г. у Маскве прадукцыя гарадзенцаў была ўзнагароджана срэбраным медалём. Невялікія тытунёвыя фабрыкі належалі габрэям Беньяміну Гадасу і Берцы Фінкльштэйну. Патрэбы тытунёвай вытворчасці абслугоўвалі гільзавыя заводы, на якіх выраблялі папяровыя абалонкі для цыгарэтаў. Гэтым займалася, напрыклад, прадпрыемства Ісаака Харына на Замкавай вул.

Гародня канца XIX – пачатку XX ст. поўнілася дробнымі майстэрнямі, якія прапаноўвалі паслугі прадпрыемствам, канторам і прыватным асобам. Сярод іх былі пераплётныя майстэрні Р.Іонас, Ісаака і Міхеля Харыных, Э.Лейзера. Некаторыя з гэтых прадпрыемстваў дасягалі значных памераў. Напрыклад, у братоў Харыных на Паліцэйскай вул. у 1900 г. працавалі больш за 100 рабочых.

Неўзабаве ў горадзе з'явілася вялікая колькасць фатаграфічных майстэрняў. Адна з першых – атэлье Я.Салавейчыка, адчыненае на Купецкай вуліцы ў 1881 г. Пасля эміграцыі гаспадара яна перайшла да Л.Блоха. У 1884 г. пасведчанне на права адкрыцця

ўласных фотамайстэрань атрымалі А.Стамер і М.Памеранцаў, у 1885 – М.Папірны. У 1890-я гг. папулярнасцю карысталіся фотаатэлье Е.Райхштэйн, З.Карасіка і Х.Бінковіча.

У 60-х гг. XIX ст. у Гародні пачалі з'яўляцца прадстаўнікі "вольных прафесій", якія атрымалі вышэйшую адукацыю ва ўніверсітэтах Расіі і Еўропы. На рубяжы стагоддзяў побач з хрысціянамі Гародні прысяжнымі паверанымі працавалі габрэі С.Крамераў, Л.Абрамскі і Г.Яноўскі. А сярод памочнікаў прысяжных паверанных габрэі нават пераважалі, бо пасля прыняцця шэрагу абмежавальных законаў гэтая пасада стала фактычна адзінай, якую мог заняць прадстаўнік іудзейскай канфесіі.

Шмат габрэяў было сярод гарадзенскіх медыкаў. Варта прыгадаць, напрыклад, гарадзенскага павятовага лекара І.Кулькіна, а таксама Г.Замкаўскага, І.Ротэнштэйна, С.Гажанскага, Г.Гершуна, О.Хазановіча, дантыста В.Каўфмана. У Гародні з 1893 па 1897 гг. жыў славуты заснавальнік мовы эсперанта, лекар-акуліст Лейзэр (Людвік) Заменгоф.

У 1907 г. колькасць габрэйскіх лекараў нават перавысіла колькасць калегаў хрысціянскіх веравызнанняў (19 супраць 10). Узніклі дынастыі медыкаў. Так, Рэйхля Андрэс была дачкой Беркі Андрэса, дантыст Лейзэр Каўфман перадаў спецыяльнасць сыну Веньяміну. У шэрагі медыкаў прыйшлі жанчыны – дантысткі Рэйхля Андрэс, Паўліна Крынская, Рэйзля Эпштэйн.

У сярэдзіне XIX ст. у габрэйскім асяроддзі пачалі з'яўляцца фельчары і санітары, якія набылі прафесію падчас службы ў арміі. На мяжы народнай і афіцыйнай медыцыны знаходзіліся цырульнікі. У 1824 г. статыстыка сцвярджала, што ў Гародні налічвалася 10 прадстаўнікоў гэтай прафесіі (Ёсель Гдалевіч, Янкель Моўшавіч, Моўша Пражэвальскі ды інш.). Дарэчы, лекар Кіршт лічыў іх шарлатанамі і вінаваціў у аказанні медычнай дапамогі без адпаведнага пасведчання і прафесійных ведаў.

Медыкі-жанчыны працавалі акушэркамі і павітухамі пад кантролем лекараў. У 1907 г. у Гародні працавалі акушэркамі

16 габрэяк і дзевяць хрысціянак. У 1876 г. была заснаваная школа для ч павітух, на якую не распаўсюджваліся працэнтныя абмежаванні па прыёму асобаў іудзейскага веравызнання, таму большасць вучаніц складалі маладыя габрэйкі.

Асобную групу медыкаў складаў персанал аптэк. Іх працай кіравалі правізары, якім падпарадкоўваліся аптэкарскія памочнікі. Дзеля атрымання пасведчання неабходна было вытрымаць універсітэцкі экзамен. Архіўныя дакументы паведамляюць пра двух габрэяў-правізараў (М.Клінкаўштэйн і М.Вінавер) і двух аптэкарскіх памочнікаў (Д.Эпштэйн і М.Камінскі) у 1894 г. На ніжэйшай ступені аптэчнай іерархіі знаходзіліся аптэкарскія вучні. На мяжы XIX – XX ст. у аптэках Гародні сярод аптэкарскіх вучняў пераважалі прадстаўнікі габрэйскай супольнасці.

Абмежаваныя ў грамадзянскіх правах, гарадзенскія габрэі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. маглі прымаць удзел толькі ў мясцовым самакіраванні (працы ратушаў і магістратаў), але і тут іх колькасць не магла перавышаць 1/3 усіх служачых.

У вайне 1812 г. габрэйская супольнасць прадэманстравала поўную лаяльнасць да Расіі. Габрэяў насцярожваў працэс паскоранай вестэрнізацыі габрэйскай культуры ў Францыі, жорсткі кантроль над габрэйскай супольнасцю, яе асветай і рэлігійным жыццём, уведзены пры Напалеоне Банапарце.

Многія габрэі дапамагалі адстаўшым ад арміі параненым расійскім афіцэрам і салдатам, ажыццяўлялі пастаўкі вопраткі, абутку, правіянту і фуражу, служылі праваднікамі і шпіёнілі на карысць расійскай арміі.

Невыпадкова пры заняцці Гародні партызанскім атрадам Дзяніса Давыдава паліцэйская ўлада ў горадзе да падыходу асноўных войскаў была перададзеная кагалу.

Гарадзенскаму габрэю Зундэлю Зонэбергу вайна дапамагла зрабіць амаль неверагодную кар'еру. У 1813 – 1815 гг. ён увайшоў у склад Дэпутацыі габрэйскага народу пры імператарскай Галоўнай кватэры падчас замежнага паходу расійскай арміі.

Пасля заканчэння вайны Дэпутацыя да 1825 г. працягвала сваю дзейнасць у Санкт-Пецярбурзе, што дазваляла гарадзенцу неаднаразова хадайнічаць за сваіх аднаверцаў перад імператарам.

Адносіны габрэяў да паўстанняў 1830 – 1831 і 1863 – 1864 гг. былі неадназначнымі. Супольнасць падзялілася на тых, хто марыў пра мадэрнізацыю габрэйскай культуры і асіміляцыю яе прадстаўнікоў (яны сталі на бок паўстанцаў) і тых, хто стаяў на кансерватыўных пазіцыях (яны трымаліся расійскіх уладаў). Як слушна заўважыў С.М.Дубноў, паўстанне здавалася габрэям непрадуманым, асуджаным на няўдачу, а таму шкодным для ўсяго краю і асабліва для габрэйскіх інтарэсаў.

Таксама неадназначным было стаўленне паўстанцаў-хрысціянаў да мясцовага габрэйскага насельніцтва. Многія жыхары Гарадзенскай губ. пацярпелі ад рабаўніцтва і былі забітыя паўстанцамі за нежаданне дапамагаць ці за сапраўднае альбо ўяўнае “шпіёнства”. Большасць гарадзенскіх габрэяў, асуджаных за ўдзел у паўстанні 1863 – 1864 гг., былі пакараны за камерцыйную дзейнасць. Яны прадавалі паўстанцам зброю, порах, фураж, харчовыя прыпасы ды інш.

У 80-я гг. XIX ст. па Расійскай імперыі пракацілася хваля антыгабрэйскіх выступленняў, якая атрымала водгук і ў Гародні. Летам 1881 г. падчас пажару памочнікам прystава і ўраднікам на вуліцы былі збітыя два габрэі. У канцы таго ж года губернатар звольніў служыўшых у паліцыі асобаў іудзейскага веравызнання як “нядобранадзейных”. Нават гарадзенскі пажар 1885 г., які пачаўся на вул. Школьнай, некаторыя даследчыкі называюць “вогненным пагромам”. Тым летам падпалы ў габрэйскіх раёнах былі вельмі распаўсюджаны ў Беларусі.

Палітычны ўціск прымусіў многіх шукаць шчасця за мяжой. У горадзе з’явіліся агенты замежных параходных кампаній, якія вербавалі габрэяў для пераезду ў Амерыку. Многіх падманвалі, забіралі грошы і кідалі на волю лёсу. Каб абараніць аднаверцаў ад несумленных агентаў, у Гародні сіяніскае Палесцінскае

бюро адчыніла ўласны пункт, дзе дапамагалі падрыхтавацца да эміграцыі і аформіць дакументы. Паводле архіўных дадзеных, за 1887 – 1897 гг. Гародню пакінулі болей 1,3 тыс. габрэяў, якія накіраваліся ў ЗША, Аргенціну, Англію і Палесціну.

У 1872 г. у Гародні было заснавана Таварыства для перасялення ў Палесціну. Іншае аналагічнае Таварыства нават набыло кавалак палесцінскай зямлі, дзе ў 1880 г. заснавалі адно з першых габрэйскіх пасяленняў у Эрэц-Ісраэль Петах-Ціква. Адным з першых пасяленцаў Петах-Ціквы стаў М.Дыскін (1844-1914), які нарадзіўся ў Гародні. Таварыства Хавэвэй Цыён у 1890 г. сабрала вялікія грошы на пабудову габрэйскай школы для дзяўчын у палесцінскім горадзе Яфе.

Канец XIX – пачатак XX ст. стаўся часам бурнага росту палітычнай свядомасці і цікаўнасці да грамадскага жыцця. Узнікалі габрэйскія палітычныя партыі. Перыяд асаблівай актыўнасці прыйшоўся ўжо на пачатак XX ст. Так, жорсткая барацьба разгарнулася ў час выбараў у III Дзяржаўную думу (1907) паміж сіяністамі, бундаўцамі і прадстаўнікамі Габрэйскай народнай групы. Апошнія карысталіся падтрымкай вярхоў суполкі. Агітацыю на іх карысць вялі нават служкі і рабіны ў сінагозе, што і дапамагло атрымаць перамогу. На чале кандыдатаў Габрэйскай народнай групы ў Гародні стаяў М.Астрагорскі, таксама былі вылучаныя Крамароў, Яноўскі, Роўтштэйн, Замкоўскі і Вольф, якія выступалі за незалежнасць рэлігійнага жыцця і асветы.

Вельмі актыўна вяла сябе ў Гародні партыя сіяністаў, адным з лідэраў якой быў Н.Сакалоў. Аднак самым яркім прадстаўніком сіянісцкага руху быў паэт і палітык Леў Яфэ (1876-1948), які нарадзіўся ў Гародні і быў унукам вядомага рабіна. Усё сваё жыццё ён прысвяціў сіянісцкай ідэі, удзельнічаў у сусветных сіянісцкіх кангрэсах, з 1906 г. працаваў у Цэнтральным камітэце Расійскай сіянісцкай арганізацыі. Пасля рэвалюцыйных падзеяў 1917 г. Леў Яфэ эмігрыраваў. Спачатку перабраўся ў Літву, дзе зноў жа займаў вядучыя пазіцыі ў мясцовым сіянісцкім руху.

Пазней прапагандаваў ідэі сіянізму ў Еўропе, а ў 1948 г. загінуў у Тель-Авіве ў выніку тэрарыстычнага акта.

У Гародні дзейнічалі таксама прадстаўнікі іншых левper-радыкальных партый. У лістападзе 1907 г. адбыўся суд над Давідам Гольдманам з Партыі анархістаў-камуністаў, які ажыццявіў замах на гарадзенскага купца Франка. Прысуд быў вынесены за адмову фінансава дапамагчы анархістам. Замах сарваўся, кулі трапілі ў выпадковых прахожых. А 15 лістапада ў зале ўжо Віленскага суда пачалося слуханне справы гарадзенца Алтэра Рабейкава, які быў абвінавачаны ў прыналежнасці да партыі "Паалей-Цыён". Доказамі паслужылі знойдзеныя пры вобыску пракламацыі і сцяг.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, кіраўніцтва гарадзенскай суполкі заявіла пра заснаванне ў габрэйскім шпіталі койкамесцаў для параненых салдат і тым самым выказала расійскі патрыятызм. Аднак самыя насельнікі "габрэйскага кварталу" да вайны ставіліся па-рознаму. Калі заможная частка публічна выказвала падтрымку ўраду, то моладзь з бедных сем'яў імкнулася пазбегнуць прызыву і нават наўмысна калечыла сябе.

Пры набліжэнні нямецкіх войскаў бежанцы з Гародні накіраваліся ў Менск, Бабруйск ды іншыя гарады. Абшчынныя ўстановы ўтварылі спецыяльныя камісіі, якія былі занятыя арганізацыяй побыту перасяленцаў і пошукам працы для іх. Грамадскія дзеячы, якія засталіся ў Гародні ў кастрычніку 1914 г., шмат зрабілі для паляпшэння гаротнага становішча габрэйскай беднаты. Апошнія сродкі абшчыны пайшлі на дапамогу жонкам салдат. Танная габрэйская сталоўка карміла бежанцаў з Польшчы. Больш 500 бежанцаў было адпраўлена ў Менск.

Вайна ўзмацніла антысеміцкія настроі. З падачы цэнтральнай улады габрэяў агульна абвінавацілі ў здрадніцкіх настроях і шпіянажы на карысць ворага. Прыфрантавыя раё-

ны жылі па законах ваеннага часу. Як нелаяльныя падданыя, у красавіку 1915 г. габрэі былі выселеныя з Гародні, таксама як і з іншых памежных мясцовасцей. Пазней ім дазволілі вяртацца пры ўмове прадстаўлення закладнікаў. Па распараджэнню галоўнакамандуючага яны падлягалі расстрэлу ў выпадку здрады з боку габрэяў. Ваенная адміністрацыя абмежавала іх перамяшчэнне. 20 верасня 1915 г. камандуючы 3 арміяй забараніў пераезд габрэяў з аднаго места на другое за выключэннем усходняга напрамку.

Між тым многія габрэі праславілі сябе ў шэрагах расійскай арміі ўжо на пачатку вайны. Напрыклад, унтэр-афіцэр Іосіф Хаймавіч Ф. (так у дакументах – В.С.) за мужнасць атрымаў Георгіеўскі крыж III ступені. Да гэтага ён меў ужо два Георгіеўскіх крыжа за ўдзел у Расійска-японскай вайне, дзе быў двойчы паранены. Гарадзенец Рабінзон за некалькі год да вайны стварыў *"апарат для ўзрывання судоў на вялікай адлегласці"*. Падчас вайны з Японіяй ён прапанаваў сваё адкрыццё ваеннаму міністэрству, але быў праігнараваны. Толькі ў час Першай сусветнай вайны, калі прыйшло паведамленне пра аналагічнае вынаходніцтва, зробленае італьянскім інжынерам Уліві, міністэрства зацікавілася ягоным аналагам.

Культурнае жыццё гарадзенскіх габрэяў на працягу апошняй чвэрці XVIII – пачатку XIX ст. было наскрозь прасякнутае рэлігійным духам. Большасць спавядала артадаксальны іудаізм (мітнагдзім). Вялікім аўтарытэтам карысталіся рабіны і вучоныя, знаўцы Талмуда. Большую частку жыцця мужчыны праводзілі ў сінагозе за чытаннем малітваў і рэлігійнымі спрэчкамі. Менавіта выкананне рэлігійных абавязкаў, а не гаспадарчая дзейнасць лічылася галоўнай мужчынскай справай.

Аднак у першай палове XIX ст. сярод бяднейшых слаёў гарадзенскай габрэйскай суполкі распаўсюдзілася новая плынь іудаізма – хасідызм. Хасіды лічылі, што пошук святасці павінен быць светлым і вясёлым, а сапраўднае служэнне Усявышняму

заключалася не ў вывучэнні рэлігійных тэкстаў, а маральным ўдасканаленні і містычным кантакце з ім. У Гародні хасіды заснавалі асобную сінагогу і рытуальную лазню.

У 1816 г. жыццё габрэйскай суполкі было парушана адраджэннем сярэднявечнага цемрашальства. Некалькі габрэяў былі абвінавачаны ў рытуальным забойстве каталіцкай дзяўчынкі. Справа з перапынкамі цягнулася 14 год, некалькі разоў арыштоўваўся кагальны Ш.Лапін, але ўрэшце пасля захадаў згаданага дэпутата Зонэберга была спыненая за недаказанасцю.

Цэнтрам жыцця суполкі была Вялікая (харальная) сінагога, якая акрамя рэлігійнай выконвала іншыя сацыякультурныя функцыі. Суполка збіралася, каб абмеркаваць важныя справы (падзел падаткаў, вылучэнне рэкрутаў, увядзенне новых дзяржаўных законаў, абмеркаванне навінаў жыцця габрэйскай супольнасці). Тут вандроўныя вучоныя-талмудысты прамаўлялі казанні, працавала бібліятэка, збіраліся ахвяраванні, адбываліся канцэрты. Адначасна яна заставалася цэнтрам адукацыі і асветы. У прыбудовах мясціліся ешыбот і талмуд-тора, збіраліся брацтвы па вывучэнню Талмуда.

Пасля пажару 1899 г. Галоўная сінагога была перабудаваная ў стылі мадэрну. Папулярнасцю таксама карысталася драўляная сінагога XVIII ст. у Занёманскім фарштаце. На працягу XIX ст. значна ўзрасла колькасць малітоўных школ. Калі ў 1834 г. у Гародні працавалі дзесяць такіх школ, то ў 1853 г. – 19 (на 75-300 вернікаў), а ў 1870 г. – ужо 30.

Сярод гарадзенскіх рабінаў асаблівую вядомасць набылі Веньямін Браўдэ (?-1818) і Нохум Каплан (1830-1897). Апошні лічыўся праведнікам і цудатворцам, карыстаўся велізарным аўтарытэтам як сярод габрэяў, так і хрысціян. На тэрыторыі Беларусі і Польшчы быў добра вядомы прадстаўнік рэлігійна-філасофскага руху “Мусар” (“Этыка”) рабі Машэ Ісаак Даршан (Магід Кэлмер).

Выхаванне адукаванай моладзі было адной з важнейшых задач габрэйскага грамадства. Кожны малады чалавек павінен быў авалодаць рэлігійнай навукай. Як данасілі гарадзенскаму паліцмайстру ў 1839 г., *"Кожны, нават самы бедны габрэйскі хлопчык вучыцца чытаць і пісаць на габрэйскай мове, а таксама пачатковым правілам арыфметыкі"*. Існавалі розныя формы адукацыі. Да традыцыйных навучальных установ належалі хедэры і ешывы. Пасля заканчэння апошніх можна было стаць рабінам.

"Хедэр" на іўрыце азначае "пакой", бо заняткі праходзілі ў доме настаўніка (меламеда). Самыя бедныя меламеды наведвалі вучняў у іх хатах. Складана прывесці дакладную колькасць меламедаў Гародні ў канцы XVIII – пачатку XX ст., бо многія ўхіляліся ад рэгістрацыі, каб не плаціць падаткі. Дакумент 1862 г. паведамляе пра 15 меламедаў, якія вучылі 8-12 гадовых хлопчыкаў. У 1868 г. было зарэгістравана 77 легальных і 8 нелегальных настаўнікаў. Ешывай, якая знаходзілася ў галоўнай сінагозе, у 1850-я гг. загадваў І.Эберул. Заняткі наведвалі 60-80 вучняў.

Вучылішча М.Астрагорскага, адчыненае ў 1852 г., атрымлівала датацыю з габрэйскіх падаткаў. Такую ж дапамогу аказваў кагал габрэйскаму вучылішчу пры фабрыцы Л.Шарашэўскага. Каб зрабіць навучанне даступным для бедных, гарадзенская абшчына заснавала талмуд-тору – бясплатную школу якая забяспечвалі вучняў харчаваннем, вопраткай, падручнікамі. Ужо з трох гадоў дзеці вучылі іўрыт, Тору (габрэйскі закон) і Талмуд (збор каментараў да Торы).

Гарадзенскай талмуд-торай у другой палове XIX ст. загадваў А.Марголін. У сярэдзіне XIX ст. у яе праграме адсутнічалі прыродазнаўчыя дысцыпліны. Калі на вывучэнне Талмуда штодзень адводзілася 9 гадзін, то на рускую мову, арыфметыку і чыстапісанне разам – толькі 2 гадзіны. З сярэдзіны XVIII ст. у Гародні з'явілася адукацыя для дзяўчынак. Адпа-

ведны хедэр арганізавалі Х.Чэхавекаў і Ш.Гальперн. З хедэра пачыналася гісторыя першай прыватнай габрэйскай жаночай гімназіі Т.Астрагорскай. У другой палове XIX ст. у моду ўвайшлі пансіёны, якія давалі дзяўчынкам адукацыю па еўрапейскаму ўзору, што, дарэчы, часта спрыяла ўдаламу шлюбу.

Пасля рэформы габрэйскай асветы 1844 г. з'явіліся дзяржаўныя школы свецкай скіраванасці. У Гародні казённае габрэйскае вучылішча І разрада было адчынена ў 1849 г. Яно існавала за кошт скрыначнага збору. Штат складаўся з наглядчыка-хрысціяніна і двух настаўнікаў-габрэяў. Тут выкладалі рускую мову з чыстапісаннем і арыфметыку, іўрыт з чыстапісаннем, рэлігійныя прадметы і асновы нямецкай мовы. Але габрэі не спяшаліся аддаваць сваіх дзяцей у дзяржаўныя навучальныя ўстановы. Многія вучні толькі фармальна былі залічаны ў казённае вучылішча. Якасць навучання была невысокая, а накірунак асветы адкрыта русіфікацыйны.

У 1854 г. адчынілася казённае габрэйскае вучылішча ІІ разраду. Заняткі праводзілі пяць настаўнікаў-хрысціян і чатыры габрэі. У 1861 г. вучылішчы былі аб'яднаныя. Ганаровым наглядчыкам новага вучылішча І разраду зацвердзілі купца А.Гордана, а загадчыкам школы стаў М.Коткінд, які скончыў Віленскае рабінскае вучылішча.

У 1865 г. пасля Указу пра заснаванне казённых габрэйскіх народных школ ў Гародні адчыніліся сем устаноў такога тыпу. Яны садзейнічалі засваенню 8-15-гадовымі габрэйскімі хлопчыкамі рускай мовы і рускага свецкага стылю жыцця. Тут працавалі настаўнікамі Нікольскі, Каменскі, Пекар, Беластоцкі, Бальзамінаў. У 1873 г. былі створаныя першапачатковыя аднакласныя габрэйскія вучылішчы, мэтаю якіх было вучыць габрэяў рускай мове і далучаць да рускай культуры. Гарадзенскае вучылішча наведвалі каля 100 хлопцаў. Курс быў разлічаны на 6 гадоў, а настаўнікі мелі добрую

кваліфікацыю. Яны былі выпускнікамі Віленскага рабінскага вучылішча і Настаўніцкага інстытута.

На пачатку XX ст. працягвалі адчыняцца казённыя школы для габрэйскага юнацтва. У 1903 г. было заснавана трохгадовае пачатковае вучылішча з бюджэтам у 2400 рублёў з грошай скрыначнага збору. Але магчымасцю вучыцца карысталіся далёка не ўсе. З 1,5 тыс. хлопчыкаў і 1,8 тыс. дзяўчынак школьнага ўзросту вучыліся толькі 30% хлопчыкаў і 25% дзяўчынак.

Частка габрэйскай моладзі з заможных сем'яў, арыентаваных на акультурацыю, аддавала перавагу агульным навучальным установам. У гарадзенскай мужчынскай гімназіі ў 1876 г. габрэі складалі 28%, а ў 1892 г. – 14% навучэнцаў. Пасля праваслаўных вучняў яны былі другімі па колькасці. Многія габрэі імкнуліся атрымаць карысную прафесію. Так, у 1876 г. яны пераважалі ў землямерна-таксатарскім класе гімназіі.

Сярэдні кошт навучання быў даволі высокі (98 руб. у год), што многім не дазваляла скончыць поўны курс навук. Звычайна, ужо пасля 4 класа значная іх частка пачынала прафесійную дзейнасць. Часцей за ўсё яны станавіліся аптэкарамі. Для небагатых гімназістаў гарадзенскае габрэйскае грамадства прызначала стыпендыю ў памеры 30 рублёў.

Габрэі былі сярод лепшых навучэнцаў гімназіі, напрыклад, у 1885 г. І.Марголін скончыў яе са срэбраным медалём. Пасля гімназіі яны вучыліся на юрыдычных, медычных і матэматычных факультэтах універсітэтаў Масквы, Санкт-Пецярбурга, Варшавы, Парыжа. Габрэйкі складалі значную частку вучаніц жаночай гімназіі (1875 г. – 42%, 1880 г. – 32%). На іх вучобу са скрыначнага збору выдаткоўвалася 1300 руб., з якіх 300 руб. ішлі на стыпендыі бедным вучаніцам.

На рубяжы XIX – XX ст. ва ўмовах крызісу традыцыі габрэйская інтэлігенцыя ажыццявіла спробу рэфармавання нацыянальнай школы. У 1900 г. у Гародні сіяністамі быў заснаваны новы хедэр (хедэр метукан), які працаваў да 1915 г. Навучанне вялося

на іўрыце, а навучальная праграма была прасякнутая духам габрэйскага нацыянальнага руху. Другую ўстанову такога тыпу (“Йешурун”) узначаліў А.-Л.Міллер. У яго хедэры галоўная ўвага надавалася вывучэнню іўрыту і гісторыі габрэйскага народу. У той жа час асімілятарская плынь габрэйскай інтэлігенцыі і заможная буржуазія падтрымлівалі намаганні ўраду па распаўсюджанню сярод габрэяў вытворчай працы. Авалоданне пэўнай спецыяльнасцю павінна было спрыяць дабрабыту гарадской беднаты. У 1902 г. у Гародні па ініцыятыве кола філантропаў на чале з Э.Брэгманам пры дапамозе Таварыства распаўсюджання рамеснай працы сярод габрэяў Расіі было заснавана рамеснае вучылішча.

Таварыства для распаўсюджання асветы сярод габрэяў у Расіі арганізавала ў Гародні ўнікальныя курсы для бясплатнага навучання будучых настаўнікаў. Бедным прапаноўвалася стыпендыя. Курсы, разлічаныя на два гады, адкрыліся 1 лістапада 1907 г. Было прынята 30 чалавек. Каб трапіць на курсы, кандыдаты павінны былі вытрымаць іспыты, праграма якіх утрымлівала пытанні па рускай і габрэйскай граматыцы, арыфметыцы, веданню Бібліі і гісторыі. Пры курсах дзейнічала бібліятэка і спартыўнае таварыства.

Распаўсюджванню асветы садзейнічалі бібліятэкі. Цікава, што адзіная ў Гародні грамадская бібліятэка сярэдзіны XIX ст. першапачаткова належала габрэйскаму таварыству. Яе адкрылі ў 1863 г. дырэктары Ф.Адамовіч, друкар С.Лапін і доктар Андрэс. Праз два гады бібліятэку перадалі гораду. Тут былі рускія, замежныя і габрэйскія выданні.

Невялікія бібліятэкі часта ствараліся пры кнігарнях, значную частку ўладальнікаў якіх у канцы XIX ст. складалі габрэі. Напрыклад, у 1896 г. у Гародні ім належалі тры з шасці кнігарняў. Кнігарня і бібліятэка з кабінетам для чытання была адчынена ў 1896 г. І.Тракеніцкім. Сярод іншых уладальнікаў падобных устаноў згадваюцца Вольфсан і Б.Бельке. Вялікая бібліятэка была пры Галоўнай сінагозе.

У другой палове XIX – пачатку XX ст. з Гародняй было звязана жыццё перакладчыка і рэдактара выданняў на іўрыце А.-Ш.Фрыдберга і класіка ідышскай паэзіі Лёйбы Найдуса. У Гародні нарадзіліся фатограф і іўрыцкі паэт А.-А.Шапіра, сусветна вядомыя прадстаўнікі мадэрну мастак Л.Бакст і скульптар І.Гінцбург. У 1917 г. тут было заснавана таварыства габрэйскага мастацтва "Ідышэ кунст", а яго клуб знаходзіўся на рагу вул. Дамініканскай і Рынка. Тут адбываліся вечарыны, дзе выступалі  вядомыя паэты.

# У ПОЛЬСКАЙ ДЗЯРЖАВЕ

Гародня апынулася ў складзе Польскай дзяржавы пасля заканчэння вайны з Савецкай Расіяй. Гэтая падзея, аднак, многім гараджанам прынесла нечаканае расчараванне, бо 1 сакавіка 1921 г. горад афіцыйна атрымаў статус павятовага цэнтру ў складзе Беластоцкага ваяводства. Цяжка адназначна сказаць, чаму так сталася. Пэўную ролю, хутчэй за ўсё, адыграла жаданне ўладаў перанесці цэнтр ваяводства далей ад мяжы, на абшар з перавагай польскага насельніцтва. Магчыма, нейкае значэнне меў і польска-літоўскі канфлікт вакол Віленшчыны і Гарадзеншчыны. Пазней неаднаразова паўставала пытанне аб стварэнні асобнага Гарадзенскага ваяводства, аднак, горад так і застаўся цэнтрам павета, што ў значнай ступені вызначыла ягонае сацыяльна-эканамічнае і культурнае жыццё.

Нават у 1933 г. насельніцтва горада складала ўсяго 50,4 тыс. жыхароў. Для параўнання ў 1913 г. у Гародні жыло амаль 58 тыс. чал. Да пачатку Другой сусветнай вайны насельніцтва горада ледзь-ледзь зраўнялася з узроўнем апошніх гадоў існавання Гародні ў Расійскай імперыі. Затое ў міжваенныя гады моцна павялічылася тэрыторыя горада, якая ў 1930-х гг. складала больш за 1,5 тыс. га. З іх не так шмат прыходзілася на гарадскія будынкі, вуліцы і плошчы. Затое агароды і сады займалі больш 300 га, а амаль 630 га прыходзіла на ворыва і пашы. Павелічэнне гарадской прасторы адбывалася за кошт уключэння ў горад частак маёнткаў Станіслававa і Аўгустова і г.зв. абшараў для парцэляцыі – Рубанаўкі, Пагулянкі, Градзіска, Пышкоў ды інш. Такім чынам, на 2/3 гарадская прастора складалася фактычна з вясковых краявідаў, хаця ў цэнтры Гародні забудова была вельмі шчыльнай.

Як па сацыяльнаму, так і па этнаканфесійнаму складу насельніцтва Гародні не было аднародным. У 1933 г. толькі больш за 6 тыс. жыхароў адносіліся да рабочых, 4 тыс. гарадзенцаў былі

рамеснікамі, 2,8 тыс. належалі да чыноўнікаў, 1,4 тыс. займаліся гандлем і крыху больш за тысячу прадстаўлялі “вольныя прафесіі”. У катэгорыю “іншых” разам з іх сямейнікамі трапіла 34 тыс. чалавек, г.зн. намнога больш за палову ўсіх гараджан. Такім чынам, міжваенная Гародня ў найбольшай ступені мела дробнамяшчанскае аблічча.

У этнаканфесійным плане ў параўнанні з часамі Расійскай імперыі можна заўважыць вельмі значнае скарачэнне колькасці праваслаўнага насельніцтва (за кошт выезду расійскіх чыноўнікаў і вайскоўцаў) і паступовае, скарачэнне колькасці габрэйскага несельніцтва. У выніку ў сярэдзіне 1930-х гг. кольскасць рыма-каталіцкага і іудзейскага насельніцтва, фактычна, зраўнялася. На вуліцах міжваеннай Гародні можна было пачуць ідыш, беларускую і польскую мовы.

Польская мова, дарэчы, гучала як у аўтэнтычна польскім, так і ў мясцовым *(“крэсовым”)* варыянце. Былыя царскія чыноўнікі, што засталіся ў Гародні, эмігранты з Савецкай Расіі (іх у Гародні было нямала) і частка габрэяў гаварылі па-руску. Апроч прадстаўнікоў вышэйназваных нацыянальнасцей у горадзе жылі ўкраінцы, татары, існавала нямецкая лютэранская абшчына, жылі некалькі сем’яў данскіх казакоў.

Функцыі самакіравання ў Гародні, таксама як і ў іншых гарадах ІІ Рэчы Паспалітай, выконвалі гарадская рада і магістрат. Рада выбіралася агульным галасаваннем гараджан і збіралася два-тры разы на тыдзень, а магістрат складаўся прыкладна з 10% сяброў Рады. Магістрат, якім кіравалі прэзідэнт і віцэ-прэзідэнт, меў дастаткова шырокія паўнамоцтвы і сферу дзейнасці. Гэта відаць ужо з простага пераліку тых аддзелаў, з якіх складалася гарадское самакіраванне: прэзідэнцкі, адміністрацыйна-статыстычны, асветы і культуры, сацыяльнага забеспячэння і аховы здароўя, тэхнічны, гаспадарчы, фінансава-падатковы і гарадскіх прадпрыемстваў. З 1933 г.




*Гародня ў 1937 г. План*

гарадскі магістрат насіў назву “Гарадское ўпраўленне”, аднак ягоныя функцыі мала змяніліся[1].

Горад не вельмі моцна пацярпеў падчас баявых дзеянняў 1915 г. (згарэлі чыгуначны вакзал і палац Тызенгаўза, пацярпеў манастыр Раства Багародзіцы), аднак летам – восенню 1920 г. падчас савецка-польскай вайны выгарэла значная частка Занёманскага фарштата. Адпаведна нейкіх прынцыповых зменаў у аблічччы горада ў параўнанні з пачаткам XX стагоддзя цягам 1920-х – 1930-х гг. не адбылося. “Дэідэалагізацыя” гарадской прасторы абмежавалася зняццем з фасадаў дамоў дэкору ў выглядзе двухгаловых арлоў (мужчынская гімназія, рэальнае вучылішча, былы Сялянскі пазямельны банк) і іх заменай на дзяржаўную сімволіку Польшчы.

Адбывалася масавае пераіменаванне вуліц. Вуліцы Мураўёўская, Кутузаўская, Сувораўская атрымалі назвы ў гонар класікаў польскай літаратуры. Некалькім вуліцам (Брыгіцкая, Баніфратэрская) былі вернуты гістарычныя назвы. Шмат вуліц атрымлівалі назвы ў гонар польскіх палітычных дзеячаў. Пры ўсім гэтым, нягледзячы на звароты ідэалагічна заангажаваных жыхароў горада, на працягу ўсяго міжваеннага перыяда працягвала існаваць вуліца Пушкіна.

Каталікам былі вернуты былы Сафійскі сабор (каталіцкая Фара Вітаўта) і Барысаглебскі мужчынскі манастыр (каталіцкі кляштар бернардзінак). Але навуковага аднаўлення ніводзін з храмаў за ўвесь міжваенны час так і не дачакаўся. У кляштара бернардзінак толькі прыбралі праваслаўныя элементы – барабан над дахам і шатровы дах званніцы. Фару Вітаўта, якая моцна пацярпела падчас баёў 1920 г., перабудоўвалі двойчы – у 1923 і сярэдзіне 1930-х гг. Першы раз з даху будынка прыбралі ўсе праваслаўныя элементы, другі раз перабудавалі храм у пераходным ад раманскага да гатычнага стылю, што надало касцёлу нехарактэрны для нашага горада выгляд.

У 1938 г. была разабрана Аляксандра-Неўская царква на плошчы Тызенгаўза. Улады матывавалі яе разборку перашкодамі

[1] Казак Т. Дакументы магістрата Гродна 1919-1939 гг. у фондах ДАГВ // Гарадзенскі палімпсест 2009. Гародня, 2009. С. 353-355.

для руху аўтамабіляў (царква стаяла пасярэдзіне цяперашняй вуліцы Дзяржынскага), аднак сапраўдным матывам было тое, што царкву ўзвялі ў гонар расійскага цара Аляксандра II, які задушыў паўстанне 1863 – 1864 гг. Праўда, царкву разбіралі з мэтай аднавіць яе ў іншым месцы, і перад пачаткам Другой сусветнай вайны ўжо быў закладзены падмурак новага храма ў раёне вуліцы Яна Сабескага (скрыжаванне сучасных вуліц Чырвонаармейскай і Шчорса), але потым працы былі спыненыя.

Знешні выгляд міжваеннай Гародні мала чым адрозніваўся ад горада пачатку XX стагоддзя. Цэнтр быў забудаваны галоўным чынам двухпавярховымі цаглянымі дамамі, але горад працягваў расці "ўшыркі" дзякуючы новадалучаным да яго тэрыторыям маёнткаў Друцк і Станіславова. На правым беразе Нёмана забудоўваліся вуліцы Грандзіцкая (сёння вул. Горкага) і Каліноўскага, а таксама вуліцы паміж імі і раён Пярэселкі. Паўстаў цэлы раён на Новым Свеце вуліцы Славацкага, Рэйманта, 11 лістапада (зараз вул. 17 верасня), Панятоўскага (зараз вул. Астроўскага).

Перад самай вайной узнікла калонія Астравок, больш вядомая сучасным гарадзенцам як *Маслабаза*. Цалкам новыя кварталы ўзніклі ў Занёманскім фарштаце паміж вуліцамі Ласасянскай (зараз вул. Савецкіх пагранічнікаў) і Беластоцкай (зараз вул. Суворава), а таксама ў раёне фанернай фабрыкі братоў Браўн і станцыі Ласосна. Апошні раён з-за сваёй аддаленасці ад цэнтра горада атрымаў назву *Палестына*.

Усе новыя вуліцы мелі звычайны выгляд гарадской ваколіцы. Драўляныя аднапавярховыя дамы з мансардамі мелі досыць вялікія прысядзібныя ўчасткі, на якіх размяшчаліся немалыя агародзікі і сады, што дазваляла прадстаўнікам гарадзенскага "сярэдняга класа" пачувацца амаль вяскоўцамі і забяспечваць сябе харчаваннем.

Вось што пісаў аб гаспадарцы свайго дзеда на вуліцы Панятоўскага ў Гародні паэт і журналіст Юры Гумянюк: *"Як вынікае*

*з дзённікавых запісаў Івана Людвікавіча Сарокі, 30 кастрычніка і 6 лістапада 1933 г. на купленай зямлі было пасаджана 53 дрэвы. З іх 22 яблыні, 11 груш, 19 сліваў і адна вішня. У наступныя гады колькасць вішняў павялічвалася. Пасадзілі таксама шмат кустоў агрэсту і парэчкі трох гатункаў (белая, чырвоная і чорная). Для ўласнага ўжытку вырошчвалі бульбу, моркву, фасолю, агуркі, капусту ды іншую драбязу. Трымалі таксама дзьвюх свінак і звыш 40 курэй пароды "Сусэкс". Нейкі час нават качак трымалі. Малако куплялі ў малочніцы. Такім чынам сям'я з шасьці чалавек поўнасцю сябе забяспечвала харчаваньнем"*[2].

Штодзённае жыццё звычайнага гарадзенца, асабліва хатняй гаспадыні або дзіцяці, як правіла, засяроджвалася вакол нейкага невялікага абшару, звычайна, некалькіх вуліц, дзе можна было паўнавартасна функцыянаваць, не выходзячы за яго межы. Нават у самых аддаленых ад цэнтра месцах знаходзіліся невялікія прыватныя пякарні, мясныя крамы і крамы г.зв. "каланіяльных тавараў", дзе прадавалі каву, гарбату, фрукты. Непадалёку, як правіла, знаходзілася аптэка, і мог весці прыватную практыку лекар. Тут жа маглі размяшчацца прыватныя шавецкія і кравецкія майстэрні, гаспадары якіх мелі сваю мясцовую кліентуру.

Асноўную масу прадуктаў харчавання гарадзенцы куплялі ў невялікіх крамах з мяснымі вырабамі, выпечкай і гароднінай, аднак, пры патрэбе закупіцца больш і танней наведвалі рынкі. Вось як выглядаў асартымент такіх гарадзенскіх крамак паводле ўспамінаў Георгія Маісеева: *"Крамка адрознівалася тым, што ў ёй заўсёды былі зусім свежыя прадукты. А вялікія блокі масла рэзаліся тонкім дротам. Тут жа ляжалі круглыя боханы свежага жытняга хлеба. Хлеб і малако прыносілі раніцай сялянкі з суседніх вёсак. За белым хлебам – батонамі, мы бегалі на Ажэшковую, у крамку насупраць пошты. Трохі вышэй, па Паштовай вуліцы, была выдатная цукерня, у якой замаўлялі піроржныя і печыва для асаблівых урачыстасцей".*

У горадзе было некалькі рынкаў. Рыбны і Мясны рынкі абслугоўвалі, галоўным чынам, жыхароў габрэйскіх кварталаў

[2] Гумянюк Ю. Прывід даўніх Крэсаў // Горад Святога Губерта. Выпуск IV. Гродна-Вільня, 2008. С. 51.

у раёне Школьнага двара і даліны Гараднічанкі і былі заняты гандлярамі-гарадзенцамі. Сяляне з навакольных вёсак прадавалі свае тавары на рынках, якія знаходзіліся бліжэй да межаў тагачаснага горада. Каля выезду ў бок Грандзіч знаходзіўся Дравяны або Грандзіцкі рынак, дзе, апрача іншых тавараў, можна было набыць дровы на зіму. На Скідзельскім рынку (у раёне сучаснага аўтавакзала) знаходзіліся вялікія мясныя рады, дзе, пасля адпаведнага аналізу, які рабіўся ў размешчанай паблізу санітарна-мікрабіялагічнай станцыі, сяляне прадавалі мяса. Да канца 1920-х гг. існаваў таксама Занёманскі рынак, заняты пазней будынкамі тытунёвай фабрыкі. Працягваў функцыянаваць Сенны рынак, які ад галоўнай плошчы горада аддзяляў усяго адзін квартал.

Трэба сказаць, што ў параўнанні з жыццём селяніна з ваколіц Гародні, жыццё гараджан, хаця таксама далёка не ўсіх, было лягчэйшым. Нават кваліфікаваны рабочы, не кажучы ўжо пра настаўніка або чыноўніка, мог дастаткова добра ўтрымліваць сваю сям'ю. Прадукты харчавання каштавалі ў параўнанні з прамысловымі вырабамі вельмі танна, у дадатку да гэтага вялізарная колькасць гарадзенцаў вырошчвала гародніну на прысядзібных участках або закладала невялікія сады. Таму асноўныя артыкулы выдаткаў гараджан складалі вопратка, камунальныя паслугі і,,у пэўнай ступені, адпачынак.

Адпачывалі гараджане ва ўстановах самага шырокага профілю – рэстаранах і кавярнях (самай папулярнай была кавярня Катоўскага на вул. Дамініканскай (зараз вул. Савецкая)), разнастайных клубах і афіцэрскім казіно, а таксама менш рэспектабельных шынках і кабаках. Папулярнымі былі ў горадзе і досыць экзатычныя ўстановы, напрыклад, г.зв. кавярня Турка (яе ўладальнікам быў азербайджанец) сербская бузярня, дзе прадавалі бузу (спецыяльна прыгатаванае кіслае малако) і халву.

Акурат у міжваенныя гады асаблівае распаўсюджанне атрымаў кінематограф. У той час у горадзе адначасова

функцыянавалі чатыры – пяць кінатэатраў, найбольш вядомымі з якіх былі “Эдэм” (пасля “Пан”), “Сатурн” (пасля “Маленькі Люкс”), “Ліра” (пасля “Аполла”), “Зосенька”. Білет у кіно ў сярэдзіне 1930-х гг. каштаваў ад 30 грошай да 1 злотага, што рабіла гэты від адпачынку даступным амаль для ўсіх катэгорый гараджан. У першай палове 1920-х гг. фільмы былі галоўным чынам нямымі і суправаджаліся фартэп’яннай музыкай, а да канца 1930-х гг. усе кінатэатры горада ўжо былі гукавымі. Наведваючы кінатэатр, гарадзенцы маглі пабачыць любімых амерыканскіх, нямецкіх, польскіх і савецкіх актораў. Звыш праграмы паказваліся актуальныя кінахронікі з жыцця Польшчы і свету, падрыхтаваныя Польскім тэлеграфным агенцтвам. Да прагляду навінак кіно гараджан гучна заклікалі аб’явы ў газетах і расклееныя на спецыяльных тумбах афішы[3].

Карысталася папулярнасцю наведванне тэатраў, якіх у горадзе было два. Гарадскі тэатр імя Элізы Ажэшкі вёў свой пачатак ад часоў Антонія Тызенгаўза і ладзіў спектаклі не толькі ў Гародні, але і ў Беластоку, Сувалках, Саколцы і Аўгустове. Пры Доме жаўнера (цяпер Гарадскі дом культуры) існаваў Жаўнерскі тэатр, які абслугоўваў тэрыторыю III Вайсковай акругі, цэнтрам якой была Гародня.

Летам пад адкрытым небам, а зімою ў памяшканнях ладзіліся танцы. Узімку ў некалькіх месцах горада заліваліся лядовыя каткі, якія вельмі любіла наведваць школьная і гімназічная моладзь.

Любімымі месцамі прагулак гарадзенцаў былі Дамініканская вуліцы і пабудаваны ў першай палове 1930-х гг. наднёманскі бульвар Перацкага. Любілі гарадзенцы таксама фатаграфавацца. У міжваенны час у Гародні функцыянавалі фотамайстэрні Рубінштэйна, Гельгора, Анерыка, Хомуля, Пальніцкага, Рамашкевіча. Некаторыя фатографы “лавілі” сваіх кліентаў проста на рагу вуліц Дамініканскай і Ажэшкі і прапаноўвалі свае паслугі, бясплатна робячы маленькі фотаздымак. Калі фотаздымак падабаўся кліенту, ён ужо за грошы мог замовіць адбітак большых памераў.

[3] Kasataja T. Sztuka na każdą kieszeń. O początkach kina w Grodnie // Magazyn Polski. 2012. Nr 1. S. 27-30;

Часткай штодзённага жыцця гарадзенцаў хутка станавілася радыё. Калі ў 1924 г. у горадзе не было яшчэ аніводнага абанента, то праз тры гады гараджане мелі ўжо 190 радыёпрымачоў. Антэны з дроту на доўгай негабляванай жэрдцы над дахамі дамоў сталі неад'емным элементам гарадскога краявіду. Паколькі ў міжваенныя гады ў горадзе так і не з'явіўся ўласны радыёперадатчык, то гарадзенцы слухалі трансляцыі з Беластока, Вільні, Львова, Варшавы, Берліна. Рускія і беларусы часта слухалі савецкія перадачы, асабліва з Менску.

Пры магістраце была створана спецыяльная Турыстычная камісія, якая займалася прапагандай актыўнага адпачынку гараджан у ваколіцах горада, а таксама намагалася прыцягнуць да Гародні ўвагу жыхароў іншых рэгіёнаў краіны. Гэта атрымлівалася, найперш, дзякуючы ўдаламу размяшчэнню горада каля курорта Друскенікі, цікавым архітэктурным помнікам Гародні і выключнай прыродзе Прынёмання. У другой палове 1930-х гг. у любой кнігарне горада можна было набыць турыстычны пуцяводнік з пералікам пешых, веласіпедных і рачных турыстычных маршрутаў і спісам уласнікаў дамоў у наваколлі горада, дзе можна было зняць пакой на летнія месяцы[4].

Пачынаючы з канца 1920-х гг. вялося будаўніцтва некалькіх г.зв. "калоній" – месцаў кампактнага пражывання сем'яў чыноўнікаў, настаўнікаў, служачых пошты і чыгункі. Гэтыя невялікія кварталы ўзводзіліся згодна з тыпавымі архітэктурнымі праектамі тых гадоў, яны і сёння з'яўляюцца найбольш цікавымі сведчаннямі міжваеннай архітэктуры Гародні. Так, у другой палове 1920-х гг. паўстала чыноўніцкая калонія ў раёне вуліц Курганнай і Баніфратэрскай (зараз вул. Свярдлова і Парыжскай камуны) – каля дзясятка мураваных двухпавярховых дамоў, узведзеных у стылі польскага мадэрна або неабарока. Каля сярэдзіны 1930-х гг. на вул. Жвіркі і Вігуры (зараз вул. Чкалава і Асіпенкі) з'явіліся больш дзесяці дамоў настаўніцкай калоніі, дзе жылі настаўнікі пабудаванай на некалькі гадоў раней дзяржаўнай школы № 8.

4 Grodno. Informacje turystyczno-letniskowe uwzględniające miasto, okolice i powiat. Białystok, b.r. S. 16-20;

З вялікіх будаўнічых праектаў 1920-х – 1930-х гг. можна назваць будаўніцтва Дома Стральца па вуліцы Элізы Ажэшкі, Павятовага аддзялення Польскага банка па вуліцы Напалеонаўскай (зараз вул. Карбышава), школы імя Стэфана Жэромскага, а таксама новых гмахаў Гарадзенскай тытунёвай фабрыкі на Занёманскім прадмесці (дарэчы, узведзены па аналагічным праекце будынак захаваўся ў марскім порце Гдыні).

Такім чынам, у міжваенныя гады архітэктурнае аблічча Гародні змянілася не вельмі моцна. У будаўніцтва прыйшлі новыя архітэктурныя стылі – неабарока (дварковы стыль), закапаньскі стыль, канструктывізм (прычым прыватныя дамы ў стылі канструктывізму часта будаваліся з дрэва).

Цікавай будаўнічай ініцыятывай гарадскога кіравання стала ўзвядзенне ў 1930-х гг. г.зв. рабочага раёна на землях маёнтка Друцк. Справа ў тым, што ў сувязі з масавымі звальненнямі з гарадзенскіх прадпрыемстваў у пачатку 1930-х гг. у горадзе ўзнік цэлы раён трушчобаў, дзе жылі бяздомныя і беспрацоўныя гарадзенцы разам са сваімі сем'ямі. Раён Слімака (пад'ём ад чыгункі да могілак па вуліцы Антонава) уяўляў сабой адну з найбольш гнятлівых карцін тагачаснага горада. Людзі тут жылі ў зямлянках або хібарах з дошак і фанеры, харчаваліся тым, што маглі вырасціць на невялікіх агародах. Па ініцыятыве гарадскога магістрата з прыцягненнем банкаўскіх крэдытаў у раёне вуліц Братэрскай і Перамоганоснай у 1936 г. было збудавана больш 40 (планавалася каля 80) тыпавых аднапакаёвых драўляных дамоў для бяздомных. Навасёлы павінны былі выплачваць крэдыты аж да 1971 г.[5]

У міжваеннай Гародні, у адрозненне ад Вільні або Львова не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы, а сам горад так і не атрымаў статуса ваяводскага. Больш таго, у 1927 г. Гародню ледзь не пазбавілі статуса горада, вылучанага з павета. Таму колькасць інтэлігенцыі (асабліва гуманітарнага накірунку) была ў Гародні невялікай. Тым не менш менавіта на такіх асобах, як Ян Каханоўскі, Юзаф Ядкоўскі або Станіслаў Жыўна трымаліся асноўныя культурныя інстытуты горада.

[5] Milewski J. Grodno – miasto i ludność w okresie międzywojennym // Grodno w XVIII wieku. Pod red. A.Woltanowskiego i J.Urwanowicza. Białystok, 1997. S. 191;

Дзяржаўная сістэма адукацыі Гародні была амаль цалкам польскай. У 1920-30-х гг. тут дзейнічалі: тры дзяржаўныя гімназіі – мужчынская імя Адама Міцкевіча, жаночая імя Эміліі Плятэр і гімназія Польскай мацежы школьнай, дзве дзяржаўныя настаўніцкія семінарыі, дзве рамесныя школы, сярэдняя гандлёвая школа, музычная школа Урублеўскай ды інш.

*"Вучылася я да 1939 года ва "усэмцы", школе № 8* - узгадвала былая вучаніца Клаўдзія Несцярэнка (цяпер гэта ўздапаможная школа № 1 на вул. Лермантава). - *Было шмат выдатных настаўнікаў. Найперш дырэктар пан Вэвюрскі, які быў проста вельмі добрым чалавекам. Самым строгім пакараннем, якое ён прызначаў для хуліганістых хлопцаў, было паставіць іх "пад зэгар". У нас гадзіннік перад уваходам акурат стаяў, куды ён хлопцаў ставіў. І гэта быў вялікі сорам. Вучоба кожную раніцу пачыналася так. Мы станавіліся на калідоры каля кабінетаў і вучаніца Бамбянка чытала малітву: "Духу Свенты, ктуры освенца сэрца і ўмыслы наше..." А потым уся школа спявала песню: "Kiedy ranne wstają zorze, Tobie ziemia, Tobie morze, Tobie śpiewa żywioł wszelki: Bądź pochwalon, Boże wielki!"*

Існавала таксама некалькі прыватных навучальных установаў. Калі габрэйскай абшчыне ўдавалася ў цэлым захоўваць сваю аўтаномію ў галіне адукацыі, то адзіная беларуская школа была ліквідавана ў другой палове 1920-х гг.

Зусім іначай на гэтым фоне выглядала жыццё гарадзенскай беднаты на Падоле (раён уздоўж Нёмана ад Замкаў да старых гарадскіх могілак і далей) і ў даліне Гараднічанкі. У таго, хто выпадкова завітаў сюды, магло скласціся ўражанне, што ён трапіў на некалькі стагоддзяў назад. Адзін да аднаго прыціскаліся адна і двухпавярховыя драўляныя дамы. Людзі перамяшчаліся ўздоўж сцен па драўляных ходніках. Тут нават у пачатку 1930-х гг. панавала поўная антысанітарыя. Прыбіральні размяшчаліся побач з калодзежамі, часта ваду для піцця бралі проста з ракі. Гэтая частка горада была найбольш небяспечнай і з пункту гледжання ўзроўня злачыннасці.

Аднак стаць ахвярай рабаўніка фактычна можна было ў любой кропцы горада. Нават у сферы крадзяжоў існавала вельмі

шырокая спецыялізацыя: нехта вырываў дамскія торбачкі і ўцякаў з імі, нехта зарабляў, пагражаючы нажом, а нехта займаўся нават крадзяжамі бялізны з паддашаў дамоў. Стандартны пералік злачынстваў у міжваеннай Гародні складалі крадзяжы, махлярства, кантрабанда тавараў шырокага спажывання з Літвы і Усходняй Прусіі (перавозілі сахарын, соль, цукар, нават запалкі і запальнічкі), нелегальныя аборты, прастытуцыя, незаконнае вінакурэнне і вырошчванне тытуню (і адно і другое было ў Польшчы дзяржаўнай манаполіяй)[6].

На ўліку ў гарадской паліцыі стаяла некалькі дзясяткаў схільных да злачыннай дзейнасці асобаў, але толькі некаторыя з іх увайшлі ў гісторыю. Цікавым прыкладам гарадзенскага "злачынцы" ў канцы 1920-х – пачатку 1930-х гг. быў Бронек (Браніслаў) Тарасевіч, які спецыялізаваўся на спайванні і абкрадані гарадзенцаў і гасцей горада ў разнастайных гарадскіх "кнайпах". Следчыя паліцыі без цяжкасці затрымлівалі злачынцу, і той чарговы раз трапляў за краты на некалькі месяцаў, але пасля выхаду браўся за старое. Нягледзячы на няўдалую "кар'еру" Бронек Тарасевіч быў мясцовай знакамітасцю. Гарадзенскія газеты пастаянна друкавалі паведамленні аб ягоных чарговых ахвярах. Цікава, што жадаючых выпіць гарэлкі ў ягонай кампаніі ніколі не бракавала.

Аднак нярэдка мелі месца і больш гучныя справы, напрыклад, забойства габрэйскім паэтам і кінасцэнарыстам Ісакам Мілейкоўскім сваёй жонкі Фрумы або напад на пошту, падчас якога быў забіты служачы Кананович. Судовыя працэсы па вышэйзгаданых і многіх іншых справах адбываліся ў гарадзенскім акруговым судзе, як правіла, у прысутнасці вялікай колькасці гледачоў. Можна сказаць, што знаёмства з крымінальным жыццём горада і ваколіц (праўда, ужо праз прызму юстыцыі) было пастаянным прадметам цікаўнасці гарадзенцаў і нават своеасаблівым адпачынкам. Аб гарадзенскіх працэсах пастаянна пісала агульнапольская прэса, асабліва "жоўтыя выданні", накшталт кракаўскага часопіса "Тайны дэтэктыў".

[6] Чарнякевіч А. Крымінальны свет міжваеннай Гародні. 1919-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест 2011. Мінск, 2012. С. 332-339.

У міжваеннай Гародні не было выключна прамысловых або элітных жылых раёнаў. Некаторая канцэнтрацыя прамысловых прадпрыемстваў заўважалася толькі ўздоўж традыцыйных транспартных шляхоў – Нёмана і лініі чыгункі. Рэзка ўпала значэнне вуліц уздоўж Нёмана, найперш Хлебнай прыстані, якія перад Першай сусветнай вайной былі галоўным перавалачным пунктам па разгрузцы і загрузцы тавараў, што перавозіліся па рацэ. Гэта было звязана з ліквідаваннем транзітнага гандлю на Нёмане, калі ў выніку канфлікта паміж Літвой і Польшчай плыць па рацэ далей Друскенік было нельга.

На гарадзенскіх прыстанях міжваенных гадоў ужо нельга было ўбачыць вялікіх драўляных транспартных суднаў – віцін, аднак берагі ў межах горада па-ранейшаму былі заваленыя бярвеннем, якое апрацоўвалася на пяці гарадзенскіх тартаках. Тры з іх знаходзіліся на правым беразе Нёмана, а два – на левым. Самым вялікім быў пабудаваны яшчэ ў пачатку XX ст. тартак "Лес", які належаў Калецкаму і К°. На тартаках рабілі мэблю, забяспечвалі горад будаўнічым матэрыялам і дровамі.

Найбольш важным прамысловым прадпрыемствам горада таксама, як і перад Першай сусветнай вайной, працягвала заставацца тытунёвая фабрыка Лейбы Шарашэўскага, утвораная яшчэ ў 1861 г. Урад польскай дзяржавы прыняў рашэнне аб нацыяналізацыі тытунёвай вытворчасці ў краіне. У 1924 г. фабрыка была прададзеная ўласнікам за 2,7 мільёна злотых. Разам з ёй выкупілі і тры іншыя меншыя тытунёвыя фабрыкі, злучыўшы іх у адзіную Дзяржаўную фабрыку тытунёвых вырабаў. У пачатку 1930-х гг. вытворчасць была перанесена ў новыя будынкі на Занёманскім прадмесці.

Гародня таксама была раённым цэнтрам Гарадзенскага раёну вытворчасці тытуню, у які ўваходзілі Гарадзенскі, Аўгустоўскі і Ваўкавыскі паветы. Умовы працы на фабрыцы былі дастаткова цяжкія. Апрача таго, вытворчасць тытуню ў Польшчы знаходзілася да сярэдзіны 1920-х гг. у глыбокім крызісе, таму

многія супрацоўнікі фабрыкі заўсёды былі актывістамі прафсаюзнага і камуністычнага руху.

Яшчэ адным “брэндавым” прадпрыемствам горада стала Крэсовая фабрыка матацыклаў і веласіпедаў “Нёман”, якая належала братам Старавольскім. Заснаваная ў канцы XIX ст. невялікая слясарная майстэрня разраслася да пачатку 1930-х гг. у досыць вялікую фабрыку, на якой выпускалі каля дзесяці тысяч ровараў штогод, а таксама прадавалі друкарскія машынкі і машынкі для шыцця розных еўрапейскіх вытворцаў. У 1934 г. фабрыка пачала выпускаць матаролеры з рухавікамі нямецкай вытворчасці, а ў 1936 г. з канвеера фабрыкі сышоў першы гарадзенскі матацыкл.

Гэта была г.зв. “сотка” – матацыкл з аб’ёмам рухавіка 100 кубічных сантыметраў, на якія ў тыя часы не трэба было мець пасведчання кіроўцы. А вясной 1939 г. з’явіліся матацыклы з аб’ёмам рухавіка 125 і 150 кубічных сантыметраў. Найбольш магутны матацыкл 150DV меў англійскі рухавік, набіраў максімальную хуткасць да 90 км/г і мог перавозіць да 250 кілаграмаў грузу. Каштаваў матацыкл каля 1000 злотых. Прадукцыя гэтай адзінай ва ўсходніх ваяводствах міжваеннай Польшчы фабрыкі механічных сродкаў транспарту прадавалася ў Познані, Кракаве і Варшаве. Штогод да пачатку Другой сусветнай вайны фабрыка выпускала па 100 – 200 матацыклаў.

Да ліку важнейшых прадпрыемстваў горада ў міжваенныя гады таксама належала заснаваная ў 1899 г. Фабрыка скураных вырабаў (або “Нёманская фабрыка”) па вуліцы Пілсудскага (зараз вул. Дамініканская). Фабрыка спецыялізавалася на вырабе дарагіх скураных рэчаў: кашалькоў, партманэ, торбаў, партфеляў, папак, пісьмовых прылад. Большасць прадукцыі прадпрыемства ішла на экспарт у краіны Заходняй Еўропы. У маі 1939 г. прадпрыемства згарэла і было адноўлена толькі ў 1940 г. ужо як звычайная фабрыка абутку.

У горадзе функцыянавала некалькі друкарняў. Найбольш знакамітымі былі друкарні Мейлаховіча і Лапіных. Апошняя ў 1922 г. стала цэнтрам вытворчасці гульнявых карт пад назвай Першай краёвай фабрыкі карт для гульні. На гэтай досыць унікальнай фабрыцы (у міжваеннай Польшчы было толькі чатыры падобныя фабрыкі) працавала каля 50 чалавек.

Даволі вядомай у міжваенныя гады была фабрыка штучных заменнікаў кавы, мармелады і цукерак на вул. Паўночнай. Яна, верагодна, была заснавана нямецкімі акупацыйнымі ўладамі ў гады Першай сусветнай вайны, але ў 1920-х – 1930-х гг. яе прадукцыя працягвала карыстацца вялікім попытам, паколькі штучная кава (з жалудоў або ячменю) была больш даступнай для гарадзенцаў, чым натуральны экзатычны напой.

Нельга таксама не згадаць пра фабрыку воцату Беняшэўскага і фабрыку мыла і соды Гіршгорна, якая ў 1926 г. атрымала залаты медаль на прэстыжнай выставе ў французскім Льежы. Да сённяшняга дня захаваліся будынкі былой гарадской рэзні на вуліцы Камунальнай (у міжваенныя гады Рэзніцкай), гарадзенскага малаказавода і гарбарнага завода.

У міжваенны час у Гародні функцыянавала тры бровары: Эўфраіма Яфэ на вуліцы Збажовай, Лейбы Слуцкага – на Віленскай і Юдэля Марголіса – на Агароднай. Гарадзенцы не вельмі захапляліся смакам мясцовага піва, паколькі вытворцы парушалі санітарныя нормы вырабу напою, а таксама ўзгоднена ўздымалі на яго кошты, так што ўладальнікам рэстарацый даводзілася прывозіць піва аж з Сувалак. Становішча палепшала пасля таго, як у 1933 г. пасля банкруцтва сям'і Марголісаў найбольшы бровар быў выкуплены Варшаўскім прамыслова-гандлёвым таварыствам "Гарацый Гелер", якое было ўласнасцю аднаго з сталічных мільянераў. У 1939 г. гарадзенскі бровар прадукаваў ужо 385 тыс. дэкалітраў піва.

Працавалі гарадзенцы і на двух цагельных заводах – Аркіна на вул. Базыльянскай і Друцкіх-Любецкіх каля Станіслава. Паблізу

чыгуначнага вакзала функцыянавала таксама Станіславоўская кафлярня. Праца на цагельнях ішла толькі летам і,,нягледзячы на пэўную механізацыю, была выключна цяжкай. Больш 100 мужчын і некалькі дзясяткаў жанчын здабывалі гліну, складалі цэглу, перасоўвалі цяжкія ваганеткі. Калі кваліфікаваны рабочы мог, эканомячы на ўсім, сабраць сродкі на будоўлю ўласнага дома, то чорнарабочыя ледзь зводзілі канцы з канцамі.

Няшмат вядома пра фабрыку запалак Марголіса і Ёсялевіча на Ерусалімскай вул. У 1926 г. яна была ўжо дзяржаўнай фабрыкай "Марыёс" і досыць хутка заняпала як і ўся запалкавая галіна ў эканоміцы Польшчы, манапалізаваная "запалкавым каралём" шведам Кругерам.

Камунальная гаспадарка горада развівалася не асабліва хутка, але таксама рабіла важныя крокі наперад. Найбольш важным камунальным прадпрыемствам горада была гарадская электрастанцыя (1912 г.). Падчас Першай сусветнай вайны ёй быў нанесены значны урон. Калі ў 1914 г. электрастанцыя абслугоўвала 500 абанентаў, то ў 1922 г. была ў стане даваць электрычнасць толькі вайскоўцам і дзяржаўным інстытуцыям. У 1923 г. на станцыі пачалі працаваць два новыя рухавікі шведскай вытворчасці, а ў 1928 – 1932 гг. былі ўсталяваны паравыя турбіны і катлы, вада ў якіх награвалася пры дапамозе каменнага вугалю, што прывозілі з Цэнтральнай Польшчы. У 1939 г. была запланавана чарговая рэканструкцыя фабрыкі, аднак вайна перапыніла гэтыя планы[7].

Таксама, як і ў электрастанцыю, кіраўніцтва горада ўкладала сродкі ў гарадскія водаправод і каналізацыю. Водаправод існаваў у цэнтральнай частцы горада ўжо з 1876 г., а вось ніякай цэнтралізаванай каналізацыйнай сістэмы не існавала. Толькі чвэрць адходаў жыццядзейнасці вывозілася з горада асенізатарамі, рэшта заставалася ў горадзе, трапляючы ў мясцовыя рэчкі – Юрыздыку, Гараднічанку, а пасля ў Нёман. Нават у 1935 г. карэспандэнт адной з газет пісаў: *"Ідучы днём па вуліцы Юрыздыка часта можна сустрэць*

[7] Tomaszewicz Z. Rozwój elektrowni miejskiej w Grodnie // Niemen. 1939. Nr 1. S. 21-26.

*жанчын, якія вёдрамі чэрпаюць ваду проста з Гараднічанкі. Гэтая сімпатычная рачулка, што працякае праз горад, ужо перад упадзеннем у Нёман становіцца бруднай смярдзючай каналізацыяй".*

Існавала некалькі праектаў пабудовы каналізацыі ў горадзе – ад каналізавання ўсёй Гараднічанкі да пабудовы двух магутных калектараў недалёка ад Нёмана. Усе гэтыя праекты былі занадта дарагімі, і толькі ў 1935 г. кіраўніцтва горада прыступіла да будаўніцтва адной лініі каналізацыі, якая ахоплівала цэнтр горада. Да работ была прыцягнута вялікая колькасць беспрацоўных. Нягледзячы на недахоп фінансавання ды іншыя праблемы, працы ўдалося давесці да канца. Пачынаючы ад Віленскай вул. уздоўж Гараднічанкі прайшоў магутны каналізацыйны калектар, для будаўніцтва якога гораду прыйшлося перасяліць сем'і з больш чым 20 дамоў па вул. Юрыздыка.

Вялося актыўнае брукаванне гарадскіх вуліц. З канца 1920-х гг. на вул. Нёманскай функцыянаваў бетонны завод, на якім пачалі прадукаваць бетонную плітку і бардзюры з надпісам "Magistrat miasta Grodno".

Унутрыгарадскі транспарт цалкам знаходзіўся ў прыватных руках. Да канца 1920-х гг. па горадзе ездзілі толькі конныя павозкі, г.зв. "дарожкі". Напрыклад у 1927 г. іх агульная колькасць перавышала 100 адзінак. Дарожкі былі на ўліку ў магістраце, яны павінны былі мець стандартны выгляд і вызначаныя месцы пастою. Напрыклад, на чыгуначным вакзале стаяла 25 дарожак, а на вуліцы Ажэшкі насупраць пошты – 15. Толькі ў 1930 г. у Гародні з'явіліся два першыя гарадскія аўтобусныя маршруты – ад чыгуначнага вакзала ў Ласосна і ад Скідзельскага рынка да Грандзіцкай вул. Рух аўтобусаў ажыццяўляўся ад 6.30 раніцы да 23.30 вечара. Цікава, што канкрэтнага раскладу руху аўтобусаў не было, што выклікала пастаянныя нараканні пасажыраў[8].

На плошчы Стэфана Баторыя (зараз пл. Савецкая) размяшчалася аўтастанцыя з бензакалонкай, адкуль у 1938 г. ужо можна было даехаць не толькі да прыгарадскіх мястэчак, але нават да

[8] Саяпин В. История общественного транспорта Гродно. Гродно, 2012. С. 27-28.

Вільні. Але не было добрага будынку аўтастанцыі, і падарожныя чакалі аўтобус у навакольных "кнайпах". Білеты каштавалі дарага (да 18 грошай за кіламетр), а ўмовы падарожжа па мясцовых дарогах былі не самыя лепшыя.

Найлепшымі сродкамі для падарожжаў па ваколіцах заставаліся цягнікі і рачны транспарт. Да сярэдзіны 1920-х гг. цягнікі з Польшчы даходзілі толькі да станцыі Ласосна (чыгуначны мост не быў адноўлены), але ўжо ў 1930-х гг. на цягніку можна было даехаць да Аўгустова, Азёр або Друскенік. Жыхары прынёманскіх вёсак або курортнікі, што дабіраліся да Друскенік, падарожнічалі па рацэ. Уверх і ўніз па Нёмане хадзілі параходы і цеплаходы "Ягайла", "Ядвіга", "Міхал Агінскі", "Рыдз-Смігглы" ды інш. У горадзе былі дзве параходныя прыстані, а напрыканцы 1920-х гг. быў пабудаваны рачны вакзал.

Нягледзячы на складанае санітарна-эпідэміялагічнае становішча ў горадзе, выпадкі воспы і халеры былі адзінкавымі і ніколі не перараслі ў эпідэмію. У розныя гады гарадзенцам найбольш дакучалі тыф, адзёр, шкарлятына. Дастаткова распаўсюджанымі былі сухоты, захворванні вачэй. Лячэнне хворых у горадзе ажыццяўлялі Трэці акруговы шпіталь па вул. Грандзіцкай, Гарадскі шпіталь па вул. Рэзніцкай, Габрэйскі шпіталь па вул. Ягелонскай і амбулаторыі пры іх. За год праз шпіталі і амбулаторыі праходзіла прыкладна 5 тыс. чал. Калі ўлічыць, што лячыліся тут не толькі гараджане, то гэтую лічбу трэба прызнаць не высокай[9].

Лепшым шпіталем у горадзе лічыўся Габрэйскі шпіталь каля воданапорных вежаў "Касі" і "Басі". У Гародні функцыянавалі таксама хоспіс, лякарня Чырвонага Крыжа, аддзяленні Гарадскога шпіталю, прызначаныя для інфекцыйных хворых і для вар'ятаў. Апошняе аддзяленне, дарэчы, месцілася ў будынку на плошчы Антонія Тызенгаўза, і крыкі хворых надавалі многім афіцыйным мерапрыемствам, што праходзілі на гэтай плошчы, даволі сюррэалістычны характар.

[9] Lasek G. Zdrowotność miasta Grodna. Informator miasta Grodna i Grodzienszczyzny. Grodno. 1926. S. II-VIII.

Большасць лекараў вяла прыём на даму, маючы кабінеты ў сваіх кватэрах, часам абсталяваныя вельмі добра (з рэнтгенам і кварцавымі лямпамі), аднак часцей за ўсё вельмі сціпла. Так, напрыклад, выглядаў кабінет доктара К.Бялецкага: *“Пацыенты чакалі прыёма ў прыхожай, дзе была вешалка для палітонаў і капелюшоў, а на століку ляжалі свежыя газеты. У кабінеце доктара была паркетная падлога, за шырмай стаялі кушэтка і спецыяльнае крэсла: тут пацыенты праходзілі агляд”*. У 1926 г. у Гародні было 46 урачоў, 22 дантысты і 42 акушэркі, большасць з якіх вялі прыватную практыку.

Зусім не зменшылася ў параўнанні з царскім часам значэнне вайскоўцаў у гарадскім жыцці. Толькі калі ў перыяд Расійскай імперыі салдаты і афіцэры падкрэслівалі рускасць горада, то шматлікія польскія вайскоўцы ўжо сведчылі аб польскасці горада над Нёманам. У горадзе, апрача камандавання III Вайсковай акругі размяшчаліся часткі 76 і 81 пяхотных палкоў, 7 танкавага батальёна і 29 палка лёгкай артылерыі.

Тэрыторыя, занятая вайскоўцамі, не толькі не зменшылася, але нават крыху павялічылася. Будаваліся дадатковыя казармы на Фолюшы, вялікі абшар быў заняты вайскоўцамі на Занёманскім прадмесці ў раёне вул. Збажовай, захаваліся казармы каля Старога мосту (з 1930 г. насіў імя Юзафа Пілсудскага). Казармы на былой Аляксандраўскай слабадзе атрымалі назвы ў гонар польскіх вайскоўцаў – Бэма, Сулкоўскага, Легіяновыя. Да канца 1920-х гг. вайскоўцы валодалі Старым Замкам, а ў Новым Замку аж да 1939 г. месціўся вайсковы шпіталь.

Незаўважнай, але тым не менш, значнай часткай “насельніцтва” Гародні былі вязні гарадской турмы. У сярэднім за сценамі размешчанай у самым цэнтры горада вязніцы (былым езуіцкім калегіуме) адначасова знаходзілася каля 600 мужчын і каля 100 жанчын.

Не менш адной чвэрці (а ў часы палітычных рэпрэсій нават больш) складалі палітычныя заняволеныя, галоўным чы-

нам камуністы і беларускія дзеячы, сярод якіх трэба згадаць Браніслава Тарашкевіча, Піліпа Пестрака, Валянціна Таўлая, Якуба Міско, Янку Натусевіча, Тамаша Грыба.

Умовы ў гарадзенскай турме лічыліся аднымі з найбольш цяжкіх у Польшчы. У сваіх успамінах Паўліна Мядзёлка гэтак апісвае ўмовы, якія панавалі па той бок турэмных муроў: *"Адзіночная камера цёмная, вузкая, як магіла. Брудныя, мабыць не беленыя сцены пакрыты заплеснелымі плямамі. Глыбока ў сцяне, вышэй росту чалавека, маленькае аконца з жалезнымі кратамі слаба прапускае дзённае святло. На вузенькім жалезным ложку сяннік з папяровай мяшкавіны, зашмальцаваны ад бруду, і танюсенькі, так што жалезныя рэбры з-пад яго выразна вырысоўваюцца; з такой жа мешкавіны брудная і плоская саламяная падушка. Ні посцілкі, ні навалачкі... Ні міскі, каб памыцца, ні ручніка – выцерціся"*[10].

Па іроніі лёсу польская ўлада, якая старалася прыбраць з аблічча горада знакі нацыянальнага прыгнёту польскага народу ў часы Расійскай імперыі, пакінула турму на старым месцы. Гэта дало мажлівасць заходнебеларускім камуністам праводзіць прамыя паралелі паміж царскім мінулым і польскай рэчаіснасцю, тым больш, што да канца 1920-х гг. на тэрыторыі былога "расійскага забору" дзейнічаў крымінальны кодэкс Расійскай імперыі.

Улады горада праводзілі шырокую кампанію па пераўтварэнні Гародні ў "польскі горад". Асабліва важную ролю адыгрывала тут мадэляванне нацыянальнай гісторыі Гарадзеншчыны ў духу барацьбы за свабоду Польшчы. У якасці галоўных постацей гарадзенскай гісторыі фігуравалі кароль Стэфан Баторый, пісьменніца Эліза Ажэшка і эмісар эміграцыі Міхал Валовіч. Гэтым фактычна акрэсліваўся ўвесь "гістарычны" вектар польскай Гародні. Імя Элізы Ажэшкі насілі гарадскі тэатр і літаратурнае таварыства, а таксама літаратурная ўзнагарода. Што тычыцца Стэфана Баторыя, то ў канцы лістапада 1933 г. Гародня гучна адзначыла

[10] Мядзёлка П. Сцежкамі жыцця. Мінск, 1974. С. 137.

400-годзе з дня нараджэння караля. Паступова фарміраваўся культ Юзафа Пілсудскага.

Дзяржаўная ідэалогія ахоплівала самы шырокі спектр грамадскіх устаноў, пачынаючы ад вайсковай падрыхтоўкі моладзі і заканчваючы аховай гістарычнай спадчыны. Сярод іншых у Гародні дзейнічалі Стралецкі саюз, Саюз асаднікаў, Саюз польскіх бойскаўтаў, Саюз польскіх землеўласнікаў, Польская мацеж школьная, Камітэт дапамогі моладзі, Сельскагаспадарчае таварыства, Саюз польскіх купцоў, Таварыства сяброў мастацтва і літаратуры, Польскае гістарычнае таварыства, Польскае краязнаўчае таварыства, Тэатральнае таварыства "Муза", Таварыства аматараў Гародні ды інш.

Адной з найбольш масавых арганізацый была "Каталіцкая акцыя", арыентаваная на актывізацыю рэлігійнай дзейнасці і грамадскай працы касцёла. Наогул, мясцовае асяродзе аказалася вельмі спрыяльным для каталіцкай рэлігійнай думкі. Сярод гарадзенцаў вялікім аўтарытэтам карысталіся ксяндзы Ф.Грынкевіч, М.Фардон, А.Курыловіч, Жэброўскі ды інш. У 1922 – 1927 гг. у Францысканскім касцёле служыў славуты ксёндз Максіміліян Кольбе, рэдактар часопіса "Rycerz Niepokolanej".

Вялікую ролю ў грамадскім жыцці Гародні адыгравала мясцовая польская інтэлігенцыя, якую складалі прадстаўнікі самых розных сацыяльных груп і прафесій. Актыўнымі дзеячамі былі рэдактары і выдаўцы Марыя і Станіслаў Земаковы, Стефанія Носціц-Яцкоўская, Ядвіга і Тадэвуш Карылскія, юрысты Зыгмунт Гарбачэўскі, Віктар Нелубовіч, Антоні Жабакліцкі, працаўнікі культурных устаноў Юзаф Ядкоўскі, Яніна Казлоўская-Студніцкая, Тадэвуш Янкоўскі, дзяржаўныя службоўцы Раман Савіцкі, Ежы Цытаржынскі, Кароль Гутман, уладальнікі гарадзенскіх фірм Казімір Сташэўскі, Ян Маліноўскі. Разам з тым узмацніліся ўплывы на гарадское жыццё мясцовых польскіх землеўладальнікаў Друцкіх, Чацвярцінскіх, Сапегаў, Красінскіх, Пачобутаў-Адляніцкіх,

Нямцэвічаў. Сярод польскіх партый найбольш актыўнымі былі Беспартыйны блок супрацоўніцтва з урадам, Польская партыя сацыялістычная (ППС) ды хрысціянскія дэмакраты.

Адсутнасць "фармальных" асяродкаў інтэлігенцыі (найперш універсітэту) у міжваеннай Гародні прыводзіла да таго, што найбольшую ролю ў стварэнні культурнага вобразу горада адыгрывалі канкрэтныя асобы.

Самымі вядомымі прадстаўнікамі гарадзенскай інтэлігенцыі былі выкладчык прыродазнаўства ў гімназіі імя Адама Міцкевіча Ян Кахноўскі, а таксама калекцыянер і гісторык, стваральнік і першы дырэктар Гарадзенскага музея Юзаф Ядкоўскі. Абодва паходзілі з дробнай шляхты з ваколіц горада, але гадаваліся і выхоўваліся ў Гародні.

У 1926 г. Кахноўскі заклаў паблізу гімназіі на частцы сучаснага гарадскога парку імя Жылібэра батанічны сад, які займаў плошчу 0,3 га. Напрыканцы 1920-х гг. у ім налічвалася 830 розных відаў раслінаў, у тым ліку дрэваў і кустоў. Дзякуючы Я.Кахноўскаму гарадская рада сваёй пастановай ад 2 верасня 1929 г. перадала пад заапарк былы гарадскі велатрэк. Пасля быў набыты яшчэ кавалак зямлі ў князя Яна Друцкага-Любецкага. Напярэдадні Другой сусветнай вайны гарадзенскі заапарк быў трэці па памерах у Польшчы пасля варшаўскага і познаньскага заапаркаў з львом, тыграм, леапардам і зубрам.

Юзаф Ядкоўскі скончыў гарадзенскую гімназію, вучыўся ў Маскоўскім археалагічным інстытуце і перад Першай сусветнай вайной займаў пасаду кансерватара помнікаў старажытнасці па Віленскай, Гарадзенскай і Менскай губернях. Ужо тады Ю. Ядкоўскі зрабіў дэтальныя малюнкі Мірскага замка, Каложскай і Сынкавіцкай цэркваў, захаваў іканастас царквы ў Супраслі.

Пасля Першай сусветнай вайны ён быў зацверджаны кіраўніком Бюро дзяржаўнай апекі над помнікамі гісторыі і культуры, актыўна збіраў параскіданыя вайной кнігі, дакументы ды іншыя артэфакты мінулага. У 1920 г. заснаваў Гарадзенскі музей,

які з пачатку 1930-х гг. размяшчаўся ў Старым Замку. У 1932–1933 гг. падчас земляных работ па ўмацаванні схілаў Старога Замка Ю. Ядкоўскім былі знойдзеныя рэшткі дзвюх сярэднявечных цэркваў і княжага цераму. Гісторык, які пазіцыянаваў сябе як паляк, стаў адкрывальнікам найбольш старажытнага "рускага" перыяду гісторыі Гародні.

Такім чынам, натхнёная праца двух чалавек паспрыяла стварэнню двух працуючых да сённяшняга дня навукова-адукацыйных асяродкаў. Таксама з'явіліся ў тыя часы Гарадзенскі музей прыроды і Дзяржаўны архіў.

У 1920 – 1930-я гг у горадзе дзейнічалі камуністычныя арганізацыі, якія існавалі нелегальна, за выключэннем тых рэдкіх выпадкаў, калі напярэдадні выбараў паўставалі своеасаблівыя "надбудовы" гэтых партый у выглядзе нанова пакліканых арганізацый. Хаця іх колькасны склад быў дастаткова абмежаваным (у канцы 1921 г. гарадзенская камуністы, напрыклад, налічвалі ўсяго 17 чалавек), аднак іх уплывы ў горадзе заўсёды былі даволі адчувальнымі. Гародня была цэнтрам асобнай акругі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. У горадзе праводзіліся важныя партыйныя мерапрыемствы. Амаль дзесяцігоддзе функцыянавала нелегальная друкарня на вул. Ласасянскай.

Час ад часу на прадпрыемствах Гародні адбываліся стачкі, арганізаваныя заходнебеларускімі камуністамі і сацыялістычнымі арганізацыямі. У 1929 г. у разгар эканамічнага крызісу баставалі рабочыя гарадзенскіх тартакаў, запалкавай фабрыкі "Марыёс", шклозавода і аўтапарка. Асабліва актыўным быў забастовачны рух у 1936 г., калі многія арганізацыі аб'ядналіся пад лозунгамі антыфашысцкага "Народнага Фронта". Вясной-летам гэтага году прайшлі забастоўкі на большасці прадпрыемстваў горада, а таксама шматлікія мітынгі, на якіх высоўваліся патрабаванні не толькі эканамічнага, але і палітычнага характару (барацьба з фашызмам, вызваленне палітычных зняволеных).

Беларускі грамадска-палітычны рух таксама пакінуў пэўную памяць у гісторыі міжваеннай Гародні. Цэнтрам беларускага жыцця стаўся былы Барысаглебскі манастыр па вул. Маставая, 9. Адбылося гэта галоўным чынам дзякуючы беларускаму прытулку, які праіснаваў у ягоных сценах амаль да канца 20-х гг. XX ст.

5 верасня 1922 г. у Гародні прайшоў з'езд беларускіх выбарных камітэтаў, на якім было вырашана беларускім кандыдатам далучыцца да Блоку нацыянальных меншасцей на выбарах у Сейм і Сенат Польшчы. Па выніках выбараў ад Беластоцкай выбарчай акругі (куды ўваходзіла Гародня) у Сейм прайшлі два беларусы – Сымон Якавюк і Сяргей Баран.

У хуткім часе гэтыя дэпутаты Сейма былі абвінавачаны ў дыверсійнай дзейнасці на карысць Літоўскай дзяржавы і пазбаўленыя мандатаў. У 1923 і 1925 гг. у Беластоку і Гародні прайшлі два буйныя палітычныя працэсы над беларускімі партызанамі, абвінавачанымі ў антыдзяржаўнай дыверсійнай дзейнасці. Дзясяткі падсудных атрымалі вялікія тэрміны зняволення.

Да пачатку 1929 г. у Гародні дзейнічаў акруговы камітэт Таварыства беларускай школы, пры якім функцыянавала тэатральная секцыя і кніжная крама. У 1925–1927 гг. у горадзе існаваў павятовы камітэт Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ), у які ўваходзілі І.Баліцкі, М.Якімовіч, П.Кізевіч, У.Паддубік. У другой палове 1926 г. у горадзе неаднаразова праходзілі грамадоўскія мерапрыемствы – павятовыя з'езды, мітынгі з удзелам беларускіх дэпутатаў Сейма Браніслава Тарашкевіча, Сымона Рака-Міхайлоўскага, Паўла Валошына. Вясной 1927 г. павятовы камітэт БСРГ быў зліквідаваны, а ягоныя сябры трапілі пад паліцэйскія рэпрэсіі.

Мадэрнізацыя і "нацыяналізацыя" гарадской прасторы Гародні мела і негатыўныя бакі. Адным з іх стаў рост нацыянальных супярэчнасцей. Ён быў не вельмі заўважны на пабытовым узроўні, але яго актыўна спрабавалі прышчапіць гарадзенцам у выглядзе розных ідэалагічных канцэпцый.

Асабліва відавочным у гэты час стаў падзел паміж дзвюма светамі Гародні – іўдзейскім і хрысціянскім. Даніiл Клоўскі, які ў міжваенныя гады быў малым габрэйскім хлопчыкам, узгадваў: *"Не памятаю, каб я ў тым узросце сустракаўся з польскімі хлопчыкамі сам на сам. Хутчэй за ўсё, адзін я на вуліцу не выходзіў, інакш такія сустрэчы запомніліся бы надоўга. Хадзілі мы, габрэйскія дзеці, толькі групамі. Але і гэта не пазбаўляла нас ад сутычак з польскімі хлопцамі"*[11].

7 чэрвеня 1935 г. адбыўся габрэйскі пагром. Падставай для яго стала забойства габрэем падчас танцаў польскага марака, які прыехаў у горад на адпачынак. Знайшліся азвотныя адпомсціць усім габрэям, і раз'юшаны натоўп, узброены камянямі і палкамі, спустошыў габрэйскія крамы ў цэнтры горада.

Гарадзенка Клаўдзія Крамаруха пазней успаміналa: *"И вся толпа с кладбища кинулась на город, перебили на Советской улице все магазины, всё повыносили [...] У нас по соседству был мальчик, сын женщины, которая имела пятеро детей [...] Так вот это парень [...] принёс банку мороженного целую [..] и прибежал в кросовочках. [...] Мать как начала его ругать! Что ты? Где ты это взял? А он говорит: "А не знаю. Я бежал по улице, а там яки-то пан военный говорит, что ты хлопец босый бегаеш? Кинул меня в этот магазин. Вот обувайся". Да, всё разграбили тогда, все магазины перебили. Где польские магазины были или дома, так уже свечи зажигали и ставили, чтоб их только не трогали..."*[12]

Пагром быў шокам для гарадзенцаў, паколькі нават у часы Расійскай імперыі, калі ўлада часам заплюшчвала вочы на дзеянні пагромшчыкаў, габрэйскіх пагромаў у Гародні не было. Больш таго гарадзенскія гімназісты і актывісты ППС аб'ядноўваліся ў групы самаабароны, якія спынялі любыя антыгабрэйскія акцыі ў самым пачатку. А праз паўтара дзесяцігоддзі існавання незалежнай Польшчы ў горадзе ўжо сфарміравалася глеба для антысеміцкіх учынкаў шырэйшага маштаба.

[11] Кловский Д. Дорога из Гродно. Самара, 1994. С. 7.

[12] Успаміны К.В.Крамарухі. // Горад Святога Губерта. Выпуск IV. С. 43.

18 верасня 1938 г. у Гародні пачала выдавацца газета "Czyn Młodych" ("Чын маладых"), якая характарызавала сябе як *"незалежны штотыднёвік, прысвечаны грамадска-палітычным справам"*. Выданне мела выразны антысеміцкі накірунак.

У тым самым годзе быў надрукаваны "Інфармацыйна-прапандысцкі календар польскага стану валодання ў Гародні і на Гарадзеншчыне на 1938 год". Разам з лозунгам *"Польшча для палякаў!"* каляндар змяшчаў на сваіх старонках масу іншых заклікаў: *"Не купляй у габрэя, бо нават калі прадасць табе быццам танней, то ўсё адно цябе ашукае", "у імя нацыянальнага гонару – не дапамагай габрэям знішчаць нашу айчыну", "купляй усё ў хрысціяніна, а не ў ворага Святога Крыжа, якім з'яўляецца габрэй"*[13].

Адна з гарадзенскіх антысеміцкіх улётак таго часу заклікала: *"Паляк! Абыходзь габрэя – падтрымлівай сваіх! Купляй толькі ў хрысціян. Бяры на працу толькі работнікаў хрысціян. Імкніся развіваць хрысціянскія польскія і культурныя пляцоўкі. Польскі грош у польскія рукі!"*[14]

Тым не менш большасць гарадзенцаў ніяк не падтрымлівала палітызаваныя антысеміцкія лозунгі. Вось як успамінала гэта Клаўдзія Крамаруха: *"Были такие люди с галстуками зелёными, ходили по магазинам, стояли и если идут покупатели, говорили: "Не купуй у жыда!" А люди никак к этому не относились, идут, где им надо и покупают, что им надо. Знают, что в польском магазине в два раза дороже. Зачем им это надо идти в польский магазин.*

*Евреи – это самые хорошие люди [...] Евреи всегда сочувствовали: "Нет денег, потом отдашь, не спеши". Замечательные люди были"*[15].

Рэалізаваць праграму *"не купляй у габрэяў"*, сапраўды, было не вельмі проста з чыста практычных прычын. Габрэям у 1938 г. у Гародні належала 201 спажывецкая крама (супраць 108 у хрысціян), 52 пякарні (супраць 10), 90 галантэрэйных крам (супраць 10). Габрэямі былі 322 краўца (супраць

[13] Kalendarz informacyjno-propagandowy polskiego stanu posiadania w Grodnie i na Grodzieńszczyźnie na rok 1938.Grodno, b.r.

[14] ГДГАМ. Адзінка захоўвання – КП-8178.

[15] Успаміны К.В.Крамарухі. С. 45.

42 хрысціян), 168 шаўцоў (супраць 50), 83 столяры (супраць 14), 24 цесляры (супраць 6)[16].

Такім чынам, цягам двух міжваенных дзесяцігоддзяў Гародня існавала як тыповы правінцыйны горад Польшчы. Разрыў эканамічных сувязяў XIX ст. у выніку распада Расійскай імперыі і з'яўленне новых межаў негатыўна адбілася на яе эканамічным развіцці. Вонкавае жыццё горада здавалася даволі спакойным. Гародня будавалася, узнікалі новыя прадпрыемствы, паляпшалася камунальная гаспадарка, сістэма аховы здароўя. Рэалізацыя ж польскімі ўладамі праекта па "нацыяналізацыі" горада фармальна надавала Гародні ўсё больш польскае аблічча, але не магла цалкам нівеляваць тыя нацыянальныя і сацыяльныя супярэчнасці, якія існавалі ў грамадстве. Яны або перарасталі ў адкрытыя канфлікты  або чакалі свайго часу. Між тым верасень 1939 г. ужо набліжаўся...

## ГАБРЭЙСКАЯ СУПОЛКА ГОРАДА Ў МІЖВАЕННЫ ЧАС

Колькасць габрэяў у міжваеннай Гародні ўзрастала нязначна. Паводле перапісу 1921 г., у горадзе пражывала іх каля 18,7 тыс., а ў 1931 г. – каля 21,2 тыс. Пры гэтым доля габрэяў сярод усіх гарадзенцаў нават зменшылася з 54% да 43%. Гэта было звязана з хуткімі тэмпамі ўрбанізацыі і павялічэннем гарадской тэрыторыі коштам далучэння да яе некалькіх прадмесцяў, прытокам у горад сялянаў і зніжэннем натуральнага прыросту сярод насельніцтва іудзейскага веравызнання. Ён складаў каля 8,5%, у той час як сярод хрысціянскага насельніцтва дасягаў 18,5%.

У міжваенны перыяд габрэйская суполка існавала ў якасці органа самакіравання, які не толькі забяспечваў

[16] Kalendarz informacyjno-propagandowy polskiego stanu...

рэалізацыю рэлігійных патрэб габрэяў, але таксама апекаваўся прадстаўнікамі гэтай этнічнай групы ў самым шырокім дыяпазоне: ад сацыяльнай падтрымкі, абароны палітычных правоў і эканамічных інтарэсаў да арганізацыі культурнага жыцця. Такі стан рэчаў цалкам задавальняў кансерватыўную большасць. Аднак члены радыкальных палітычных партый (напрыклад, сіяністы) лічылі, што рэлігія як справа асабістая, павінна застацца па-за межамі дзейнасці суполкі як грамадскай арганізацыі.

Суполка атрымала статус юрыдычнай асобы толькі ў 1928 г. З гэтага моманту яе справамі афіцыйна кіравалі Рада і Праўленне, якія абіраліся на падставе ўсеагульнага галасавання па партыйных спісах. Першым старшынём Рады стаў купец Зелік-Лейба Здравеіч. Органы кіравання пачалі дзейнічаць у лютым 1929 г.

Фінансы суполкі фарміраваліся шляхам збору падаткаў, а таксама дзякуючы мясцовым філантропам. У прыватнасці, былі атрыманыя грошы і нерухомая маёмасць ад Д.Шарашэўскага, І.Фрумкіна і Х.-Р.Шмігельскай. Суполка валодала нерухомасцю ў Гародні і Друскеніках (каля 20 будынкаў), бібліятэкай, шпіталем, прытулкам, домам апекі над старымі, двума народнымі школамі “Тарбут”, рамеснай школай імя Э.Брэгмана, сінагогай, малітоўнай школай “Хаем Адам”, трыма могілкамі, дзевяццю гарадскімі дамамі і крамай на плошчы Стэфана Баторыя.

Праз сетку брацтваў ажыццяўлялася дабрачынная дзейнасць. Так, Таварыства “Лінас Гацэдэк” аказвала медычную дапамогу на даму і дапамагала бедным лекамі ў тых выпадках, калі яны не маглі звярнуцца ў габрэйскі шпіталь. Дапамогай валанцёраў Таварыства штомесяц карысталася каля 300-350 чалавек.

Гурток габрэйскіх жанчын “Дамэн рэзайв” дапамагаў прадуктамі харчавання і апекаваўся беднякамі, якія выпісаліся са шпіталю. Пад кантролем суполкі працавала Народная кухня, заснаваная яшчэ ў 1896 г. дзеля арганізацыі бясплатных абедаў, якія пераважна складаліся з булёну і кашы. Кожны дзень харчаваліся ад 800 да 850 чалавек.

Кожны год перад святам Песах габрэйская суполка вылучала сродкі на закупку мацы (прэснага хлеба) і забяспечвала бедных іншымі харчовымі прыпасамі для ўрачыстай вячэры. Суполка таксама арганізоўвала летнія лагеры для габрэйскіх дзяцей з бедных сем'яў. Пад кантролем яе кіраўніцтва знаходзіліся грамадскія лазня і пякарня. Апошняя была абсталявана найноўшай тэхнікай і лічылася ўзорнай. Выпякаўся кашэрны хлеб, якім карысталіся перадусім бяднейшыя габрэі, бо ён быў не толькі смачным, але і танным, што, дарэчы, таксама ўплывала на гарадскія кошты на хлеб.

Дабрачыннай дзейнасцю таксама займаўся кааператыў "Шаар хошра", заснаваны ў 1891 г. Ён працаваў у будынку гарадской талмуд-торы. Першапачатковы капітал у 4 тыс. руб. для яго быў ахвяраваны купцом Э.Брэгманам. У міжваенны час кааператыў забяспечваў рабочых недарагімі таварамі паўсядзённага попыту, стварыў шмат рабочых месцаў, адчыніў для сваіх працаўнікоў пякарню, некалькі касаў пазыкі, заснаваў клуб з прэсай і неазартнымі гульнямі.

Гарадзенская габрэйская суполка кантактавала з адзінаверцамі за мяжой. У цяжкія 1920-я гг. яе падтрымлівалі міжнародныя габрэйскія згуртаванні (асабліва камітэт "Джойнт"), Амерыканская арганізацыя Чырвонага Крыжа і асобныя філантропы, звычайна амерыканцы гарадзенскага паходжання.

Фінансавы стан суполкі доўга час быў незайздросным. У 1928 г. яна мела 60 тыс. злотых доўгу, а ў 1930 г. доўг вырас да 80 тыс. Датацыя магістрата на ўтрыманне адукацыйных установаў не магла істотна палепшыць становішча. Затое ў сярэдзіне 30-х гг. па меры стабілізацыі эканамічнага жыцця гарадзенскія габрэі самі ўключыліся ў міжнародную дабрачынную дзейнасць. Суполка пералічвала грошы Габрэйскаму універсітэту ў Іерусаліме, Габрэйскаму навуковаму інстытуту ў Варшаве, Габрэйскаму студэнцкаму саюзу. Вялікае значэнне надавалася габрэйскай эміграцыі ў Палесціну. Датацыі траплялі

таксама ў габрэйскія арганізацыі Гародні. У прыватнасці з гэтай дапамогі карысталіся ешыва “Шаарэй Тора”, школа Таварыства раменай працы і шматлікія спартовыя аб’яднанні.

У 20 – 30-я гг. палітыка стала важнай часткай жыцця гарадзенскіх габрэяў. Погляды палярызаваліся, а складанае матэрыяльнае становішча большасці абумовіла радыкалізацыю палітычных праграмаў. Сімпатыяй рабочых і рамеснікаў карысталася Сацыялістычная габрэйская партыя “Поалей Цыён” (*Judisze Kommunistiszer Arbeiter Farband Poalej Cion*), якая адстойвала ідэю будаўніцтва незалежнай габрэйскай дзяржавы ў Палесціне, а таксама выступала за аўтаномію габрэяў і захаванне габрэйскай мовы. Сярод канчатковых мэтаў таксама была і дыктатура пралетарыяту.

У сярэдзіне 1920-х гг. сваёй актыўнасцю вылучаліся сіяністы. Іх агітацыя была накіравана на эміграцыю ў Палесціну, а бюро дапамагала афармляць дакументы для рэпатрыяцыі. Лектары і аўтарытэтныя прадстаўнікі сіяніцкага руху распавядалі пра старажытную гісторыю габрэяў, прыроду, сучаснае сацыяльна-эканамічнае становішча Палесціны, дзяліліся ўласнымі ўражаннямі ад яе наведванняў. Адбываліся дабрачынныя мерапрыемствы, грашовая выручка ад якіх перадавалася габрэйскім жыхарам паселішча “Эрэц Ісраэль”. Зацікаўленасць сіяністаў у добрай фізічнай падрыхтоўцы будучых каланістаў абумовіла іх падтрымку дзейнасці грамадскай арганізацыі “TOZ” (Таварыства аховы здароў’я), сябры якой прапагандавалі здаровы лад жыцця, гігіену і прафілактыку захворванняў.

Сваю аўдыторыю знайшлі ў Гародні таксама артадаксальныя сіяністы “Мізрахі”, якія імкнуліся адрадзіць Палесціну як дзяржаву рабочых, заснаваную на сацыяльнай справядлівасці і этыцы Торы. Нацыянальна-культурнае развіццё, на іх думку, магло ісці толькі праз адраджэнні іўрыту, а ў школах рэлігійны дух павінен быў спалучацца з свецкімі ведамі. У Польшчы мізрахісты імкнуліся да роўнасці габрэяў як лаяльных грамад-

зян з прадстаўнікамі іншых нацый. У Гародні асноўную ўвагу яны накіравалі на школьную справу.

Шматлікая гарадзенская ячэйка рэвалюцыйна-сацыялістычнай партыі Бунд (*Algemeiner Judiszer Arbeiter Bund in Polen*) схілялася да камунізму і адмаўляла "палесцінскае пытанне" як утопію. Сваю задачу Бунд бачыў у перамозе сацыялізму праз дыктатуру пралетарыяту, аб'яднанні рабочага класу і дасягненні габрэйскай нацыянальна-культурнай аўтаноміі ў Польшчы з захаваннем ідыш. У Гародні бундаўцы, на чале якіх стаяў Лейба Пінчук, знайшлі шырокую падтрымку сярод бяднейшай часткі суполкі.

Варта адзначыць, што падчас выбараў усе гэтыя спрэчкі і рознагалоссі адыходзілі на другі план. Гарадзенскія габрэі заўсёды выступалі кансалідавана, што дазваляла ім атрымліваць у гарадскім савеце максімальную колькасць мандатаў.

Адносіны гарадскіх уладаў і габрэйскай часткі Гародні будаваліся на прынцыпе супрацоўніцтва. Як адзначалася, гарадскія ўлады выдзялялі штогод пэўную суму для ўтрымання габрэйскіх школ. Іншым разам паступала дапамога ў выглядзе дроваў альбо прадуктаў харчавання. У сваю чаргу габрэйская суполка дзялілася замежнай гуманітарнай дапамогай з пачатковай школай імя Стэфана Баторыя і хрысціянскімі сем'ямі, якія атрымлівалі на габрэйскай дабрачыннай кухні малако, алей і соль.

На агульным фоне рэлігійнай і этнічнай талерантнасці, якую часта ўзгадвалі сучаснікі, іншым разам абвастралася міжэтнічная напружанасць. У першую чаргу гэта датычыла польскай і габрэйскай супольнасцяў. Варта яшчэ раз прыгадаць антыгабрэйскі пагром лета 1920 г., які адбыўся ва ўмовах адступлення польскага войска пад ціскам Чырвонай арміі. Яго ініцыятарамі былі марадзёры з ліку польскіх салдат, але сярод пагромшчыкаў былі і мясцовыя жыхары. Загінулі каля 250 чалавек, яшчэ больш было паранена і абрабавана.

Антысеміцкія настроі існавалі ў асяроддзі гараджан прыхільных праграме і духу Польскай нацыянальна-дэмакратычнай партыі. Яе агітатары імкнуліся стварыць вобраз “ворага габрэя”, які наўмысна шкодзіць польскай гаспадарцы, сімпатызуе камуністам, выкарыстоўвае эканамічныя праблемы і набівае ўласныя кішэні за кошт хрысціянаў. Так, у тым жа 1920 г. у Гародні прыхільнікі эндэцыі арганізавалі цыкл лекцый антысеміцкага зместу, а абразлівыя для габрэяў артыкулы, надрукаваныя ў часопісе “Новае жыццё”, сталі падставай для звароту габрэйскай інтэлігенцыі ў суд. Дарэчы, суддзя стаў на бок нацыянальных дэмакратаў, узгадаўшы “Пратаколы сіёнскіх мудрацоў” (!?). Ён жа заявіў пра рэальнасць “габрэйскай пагрозы” і ледзьве не выказаў падзяку рэдакцыі “Новага жыцця”.

Праявы побытавага антысемітызму можна ўбачыць у шматлікіх выпадках апаганьвання старажытных габрэйскіх могілак каля Галоўнай сінагогі. Некаторыя жыхары выкарыстоўвалі іх для выпасу жывёлы, азартных гульняў і п’янства. Гарадская адміністрацыя належным чынам рэагавала на гэтыя правапарушэнні і імкнулася іх спыняць, але не заўсёды атрымлівалася.

Габрэі міжваеннай Гародні ведалі, як цяжка ўладкавацца на працу, маючы нават замежны дыплом лекара або юрыста, не прадэманстраваўшы пасведчання аб хрышчэнні.

Аднак мур, які падзяляў прадстаўнікоў іудзейскай і хрысціянскай супольнасцяў на побытавым узроўні ў сярэдзіне XIX ст., пачаў разбурацца ў 20 – 30-я гг. XX ст. Шырыліся эканамічныя, палітычныя і культурныя кантакты. У маладога пакалення, ахопленага чаканнем грамадскіх і культурных пераменаў, прагнага да свабоды было менш узаемнай прадузятасці. Новае свецкае жыццё, папулярныя забавы (кінематограф, тэатр, літаратурна-музычныя і драматычныя вечарыны), кавярні, танцавальныя залы, адкрытыя для ўсіх гараджанаў дазвалялі людзям розных канфесій праводзіць час разам, што паступова разбурала многія этнічныя стэрэатыпы.

Аднак па іроніі лёсу менавіта рамантычныя адносіны паміж габрэйскім хлопцам і хрысціянскай дзяўчынай сталі падставай для пачатку гарадзенскага пагрому 1935 г. Гісторыя была ў нечым банальная. Падчас танцаў паляк, марак з Балтыкі, які прыехаў у Гародню, каб адведаць сваю сям'ю,,моцна пасварыўся з-за дзяўчыны з габрэйскім хлопцам. Той выхапіў нож і забіў суперніка. Пахаванне ператварылася ў антысеміцкі мітынг, які перарос у пагром. Адразу з могілак натоўп пайшоў біць габрэяў і рабаваць іх крамы.

Вестка пра гарадзенскі пагром узрушыла габрэяў Польшчы і замежжа. Выношваліся планы будаўніцтва мемарыялу ў памяць ахвяр. У чэрвені 1935 г. Праўленне гарадзенскай суполкі вылучыла 500 злотых на ўзвядзенне маўзалея над былі ахвярамі.

У складзе гарадзенскай суполкі было няшмат сапраўды заможных. Да такіх можна аднесці каля 200 сем'яў. Каля 1 тыс. сем'яў былі сярэдняй заможнасці, астатнія (1,3 тыс.) належалі да бедных. Да найбольш багатых можна аднесці фабрыканта Нохіма Старавольскага, аптэкара Саўла Шварца, купцоў Ісаака Любіча, Міхеля Пазняка, Давіда і Якуба Хазанаў, дамаўласніка Бецалеля Бабровіча ды інш.

Габрэйскае насельніцтва па-ранейшаму праяўляла вялікую актыўнасць у сферы гандлю, рамяства і прамысловасці. Аднак агульны ўзровень жыцця габрэяў знізіўся. Геапалітычныя змены прывялі да страты расійскага рынку, на які раней былі арыентаваныя габрэйскія вытворцы і гандляры Гародні. Зараз іх дабрабыт залежаў ад абмежаванага польскага ўнутранага рынку. Польскія і беларускія сяляне ў асноўным карысталіся прадуктамі ўласнай гаспадаркі, не патрабуючы паслуг рамеснікаў і гандляроў. Гародня не была больш губернскім цэнтрам. Адміністрацыя, гаспадарчае і культурнае жыццё рэгіёна сканцэнтравалася ў Беластоку.

Апроч таго польскі ўрад імкнуўся аслабіць эканамічныя пазіцыі габрэяў у Паўночна-усходніх ваяводствах. Дыскрымінацыя адчувалася як у выдаленні з дзяржаўнай службы габрэяў (на чыгунцы,

тэлеграфе і пошце, у сілавых структурах), так і ў сферы паслуг, дзе быў сканцэнтраваны прыватны бізнес. Паліцыя прыціскала гандляроў бясконцымі праверкамі і штрафамі, прыніжаючы іх і дамагаючыся хабару. На габрэйскі гандаль таксама адмоўна ўплывала забарона працаваць у нядзелі і дні хрысціянскіх святаў. Адчыняць крамы па шабатах і ўласных святах габрэям забараняла іх рэлігія.

У сярэдзіне 1930-х гг. канкурэнцыя прывяла да прапаганды антыгабрэйскіх гаспадарчых байкотаў. У гэты час на фуражках рамізнікаў з'явіўся надпіс *"хрысціянская фурманка"*, пазначаліся габрэйскія крамы і майстэрні, нярэдка насуперак жаданню гаспадароў. Праўда, не ўсе габрэйскія крамы страцілі пакупнікоў з той простай прычыны, што кошты там былі ніжэйшымі. Габрэі адказалі тым самым. Яны ўпотай тлумачылі адзін аднаму, што іудаізм забараняе рабіць пакупкі ў хрысціянскіх крамах.

У міжваенны час неспрыяльнае палітычнае і эканамічнае становішча падштурхнула габрэйскіх гандляроў і прамыслоўцаў да кансалідацыі. У Гародні дзейнічаў Саюз габрэйскіх купцоў і габрэйскія працоўныя прафсаюзы, якія ўваходзілі ў агульнадзяржаўныя аб'яднанні з цэнтрам у Варшаве. Прафсаюзы не толькі выступалі перад уладальнікамі прадпрыемстваў ад імя сваіх членаў з эканамічнымі патрабаваннямі, а ў выпадку іх невыканання праводзілі забастоўкі, але і садзейнічалі культурнаму развіццю працоўных. Яны арганізоўвалі бібліятэкі і клубы, запрашалі на лекцыі. Габрэйскія прафсаюзы трымаліся ў баку ад палітычнага жыцця, але, як сведчылі справаздачы паліцыі, схіляліся да радыкальных левых партый.

Статыстыка эканамічнага жыцця міжваеннай Гародні дазваляе ўбачыць паступовую страту габрэйскай супольнасцю моцных пазіцый у гарадской гаспадарцы. У 1921 г. габрэям належала каля 1,3 тыс. прамысловых прадпрыемстваў і майстэрняў, на якіх былі занятыя 3,7 тыс. работнікаў (у тым ліку 2,3 тыс. наёмных работнікаў, з якіх 83% складалі габрэі). 34,6% габрэйскіх майстэ-

рань і прадпрыемстваў адносіліся да харчовай прамысловасці, 29% - да вытворчасці адзення.

У 1937 г. ва ўласнасці габрэяў Гародні знаходзіліся 65 буйных і сярэдніх заводаў, дзе працавалі 2,2 тыс. наёмных работнікаў (41% з іх габрэі). У той жа час у горадзе былі яшчэ 51 дзяржаўны і прыватны заводы, якія не належалі габрэям. На іх працавалі каля 2,3 тыс. наёмных работнікаў. 45% габрэйскіх прадпрыемстваў належалі да лесаапрацоўчай галіны. Габрэйская суполка не вытрымлівала канкурэнцыі з хрысціянамі, на баку якіх была дзяржаўная ўлада. Калі адбывалася скарачэнне колькасці рабочых, першымі працу гублялі габрэі. Нярэдка ўласнікі ставілі перад рабочымі іудзейскага веравызнання ўльтыматум – працаваць па суботах альбо звальняцца.

У 1930-х гг. у Гародні не было аніводнага банка, які належаў габрэям. Традыцыйным заняткам быў гандаль, але і тут габрэі пачалі губляць свае пазіцыі. Калі ў 1919 г. 90% гандлёвых прадпрыемстваў знаходзіліся ў іх уласнасці, то ў 1939 г. ужо каля 30% належалі палякам.

Да найбольш значных прадпрыемстваў Гародні, якія належалі габрэям, можна аднесці Фабрыку ровараў і матацыклаў Н.Старавольскага, завод скураных вырабаў і пераплётную майстэрню Харыных, шклозавод, тыпаграфічна-літаграфічнае прадпрыемства Мейлаховіча, некалькі бровараў.

Нарошчвала аб’ёмы вытворчасці будаўнічая кампанія Навума Фрэйдовіча, дзе выраблялі цэмент, трубы і будаўнічыя матэрыялы. Фірма ўзводзіла масты, буйныя крамы і склады ў асноўным для армейскіх патрэб. У 1924 г. польскія ўлады нацыяналізавалі тытунёвую фабрыку Шарашэўскага, пасля чаго агульная колькасць рабочых знізілася ў тры разы (650 чал.), сярод якіх габрэяў было меней трэці.

Габрэйская суполка захавала дамінуючыя пазіцыі ў рамеснай вытворчасці. У 1938 г. у Гародні налічвалася болей 1,1 тыс. рамеснікаў, 82% якіх былі габрэямі. Напрыклад, з 364 краўцоў

322 былі габрэямі, з 218 шаўцоў – 168, з 97 цесляроў – 83, з 94 будаўнікоў – 54 и г.д. Некаторыя рамёствы (ганчарнае, гарбарнае, гравёрнае) былі манапалізаваныя габрэямі.

Таксама трэба адзначыць, што нягледзячы на абмежаванне магчымасцяў атрымаць вышэйшую адукацыю, у 1930-х гг. каля паловы лекараў і адвакатаў горада былі габрэямі.

Духоўнае і культурнае жыццё габрэйскай Гародні было даволі багатым і актыўным. На пачатку міжваеннага перыяду пад апекай суполкі знаходзіліся дзве сінагогі (Галоўная і драўляная на фарштаце) і 40 малітоўных дамоў. Галоўным рабінам гарадзенскай суполкі з 1900 г. быў Аўраам Гелборт, які нарадзіўся ў 1852 г. у Гародні. З маладосці ён быў вядомы як выдатны знаўца Талмуда і таленавіты вучань рэба Нохума Каплана. Пасля смерці апошняга А.Гелборт узяў на сябе клопат пра бедных адзінаверцаў. У духоўнай працы галоўнаму рабіну дапамагалі падрабіны Іозэф Ракавецкі, Міхал-Давід Разоўскі, Хаім-Давід Жураўскі ды інш.

Культурна-асветніцкая жыццё габрэйскай суполкі Гародні ў міжваенны час было аб’ектам увагі розных палітычных плыняў. Асаблівай актыўнасцю вылучаліся сіяністы. У 1920 – 30-я гг. яны стварылі арганізацыю “Тарбут” (“Tarbuth”), мэтай якой стала асвета габрэйскага юнацтва і моладзі, адкрыццё бібліятэк, курсаў для дарослых і школ “новага ўзору”, дзе выкладанне адбывалася на іўрыце і рабіўся націск не на рэлігійныя прадметы, а на набыццё ведаў, карысных для жыцця ў свецкім грамадстве. На мерапрыемствах “Тарбута” цэнтральнае месца адводзілася прапагандзе эміграцыі на гістарычную прарадзіму і выхаванню этнічнай самасвядомасці. Сіяністы праводзілі папулярныя сярод моладзі вечарыны, напрыклад, у гонар свята Ханукі. Гэтую нагоду яны выкарыстоўвалі для таго, каб распавесці пра гістарычнае мінулае, герояў старажытнага Ізраіля, якія паспяхова змагаліся за незалежнасць сваёй Радзімы.

Самым актыўным моладзевым габрэйскім саюзам

у Гародні 1930-х гг. быў сіяніскі саюз "Аківа". Мэтай яго кіраўнікоў было інтэлектуальнае і фізічнае развіццё хлопцаў і дзяўчат, падрыхтоўка да каланізацыі Палесціны. Прафесійныя і спартыўныя спаборніцтвы, якія праводзіліся сярод скаўтаў, рыхтавалі да жыццёвых умоваў суровага пустыннага краю і набыцця прафесій, якія маглі быць там карыснымі. Скаўт абіраў індывідуальную праграму авалодання ведамі пэўнай сферы (медык, земляроб, рамеснік і г.д.). Пасля пэўнага этапу самападрыхтоўкі здаваў іспыты, за што атрымліваў знак адрознення – нашыўку. Скаўцкі рух спалучаўся з рэлігійнай традыцыяй, а сваіх антаганістаў габрэйскія скаўты бачылі і сярод нацыстаў, і сярод камуністаў.

У міжваенны перыяд габрэі маглі набываць адукацыю ў школах двух тыпаў: агульнаадукацыйных і "таргутах", дзе заняткі праводзіліся на іўрыце. Заможныя габрэі наймалі для сваіх дзяцей прыватных настаўнікаў. У Гародні налічвалася восем прыватных габрэйскіх школ. На сродкі суполкі ўтрымліваліся тры народныя школы з 20 класамі для дзяцей ва ўзросце ад 7 да 14 год.

У 1921 – 1922 навучальным годзе, калі складаныя эканамічныя ўмовы ваеннай пары прымусілі суполку адмовіцца ад прынцыпу бясплатнасці пачатковай адукацыі, народныя школы наведвалі 1,2 тыс. вучняў. Кіраваў габрэйскімі грамадскімі школамі з 1919 па 1929 гг. Шмерэль Бадылькес. Мэтай габрэйскіх школ была адукацыя ў адпаведнасці з праграмай семігадовай дзяржаўнай школы, а таксама вывучэнне "габрэйскіх прадметаў", менавіта мовы, гісторыі, асноў рэлігіі. У статуце габрэйскіх народных школ было запісана, што яны павінны не толькі даць сучасныя веды, але таксама выхоўваць фізічна і маральна здаровага грамадзяніна, сумленнага і лаяльнага да дзяржавы і свайго народу.

У Гародні працавалі дзве традыцыйныя пачатковыя грамадскія школы для бедных – талмуд-торы. Тут дзеці з самых бедных сем'яў праводзілі, практычна, увесь дзень. Раніцай – урокі, пасля абеду адзін вучань чытаў рэферат, які абмяркоўваўся.

Потым вучні некалькі гадзін гулялі пад кантролем настаўніка, а тыя, каму дрэнныя жыллёвыя ўмовы не дазвалялі займацца ў хаце, рабілі ўрокі з дапамогай настаўнікаў і старэйшых вучняў.

Паколькі вучнямі талмуд-тор былі насельнікі самых бедных вуліц гораду, здароўе дзяцей знаходзілася пад асаблівым кантролем настаўнікаў. Штогод праводзіўся медыцынскі агляд, вучняў бясплатна кармілі сняданкам, а самых бедных дзяцей забяспечвалі таксама вопраткай і абуткам.

Першая талмуд-тора мела асобную сінагогу, уласную гімнастычную залу, бібліятэку і шматлікія вучэбныя калекцыі малюнкаў, мінералаў, матылёў, чучал звяроў і птушак, мапаў ды інш. Для пашырэння кругагляду ладзіліся экскурсіі – прыродазнаўчыя ў навакольныя лясы і краязнаўчыя ў Вільню. Таксама пры школе існаваў тэатральны гурток, які ў лютым 1932 г. паказаў гледачам два спектаклі на сцэне гарадскога тэатру. У 1930 г. яго наведвалі каля 500 хлопчыкаў і дзяўчынак.

Габрэйскія педагагічныя кадры ў Гародні яднаў Прафсаюз габрэйскіх настаўнікаў, які дапамагаў школам і педагогам. Арганізацыя ладзіла летнія лагеры для дзяцей, забяспечвала настаўнікаў адпачынкам у санаторыях Польшчы (Друскенікі, Закапанэ).

У сярэдзіне 1920-х гг. у Гародні працавалі курсы павышэння кваліфікацыі для габрэйскіх настаўнікаў пад кіраўніцтвам згаданага Ш.Бадылькеса. Тут выкладалі польскую мову і гісторыю, прыродазнаўства, малюнак, матэматыку, іўрыт і гісторыю. На курсах займалася каля 60 чалавек. Паралельна дзейнічалі курсы ліквідацыі непісьменнасці для дарослых габрэяў.

У міжваенны час у Гародні працягвала працу вышэйшая традыцыйная навучальная установа ешыва “Шаарэй Тора”. Сярод сярэдніх навучальных ўстаноў папулярнасцю карысталіся трохгадовая рамесная школа імя Э.Брэгмана з жаночым аддзяленнем кройкі і шыцця і прафесійнымі курсамі для дарослых пад кіраўніцтвам М.Гажаньскага, а таксама прыватная двухгадовая

гандлёвая школа Ісраэля Саса. У 1921 г. аднавіла сваю працу габрэйская школа гімнастыкі. Актыўную дзейнасць у Гародні разгарнула таксама Таварыства дапамогі габрэям-студэнтам Польшчы (*"Auxillum Academicum Judaicum"*), якое між іншым прызначала ўласныя стыпендыі.

У 1930-я гг. у Гародні існаваў даволі разнастайны габрэйскі друк. Выходзілі газеты на ідыш "Grodner Kurrier", "Grodner Moment", "Grodner Radio" і "Heintike Neies" ("Сённяшнія навіны"). Яны рыхтаваліся да выдання ў Варшаве, а ў Гародні да асноўнай часткі дадавалі навіны мясцовага габрэйскага жыцця і рознага тыпу аб'явы. З 1936 па 1939 г. выдавалася беспартыйная газета "Grodner Leben" ("Гарадзенскае жыццё", рэдактар Ш.Гарбэ).

Сярод партыйных габрэйскіх штотыднёвікаў варта адзначыць газету сіяністаў "Unser Leben" ("Наша жыццё"), якая пачала выдавацца ў 1926 – 1927 гг. (рэдактары І.Салавейчык і Ц.Бялко). Рэдактарам бундаўскага "Grodner Shtimme" ("Голасу Гародні"), заснаванага ў 1927 г., быў М.Рубінштэйн. Працоўная партыя "Эрэц Ісраэль" з 1933 г. выдавала газету "Unser Wort" ("Наша слова", рэдактар А.Пальніцкі).

Даволі насычаным было спартыўнае жыццё гарадзенскіх габрэяў. Існавала некалькі габрэйскіх спартовых клубаў. У першую чаргу трэба назваць клуб "Маккабі", заснаваны ў 1919 г., які карыстаўся падтрымкай багатых жыхароў горада. Клуб стварыў футбольную каманду, меў выдатныя поспехі ў лёгкай атлетыцы. У 1925 г. адчыніліся секцыі бокса, лыжнай падрыхтоўкі, а пазней была створаная таксама каманда па баскетболу.

Асацыяцыя "Улада" ("Ha-Koah"), заснаваная "Паалей Цыён", была першай палітычнай спартовай арганізацыяй у Польшчы. "Улада" развівала такія накірункі як футбол, гімнастыка, настольны тэніс і шахматы. У 1928 г. Бунд стварыў уласны спартовы клуб "Morgenstern" ("Ранішняя зорка"), дзе дзейнічалі некалькі груп гімнастыкі, футбольная каманда, секцыя настольнага тэніса.

Клуб друкаваў бюлетэнь “Arbeiter Sportler” (“Працоўны спартовец”), які распаўсюджваўся па ўсёй Польшчы. У скаўтаў-сіяністаў “Ха-Шомера ха-Цаір” таксама была свая спартовая арганізацыя, дзе акцэнт быў зроблены на гімнастыку і валейбол.

Перыяд 1920 – 1930-х гг. быў вельмі няпростым у гісторыі гарадзенскай габрэйскай суполкі. Аднак нельга не заўважыць, што паступова знікала ранейшая адасобленасць “габрэйскага квартала”. Габрэі актыўна ўдзельнічалі амаль ва ўсіх сферах публічнага жыцця горада.

## ПАМІЖ ЧЫРВОНАЙ ЗОРКАЙ І СВАСТЫКАЙ

У 1939 г. Гародня была буйным вайсковым цэнтрам. Тут знаходзіліся камандаванне Акругі ІІІ Корпуса (з 1939 г. генерал брыгады Юзаф Альшына-Вільчыцкі), камандаванне 29 пяхотнай дывізіі, 76 і 81 палкі пяхоты, 29 полк лёгкай артылерыі ды іншыя часці. Яшчэ да 1 верасня 1939 г. 29 дывізія была пераведзеная на захад і пазней вяла баі з немцамі ў складзе арміі “Прусы”. 10 верасня рэшта армейскіх частак была накіраваная на Львоў і прыняла ўдзел у абароне гэтага горада.

Акрамя бамбёжак, якія нечакана для ўсіх пачаліся ўжо 1 верасня, Гародня спачатку не адчувала непасрэднай ваеннай пагрозы. Былі арганізаваныя пасты супрацьпаветранай абароны, сувязі і санітарныя пункты. Нямецкая пагроза стала рэальнай толькі пасля захопу Беластока (15 верасня). Пад асаблівай увагай была дарога з Гародні да Беластока. Асобныя вайсковыя часці на паўночна-заходніх межах горада абстрэльвалі нямецкія патрулі, што на матацыклах ці легкавых аўтамабілях раз-пораз з’яўляліся ў ваколіцах.

З пачатку вайны немцы схілялі Савецкі Саюз да разгортвання ваенных дзеянняў супраць Польшчы. Але Сталін прыняў такое рашэнне толькі калі ўпэўніўся, што Англія і Францыя не будуць выконваць свае саюзныя абавязкі адносна Польшчы і не пачнуць ваенных дзеянняў супраць Германіі (такое рашэнне было прынятае 12 верасня на нарадзе ў французскім мястэчку Абэвіль).

Толькі пасля гэтага 17 верасня пад лозунгам абароны беларусаў і ўкраінцаў Польшчы, а на самой справе ў адпаведнасці з пактам Молатаў-Рыбентроп, усходнюю мяжу II Рэчы Паспалітай перайшла Чырвоная армія.

Інфармацыя пра гэта стала нечаканасцю для ўсіх у Польшчы і была поўнай кампраметацыяй польскай выведкі. Галоўны лідэр Эдвард Рыдз-Сміглы выдаў дырэктыву: *"З бальшавікамі не змагацца, хіба толькі пры наступе з іх боку, альбо спробе раззбраення".*

Рэакцыю палякаў у Гародні апісала настаўніца і грамадская дзеячка Гражына Ліпіньская: *"Савецкі напад на Польшчу! Я на вуліцы. Узбуджэнне нашмат большае, чым было 1 верасня. Людзі выбеглі з дамоў не толькі, каб нешта даведацца, пераканацца ў новым няшчасці краіны, але перш за ўсё для таго, каб словамі, рухамі, крыкам, бяссільным плачам выдаліць сціснуўшае грудзі абурэнне, вялізарнае, перарастаўшае нашую вытрымку і розум. Пазней яно пераходзіць у некаторых у занепакоенасць, імкненне ўцякаць, у другіх – у прагу дзеяння, помсты, змагання"*[17].

Адначасова пачала дзейнічаць падрыхтаваная раней савецкая дыверсійная сетка, створаная на аснове структураў фармальна распушчанай, але захаваўшай старыя сувязі КПЗБ. Да яе далучыліся таксама прыхільнікі камуністаў, якія ў значнай ступені паходзілі з беларускага асяроддзя, а ў гарадах – з габрэйскага. (Трэба прызнаць, што сярод названых народаў камуністы складалі нязначную частку). У найбольш спакойнай форме прасавецкія сімпатыі праяўляліся ў пабудове прывітальных брамаў і радасных сустрэчах агрэсара, што выклікала горыч і здзіўленне мясцовых палякаў. Былі, аднак, і шматлікія напа-

[17] Lipińska G. Jeśli zapomnę o nich… Warszawa, 1990. S. 15.

ды на асобных польскіх жаўнераў і паліцэйскіх, памешчыкаў, прадстаўнікоў дзяржаўнай і мясцовай адміністрацыі.

Спроба дыверсіі мела месца і ў самой Гародні ўжо 17 верасня. Як успамінаў адзін з маладых абаронцаў Гародні Ян Семіньскі: *"Рота з харцэрамі-добраахвотнікамі, якая вярталася з фронта [нямецкага] была абстраляная агнём ручной стралковай зброі і кароткай кулямётнай чаргой. Як нам удалося заўважыць, стралялі з дахаў жылых дамоў на Індурскай вуліцы"*[18].

Такія інцыдэнты паўтараліся і ў наступныя дні, але ў самым горадзе сітуацыя была пад кантролем. Сапраўды небяспечны і буйны выступ камуністаў адбыўся ў бліжэйшым Скідалі, што ў савецкай гістарыяграфіі атрымала назву "Скідальскага паўстання". Сітуацыя ў мястэчку нармалізавалася толькі пасля карнай экспедыцыі, высланай з Гародні.

У горадзе, нягледзячы на розныя інцыдэнты з боку камуністычных дыверсантаў, дамінавалі патрыятычныя настроі. У Гародні знаходзіліся два няпоўныя батальёны пяхоты з рэзерва 29 дывізіі, батальён аховы, розныя групы паліцэйскіх і жандармерыі, а найперш добраахвотнікі – харцэры, гімназісты, чыноўнікі. Абаронцаў горада было ўсяго каля 2 тыс. чалавек. Камандзірам гарнізона спачатку быў палкоўнік у адстаўцы Браніслаў Адамовіч. Вялікую ролю ў падрыхтоўцы да абароны і падчас яе адыгралі камендант мясцовай Раённай каманды набору маёр Бенедыкт Уладзіслаў Серафін і віцэ-прэзідэнт горада Раман Савіцкі.

Баі ў Гародні пачаліся раніцай 20 верасня, калі група савецкіх танкаў нечакана з'явілася на заходнім беразе Нёмана, і частка іх без перашкодаў праз мост выехала ў цэнтр горада. Першы дзень абароны – гэта галоўным чынам змаганне з танкамі. У другой палове дня на ўскраінах горада і ў цэнтры іх было ўжо некалькі дзесяткаў. Абаронцы не мелі супрацьтанкавай зброі, але яны рашуча атакавалі танкі бутэлькамі з бензінам. Сярод чырвонаармейцаў былі таксама маладыя гарадзенскія камуністы, якія перад вайной уцяклі ў СССР, а цяпер выконвалі ролю праваднікоў.

[18] Siemiński J. Walczące Grodno. Białystok, 1990. S. 27.

Пад вечар савецкі бок пачаў моцны артылерыйскі абстрэл горада. Абаронцы ў ноч з 20 на 21 верасня спрабавалі пераправіцца праз Нёман і атакаваць праціўніка. Сілы абароны павялічыліся, бо ў горад прыбыла кавалерыйская брыгада рэзерву "Ваўкавыск".

Баі працягнуліся раніцай 21 верасня. Пры гэтым савецкі бок змяніў тактыку. 80 танкаў (потым іх стала яшчэ больш) і 15 бронеаўтамабіляў былі далучаныя да пяхотных частак, якія з пераменным поспехам атакавалі абаронцаў у розных раёнах гораду. Сімвалам абароны Гародні стаў 13-цігадовы Тадак Ясіньскі, які кінуў бутэльку з бензінам у танк, але не запаліў яго. Танкісты выскачылі з машыны, збілі яго, а потым прывязалі да брані танка, дзе ён і загінуў. З боку пераможцаў героем стаў палітрук стралковай роты Рыгор Гарнавых, які быў забіты падчас бою за ўтрыманне мосту на Нёмане.

Вечарам 21 верасня ў горадзе засталіся толькі некалькі пунктаў супраціву, а раніцай наступнага дня апошнія абаронцы Гародні пакінулі горад або разышлася па хатах. У той дзень яшчэ здараліся сутычкі з малымі групамі абаронцаў. Паводле савецкіх дадзеных, страты Чырвонай Арміі ў ходзе баёў за горад склалі 53 забітых і 161 параненых, таксама былі падбітыя 19 танкаў і тры бронеаўтамабілі.

Баі закончыліся, але абаронцы горада яшчэ доўга расплачваліся за свой чын. У розных раёнах і на яго ўскраінах (гай "Сакрэт", "Паляўнічая горка", Новая Калонія (Панямунь), каля вёскі Пышкі ды ў іншых месцах) былі расстраляныя каля 300 абаронцаў горада.

У наступныя дні адбываліся арышты. Так, быў арыштаваны паручнік запасу Пётр Багуцкі (у цывільным жыцці дырэктар пачатковай школы імя Стэфана Баторыя), які камандаваў харцэрамі ды іншымі добраахвотнікамі. Ён быў асуджаны да смяротнага пакарання.

Кур'ёзны судовы працэс прайшоў у Гародні ў чэрвені 1940 г., калі некалькі чалавек былі абвінавачаныя ў антысеміцкім пагро-

ме (?!) ў верасні 1939 г. (так новыя ўлады акрэслілі падаўленне камуністычных выступаў пасля 17 верасня). Варта бліжэй прыгледзецца да ахвяраў таго працэсу, бо гэта абвяргае стэрэатып гістарыяграфіі пра стаўленне нацыянальных меншасцяў да савецкай агрэсіі. Сярод 11 асуджаных быў габрэй Борух Кіршэнштэйн (смяротнае пакаранне), немец Юзаф Ратынін (смяротнае пакаранне), беларус Емяльян Грыка (6 гадоў турмы).

Беларускі даследчык Аляксандр Татаранка меў усе падставы сцвердзіць, што адно з першых масавых знішчэнняў ваеннапалонных і цывільнага насельніцтва яшчэ да катынскай трагедыі адбылося ў Гародні ў верасні 1939 г.[19]

Ужо 22 верасня ў горадзе пачало дзейнічаць пяціасабовае Часовае кіраўніцтва на чале з І.К.Жытковым. Была створаная міліцыя і рабочая гвардыя. Працэсу далучэння да СССР новых земляў стараліся надаць законны характар, а для гэтага патрэбная была згода мясцовага насельніцтва.

Спачатку 22 кастрычніка прайшлі выбары дэлегатаў на Народны сход Заходняй Беларусі. Як і ўсе наступныя, яны адбываліся паводле савецкіх стандартаў. Пасля актыўнай і галоснай агітацыйнай кампаніі перамагалі ўсе кандыдаты, прапанаваныя ўладай. Цяжка вызначыць наколькі гэта было вынікам запалохвання грамадства і наколькі – выбарчых фальсіфікацый.

У выніку горад і Гарадзенскі павет былі прадстаўленыя ў Беластоку 46 дэлегатамі, сярод якіх 32 (амаль 70%) былі беларусамі, сем – габрэямі, чацвёра – палякамі, трое – рускімі, адзін – літоўцам. Такі склад дэлегатаў зусім не адпавядаў нацыянальнай структуры насельніцтва[20]. Горад быў прадстаўлены 12 дэлегатамі. Сярод іх быў беларускі пісьменнік Піліп Пястрак, які ў 1940 г. стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР.

Народны сход ухваліў дэкларацыю аб канфіскацыі буйных маёнткаў, нацыяналізацыі зямлі, лясоў, банкаў, буйной прамысловасці і далучэнне “Заходняй Беларусі” да СССР, што пазней было ўхвалена вышэйшымі органамі ўлады БССР і СССР.

[19] Татаренко А. Недозволенная память. Западная Беларусь в документах и фактах: 1921-1954-е гг. СПб., 2006.

[20] Gnatowski M. Zgromadzenie Ludowe Zachodniej Białorusi. Białystok, 2001. S. 255-259.

4 снежня Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР выдаў дэкрэт аб стварэнні Беластоцкай вобласці з плошчай амаль у 21,3 тыс. кв. км і насельніцтвам у 1,3 тыс. чалавек. Вобласць уключала большую частку даваеннага Беластоцкага ваяводства.

Пачаткова на землях, занятых Чырвонай арміяй, стваралася часовая ўлада на ўзроўні паветаў. 15 студзеня 1940 г. дзеля ўніфікацыі ў Беластоцкай вобласці быў уведзены адміністрацыйны падзел на раёны. У склад вобласці ўвайшлі 24 раёны і тры буйнейшыя гарады на правах раёнаў (Беласток, Гародня, Ломжа). Яны падпарадкоўваліся непасрэдна абласным уладам. Гарадскі раён Гародні займаў такую ж плошчу, як і да вайны – 19 кв. км (зрэдку называецца плошча ў 17, 67 кв. км).

Колькасць насельніцтва змянялася па розных прычынах. Так, напрыклад, прыбывалі бежанцы з польскіх земляў, якія апынуліся пад нямецкай акупацыяй. На 1 лістапада 1939 г. іх было 1,9 тыс., пераважна габрэяў, частку якіх размясцілі ў харальнай сінагозе[21]. Прыязджала шмат розных савецкіх функцыянераў і чыноўнікаў з усходу. У канцы 1939 г. частка бежанцаў была адпраўленая далей на ўсход, у тым ліку ў Магілёўскую вобласць. Змяншэнне насельніцтва ў перыяд 1940 – першай паловы 1941 г. было выклікана таксама шматлікімі арыштамі і дэпартацыямі ў Сібір і Казахстан. Хутчэй за ўсё колькасць жыхароў Гародні ў першай палове 1941 г. месцілася ў дыяпазоне ад 55 да 59 тыс. чалавек[22].

Працэс фармавання ўлады на ніжэйшым узроўні закончыўся выбарамі Саветаў у сярэдзіне снежня 1940 г. Гарадскі савет Гародні ў складзе 180 чалавек "абраў" старшынём гарадскога выканаўчага камітэта Пятра Ратайку, які ўжо год займаў гэтую пасаду. Акрамя таго ў гарвыканкам увайшлі першыя сакратары гарадскіх камітэтаў кампартыі і камсамолу, начальнік гарадскога аддзела НКУС, кіраўнікі аддзелаў фінансаў і асветы[23].

Расла колькасць членаў Камуністычнай партыі, але не за кошт мясцовых жыхароў. На 19 кастрычніка 1939 г. у горадзе было

21 "Zachodnia Białoruś". 17 IX 1939 – 22 VI 1941. Wydarzenia i losy ludzkie. Rok 1939. Warszawa, 1998. S. 340.

22 Першая лічба пададзеная у Энцыклапедыі гісторыі Беларусі (Т. III, Мн., 1996. С. 152). Другая ў Эканамічнай характарыстыцы Беластоцкай вобласці ў 1940 г. (ДАГАГВ. Ф. 6195/1/103, арк. 12), але ў кнізе "Памяць. Гродна" (1999) сцвярджаецца нібыта ў канцы 1940 г. у горадзе было 70 тыс. жыхароў (с. 326).

23 Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка горада Гродна. Мн., 1999. S. 329.

36 членаў і 6 кандытадаў у члены КП(б)Б,,а ў студзені 1941 г. – ужо 336 членаў і 141 кандыдат.

Эканамічныя змены пачалі адбывацца ўжо ў першыя дні пасля прыходу Чырвонай арміі. Рашэнні, прынятыя Народным сходам Заходняй Беларусі і зацверджаныя вышэйшымі рэспубліканскімі ды саюзнымі інстанцыямі, толькі надалі ім юрыдычную вагу і прыспешылі перамены адпаведна савецкай эканамічнай мадэлі. 23 лістапада 1939 г. Часовае кіраванне пастанавіла нацыяналізаваць фабрыкі шкла (у 1940 г. было 184 работніка), ровараў ("Нёман", 131 работнік), фанеры (братоў Браўнаў), галантэрэі, а таксама тартакі (Каплінскага, Гершуні, Калецкага), гарбарні (Фалюра, Аполла), бровар (62 работнікі), 12 друкарняў (158 работнікаў) і фабрыку мэблі (братоў Аркін і Фрухт)[24].

Напэўна яшчэ раней была нацыяналізаваная буйнейшая ў горадзе тытунёвая фабрыка, на якой у 1940 г. працавалі 515 работнікаў. У выніку, паводле афіцыйных даных, павялічылася колькасць работнікаў, а таксама вырасла эфектыўнасць вытворчасці у некаторых галінах. Новай з'явай стаў "стаханаўскі рух". Аднак трэба крытычна ставіцца да сцвярджэння пра двухразовы ўзрост вытворчасці ў 1940 г., бо невядома з якім часам праводзілася параўнанне.

Усе рамеснікі павінны былі аб'яднацца ў арцелях. Паступова абагульняўся гандаль (у 1940 г. дзейнічалі 153 гандлёвыя кропкі) і паслугі. Былыя гаспадары займаліся тым самым, але ўласнасці ўжо не мелі. У сувязі з тым, што амаль усе сферы жыцця кіраваліся і кантраляваліся дзяржаўнымі органамі, хуткім тэмпам ішла бюракратызацыя.

Не толькі з-за ваенных дзеянняў, але і па прычыне зменаў у кіраванні і маёмасных правах пастпова пачаліся праблемы з забеспячэннем насельніцтва таварамі першай неабходнасці. Прапаганда ва ўсіх цяжкасцях і з'яўленні дэфіцыту абвінавачвала спекулянтаў. Часовае кіраванне ў першай палове снежня пры-

[24] Саяпин В. Hrono Гродно. История Гродно на страницах газет. 1913-1941. Гродно, 2013. С. 235-236.

няло спецыяльную пастанову аб змаганні са спекуляцыяй, якая забараняла гандаль на вуліцах і ў жылых памяшканнях. Гандаль з рук і продаж сельгаспрадукцыі мог адбывацца толькі на Сенным рынку, а гандаль дрэвам, сенам, вуглём і саломай – на Грандзіцкім і Беластоцкім (Занёманскі фарштат) рынках. Гандаль быдлам, коньмі, свінямі і авечкамі можна было весці на Скідальскай плошчы. Акрамя таго рэгуляваліся гадзіны гандлю на рынках і час працы крамаў[25].

Павелічэнне пакупніцкай здольнасці жыхароў, у тым ліку і праз рост працоўнай занятасці (ліквідацыя беспрацоўя) і ўтрыманне нізкіх цвёрдых дзяржаўных цэнаў, пры пагаршэнні забеспячэння гандлю таварамі (напрыклад, у 1941 г. было запланавана вырабіць у Гародні ўсяго 90 тон кілбасаў ці па 1,5 кг у год на чалавека) значна пагоршыла жыццёвыя ўмовы гарадзенцаў. Юзаф Плюцінскі прыгадваў: *“Найбольш памятаю кашмарныя чэргі каля пустых крамаў. Уставалі а трэцяй гадзіне ночы (паводле маскоўскага часу), каб здабыць кіло хлеба, а чарга ўжо кіламетровая”*[26].

Сітуацыя трохі паляпшалася напярэдадні важных дзяржаўных святаў, асабліва 1 мая. Тры дні перад гэтым святам у 1940 г. крамы павінны былі адчыняцца на дзве гадзіны раней. Павялічвалася продаж цукерак, булачак, вяндлінаў, а таксама піва (штодзённая вытворчасць піва павінна была складаць 9 тыс. літраў) і прахалодных напояў. У дзень 1 мая мусіла быць арганізаваная шырокая сетка кіёскаў у раёне плошчы, дзе адбывалася дэманстрацыя, і ў месцах многіх іншых імпрэзаў[27]. Палітычныя акцыі падтрымліваліся салодкімі булачкамі і вяндлінамі. Таксама ў палітычных мэтах выкарыстоўваліся культурніцкія і спартовыя імпрэзы. Напрыклад, масавы бег на лыжах 24 лютага 1940 г. пад гукі аркестравай музыкі каля гарадскога катка на вуліцы Дзяржынскага быў прымеркаваны да 22-й гадавіны стварэння Чырвонай арміі.

У Савецкім Саюзе дзяржава была шчодрым апекуном культуры, патрабуючы ўзамен ад артыстаў і дзеячаў культуры поўнай

[25] Свабодная Беларусь. 11 снежня 1939 г.

[26] Archiwum Wschodnie (“Karta”), sygn. I/652, Relacja Janusza Puchcińskiego, k.2.

[27] Саяпин В. Hrono Гродно. С. 256-257.

лаяльнасці. Гэтая апека агарнула таксама Гародню. Ужо ў пачатку лютага 1940 г. старшыня гарвыканкама Ратайка прадставіў дасягненні ў гэтай галіне. Адзначалася стварэнне Польскага драматычнага тэатра (50 актораў) і Перасоўнага габрэйскага тэатра (42 акторы), падрыхтоўка да арганізацыі Рускага драматычнага тэатра (у яго склад увайшла група Маскоўскага дзяржаўнага тэатральнага інстытута). Таксама быў адноўлены эстрадны тэатр (планавалася заняць у ім 15 чалавек), арганізаваны сімфанічны аркестр (36 чалавек). У горадзе пачаў дзейнічаць рускі хор (48 асобаў), два габрэйскія хоры (82 і 87 чалавек), аркестр народных інструментаў (23 музыканты), працавалі сем кінатэатраў.

Варта адзначыць, што пры гэтым не ствараліся беларускія культурніцкія інстытуты. У горадзе шэраг спектакляў і канцэртаў выконвалі вядомыя тэатры і ансамблі з Менску і Масквы[28]. У справаздачы Ратайкі было шмат перабольшванняў, бо да 1939 г. Гародня з'яўлялася буйным асяродкам культуры з вялікай колькасцю культурніцкіх установаў. Прыкладам можа служыць справа з бібліятэкай, пра стварэнне і разбудову якой увесь час гаварылася і пісалася. У той жа час кнігазборы яе былі напалову меншыя за даваенныя. Аднак варта падкрэсліць значныя высілкі новай улады ў гэтай галіне. Належыць звярнуць увагу і на пашырэнне агульнай даступнасці культурніцкай дзейнасці.

На працягу некалькіх месяцаў была рэарганізаваная школьная справа паводле савецкага ўзору. У канцы ліпеня ў "Свабоднай Беларусі", якая выдавалася ў Гародні, быў апублікаваны спіс гарадзенскіх школаў. Згадваліся дзесяць сярэдніх школ, дзевяць няпоўных сярэдніх і шэсць пачатковых. Паводле мовы навучання беларускіх школ было дзевяць, рускіх – восем, габрэйскіх – пяць, польскіх – тры.

Арганізацыйныя змены ў школьніцтве працягваліся. Праз некалькі месяцаў засталося ўжо каля 20 школ. У выніку афіцыйнага "выпраўлення памылак у правядзенні нацыянальнай палітыкі" змяніўся іх нацыянальны характар. Колькасць

[28] Свабодная Беларусь. 3 лютага 1940 г.

беларускіх і габрэйскіх школ зменшылася да чатырох, столькі ж стала польскіх школ, і па некаторых даных павялічылася колькасць рускамоўных школ.

Былі арганізаваныя школы для дарослых, дзе навучалася каля 1,9 тыс. чалавек. Нацыянальны характар школ часткова выглядаў умоўна, бо, напрыклад, у беларускіх і польскіх школах працавалі настаўнікі, прыехаўшыя з глыбіні СССР, якія не ведалі гэтых моваў. У сваю чаргу мясцовыя кадры інтэнсіўна вучыліся на розных курсах, дзе выкладаліся асновы Канстытуцыі, гісторыя народаў СССР і асновы савецкай педагогікі. Кузняй кадраў павінен быў у хуткім часе стаць трохгадовы Настаўніцкі інстытут для падрыхтоўкі настаўнікаў пачатковых класаў. Да ўступных экзаменаў, якія адбыліся на мяжы студзеня і лютага 1940 г. былі дапушчаны 101 чалавек, у тым ліку 49 габрэяў, 40 беларусаў і 12 расійцаў[29].

Гэтаксама як і ў іншых гарадах, у Гародні змяняліся назвы вуліц. Так, вуліца *11 лістапада* была перайменаваная ў вуліцу *17 верасня*. Рашэнне пра змену назваў вуліц гарвыканкам прыняў 15 студзеня 1940 г., а ўжо ў канцы наступнага месяца была вернутая даўняя назва вуліцы Ажэшкі (спачатку яна стала вул. Леніна). Імя Леніна перанеслі на вул. Камуністычную (да вайны вул. Пілсудскага). У трох розных частках горада былі пастаўленыя высокія (да 5 – 6 м) помнікі Леніна (пл. Леніна), Сталіна (Савецкая пл.) і Варашылава (вул. Савецкая). Ніводзін з іх не быў беларускім героем.

Яшчэ не разгарнулася палітыка атэізацыі. Праўда, улады ўжо перашкаджалі ўдзелу ў рэлігійных службах, але святары розных канфесій пакуль не падвяргаліся рэпрэсіям. Нават “Саюз ваяўнічых бязбожнікаў” пачаў сваю дзейнасць на гэтай тэрыторыі са спазненнем. Але былі ўведзеныя надзвычай высокія падаткі на аб’екты культу, розныя царкоўныя інстытуты падвяргаліся канфіскацыям маёмасці, забаранялася іх пазарэлігійная дзейнасць.

[29] Śleszyński W. Okupacja sowiecka na Białostocczyźnie 1939-1941. Propaganda i indoktrynacja. Białystok, 2001. S. 472.

Большасць польскай супольнасці не пагадзілася з новай сітуацыяй і пачала падпольную дзейнасць. Ужо ў кастрычніку 1939 г. на вуліцах з'явіліся антысавецкія лістоўкі, а маладыя жыхары, галоўным чынам вучні гімназіі, студэнты і малодшыя афіцэры стварылі Польскую вайсковую арганізацыю (ПВА), якая пашырыла сваю дзейнасць на іншыя гарады Беластоцкай і суседніх абласцей[30]. Арышты сяброў ПВА пачаліся ў канцы студзеня 1940 г. Усяго ў Гародні ды іншых мясцовасцях былі арыштаваныя больш за 150 чалавек.

Таксама ў горадзе пачала дзейнічаць агульнапольская вайсковая арганізацыя – Саюз узброенай барацьбы. Аднак ужо ў сакавіку яе кіраўніцтва (камендант горада і каменданты пяці з усіх шасці раёнаў) былі арыштаваныя[31].

Гэтыя людзі займаліся нелегальнай дзейнасцю і ведалі, што іх чакае ў выпадку арышту. Але з моманту заняцця Гародні Чырвонай арміяй пачаліся арышты жыхароў, якія  нават не паспелі выступіць супраць новай улады. Арыштоўваліся прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў за ранейшую палітычную і грамадскую дзейнасць, удзел у органах самакіравання, за тое, што былі служачымі дзяржаўнага апарату. Сярод іх было найбольш палякаў, бо яны дамінавалі ў дзяржаўных установах і органах самакіравання.

Гэтыя арышты да нападу Германіі на СССР ахапілі каля 500 – 600 чалавек. Людзей асуджалі да турэмнага зняволення ці да лагероў і высылалі ўглыб краіны. Гарадзенская турма была перапоўненая. На пачатку чэрвеня 1941 г. у ёй знаходзілася больш за 1750 вязняў[32].

Асабліва масавай і драматычнай формай рэпрэсій сталі чатыры дэпартацыі насельніцтва, галоўным чынам у Сібір і Казахстан. Першая і часткова трэцяя мелі прэвентыўны характар, бо асобныя групы насельніцтва лічыліся небяспечнымі для савецкай улады. Іншыя мелі рысы калектыўнай адказнасці, г.зн. высылаліся сем'і людзей арыштаваных раней, ці тых, хто хаваўся або уцёк за мяжу.

[30] "Zachodnia Białoruś"... S. 22.

[31] Gnatowski M. Niepokorna Białostocczyzna... Białystok, 2001. S. 386

[32] Bonusiak W. Polityka ludnościowa i ekonomiczna ZSRR na okupowanych ziemiach polskich w latach 1939-1941 ("Zachodnia Ukraina" i "Zachodnia Białoruś"). Rzeszów, 2006. S. 173.

Першая дэпартацыя 10 лютага 1940 г., якая датычыла асаднікаў і лясной службы, жыхароў Гародні закранула ў невялікай ступені. Але ва ўсім Гарадзенскім аператыўным раёне высяленню падлягалі амаль 400 сем'яў (больш 2 тыс. чал.). У ходзе другой дэпартацыі (13 красавіка 1940 г.), ахапіўшай таксама сем'і людзей, якія знаходзіліся ў лагерах ваеннапалонных, з Гародні і суседніх мясцовасцей было вывезена болей 1,1 тыс. чалавек. У трэцяй дэпартацыі (29 чэрвеня 1940 г.), у якую трапілі галоўным чынам бежанцы-габрэі, з Гародні 1 ліпеня вырушыў транспарт з амаль 1,2 тыс. чалавек.

Найменш інфармацыі захавалася пра апошнюю дэпартацыю, праведзеную 20 чэрвеня 1941 г., за два дні перад нямецкай агрэсіяй. Падобна як у чэрвені папярэдняга года, яна закранула галоўным чынам сем'і ўжо арыштаваных людзей. Гэты апошні транспарт з Гародні пасля пачатку вайны з Германіяй быў бамбардаваны нямецкімі самалётамі пад Ваўкавыскам. У раёне Баранавіч чарговы налёт канчаткова спыніў ягоны рух. Былі забітыя і параненыя, але значнай частцы "пасажыраў" удалося вярнуцца ў Гародню.

Напэўна, па гэтай прычыне ў спісе ахвяраў палітычных рэпрэсій у 1939 – 1941 г., змешчаных у кнізе "Памяць. Гродна" (1999), увогуле не згадваюцца дэпартаваныя ў чэрвені 1941 г. Сярод названых у кнізе 240 чалавек больш за 90% складаюць ахвяры другой дэпартацыі. Ц.Амельяновіч-Шока здолела ўстанавіць імёны 125 дэпартаваных напярэдадні савецка-германскай вайны[33].

Пры адсутнасці дакладных статыстычных дадзеных можна выказаць меркаванне, што з усяго абшару II Рэчы Паспалітай, занятага Чырвонай арміяй, было дэпартавана каля 2 – 3 % насельніцтва, што ў Гародні магло складці 1100 – 1650 чал.

Сучасны беларускі гісторык Захар Шыбека, які паходзіць з-пад Віцебска, так падсумаваў вынікі 1939 – 1941 гг.: *"Усходнія беларускія суайчыннікі міжволі падманулі заходніх, прапанаваўшы ім замест незалежнай Беларусі маскоўскую няволю"*[34].

[33] Omiljanowicz-Szoka C. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. S. 142-147

[34] Шыбека З. Нарыс гісторыі Беларусі (1795-2002). Мн., 2003. С. 306.

Напярэдадні вайны з Германіяй Гародня была месцам дыслакацыі значнай колькасці ўжо савецкіх войскаў. Тут размяшчалася камандаванне 3 арміі (камандуючы генерал-лейтэнант Васіль Кузняцоў) Заходняй асобнай вайсковай акругі (22 чэрвеня перайменаванай у Заходні фронт). У склад арміі ўваходзілі 4 стралковы корпус, 56 стралковая дывізія (яе часткі размяшчаліся ў навакольных Грандзічах, Фолюшы, Вялікім Свяцку), 85 стралковая дывізія, 29 танкавая дывізія, 751 полк супрацьпаветранай абароны (з Баранавіцкай брыгады СПА), іншыя падраздзяленні (інжынерныя, сувязі, будаўнічыя) ды вайсковыя ўстановы.

Нямецкі напад на світанку 22 чэрвеня стаў поўнай нечаканасцю для савецкага боку. Чыгуначны транспарт быў заняты вывазам апошняй групы дэпартаваных у Сібір, шмат самалётаў і іншай вайсковай тэхнікі знаходзілася ў рамонце, значная частка тэхнікі, у тым ліку самалёты, даслацыраваліся каля самой мяжы. Многія афіцэры толькі што вярнулася з суботняга звальнення. Варта дадаць, што Гародня знаходзілася ўсяго ў 25 км ад мяжы з Германіяй.

Нямецкія самалёты з раніцы бамбардавалі цэнтр горада, у тым ліку будынкі пры вуліцах, якія вялі да мастоў. У выніку гарэлі склады паліва і рыштунку, а таксама штаб 3 арміі. Частка войскаў гэтай арміі вяла абарончыя баі (між іншым на лініі Аўгустоўскага каналу), рэшта панічна адступала. У другой палове першага дня вайны нямецкія войскі дайшлі да ракі Ласосны на захадзе ад Гародні, а пазней спрабавалі фарсіраваць Нёман на поўнач ад горада.

У такой сітуацыі войскі 3 арміі, каб пазбегнуць акружэння, пакінулі горад у ноч на 23 чэрвеня і распачалі адыход на лінію рэк Котра – Свіслач. У горадзе пачаліся рабункі крамаў і складоў. Тым часам камандаванне 3 арміі, выконваючы загад з Масквы, 23 чэрвеня прыняло рашэнне аб контрудары ў кірунку Беласток – Гародня. Галоўнай ударнай сілай павінен быў стаць нова-

створаны 6 корпус пад камандаваннем генерала Івана Болдзіна. Аднак праводзіць контрнаступ было ўжо позна. Ён папросту не мог быць рэалізаваны.

Пасля баёў 25 – 26 чэрвеня, якія паступова гублялі арганізаваны характар, рэшткі войскаў Болдзіна адступілі з Гарадзенскага раёна ва ўсходнім кірунку. На працягу некалькіх дзён наступу вермахту савецкія войскі былі акружаныя і разбітыя ў Беластоцка-Менскім катле. У палон трапіла каля 300 тыс. ваеннаслужачых Чырвонай арміі. Камандуючы Заходнім фронтам генерал Дзмітры Паўлаў ужо 30 чэрвеня быў зняты з пасады, праз некалькі дзён – арыштаваны. 22 ліпеня 1941 г. ён быў прысуджаны да смяротнага пакарання і расстраляны як галоўны віноўнік паражэння на Заходнім фронце.

23 чэрвеня нямецкія войскі ўвайшлі ў Гародню. У ананімным апісанні тых падзеяў жыхар горада габрэйскай нацыянальнасці з пэўным перабольшваннем пісаў, што: *“Палякі віталі сваіх суседзяў з-за Одэра з вялікай радасцю і энтузіязмам”*[35]. Габрэі ж пахаваліся ў падвалах. Можна казаць, што ў пэўным сэнсе сітуацыя другой паловы верасня 1939 г. паўтарылася з дакладнасцю наадварот.

У хуткім часе ў горад прыбылі спецыяльныя аперацыйныя часткі СС (Айнзатцкаманда), заданнем якіх былі расстрэлы пэўных групаў насельніцтва, галоўным чынам, габрэяў і камуністаў. Падчас інспекцыі Гародні прадстаўнікамі вышэйшых уладаў III Рэйху Гімлерам і Герынгам 30 ліпеня (падаюцца таксама іншыя даты), крытыкавалася занадта малая актыўнасць нямецкай адміністрацыі ў гэтай справе.

Спачатку горадам кіравала ваенная камендатура, якая стварыла цывільную ўладу з удзелам даваенных польскіх дзеячаў на чале з Завадскім, а пазней – Зыгмунтам Гарбачэўскім. Былі выдаленыя тыя, хто працаваў у савецкі час і вярнуліся даваенныя адміністратары. Аднак у верасні 1941 г. польскае кіраўніцтва горада было адсунутае, а на чале адміністрацыі стаў гарадскі

[35] Archiwum Ringelbluma. T. 3. Relacje z Kresów. Warszawa, 2000. S. 159.




***Гародня ў 1941 г. План***

камісар (з 1942 г. бурмістр) немец Штэйн, падпарадкаваны павятоваму камісару (фон Плетц) і Цывільнаму ўпраўленню Беластоцкай акругі.

17 ліпеня 1941 г. Гітлер выдаў дэкрэт аб стварэнні Беластоцкай акругі (Bezirk Białystok) у складзе былой Беластоцкай вобл., пашыранай гмінамі колішняга Беластоцкага ваяводства, якія ў 1939 – 1941 гг. былі далучаныя да Берасцейскай вобласці. Таксама дадаліся тыя часткі Берасцейскага і Пружанскага паветаў, якія да восені 1939 г. належалі да Палескага ваяводства. Трэба дадаць, што сам Гарадзенскі павет пачаткова быў залічаны да Остланду. Толькі 18 верасня па распараджэнню Гітлера яго далучылі да Беластоцкай акругі.

Адміністрацыйную ўладу ў акрузе, існаванне якой пачалося 1 жніўня, перадалі кіраўніку Усходняй Прусіі Эрыху Коху. Менавіта ён узначаліў Цывільнае ўпраўленне Беластоцкай акругі. Паколькі Э.Кох займаў яшчэ некалькі важных пасадаў, то неўзабаве ён прызначыў сваім пастаянным намеснікам у Беластоку доктара Брыкса з Тыльзы.

Акруга была падзеленая на гарадскі (Stadtkommissariat) у Беластоку і сем акруговых камісарыятаў (Kreiskommissariat), у тым ліку ў Гародні, якія з большага адпавядалі даваенным паветам. Статус Беластоцкай акругі застаўся неакрэсленым, бо ў прынцыпе яна не была фармальна далучана да Рэйху, але многае, у тым ліку асоба самога Коха, злучала яе з Усходняй Прусіяй. Адтуль прыбывалі чыноўнікі, якія займалі пасады ў акрузе, у тым ліку і ў Гародні.

Акупаваныя тэрыторыі, асабліва гарады, былі нашпігаваныя рознымі паліцэйскімі і спецыяльнымі службамі. Існавала паліцыя парадку (Orpo), дапаможная паліцыя (Schutzpolizei), якая складалася галоўным чынам з даваенных польскіх паліцэйскіх, паліцыя бяспекі (Sipo), СД (Sicherhaitsdienst – Служба бяспекі), гестапа (Тайная дзяржаўная паліцыя), акрамя таго – СС і вайсковая жандармерыя.

Паводле матэрыялаў рэгістрацыі насельніцтва, праведзенай нямецкімі ўладамі ў лістападзе 1941 г., у Гародні было амаль 47,5 тыс. жыхароў, у тым ліку палякаў – 21,5 тыс. (45,3%), габрэяў – каля 18,6 тыс. (39,1%), беларусаў – 5,2 тыс. (10,9%), рускіх – 2,6 тыс. (4,3%), 122 фальксдойчы, 48 літоўцаў і 320 прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў.

У пачатковы перыяд акупацыі своеасаблівай экзотыкай стала знаходжанне ў горадзе брыгады Іспанскай дывізіі добраахвотнікаў, якая стварала немцам шмат клопату.

Ананімны аўтар ўспамінаў, якія былі знойдзенцыя ў 1946 г. у г.зв. "Архіве Рынгельблюма", пісаў: *"Адносіны іх* [іспанцаў – рэд.] *да палякаў былі цалкам прыязныя. Вялікую сімпатыю яны таксама выказвалі да жыдоў, што сведчыла пра няпоўнае засваенне галоўных прынцыпаў гітлераўскай палітыкі. Яскравым прыкладам нязгоднасці светапоглядаў была сутычка ў Гародні. Іспанскі аддзел, які маршыраваў па вуліцы, спаткаў групу гнаных немцамі савецкіх ваеннапалонных, тыя малілі аб ежы. Адна жанчына кінула ім праз плот некалькі клункаў. Калі адзін з канваіраў у адказ стрэліў у кабету, а другі кінуўся біць з усёй сілы прыкладам палонных, якія падымалі клункі, іспанцы зламалі строй, выцягнулі кінжалы (яны не насілі стралковай зброі) і кінуліся на дапамогу бальшавікам. Распачалася сапраўдная бойка, з чаго скарысталі бальшавікі і разбегліся ў колькасці каля 200-т чалавек.*

*Увыніку адзін немец быў зарэзаны, шэсць параненыя. Іспанцы таксама мелі ахвяры. Менш драматычны выпадак здарыўся ў той жа Гародні на вуліцы Каляёвай. Іспанцы ўбачылі немцаў, якія білі бальшавіка, падняўшага кінуты яму пачак цыгарэтаў. На гэты раз абмежаваліся толькі пагрозамі кінжаламі і абзываннем немцаў па-іспанску, пасля чаго падарылі бальшавіку свае цыгарэты"*[36].

19 жніўня 1941 г. узнік Грамадзянскі камітэт дапамогі ахвярам вайны на чале з ксяндзом дэканам Альбінам Ярашэвічам. Камітэт

[36] Muszyński W. Błękitna Dywizja. Ochotnicy hiszpańscy na froncie wschodnim 1941-1945. Warszawa, 2002. S. 20-21.

меў экуменічны характар, бо ў яго уваходзілі таксама праваслаўныя Ян Рэй (намеснік старшыні) і святар Георгій Барышкевіч (дэкан). Сябрамі камітэту былі Раман Савіцкі (даваенны віцэ-прэзідэнт горада), Юзаф Вэвюрскі (сакратар камітэту), Леапольд Вагнер, Марыя Чапліцкая, Яніна Гальская і Антоні Шафаловіч.

2 кастрычніка 1941 г. камітэт выдаў адозву наступнага зместу: *"Два гады савецкай акупацыі з сапраўднай оргіяй арыштаў і масавых вывазаў у Сібір мінулі як змора, давёўшы сотні сем'яў да бядоты, аддаўшы на волю лёсу пакінутых дзяцей. Наступны выбух на нашай тэрыторыі гістарычнага ваеннага пажару дапоўніў знішчэнні. Сёння ў горадзе і ваколіцы засталася вельмі вялікая колькасць няшчасных і трагічных ахвяраў вайны. Разлучаныя сем'і высланцаў у Сібір і палітычных вязняў, зруйнаваныя агнём пажараў пагарэльцы звяртаюцца да нас па дапамогу, па права да жыцця.*

*Таму мы павінны зараз жа паспяшацца да іх з апекай, з сардэчнай дапамогай, са збаўленчым паратункам ад грознага прывіду голада, бядоты і бязлітаснай зімы. Напоўненыя спачуваннем і літасцю, давайце складаць ахвяраванні да ўсеагульнага грамадзянскага зімовага збору для найбяднейшых! Усе запішамся ў спецыяльныя спісы ахвярадаўцаў як аддаўшыя грошы, прадукты, вопратку і абутак! Гэта наш грамадзянскі абавязак, ухіліцца ад якога нікому не дазволіць голас сэрца і сумлення!"*[37]

Невядома, як доўга камітэт дзейнічаў легальна. Некаторыя яго сябры пазней былі арыштаваныя немцамі (ксёндз Ярашэвіч нават двойчы) або расстраляныя як закладнікі (Раман Савіцкі, Юзэф Вэвюрскі).

Нацыяналізаваныя савецкімі ўладамі прадпрыемствы працавалі на нямецкую ваенную гаспадарку. Адбылася рэпрыватызацыя рамяства і гандлю, якая не датычыла габрэйскай уласнасці. Менавіта жыхары гета былі галоўным рэзервам таннай працоўнай сілы. Калі ж акупанты прыступілі да "канчатковага вырашэння габрэйскага пытання" ўзнік канфлікт паміж

[37] ДАГВ. Ф. 1, воп. 1., ад.з. 18, арк. 64.

ідэалогіяй і эканомікай. Дзе ўзяць працоўную сілу, асабліва для ваенных прадпрыемстваў?

Акупацыйная адміністрацыя паспрабавала распачаць падрыхтоўку па пэўных спецыяльнасцях асобаў хрысціянскага веравызнання. Апроч таго на тэрыторыю апусцелага гета перасялі людзей з ваколіцаў Віцебска, скіраваных на прымусовую працу ў Германіі. У студзені 1944 г. Бюро працы (Arbeitsamt) у Гародні ўвяло працоўны абавязак нават для дзяцей, якія мелі больш за 12 гадоў. Яны павінны былі працаваць па чатыры гадзіны ў дзень, у прыватнасці пры пераборцы тытуню.

Адной з формаў рэпрэсій, якая дапамагала здабываць працоўную сілу, былі таксама лагеры прымусовай працы, арганізаваныя ў 1942 г. пры Камісарыятах (Amtskommissariat) і пастарунках жандармерыі, у тым ліку ў Гародні. У лагеры накіроўваліся на перыяд ад 10 дзён да трох месяцаў мясцовыя жыхары за дробныя парушэнні акупацыйнага рэжыму.

Афіцыйнае працаўладкаванне для мясцовых людзей было вельмі важным прынамсі з дзвюх прычынаў. Яно дазваляла пазбегнуць высылкі на прымусовыя работы ў Германію і атрымліваць прадуктовыя карткі. Хоць з мая 1944 г. прадукты перасталі даваць нават па картках. На прымусовыя працы з Гародні вывезлі каля 1,5 тыс. чалавек, галоўным чынам ва Усходнюю Прусію, у раён Караляўца.

Нават тыя з жыхароў, хто з радасцю вітаў немцаў у чэрвені 1941 г. хутка зразумелі, што немцы-нацысты гэта зусім іншыя немцы, чым з перыяду Першай сусветнай вайны. Пра гэта сведчылі найперш адносіны да габрэяў, савецкіх ваеннапалонных і стаўленне да культурнай спадчыны горада. Мясцовыя жыхары трактаваліся як “недачалавекі”. Існавала пэўная іерархія “вартасці” асобных нацыянальнасцяў і сацыяльных групаў. Паводле Фелікса Акермана, яна пачаткова выглядала наступным чынам: на першым месцы былі фольксдойчы, потым ішлі палякі, за імі беларусы, потым габрэі і савецкія ваеннапалонныя. Аднак

хутка габрэі апусціліся на апошняе месца ў гэтым “рэйтынгу” жыцця і смерці, а потым і зусім зніклі.

Немцы знішчалі не толькі людзей, але і культурную спадчыну. У Гародні палілі кнігазборы, рабавалі музеі і знішчалі помнікі. Назву горада змянілі на сярэднявечна-крыжацкую “Гартэн” (хоць самі пазней яе не ўжывалі). Таксама былі змененыя назвы вуліц. Так, вул. Ажэшкі стала вул. Гітлера, вул. Леніна – Кёнігсберскай вул. і г.д.

У розных гарадах, у тым ліку ў Гародні пасля нападу немцаў на СССР узніклі беларускія нацыянальныя камітэты, дзеячы якіх мыслілі катэгорыямі часоў Першай сусветнай вайны або былі звязаныя з нямецкімі тайнымі службамі.

Беларускі нацыянальны камітэт у Гародні ў канцы ліпеня 1941 г. упаўнаважыў Іллю Кіслага арганізаваць беларускае школьніцтва. Аднак з захаваных дакументаў вынікае, што галоўным кірункам актыўнасці Камітэту была дыскрэдытацыя польскіх чыноўнікаў як асобаў, дзейнасць якіх у 1939 г. мела антынямецкі (Раман Савіцкі, Юзаф Вэвюрскі, Юзаф Мрачкоўскі) ці антыбеларускі (дырэктар тытунёвай фабрыкі Шыманоўскі) характар. Таксама рыхтаваліся даносы на чыноўнікаў габрэйскага паходжання. Немцаў інфармавалі пра ход нарадаў, арганізаваных палякамі. Польскі бок таксама рыхтаваў даносы, аднак яны не мелі інстытуцыянальнага характару і датычылі толькі савецкіх дзеячаў.

У справе стварэння беларускага школьніцтва дзеячы Камітэту ў кастрычніку 1941 г. звярнуліся да павятовага старасты (landrat) з просьбай стварэння трох народных (пачатковых), адной прафесійнай і адной сярэдняй школы. Пры гэтым спасылаліся на факты стварэння беларускіх школ немцамі ў 1918 г. і дадавалі, што школы будуць спрыяць выхаванню беларускай моладзі ў нацыянал-сацыялістычным духу, а гэта ўзмоцніць падтрымку нямецкага ўраду.

У сакавіку 1942 г. замест Беларускага нацыянальнага камітэта

ў Гародні быў адкрыты аддзел Беларускага камітэту ў Беластоку. Яго ўзначалілі 36-гадовы адвакат Віталь Януцэвіч (кіраўнік), Анатоль Рошка і Мікалай Вошка.

Адным з важных кірункаў дзейнасці Аддзела была культурна-асветніцкая праца. Вялікай папулярнасцю на тэрыторыі Генеральнага камісарыяту "Беларусь" і Беластоцкай акругі карысталіся канцэрты вядомага беларускага тэнара Міхася Забэйды-Суміцкага. У Гародні ён выступіў 19 кастрычніка 1942 г. з нямецка-італьянска-беларускім рэпертуарам. У рэгіёне таксама гастралявала балетная трупа, створаная пры Беларускім камітэце ў Беластоку, і хор. Выдавалася беларуская штотыднёвая газета "Новая дарога" і беларускія календары. Шмат месца ў іх займала ўсхваленне акупантаў і нацызму.

Несумненнай заслугай камітэту стала дзейнасць беларускіх школаў. Пасля пачатковай няўпэўненасці па пытаннях школьніцтва немцы афіцыйна забаранілі дзейнасць польскіх школаў, але дазволілі беларускія пачатковыя школы, якія ўтрымліваліся коштам бацькоў. Колькасць вучняў у іх не перавышала 200 чалавек.

Ацэнкі палітыкі нямецкай акупацыйнай улады ў "беларускім пытанні" вельмі розняцца між сабой. Адныя аўтары сцвярджаюць, што немцы выразна фаварызавалі беларускія інстытуты. Іншыя перакананыя, што акупацыйныя ўлады стрымлівалі імпэт беларускіх дзеячаў, каб не паглыбляць польска-беларускі канфлікт, што прывяло б да дэстабілізацыі сітуацыі.

Ва ўмовах росту актыўнасці партызанскага руху прыхільнасць ці прынамсі нейтральнасць мясцовага насельніцтва была асабліва важнай. Нямецкім уладам удалося пераканаць гарадзенскага біскупа Венедзікта, і той у студзені 1943 г. выслаў ліст да духавенства, у якім прыгадваў *"бязбожную савецкую ўладу"*, якая прывяла народ да нечуванай няволі, а святароў да пакутаў. Існуючыя цяжкасці ў выкананні рэлігійнай практыкі біскуп тлумачыў наступствамі ваеннай сітуацыі. Найбольш небяспечным ён лічыў знішчэнне вайной маральнасці і асабліва, падтрымку "банды-

тызму” (напэўна меў на ўвазе дзейнасць падполля і партызанаў), бо ўдзел двух-трох жыхароў вёскі ў падтрымцы такіх дзеянняў абернецца пакараннем усёй вёскі і смерцю дзесяткаў нявінных людзей. Біскуп заклікаў жыхароў *“тлумачыць у размовах чаканні і патрабаванні ўлады, пераконваць у неабходнасці адмовіцца ад удзелу ў дзейнасці бандытаў, падтрымліваць слабых, спыняць іх на шляху да граху і няшчасця”*[38].

Акрамя беларусаў свае арганізацыі ў Гародні стваралі іншыя нацыянальнасці. У 1942 г. узнік Рускі камітэт, які акрамя іншага ўтрымліваў школу, тэатральны калектыў і прытулак. Існавала таксама філія Таварыства ўкраінцаў у Германіі, якая вяла культурніцка-асветніцкую працу (старшыня Фёдар Косцеў).

Страта незалежнасці, рэпрэсіўная палітыка акупантаў і пагаршэнне матэрыяльнага становішча мясцовых жыхароў спрыяла развіццю антынямецкага падполля.

Польскае падполле ўзнікла ўжо ў часы савецкай улады. Галоўным чынам, гэта былі структуры Саюза ўзброенай барацьбы (Związek Walki Zbrojnej), пераўтворанага ў лютым 1942 г. у Армію Краёву. На рубяжы кастрычніка і лістапада 1941 г. была створана падпольная Каманда гуфца Саюзу польскага харцэрства (“Шэрыя шэрагі”) на чале з Брунонам Глябовічам. Харцэры супрацоўнічалі з Арміяй Краёвай між іншым у акцыі “Вахляж” (“Веер”). Яна заключалася ў атаках на нямецкія транспарты, якія рухаліся на Усходні фронт.

У структуры Арміі Краёвай былыя ваяводствы сталі акругамі, якія дзяліліся на “абводы”. У Гарадзенскім павеце былі два абводы: “Гародня – левы Нёман” і “Гародня – правы Нёман”. Да апошняга належаў горад і гміны з правага берагу Нёмана. Абвод быў падзелены на некалькі раёнаў з 16 пляцоўкамі, з якіх адзін раён у складзе пяці пляцовак знаходзіўся ў самым горадзе. Камендантам абводу, які напрыканцы 1943 г. налічваў больш 1 тыс. чалавек (з іх у самым горадзе каля 150 чалавек), быў падпаручнік Юльян Любасоўскі (псеўданім “Дуб”). Летам 1941 г. ён быў

[38] ДАГВ. Ф. 16, воп. 1., ад.з. 2, арк. 5.

намеснікам каменданта. Стваралася таксама падпольная польская цывільная адміністрацыя. На ўзроўні былых ваяводстваў кіравалі акружныя дэлегатуры ўраду, на ўзроўні паветаў – павятовыя дэлегатуры. Вядома толькі прозвішча намесніка павятовага дэлегата ў Гародні Станіслава Пшаноўскага.

Вясной 1944 г. адбыўся самы буйны правал у дзейнасці Беластоцкай акругі Арміі Краёвай у абводзе "Гародня – правы Нёман". З сакавіка па май немцы арыштавалі некалькі дзесяткаў асобаў, у тым ліку частку камандавання абводу, што прывяло да дэзарганізацыі дзейнасці гэтай структуры ў апошнія месяцы акупацыі.

Нягледзячы на гэта, колькасць Арміі Краёвай у абводзе "Гародня – правы Нёман" да сярэдзіны 1944 г. вырасла ў два разы (да 2 тыс. чалавек). Быў створаны адзіны ў гэтым абводзе буйны партызанскі атрад пад камандай старшага сяржанта Казіміра Акуліча. Ён дзейнічаў у Аўгустоўскай пушчы і супрацоўнічаў з савецкай дыверсійна-разведвальнай групай маёра Канстанціна Цветынскага ("Арлова").

У канцовы перыяд акупацыі часткі Арміі Краёвай прыступілі да рэалізацыі аперацыі "Бура", мэтаю якой была вызваленне ад немцаў да прыходу Чырвонай арміі. Мабілізацыя да ўдзелу ў гэтай аперацыі ў Гародні закончылася няўдачай па прычыне арыштаў у першай палове 1944 г. і вялікай канцэнтрацыі нямецкіх войскаў, якія мелі намер стрымаць Чырвоную Армію на лініі Нёмана.

Пасля захопу Гародні немцамі ў 1941 г. узнікла таксама падполле і па-за межамі польскай супольнасці. Аднак доўгі час яно не мела ні агульнага кіраўніцтва, ні знешніх кантактаў. Людзі з розных асяродкаў дзеля змагання з акупацыйнай уладай стваралі антыфашысцкія групы, у тым ліку сярод ізаляванай у двух гета габрэйскай супольнасці. Сярод такіх арганізацый можна назваць групы Мікалая Волкава, Васіля Розанава (мясакамбінат), Сяргея Лямава (тартак), Мікалая Багатырова (дэпо) і Сяргея Панасюка (чыгуначная станцыя).

Гэтыя групы вялі разнастайную дзейнасць, але галоўным заняткам быў сабатаж і дапамога ўцекачам з лагераў. Таксама яны вялі выведку і падтрымлівалі партызанаў. Варта адзначыць эфектыўнасць аперацый групы Багатырова на чыгунцы ў 1942 г. У Гародні таксама быў створаны Антыфашысцкі камітэт на чале з А.Шуміліным.

У перспектыве важнейшым аказалася стварэнне камуністычных структураў улады, якія аднак фармаваліся за межамі Гародні. 28 лістапада 1943 г. узнік Гарадзенскі раённы камітэт КП(б)Б на чале з першым сакратаром Паўлам Бастуном (яго намеснікам у студзені 1944 г. стаў Піліп Дайнека). Ён размяшчаўся пры партызанскай брыгадзе ім. Аляксандра Неўскага, якая ў той час знаходзілася ў Ліпічанскіх лясах. Адным з членаў камітэта была Вольга Соламава, у той час сакратар Гарадзенскага камітэту ЛКСМБ, якая загінула 15 лютага 1944 г.

Як вынікала з справаздачы Беластоцкага абласнога камітэта КП(б)Б у перыяд з 1 студзеня да 1 мая 1944 г. на тэрыторыі вобласці адбылося 19 сутычак савецкіх партызанаў з немцамі, падчас якіх было забіта 58 і паранена 28 немцаў. Адначасова ў той жа перыяд у пяці сутычках з польскімі партызанамі былі забітыя 24 палякі і 19 паранена.

Спрэчка пра тое, ці антынямецкія акцыі прычыніліся да абмежавання тэрору ці, наадварот, павялічвалі колькасць ахвяраў, не можа мець адназначнага адказу. Шмат што залежала ад канкрэтнай сітуацыі.

У першы перыяд нямецкай акупацыі, калі гінулі ў асноўным габрэі, хрысціянскае насельніцтва жыло, па вызначэнні нямецкага гісторыка Фелікса Акермана нібыта ў "паралельным свеце". Першым моцным узрушэннем быў расстрэл 20 кастрычніка 1942 г. на старых крэпасных фартах каля в. Навумавічы 25 закладнікаў пасля забойства прадстаўніка нямецкай улады. Закладнікі былі жыхарамі Гародні, прычым вельмі вядомымі ў горадзе. У прыватнасці, суддзя Вінцэнт Гедройць, стваральнік заапарка Ян Каханоўскі з гімназіі

імя Адама Міцкевіча, апошні віцэ-прэзідэнт горада Раман Савіцкі і дырэктар тытунёвай фабрыкі Ян Шымаnоўскі.

Наступная падобная акцыя адбылася 15 ліпеня 1943 г. калі немцы расстралялі таксама каля тых жа Навумавічаў 75 прадстаўнікоў польскай інтэлігенцыі разам з сем'ямі. Сярод забітых былі лекары, настаўнікі, святары, юрысты (між іншымі суддзя Акружнога суда Людвік Бухалі). Але самае трагічнае, што расстралялі таксама дзяцей, якім было па некалькі гадоў.

Невядома, колькі жыхароў хрысціянскай Гародні апынуліся ў канцэнтрацыйных лагерах. Вядомы толькі рапарт з пачатку мая 1944 г., які сведчыць, што ў канцлагер Штутхоф быў накіраваны транспарт у складзе 135 мужчынаў, а ў канцлагер Равенсбрук вывезлі 35 жанчын. Пераважна гэта былі жыхары Гародні і ваколіц, удзельнікі польскага падполля.

Па меры таго як расло перакананне ў паражэнні Германіі завастралася польска-савецкая спрэчка аб уключэнні пэўных тэрыторый у склад Польшчы ці БССР.

Справа з дзяржаўнай прыналежнасцю Гародні была не высветленай яшчэ ў сярэдзіне 1944 г. З аднаго боку, гаварылася пра нязменнасць мяжы 1941 г., а з другога з'яўлялася інфармацыя, што мяжа будзе перасунутая да г.зв. "лініі Керзона", дакладныя абрысы якой ніхто не ведаў. Беластоцкі падпольны абласны камітэт КП(б)Б некалькі разоў звяртаўся ў ЦК з просьбай праясніць сітуацыю.

Між тым савецкія войскі ў ходзе аперацыі "Багратыён" даволі хутка набліжаліся да Гародні. Заняцце Гародні было часткай Беластоцкай наступальнай аперацыі. Найбольш важным і апошнім рубяжом нямецкай абароны перад Усходняй Прусіяй меўся стаць Нёман. Гародня была апорным пунктам абароны 4-й нямецкай арміі. Аднак яе часткі былі моцна аслабленыя ў папярэдніх цяжкіх баях і панеслі вялікія страты, асабліва ў цяжкім узбраенні.

Падчас баёў на подступах да гораду з найлепшага боку сябе паказалі часці III кавалерыйскага корпуса генерала Мікалая Аслікоўскага. 16 ліпеня была вызваленая правабярэжная частка

Гародні. Часткі 290 стралковай дывізіі 50 арміі генерала Івана Болдзіна спрабавалі сходу фарсіраваць Нёман, але сустрэлі вельмі моцны супраціў. У гэты час у Гародню пачалі прыбываць нямецкія танкавыя часткі, і баі набылі вельмі жорсткі характар. 290 дывізія страціла каля 1/5 свайго складу. Загінулі каля 180 салдат і афіцэраў, больш 600 былі параненыя. Баі па прарыву нямецкай абароны на Нёмане працягваліся да 24 ліпеня, і толькі потым фронт пасунуўся далей на захад. Ганаровую назву "Гарадзенскай" атрымалі 16 вайсковых адзінак Чырвонай арміі.

Па даных Абласной камісіі па расследаванню злачынстваў нямецкіх акупантаў ад 25 чэрвеня 1945 г., паўтораных у пазнейшых публікацыях, за гады нямецкай акупацыі загінула 33 тыс. жыхароў Гародні, у тым ліку 20 тыс. габрэяў. На ўскраінах горада ў лагерах памерла таксама каля 20 тыс. палонных чырвонаармейцаў. Устаноўлена таксама, што 249 гарадзенцаў загінулі на фронце, а 194 – у партызанскіх атрадах. Гэта, зразумела, прыблізныя лічбы, але яны паказваюць трагедыю, якую перажылі гарадзенцы.

Варта дадаць, што сам горад быў разбураны на 43%. Былі знішчаныя або моцна пашкоджаныя гарадская электрастанцыя, чыгуначны вузел, водапомпавая станцыя, тытунёвая фабрыка, велазавод, лесапільня і фанерны завод, каля 25% жытла. Агульныя страты гаспадаркі горада перавысілі 252 млн. руб. у цэнах 1941 г.

## ЖЫЦЦЁ І СМЕРЦЬ ГАРАДЗЕНСКАГА ГЕТА

Паводле дадзеных нямецкай акупацыйнай адміністрацыі, на 29 чэрвеня 1941 г. у горадзе налічвалася каля 18,6 тыс. габрэяў, што складала 39% насельніцтва Гародні. У першыя дні акупацыі

габрэі былі пастаўленыя па-за законам, іх жыццё і бяспека не былі абароненыя. На пачатку ліпеня 1941 г. немцы прайшлі па гораду са спісам у руках, і па меншай меры 100 прадстаўнікоў габрэйскай інтэлігенцыі былі расстраляны. Наступнымі ахвярамі сталі пацыенты габрэйскага шпіталя, жыхары дома апекі старых і дзіцячага дому, частка моладзі.

Для габрэйскага насельніцтва Гародні ўводзіліся абмежаванні. Напрыклад, забаранялася хадзіць па ходніках, і габрэі павінны былі крочыць калонай па праезнай частцы. Многія гінулі або калечыліся пад коламі машын. Нельга было прыходзіць на рынак. Пры сустрэчы з немцам, апранутым у вайсковую форму, абавязкова здымаўся галаўны ўбор. Габрэі не мелі права з'яўляцца ў месцах грамадскага адпачынку, на спартовых аб'ектах, у тэатрах, музеях і бібліятэках. Забаранялася трымаць коней і кароў. Давялося здаць нямецкім уладам радыёпрыёмнікі і сродкі транспарту.

Усе кантакты паміж габрэямі і хрысціянамі былі забаронены. Габрэі павінны былі насіць на левай руцэ белую стужку з блакітнай шасціканцовай зоркай, якую пазней замянілі на жоўтую зорку Давіда, прышытую на спіне або грудзях. За з'яўленне без знака жорстка збівалі і арыштоўвалі.

На працягу 12 дзён пасля нямецкай акупацыі Гародні габрэі павінны былі зарэгістравацца і атрымаць пасведчанне асобы з надпісам "Jude" (габрэй). Жыццё габрэйскай супольнасці падпарадкоўвалася законам і дэкрэтам акупацыйнай улады, пра многія з якіх паведамлялася постфактум. Найбольш распаўсюджанай мерай пакарання за парушэнне законаў быў расстрэл, таму колькасць ахвяр хутка павялічвалася.

Адразу пасля заняцця Гародні былі ўведзеныя прымусовыя працы для габрэяў. Кожную раніцу мужчыны 14 – 60 і жанчыны 15 – 55 гадоў павінны былі збірацца каля сінагогі. Адсюль войска ці муніцыпалітэт забіралі іх на бясплатную працу. Часцей за ўсё гэта было прыбіранне вуліц ад смецця, рамонт дарог, прыбіранне вайско-

вых казармаў, уборка снегу, брукаванне дарог. Акцыі суправаджаліся пагрозамі пакараць “лянівых”, але нават самых працавітых і паслухмяных збівалі і зневажалі. Толькі тыя, хто валодаў “карыснымі” для акупантаў прафесіямі і належаў да катэгорыі кваліфікаваных спецыялістаў, вызваляліся ад фізічнай працы.

З першага дня акупацыі пачаліся канфіскацыі і рабункі. Яшчэ да перасялення габрэяў у гета нямецкія афіцэры і салдаты хадзілі па хатах і забіралі ўсё, што ім падабалася.

Дзеля арганізацыі жыцця габрэйскай супольнасці быў створаны Габрэйскі савет ці Юдэнрат. Гарадзенскі Юдэнрат мае рэпутацыю аднаго з самых справядлівых гісторыі Халакосту. Яго стварэнне было даручана адвакату І. Гажанскаму, але той ухіліўся, спасылаючыся на дрэннае веданне нямецкай мовы. Тады выклікалі былога дырэктара гімназіі “Тарбут” Давіда Бравера, якому было загадана стварыць Юдэнрат з 10 асоб на працягу 24 гадзін.

28 чэрвеня ён склікаў прадстаўнікоў палітычных арганізацый, якія існавалі ў Гародні яшчэ да “першых Саветаў” і сфарміраваў прадстаўнічы орган улады. Пасяджэнне было бурлівым, знайшліся нязгодныя на супрацоўніцтва з немцамі, але перамагла думка пра неабходнасць стварыць агульнае кіраўніцтва, каб дапамагаць габрэям, якія засталіся ў акупаваным горадзе. Функцыі Юдэнрата былі моцна абмежаваныя. Ён павінен быў выконваць распараджэнні нямецкай адміністрацыі. Але пры гэтым ён нагадваў традыцыйную габрэйскую суполку, бо на першы план выйшла наладжванне побыту габрэяў, арганізацыя сацыяльнай дапамогі і забеспячэнне правапарадку.

Давіду Браверу падпарадкоўваліся кіраўнікі Юдэнратаў гета № 1 І.Гажанскі і гета № 2 І.Задай. Бравер пры дапамозе хабару і асабістых кантактаў здолеў дамагчыся ад жандармерыі павялічэння порцый ежы ў гета, арганізаваў пастаўку кантрабандных прадуктаў, запалак і мыла. Былы віцэ-мэр Гародні І.Сухаўлянскі, адказны за фінансавыя справы, склаў эфектыўны бюджэт, які папаўняўся спачатку за кошт падаткаў толькі з найбольш заможных адзінаверцаў,

кантрабандыстаў і спекулянтаў. Пазней падаткі распаўсюдзіліся на ўсіх жыхароў гета і вылічваліся адпаведна заможнасці.

Першай справай Юдэнрата стала стварэнне аддзела медыцынскай дапамогі і структуры па забеспячэнню габрэяў працай, ад чаго залежала выжыванне супольнасці.

У верасні 1941 г., калі  Юдэнрат поўнасцю сфарміраваўся, колькасць яго супрацоўнікаў павялічылася да 24 чалавек. Пасля таго, як абодва гета былі зачынены і ператварыліся ў аўтаномны "габрэйскі горад", Юдэнраты  бюракратызаваліся. Колькасць іх супрацоўнікаў дасягнула 850 чалавек, і гэта цалкам зразумела. Супрацоўнікаў Юдэнрату не пасылалі на прымусовыя фізічныя працы і не дэпартавалі.

29 верасня 1941 г. А.Ліўшыц, які ўзначальваў аддзел па камерцыі і прамысловасці, прадставіў адміністрацыі гораду пералік майстроў і кваліфікаваных рабочых, для якіх ён прасіў дазволу на працу. У спісе згадваўся шырокі спектр прафесій: тэхнікі, слесары, шчотачнікі, мадысткі, разьбяры па дрэве, рамізнікі, мылавары, бухгалтары, кавалі, апрацоўшчыкі металу, будаўнікі, кушняры, гадзіннікавыя майстры, пекары, печнікі ды інш. Усяго каля 600 прафесій. Тэарэтычна сертыфікат на права працаваць павінны былі атрымліваць толькі рамеснікі, але Юдэнрат спрабаваў дамагчыся дазволу на дзейнасць і для прадстаўнікоў вольных прафесій.

Праца габрэйскіх спецыялістаў аплачвалася ў памеры 60% ад заработнай платы іншых жыхароў Гародні. Пры гэтым яны не атрымлівалі грошы на рукі. 50% забіраў магістрат у якасці падатку, 12% траплялі ў фонд сацыяльнага страхавання, 38% адыходзілі Юдэнрату для забеспячэнне харчаваннем. Кіраўніком аддзела забеспячэння быў Я.Эфрон, якому з дапамогай Д.Бравера, што меў сувязі ў ваеннай адміністрацыі і гарадскім кіраванні, удалося наладзіць пастаўку ў гета прадуктаў харчавання. Сістэма працавала добра, і хаця заможныя мелі пэўныя прывілеі, прадукты размяркоўваліся сярод усіх.

Між тым муніцыпалітэт забараніў працу габрэйскіх слесараў, шаўцоў, металаапрацоўшчыкаў, зачыніў абутковыя крамы. Д.Бравер паскардзіўся на гэта ваенным уладам, але быў праінфармаваны, што немцы падтрымліваюць пазіцыю муніцыпалітэта.

Акрамя таго, камендант загадаў гарадской адміністрацыі ўвесці “арыйцаў” у габрэйскія майстэрні, каб забяспечыць пераемнасць ў эканамічным жыцці горада. Улады пастаянна аддавалі Юдэнрату загады забяспечыць іх мэбляй, вопраткай, посудам, абуткам і г.д. Аднойчы запатрабавалі даставіць 30 крэслаў і 30 белых абрусаў на працягу двух дзён, у іншы раз трэба было перадаваць сталовыя прыборы, мэблю, абутак, фіранкі ды інш. Практыкаваліся кантрыбуцыі з грошай і каштоўнасцей. У канцы чэрвеня 1941 г. габрэяў Гародні абавязалі здаць 1 млн. руб., за што адказваў фінансавы аддзел Юдэнрата. На працягу двух месяцаў з габрэяў было спагнана  200 тыс. даляраў. Муніцыпалітэт атрымаў частку габрэйскай маёмасці. Трапіўшы ў гета, габрэі гублялі ўсю нерухомасць.

На пачатку лістапада 1941 г. габрэі Гародні былі пераселены ў гета № 1 (зараз вул. Замкавая - Вялікая Траецкая - Віленская - Савецкая), дзе апынулася каля 15 тыс. чал. і гета № 2 (зараз прасп. Касманаўтаў – вул. Лідская - Белуша - Антонава), дзе было каля 10 тыс. габрэяў. Ім дазвалялася ўзяць толькі рэчы, якія змяшчаліся на дзіцячым вазку ці тачцы альбо ў руках. Усе каштоўнасці і мэбля рэквізаваліся. Перасяленне ажыццяўлялася хутка і жорстка на працягу шасці гадзін. Хаця немцы забаранілі тым, хто ўвайшоў у гета, пакідаць яго, некаторыя паспелі некалькі разоў схадзіць дахаты і вярнуцца назад, прыхапіўшы максімум рэчаў. Нягледзячы на прадпісанне акупацыйнай улады, згодна з якім хрысціянам забаранялася выходзіць на вуліцы падчас перасялення габрэяў, знаходзіліся такія, хто не толькі назіраў за сумным шэсцем габрэяў, але нападаў на апошніх, адбіраючы лепшыя рэчы.

Адной з галоўных праблем гета была перанаселенасць. Плошча гета № 1,,якая супадала з тэрыторыяй старажытнага габрэйскага квартала, дзе да вайны габрэйскае насельніцтва пераважала над хрысціянскім, была меншай за квадратны кіламетр. Гета № 2 мела трохі большую плошчу, але якасць жытла там была горшай. Яго востра не хапала на працягу ўсяго існавання гета.

У экстрэмальных умовах людзі паводзілі сябе па-рознаму. Некаторыя насельнікі старых габрэйскіх вуліц, якія сталі вуліцамі гета, пацясніліся і прынялі суседзяў. Другія, карыстаючыся хаосам, захапілі лепшыя кватэры, з якіх выехалі хрысціяне. Спачатку многія засталіся на вуліцах. На падворках пад першым снегам стаяла мэбля, ляжалі пасцельныя рэчы. Даводзілася звяртацца за дазволам заняць памяшканне ў жыллёвы аддзел Юдэнрата, якім кіраваў адвакат Фюрстэнберг, і кватэрнае пытанне вырашалася. Будаўнічы аддзел парупіўся пра рамонт старых будынкаў і тэхнічных памяшканняў, тэрмінова прыстасоўваючы іх пад кватэры.

У гета № 2 апынуліся галоўным чынам “неспецыялісты” з сем’ямі (адвакаты, настаўнікі), а ў гета № 1 “спецыялісты” – рамеснікі і рабочыя. Пазней кантынгент перамяшаўся ў выніку міграцыі з аднаго гета ў другое.

Юдэнрат імкнуўся пераводзіць добрых спецыялістаў у гета № 1. Была ўпэўненасць, што як патрэбныя немцам, яны выжывуць. У гета № 2 было вялікае поле, дзе саджалі цыбулю, бульбу, буракі. Тут дзейнічалі сінагогі, меліся могілкі. А вось у гета № 1 для агародаў знайшлі знайсці месца толькі на старых габрэйскіх могілках.

Гарадзенскае гета было ледзьве не адзіным на тэрыторыі даваеннай Польшчы, дзе ніхто не памёр ад голаду. Юдэнрат утрымліваў пякарню і забяспечваў яе мукой і апалам. За сімвалічную плату па картках насельнікі гета атрымлівалі 200 грамаў хлеба на дзень. Час ад часу на картку давалі мяса,

пераважна каніну. У падвале сінагогі захоўвалася бульба, тамсама месцілася грамадская кухня. У гета № 2 кухня знаходзілася ў падвалах запалкавай фабрыкі.

У выжыванні габрэйскай супольнасці Гародні грамадскія кухні адыгралі галоўную ролю. Тут варылі стравы без мяса і тлушчу, але важна, што гэта было гарачае харчаванне, бо ўзімку не ўсе мелі грошы на апал і не маглі нават нагрэць вады. Да страваў прыкладаліся кавалкі хлеба па 50-100 грамаў. Калі з'яўлялася мяса, яго гатавалі спецыяльным кашэрным спосабам. З 5 да 8 і з 19 да 21 гадз. падавалі ячменную “каву”. Штодзённа кухні гатавалі каля 3 тыс. абедаў, пры чым бедныя харчаваліся бясплатна па картках аддзела сацыяльнага забеспячэння. За парадкам сачыла габрэйская паліцыя. Вязні вялі ўласны архіў, які, на жаль, не быў знойдзены пасля вайны.

Ва ўмовах гета амаль немагчыма было выконваць рэлігійныя прадпісанні, але пры Юдэнраце існавала аддзяленне, якое займалася пытаннямі рэлігіі. Яно імкнулася перадусім забяспечыць набожных людзей кашэрным харчаваннем і выканаць пахаванне памерлых згодна з традыцыяй.

Апошнім пабожным учынкам гарадзенскіх габрэяў было хаванне сувояў Тор у галоўнай сінагозе. 45 святых кніг былі знойдзены там пасля вайны. Нацысты забаранілі адчыняць габрэйскія школы, але настаўнікі давалі прыватныя ўрокі. Юдэнрат арганізаваў курсы для падрыхтоўкі кваліфікаваных работнікаў сярод моладзі і дарослых для працы ў майстэрнях гета. Настаўнікі гімназіі “Тарбут” праводзілі заняткі для сваіх былых вучняў. Вечарамі пасля цяжкай фізічнай працы хлопцы і дзяўчаты вывучалі іўрыт, габрэйскую гісторыю, Святое пісанне (Танах). У кожным гета было па бібліятэцы. Кампазітар і дырыжор Р. Вігдаровіч пісаў песні і выконваў іх для сяброў пад гукі канцэртыны.

Таксама ў абодвух гета адчыніліся паліклінікі і аптэкі, прыкладаліся вялікія намаганні для паляпшэння санітарнага стану. У гмаху Галоўнай сінагогі на другім паверсе быў абсталява-

ны часовы шпіталь. Ёсць меркаванне, што немцы паклапаціліся пра хуткае адкрыццё часовых лякарняў, асцерагаючыся пачатку эпідэміі. Сустракаюцца сведчанні немцаў, якія звярталіся да габрэйскіх лекараў, бо медыкі, якія засталіся па-за гета, не мелі дастатковай кваліфікацыі.

Па звестках на верасень 1941 г., сярод гарадзенскіх габрэяў было каля 2,8 тыс. рамеснікаў больш як 40 спецыяльнасцяў. Пераважалі краўцы, слесары і цесляры. Існавала некалькі брыгад габрэйскіх рабочых, якія працавалі па-за межамі гета, менавіта на заводах па вытворчасці скуры, пліткі, сокаў, цэглы, і фанеры, піва, а таксама на тартаку, у сталярных майстэрнях, на дарогах ды інш. Жанчынам плацілі ўдвая менш, чым мужчынам, але габрэі імкнуліся трапіць у такую брыгаду, бо яе працаўнікі атрымлівалі на харчовую картку мяса і лепшыя прадукты, а таксама маглі тайна прынесці ў гета прадукты ці тавары.

Майстэрні, якія абслугоўвалі патрэбы вермахту (выраблялі абутак, вопратку, амуніцыю) былі заснаваны ў гета з дазволу шэфа Цывільнай управы Беластоцкай акругі фон Плетца. У канцы 1942 г. у гета № 1 налічвалася каля дваццаці рамесных майстэрань, дзе працавала амаль 2 тыс. чалавек. Туды накіроўвалі лепшых спецыялістаў. Габрэі лічылі працу ў такіх майстэрнях ледзьве не ахоўнай граматай і імкнуліся трапіць туды любым коштам. У выніку сярод працаўнікоў Юдэнрату, якія вырашалі гэтае пытанне, распаўсюдзілася хабарніцтва.

На тэрыторыі гета ў некалькіх прыватных крамах прадавалі кантрабандныя і выробленыя ў гета ў прыватных майстэрнях тавары. У апошніх рабілі абутак, металічныя вырабы, адзенне і іншыя прадметы першай неабходнасці. Некаторыя з іх прызначаліся для кліентаў па-за межамі гета. Былі нават дробныя заводы па вырабу алею, мукі, цукерак, крухмалу. Прыватныя крамы і майстэрні існавалі нелегальна, і ў выпадку рэвізіі гестапа іх гаспадары былі б сурова пакараныя. Юдэнрат не толькі ведаў пра іх існаванне, але і спаганяў падаткі.

У гарадзенскіх гета былі спробы арганізацыі антыфашысцкага падполля. Працягвалі дзейнічаць моладзевыя палітычныя арганізацыі "Дрор", "Ха-Шомэр ха-Цаір", "Ха-Халуц ха-Цаір". На пачатку 1942 г. спрабавалі нават стварыць баявую арганізацыю, здольную аб'яднаць усе палітычныя сілы, але гестапа натрапіла на след падпольшчыкаў.

На чале гарадзенскага падполля стаялі маладыя жанчыны – І.Таубе, М.Папко, Х.Беліцк, Ц.Шахнэс. Члены "Ха-Шомера ха-Цаіра" заснавалі прынамсі  чатыры групы з 20-35 дзяцей ва ўзросце да 12 год у двух гарадскіх гета. Галоўнай мэтай было аб'яднанне моладзі, якой хацелі даць надзею і зацікавіць сур'ёзнай справай, каб яна не соўкаліся без занятку па вуліцах і не была ўцягнутая ў цёмныя справы. Пры адсутнасці пастаяннага месца, сходы адбываліся то ў сінагозе, то ў домеаднаго з членаў, чые бацькі былі на працы. Таксама выкарыстоўвалі сад у гета № 1. Нарады, якія праводзіліся на ідыш, уключалі апавяданні пра "Эрэц Ісраэль", габрэйскія святы і г.д. Адначасна аказвалі дапамогу сем'ям членаў арганізацыі.

Гарадзенскі філіял "Дрор", які налічваў каля 70 сяброў, арганізаваў маленькі кібуц. Зімой 1942 – 1943 г. члены моладзевых рухаў былі першымі, хто адмовіўся ад ілюзій пра мэты акупантаў адносна габрэяў і стаў на шлях узброенай барацьбы. З дапамогай эмісараў, якія мелі "арыйскую" знешнасць, свабодна размаўлялі на польскай мове і мелі асабістыя дакументы, яны падтрымлівалі пастаянныя кантакты з гета Вільні, Беластока і Варшавы Адной з першых была Бэла Хазан, якая служыла сувязной паміж цэнтрам у Вільні і філіяламі ў Лідзе, Гародні і Беластоку для кантрабанды, інфармацыі, грошай і зброі, а таксама падрыхтоўкі "бяспечных дамоў" у Гародні для іншых сувязных.

У сярэдзіне 1942 г. моладзевыя арганізацыі аб'ядналіся для сумеснай барацьбы. Агульнай мэтай было ўзброенае змаганне. Аб'яднаная падпольнай група налічвала каля 100 чалавек. Спроба далучэння іншых рухаў – камуністаў, бундаўцаў

і рэвізіяністаў – не мела поспеху. Не было сродкаў для закупкі зброі, а Юдэнрат адмовіў моладзі ў дапамозе. Спробы далучыцца да партызанаў прывялі да гібелі трох групаў і няўдалага вяртання чацвёртай.

Узнік план вывазу дзяўчат у Беласток і падрыхтоўкі паўстання ў гарадзенскім гета. У студзені 1943 у Гародні існавала майстэрня па фальсіфікацыі дакументаў, але са зброі былі толькі кіі, прымітыўныя выбуховыя прыстасаванні, касцеты і адзін пісталет. Моладзь вучылася змагацца голымі рукамі, авалодвала прыёмамі джыу-джыцу.

У студзені 1943 Навум Кравец і Моталь Капельман здзейснілі няўдалую спробу забойства галоўнага ката гарадзенскага гета – яго каменданта Стрэблава. Яны былі забітыя не паспеўшы нават наблізіцца да яго.

Актывісты моладзевых рухаў вырашылі даць магчымасць акупантам іх злавіць, каб трапіць у сінагогу, куды былі сагнаны перад транспартам гарадзенскія габрэі. Яны планавалі арганізаваць паўстанне, але ў апошні момант агульны настрой упаў і ад першапачатковага плану прыйшлося адмовіцца на карысць масавых уцёкаў. Зброі і падтрымкі Юдэнрата па-ранейшаму не было, вайсковы вопыт у моладзі адсутнічаў. Урэшце актывісты адмовіліся ад сваіх планаў, і з сем'ямі альбо паасобку збеглі з гарадзенскага гета і накіраваліся ў Беласток альбо ў лясы.

Рэпрэсіі адбываліся цягам усёй акупацыі. Першы акт гвалту, які назаўсёды застаўся ў памяці тых, хто ацалеў, адбыўся на пачатку лістапада 1941 г. На балконе сядзібы Юдэнрата за самавольны выхад з гета былі павешаны дачка вядомага краўца Лена Прэнская, бежанец з Варшавы па прозвішчы Друкер і Моўша Шпіндлер. Апошні быў гаспадаром дома, дзе жыла Л.Прэнская, і не данёс на яе.

Расстрэлы і адпраўка ў канцлагер за спробу кантрабандай пранесці ў гета прадукты харчавання нікога ўжо не здзіўлялі.

Увосень 1942 г. распаўсюдзіліся чуткі, што немцы збіраюцца выслаць габрэяў на працы за межы Гародні. 4 лістапада 1942 г.

абвясцілі, што частка жыхароў гета № 2 будзе накіравана ў працоўныя лагеры Верхняй Сілезіі. З сабой дазвалялася ўзяць святочны гарнітур, зубную шчотку, шчоткі для абутку і вопратку.

Гэта было пачаткам ліквідацыі гета № 2 якая прайшла ў два этапы. 9 лістапада 1942 г. 4 тыс. "карысных" вязняў нацысты перавялі ў гета № 1,,што рэзка пагоршыла ў апошнім становішча з прадуктамі харчавання і месцам для пражывання. Пры гэтым адбыўся расстрэл натоўпу, які сабраўся каля варот гета № 2. Людзі жадалі далучыцца да тых, каго пераводзілі ў цэнтральную частку гораду, бо разумелі, які сумны лёс чакае "некарысных". Сем чалавек было забіта, многія параненыя. Медыцынскай дапамогі яны не атрымалі. Усё гэта дало чаканы акупантамі эфект. 10 лістапада, калі пераводзілі другую групу спецыялістаў, сабралася значна менш людзей.

Уначы 14 лістапада каля 1,6 тыс. чалавек, у тым ліку старыя і жанчыны з груднымі дзецьмі пад праліўным дажджом былі адпраўлены на таварную станцыю Гародні і загнаны ў вагоны. Перад пачаткам акцыі на вуліцах з'явіліся паведамленні, што габрэяў вязуць на працу ў Сілезію.

Як распавядалі тыя, каму пашчасціла выжыць, члены Юдэнрата ды самыя вязні шчыра верылі ў гэта. Былі толькі адзінкавыя спробы ўцёкаў. Транспарт знаходзіўся ў дарозе тры дні. Вады і ежы не давалі. У канцавым пункце – лагеры Аўшвіц – усіх загналі ў газавыя камеры і атруцілі.

У ноч на 21 лістапада ў Трэблінку і Аўшвіц былі вывезены яшчэ 2,4 тыс. чалавек. Яны падзялілі лёс першай групы. Гета № 2 больш не існавала. Магістрат папярэджваў нямецкія ўлады пра небяспечныя наступствы ліквідацыі гета. Горад мог застацца без рамеснікаў і працоўных, але гэтыя меркаванні былі адкінуты. Да таго ж на працягу ўсёй акупацыі немцы рыхтавалі габрэям замену, стымулюючы славянскае насельніцтва да пераймання рамесных прафесій у габрэяў падчас сумеснай працы.

Пасля ліквідацыі гета № 2 немцы рэвізавалі апусцелыя дамы і знайшлі яшчэ некалькі дзесяткаў чалавек, якія былі накіраваны ў канцлагер у Каўбасіне, дзе ў 1941 г. знаходзіўся лагер для ваеннапалонных.

У лютым 1943 г была праведзена акцыя масавага знішчэння апошняга гета. Каля 4 тыс. вязняў двума транспартамі былі накіраваныя спачатку ў транзітны лагер у Каўбасіне, а пазней ў Аўшвіц і Трэблінку. Тыя нешматлікія габрэі, якія засталіся ў гета, былі перавезены ў Беластоцкае гета ў сакавіку 1943 г.

У ходзе першай акцыі Д. Бравер і ўсе члены Юдэнрата былі расстраляны. Падчас такіх "акцый" гета зачынялася, габрэям забаранялася пакідаць памяшканні нават для працы. Людзей сярод ночы выганялі з хат і з невялікіх зборных пунктаў вялі да сінагогі. Адтуль іх, увесь час збіваючы, гналі ў Каўбасіна. Наперадзе калоны ішлі самыя паважаныя людзі. Аднаго з іх, напрыклад, прымусілі надзець капялюш блазна, танцаваць, граць на скрыпцы, а ўсім астатнім загадалі спяваць на ідыш. Тых, чыіх імёнаў яшчэ не было ў спісах прызначаных для дэпартацыі, размяшчалі на дробных зборных пунктах. Спісы ўвесь час рэдагаваліся. Некаторых вязняў непасрэдна з калоны вярнулі назад у Гародню.

Вёска Каўбасіна ў 5 км ад Гародні калісьці было фермай польскага памешчыка. У 1930-х гг. члены "Хе-Халуц ха-Мізраха" выкарыстоўвалі яе для падрыхтоўкі будучых палесцінскіх каланістаў. Савецкія ўлады забралі ферму і адчынілі на яе базе трактарную станцыю, а немцы зрабілі там канцэнтрацыйны лагер. Тэрыторыя плошчай прыкладна ў 1 кв. км была абнесена двайным калючым дротам. У кожным куце стаяла дазорная вежа.

З восені 1942 г. сюды прыганялі габрэяў з Гародні і бліжэйшых населеных пунктаў. Праз лагер прайшлі каля 35 тыс. чалавек. Калі вязняў прыводзілі сюды, іх жорстка збівалі. Яны нават не паспявалі забраць свае рэчы з фурманак. Камендант лагеру звычайна п'яны Карл Рынзлер, адрозніваўся звярынай жорсткасцю і нярэдка расстрэльваў габрэяў для ўласнай забавы. Раніцай

і ўвечары габрэяў зганялі на пастраенне, пасля чаго яны гадзіну маршыравалі з песнямі на ідыш.

З членаў юдэнратаў розных мясцовасцяў была створаная адзіная Рада, але яе члены не мелі ніякіх паўнамоцтваў. Немцы здзекаваліся з іх асабліва жорстка. Людзі жылі ў бараках у жудасных умовах. Хутка пачаліся эпідэміі, распаўсюдзіліся вошы. У дзень памірала каля 70 чалавек. Хворым адвялі асобную зямлянку, у якой працавалі лекары і санітары, але лекі адсутнічалі.

Харчовыя пайкі складаліся з супу з неачышчанай бульбы і гнілой капусты. Таксама выдавалі ад 100 да 150 грамаў хлеба на чалавека, але не кожны дзень.

Праз два тыдні пасля таго, як ў Каўбасіна прыгналі першую партыю зняволеных, гарадзенскі Юдэнрат здолеў дамовіцца з немцамі пра дастаўку туды па 200 грамаў хлеба на чалавека са сваіх запасаў. Некаторыя атрымалі пасылкі ад сваякоў з Гародні альбо пранеслі ў лагер сушаныя прыпасы, але за падобныя "злачынствы" расстрэльвалі.

Праз тыдзень пасля з'яўлення ў Каўбасіне першых вязняў пачалася іх адпраўка ў Аўшвіц. Пры гэтым людзям абяцалі лепшыя ўмовы і не вельмі цяжкую працу, а дастаўленых у Аўшвіц прымушалі пісаць у Каўбасіна суцяшальныя лісты. Перад адпраўкай адбіралі ўсе ювелірныя вырабы і грошы. Людзей уначы пад канвоем вялі на чыгуначную станцыю Ласосна, дзе старых, дзяцей і хворых расстрэльвалі, а астатніх заганялі ў грузавыя вагоны.

Апошні этап ліквідацыі гарадзенскай габрэйскай суполкі наступіў у сакавіку 1943 г. Як сведчыць данясенне фон Плетца, на 5 сакавіка 1943 г. з Гародні было вывезена ў канцэнтрацыйныя лагеры амаль 20,6 тыс. габрэяў.

Некалькі дзесяткаў чалавек хаваліся паасобку і малымі групамі ў гумнах, на паддашшах, у сялян альбо далучыліся да партызанаў. Была выратавана частка габрэйскіх дзяцей, якіх перадалі хрысціянам. "Праведнікамі народаў свету" сталі С. Крывіцкі з вёскі Булькаўшчына і сям'я Яна і Танка Пухальскіх, якія хавала на лецішчы ў Ласосне пяцёх

чалавек на працягу 17 месяцаў да вызвалення, Кацярына і Ян Карэйвы таксама з Ласосны, Іосіф і Стэфанія Гаўронікі з в. Навасёлкі, сям'я Аляксандры і Надзеі Наумкоў і Алега Фралова з Гародні. Сям'я Талочкаў з Заполля выратавала братоў Фур'е,,у даваеннай краме якіх яны былі сталымі пакупнікамі. Лекар А.Доха схаваў сям'ю і сяброў свайго калегі Х.Блюмштэйна (больш дзесяці чалавек). Т.Сарока выратаваў дзевяцярых габрэяў, якім дапамог па чыгунцы з'ехаць у Вільню. Амаль легендарнай стала постаць П.Гармушкі, які, кіруючыся прынцыпамі хрысціянскай маралі, на пачатку вайны дапамагаў сотням габрэяў, ахвяруючы сваімі грашыма і рызыкуючы жыццём.

## АД АДНАЎЛЕННЯ ДА ПАБУДОВЫ "СВЕТЛАЙ БУДУЧЫНІ"

Адразу пасля вызвалення Гародня заставалася адміністрацыйным цэнтрам Гарадзенскага раёну Беластоцкай вобласці БССР. Натуральна, што першымі задачамі "другіх Саветаў" былі ўмацаванне савецкай улады праз стварэнне сістэмы кіравання, а таксама аднаўленне гарадской гаспадаркі, ажыўленне кантраляванага грамадскага і культурнага жыцця.

Рэальная ўлада ў СССР і БССР знаходзілася ў руках Камуністычнай партыі. На месцах яе палітыку праводзілі ў жыццё партыйныя камітэты. У абласцях гэта былі абкамы, у гарадах – гаркамы партыі. Усе рашэнні, што прымаліся партыйнымі камітэтамі, былі абавязковымі для выканання. Фармальна, паводле Канстытуцыі БССР, вышэйшым органам улады на месцах быў выбарны орган – Саветы народных дэпутатаў. Зрэшты, выбары ніколі не мелі свабоднага і дэмакратычнага характару. Фактычна, склад Саветаў фарміравалі тыя ж партыйныя органы. Выканаўчыя ўлады ў выглядзе Абласнога і Гарадско-

га выканаўчага камітэту мясцовых Саветаў, якія фармальна ажыццяўлялі кіраўніцтва ўсімі сферамі гарадскога жыцця, у першую чаргу кіравалася партыйнымі рашэннямі.

Адно з першых рашэнняў Гарадзенскага гарвыканкаму датычыла арганізацыі гандлю. Ужо 9 жніўня 1944 г. была прынятая пастанова "Аб аднаўленні працы рынкаў". Сістэмнага гандлю не існавала, а між тым трэба было шукаць шляхі забеспячэння насельніцтва прадуктамі харчавання і прадметамі першай неабходнасці. Ізноў пачалі працаваць дравяныя рынкі Скідальскі, Бернардзінскі, Беластоцкі і Грандзіцкі.

12 жніўня 1944 г. было прынятае рашэнне пра адкрыццё ў горадзе 20 крамаў, у тым ліку шасці хлебных, а да двух існуючых сталовых далучаліся яшчэ тры[39].

Улады не забываліся і пра такі аспект гарадскога жыцця як тапаніміка, тым больш, што ён непасрэдна датычыў палітыкі памяці і павінен быў сведчыць пра "савецкасць" Гародні. Гарвыканкам загадаў як у службовых дакументах, так і ў адрасах *"показывать исключительно наименования улиц и площадей, установленных в 1940 году"*[40].

Пасля ўтварэння 20 верасня 1944 г. Гарадзенскай вобл. узнікла вострая патрэба размяшчэння ў горадзе не толькі гарадскіх, але таксама абласных арганізацый і ўстановаў адміністратыўнага характару. Сюды таксама пераехала Упраўленне Беластоцкай чыгункі. На працягу верасня і кастрычніка гэтая праблема ў асноўным была вырашаная. Так, абласны і гарадскі суды, абласное упраўленне юстыцыі размясціліся ў дамах № 34 і 35 па вул. Э.Ажэшкі. Абласная пракуратура заняла будынак № 24 па вул. 1 Мая, ваенная пракуратура і ваенны трыбунал Беластоцкай чыгункі размясціліся па вул. Урыцкага, 5 і вул. Ажэшкі, 44.

Галоўны орган абласной улады, менавіта абкам КП(б)Б пачаў працаваць па вул. Віленскай, 1 пазней ён перабраўся на вул. Акадэмічную, 10. Таксама яму належаў будынак па вул. Савецкай, 14, які ў 1952 г. стаў рэзідэнцыяй гарвыканкаму. (Цяпер

[39] ДАГВ. Ф. 484, воп. 1, ад.з. 119, арк. 1.

[40] ДАГВ. Ф. 484, воп. 1, ад.з. 119, арк. 10.

тут знаходзіцца адміністрацыя Ленінскага раёна горада). Першым сакратаром абкаму КП(б)Б Гарадзенскай вобл. стаў Пётр Калінін, які з верасня 1942 г. узначальваў Беларускі штаб партызанскага руху, а ў 1943 г. атрымаў званне генерал-маёра. Гэтае прызначэнне выразна сведчыла пра тую важнасць, якую Масква надавала саветызацыі Гародні.

Гаркам партыі, які месціўся на пл. Леніна, 5 узначаліў Мікалай Ваўнянка. У 1952 г., калі закончыўся рамонт Новага замку, абкам і гаркам пераехалі ў яго пакоі. Абласны выканаўчы камітэт заняў будынак па вул. Э.Ажэшкі, 3. Першым ягоным старшынём стаў ужо вядомы гарадзенцам з эпохі “першых Саветаў” Пётр Ратайка. Гарвыканкам размясціўся па вул. Сацыялістычнай, 3 (будынак не захаваўся), а на чале яго апынуўся Барыс Саўкоў. Такой была гарадзенская “геаграфія” партыйнай і савецкай улады, якая мела заданне не толькі наладзіць мірнае жыццё, але таксамаператварыць Гародню ў тыповы савецкі горад.

Дзеля нармальнага функцыянавання адміністратыўных органаў патрабаваліся адпаведныя кадры, якіх у горадзе па зразумелых прычынах не было. Адпаведна, на пасады прызначаліся былыя франтавікі, партызаны і падпольшчыкі, а таксама г.зв. “усходнікі”, ураджэнцы ўсходніх абласцей БССР ды іншых савецкіх рэспублік.

З часам, каб стаць кіраўніком практычна кожнай арганізацыі, трэба было мець у кішэні партыйны білет. Існавала паняцце “наменклатуры”, якое ўключала пералік асобаў, якія паводле меркавання партыйных камітэтаў маглі займаць кіруючыя пасады, а таксама спіс гэтых пасадаў. Начальнікі зацвярджаліся адпаведным партыйным камітэтам – гарадскім, раённым, абласным. Паступова тыя кіраўнікі, што аднаўлялі разбураную гаспадарку, але не мелі партыйнага білету і адпаведнай адукацыі, выціскаліся новымі “кадрамі”. Яны не былі лепшымі ў прафесійным плане, затое больш адпавядалі савецкаму наменклатурнаму стандарту, менавіта мелі партбілет і дыплом аб вышэйшай адукацыі.

За ваенныя і першыя пасляваенныя гады ў горадзе адбыліся істотныя дэмаграфічныя змены. Як вядома, да вайны ў Гародні пераважала габрэйскае і польскае насельніцтва. Паводле інфармацыі згаданага сакратара гаркаму партыі М.Ваўнянкі, насельніцтва горада на чэрвень 1941 г. складала 73, 8 тыс. чал[41]. Нацыянальны склад быў наступным: палякі – 23, 6 тыс. (32%), габрэі – 22, 1 тыс. (30%), рускія – 14 тыс. (19%), беларусы – 12, 5 тыс. (17%), іншыя – 1 6 тыс. (2%). А вось на момант складання дакументу (16 кастрычніка 1944 г.) у Гародні пражывала толькі 32,2 тыс. чал., у тым ліку каля 4 тыс. прыбылі з усходніх абласцей БССР ці з партызанскіх атрадаў. У гэтым жа дакуменце сцвярджалася, што ў кастрычніку 1944 г. палякаў налічвалася 19,6 тыс. (61%), беларусаў – 8,9 тыс. (27,7%), рускіх – 3,2 тыс. (10%) і каля 500 чал. прыходзілася на "іншых"[42].

За перыяд вайны амаль цалкам знікла габрэйскае насельніцтва, якое было знішчанае ў лагерах смерці і падчас карных акцый нямецкіх акупацыйных уладаў. Значна скарацілася колькасць гараджанаў-палякаў, хоць яны па-ранейшаму статыстычна дамінавалі. Нязначна зменшылася колькасць беларусаў, а вось рускіх стала ў чатыры разы менш.

Эканамічныя і палітычныя працэсы наступных дзесяцігоддзяў яшчэ больш змянілі колішні *Grodno*. У першую чаргу варта прыгадаць дзве "хвалі" рэпатрыяцыі мясцовых палякаў у 1944 – 1946 і 1955 – 1959 гг., якія істотна зменшылі адсотак польскага насельніцтва. Дакладныя дадзеныя наконт колькасці гарадзенцаў, якія сваёй новай радзімай выбіралі Польшчу, складана знайсці. Можна толькі адзначыць, што па некаторых дадзеных ў першую "хвалю" рэпатрыяцыі Гарадзеншчыну пакінула каля 30 тыс. чал., а ў другую з Гарадзенска-Навагрудскага рэгіёну выехала яшчэ каля 100,4 тыс.

Лічба 73,8 тыс. жыхароў даваеннага горада, відаць, належыць да г.зв. "закрытай інфармацыі". Паўсюдна фігуруе лічба 57,2 тыс. па стану на 1939 г. Афіцыйная савецкая прапаганда

41 Гэтая лічба большасцю даследчыкаў ставіцца пад сумненне (заўвага рэд.)

42 ДАГАГВ. Ф. 2, воп. 1, ад.з. 5, арк. 3-5, 18.

сцвярджала, што ў гады "буржуазнай Польшчы" насельніцтва горада практычна не павялічвалася і спынілася на лічбе 50 тыс. Паводле той жа афіцыйнай статыстыцы, у 1956 г. у горадзе пражывала ўжо 65 тыс. чал., а па выніках Перапісу 1959 г. – 72,9 тыс., што павінна было між іншым засведчыць поспехі савецкага сацыялістычнага развіцця[43]. Але, калі мы параўнаем гэтыя дадзеныя з адшуканай намі лічбай (73,8 тыс.), то атрымаецца, што нават у 1959 г. колькасць насельніцтва горада не дасягнула даваеннага ўзроўню.

У гэты час у Гародні пражывалі пераважна беларусы, рускія і палякі, невялікі адсотак складалі прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў.

Аднаўленне разбуранай гарадской гаспадаркі, будаўніцтва новых прамысловых прадпрыемстваў патрабавала прытоку новых кадраў рабочых і спецыялістаў. Важную ролю ў гэтым працэсе адыгрывала вясковая моладзь, якая папаўняла шэрагі будаўнікоў, вучняў школ сістэмы Фабрычна-заводскага навучання (ФЗН). Яшчэ большае значэнне набыў прыезд у горад спецыялістаў і кіраўнікоў разам з сем'ямі не толькі з усходніх рэгіёнаў БССР, але і з усяго Савецкага Саюзу. Таксама нельга забываць, што ў Гародні знаходзіўся вялізны ваенны гарнізон, у якім амаль не было мясцовых ураджэнцаў. Дадзеныя перапісаў сведчаць пра даволі вялікую колькасць афіцэраў і сяржанцка-старшынскага складу звыштэрміновай службы разам з сем'ямі.

Пасля стварэння сістэмы ўлады неабходна было нейкім чынам адраджаць прамысловасць горада. Паводле інфармацыі сакратара гаркаму М.Ваўнянкі, у гады вайны цалкам або ў вялікай ступені былі разбураныя шкляны і фанерны заводы, а таксама хлебазавод, абутковая фабрыка. Ацалеў будынак тытунёвай фабрыкі і часткова захавалася яе абсталяванне. Лесапільны трохрамны завод ацалеў часткова, а лесапільны завод № 1 захаваўся цалкам. Таксама ацалелі два млыны. Ужо ў кастрычніку 1944 г.

[43] Гродно. Энциклопедический справочник. Мн., 1989. С. 12.

пачалі працаваць бровар, два гарбарныя заводы, мэблевая фабрыка, чыгуна-ліцейны завод, млыны, маслазавод.

Аднак некаторыя прадпрыемствы пачалі працу толькі фармальна. Так, напрыклад, на заводзе па вытворчасці пліткі і кафлі выключна ручной працай былі занятыя 50 рабочых, а асноўнай рабочай сілай з'яўляліся нямецкія ваеннапалонныя. Падчас рэпатрыяцыі на працягу 1944 – 1946 гг. амаль усе кваліфікаваныя рабочыя з сем'ямі выехалі ў Польшчу. Праца "спецкантынгента" (ваеннапалонных) эфектыўнасцю не вызначалася[44].

Аналагічная сітуацыя склалася таксама на цагляным заводзе № 20. Розніца была толькі ў тым, што ў жніўні 1944 г. ручной працай тут былі занятыя толькі 30 чал., якія і выраблялі надзвычай неабходныя для горада цэглу, дахоўку і вапну.

Наогул, сітуацыя з будаўнічымі матэрыяламі ў горадзе была вельмі складаная. Ручная праца не магла забяспечыць патрэбы будаўнічых арганізацый. У выніку гарвыканкам вырашыў пачаць разборку часткова або цалкам разбураных будынкаў на вуліцах і плошчах Гародні. Напрыклад, 19 сакавіка 1945 г. гарадская ўлада перадала Упраўленню будаўніча-аднаўленчых прац Беластоцкай чыгункі чатыры дамы (№№ 2-8) па вул. Савецкай з мэтай атрымання будаўнічых матэрыялаў дзеля аднаўлення вакзала, паравознага і вагоннага дэпо, механічных майстэрняў і службовых будынкаў. Прычым гарвыканкам абавязаў чыгуначнікаў цалкам разабраць гэтыя дамы да 15 мая 1945 г. (Цяпер на гэтым месцы знаходзіцца гарадскі Дом прафсаюзаў).

Напрыканцы 40-х гг. у Гародні былі адноўленыя завод па вырабу вапны, абутковая і швейная фабрыкі, веласіпедны завод, тонкасуконны камбінат, хлеба- і малаказаводы, рэканструявана гарадская электрастанцыя.

У наступныя дзесяцігоддзі рос прамысловы патэнцыял горада, будаваліся новыя прадпрыемствы. Невялікі рамонтнападшыпнікавы завод быў ператвораны ў завод "Аўтазапчастка", адбылася рэканструкцыя абутковай фабрыкі, пачалі выпускаць

[44] ДАГАГВ. Ф. 2, воп. 1, ад.з. 5, арк. 1.

прадукцыю заводы жалезабетону і санітарна-тэхнічнага абсталявання, фабрыка мастацкіх вырабаў ды інш.

У кастрычніку 1960 г. на ўсходняй ускраіне горада пачалося будаўніцтва вялізнага хімічнага камбінату. Чаму месцам будаўніцтва было абранае менавіта Гародня? Часткова на гэтае пытанне адказала публікацыя ў газеце "Советская Белоруссия" ад 11 студзеня 1961 г., аўтар якой звярнуў увагу на тое, што з *"горада на заходняй ускраіне рэспублікі"* штодня адпраўляецца шмат парожніх чыгуначных вагонаў. Аднак зразумела, што гэта не магло быць рашаючым чыннікам.

Вялізнае хімічнае прадпрыемства будавалася на заходняй мяжы СССР, бо азотныя ўгнаенні планавалі прадаваць менавіта на Захад. Значную ролю адыгралі таксама блізкасць Гародні да партоў Балтыйскага мора і наяўнасць транспартных сувязяў з Еўропай.

16 красавіка 1959 г. адбылося сумеснае пасяджэнне Бюро Гарадзенскага абкаму КПБ і аблвыканкаму Савета дэпутатаў. Галоўнае пытанне павесткі дня – "Пра будаўніцтва завода азотных угнаенняў у БССР". Кіравалі пасяджэннем сакратар абкаму Г.Панамароў і старшыня аблвыканкаму І.Кананові́ч. У якасці гасцей прысутнічалі кіраўнік Дзяржплану рэспублікі С.Малінін і адзін з аўтараў праекту завода, прадстаўнік маскоўскага Дзяржаўнага даследчага і праектнага інстытуту А.Вінаградава.

У выніку абмеркавання было прынятае рашэнне, якое ў вялікай ступені вызначыла на бліжэйшыя дзесяцігоддзі прамысловы твар горада: *"Одобрить и поддержать предложение Госплана и Совнархоза БССР о размещении завода азотных удобрений в районе г. Гродно исходя из получения в 1962 г. природного газа по отводу от газопровода Дашава-Минск и электроэнергии от Березовской ГРЭС, благоприятных условий по решению вопросов водоснабжения, железнодорожного транспорта и сброса сточных вод, а также наличия достаточного количества рабочей силы и наличия строительной базы, что даст возможность сократить сроки строительства завода. Просить*

*ЦК КПБ, Совет Министров БССР и Государственный Комитет Совета Министров СССР по химии принять решение о строительстве завода азотных удобрений в г. Гродно и ускорении разработки проекта завода. Рекомендовать для строительства завода площадку вблизи восточной окраины г. Гродно"*[45].

Спецыялістаў у галіне хімічнай вытворчасці ў горадзе не было і дзеля будоўлі *"гиганта большой химии"* з усіх куткоў СССР паехалі ў Гародню не толькі будаўнікі, але таксама інжынеры-хімікі, апаратчыкі хімічнай вытворчасці, электратэхнікі кантрольна-вымяральных прыбораў і аўтаматыкі.

Асноўнай сыравінай для вытворчасці азотных угнаенняў з'яўляецца прыродны газ. Спецыяльна для яго дастаўкі быў збудаваны газаправод "Дашава-Гародня", адкрыццё якога адбылося ў лістападзе 1963 г. У выніку ў горад прыйшоў газ, што стала надзвычай важнай вехай у развіцці гарадской гаспадаркі і паляпшэнні бытавых умоваў жыцця гараджанаў. А на пачатку снежня 1963 г. завод выпусціў першую сваю прадукцыю – партыю аміячнай салетры.

Калі прайшла эйфарыя ад першых поспехаў хімічнага прадпрыемства, наступіла ўсведамленне таго, што пры выбары месца будаўніцтва завода праекціроўшчыкі памыліліся. Фактычна завод быў збудаваны ў межах горада, што рэальна пагаршала экалагічную сітуацыю. Улады зразумелі гэта з вялікім спазненнем. Толькі ў сакавіку 1979 г. аблвыканкам прыняў наступнае рашэнне: *"Разрешить Гродненскому горисполкому снести в городе Гродно жилые дома, находящиеся в 2-х километровой санитарно-защитной зоне производственного объединения "Азот", принадлежащие гражданам на праве личной собственности".*

Пад знос трапілі восем дамоў (№№ 11-27) па няцотным баку вул. Карскага, два дамы ў завулку Карскага, сем дамоў па вул. Куйбышава і 38 дамоў па 3-му, 4-му і 5-му завулкам Куйбышава. Усяго знеслі 55 дамоў. Але галоўны ўдар "большой химии" прыйшоўся на навакольныя вёскі. У лістападзе 1979 г. аблвы-

[45] ДАГВ. Ф. 1171, воп. 2, ад.з. 1285, арк. 66.




***Фрагмент плана. Гародня ў 1975 г.***

канкамам было прынятае рашэнне пра ліквідацыю вёсак Прынёманская, Малая і Вялікая Капліца. На самой справе гэтае перасяленне датычыла і некаторых іншых вёсак.

У даведцы намесніка дырэктара Вытворчага аб’яднання “Азот” ад 28 лістапада 1979 г. сцвярджалася, што з вёскі Змеева і пасёлка Рубанаўка падлягалі перасяленню 46 сем’яў. З вёскі Малая Капліца – 40 сем’яў, з Вялікай Капліцы – 119, з Прынёманскай – 85. Перасялялі не толькі ў Гародні, але таксама ў суседнюю вёску Путрышкі. З Малой і Вялікай Капліцаў туды перабралася 96 сем’яў.

Такім аказаўся кошт недастаткова прадуманага рашэння пра будаўніцтва ў горадзе хімічнага прадпрыемства. У вусных успамінах старажылаў згадваецца праект размяшчэння гэтага заводу ў ваколіцах Скідаля. Аднак прапанову адхілілі, бо палічылі, што занадта дорага абыдзецца будаўніцтва тралейбуснай лініі. Так ці інакш, але сучасны горад аказаўся аточаны экалагічна небяспечнымі прадпрыемствамі і захаваў толькі два накірункі для свайго далейшага росту.

У 70-я гг. у Гародні таксама распачалі вытворчасць такія буйныя прадпрыемствы як завод сінтэтычнага валакна, баваўнянапрадзільная фабрыка, завод аўтамабільных магнітол, завод “Радыёпрыбор” ды інш. Усе яны патрабавалі не толькі рабочых рук, але таксама спецыялістаў розных прафесій. Ізноў жа дэфіцыт кадраў вырашаўся пераважна коштам прытоку рабочых і інжынернага персаналу з іншых рэгіёнаў савецкай краіны.

Як уяўлялі сабе дынаміку прыросту колькасці насельніцтва гарадскія ўлады? У дадатку да рашэння гарвыканкаму ад 15 студзеня 1975 г. прыведзеныя прагнозныя лічбы прыросту гараджанаў[46]. Улады прагназавалі, што напрыканцы пяцігодкі (1980) колькасць насельніцтва Гародні дасягне 230 тыс. (1975 – 177 тыс.), а прырост складзе 53%. Пры гэтым 35% - праз міграцыю і толькі 18% шляхам натуральнага прыросту. На самой справе ў 1980 г. у Гародні пражывала толькі 202 тыс. чал.

Культурнае жыццё пасляваеннага горада было непарыўна звязана з працэсамі яго саветызацыі і русіфікацыі. Улады рабілі стаўку на развіццё масавай культуры, якая павінна была

46 ДАГВ. Ф. 484, воп. 2, ад.з. 113, арк. 23.

запоўніць вольны час савецкага чалавека,замяніць высокія ўзоры культуры з характэрнымі для іх агульначалавечымі ідэаламі, а таксама нейтралізаваць натуральную патрэбу ў актыўным духоўным жыцці, у развіцці роднай культуры і яе найважнейшага складніка – мовы.

Зразумела, што пры гэтым ні польская, ні беларуская культура падтрымкай савецкіх ідэолагаў не карысталіся. Але варта адзначыць, што ў жніўні 1944 г. было прынятае рашэнне пра перавод у Гародню Беларускага Дзяржаўнага ансамбля песні і танца пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы. На жаль, у 1952 г. гэты славуты музычны калектыў пераехаў у Менск.

Напрыканцы жніўня 1944 г. была адноўленая праца кінатэатраў. Адчыніліся кінатэатры "Чырвоная зорка" і "III Інтэрнацыянал". У снежні гэтага году было вырашана пачаць аднаўленне заапарку.

У горадзе адкрываліся клубы, ствараліся іншыя ўстановы культуры. Так, у кастрычніку 1944 г. гарвыканкам перадаў пад Клуб чыгуначнікаў будынак па вул. Маркса, 2. На пачатку лютага 1945 г. пачаў дзейнічаць Клуб будаўнікоў Упраўлення будаўніча-аднаўленчых працаў Беластоцкай чыгункі па вул. Савецкай, 13. Пазней да іх далучыўся Клуб пажарнікаў. Памяшканне былога фотаатэлье па вул. Савецкай, 17 перадалі філіялу Саюза савецкіх мастакоў. У верасні 1946 г. на баланс Гарадзенскага гісторыка-археалагічнага музея быў перададзены Стары замак з усімі надворнымі пабудовамі.

Пытаннямі развіцця культуры галоўным чынам займаўся Культурна-асветніцкі аддзел гарвыканкаму. Ён распачаў сваю дзейнасць у снежні 1945 г. Адной з асноўных задач была арганізацыя савецкай прапаганды праз дзейнасць лектарскай групы. Ужо ў 1946 г. было прачытана каля 150 лекцый на палітычныя тэмы (напр., *"Пра Сталінскую канстытуцыю", "Пра пяцігадовы план аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі СССР і БССР")*, а таксама па шырокаму спектру гістарычных, літаратурных і навукова-асветніцкіх праблемаў.

Кур'ёзна выглядалі пачаткі дзейнасці Гарадской і Дзіцячай бібліятэкаў, агульны фонд якіх складаў каля 4,2 тыс. кніг. Яны месціліся ў адным з пакояў рэдакцыі газеты "Гарадзенская праўда", а ў верасні 1946 г. былі пераведзеныя на вул. Горкага, у будынак, што знаходзіўся на г.зв. Архіерэйскім падворку. Яны і тут атрымалі адзін пакой, але ўжо без вокнаў. Гарадзенцы амаль не мелі мажлівасці карыстацца гэтым кніжным зборам, бо ў тым самым будынку знаходзіўся гараж памежнікаў, і ахова не прапускала чытачоў, а іншы ўваход быў перакрыты архіерэем.

Важным элементам масавай культуры была арганізацыя адпачынку і вольнага часу гараджанаў. Галоўнымі месцамі летняга адпачынку з'яўляліся гарадскі парк, набярэжная Нёмана, г.зв. "Мелавыя горы", урочышча "Пышкі", а таксама стадыён "Лакаматыў", на якім праводзіліся не толькі футбольныя гульні, але таксама канцэртна-тэатралізаваныя мерапрыемствы. Так, улетку 1950 г. у прысутнасці амаль 15 тыс. гарадзенцаў на стадыёне выступаў вядомы Чырвонасцяжны ансамбль песні і танца імя Аляксандрава.

У пэўны момант у цэнтры увагі "культурных чыноўнікаў" апынуўся гарадскі парк. У першыя пасляваенныя гады ён меў даволі непрэзентабельны выгляд. Працы па яго добраўпарадкаванню распачаліся толькі напрыканцы 40-х гг. Увесну 1949 г. быў адноўлены плот і ўстаноўленая новая брама ў зачыненую частку парку, пафарбаваныя скульптуры, аформлены непазбежны ў такіх выпадках стэнд з партрэтамі членаў Палітбюро ЦК УКП (б). Праз год была збудаваная новая летняя пляцоўка для правядзення канцэртаў. Таксама была пашыраная танцавальная пляцоўка, а ў памяшканні старой арганізавалі чытальную залу[47].

Аднак, як паведамляла вышэйшым уладам кіраўнічка аддзела культуры Левіна *"городской парк еще не стал местом культурного отдыха трудящихся города, в парке имелись факты хулиганства, мало проводилось политико-воспитательной работы,*

[47] ДАГВ. Ф. 471, воп. 2, ад.з. 4, арк. 38.

*бывший директор парка Зайцев чрезмерно увлекался танцами, вместо организации культурной работы”*[48].

Новы дырэктар парку Целеш інфармаваў сваё начальства, што *“к началу 1952 г. парк представлял из себя запущенный и загрязненный сад с отсутствием каких-то ни было аттракционов, в наличии было: летний концертный зал со сценой без занавеса и со скамейками, требующими на 50% ремонта, неоконченной читальней и бильярдным залом, сломанной и негодной раковиной танцплощадки, со сломанным парковым забором. Из художественного оформления осталось пригодным только одно панно “Великие стройки коммунизма”. Все остальные панно и плакаты изрезаны и непригодны к употреблению, а многие из них устарели”*[49].

Ён жа прыняў меры па ўпарадкаванні парка, у прыватнасці была збудаваная агароджа летняга тэатру, адрамантаваныя пакой смеху і танцпляцоўка, садовая мэбля, арэлі і дзіцячая пляцоўка, а яшчэ дзеля “палітыка-выхаваўчай працы”... была ўсталяваная скульптура “Ленін у Горках”[50].

Наогул шмат увагі надавалася гістарычнай палітыцы ў горадзе. Так, адной з найважнейшых задачаў гарадскіх уладаў была пабудова помніка загінуўшым салдатам і афіцэрам Чырвонай арміі, а таксама аднаўленне разбураных у гады вайны помнікаў Сталіну і Леніну.

Першая згадка пра помнік Леніну з’явілася на старонках “Гарадзенскай праўды” ў маі 1949 г. Ён быў усталяваны ў гарадскім парку на невысокім пастаменце, агароджаным драўляным плотам. Таксама з’явілася некалькі помнікаў Сталіну.

У верасні 1945 г. у Гародні пачаў працаваць Дзяржаўны рускі драматычны тэатр. Пасля яго пераезду ў Менск у 1947 г. быў створаны Абласны драматычны тэатр на базе тэатру з Бабруйску. Рэпертуар тэатру цалкам складаўся з твораў класікаў рускай, савецкай і замежнай драматургіі. Толькі ў 1950 г. упершыню звярнуліся да твораў беларускіх аўтараў.

[48] ДАГВ. Ф. 471, воп. 2, ад.з. 12, арк. 2, 3, 5.

[49] ДАГВ. Ф. 471, воп. 2, ад.з. 26, арк. 7, 15.

[50] ДАГВ. Ф. 471, воп. 2, ад.з. 31, арк. 10.

Зрэдку горад наведвалі вядомыя тэатральныя калектывы, што, звычайна, выклікала велізарную цікавасць гарадзенцаў. Так, у 1947 г. у Гародні гастраляваў Тэатр імя Янкі Купалы з Менску, а праз два гады прыехала трупа Маскоўскага тэатру імя Ленінскага камсамола ("Ленком").

Значнай падзеяй савецкага культурнага жыцця горада стала свята "Зоркі над Нёманам". У тэатралізаваным прадстаўленні, якое праходзіла на стадыёне "Лакаматыў" у 1962 г. прымалі ўдзел папулярныя артысты савецкага кіно. Сярод іх Таццяна Акунеўская, Павал Малчанаў, Георгій Юматаў, Нона Мардзюкова, Леанід Харытонаў.

У студзені 1965 г. у канцэртнай залі Гарадзенскага музычна-педагагічнага вучылішча выступаў з канцэртамі славуты піяніст Святаслаў Рыхтэр. "Гарадзенская праўда" паведамляла пра вялізарны поспех гэтых канцэртаў.

У жніўні гэтага ж году на новым гарадзенскім стадыёне "Чырвоны сцяг" (зараз "Нёман") адбылося тэатралізаванае прадстаўленне "Гаворыць і паказвае Масква". Паводле карэспандэнта "Гарадзенскай праўды", больш 15 тыс. гледачоў назіралі выступы Паўла Лісіцыяна, Лідзіі Русланавай, Юрыя Саранцава, Івана Любезнава, Сяргея Марцінсона, Зоі Фёдаравай, Льва Барашкава ды іншых папулярных артыстаў савецкай эстрады, тэатра і кіно.

У 1969 г. Гародню наведалі такія славутыя мастацкія калектывы як Дзяржаўны рускі народны хор імя Пятніцкага і Маскоўскі Дзяржаўны джаз-аркестр пад кіраўніцтвам Эдзі Рознэра. З асаблівым поспехам прайшлі пяць канцэртаў апошняга ў буйнейшых залах горада: у новым гмаху Педагагічнага інстытуту (вул. Ажэшка) і Доме палітычнай асветы (вул. Леніна). Дарэчы, гэта быў ужо трэці візіт выбітнага музыканта ў Гародню і такая ягоная ўвага да горада над Нёманам была не выпадковай.

Творчая біяграфія аркестра Рознэра пачалася ў БССР у 1939 г. Калектыў аркестра папоўнілі таленавітыя музыканты з Беластоку і Гародні. Сярод іх быў гарадзенец Павел Гофман, які хутка

стаў адным з вядучых музыкантаў аркестра і блізкім сябрам яго кіраўніка. Упершыню Эдзі Рознэр завітаў у Гародню ў 1940 г., калі выступаў з канцэртам у мясцовым Доме афіцэраў. Другія гастролі прайшлі ў 1946 г. На працягу трох дзён зала Філармоніі па вул. Дзяржынскага (сёння Гарадскі дом культуры) была перапоўненая.

У 60-70-я гг. у Гародні гастралявалі асобныя выканаўцы і творчыя калектывы розных музычных жанраў. Неаднаразова з вялікім поспехам горад наведваў вакальна-інструментальны ансамбль (ВІА) “Песняры”. Іх першы канцэрт у горадзе адбыўся ў прыгожай і вялікай зале Палаца культуры тэкстыльшчыкаў, які адчыніўся ў 1959 г. Доўгі час – гэта была лепшая гарадзенская сцэна.

З канцэртамі таксама прыязджалі вельмі папулярныя ў той час “Верасы”. З ліку замежных зорак трэба назваць ураджэнца навакольнай вёскі Васілішкі, вядомага польскага спявака і кампазітара Чэслава Немана (Чэслава Выдрыцкага). Разам з сям’ёй ён выехаў у Польшчу ў 1958 г. і здабыў славу эксперыментатара і наватара ў музыцы. Для многіх гэты рок-музыкант стаўся сімвалам свабоды і духоўнага бунту.

Музычнае жыццё горада напрыканцы 60-х – пачатку 70-х гг. пераважна канцэнтравалася ў навучальных установах і клубах. Так, у Педагагічным інстытуце быў створаны эстрадны аркестр з выкладчыкаў і студэнтаў (салісты Леанід Гофмеклер, Аляксей Петрычэнка, Валянціна Велітчанка), які карыстаўся папулярнасцю ва ўсім горадзе. У тагачасным Сельскагаспадарчым інстытуце танцавальныя вечарыны суправаджаў студэнцкі ВІА, дзе салістам быў Аляксандр Малібошка. Таксама трэба прыгадаць музычны калектыў Культурна-асветніцкага вучылішча (зараз Каледж мастацтваў). У Гарадскім доме культуры на танцах выступаў ВІА з салістам Аляксандрам Качаішвілі. У Палацы тэкстыльшчыкаў у першай палове 70-х гг. гучала танцавальная музыка ў выкананні ансамблю “Чараўніцы”.

Наогул, вакальна-інструментальныя ансамблі былі адметнай з'явай 60-х гг. Іх нараджэнне было звязана з надзвычай папулярнай у тыя часы музыкай брытанскай групы *"The Beatles"*. Рок-музыка і для маладых гарадзенцаў станавілася сімвалам пэўнага бунту.

Агульнапрызнаным пачынальнікам "руху" ВІА ў Гародні стаў Аляксандр Саўчыц, які стварыў першы ў горадзе музычны калектыў, што выконваў рокавую музыку. Яны выступалі ў школах, Клубе будаўнікоў. У склад калектыву ўвайшоў вядомы ў будучым кампазітар Уладзімір Кандрусевіч.

У сярэдзіне 60-х гг. "гітарная хвароба" ў горадзе набыла маштаб эпідэміі. Захапленне гітарай стала ўсеагульным. Але дарагавізна і дэфіцыт рабілі яе, практычна, недаступнай для большасці маладых музыкаў. Выйсце знаходзілі ў самаробных гітарах, праяўляючы пры гэтым цуд вынаходніцтва. Дастаткова адзначыць, што ў якасці гуказдымальнікаў, якія майстраваліся пад кожнай струной, выкарыстоўваліся электрамагнітныя катушкі з тэлефонных трубак. У выніку, у горадзе ўзнікла праблема сапсаваных вулічных таксафонаў... Але самаробныя гітары гралі!

На рубяжы 60-х – 70-х гг. у Гародні пачалі з'яўляцца "нефармальныя" моладзевыя групоўкі. Адной з іх сталі "хіпі", якія ў 1971 г. зладзілі ў Гародні свайго роду дэманстрацыю. Яны прайшлі па цэнтру горада з плакатамі *"Руки прочь от длинных волос", "Прекратите террор", "Свободу рок-н-роллу", "All you need is Love". "Хіпі"* мелі доўгія валасы, былі апранутыя ў джынсы-клёш, кашулі ў кветачках, некаторыя мелі завушніцы. Наперадзе ішоў хлопец з пеўнікам на ланцугу. Усё закончылася сутычкамі з міліцыяй і адміністратыўнымі пакараннямі[51]. Гарадскія ўлады, як заўсёды, убачылі ў гэтым ідэалагічныя ўплывы "варожага капіталістычнага лагеру", але паспрабавалі захаваць гэтую дэманстрацыю ў таямніцы.

Актыўную ролю ў моладзевых "бунтах" адыгрывалі гарадзенскія студэнты. Аднак не адразу горад стаў значным

[51] Чернявка И. "Это не Маша, это Миша" // Белорусская газета. № 30. 11 августа 2003г.

адукацыйным цэнтрам. Пасля вызвалення распачаў сваю дзейнасць Педагагічны інстытут (у 1944 г.) і некалькі тэхнікумаў і спецыялізаваных школ. У кастрычніку 1946 г. у горадзе існавалі будаўнічы, чыгуначны, механічны, кааператыўны і фізкультурны тэхнікумы, а таксама педагагічнае вучылішча, фельчарска-акушэрская і фармацэўтычная школы.

Асобнай увагі заслугоўвае такі тып вучэбнай установы як школы фабрычна-завадскога навучання (ФЗН), якія рыхтавалі рабочыя кадры. Пасля вайны адкрылася некалькі такіх школ. Дакументы сведчаць, што моладзь не вельмі ахвотна ішла ў школы ФЗН, і ўлады дзеля вырашэння праблемы набору праводзілі прызыў у гэтыя навучальныя ўстановы амаль аналагічны прызыву ў войска.

Сітуацыю з навучаннем у гэтых школах добра перадае фрагмент дакумента, які датаваны 1945 г.: *"Заслушав доклад зав. бюро по учету и распределению рабочей силы при горисполкоме тов. Шарохиной, исполком отмечает, что выполнение плана мобилизации молодежи в школы ФЗО города Гродно до настоящего времени не выполнен* (так у дакуменце – В.С.). *Со стороны зав. бюро по росту и распределению рабочей силы не было проявлено достаточно настойчивости для выполнения плана мобилизации. Исполком Гродненского городского Совета народных депутатов решает: Потребовать под персональную ответственность от заведующей бюро по учету и распределению рабочей силы при горисполкоме тов. Шарохиной до 11 ноября с.г. полностью обеспечить призыв молодежи в школы ФЗО города Гродно. Обязать начальника горотдела милиции тов. Гапеенко оказать помощь по выполнению плана мобилизации в порядке привода лиц, злостно уклоняющихся от явки по призыву в школы ФЗО"*[52].

Гарадзенцы ведаюць, што Медыцынскі інстытут быў адкрыты ў 1958 г. Аднак гэтая важная для горада падзея магла адбыцца значна раней, яшчэ да канца вайны.

Увесну 1945 г. Народны камісарыят па ахове здароўя БССР хадайнічаў перад абласнымі ўладамі пра выдзяленне

[52] ДАГВ. Ф. 484, воп. 1, ад.з. 125, арк. 210.

памяшканняў для Медыцынскага інстытуту. У маі 1945 г. сумеснай пастановай аблвыканкаму і Бюро абкаму КП(б)Б будучаму Медыцынскаму інстытуту перадаваўся спалены гмах вайскова-га шпіталя па вул. Замкавай, 18 дзеля рамонту і прыстасавання яго пад вучэбны корпус. Да заканчэння рамонту інстытуту перадаваліся будынкі па вул. Савецкай, 12, дзе знаходзіўся парткабінет, і па вул. Ажэшка, 20, якія займалі вайсковы камендант горада, гарнізонная пракуратура і вайсковы трыбунал. Пад інтэрнат планавалі перадачу дома князя Друцкага-Любецкага, вядомага як загарадная рэзідэнцыя "Станіслававова" караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Аднак кіраўнікі рэспублікі не прыслухаліся да просьбы Наркамату і гарадзенскіх уладаў. Медыцынскі інстытут тады не быў адкрыты. Магчыма, кепска прасілі...

Вайсковыя ўлады да гэтага часу не пакінулі будынак па вул. Ажэшка, 20, дзе некалі месцілася Медыцынская школа прафесара Жылібера.

У 1951 г. у горадзе з'явілася другая вышэйшая навучальная ўстанова – Сельскагаспадарчы інстытут. На першы курс было набрана 175 студэнтаў. Дзеля патрэбаў вучэбнага працэсу Інстытуту перадавалі будынкі па вул. Акадэмічнай, 10, якія ў той час займалі абкам КП(б)Б і абкам камсамольскай арганізацыі. Выкладчыкі пачалі засяляцца ў г.зв. "дом пастара" па вул. Акадэмічнай, 7 а студэнты – у "дом Крэйцара" (вул. Сацыялістычная, 44)

У 1958 г. улады вярнуліся да пытання пра адкрыццё Медыцынскага інстытуту. Яму перадаваліся будынкі былога рамеснага вучылішча Брэгмана па вул. Кашавога, 4 (зараз вул. Вялікая Траецкая), г.зв. "Батаруўкі" на Савецкай пл., а таксама былых палацаў Масальскіх па вул. Замкавай, 5 і па вул. Ажэшкі, 1.

Але найбольшую цікавасць выклікае пытанне пра адкрыццё ў Гародні ў 1978 г. універсітэту класічнага тыпу. На пачатку 70-х гг. у БССР дзейнічалі толькі два універсітэты – Беларускі Дзяржаўны

універсітэт (БДУ) і Гомельскі універсітэт, які быў створаны ў 1968 г. на базе Педагагічнага інстытуту. Пытанне пра універсітэт у Гародні вырашалася на ўзроўні ЦК КПСС і Савета міністраў СССР.

Гэтаму папярэднічала адпаведная пастанова партыйных і савецкіх органаў вобласці, а таксама падтрымка рэспубліканскіх органаў улады, якія ў 1974 г. накіравалі ў Маскву абгрунтаванне неабходнасці адкрыцця універсітэту. Яго падпісалі першы сакратар ЦК КПБ Пётр Машэраў і старшыня Савета міністраў БССР Ціхан Кісялёў. У гэтым дакуменце падкрэслівалася, што адкрыццё універсітэту ў Гародні мае як гаспадарчае, так і палітычнае значэнне. Асаблівы ўхіл рабіўся на апошняе: *"Открытие государственного университета в г. Гродно – крупном промышленном и культурном центре – решит задачу более полного удовлетворения потребностей республики в специалистах с университетским образованием и будет иметь важное политическое значение, как яркий показатель коренных изменений, происшедших в развитии экономики и культуры западных областей Белоруссии за годы Советской власти".*

Ператварэнне Педагагічнага інстытуту ва універсітэт звязваюць таксама з асобай рэктара Аляксандра Бадакова. У адным з пазнейшых інтэрв'ю (2005) А.Бадакоў успамінаў: *"Прибыл я в Гродно по направлению ЦК КПБ и Министерства просвещения БССР в 1973 г. Это было время, когда модно было на базе педагогических институтов создавать университеты. Я знал, что это за трудность, но мне была обещана поддержка и в Совмине и в ЦК КПБ. У Петра Мироновича были очень хорошие отношения с Сусловым. Суслов понял, поддержал Машерова и предложил направить записку лично ему. Затем Суслов пригласил Андропова и Зимянина. И они втроем вместо 10-11 секретарей приняли решение об открытии Гродненского государственного университета. Это решение от имени секретариата ЦК они направили в Управление делами ЦК КПСС, Совет Министров СССР, ЦК КПБ и Совет Министров БССР. Таким образом, был открыт университет"*[53].

[53] Відэаінтэрв'ю з былым рэктарам ГрДУ А.В. Бадаковым. 11 кастрычніка 2005г. (Музей ГрДУ імя Янкі Купалы).

24 чэрвеня 1977 г. Савет міністраў СССР прыняў пастанову пра адкрыццё Гарадзенскага універсітэту на базе Педагагічнага інстытуту. Праз два месяцы аналагічную пастанову прынялі ўлады БССР. Нараджэнне універсітэту адбылося 1 мая 1978 г.

Дзеля вырашэння кадравай праблемы універсітэт атрымаў 50 кватэр для запрошаных выкладчыкаў. А.Бадакоў ва ўспамінах прызнаваўся, што асабліва актыўна шукалі "кадры" ў Маскве і Пецярбургу, звяртаючы ўвагу на ўраджэнцаў Беларусі, якія закончылі сталічныя аспірантуры. Магчымасць вырашыць жыллёвую праблему значна аблегчала гэтую "вярбоўку". Апроч таго Міністэрству адукацыі і Прэзідыўму Акадэміі навук было прадпісана вырашыць праблему камплектацыі універсітэту высокакваліфікаванымі спецыялістамі.

Істотную дапамогу ў станаўленні аказвалі таксама мясцовыя ўлады. Дзеля правядзення вучэбных заняткаў універсітэту быў перададзены корпус адной з сярэдніх школ горада, выдзяляліся кватэры для выкладчыкаў, сродкі для набыцця неабходнага абсталявання, мэблі, аўтамабільнага транспарту і г.д. Летам 1978 г. кандыдат філасофскіх навук А.Бадакоў атрымаў вучонае званне прафесара і быў прызначаны рэктарам універсітэту.

Адной з апошніх выпускніц Педагагічнага інстытуту была славутая гімнастка Вольга Корбут. Трыўмфальны выступ на Алімпійскіх гульнях 1972 г. у Мюнхене і 1976 г. у Монреале быў увенчаны чатырма залатымі медалямі. У 1973 г. яна была прызнаная лепшым спартоўцам свету.

"Цуд з коскамі", як называлі гімнастку ў ЗША, праславіў Гародню. І справа не толькі ў медалях. З Вольгі Корбут пачыналася новая эпоха ў гімнастыцы. Яе выступы была напоўнены надзвычай складанымі элементамі, як, напрыклад, сальта на спартовым бярвенні або "пятля Корбут" на брусах. Алімпійскай чэмпіёнкай стала таксама яшчэ адна гарадзенская гімнастка Алена Валчэцкая. Вялізарную ролю ў гэтых поспехах адыграў трэнер Рэнальд Кныш, дзякуючы якому ў 70-я гг. пачалі казаць пра "гарадзенскую школу" спартовай гімнастыкі.

Як бавілі вольны час жыхары савецкага гораду? З чаго складалася іх штодзённасць?

У першыя пасляваенныя гады штодзённае жыццё гарадзенцаў канцэнтравалася вакол элементарных чалавечых патрэбаў. Стаяла пытанне пра выжыванне. З цяжкасцю аднаўлялася гаспадарка горада. Катастрафічна не хапала спецыялістаў, большасць якіх згінула разам з гарадзенскім гета. Яшчэ больш абвастрыла праблему рэпатрыяцыя. Многія высокакваліфікаваныя рабочыя і спецыялісты выехалі ў Польшчу. Паўсюдна на прадпрыемствах і на будоўлях выкарыстоўвалася праца нямецкіх ваеннапалонных.

Апроч вышэйзгаданых прадпрыемстваў у горадзе напрыканцы 40-х – пачатку 50-х гг. працавалі розныя арцелі. Так, арцель "Прагрэс" займалася вытворчасцю абутку, вырабляла мэблю (кухонныя сталы, табурэты), пэндзлі, шчоткі ды інш. "Чырвоны харчавік" выпякаў хлеб і булкі, выпускаў варэнне і павідла, кілбасы. "Чырвоны металіст" – вёдры і тазы, дзіцячыя цацкі. "Хімкрас" – крэм для абутку, чарнілы для пісання. "Чырвоная зорка" – верхні трыкатаж, шкарпэткі. Менавіта гэтыя арцелі забяспечвалі працай сотні гарадзенцаў і выпускалі тавары надзвычай неабходныя для штодзённага жыцця (г.зв. "шырпатрэб"). Напрыклад, у арцелі "Чырвоная зорка" на 1 снежня 1951 г. працавала болей 100 чал. у шасці невялікіх цэхах[54].

Дэфіцытнымі былі ўсе віды тавараў. Вельмі сціплым быў рацыён харчавання, існавалі вялікія праблемы з абуткам і адзеннем.

Працоўнае месца зусім не гарантавала сямейнага дабрабыту, бо заробкі, звычайна, былі невысокімі. Дакументы Дзяржаўнага архіва Гарадзенскай вобл. дазваляюць даволі поўна ўявіць карціну заробкаў і выдаткаў жыхароў горада. Напрыклад, дырэктар кандытарскай фабрыкі напрыканцы 1944 г. штомесяц зарабляў 680 руб., рахункавод-касір – 250 руб., а кур'ер-прыбіральшчыца – 115 руб. Сярэдні заробак

[54] ДАГВ. Ф. 376, воп. 1, ад.з. 40, арк. 11.

рабочага ліцейна-механічнага завода ў 1946 г. складаў 97 руб. У 1948 г. дырэктар парка штомесяц атрымліваў каля 600 руб., садоўнік – 400 руб., электраманцёр – 360 руб, кінамеханік – 350 руб., а дворнік – 260 руб.

Чаго вартыя былі гэтыя грошы? Напрыклад, паслугі гарадской лазні ў 1944 г. каштавалі ад 2 руб. (агульная і душавая) да 5 руб. (ванная). Наведванне цырульні ў 1945 г. магло абысціся ў 3-4 руб., манікюр каштаваў ужо 12 руб., а завіўка на шэсць месяцаў – 50 руб. Месца ў пакоі на дзве асобы ў гарадской гасцініцы абыходзілася ў суткі ў 10 руб. Рэгістрацыя сабакі каштавала 20 руб., а штраф за спробу пазбегнуць рэгістрацыі – 100 руб.

Білет на музычны канцэрт можна было набыць за суму ад 10 да 25 руб. Білеты на кінасеанс у кінатэатры "Спартак" і "Чырвоная зорка" каштавалі ад 3 да 7 руб. дарослым і 2 руб. дзецям, а вось на танцы можна было патрапіць за 5 руб. Даволі дарагімі былі паслугі фотаатэлье. Напрыклад, у студзені 1948 г. шэсць фотаздымкаў памерам 9х12 каштавалі 40 руб., а памерам 24х30 – ужо 100 руб. За праезд у гарадскім аўтобусе па маршруту "Вакзал – ст. Ласосна" трэба было заплаціць 1 руб.

Летам першага пасляваеннага года агуркі ў рознічным гандлю каштавалі ад 3 да 9 руб. за 1 кг, памідоры – ад 12 да 30 руб., морква – ад 2 да 4 руб., цыбуля – ад 2 да 3 руб. А вось батон з пшанічнай мукі першага гатунку абыходзіўся ў 4.70 руб., буханка хлеба каштавала ад 2.50 да 3.15 руб.

Нарыканцы 50-х – пачатку 60-х гг. у свабодным продажы з'явілася чорная і чырвоная ікра, якую прадаўцы набіралі з вялізных 100-літровых бочак, а таксама чырвоная рыба ды іншыя далікатэсы. Аднак каштавалі яны даволі дорага, і былі не па кішэні для большасці гарадзенцаў.

У вольны час далёка не ўсе гарадзенцы спляшаліся ў бібліятэкі або ў клубы. Многіх вабіла зусім іншае. У тыя гады ў горадзе было даволі шмат піўных, чайных, закусачных і г.д. Нягледзячы

на розныя назвы, яны галоўным чынам павінны былі задавальняць патрэбу гараджанаў у піве і больш моцных напоях.

У сакавіку 1946 г. аблвыканкам прыняў рашэнне пра адкрыццё ў горадзе 11 камерцыйных чайных. Адразу быў вызначаны рэжым іх працы і пералік тавараў і прадуктаў для продажы: *"В чайных производить продажу чая, хлеба ржаного и пшеничного, баранок, хлебо-булочных и кондитерских изделий и пива, горячих и холодных закусок, а также кулинарных изделий и спичек. Допустить в коммерческих чайных приготовление за особую плату отдельных блюд и закусок из продуктов посетителей. В коммерческих чайных одному посетителю при заказе им чая или закусок или кулинарных изделий по его желанию отпустить: хлеба не более 200 гр., баранок или штучных хлебобулочных изделий не более 100 гр., конфет 3 шт. или 50 гр. весовых, или 100 печенья или пряников.*

*Обязать контору облпотребсоюза обеспечить чайные газетами "Правда", "Известия", "Советская Белоруссия", "Звязда", "Чырвоная змена", "Советский селянин" и журналами "Огонек", "Крокодил", "Вожык" а также местными газетами в необходимом количестве"*[55].

Відавочна, што нават ужыванне моцных напояў улады імкнуліся сумясціць з ідэалагічным выхаваннем. Аднак ператварыць "забягалаўкі" ў агмяні культуры і выхавання не атрымалася...

На асобных уліцах існавала нават па некалькі такіх "месцаў адпачынку". Гарадзенскія старажылы добра памятаюць такі мясцовы тапонім як "п'яны рог". Калісьці звычайнае перакрыжаванне вул. Ліпавай (зараз вул. Гарнавых) і Ласасянскай (зараз вул. Савецкіх памежнікаў) было надзвычай папулярнае ў некаторых гарадзенцаў. З канца 40-х гг. тут адна за другой пачалі адчыняцца піўныя, чайныя і закусачныя. Піцейныя ўстановы з'явіліся амаль у кожным будынку на гэтым перакрыжаванні. А зусім побач на Калгаснай плошчы знаходзіўся Занёманскі калгасны рынак са сваімі закусачнымі.

[55] ДАГВ. Ф. 1171, воп. 1, ад.з. 58, арк. 285.

Чаму менавіта тут? У той час занёманская частка горада сталася буйным прамысловым цэнтрам. Тут месціліся тытунёвая фабрыка, малочны і хлебны заводы, рачны порт і сударэмонтныя майстэрні, рамонтна-падшыпнікавы ("Аўтазапчастка") і лесапільны заводы, мэблевая фабрыка, аўтабаза ды інш. На гэтых прадпрыемствах працавалі сотні і тысячы рабочых, якія пасля заканчэння працоўнай смены мелі патрэбу ў своеасаблівым "адпачынку".

Аднак аналагічныя піцейныя ўстановы знаходзіліся і ў самым цэнтры горада. Так, на перакрыжаванні вул. Ажэшкі і вул. Сацыялістычнай іх было нават некалькі. У будынку былой Кантрольнай палаты ў пасляваенныя гады працавала Афіцэрская сталовая, дзе можна было не толькі выпіць піва. Насупраць, на рагу вул. Ажэшкі і вул. Сацыялістычнай стаяў двухпавярховы дом з вядомай у горадзе крамай "Тытунь". Але тытунёвыя вырабы сталі прадаваць трохі пазней, а напрыканцы 50-х – пачатку 60-х гг. тут знаходзілася ўстанова пад назвай "Піва-воды", якую гараджане акрэслілі "аўтапаілкай".

У невялікай зале стаялі аўтаматы па продажы піва і газаванай вады. Апошняя каштавала ад 1 да 3 кап. (з сіропам). Дарослыя куплялі ў касе латунныя жэтоны, якія кідалі ў апараты і атрымлівалі 0,5 л піва вытворчаці Гарадзенскага піўзавода. Звычайна гэта было піва гатунку "Жыгулёўскае", радзей – "Рыжскае", а на святы – "Сакавіцкае" і "Портэр". Аналагічная заля была абсталяваная ў доме па вул. Віленскай, 1 а пазней у 70-я гг. – у будынку на рагу вул. Антонава і прасп. Касманаўтаў.

На перакрыжаванні было яшчэ адно месца, дзе можна было набыць піва і перакусіць. Паміж вул. Энгельса і вул. Дзяржынскага (зараз на гэтым месцы знак "Нулявы кіламетр") знаходзілася невялікая драўляная кавярня, якая сярод гарадзенцаў атрымала назву "Тэлевізар".

А вось рэстаранаў у горадзе было няшмат. Адзін з іх месціўся ў правым крыле старога чыгуначнага вакзала. Ён быў вядомы сваёй добрай кухняй і карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод гарадзенцаў і гасцей горада.

У архіве аўтара гэтых радкоў захавалася меню рэстарана на 9-10 верасня 1973 г. Дзеля арыентацыі ў маштабах цэнаў варта адзначыць, што сярэдні заробак савецкага чалавека складаў у той час трохі болей за 100 руб. Што ж прапаноўвалі наведвальнікам?

“Сняданак еўрапейскі” уключаў бутэрброт з рулетам з падкопчанага і запечанага мяса, варанага яйка, булкі з слівачным маслам, смятаны і кавы з малаком. Наведвальніку гэта абыходзілася ў 70 кап. Комплексны абед уключаў шчы са свежай капусты, шніцэль рублены, картофельнае пюрэ з агурком, кампот са свежай садавіны і хлеб. Усё гэта каштавала 71 кап. Увечары меню было іншым. Прапаноўваліся розныя “халодныя” стравы і закускі, якія каштавалі ад 7 кап. за фаршыраваны перац або 18 кап. за салат са свежых памідораў да “салата сталічнага” (61 кап.) і фаршыраванага грыбамі яйкі (71 кап.). “Першыя” стравы”: салянка мясная – 56 кап., курыны бульён – 40 кап. На “другое” прапанавалі больш за дзесятак страваў. Сярод іх бефстроганаў з гарнірам (67 кап.), “шніцэль па-гарадзенскі” з гарнірам (87 кап.), галубцы з мясам (52 кап.), катлеты рубленыя (20 кап.), дранікі з мясам (38 кап.) ды інш.

Асартымент віна і гарэлкі быў небагаты: гарэлка “Экстра” – 1.20 руб. (за 100 г.), каньяк – 2 руб., сухое віно “Рыслінг” – 26 кап., партвейн “Азербайджанскі” – 43 кап., “Савецкае шампанскае” – 5.44 руб. (1 бут.), піва “Жыгулёўскае” – 28 кап. (1 бут.). Тытунёвыя вырабы таксама не адрозніваліся багатым выбарам. Рэстаран прапанаваў папіросы “Беларусь” (30 кап.), “Любіцельскія” (25 кап.), “Беламор-канал” (22 кап.), а таксама цыгарэты “Беларусь” (18 кап.), “Шыпка” і “Прыма” (па 14 кап.).

Апроч таго ў меню былі таксама стравы для дзяцей, некалькі гатункаў цукерак (ад 40 кап. да 1.46 руб. за 100 г), чорная кава (7 кап.) і кава з каньяком (57 кап.).

У 50-х – начале 60-х гг. у крамах горада прапаноўваўся адносна добры асартымент прадуктаў, але напрыканцы перыя-

ду кіравання Мікіты Хрушчова сітуацыя моцна пагоршылася. Мука і крупы прадаваліся па картках, а ў памяці гарадзенцаў захаваўся вобраз кукурузнага хлеба жоўтага колеру.

Апранурцца можна было ў такіх крамах горада як “Адзенне” (Савецкая пл.) і універмаг. Жаночая і мужчынская вопратка былі тыпова савецкімі. Арыентацыя на сусветную моду не праяўлялася. А між тым прынамсі частка моладзі імкнулася апранацца модна і прыгожа. Адзіную такую мажлівасць ствараў Грандзіцкі рынак, на якім гандлявалі рэчамі, якія ўжо былі ў карыстанні, а пазней там пачаў дамінаваць кантрабандны польскі “шырпатрэб”.

У рынка былі таксама іншыя назвы – “барахолка” і “таўкучка”. Другая назва нарадзілася таму, што без таўкатні на рынку немагчыма было нешта набыць. Гандаль адбываўся ў выходныя дні, і часта ўзнікала адчуванне, што весь горад збіраецца на гэтым маленькім кавалачку гарадской прасторы. Савецкая лёгкая прамысловасць не абцяжарвала сябе пагоняй за тэндэнцыямі сусветнай моды. Працавалі з перакананнем, што пакупнікі ўсё роўна знойдуцца, і ўсе тавары будуць прададзеныя. Аднак жыхары Гародні, Берасця ды іншых памежных гарадоў мелі пэўны выбар, дзякуючы рэчавым рынкам.

На рынку набывалася адзенне і абутак, касметыка і парфюмы, якія былі папулярнымі і моднымі ў Еўропе. Але і тут прысутнічала пэўная “савецкая спецыфіка”. Калі за межамі краіны джынсы з’яўляліся звычайным працоўным і побытавым адзеннем, то ў Савецкім Саюзе яны мелі статус супермоднага адзення і каштавалі надзвычай дорага.

Моднікі набывалі іх за 200 руб. (пры сярэднім штомесячным заробку ў 100 руб.), у той час як у дзяржаўным гандлю яны каштавалі 25 руб. Аднак праблема заключалася ў тым, што ў крамах іх немагчыма было набыць. Звычайна, яны разыходзіліся з-пад прылаўка, бо існаваў г.зв. “блат”.

Аналагічная сітуацыя склалася ў 60-я гг. з плашчамі з тканіны “балонья”, якія ў крамах каштавалі 60 руб. На “бара-

холцы" іх кошт дасягаў 150 руб. і болей. Усё залежала ад месца вытворчасці. Самай дарагой была італьянская "балонья". А вось мясцовыя "кантрабандысты" набывалі яе за мяжой на вагу. Кілаграм такіх плашчоў каштаваў некалькі даляраў.

Надзвычай высокія кошты трымаліся на вінілавыя пласцінкі такіх папулярных замежных выканаўцаў як "Бітлз", "Ролінг стоунз", Элвіс Прэслі ды інш. Яны нелегальна ўвозіліся на тэрыторыю СССР і каштавалі да 200 руб.

Напачатку 60-х гг. папулярным месцам адпачынку стаў гарадскі парк. Адкрыццё "вясенне-летняга сезону" адбывалася штогод 1 мая падчас Свята міжнароднай салідарнасці працоўных. Гэтае адкрыццё, звычайна, прыцягвала шмат гарадзенцаў. Дзяцей вабілі нешматлікія атракцыйны, а дарослыя збіраліся ў чатырох летніх паркавых кавярнях, якія актыўна гандлявалі півам мясцовага заводу. Піва прывозілі ў 200-т літровых дубовых бочках і пачыналася сапраўднае рытуальнае дзейства. Прадавец звярталася да мужчынскага натоўпу з заклікам: *"Хто выб'е корак і ўставіць кран, той абслугоўваецца без чаргі!"* Ахвотнікаў заўсёды хапала.

Тры з чатырох кавярань былі аднолькавай канструкцыі і атрымалі ад гарадзенскіх жартаўнікоў назву "барабаны", бо звонку на самой справе нагадвалі вялізныя барабаны. Яны знаходзіліся ў той частцы парка, што прымыкала да плошчы Леніна, і зніклі бясследна. А вось на месцы павільёна "Лета" ад рэстарана "Гродна" і зараз знаходзіцца летняя кавярня.

Ужыванне піва ў горадзе 60-х – пачатку 80-х гг. канцэнтравалася пераважна ў шматлікіх прыстасаваных дзеля гэтай мэты невялікіх павільёнах пад назвамі "Уралачка", "Вецярок", "Турыст" і г.д. У спякотныя летнія дні прыхільнікі піва з паўлітровымі куфлямі не змяшчаліся ў павільёнах і выходзілі на вуліцу. Таксама півам гандлявалі з адмысловых цыстэрнаў, якія ставіліся ў шматлюдных месцах гораду.

На працягу года былі толькі два дні, калі мелася магчымасць, не баючыся міліцыі, ужываць піва і больш моцныя напоі ў тым

самым парку, што некаторыя гараджане рабілі з відавочным задавальненнем. Гэта адбывалася пасля святочных дэманстрацый 1 мая і 7 лістапада.

Дарэчы, у дэманстрацыях павінны былі ўдзельнічаць усе прадпрыемствы і ўстановы горада. Калоны дэманстрантаў займалі зыходныя пазіцыі на вуліцах Ажэшкі, Сацыялістычнай, Леніна і Дзяржынскага. Пасля некаторага чакання яны ішлі па вул. Савецкай і выходзілі на аднайменную плошчу, дзе іх віталі кіраўнікі вобласці і гораду з адмыслова збудаванай трыбуны. Гэтае дзейства за многія гады было адпрацавана да дробязяў.

Гарадзенцы часта бралі на дэманстрацыю хатнія прыпасы і пачыналі адзначаць свята яшчэ падчас паступовага набліжэння да Савецкай плошчы. Пасля дэманстрацый свята працягвалася ўжо ў парку або ў хатніх умовах з сябрамі і блізкімі. Без уліку Новага году азначаныя святы былі галоўнымі для савецкіх людзей. Дзень Перамогі пачалі святкаваць толькі з 1965 г.

Паблізу кавярні “Лета” ў парку знаходзіўся “Зялёны тэатр”. Гэты была абнесеная двухмятровым плотам зала са сцэнай, дзе ўлетку выступалі гарадзенскія самадзейныя творчыя калектывы і адбываліся гастролі “зорак” савецкай эстрады.

У другой палове 60-х гг. частку парка побач з будынкам Драматычнага тэатра агарадзілі дадатковым плотам, паклалі драўляны насціл і... атрымалася яшчэ адна танцавальная пляцоўка, за якой замацавалася назва “клетка”. Чаму? Справа ў тым, што пляцоўка для танцаў з усіх бакоў мела металічную агароджу і сапраўды нагадвала велізарную клетку. А тыя, хто не мог трапіць у сярэдзіну з-за недахопу ўваходных білетаў, назіралі за танцамі звонку, скрозь металічныя краты.

У тыя гады танцы арганізоўваліся таксама ў Палацы культуры тэкстыльшчыкаў, Клубе будаўнікоў, Доме афіцэраў і Клубе чыгуначнікаў. Прычым кожная танцпляцоўка мела свой кантынгент наведвальнікаў. Мясцовая “залатая моладзь” збіралася ў г.зв. “тэкстыльшчыках”. У Клубе будаўнікоў (“строй-

ка") весялілася больш "дэмакратычная" моладзь. Дом афіцэраў збіраў "тых каму за 30" і ў горадзе яго называлі "домам апошніх надзей". Моладзь, якая не абцяжарвала сябе вучобай і самаадукацыяй, наведвала "чыгуначнікаў".

Пасля завяршэння будаўніцтва Дома палітычнай асветы (вул. Леніна, 32) вызваліўся будынак па вул. Дзяржынскага, які заняў Гарадскі дом культуры. Там таксама сталі праводзіць танцавальныя вечары, і даволі хутка ён пачаў канкураваць з Палацам культуры тэкстыльшчыкаў.

Практычна паўсюль працавалі буфеты, якія прапаноўвалі піва, віно і больш моцныя напоі. Танцы праходзілі пад "жывую музыку". Напачатку 60-х гг. яе выконвалі ансамблі, якія мелі ўдарную ўстаноўку, кантрабас, баян альбо акардэон, саксафон, трубу і трамбон. Напрыканцы гэтага дзесяцігоддзя іх пачалі выціскаць ВІА.

У 60-х – 70-х гг. пры абкаме камсамолу былі сфармаваныя г.зв. "аператыўныя атрады" (накшталт дабраахвотных народных дружын сярод дарослых), якія павінны былі сачыць за паводзінамі моладзі і камсамольцаў у грамадскіх месцах. Яны не толькі падтрымлівалі парадак падчас моладзевых мерапрыемстваў і адпачынку, але таксама займаліся "выхаваннем" моладзі, якая спрабавала адысці ад пэўных савецкіх стандартаў.

Так, на пачатку 60-х гг. звышмоднымі лічыліся максімальна завужаныя "штаны-дудачкі", якія некаторыя моднікі апраналі пры дапамозе мыла. Яны былі дастаткова кароткімі, каб кідаліся ў вочы каляровыя шкарпэткі (чырвоныя або жоўтыя). Туфлі "вастраносыя". Каўнеры кожнага верхняга аддзення ад кашулі да паліто абавязкова былі ўзнятыя. Прычоску пераймалі ў Элвіса Прэслі. Такіх моднікаў называлі "стылягамі". Адной з задачаў аператыўных атрадаў была якраз барацьба з "стылягамі", якіх вінавацілі ў тым, што яны падпалі пад уплывы "буржуазнага Захаду".

У дзяўчат самай моднай прычоскай лічылася "бабета". У 1959 г. на экраны кінатэатраў выйшаў французскі фільм "Бабета

ідзе на вайну" (рэж. Крыстыян-Жак), галоўную ролю ў якім выканала Брыджыт Бардо. У шматлікіх эпізодах фільма яна мела характэрную прычоску, якую пазней і акрэслілі імеем яе гераіні. У савецкім пракаце фільм з'явіўся напачатку 60-х гг. і меў вялікі поспех. У сярэдзіне 60-х гг. у моду таксама пачалі ўваходзіць міні-спадніцы, а самыя смелыя дзяўчаты насілі супер-міні.

У гэты час вялікі ўплыў на моладзевую моду пачала аказваць г.зв. "бітлоўская субкультура". Гэта былі доўгія валасы, штаны-клёш, шырокія паясныя рамяні ды інш. Штаны некаторых моднікаў дасягалі 40 см у шырыню, а звонку ў клёшы яшчэ ўстаўляліся каляровыя кліны і вешаліся ланцужкі. Штаны падпаясваліся шырокім раменем, дзеля чаго выкарыстоўвалася афіцэрская партупея. Кашуля была рознакаляровай. Такі моднік, звычайна, трапляў у поле зроку камсамольскіх "аператыўнікаў", якія часта гвалтам здымалі рамень, з дапамогай машынкі для стрыжкі валос псавалі прычоску, рэзалі клёшы і г.д.

Стары ўтульны парк, сапраўды, стаў самым папулярным месцам адпачынку гараджанаў. Па вечарах, асабліва ў выходныя дні, каб прайсціся па ягоных галоўных алеях, даводзілася актыўна працаваць локцямі. Паслухаць цішыню парку можна было толькі ў будзенны дзень. Увечары парк напаўняла моладзь. Многія юнакі трымалі ў руках модныя ў той час транзістарныя радыёпрыёмнікі "Селга" або "Спідола" вытворчасці Рыжскага радыёзавода. Пазней іх замянілі "ВЭФы" і "Акіяны", якія вырабляліся ўжо ў Менску.

Затое ў кватэрах гарадзенцаў на ганаровым месцы ўзвышаліся шэдэўры савецкай радыёэлектроннай вытворчасці – лампавыя радыёлы, якія дазвалялі слухаць радыёперадачы і грамафонныя пласцінкі. Некаторыя шчаслівчыкі былі ўладальнікамі г.зв. "камбайнаў". Так называлі радыёлы, спалучаныя з тэлевізарам. Тэлевізараў у горадзе было няшмат, бо тэлебачанне толькі пачынала развівацца. Рэтранслятар, які знаходзіўся каля завода "Азот" трансляваў толькі адну праграму Віленскага тэлецэнтра

на літоўскай мове. Першую праграму Цэнтральнага тэлебачання СССР, якую трансляваў менскі тэлецэнтр, гарадзенцы атрымалі мажлівасць глядзець толькі ў снежні 1968 г. пасля пабудовы новай тэлевежы па вул. Горкага.

На адмыслова сканструяваныя антэны на дахах уласных дамоў гарадзенцы мелі мажлівасць прымаць праграму польскага тэлебачання, што высока ўздымала прэстыж горада ў маштабах усяго Савецкага Саюзу. Часцяком жыхары Масквы ды іншых буйных гарадоў СССР спецыяльна прыязджалі ў Гародню напярэдадні каталіцкага Ражства і Новага году, каб паглядзець музычныя праграмы польскага тэлебачання з канцэртамі папулярных у свеце выканаўцаў і галівудскія мастацкія кінафільмы, звычайна недаступныя савецкаму чалавеку.

## НЯЗГОДНЫЯ АБО ЗА ФАСАДАМ "САВЕЦКАГА РАЮ"

Савецкая Гародня мела таксама іншы твар, які быў напоўнены трагізмам. За фасадам палітыкі "хлеба і відовішчаў" хавалася мэтанакіраваная саветызацыя і русіфікацыя горада, якая імкулася перакрэсліць мясцовыя традыцыі шматкультурнасці і талеранцыі, вышуквала і знішчала "ворагаў народу".

Улетку 1944 г. Чырвоную армію ў Заходняй Беларусі сустракалі як вызваліцельніцу. З яе прыходам звязвалі заканчэнне вайны. Нават польскае насельніцтва Гародні першапачаткова глядзела на чырвонаармейцаў як на саюзнікаў, якія дапамогуць аднавіць незалежную Польшчу. Аднак даволі хутка наступіла расчараванне.

За франтавымі часткамі ішоў СМЕРШ і органы НКУС, якія вышуквалі здраднікаў і шпіёнаў. Цывільныя ўлады фармаваліся з тылавых савецкіх работнікаў, афіцэраў, што вярталіся з фронту

і былых партызанаў пераважна не мясцовага паходжання. Наогул, кадравая палітыка Савецкага Саюза ў Заходняй Беларусі на працягу 40-х – 60-х гг. моцна нагадвала аналагічную палітыку часоў Расійскай імперыі. Мясцовым ураджэнцам не давяралі, а ключавыя пасады ў мясцовай адміністрацыі займалі найбольш надзейныя савецкія "кадры".

Паводле вусных успамінаў былога першага сакратара Гарадзенскага абкаму КП(б)Б Івана Мікуловіча (запіс 2011 г.), калі ён прыехаў у Гародню ў 1954 г. у адміністрацыі быў толькі адзін "тутэйшы", менавіта сакратар Гарадзенскага райкаму партыі Павел Жалезнíковіч[56]. І.Мікуловіч лічыў сваёй асабістай заслугай перамены ў кадравай палітыцы вобласці, прыцягненне да кіраўніцтва ініцыятыўных і здольных мясцовых ураджэнцаў. Паводле яго-ных слоў, калі ён пакідаў Гародню (1972), то адміністрацыя ўжо цалкам складалася з "тутэйшых". Відавочна, што гэта прынесла плён.

Сапраўды, у 70-я гг., калі партыйна-савецкая і гаспадарчая "эліта" складалася пераважна з ураджэнцаў Гарадзеншчыны, вобласць дасягнула прыкметных поспехаў у сацыяльна-эканамічным развіцці. Жыццё брала сваё, і паступова сфармаваўся нават тып адміністратара-прагматыка, які клапаціўся пра гаспадарчае развіццё рэгіёну, пра паляпшэнне ўмоваў жыцця ды інш. Аднак гэты тып ніколі не дамінаваў.

Але гэта не датычыла сферы савецкай ідэалогіі, якая цалкам падпарадкавала сабе адукацыю, культуру і мастацтва. Тут да ўлады прыходзілі людзі, для якіх адной з галоўных задачаў была барацьба з іншадумцамі, выяўленне і знішчэнне ідэйных "ворагаў народу". І тут мясцовае паходжанне нічога не змяняла.

Вяртаючыся да першых пасляваенных гадоў, трэба адзначыць, што ў маі 1945 г. у Гародню таксама прыехала шмат былых вайскоўцаў, якіх вабілі кватэры ў адносна непашкоджаным горадзе.

Заўважальнай была таксама прысутнасць Чырвонай арміі. У горадзе з'явіліся тры фільтрацыйныя лагеры, дзе адбывала-

[56] Вусныя ўспаміны І.Мікуловіча, запісаныя 7 жніўня 2011 г.. (Захоўваюцца ў асабістым архіве А.Смаленчука).

ся праверка тых, хто вяртаўся дадому з прымусовых працаў у Германіі або з нямецкіх канцэнтрацыйных лагераў. Савецкія лагеры, разлічаныя на 3 тыс., у верасні 1945 г. утрымлівалі болей за 15 тыс. чал.[57] Многія сталі ахвярамі савецкіх рэпрэсій.

20 вераня 1944 г. была ўтвораная Гарадзенская вобл., і з'явіліся партыйныя структуры кіравання. "Другія Саветы" (так людзі акрэслілі гэтую ўладу) сваімі дзеяннямі прымусілі гарадзенцаў узгадаць восень 1939 г. Тэрор і запалохванне насельніцтва пашыралі страх і няўпэўненасць.

У горадзе пачалі цыркуляваць чуткі пра новую вайну ўжо паміж былымі саюзнікамі па антыгітлераўскай кааліцыі. Гісторык Ян Шумскі ў сваёй кнізе, прысвечанай палітыцы саветызацыі Заходняй Беларусі, прывёў цікавыя вытрымкі са справаздачы дырэктара гарадзенскай польскамоўнай школы № 2 Якава Мараша, які паведамляў уладам пра дэзарганізацыю навучальнага працэсу ў школе, бо польскія настаўнікі *"чакаюць зменаў палітычнай кан'юнктуры"* і не выконваюць службовых абавязкаў. Падобны настрой існаваў і сярод бацькоў вучняў: *"Адна з матак сказала, што няма сэнсу выязджаць у Польшчу, бо ўсё роўна хутка пачнецца вайна"*[58].

Калі стала зразумелым, што вайны не будзе, а Гродня застанецца на савецкай тэрыторыі, пачаўся масавы выезд гараджанаў у Польшчу. Апусцелі цэлыя вуліцы горада. Гарадзенцы выкарыстоўвалі магчымасць, якую стварала дамова паміж урадам БССР і Польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення ад 9 верасня 1944 г.

Нямецкі гісторык Феликс Акерман зафіксаваў таксама выезд з гораду большасці габрэяў, якія прыехалі сюды пасля завяршэння ваенных дзеянняў. Разам з імі і мясцовым каталіцкім насельніцтвам горад губляў кваліфікаваных рамеснікаў, а таксама нешматлікі слой лекараў, інжынераў, настаўнікаў, тэхнікаў. Усяго пакінулі горад каля 14,5 тыс. чал.[59] Паводле меркавання даследчыка, у горадзе засталося толькі

[57] Акерман Ф. Дэмаграфічнае разбурэнне Гародні ў 1939-1949 гг. // Гістарычны альманах. Том 17. 2011. С. 59.

[58] Шумскі Я. Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944-1953). Беласток, 2012. С. 46.

[59] Акерман Ф. Дэмаграфічнае разбурэнне Гародні ў 1939-1949 гг. С. 63.

каля 13,5 тыс. даваеннага насельніцтва. Адбылося сапраўднае дэмаграфічнае разбурэнне горада.

Іншыя нязгодныя выбіралі лес. На Гарадзеншчыне распачаўся антысавецкі супраціў. У Гародні і наваколлях найбольш моцнай сілай змагання супраць сталінскай улады было польскае падполле. У савецкіх дакументах яго называлі Арміяй Краёвай, хоць на самой справе ў лістападзе 1945 г. узнікла арганізацыя "Вольнасць і незалежнасць", якая ўключала акругу "Гародня". У кастрычніку 1945 г. яе ўзначаліў паручнік Мечыслаў Нядзінскі ("Нёман"). У паўночнай частцы Гарадзенскага раёну дзейнічалі таксама літоўскія "лясныя браты".

Мэтаю большасці партызанскіх акцый былі агенты НКУС і Міністэрства дзяржаўнай бяспекі СССР, партыйныя і савецкія актывісты і адміністратары, а таксама крамы і кааператывы. Так, увесну 1946 г. партызанамі атрада "Хвалі" (Юзаф Міклашэвіч) быў забіты начальнік Гарадзенскага райаддзелу НКУС капітан Кузняцоў. Пра моц антысавецкага супраціву на Гарадзеншчыне сведчаць таксама шматлікія пахаванні салдат і афіцэраў Чырвонай арміі на вайсковых могілках горада (вул.Белуша) за перыяд 1945-1952 гг.

Аднак масавага характару гэты супраціў не набыў. Пасля Другой сусветнай вайны Гарадзеншчына, як і ўся Беларусь, не мела дастатковых чалавечых і матэрыяльных рэсурсаў дзеля змагання з сталінскім рэжымам. Нават калектывізацыя канца 40-х – пачатку 50-х гг., якая ўспрымалася большасцю вясковых жыхароў Гарадзеншчыны як сапраўдная трагедыя і выклікала масавыя пратэсты, не змяніла кардынальна сітуацыю. Супраць партызанаў дзейнічалі добра ўзброеныя рэгулярныя войскі, аператыўныя групы памежнікаў, часткі Міністэрства ўнутраных справаў і міліцыя. Развязка гэтага змагання наступіла ўвесну 1952 г., калі савецкімі вайскоўцамі былі знішчаныя апошнія партызаны з групы "Нёмана"[60].

Пра стасунак жыхароў рэгіёну да "другіх Саветаў" шмат гаворыць скандал падчас выбараў у мясцовыя органы ўлады

[60] Шумскі. Я. Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944-1953).С. 68.

ў 1948 г. у п. Сапоцкін, што паблізу Гародні. Журналіст Андрэй Пачобут адшукаў рапарт капітана міліцыі Ільіна, які паведамляў начальству пра фальсіфікацыю вынікаў выбараў у Сапоцкінскай выбарчай акрузе.

З рапарта вынікае, што, напрыклад, у Новікаўскім сельсавеце людзі свядома ўхіляліся ад удзелу ў выбарах. Калі члены выбарчай камісіі пайшлі са "скрынямі" і бюлетэнямі па хатах, выбаршчыкі папросту збягалі, пакідаючы ў хаце дзяцей. Тады ініцыятыву ў свае рукі ўзяў старшыня камісіі Карманаў, які выдаліў камісію з выбарчага ўчастку і сам укінуў у скрыню ўсе бюлетэні. У выніку ў галасаванні "прынялі ўдзел" 100% выбаршчыкаў. Карманаў і члены камісіі ледзь паспелі "адзначыць" поспех выбарчай кампаніі, як нечакана з'явіліся яшчэ трое выбаршчыкаў. Паколькі бюлетэняў не засталося, Карманаў загадаў адчыніць скрыню, дастаў адтуль тры бюлетэні і перадаў выбаршчыкам. Тыя заўважылі, што гэта бюлетэні з іншага выбарчага ўчастку, але пад ціскам старшыні ўсё ж "прагаласавалі". Усё гэта назіралі прадстаўнікі Гарадзенскага абкама КП(б)Б.

У сувязі з рапартам Ільіна была створаная Камісія, якая не пацвердзіла прыведзеных фактаў. Кіраўнік аддзелу прапаганды і агітацыі Гарадзенскага абкаму Кулінковіч пісаў у ЦК КП(б)Б: *"Выбары ў мясцовыя Саветы рабочых у Гарадзенскай вобласці адбываліся ва ўмовах высокага маральнага ўздыму. Ва ўсіх 5574 выбарчых акругах удзел у выбарах узялі 318 419 выбаршчыкаў пры агульнай лічбе выбаршчыкаў 318 824. Гэта складае 99,9%. З 230 042 выбаршчыкаў за кандыдатаў Сталінскага блоку камуністаў і беспартыйных прагаласавала 318 419 – 99,5%. Арганізаваным удзелам, шчырым галасаваннем за кандыдатаў блока камуністаў і беспартыйных выбаршчыкі праявілі свой давер, бязмежную любоў і шчырую адданасць камуністычным ідэалам, савецкаму народу і Вялікаму Настаўніку народаў таварышу Сталіну. Дзень выбараў у мясцовыя Саветы ператварыўся ў народнае свята"*[61].

[61] Пачобут А. Сталінскія выбары на Гарадзеншчыне // Палітычная сфера. 2007, № 9. С. 72.

Застаецца толькі адзначыць, што менавіта савецкая ўлада прынесла на Гарадзеншчыну традыцыю "выбараў" без выбару. Гэтая традыцыя аказалася даволі моцнай і нават перажыла дзяржаву, якая яе нарадзіла...

Гісторыя пасляваеннага гораду – гэта таксама гісторыя рэпрэсій. Сталінскі рэжым і яго памагатыя не спыняліся ў пошуках "ворагаў народу". Вельмі часта гэтымі "ворагамі" абвяшчаліся сапраўдныя патрыёты свайго гораду і сваёй зямлі.

Менавіта такім быў лекар і грамадскі дзеяч Мікалай Марцінчык (1901-1980), памяць пра якога вярнуў з небыцця краязнаўца і гісторык медыцыны Фёдар Ігнатовіч[62]. М.Марцінчык скончыў медыцынскі факультэт Універсітэту Стэфана Баторыя ў Вільні. У міжваенны час ён працаваў лекарам, але адначасна быў адным з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы (ТБШ) і актыўна падтрымліваў беларускі рух. Падчас вайны таксама лячыў людзей, падтрымліваў кантакты з савецкімі партызанамі. У пасляваенным горадзе М.Марцінчык узначаліў інфекцыйны шпіталь і працаваў педыятрам у абласной паліклініцы.

29 жніўня 1948 г. Мікалай Марцінчык быў арыштаваны супрацоўнікамі МДБ на падставе даносу. Следства працягвалася да сакавіка 1949 г. Допыты праводзіліся спачатку ў Гародні, потым – у Менску. У якасці матэрыялаў абвінавачвання следчыя выкарыстоўвалі інфармацыю пра падзеі 30-х гг. У выніку М.Марцінчыку было прад'яўлена абвінавачванне ў тым, што ён з'яўляўся "агентам нацыянал-фашызму", справабаў звесці ТБШ з шляху рэвалюцыйнай барацьбы, супрацоўнічаў з польскімі ўладамі. Аднак следчыя не дабіліся ад Марцінчыка ні прызнання сваёй віны, ні паказанняў на іншых людзей. Ён меў гонар і мужнасць, і не прасіў літасці.

Пастановай Асобнай нарады 12 сакавіка 1949 г. ён быў асуджаны на 10 гадоў і этапаваны ў Варкуту. Пасля смерці Сталіна

[62] Ігнатовіч Ф. Мікалай Марцінчык (1901-1980) як лекар і дзеяч беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі // Гарадзенскі палімпсест. 2012 Гродна, 2013.

ў 1953 г. у М.Марцінчыка, як і ў соцень тысяч іншых ахвяраў палітычнага тэрору, з'явілася надзея на перагляд судовай справы. 31 кастрычніка 1955 г. М. Марцінчык быў датэрмінова вызвалены. Аднак пытанне пра яго віну засталося адкрытым. Вярнуўшыся ў Гародню, у снежні 1955 г. лекар звярнуўся са скаргай на неабгрунтаванасць прысуду і пакарання ў Савет міністраў СССР. Адказу не атрымаў, як не атрымаў і працы...

Урэшце ён быў рэабілітаваны, але публічнай агалоскі рэабілітацыя не атрымала. Ніхто з гарадзенскіх удзельнікаў здзейсненага супраць М.Марцінчыка злачынства не панёс пакарання.

Напрыканцы 40-х гг. да Гародні дакацілася хваля барацьбы з *"бязродным касмапалітызмам",* якая мела выразную антысеміцкую афарбоўку, паколькі ў якасці "касмапалітаў" звычайна, фігуравалі людзі з габрэйскімі прозвішчамі. Трэба адзначыць, што пасля Другой сусветнай вайны СССР быў адзінай краінай у свеце, дзе антысемітызм з'яўляўся часткай дзяржаўнай ідэалогіі.

Гісторык Ф.Акерман, які вывучаў гарадзенскі пасляваенны друк, заўважыў, што ў студзені 1953 г. "Гарадзенская праўда" перадрукавала ананімны артыкул з маскоўскай "Праўды" *"Подлые шпионы и убийцы под маской профессоров-врачей",* у якім групу вядомых савецкіх лекараў вінавацілі ў "сіяністцкай змове" супраць кіраўніцтва СССР. Праз некалькі дзён галоўная газета вобласці апублікавала матэрыялы ўжо ўласнага "следства", у якім у стварэнні "клану" і патуранні сваякам і сябрам быў абвінавачаны дырэктар завода ровараў Барыс Вайняронак. Прозвішчы ўдзельнікаў "клану" не пакідалі ў чытача сумненняў у ягоным "сіяністцкім" характары.

У наступным артыкуле на гэтую тэму гарадзенскія журналісты (верагодна па падказцы мясцовых чэкістаў) знайшлі "сіяністцкую змову" ўжо ў дзейнасці лекараў Чыгуначнага шпіталю (Куперман, Хейфец, Бродская, Клейн ды інш.), якія

нібыта кепска лячылі хворых чыгуначнікаў і зараблялі грошы на нелегальных абортах.

Усё гэта прывучала старых гарадзенцаў хаваць сваю этнічную і нацыянальную ідэнтычнасць. Пра шматкультурнасць і талеранцыю пад уладай “другіх Саветаў” нават гаворкі не магло быць...

А вось у стасунку да рэлігіі ў першыя пасляваенныя гады савецкія ўлады працягвалі г.зв. “новую” рэлігійную палітыку, галоўнай мэтай якой было выкарыстанне царквы як сродка дзяржаўнай прапаганды. Знакам пераменаў стала абранне новага Патрыярха Маскоўскага і Усея Русі Сергія ў верасні 1943 г. Камуністы дазвалялі адкрыццё праваслаўных прыходаў і духоўных семінарый, выданне рэлігійнай літаратуры.

У Гародні ў лютым 1946 г. улады правялі інвентарызацыю каталіцкіх храмаў Фарнага, Бернардзінскага, Брыгіцкага і Францысканскага і перадалі іх вернікам у бестэрміновае і бясплатнае карыстанне. У 1946 г. была дазволеная катэхізацыя дзяцей, хоць скарачалася колькасць заняткаў, а дзіцячы ўзрост абмяжоўваўся 9-12 гадамі.

Аднак гэты “раман” камуністаў з царквой быў непрацяглым і непаслядоўным. Так, у верасні 1946 г. рашэннем гарвыканкаму будынак лютэранскай кірхі па вул. Акадэмічнай быў перададзены Гарадзенскаму абласному архіву.

Рэпрэсіі супраць каталіцкага духавенства пачаліся ўжо ў другой палове 1944 г. Яны датычылі тых, хто нібыта супрацоўнічаў з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі і вёў антысавецкую агітацыю. Ужо ў ліпені 1945 г. кіраўнік КП(б)Б Панцеляймон Панамарэнка загаварыў пра неабходнасць закрыцця касцёлаў або перадачы іх праваслаўнаму духавенству, пра забарону прыезда ксяндзоў у БССР з іншых рэспублік[63]. Пазней ксяндзам забаранілі абслугоўваць болей адной парафіі ці касцёла, у якіх ксёндз быў зарэгістраваны, абмежавалі магчымасць атрымання “прапіскі”, асабліва ў г.зв. “памежных зонах”, прымусілі плаціць завышаныя падаткі і г.д.

[63] Шумскі Я. Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944-1953). С. 138.

У 1950 г. быў зачынены жаночы кляштар св. Брыгіты (вул. К.Маркса), а яго будынкі прызначылі пад абласную бальніцу.

Аднак, нягледзячы на ўсё гэта, рэлігійнае жыццё ў першыя пасляваенныя гады было даволі актыўным. Кіраўнік аднаго з аддзелаў Гарадзенскага абкаму Рыўкін у дакладной на імя "усесаюзнага старасты" М.Калініна паведамляў пра ўдзел камуністаў гарадзенскай партыйнай арганізацыі ў рэлігійных абрадах. У першую чаргу гаворка ішла пра хрышчэнне дзяцей. Цікава, што камуністы не заўсёды каяліся. Напрыклад, механік Гарадзенскага порту Ангулец заявіў на партыйным сходзе, што хрышчэнне дзяцей – гэта яго асабістая справа. Ён быў выключаны з партыі[64].

Яшчэ большыя ўплывы касцёл меў у навакольных вёсках. Падчас экспедыцыі па вуснай гісторыі ў 2001 г. на тэрыторыі Сапоцкінскага пасялковага савету высветлілася, што на працягу 1944 – 1945 гг. за антысавецкую дзейнасць тут былі арыштаваныя амаль усе ксяндзы[65]. Улады паспрабавалі зачыніць касцёлы, але сустрэлі моцны супраціў. У прыватнасці, у в. Селіванаўцы вернікі перайшлі на пэўнае рэлігійнае самаабслугоўванне. Стараста парафіі меў ключы ад касцёла, людзі хадзілі і маліліся. У 1947 г. Эдвард Русін з в.Шынкаўцы адкапаў касцёльныя званы, павесіў іх, і сам пачаў званіць. Паводле ягоных вусных успамінаў, людзі прыходзілі да касцёлу, маліліся і плакалі. У тым жа годзе яго асудзілі як *"агітатара, які ўмацаваў касцёл"*.

Літаральна ва ўсіх успамінах рэспандэнты спачувалі ксяндзам, аднадушна асуджалі палітыку гвалтоўнай атэізацыі і прыводзілі шматлікія прыклады парушэння ўведзеных уладамі забаронаў. Так, Юзэфа Салецкая (1920 г.нар., в. Васілевічы) прыгадвала: *"Пасля немцаў Саветы ўзяліся за касцёл. Нельга было хрысціць дзяцей, вадзіць у касцёл. Рускія ўсё забаранілі. Ідзеш у касцёл, а яны стаяць у браме. А калі ідзеш і хрысціш, то з працы выганяць. Дык вазілі дзяцей хрысціць па начах. Ксёндз ніколі не адмаўляў. Хоць ксяндзам пагражалі, але яны казалі: Дзяцей трэба хрысціць"*.

[64] Шумскі Я. Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944-1953). С. 143.

[65] Матэрыялы экспедыцыі захоўваюцца ў асабістым архіве А.Смаленчука.

Хісткая раўнавага паміж дзяржавай і царквой як сацыяльным інстытутам была парушаная пасля смерці Сталіна. Для першага сакратара ЦК КПСС Мікіты Хрушчова адной з галоўных мэтаў стала поўная ліквідацыя рэлігійных уплываў. Адпаведна мясцовыя ўлады распачалі вайну супраць царквы.

У 1960 г. быў зачынены жаночы праваслаўны кляштар Ражства Багародзіцы па вул. Рамеснай (зараз вул. Давыда Гарадзенскага). У будынку былі размешчаныя радыёклуб, аўтамотаклуб, аўтамабільная школа, клуб сабакаводаў, школа супрацьпаветранай абароны ды інш. У будынку храма XVIII ст., збудаванага паводле цудоўнага праекту італьянскага дойліда Юзафа Фонтаны, ездзілі на матацыклах, а ў двары былога кляштара выгульвалі сабак.

25 мая 1960 г. гарвыканкам (старшыня М.Воранаў) разарваў дамову 1946 г. з Таварыствам каталікоў Фарнага касцёлу пра перадачу ў карыстанне касцёльнага будынку. Тлумачылася гэта тым, што Гарадзенскі гісторыка-археалагічны музей нібыта мае вострую патрэбу ў памяшканнях, а патрэбы вернікаў могуць цалкам задаволіць Бернардзінскі і Францысканскі касцёлы. На самой справе гэта была хлусня савецкіх адміністратараў. Яны пачалі рыхтаваць знішчэнне Храма, пачаткі гісторыя якога сягаюць часоў князя Вітаўта.

Рашэнне пра разбурэнне Храма было прынята на паседжанні Гарвыканкаму ў сакавіку 1961 г. Мэтазгоднасць тлумачылася планам “генеральнай забудовы горада”, а ў якасці метада знішчэння прапанавалі выкарыстанне выбуховых матэрыялаў. На тым паседжанні прысутнічалі і галасавалі М.Воранаў (старшыня), У.Тупоўскі (намеснік старшыні), Ю.Чарнышоў (сакратар), а таксама В.Пафнуцеў, А.Раманаў, В.Сахарава, Л.Саладзілаў. У склад свайго роду “штабу” па знішчэнню ўвайшлі У.Тупоўскі, начальнік гарадской міліцыі П.Назаркін, начальнік аддзелу прамысловасці гаркаму партыі У.Пясецкі, загадчыца аддзелу будаўніцтва і архітэктуры аблвыканкаму М.Макарава, загадчык аддзелу будаўніцтва гарвыканкаму В.Ледухоўскі і… дырэктар музея В.Собаль[66].

[66] ДАГВ. Ф. 484, воп. 1, ад.з. 297, арк. 200.

На самой справе, галоўнай прычынай было моцнае раздражненне савецкіх і партыйных кіраўнікоў колькасцю храмаў у цэнтры горада.

У ноч з 28 на 29 лістапада 1961 г. Храм быў узарваны...

Вусныя ўспаміны гарадзенцаў, якія былі сведкамі гэтай трагедыі, даносяць да нас атмасферу таго часу[67].

Ванда Шоцік (1940 г.нар.): *Дзесьці ў канцы лістапада прыбегла цётка Аліна і кажа: Ты ведаеш прыехала група падрыўнікоў і гэтая ... жанчына (яна назвала яе вельмі дрэнным словам), якая будзе ўзрываць. Пра жанчыну гэтую казалі, што яна найлепшы спецыяліст у Ленінградзе і будзе кіраваць знішчэннем касцёла. [...]*

*Гэтая чутка разнеслася па горадзе, і многія не спалі. І мы, студэнты не спалі. Адна з нашых студэнтак жыла на рагу вул. Савецкай і плошчы Савецкай. І мы пабеглі да яе. Стаім каля вакна, назіраем. Адтуль было добра відаць будынак. Стаяць салдаты, міліцыя, людзі "в штатском". Усё было спакойна, але мы ведалі дакладна, што сёння ўзарвуць. І вось раптам пачулі стрэл, як хлапок нейкі. Грукату я не памятаю. Але памятаю, як касцёл узнёсся быццам хацеў паляцець у неба. А потым знік за воблакам жахлівага чырвонага, чырвона-шэрага пылу, дыму, не ведаю чаго яшчэ. Людзі казалі, што ён трохі ўзнёсся і... разваліўся. Настолькі, відаць, гэтая жанчына добра разлічыла, колькі трэба "взрывчаткі" закласці, каб касцёл не разляцеўся ва ўсе бакі. Раніцай мы пайшлі дахаты. Бачу выбегла на вуліцу цётка Ксенія, стала на калені і пачала маліцца. Людзі бегалі, мітусіліся, многія маліліся, праклiналі Саветаў. А некаторыя казалі: "Мы самі вінаватыя. Трэба было сабраць грошы і адрамантаваць касцёл, зрабіць усё як трэба". Іншыя казалі: "Да вам бы ніхто не дазволіў". А вул. Савецкая была ўся чырвоная. І вул. Ажэшкі. Усё было ў чырвоным пыле.*

Станіслава Рой (1922 г. нар.): *Касцёл узарвалі ўвосень 1961 г. Мама ўжо была слабая-слабая. Мой малодшы сын спаў. Раптам выбух. Мама перахрысцілася, стала плакаць: "Да чаго мы далей дажывём. Я гэтага ўжо не ўбачу і цярпець не буду, а вы*

[67] Вусныя ўспаміны захоўваюцца ў асабістым архіве А.Смаленчука.

*застанецеся". [...] Пасля выбуху і я пайшла на плошчу. Там людзі стаялі і плакалі. Была цішыня. Шэпатам размаўлялі. Гэты касцёл быццам у зямлю пайшоў. Сын Чэслаў казаў: "Касцёл быццам узняўся, потым апусціўся, і ўсё рассыпалася". Павінна была быць гара цэглы, а быў маленькі пагорак. Нібыта касцёл пайшоў пад зямлю. А людзі прыходзілі, стаялі на каленях і маліліся. А некаторыя смяяліся з тых, хто стаяў і маліўся. Гэта потым яны адумаліся і зразумелі, што Бог усё ж такі ёсць. Магчыма, каб па-была даўжэй гэтая ненармальная, сумашэдшая, варожая ўлада, то ўзарвалі б яшчэ і іншыя храмы.*

Чэслаў Рой (1942 г.нар.): *Па гораду пачалі хадзіць чуткі пра знішчэнне касцёла, калі вакол яго па перыметру на адлегласці 1 – 1,5 м ад сцяны былі збудаваныя шчыты з дошак. Увесь касцёл пачалі закрываць дошкамі, якія прыбіваліся гарызантальна. Людзі хадзілі і цікавіліся, што тут адбываецца. Ім адказвалі, што касцёл будзе рамантавацца. Хоць было вельмі сумніўна, што яго будуць рамантаваць. Там жа склады стварылі, і на той час усё было закінутае, разбуранае. Абставілі гэтымі шчытамі, а потым пачалі нешта свідраваць. Быццам, сапраўды, пачаўся рамонт. А пазней нехта сказаў [...], што касцёл будуць сёння ўзрываць. Я нават да хаты не пайшоў. Разам са сваім сябрам Мікалаем Гайсам застаўся на плошчы. Мы доўга хадзілі па Савецкай плошчы. Чакалі, калі будуць узрываць. І не мы адныя. На плошчы пачалі групкамі збірацца людзі. З'явілася міліцыя. Расло пачуццё, што нешта адбудзецца, што не дарма засталіся. Да таго ж заўважылі, што вокны Палаца тэкстыльшчыкаў і вокны дома па вул. Замкавай, які прымыкаў да касцельнай вежы былі заклееныя палоскамі паперы ў форме крыжа, як на выпадак бамбардзіроўкі.*

*[...] Каля 2 гадзіны ночы над плошчай ўзляцела чырвоная ракета, а за ёй адразу зялёная. І адразу мы адчулі моцны падземны штуршок. Зямля ўздрыгнула пад нагамі. Раздаўся глухі цяжкі гул. Касцёл нібыта нейкай страшнай рукой быў падняты ўверх, а потым пачаў таяць на вачах. Ён апускаўся... А калі напалову*

*знік, знізу падняліся клубы густога пылу. А зверху апускаўся дах, які схаваўся ў пылавым воблаку.*

*І вось тут салдаты ўжо не здолелі стрымаць людзей. З усіх бакоў людзі імкнуліся да касцёла. Унутры была яшчэ адна лінія ачаплення з міліцыі, але і яна не магла стрымаць людзей. Аднак каля касцёла з-за пылу нічога не было відаць. Усё пакрылася быццам белым попелам.*

*Хмары збіраліся і над Свята-Уладзімірскай царквой. У снежні 1964 г. гарвыканкам прыняў рашэнне пра яе закрыццё, а праз год вырашылі знішчыць будынак. Аднак, дзякуючы актыўнасці прыхаджанаў, якія звярталіся нават у вышэйшыя партыйныя ўлады СССР, царква захавалася.*

*Таксама менавіта вернікі не дапусцілі знішчэння касцёла св. Францыска (былога езуіцкага) на плошчы Савецкай. Марыя Грацулевіч (1911 г. нар.) на пытанне, чаму не быў узарваны і гэты касцёл адказала: "Людзі не дазволілі. Яны проста ўзбунтаваліся! Як улады не стараліся, людзі сказалі: "Не дамо знішчыць!" Народу было шмат. Нават з вёсак прыязджалі, каб не дапусціць знішчэння. І перамаглі!"*

Аднак дзесяцігоддзі атэістычнай прапаганды рабілі сваю справу. Людзі не мелі магчымасці адкрыта казаць пра свае рэлігійныя перакананні. Абрады хрышчэння рабіліся тайна, вянчанні былі рэдкімі. Удзел у рэлігійных абрадах камуністаў і камсамольцаў, звычайна, заканчваўся іх выгнаннем з гэтых арганізацый, што мела цяжкія наступствы. Нешматлікія школьнікі, якія па рэлігійным перакананням не ўступалі ў шэрагі піянераў і камсамольцаў, станавіліся ізгоямі ў школах.

І тым не менш савецкая сісітэма, якая зацята змагалася з іншадумцамі, так і не здолела знішчыць рэлігійнае жыццё, зламаць супраціў вернікаў. Нельга не пагадзіцца з Янам Шумскім, які лічыць, што вера, царква і касцёл выстаялі дзякуючы супраціву перакананых адзінак, звычайных калгаснікаў, рабочых, нічым не адметных людзей[68].

[68] Шумскі Я. Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944-1953). С. 144.

А вось русіфікацыя горада аказалася больш паспяховым праектам уладаў. Да гэтага, безумоўна, прычынілася дзяржаўная палітыка. Але не толькі яна...

У пасляваеннай  Гародні вялікае значэнне мела атаясамліванне беларускай мовы (“простай мовы”) з вёскай. Мова сталася атрыбутам не столькі нацыянальнай прыналежнасці (тут па-за канкурэнцыяй было веравызнанне), колькі сацыяльнага паходжання. Паводле Фелікса Акермана, у выніку хуткай “заваёвы” Гародні ўжо ў 1944 г. рускамоўнымі савецкімі кадрамі, а таксама адсутнасці ў горадзе беларускай сацыяльнай групы, якая б магла свядома выступаць у якасці носьбіта беларускай культуры, зыходная сітуацыя для сялянаў і іх дзяцей, якія перабіраліся ў горад была ясная. Яны прыязджалі не ў беларускі, а ў савецкі горад. А ў савецкім горадзе публічна ці “на людзях” пераважна гаварылі па-руску.

Сапраўды, адным з важнейшых атрыбутаў прыналежнасці да гарадской супольнасці было неўжыванне “простай мовы”, якая лічылася прыкметай адсталай вясковасці (“дзяроўня”). Такой была стратэгія дапасавання да гарадской супольнасці. Менавіта таму перасяленцы з беларускіх і польскіх вёсак даволі хутка і без прымусу пераходзілі на рускую мову[69].

Зразумела, што значную ролю ў гэтым працэсе таксама адыгрывала школа. У горадзе дамінавалі рускамоўныя школы, дзе беларуская мова выкладалася як другарадная. Праўда, для пасляваеннага гораду была характэрная прысутнасць польскамоўнага навучання. Польскі гісторык з Гародні Тадэвуш Гавін на падставе архіўных дакументаў, сцвердзіў, што на 1 кастрычніка 1944 г. у горадзе было ўсяго каля 6,5 тыс. вучняў, сярод якіх палякі складалі трохі меней за 4,5 тыс.[70]

Але жыццё польскамоўных школаў у савецкім горадзе аказалася непрацяглым. Безумоўна, вялікае значэнне мела рэпатрыяцыя насельніцтва ў Польшчу. Але найважнейшым чыннікам аказалася незацікаўленасць партыйнага і савецка-

[69] Акерман Ф. З вёскі ў Гародню // Архе. 2010, № 1-2. С. 507-508.

[70] Gawin T. O bycie Polakiem. Grodno-Białystok, 2013. S. 317

га кіраўніцтва ў развіцці польскамоўнага навучання. У рашэннях рэспубліканскіх, абласных і гарадскіх уладаў па пытаннях адукацыі польскамоўнае навучанне нават не згадвалася. Адпаведна мясцовыя ўлады спрыялі яго ліквідацыі.

У 1948 г. у Гародні знікла апошняя польскамоўная школа. З фармальнага пункту гледзішча, гэта было рашэнне школьнага педагагічнага савету (дырэктар Паліна Цуканава). Аднак савецкія нормы ніколі не прадугледжвалі самастойнасці нават невялікіх працоўных калектываў. Відавочна, што рашэнне пра поўную ліквідацыю польскамоўнага навучання прымалася ў кабінетах партыйных кіраўнікоў горада, а магчыма і рэспублікі.

Ва ўгоду палітыцы русіфікацыі і саветызацыі горад страчваў вельмі важную крыніцу сваёй шматкультурнасці. І ў далейшым для савецкіх чыноўнікаў, асабліва з ідэалагічных аддзелаў, таксама як і для службоўцаў МДБ і КДБ змаганне з "нацыяналізмам" было адным з галоўных накірункаў дзейнасці. Пры гэтым у дачыненні да беларусаў і палякаў пад "нацыяналізмам", звычайна, разумелі натуральную патрэбу чалавека карыстацца роднай мовай, ведаць уласную гісторыю і клапаціцца пра развіццё роднай культуры.

Пад асаблівым наглядам органаў бяспекі і партыйных чыноўнікаў была мясцовая інтэлігенцыя і студэнцтва. У снежні 1946 г. адхілілі ад правядзення заняткаў у педінстытуце вядомага ў будучым гарадзенскага гісторыка Якава Мараша, за плячыма якога былі Віленскі і Львоўскі універсітэты. Падставай было *"неправільнае асвятленне некаторых пытанняў з пункту гледжання метадалогіі"*[71]. Толькі недахоп падрыхтаваных спецыялістаў і пазіцыя дырэктара інстытута Мікалая Уласаўца дапамагла яму захаваць працу. Але на пачатку 1949 г. быў звольнены сам дырэктар, *"як не забяспечыўшы неабходнае кіраўніцтва вучэбна-адукацыйнай працы інстытута"*.

Паводле дадзеных даследчыка Сяргея Снапа, у красавіку 1950 г. органамі МДБ у Педагагічным Інстытуце быў выкрыты

[71] Дзярновіч А. Іншадумцы і контркультурная моладзь у Гародні (1950-1970-я гг.) // Архе. 2010, № 1-2. С. 544.

“буржуазны нацыяналіст” студэнт Іосіф Клышэвіч, які падчас нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам у вясковай пачатковай школе і выказваўся за *“стварэнне нацыяналістычнай буржуазнай беларускай дзяржавы”*. У абвінавачванні сцвярджалася, што падчас вучобы ён працягваў *“контррэвалюцыйную агітацыю”*. У выніку ў жніўні 1950 г. судовая калегія Гарадзенскага абласнога суду прысудзіла І. Клышэвіча да 25 год зняволення. Праз год быў асуджаны студэнт Мікалай Стрэльчык, які захоўваў *“нацыяналістычную і антысавецкую літаратуру”*. Гаворка ішла пра... “Беларускую граматыку” і “Беларускі правапіс” Браніслава Тарашкевіча і Язэпа Лёсіка.

Але найбольш прыкметнай справай “беларускага нацыяналіста” для Гарадзенскага педінстытута стаўся арышт у лютым 1957 г. выкладчыка беларускай літаратуры Браніслава Ржэўскага. Ён перабраўся ў Гародню ў 1955 г. пасля паспяховай абароны дысертацыі. Непрымальнай для яго была тая палітыка русіфікацыі, якая запанавала ў БССР. Пасля ХХ з’езду КПСС і асуджэння “культу асобы” ў грамадстве ўзнікла надзея на мажлівасць пэўных зменаў шляхам адкрытых зваротаў. Б.Ржэўскі распачаў уласную акцыю ў абарону беларускай мовы.

Як адзначыў гісторык Алег Дзярновіч, у 1955 – 1957 гг. ён у шэрагу лістоў і зваротаў да розных інстытуцый СССР і БССР даволі рэзка характарызаваў нацыянальную палітыку ў БССР, звяртаў увагу на існуючыя адміністратыўныя абмежаванні ў выкарыстанні беларускай мовы ў адукацыі, культуры і публічным жыцці, прыцягваў студэнтаў да абароны правоў роднай мовы. У адным з лістоў з боллю і сарказмам пісалася, што *“нават на шматлюдным пахаванні Якуба Коласа галоўны ідэолаг БССР... афіцыйны жаль агучваў з урадавай трыбуны па паперцы ды па-руску, паныла паўтараючы: “Наш дорогой Константин Михайлович Якубколос...”*

Браніслава Ржэўскага арыштавалі падчас лекцыі. Пры ператрусе ў яго асабістай бібліятэцы знайшлі і канфіскавалі беларускія

і польскія кнігі, выдадзеныя ў міжваенны час, рукапісы вершаў, у якіх ён называў Сталіна забойцам. Выкладчык быў асуджаны на сем год зняволення *"за паклёп на савецкі грамадскі лад, савецкую рэчаіснасць і на нацыянальную палітыку камуністычнай партыі і савецкага ўраду"*[72].

Ржэўскі быў вызвалены з лагеру ў Мардовіі праз 4 гады, вярнуўся ў Гародню, але да ранейшай працы яго не дапусцілі. За ім быў усталяваны нагляд КДБ. Артыкулы і рэцэнзіі не публікаваліся. З цяжкасцю ўладкаваўся на працу ў сярэднюю школу. Браніслаў Ржэўскі памёр у 1980 г. Імя гэтага мужнага чалавека, які ў 50-я гг. ратаваў гонар беларускай інтэлігенцыі, нават не згадваецца ў сучасных даведніках з біяграфіямі выкладчыкаў Гарадзенскага універсітэту…

У саветызаванай Гародні, дзе спецслужбы разам з партыйнымі ідэолагамі імкнуліся кантраляваць літаральна ўсе праявы грамадскага і культурнага жыцця, дзе кожны крок чалавека ацэньваўся выключна з пазіцыі інтарэсаў "камуністычнай партыі і савецкага ўраду", пэўнай "выспай" інтэлектуальнай свабоды быў своеасаблівы *"клуб вольнадумнай інтэлігенцыі"* (паводле вызначэння Аляксея Пяткевіча), які сфармаваўся вакол пісьменнікаў Аляксея Карпюка і Васіля Быкава. У 1960-я – 1970-я гг. да гэтага асяродку належалі таксама Данута Бічэль-Загнетава, Вольга Іпатава, Браніслаў Ржэўскі, Барыс Клейн.

Аляксей Карпюк (1920-1992) і Васіль Быкаў (1924-2003) не належалі да карэнных гарадзенцаў, але ў пэўны час іх творчыя і жыццёвыя біяграфіі моцна перапляліся з горадам на Нёмане. Як пазней напісала Данута Бічэль, *"Быкаў і Карпюк выбралі Гародню, як выбіраюць жанчыну, з-за прыгажосці еўрапейскага барока Гародні. Гэты горад пасля ўплываў на іх творчасць, уцягваў іх у культурную традыцыю і даваў пачуццё прысутнасці мінулага ў сучасным"*[73].

Васіль Быкаў у сваёй апошняй кнізе "Доўгая дарога дадому" так прыгадваў свой прыезд у Гародню ў 1947 г.: *"З першага па-*

[72] Дзярновіч А. Іншадумцы і контркультурная моладзь...С. 552.

[73] Бічэль Д. Хадзі на мой голас. Гародня-Wrocław, 2008. С. 73-74.

*гляду горад мне спадабаўся, не такі ўжо і пабураны (хоць у цэнтры і траплялі руіны некаторых будынкаў), але ў ім адчувалася пэўная "заходнасць", рысы сярэднявечча – у старых будынках, касцёлах, нават у брукоўцы вуліц. Зноў жа – два замкі і Нёман. Дужа гэта міла здалося майму сэрцу, зьнябытаму на чужыне"*[74].

Аляксей Карпюк прыехаў у Гародню ў 1945 г. тут вучыўся, працаваў журналістам, стаў вядомым пісьменнікам. Ягоныя творы "Данута" (1960), "Мая Джамалунгма" (1965), "Вершалінскі рай" (1974), "Карані" (1988) ды іншыя звязаныя з гістарычнымі і культурнымі рэаліямі Гарадзеншчыны.

Як адзначаў даследчык Аляксей Пяткевіч, у горадзе добра ведалі А.Карпюка і шанавалі за мужнасць грамадзянскай пазіцыі, за гаспадарскія адносіны да ўсіх дробных і буйных спраў мясцовага жыцця. Але з боку мясцовых начальнікаў такой пашаны не было. Больш таго, адкрытасць і шчырасць А.Карпюка, ягонае вольнадумства (між іншым ён ліставаўся з Аляксандрам Салжаніцыным, кантактаваў з сям'ёй "ворагаў народу" Ларысы і Юркі Геніюшаў) абярнулася моцным кафліктам з першым сакратаром абкама КПБ Міцкевічам. Да канфлікту было падключана КДБ. Праслухоўваліся ягоныя тэлефонныя размовы, у кватэры рабіліператрусы.

Аднак ён заставаўся па-ранейшаму маладым і няўрымслівым, сапраўдным Дон Кіхотам, які ваяваў з партбонзамі ўсіх рангаў і калібраў, выступаў супраць любой несправядлівасці. Беларускі паэт і публіцыст Валянцін Тарас успамінаў: *"Не было сходу ў Саюзе пісьменнікаў, на якім не ўзяў бы слова Карпюк і не даў дыхты якому-небудзь асвінеламу начальніку – ці то партыйнаму, ці то літаратурнаму. А з яго смяяліся, не прымалі ўсур'ёз [...] Смяяліся, каб супакоіць сваё сумленне, апраўдаць сваю паслухмянасць, сваё лакейства"*[75].

Але тыя, хто станавіўся аб'ектам ягонай крытыкі, не смяяліся і не выбачалі. Урэшце на падставе сфабрыкаваных чэкістамі "дакументаў" на А.Карпюка ўзвялі паклёп нібыта ён з'яўляўся

[74] Быкаў В. Доўгая дарога дадому. Мн., 2002. С. 155

[75] Дзярновіч А. Іншадумцы і контркультурная моладзь...С. 574.

агентам ці то СД, ці то абвера (!?). Іншым разам чалавечая подласць не ведае межаў...

Аляксей Карпюк страціў працу і быў выключаны з шэрагаў КПСС (1972). Гарадзенскі КДБ сфабрыкаваў "справу Карпюка", якая магла пацягнуць на гадоў 15 зняволення. Аднак А.Карпюк не скарыўся, змагаўся за сваё добрае імя. Дзякуючы гэтаму, а таксама актыўнасці В.Быкава, які дайшоў да галоўнага камуніста БССР Пятра Машэрава, праз год яго аднавілі ў партыі, абвясціўшы вымову за "няшчырасць". Гэтыя падзеі моцна змянілі А.Карпюка. В.Тарас нават пісаў пра тое, што *"гэта ўжо быў не той Карпюк – маўклівы, пануры, зломлены..."*

Аднак з гэтым меркаваннем нельга пагадзіцца. У жыцці А.Карпюка яшчэ будзе стварэнне ў Гародні Музея атэізму і гісторыі рэлігіі (1977), аднаго з найбольш цікавых у рэспубліцы, шматгадовае кіраўніцтва мясцовай філіяй Саюза пісьменнікаў БССР, раман "Карані" (1988), таленавітая публіцыстыка 80-х гг., барацьба за захаванне гістарычнай спадчыны горада ды інш. І гэта пад наглядам КДБ, які ўсё адно працягваўся.

Васіль Быкаў пражыў у Гародні 25 гадоў. Менавіта тут ён стаў сусветна вядомым пісьменнікам, а таксама часцінай горада, зведаўшы на сабе дабратворнае ўздзеянне ягонай гісторыка-культурнай атмасферы. У маі 1949 г. на старонках "Гарадзенскай праўды" адбыўся яго літаратурны дэбют.

Якраз у Гародні ён напісаў моцныя псіхалагічна-філасофскім драматызмам аповесці пра чалавека на вайне"Жураўліны крык" (1960), "Трэцяя ракета" (1962), "Альпійская балада" (1964), "Мёртвым не баліць" (1965), "Праклятая вышыня" (1968), "Круглянскі мост" (1969), "Сотнікаў" (1970), "Воўчая зграя" (1974), "Яго батальён" (1975) ды інш.Як справядліва заўважыў А.Пяткевіч, рэзананс ад творчасці В. Быкава, ад крытычных водгукаў на яго творы моцна ўплываў на фарміраванне духоўнага жыцця горада.

У творах В.Быкава абавязкова прысутнічае смерць. Галоўныя героі, звычайна, гінуць, але смерць з'яўляецца адначасна іх пе-

рамогай над сабой, над уласнай баязлівасцю. Яны аказваюцца мацнейшымі за смерць, і гэта дае надзею. Пісьменнік нібыта падводзіў чалавека да краю экзістэнцыйнай бездані. Як моцна гэта разыходзілася з афіцыйным аптымізмам савецкай эпохі!..

Лёс Васіля Быкава ў Гародні быў складаным. Асабліва цяжкія часы насталі пасля публікацыі аповесці "Мёртвым не баліць" (1965). Сёння ўжо вядома, што праслед пісьменніка і ягоных твораў адбываўся па загадзе старшыні КДБ СССР Уладзіміра Семічаснага. Мясцовыя чыноўнікі і чэкісты выкарыстоўвалі ўсе сродкі, каб вывесці чалавека з псіхалагічнай раўнавагі. Невядомыя тэлефанавалі з пагрозамі, білі шыбы ў кватэры, а аднойчы познім вечарам на вуліцы на В.Быкава і Б.Клейна быў здзейснены бандыцкі напад. Аднак зламіць В.Быкава не здолелі. І ў тыя часы, і пазней ён быў непахісны ў сваёй пазіцыі грамадзяніна-беларуса, хоць гэта яму шмат каштавала...

У 70-я гг. улады паспрабавалі "купіць" Васіля Быкава, каб інтэграваць яго ў савецкую ідэалагічную сістэму. Ён пачаў атрымліваць дзяржаўныя ўзнагароды, а з нагоды яго 50-годдзя ў Гародні афіцыйна святкавалі юбілей пісьменніка.

Варты ўвагі ўспамін Васіля Быкава пра гэтую падзею: *"Абласное начальства, бы ў якасьці выбачэньня за прычыненыя Быкаву ранейшыя крыўды, прызначыла ўрачыстасьць у вялікай зале Палаца тэкстыльшчыкаў. Прыйшлі прадстаўнікі працоўных калектываў, інтэлігенцыі і нешматлікія сябры юбіляра. Пярэднія лаўкі заняло партыйнае кіраўніцтва вобласьці на чале з новым першым Кляцковым. На подыюм пасярод сцэны паставілі прывезенае з тэатральнага рэквізіту старамоднае, каралеўскага кшталту крэсла з высокім падсьпіньнікам і пазалочай аздобай. Тое было самае пакутнае, што я мусіў трываць якіх пару гадзін. Я сядзеў, бы на патэльні, ледзьве слухаючы лісьлівыя выступленьні і прывітаньні і ў думках праклінаючы сябе за тое, што дажыўся да такога сораму [...] Да пахвалы не прывык і пачуваўся жахліва. Асабліва на вачох дзесяткаў знаёмых людзей, якія Бог ведае што пра мяне тады думалі"*[76].

[76] Быкаў В. Доўгая дарога дадому. С. 364.

Пісьменнік па-ранейшаму адчуваў пэўны маральны дыскамфорт у Гародні. У 1978 г. пасля працяглых ваганняў (*"Вельмі шкада было пакідаць Горадню, якая стала для мяне роднай..."*) ён пераехаў у Менск...

Паэтка Данута Бічэль, успамінаючы пра постаці А.Карпюка і В.Быкава, заўважыла з гэтай нагоды: *"Місія творцы – нагадваць свету, што ён недасканалы, што людзі жывуць дрэнна, неўладкавана, не дасягнулі таго, што ім патрэбна, чаго яны заслугоўваюць, "чаго вартыя". Чалавечай прыродзе неабходна імкнуцца да немагчымага, хоць бы ўсе спробы былі няўдалымі. Нашы героі ўвесь час памяталі пра тое, што жывуць у несвабодным свеце, які не натуральны для нармалёвага жыцця. І памяталі пра тое, што ў сістэмы занадта шмат спосабаў расправіцца з іх талентам – абодва ўвесь час былі пад жорсткім наглядам і прэсінгам, у вечным неспакоі і змаганні за сваё простае права жыць і пісаць"*[77].

Падрыхтоўка да друку аповесці "Праклятая вышыня" (1968) звяла В.Быкава з дацэнтам Медыцынскага інстытуту Барысам Клейнам, які выкладаў гісторыю і як заўважыў сам пісьменнік, *"да нашай рэчаіснасьці ставіўся стрымана крытычна"*.

Паступова яны зблізіліся. Васіль Быкаў успамінаў: *"Наш сябра Барыс Клейн быў чалавек разумны і заўсёды даваў слушныя парады..."* Гэтае сяброўства (*"гарадзенскі трохкутнік"*) даследчык Аляксандр Федута акрэсліў як *"шматгадовы інтэлектуальны цэнтр жыцця цэлага рэгіёну"*. Аднак "цэнтр" знаходзіўся пад пільным кантролем партыйных органаў і "людей в штатском", якія імкнуліся да ізаляцыі і знішчэння "трохкутніка".

Барыс Клейн першым трапіў пад удар. У 1971 г. ён быў выключаны з шэрагаў партыі. На паседжанні гаркаму КПБ яго абвінавацілі ў антысавецкай прапагандзе. Потым звольнілі з працы і нават адабралі дыплом кандыдата навук.

В.Быкаў прыгадваў: *"Клейн тузаўся. Як звычайна у такіх выпадках, змушаны быў прайсьці ўсе дантавы колы пакутаў – найперш шматлікія парткамісіі са злобнымі катамі – састарэлымі*

[77] Бічэль Д. Хадзі на мой голас. С. 75.

*бальшавікамі, якія, бы помсьцячы за безьліч уласных пакутаў і прыніжэньняў, зласьлівы прыніжалі выключанага, прымушалі яго прызнацца ў злачынстве, раззброіцца перад партыяй і савецкім народам. Сінхронна з партыйнымі органамі працавалі ўсе іх кафедры, вучоныя саветы, рэктараты і ВАКі. [...] Вельмі хутка гісторык Клейн апынуўся на гарадзкой гароднінай базе, дзе цягаў скрынкі з буракамі і морквай"*[78].

Адначасна першы сакратар абкаму Фамічоў (адна з вуліц горада носіць яго імя?!) не дазволіў Б.Клейну выехаць з гораду. У адказ на здзіўленне гісторыка заявіў: *"Вы будзеце маячыць на гарадзенскіх вуліцах як цень. Каб усе бачылі, які лёс чакае таго, хто пойдзе супраць нас"*[79].

Пэўная партыйная "рэабілітацыя" Б.Клейна адбылася ў 1976 г., калі яму вярнулі партыйны білет. У 1979 г. таксама аднавілі навуковую ступень і званне. Б.Клейн пачаў працаваць на кафедры гісторыі СССР і БССР у Гарадзенскім універсітэце. На гістарычным факультэце ён быў адным з нешматлікіх выкладчыкаў, якія карысталіся вялікай павагай у той часткі студэнтаў, якіх, сапраўды, цікавіла гісторыя, і якія задавалі пытанні выкладчыкам на занятках і пасля іх.

У тыя гады гістарычны факультэт універсітэту ў Гародні (як і ва ўсім СССР) быў арыентаваны на падрыхтоўку настаўнікаў гісторыі як прапагандыстаў камуністычных ідэяў, а таксама будучых камсамольскіх і партыйных служачых. Менавіта мажлівасць палітычнай кар'еры вабіла абітурыентаў. Шансы адчуць трагічны подых беларускай мінуўшчыны і зразумець гісторыю як пэўную захапляльную інтэлектуальную гульню, былі невялікімі. Аднак прысутнасць на гістарычным факультэце на рубяжы 70 – 80-х гг. такіх выкладчыкаў, як Ігар (Усер) Разенфельд, Фелікс Налівайка, Барыс Клейн і Міхась Ткачоў усё ж стварала пэўныя магчымасці.

Археолаг і гісторык Міхась Ткачоў пачаў працаваць у Гарадзенскім універсітэце ў 1978 г. Разам з ім на гістарычны

[78] Быкаў В. Доўгая дарога дадому. С. 315-316.

[79] Дзярновіч А. Іншадумцы і контркультурная моладзь... С. 588.

факультэт прыйшла гісторыя Беларусі, напоўненая цікавымі асобамі і адметнымі падзеямі. Амаль упершыню студэнты атрымалі магчымасць адчуць смак і прыгажосць айчыннай мінуўшчыны. Яго небеспадстаўна лічаць "піянерам гістарычнай археалогіі" ў Беларусі. Сваімі даследаваннямі сярэднявечных замкаў ён адкрываў новыя старонкі беларускай гісторыі. Паводле словаў ягонага вучня археолага Лявона Калядзінскага, ён меў адну ідэю, што Беларусь – гэта не толькі бульбяное поле і балота з жабамі, гэта краіна замкаў...

Важнай часткай гарадзенскага жыцця стала абарона старажытнай гарадской забудовы. М.Ткачоў называў Гародню "сапраўдным музеем пад адкрытым небам" і абараняючы яе, звяртаўся нават да ўраду СССР. Гэта спараджала канфлікты з мясцовым начальствам. Гісторыка спрабавалі выключыць з партыі і прыцягнуць да крымінальнай адказнасці *"за клевету на органы Советской власти", за "введение в заблуждение"* Старшыні Савета міністраў СССР. Знаёмы набор...

У 1987 г. М.Ткачоў абараніў доктарскую дысертацыю, прысвечаную арганізацыі абароны беларускіх гарадоў у XIV – XVIII стст. Аднак працягваць навуковую і выкладчыцкую дзейнасць у Гародні не атрымалася. На выбарах загадчыка кафедры гісторыі БССР перамог кандыдат навук Валеры Чарапіца, вядомы сваім непрыняццем беларускай гісторыі і прапагандай ідэяў неазаходнерусізму. Як заўважыў адзін з вучняў М.Ткачова гісторык Генадзь Семянчук, асяроддзе гістарычнага факультэта ў пераломныя для Савецкага Саюза і Беларусі гады Перабудовы праявіла свой камуністычны і савецкі кансерватызм, аказалася агрэсіўным да дэмакратычна думаючых калег.

Вяртаючыся да тэмы гарадзенскага чынавенства, хочацца яшчэ раз звярнуцца да кнігі Аляксея Карпюка "Развітанне з ілюзіямі": *"Атрымаўшы належны грунт (пакорлівасць, запраграмаванасць на пэўную хвалю і запалоханасць людзей) караючы сталінскі меч бязлітасна сёк галовы ўсім, хто спрабаваў*

*выйсці за межы. Раскладанне грамадства ў застойны перыяд пайшло на ўсіх узроўнях. Гібель ды вываз самых лепшых і дастойных прывялі да прытуплення народных традыцый, дэградацыі маралі і нават змены ў генафондзе народу. З таго часу я не прыпамінаю ні аднаго кіраўніка, з якім можна было б як з роўным, пагутарыць на маральна-этычныя тэмы, аб літаратуры, гуманізме – не было такіх там! Да ўлады прарваліся самыя хітрыя, самыя карыслівыя, самыя слізкія, самыя лядашчыя, самыя бессаромныя, якія ў адпаведны час здагадаліся павярнуць нос па ветры...”*[80]

У гэтых умовах пэўнай альтэрнатывай савецкай ідэалогіі і падставай для культурнага развіцця станавілася літаратура, а ў Гародні ў першую чаргу беларуская літаратура. Апроч згаданых В.Быкава і А.Карпюка трэба назваць імёны Міхася Васілька, які правёў у горадзе над Нёманам апошнія дзесяць гадоў жыцця, Пятруся Макаля, Валянціна Тараса, Андрэя Макаёнка, Дануту Бічэль, Вольгу Іпатаву, Юрку Голуба, Апанаса Цыхуна ды інш.

У Гародні рабіліся спробы наладзіць літаратурную перыёдыку. У прыватнасці, у 1956 і 1958 гг. выйшлі з друку два нумары альманаха “Нёман”. Сярод аўтараў – В.Быкаў, А.Карпюк, М.Васілёк, П.Макаль ды інш. Паводле А.Пяткевіча, выданні выйшлі пад апекай “Гарадзенскай праўды”, што сведчыць пра асаблівую ўвагу газеты да мясцовых пісьменнікаў.

У 1968 г. выкладчыкі кафедры літаратуры Гарадзенскага педінстытута падрыхтавалі і выпусцілі ў Менску зборнік літаратурна-краязнаўчых матэрыялаў “Наднёманскія былі”. Акрамя аглядных раздзелаў зборнік змяшчаў артыкулы пра Адама Міцкевіча, Элізу Ажэшку, Яўхіма Карскага, Міхася Васілька, Васіля Быкава і Аляксея Карпюка.

Іншай альтэрнатывай саветызацыі быў сам горад з ягонымі помнікамі, гістарычным ландшафтам, памяццю, якая жыла ў вузкіх вулачках старажытнай Гародні. Безумоўна, улады не маглі пакінуць гэта без увагі. Сярод галоўных матываў усіх

[80] Карпюк А. Развітанне з ілюзіямі. Гародня-Wrocław, 2008. С. 141

планаў "рэканструкцыі" гістарычнага цэнтра апроч зразумелай неабходнасці ягонай мадэрнізацыі заўсёды прысутнічала імкненне знішчыць гісторыка-культурную адметнасць, стандартызаваць абласны савецкі горад.

Самым драматычным перыядам горадабудаўнічай гісторыі горада былі 1960-я – першая палова 1980-х гг. Але першымі ахвярамі "сацыялістычнай рэканструкцыі" сталі будынак Ратушы (пл. Савецкая), разабраны яшчэ ў 1946 г., і ансамбль каралеўскага, Новага замку, на месцы якога пабудавалі будынак Гарадзенскага абкаму КП(б)Б (арх. У. Вараксін, 1952).

У лістападзе 1961 г., як ужо адзначалася, быў знесены ўнікальны помнік дойлідства XVI – пачатку XX ст., адна з асноўных дамінантаў гарадской панарамы – Фара Вітаўта. У 1960-х гг. быў зруйнаваны кляштар бернардзінак. У гэты ж час трапілі пад знос вежа-званніца кляштару брыгітак (вул. К.Маркса), аднапавярховыя жылыя дамы па вул. Замкавай, у тым ліку цэхавы будынак XVIII ст. з ляпным гербам на фасадзе. На вул. Ажэшкі было разбурана некалькі тыпавых жылых дамоў Гарадніцы XVIII ст.

Праект дэталёвай планіроўкі Гародні 1966 г. уражвае размахам вандалізму. Ён быў кульмінацыяй негатыўнага стаўлення да старагарадскога асяродку. Планавалі знішчыць усю прастору гістарычнага цэнтру (у тым ліку разбурыць сінагогу і кляштар св. Брыгіты), зліквідаваць вул. Замкавую і К.Маркса. Таксама планавалася "расчысціць тэрыторыю на 100-150 м па абодвух баках вул. Савецкай[81].

Як справядліва заўважыў мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі, савецкая горадабудаўнічая практыка пакрысе сцёрла з Савецкай плошчы яе спрадвечны сэнс[82]. Рэшта гістарычнай забудовы, што атачала яе па перыметры, толькі намякала на асаблівы сэнс гэтага пляцу ў сэрцы старога гораду. У выніку на месцы галоўнай плошчы ўтварылася малаўцямная прастора, атачаная выпадковымі каробкамі без відавочных акцэнтаў з разарванымі

[81] Кишик Ю.Н. Градостроительная культура Гродно. Мн., 2007. С. 244-245

[82] Харэўскі С. Два стагоддзі руйнаваньня Горадні // Горад святога Губерта. Выпуск трэці. Варшава, 2007. С. 81

візуальнымі повязямі. Гэты кут гораду стаў звычайным фрагментам савецкага абласнога цэнтру: лапідарныя будынкі з сілікатнай цэглы, нягегла размаляваныя старасвецкія камяніцы ды турэмны подых з-за калючага дроту мясцовай вязніцы.

Размяшчэнне гмаху аблвыканкама на пл. Леніна (1966-1979) без функцыянальна-планіровачных падставаў пацягнула за сабою пашырэнне плошчы за кошт зносу цэлага квартала XVIII ст. паміж вуліцамі Гараднічанскай, Сацыялістычнай і Ажэшкі.

Стварэнне ў 1967 г. Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры на пэўны час дазволіла стабілізаваць сытуацыю. Мясцовыя ўлады былі змушаныя лічыцца з меркаваннем гэтага грамадскага аб'яднання, хоць з часам яго дзейнасць фармалізавалася. У 1973 г. Дзяржбудам і Саветам міністраў БССР быў зацверджаны спіс гарадоў, што ўяўляюць сабою архітэктурную і гістарычную каштоўнасць. Наколькі гэта быў фармальны дакумент сведчыць тое, што з гарадоў вобласці ў гэты спіс трапілі апроч Гародні толькі Ваўкавыск, Ліда, Наваградак і Мір.

Сутнасць савецкай праграмы "захавання" гісторыка-культурнае спадчыны была сфармуляваная аднымі з самых актыўных яе стваральнікаў Уладзімірам і Юрыем Чантурыя: *"Узнаўленне горадабудаўнічай сітуацыі мінулых стагодзяў ёсць галоўнай задачаю для такіх гарадоў краіны як Суздаль, Яраслаўль, Талін, Вільня і інш. Аднак для старых гарадоў Беларусі [...] падыход да рэстаўрацыі з такім максімалізмам няслушны. Тут размова можа весціся толькі пра стварэнне асобных запаведных зонаў ці раёнаў у гістарычна складзеных частках гарадоў"*[83].

С.Харэўскі лічыць, што гэта і ёсць квінтэсэнцыя савецкай традыцыі падыходу да праблемаў беларускай старасвеччыны. Ніякай аргумэнтацыі, чаму гарады Беларусі не вартыя ўзнаўлення, не прыводзілася. Праўда, Генплан Гародні 1973 г. усё ж прадугледжваў стварэнне буйнамаштабнага гарадскога ядра на тэрыторыях за р. Гараднічанкай па-за старажытным цэнтрам. Хоць гэта мала што мяняла. На працягу

[83] Харэўскі С. Два стагоддзі руйнаваньня Горадні. С. 83.

1976 – 1986 гг. гарадзенскі ландшафт намаганнямі архітэктурна-планіровачнага ўпраўлення Гарадзенскага гарвыканкаму на чале з А.Каральковым пераўтвараўся ў нішто. Масава знішчаліся г.зв. “рухомыя помнікі”, менавіта творы мастацкага кавальства і ліцця, сталярка, разба і ляпніна.

У 1977 г. у раёне пл. Леніна была засыпаная р. Гараднічанка і тым самым знішчаная частка Старога парку. Голас у абарону гісторыка-культурнай адметнасці горада ўздымаў намеснік старшыні прэзідыўма Гарадзенскага таварыства аховы помнікаў І. Глухаў. У 1979 г. у “Советской Белоруссии” быў апублікаваны ягоны крытычны артыкул “Старое ў новым”. Разбірацца з гарадзенскім чынавенствам тады давялося старшыні Савета Міністраў СССР Аляксею Касыгіну. Але скандал вакол Старога парку, знішчэння Швейцарскай даліны і разбурэння помнікаў гісторыі меў толькі часовы эфэкт.

Гістарычны цэнтр забудоўваўся цалкам недарэчнымі ў архітэктурным сэнсе эпігонскімі аб’ектамі, праекты якіх былі падгледжаныя ў калегаў. Яскравы прыклад – Драматычны тэатр (арх. Г. Мачульскі, А. Пархута, 1977-1984). Груваснкія лапідарныя формы тэатру ў гушчары старадаўніх камяніцаў выглядаюць недарэчна. Каб раскрыць гмах тэатру, у 1984 г. быў знесены ўнікальны Дом актора, сцены якога памяталі многіх славутых дзеячаў культуры, у прыватнасці Рыгора Шырму.

Нельга не пагадзіцца з С.Харэўскім, які сцвярджае, што за ўсе пасляваенныя гады ў Гародні не было створана аніводнага арыгінальнага ансамблю ці вартага ўвагі архітэктурнага аб’екту. І гэта яшчэ адна з прычынаў нянавісці чынавенства і будаўнікоў да таго, што было створана ў несавецкія часы.

Паводле Вольгі Сабалеўскай, габрэяў Гародні ў шокавы стан прывяло вынішчэнне старых габрэйскіх могілак на даваеннай Грандзіцкай вуліцы (зараз вул. М.Горкага). Менавіта там знайшлі апошні прытулак знакамітыя філантропы Гародні Фрумкіны і Брэгманы, класік паэзіі ідыш Лейба Найдус, ахвяры пагрома

1935 г. На месцы знішчаных могілак быў пабудаваны стадыён, які існуе дагэтуль. Габрэйскія могілкі ў былым Занёманскім фарштаце былі зачынены, таму прыходзілася хаваць памерлых на агульных камунальных могілках.

Трагедыя Халакосту перарвала надзвычай багатую гісторыю гарадзенскіх габрэяў. Праўда, ужо летам 1944 г. яны пачалі вяртацца ў Гародню. Першымі з'явіліся каля 40 чалавек, якія хаваліся ў наваколлі і ў самім горадзе, а таксама тыя, хто далучыўся да партызанаў. Разам гэта было каля 200 чалавек. Пазней пачалі вяртацца габрэі, якія напярэдадні вайны знаходзіліся ў эвакуацыі ці былі дэмабілізаваныя з арміі. Яшчэ пазней у горад рушылі тыя, хто перажыў жахі нямецкіх канцэнтрацыйных лагераў. Яны вярталіся, каб адшукаць сваякоў альбо даведацца пра акалічнасці іх смерці. Колькасць габрэяў таксама павялічвалася ў выніку працэсаў міграцыі.

Аднак у цэлым габрэйскае насельніцтва Гародні пасля вайны не аднавілася і на траціну. Істотнай прычынай была эміграцыя, хвалі якой наймацней уздымаліся ў 1945-1946, 1957-1958 і 1972-1973 гг. Адныя выязджалі праз Еўропу пераважна ў Палесціну, іншыя– у Лацінскую Амерыку і ЗША. Некаторыя не пажадалі вяртацца ў Гародні і засталіся ў іншых гарадах СССР.

У савецкім грамадстве не было магчымасці для свабоднага ажыццяўлення права чалавека на спавяданне рэлігіі. Габрэі, як і іншыя вернікі, адчувалі ціск з боку партыйнага кіраўніцтва. Габрэйскае грамадства павінна было самастойна вырашаць фінансавыя пытанні, звязаныя з утрыманнем духоўных асобаў і тых нешматлікіх культавых пабудоваў, якія захавалі пасля вайны сваё першапачатковае прызначэнне.

Гарадзенская галоўная сінагога і ўсе малітоўныя дамы былі нацыяналізаваны дзяржавай і да 1990-х гг. выкарыстоўваліся для самых розных патрэбаў. Галоўная сінагога на вул. вул. Вялікай Траецкай ператварылася спачатку ў кааператыўны тэхнікум і яго інтэрнат, пазней у аўтатранспартную кантору і склады

"Аблспажыўсаюза", у 1952 г. у школу кінамеханікаў. У 1950 г. другі паверх сінагогі быў перададзены Гарадзенскім рэстаўрацыйным майстэрням і аптэчнаму складу. У малітоўнай школе "Хайе Адам", дзе вучыліся паэт Лейба Найдус і вядомы фізік Старавольскі ў 1946 г. быў інтэрнат школы ФЗН, пазней – спартовая зала.

Як адзначала Вольга Сабалеўская, вернікі збіраліся на прыватных кватэрах. Збор сродкаў на патрэбы культа, дастаўка рэлігійнай і адукацыйнай літаратуры з Ізраіля і ЗША ажыццяўляліся нелегальна. Добраахвотныя памочнікі абыходзілі кватэры, дзе жылі габрэі і прасілі ахвяраваць "на сінагогу" правераных людзей, якія, звычайна, не адмаўлялі, нават калі ўжо адышлі ад запаветаў іудаізму.

Рабіна, маэля і рэзніка ў Гародні не было, таму вядзенне ладу жыцця, прадпісанага запаветамі іудаізму было немажлівым. Панаваў атэістычны светапогляд. Ва ўмовах дзяржаўнага антысемітызму, калі пункт асабістай анкеты, дзе трэба было ўказваць нацыянальнасць, перашкаджаў паступленню ў прэстыжныя інстытуты і універсітэты і атрыманню добрай працы, габрэі ўстрымліваліся ад дэкларавання сваёй этнічнасці па-за межамі вузкага кола сяброў і сваякоў.

Аднак пры гэтым у Гародні мелі хаджэнне забароненыя, нярэдка "самвыдатаўскія" перадрукаваныя саматужна машынапісным спосабам кнігі – падручнікі іўрыта, асветніцкая, гістарычная і рэлігійная літаратура. Рух за атрыманне дазволу на эміграцыю ў Ізраіль (*"движение отказников"*) з'яўляўся часткай дысідэнцкага руху.

Як вядома, іудаізм – гэта не проста рэлігія, а лад жыцця габрэяў, іх працоўная і грамадская дзейнасць, паўсядзённае і святочнае жыццё. У сувязі з гэтым забарона выхоўваць моладзь у веры продкаў прывяла да адыходу цэлага пакалення гарадзенскіх габрэяў ад духоўных каштоўнасцяў свайго народа і ператварэння іх у моладзь савецкую, атэістычную і дэнацыянальную.

У школе, на працы, у грамадскіх месцах гучала руская мова, таму забываўся ідыш, мова, на якой размаўляла вынішчаная нямецкімі захопнікамі габрэйская суполка Гародні. Паміралі носьбіты традыцыйнай культуры і забываліся абрады, казкі, народныя песні і танцы.

Умовы, спрыяльныя для адраджэння культуры габрэяў, беларусаў і палякаў, а таксама ўзнаўлення грамадскай дзейнасці, склаліся толькі на пачатку 1990-х гг. Важным этапам у гэтым узнаўленні стала Перабудова.

## "ВЫГНАННЕ З РАЮ" АБО ПЕРАБУДОВА ДРУГОЙ ПАЛОВЫ 80-Х ГГ.

Падчас Перабудовы ў другой палове 80-х гг. звыклы лад жыцця правінцыйнай савецкай Гародні і яе жыхароў пачаў змяняцца. Свабода рэлігійнай дзейнасці, абмежаванне цэнзуры, лібералізацыя палітычнага і нацыянальнага жыцця, што афіцыйна атрымала назву "галоснасці і дэмакратыі", вярталі многім гарадзенцам пачуццё гонару і годнасці, нараджалі надзею, што Гародня стане горадам свабодных людзей і верне лепшыя традыцыі каралеўскага горада.

Тэма гарадзенскай Перабудовы вартая асобнай кнігі, але пакуль мы абмяжуемся толькі пэўнымі падзеямі і прыгадаем тыя асобы канца 80-х,,дзякуючы якім у 90-я гг. ужо можна было казаць пра іншую Гародню. Успомніць галоўнае дапаможа надзвычай папулярная ў сярэдзіне 90-х гг. кніга Алеся Госцева і Вячаслава Шведа "Кронан. Летапіс горада на Нёмане. 1116-1990" (Гародні, 1993), а таксама архіўныя дакументы, вусныя ўспаміны Мікалая Таранды і даследаванні Тадэвуша Гавіна. Вось своеасаблівая храналогія гарадзенскай Перабудовы:

**1986 г.**

*Сакавік.* Першае паседжанне гісторыка-культурнага клуба “Паходня” (кіраўнік Мікалай Таранда, пазней Міхась Ткачоў)

Май. Адкрыццё Дома-музея Максіма Багдановіча (стваральніца і загадчыца Данута Бічэль-Загнетава) як літаратурнага аддзелу Гарадзенскага гісторыка-археалагічнага музея.

**1987 г.**

*Студзень.* Стварэнне спецыялізаванай навукова-рэстаўрацыйнай майстэрні Гарадзенскага аб’яднання “Белспецрэстаўрацыя”

Чэрвень. Устаноўчая канферэнцыя Гарадзенскага абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры (старшыня прафесар Сяргей Габрусевіч).

**1988 г.**

*Студзень.* Навуковая канферэнцыя, прысвечаная 150-годдзю з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. Прапанова ўстаноўкі помніка К. Каліноўскаму.

*Люты.* Савет міністраў БССР узяў пад ахову гістарычны цэнтр Гародні як помнік горадабудаўніцтва і архітэктуры.

*Чэрвень.* Зацверджаны новы герб Гародні з аленем св. Губерта, але без крыжа паміж рагамі, затое з зоркай наверсе шчыта.

*Жнівень.* Устаноўчы сход Польскага культурна-асветніцкага таварыства імя Адама Міцкевіча (старшыня Тадэвуш Гавін).

*Кастрычнік.* Вечар памяці беларускага мастака Язэпа Драздовіча, прысвечаны 100-годдзю з дня яго нараджэння.

**1989 г.**

*Сакавік.* На гарадзенскім тэлебачанні прайшла першая перадача клуба “Гарадніца”.

*Красавік.* Міжнародная навуковая канферэнцыя “Францыск Скарына і лёс беларускай культуры”.

*Май.* Выбары ў Вярхоўны Савет СССР. У другі тур выйшлі першы сакратар абкаму КПБ У.Сямёнаў і Прэзідэнт клуба “Паходня” прафесар М.Ткачоў. Ішла вострая перадвыбарчая барацьба. вул. Савецкая па вечарам нагадвала лонданскі “Гайд-парк”. У другім туры перамог У.Сямёнаў. За М.Ткачова прагаласавала амаль 81 тыс. гарадзенцаў.

*Верасень.* Рашэннем аблвыканкаму вернікам перадаецца Каложская царква і царква св. Марфы на старых праваслаўных могілках па вул. Антонава.

*Кастрычнік.* Рашэннем гарвыканкаму для ўстаноўкі помніка Кастусю Каліноўскаму ў Гародні выдзелены участак каля Абласнога Савета прафсаюзаў па вул. Савецкай.

*Лістапад.* Рашэннем Гарвыканкаму Старому парку Гародні прысвона імя Жана Эмануэля Жылібера.

*Снежань.* Устаноўчая канферэнцыя Гарадзенскай гарадской суполкі Таварыства беларускай мовы (старшыня Аляксей Пяткевіч).

*Снежань.* Выйшаў № 1 газеты на польскай мове *“Głos znad Niemna”*

**1990 г.**

*Студзень.* Стварэнне ў Гародні Дэмакратычнага блока “Саветы-90”.

*Люты.* Гарадскі перадвыбарчы мітынг на стадыёне па ініцыятыве Гарадзенскай Рады Беларускага Народнага фронту (БНФ).

*Сакавік.* Выбары народных дэпутатаў БССР і народных дэпутатаў мясцовых органаў улады.

*Красавік.* Устаноўчы сход Гарадзенскай абласной краязнаўчай асацыяцыі (старшыня прафесар Андрэй Майсяёнак).

*Май.* Рашэннем Гарвыканкаму будынак Брыгіцкага кляштара перадаецца вернікам.

*Червень.* Вернікам перададзены касцёл св. Брыгіты.

*Чэрвень.* У Гародні адбыўся I з'езд палякаў Беларусі, на якім быў створаны Саюз палякаў Беларусі (старшыня Тадэвуш Гавін).

*Чэрвень.* Установчая канферэнцыя Дэмакратычнай партыі Беларусі.

*Ліпень.* Адбылася ліквідацыя Ленінскага і Кастрычніцкага райкамаў КПБ.

*Жнівень.* Уведзена талонная сістэма продажы насельніцтву тавараў першай патрэбы.

*Верасень.* Адкрыццё Духоўнай семінарыі Беларускай епархіі рымска-каталіцкай царквы. На першы курс прынята 40 семінарыстаў.

*Верасень.* Адкрыццё гарадзенскай гімназіі (СШ № 30).

*Кастрычнік.* На сесіі Гарадскога савета народных дэпутатаў прымаецца рашэнне пра вяртанне гораду гістырычнага герба часоў Магдэбургскага права ў поўным аб'ёме, г. зн. з залатым крыжом паміж рагамі.

*Снежань.* Адбылася рэгістрацыя Польскага культурна-асветніцкага таварыства імя Адама Міцкевіча. Адначасна зарэгістраваная грамадская арганізацыя "Гарадзенская хрысціянская місія "Добрая вестка".

*Снежань.* Адбылася канферэнцыя, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння заснавальніка Гарадзенскага музея Юзафа Ядкоўскага.

Гэты кароткі пералік патрабуе дапаўненняў і каментароў. У прыватнасці, гартаючы тагачасную "Гарадзенскую праўду" ці архіўныя дакументы партыйных і савецкіх установаў, часам складваецца ўражанне пэўнай кансалідацыі гарадзенцаў. Пра гэтую рэдкую для апошніх двух стагоддзяў з'яву пачынаеш думаць, калі, напрыклад, чытаеш зварот гарадскіх уладаў у ліпені 1989 г. да гарадзенцаў з паведамленнем пра рашэнне ўстанавіць помнік Кастусю Каліноўскаму і просьбай выказацца наконт месца яго ўстаноўкі[84]. Дарэчы, вынікі грамад-

[84] Гродненская правда. 6 июля 1989г.




***Гародня ў 1988 г. План***

скага абмеркавання былі падведзеныя ў верасні. Прапановы былі розныя, але ўсе ўдзельнікі сыходзіліся ў адным – помнік Каліноўскаму патрэбны, і ён, безумоўна, упрыгожыць горад і падкрэсліць яго слаўнае мінулае. Было вызначанае месца на вул. Савецкай. Аднак помнік так і не быў устаноўлены.

Таксама, нягледзячы на прынятыя рашэнні, не з'явіліся шыльды памяці заняволеных у Брыгіцкім кляштары сясцёр Карнеліі і Ксаверыі Рукевіч, славутага паэта Лейбы Найдуса, а крыж, устаноўлены на месцы колішніх магіл салдат расійскай арміі 1915 г. (перасячэнне вул. Дзяржынскага і Церашковай) быў знесены падчас будаўніцтва жылога дома і дзеля пабудовы стаянкі для аўтатранспарту.

Затое на Каложскім плато быў усталяваны памятны знак у гонар 580-годдзя бітвы пад Грунвальдам з выявай "Пагоні" і надпісам на беларускай мове "Пагоня на Грунвальд. 1410 г.", а ў лістападзе 1990 г. на вайсковых могілках па вул. Белуша быў урачыста адкрыты знак-крыж памяці гарадзенцаў – афіцэраў Войска Польскага, якія загінулі ў Катыні ды іншых сталінскіх лагерах.

Таксама, адгукаючыся на грамадскія ініцыятывы, аблвыканкам у ліпені 1987 г. хадайнічаў перад Саветам міністраў БССР аб наданні імя Янкі Купалы Гарадзенскаму Дзяржаўнаму універсітэту, а ў студзені 1991 г. – аб наданні імя Францыска Скарыны Гарадзенскаму Дзяржаўнаму медыцынскаму інстытуту. Апошняя хадайніцтва Менск не задаволіў.

Аднак большасць згаданых падзеяў адбывалася ўжо напрыканцы Перабудовы і з боку гарадскіх уладаў мела змушаны характар. Гарадзенская грамадскасць змусіла чыноўнікаў прымаць яе ініцыятывы, хоць супраціў быў вельмі жорсткі, асабліва з боку аддзела ідэалогіі абкаму КПБ, які ўзначальвала Марыя Бірукова.

Усе перамены гэтага часу былі выпакутаваныя грамадскасцю. Стратэгію мясцовых партыйных чыноўнікаў, якія ігнаравалі многія заявы рэфарматара Міхаіла Гарбачова, мож-

на перадаць двумя словамі: не пушчаць! Гэтая пазіцыя грунтавалася яшчэ і на тым, што большасць насельніцтва асабліва не цікавілася нацыянальна-культурным жыццём. Многія не давяралі ўладзе і баяліся, што Перабудова скончыцца чарговымі рэпрэсіямі, іншыя, выхаваныя савецкай палітыкай 70-х гг. "хлеба і відовішчаў", клапаціліся пераважна пра ўласнае матэрыяльнае становішча.

Да таго ж працэс русіфікацыі зайшоў так далёка, што, паводле сведчанняў аднаго з лідэраў мясцовай польскай супольнасці Тадэвуша Гавіна, напрыканцы 80-х гг. нават настаўнікі-палякі выступалі супраць прапановаў па вывучэнню польскай мовы ў школах. Яны выказваліся за хатняе навучанне. Тыя ж палякі, што трапілі ў склад савецкай наменклатуры, адкрыта заяўлялі, што іх родная мова – руская[85].

Яшчэ цяжэй было беларусам, якія хоць і мелі статыстычную большасць у Гародні і БССР, аднак ніколі не ўсведамлялі сябе тытульнай нацыяй. Але стрымаць грамадскіх актывістаў партыйным чыноўнікам і спецслужбам станавілася складана.

Надзвычай важнай падзеяй беларускага культурнага жыцця ў Гародні стала стварэнне ў 1986 г. гісторыка-культурнага клуба "Паходня".

Пазней ягоны першы старшыня Мікалай Таранда ўспамінаў, што штуршком да арганізацыі клуба сталі частыя публічныя заявы, што ў Беларусі няма ні гісторыі, ні мовы: *"Мне здаецца, мы не думалі тады, што мы нейкае апошняе пакаленне, якое здольнае адрадзіць беларускі народ як еўрапейскую нацыю. Былі ўпэўненыя – нешта трэба рабіць. Бо ў той час у гарадах усе беларускія школы пазнікалі, на вёсках амаль таксама. Проста вырашылі падымаць гісторыю, культуру"*[86].

На першае паседжанне "Паходні" прыйшло 19 чалавек. Аднагалосна прынялі праграму клуба, якую распрацавалі Мікалай Таранда і Антон Пацэнка. Яна ўключала знаёмства з гістарычнымі падзеямі, помнікамі архітэктуры і культуры краю, вывучэнне

[85] GawinT. O bycie Polakiem. Grodno-Białystok, 2013. S. 460.

[86] Горад святога Губерта. Выпуск першы / Пад рэд. А.Смаленчука. Сейны, 2002. С. 79-80

жыцця і творчасці славутых дзеячаў мінулага і сучаснага, прапаганду беларускай культуры, у тым ліку і шляхам пастаяннай размовы па-беларуску ды інш. Некаторыя з сабраўшыхся лічылі, што будзе подзвігам, калі "Паходня" дажыве да восені.

Аднак перамены ў краіне давалі беларускай грамадскасці пэўны шанс, які быў выкарыстаны. Улетку на чале "Паходні" стаў прафесар Міхась Ткачоў. Клуб адыграў вялікую ролю ў барацьбе за захаванне гісторыка-культурнай спадчыны горада. Праўда, адстаяць будынак старога чыгуначнага вакзалу не атрымалася. Ён быў разбураны ў чэрвені 1986 г. Але затое не дапусцілі да знішчэння будынка XVIII ст., у якім месціўся Гістарычны архіў (зараз пл. Тызенгаўза). Рашучую пазіцыю тады заняў Аляксей Карпюк: *"Я засяду ў сярэдзіну, ніхто мяне адтуль не выцягне"*.

З боку Аляксея Карпюка "пахадняне" заўсёды адчувалі самую моцную падтрымку. Дарэчы, не толькі яны. У красавіку і снежні 1987 г. пісьменнік двойчы звяртаўся з лістамі да Генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова, патрабуючы пашырэння беларускамоўнага і польскамоўнага навучання на Гарадзеншчыне[87].

У 1989 г Аляксей Карпюк апублікаваў шэраг артыкулаў з уласнай трактоўкай падзеяў 1939 г. і калектывізацыі ў Заходняй Беларусі, якія моцна разыходзіліся з афіцыйнай версіяй "уз'яднання беларускага народу". З гэтай нагоды бюро Гарадзенскага абкаму КПБ прыняло нават адмысловую пастанову, дзе сцвярджалася, што *"Карпюком субъективно, односторонне показана освободительная миссия Красной Армии в сентябре 1939 года, по-своему трактуется отношение жителей к воинам и ход коллективизации в 40-50-е годы"*.

А.Карпюк стаў аб'ектам нападак у часопісе "Политический собеседник", дзе пра яго былі пададзеныя фальшывыя звесткі. Ён падаў у суд на аўтара артыкула і... выйграў працэс (!). У красавіку 1991 г. пісьменнік выйшаў з КПСС. У апошніх радках кнігі "Развітанне з ілюзіямі", ён прыгадаў свайго бацьку: *"Упэўнены, каб*

[87] GawinT. O bycie Polakiem. S. 465.

*жыў бацька, то і ён бы мне сказаў: Правільна, сынок, робіш, мы абодва здорава памыліліся! Хутчэй скідвай з сябе чужую, цесную кашулю, выбірайся з глухой калдобіны, якую гісторыя падсунула людзям на іх шляху, і вяртайся да сваіх каранёў"*[88].

Вяртаючыся да "Паходні", трэба адзначыць, што ўлады зрабілі свае высновы з яе актыўнасці, і ўлетку 1986 г. пачалося запалохванне сяброў клуба. Як ўспамінаў М.Таранда, многія прыходзілі і прасілі даведку, што яны быццам бы не ўдзельнічалі ў паседжаннях "Паходні". Тым не менш "Паходня" дажыла да восені і налічвала ўжо каля 100 чалавек.

Дзейнасць "Паходні" істотна прычынілася да таго, што ў 1987 г. грамадскасць упершыню была дапушчаная да абмеркавання генеральнага плану гораду. Праз год адбыўся міжнародны семінар з удзелам дойлідаў з Польшчы, Балгарыі, Венгрыі і Літвы, прысвечаны праблемам рэгенерацыі старога цэнтру Гародні.

У 1989 г. Беларускім навукова-даследчым інстытутам горадабудаўніцтва (галоўны архітэктар Аляксандр Горб) быў распрацаваны праект рэгенерацыі гістарычнага ядра. Прадугледжвалася вызваліць яго ад транспарту шляхам стварэння па перыметры апорна-размеркавальнага кальца. Моцна пашыралася пешаходная зона, узнаўляліся фрагмэнты гістарычных ансамбляў і ландшафту. На жаль, гэты аптымальны для Гародні праект, так і застаўся праектам.

У 1988 г. "Паходня" трапіла ў адну з партыйных інструкцый як *"группа экстремистского толка"*. Але яе дзейнасці гэтыя ацэнкі не спынілі... З пазіцыі сённяшняга дня можна сцвярджаць, што "Паходня" за кароткі час здолела акумуляваць беларускі культурніцкі патэнцыял горада. Многія сябры "Паходні" на пачатку 90-х гг. ужо ў Рэспубліцы Беларусь адыграюць важную ролю ў беларускім Адраджэнні і тагачасных дэмакратычных працэсах.

Напрыканцы 80-х гг. у Гародні ўзнікла яшчэ адна беларуская культурніцкая арганізацыя – Суполка імя Максіма Багдановіча. Яе ідэйным натхняльнікам быў Зміцер Кісель. З суполкай звя-

[88] Карпюк А. Развітанне з ілюзіямі. С. 206.

зана адраджэнне гарадзенскага непадцэнзурнага друку. Пры актыўным удзеле Дануты Бічэль пачала выдавацца газета "Рэанімова", якая, паводле ўспамінаў паэткі, змагалася за тое, *"каб беларуская мова з рэанімацыі была пераведзеная ў агульную палату моўных супольнасцяў. Каб на ёй размаўлялі не толькі настаўнікі мовы і літаратуры, але і вучні на перапынках і дома з бацькамі, каб на ёй размаўлялі ўсе і ўсюды"*[89].

У газеце змяшчалі малавядомыя і забытыя творы класікаў беларускай літаратуры. У першым нумары былі ўпершыню апублікаваныя ноты і словы песні "Магутны Божа", гэтага духоўнага гімна Беларусі.

У горадзе паступова адраджалася таксама культурніцкая дзейнасць іншых нацыянальных суполак. Найбольш актыўна дзейнічалі мясцовыя польскія актывісты. Імкнучыся апярэдзіць развіццё падзеяў, партыйныя чыноўнікі вырашылі стварыць цалкам падкантрольную польскую арганізацыю як секцыю Беларускага фонду культуры. Гэта падштурхнула "неафіцыйных" польскіх актывістаў да больш рашучых дзеянняў. Вылучылася група ў складзе Януша Паруліса, Юзафа Лучніка, Тадэвуша Гавіна, Станіслава Сянкевіча і Францішка Вітовіча, якая ў жніўні 1988 г. стварыла самастойнае Польскае культурна-асветніцкае таварыства. Яго ўзначаліў Тадэвуш Гавін[90].

Адной з галоўных задачаў Таварыства стала арганізацыя вывучэння польскай мовы ў школах горада і рэгіёну. На гэтым шляху стаялі вялізарныя перашкоды, як у постаці сакратара абкама КПБ па ідэалагічных пытаннях згаданай М.Біруковай, так і выразнай пасіўнасці мясцовай польскай супольнасці. Развітанне з савецкай традыцыяйі публічнага адабрэння ўлады і наступнага "кухоннага пратэсту" адбывалася даволі марудна.

Поспех прыйшоў толькі ў 1990 г., калі пад ціскам актывістаў, якіх падтрымалі бацькі вучняў, польская мова пачала выкладацца ў некаторых школах БССР, у тым ліку як абавязковы прадмет. 1 верасня 1991 г. у Гародні адрадзілася і польскамоўнае навучанне. "Першай ластаўкай" сталі два класы[91].

89 Бічэль. Хадзі на мой голас. С. 53.

90 GawinT. O bycie Polakiem. S. 448.

91 GawinT. O bycie Polakiem. S. 463.

Між тым у чэрвені 1990 г. у Гародні адбыўся ўстаноўчы сход Саюза палякаў Беларусі, які ўзначаліў Т.Гавін. Галоўнымі задачамі Саюза сталі падтрымка польскай школьнай справы, польскай культуры і традыцый, выданне друкаванай прадукцыі на польскай мове.

У горадзе з'яўляецца польскамоўны друк. У 1989 г. пачала выходзіць газета "Głos znad Niemna", на старонках якой адлюстроўваліся сацыяльна-грамадскія праблемы, рэлігійныя інтарэсы, культурныя патрэбы палякаў Беларусі. Усё гэта паспрыяла развіццю літаратурнай творчасці на польскай мове. У выніку выйшла кніжка вершаў "Ta, co nie zginęła" (Беласток-Гародня, 1991), дзе былі сабраныя творы мясцовых аўтараў, людзей пераважна старэйшага пакалення, напоўненыя замілаваннем да родных мясцінаў, рэфлексіямі на тэмы мінулага.

Падчас выбараў у Вярхоўны Савет БССР пачалася палітычная супраца Беларускага Народнага фронта і Саюза палякаў Беларусі. Менавіта гэтыя дзве арганізацыі склалі ядро Дэмакратычнага блока "Саветы-90". У выніку ў Вярхоўны Савет быў абраны журналіст "Гарадзенскай праўды" Мікола Маркевіч, які далучыўся да парламенцкай фракцыі БНФ.

У гэты ж час паўсталі Грамадскае аб'яднанне беларускіх літоўцаў "Тэвінэ" (старшыня Альгіс Дзіргінчус), Аб'яднанне татараў Гародні (старшыня Аляксандр Крыніцкі), Гарадзенскае грамадскае аб'яднанне габрэйскай культуры імя Л. Найдуса (старшыня Рыгор Хасід).

Нават няпоўны пералік падзеяў сведчыць пра кардынальныя перамены ў культурным і духоўным жыцці горада, якія паступова прывялі да палітычных зменаў. Відавочнае абуджэнне цікавасці да гісторыі горада і краіны, якое між іншым праявілася ў арганізацыі навуковых гістарычных канферэнцый, прысвечаных як падзеям рэгіянальнага жыцця, так і агульнанацыянальным. Пэўным сімвалам вяртання да гістарычных традыцый стала зацвярджэнне ў якасці герба горада аленя св. Губерта,

сімвала Гародні часоў Магдэбургскага права, а таксама пашырэнне сярод мясцовай грамадскасці беларускага варыянту назвы горада – Гародня.

Важным чыннікам жыцця горада сталі нацыянальныя працэсы, у т.л. дзейнасць нацыянальных культурна-асветніцкіх арганізацый, аднаўленне ў поўнай меры рэлігійнага жыцця, а таксама палітычная актыўнасць дэмакратычных сіл.

Але, як звярнуў увагу краязнаўца Віктар Саяпін, памяць гарадзенцаў пра Перабудову захавала не толькі гэта. Многія тагачасныя перамены звыклага штодзённага жыцця выклікалі масавае незадавальненне. У прыватнасці, менавіта такім быў вынік антыалкагольнай кампаніі. Дзеля барацьбы з п'янствам і алкагалізмам цэнтральныя органы ўлады ўвялі значныя абмежаванні на продаж гарэлкі ды іншых "моцных напояў".

Мясцовыя ўлады павінны былі ажыццявіць гэтыя рашэнні. Так, гарадзенская адміністрацыя палічыла неабходным адкрыць сетку безалкагольных кавярань і бараў, а таксама г.зв. "прадпрыемстваў грамадскага харчавання". У спісе значыліся малочны бар на вул. Леніна, 10; кавярні "Паўлінка" (вул. Ажэшка, 1), "Рускі чай" (вул. Захарава, 31; "Тэатральная" (вул. Замкавая, 16); "Алімпійская" (вул. Тэльмана, 4); "Архітэктар" (вул. Ажэшкі, 34); "Гарадзенская карчма" (вул. Ажэшка, 15) ды інш. Дзеля адкрыцця кавярань планавалася выкарыстаць у першую чаргу паўпадвальныя памяшканні, скразныя аркі дамоў і нават... будынкі капліцаў у в. Грандзічы і па вул. Рэпіна.

У выніку гэтай чарговай савецкай "кампанейшчыны" непрацяглы час працавалі толькі кавярні на вул. Леніна і Замкавай, а з шасці кавярань на вул. Ажэшкі адчынілася адна, вядомая сёння як "Чабурэчная" (дом № 1).

Узнікла цалкам абсурдная сітуацыя з гандлем алкагольнымі напоямі. Людзі старэйшага пакалення памятаюць велізарныя чэргі ў некалькі соцень чалавек за гарэлкай у нешматлікіх спецыялізаваных крамах. Пакупнікі займалі месцы ў чарзе задоўга

да адкрыцця. Амаль адразу з'явіліся г.зв. "групы захопу". Маладыя людзі ў спартовых касцюмах гвалтам адціскалі пакупнікоў ад уваходных дзвярэй і першымі прарываліся ў крамы.

Паступова пачалі ўзнікаць сур'ёзныя праблемы з прадуктамі харчавання і прамысловымі таварамі. Канец 80-х гг. стаў часам усеагульнага дэфіцыту. Улады паспрабавалі вырашыць праблему шляхам рэгламентавання і размеркавання тавараў і прадуктаў. Вось фрагмент аднаго з рашэнняў гарвыканкаму за лістапад 1989 г.: *"В целях упорядочения торговли изделиями из драгоценных металлов и драгоценных камней продажу производить согласно норм отпуска в одни руки: кольцо - 1 шт., серьги - 1 пара, цепочка - 1 шт., броши, кулоны, браслеты - по 1 шт. в пределах дневной реализации магазина[92]".*

У жніўні 1990 г. аблвыканкам увёў талонную сістэму продажы некаторых групаў тавараў першай неабходнасці: *"В связи с дефицитом и ограниченными ресурсами некоторых групп товаров народного потребления, а также стремлением части населения реализовать денежные накопления, развитием спекуляции и перепродажи товаров на рынке по завышенным ценам, и в целях стабилизации положения в торговле, исполком Гродненского областного Совета народных депутатов решил:*

*1. Ввести с 1 сентября с.г. повсеместно в области талонную систему на продажу населению швейных и чулочно-носочных изделий, обуви, бельевого трикотажа, табачных изделий.[...]*

Норма отпуска на 1 талон (в руб.)*: 1. Швейные изделия – 40; 2. Чулочно-носочные изделия – 5-80; 3. Бельевой трикотаж – 4-40; 4. Обувь кожаная – 17; 5. Табачные изделия (пачки) - 32[93]"*

Пры ўсім гэтым, як заўважыў той жа В.Саяпін, гарадзенцы знаходзілі магчымасць здабываць прамысловыя тавары айчыннай вытворчасці і прадукты харчавання, што карысталіся вялікім попытам у суседняй Польшчы, якая ў выніку рэформаў Я.Бальцэровіча перажывала сапраўдную "шокавую тэрапію". Амаль увесь горад, а потым і іншагародні гандляры выстраіліся ў чаргу на мяжы,

[92] ДАГВ. Ф. 484, воп. 2, ад.з. 659, арк. 106.

[93] ДАГВ. Ф. 1171, воп. 5, ад.з. 2652, арк. 110-111.

каб трапіць на польскія рынкі. З усіх куткоў СССР у Гародню прыязджалі "турыстычныя групы" з вялікай колькасцю тавараў і прадуктаў і часцяком некалькі дзён праводзілі ў будынку чыгуначнага вакзала ў чарзе на мытнае афармленне тавараў.

Аднак усе цяжкасці і праблемы матэрыяльнага плану саступалі той несумненай заваёве часоў Перабудовы, якой было разняволенне асобы, знікненне страху выказваць сваю думку, даваць уласную ацэнку падзеям і дзеянням уладаў, ажыўленне грамадскай, культурнай і палітычнай актыўнасці, нацыянальнае Адраджэнне ўсіх народаў Гародні. Упершыню за савецкім часам гарадзенцы адчулі сябе свабоднымі людзьмі, маглі дыхаць поўнымі грудзямі.

Менавіта гэтыя перамены спрыялі ўзнікненню незалежнай Рэспублікі Беларусь. Гародня ў гэтым працэсе адыграла далёка не апошнюю ролю...

# ГОРАД ЯК МЕСЦА ПАМЯЦІ

Гародня апошняга 20-годдзя яшчэ чакае сваіх даследчыкаў, а пакуль варта звярнуць увагу на тыя змены якія адбыліся ў гістарычнай памяці гарадзенцаў.

У свой час аўтар канцэпцыі "месцаў памяці" французскі даследчык П'ер Нара рашуча супрацьпаставіў памяць гісторыі. Паводле ягонага меркавання, калі гісторыя як інтэлектуальная аперацыя заклікала да аналізу і крытычнага дыскурсу, то памяць, што сілкуецца туманнымі і шматпланавымі, глабальнымі і сімвалічнымі ўспамінамі, змясціла мінулае ў сферу сакральнага. Аднак з часу неакантыанцаў Вільгельма Віндэльбанда і Генрыха Рікерта гісторыкі, схільныя да аналізу ўласнага даследчага метаду, зразумелі немажлівасць правядзення выразнай мяжы паміж суб'ектыўным і аб'ектыўным спосабам пазнання мінулага. Сёння падобны падзел можна ацаніць як перажытак наіўна-пазітывісцкага падыходу да гістарычнага даследавання.

Памяць горада, што адлюстроўваецца ў шматлікіх матэрыяльных або ідэальных "месцах памяці" (будынкі і памятныя шыльды, легенды і паданні, постаці мінулага і гістарычны наратыў і г.д.), якія воля людзей і час ператварылі ў сімвалічны элемент памяці пэўнай супольнасці, з'яўляецца важнай "сістэмай каардынатаў" мінуўшчыны. Памяць горада знаходзіцца ў працэсе пастаяннай трансфармацыі, аналіз якой дапамагае зразумець яго сучасных (!) жыхароў або прынамсі паразважаць пра тую карціну свету (*mentalite*), што існуе ў іх свядомасці. Вядома ж што памяць і гісторыя – гэта таксама спосабы і формы, у якіх людзі спрабуюць зразумець саміх сябе і свой час.

У апошнія гады стала модным параўноўваць Гародню з палімпсестам. Даследчыкі кніжнай культуры ўжываюць гэты тэрмін для пазначэння рукапіснай кнігі, якая пісалася на пергаменце паверх знішчанага тэксту. Сапраўды, гісторыя горада і яго памяць толькі ў XX ст. неаднаразова вынішчалася чарговай палітычнай уладай, якая прэтэндавала на вечнае ўладаранне.

Палітычна-ідэалагічныя “прыватызацыі” горада таксама звязаныя з наступленнем эпохі нацыяналізмаў. Менавіта нацыі як найбольш кансалідаваныя сацыяльныя супольнасці рукамі прадстаўнікоў уласнай палітычнай і культурнай эліты прыкладалі найвялікшыя намаганні дзеля “нацыянальнай прыватызацыі” горада. І гэтая эпоха нас яшчэ не пакінула...

Сучасную памяць Гародні можна ахарактарызаваць якраз праз прызму нацыянальных месцаў памяці. Хоць яшчэ 20 гадоў таму ў горадзе панавала “савецкая памяць”. Помнікі і музеі, назвы вуліцаў і плошчаў, публікацыі ў друку  ды інш. распавядалі гарадзенцам пра савецкае мінулае, якое яны і без таго ведалі ці, дакладней, думалі, што ведалі. Фактычна толькі вусная гісторыя, а таксама храмы і замкі нагадвалі пра страчаную Атлантыду гарадзенскай гісторыі.

Трансфармацыя памяці распачалася ўжо напрыканцы 80-х гг. XX ст. Новыя месцы распавядалі гарадзенцам тое, пра што яны забыліся, ніколі не ведалі або не жадалі ці баяліся ведаць. Дамінуючай тэндэнцыяй апошняга 20-годдзя стала паступовае выцясненне “савецкасці” нацыянальнымі месцамі памяці. Пасля абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь (1991) найбольш актыўна адбывалася беларусізацыя памяці горада.

Сучасныя беларускія месцы памяці Гародні звязаныя пераважна з пачаткамі гісторыі горада і перыядам Вялікага Княства Літоўскага, а таксама з эпохай нацыяналізмаў і развіцця беларускай культуры ў XX ст.

Невыпадкова ў якасці беларускіх месцаў памяці горада сёння фігуруюць яго гістарычныя варыянты назвы: *Гародня* (больш за 440 тыс. згадак у інтэрнэце), *Горадня* (больш за 160 тыс. згадак). Дарэчы, назва *Горадня* ўпершыню публічна прагучала на старонках газеты “Наша Ніва” ў 1915 г. (№ 19-20) у артыкуле Вацлава Ластоўскага.

Выразныя рысы беларускага знака памяці набыла славутая Каложская ці Барысаглебская царква XII ст. На яе прыкладзе

можна ўбачыць асноўныя вехі працэсу трансфармацыі знакаў памяці ў постсавецкім горадзе.

Барысаглебская царква даследчыкамі перыяду СССР/БССР адназначна трактавалася як выдатны "ўзор архітэктуры Старажытнарускай дзяржавы". Менавіта так характарызавалі яе гарадзенскі гісторык Якаў Мараш у 1964 г. і доктар архітэктуры Уладзімір Чантурыя ў 1983 г. Праўда, апошні таксама адзначаў існаванне ў Гародні "самастойнай архітэктурна-мастацкай школы".

Афіцыйная трактоўка не давала ніякіх падставаў для ператварэння храма ў беларускі знак памяці. І тым не менш ён ужо у той час набываў пэўныя рысы такога знаку, дзякуючы беларускім літаратарам. Уладзімір Караткевіч у прадмове да кнігі "Памяць зямлі беларускай" (Мінск, 1979), згадваючы беларускае дойлідства, першым яго помнікам назваў *"вясёлку Каложы"*... Яшчэ раней у 1967 г. быў апублікаваны ягоны верш "Каложа, туга мая светлая!.." з шчымлівымі радкамі: *...Ўся адзіная, ўся са святла, / З небам, з Нёманам, з зямлёю злітая, / З сэрцам нашым – Каложа ўзрасла...*

Аднак толькі ў постсавецкі перыяд Каложа, сапраўды, ператварылася ў беларускі знак памяці. Важнай падзеяй стала адкрыццё ў 1990 г. каля Храма помніка "Пагоня на Грунвальд. 1410 г." Помнік асвяцілі каталіцкі, праваслаўны і грэка-каталіцкі святары. На адкрыцці прысутнічалі ўдзельнікі навуковай канферэнцыі "Вітаўт Вялікі і яго эпоха", гісторыкі з Беларусі, Літвы і Польшчы. Праз нейкі час экскурсаводы каля гэтага помніка ўжо казалі пра тое, што менавіта тут, каля Каложы праходзілі войскі ВКЛ, якія ішлі на Грунвальдскія пагоркі.

У 90-я гг. Калажанскае ўзвышша разам з помнікам "Пагоні на Грунвальд" сталася месцам святкавання Дня беларускай вайсковай славы, які штогод адзначаецца 8 верасня ў памяць пра пераможную Аршанскую бітву 1514 г. Журналіст Міхась Карневіч у 1998 г. з нагоды гэтага свята пісаў пра некалькі тысяч чалавек, якія прыйшлі да Каложы, да помніка "Пагоні", каб ушанаваць зямлю, дзе *"сотні*

*гадоў таму благаслаўлялі воінаў, якія ішлі абараняць нашую Радзіму ад захопнікаў"*. У гэты ж час, дзякуючы гарадзенскім гісторыкам, пашырыўся міф пра магілу славутага ваяра Давыда Гарадзенскага каля Барысаглебскай царквы. Вячаслаў Швед у артыкуле "Гудзяць гарадзенскія трубы" распавёў чытачам пра пахаванне Давыда Гарадзенскага *"каля царквы Барыса і Глеба ў высокім кургане, на якім зараз шуміць велізарны клён, а Нёман, што цячэ ў падножжа гары гамоніць з князем Давыдам"*.

Пазней (2003) паблізу Каложы быў усталяваны вялізны камень з надпісам: *"Давыду Гарадзенскаму (каля 1287 – 1326 гг.) – славутаму абаронцу Гародні ад крыжацкай навалы. Ад удзячных нашчадкаў"*.

Пісала пра гэту падзею Гарадзенская газета "Біржа Інфармацыі" (2003, № 288): *"Побач з Каложскай царквой ужо паставілі камень на княжаскай магіле... Князь Давыд Гарадзенскі быў адзін з нямногіх, хто хадзіў з войскам паходамі на крыжакоў. Крыжацкія ваеначальнікі баяліся князя і падкупілі здрадніка, каб ён яго забіў. Так і здарылася. Воіны прынеслі яго цела на руках з Мазураў і пахавалі побач з Каложай"*. У выніку большасць цікаўных да гісторыі гарадзенцаў сёння дакладна ведаюць, дзе пахаваны славуты беларускі ваяр Давыд Гарадзенскі.

Помнік "Пагоня на Грунвальд" каля Каложы таксама стаўся месцам, дзе штогод на Дзень Волі ўскладаюцца кветкі ў памяць тых, хто адстойваў незалежнасць Беларусі.

Пэўнай "беларусізацыі" Каложы моцна паспрыялі намаганні грамадскасці захаваць гістарычную ўнікальнасць Храма, не дапусціць рэалізацыі навукова не абгрунтаваных планаў па "рэканструкцыі" царквы. У выніку ў вобразе царквы з'явіліся выразныя рысы "беларускага Храма". Значную ролю таксама адыгралі набажэнствы па-беларуску ў першую нядзелю кожнага месяца і дзейнасць "Каложскага брацтва пры Свята-Барыса-Глебскай царкве Гародні" з яго беларускамоўным варыянтам сайта (http://kalozha.by/index.php/be/).

Статус беларускага месца памяці таксама паступова набывае Стары каралеўскі замак XIV ст. як замак вялікага князя Вітаўта, які, пачынаючы яшчэ з кніг Міколы Ермаловіча, для многіх стаўся *"абаронцам беларускай дзяржаўнасці"*. З гэтым жа замкам часоў ужо вялікага князя Літоўскага і караля Польскага Стэфана Баторыя (канец XVI ст.) звязаная ідэя Гародні – як сталіцы. Яе пашырэнню спрыяе памяць пра горад як сталіцу ўдзельнага княства ў XII ст., а пазней як рэзідэнцыю князя Вітаўта, горад сеймаў Рэчы Паспалітай, а таксама як "сталіцу" Беларускай Народнай Рэспублікі ў лістападзе 1918 г. – сакавіку 1919 г.

"Сталічны матыў" вельмі часта гучаў на пачатку 90-х гг. XX ст. У прыватнасці, гарадзенская газета "Пагоня" (рэдактар Сяргей Астраўцоў) гэтаму эпізоду айчыннай гісторыі прысвяціла два адмысловыя нумары, што выдаваліся да Дня Волі. У № 2 за 1993 г. публікаваліся дакументы ўраду БНР у Гародні, а праз год (№ 8) ВітаўтРуднік падрыхтаваў вялікі матэрыял ужо пра знаходжанне Рады БНР у горадзе.

Выразная рамантычная туга пра сталічную Гародню надзвычай важная менавіта для беларускай супольнасці горада. Яна не актуальная для мясцовых палякаў і літоўцаў, які шануюць сучасныя сталіцы Польшчы і Літвы, і выклікае нават абурэнне з боку гарадзенцаў прарасійскай і прасавецкай арыентацыі…

Значны патэнцыял беларускага знака памяці ўтрымлівае таксама памяць пра "Фару Вітаўта" (касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі), узарваны па загаду гарадскіх уладаў у лістападзе 1961 г. Варта прыгадаць ініцыятыву 90-х гг. наконт яе адбудовы менавіта як беларускага храма. Гісторык Алесь Краўцэвіч у тагачасных дыскусіях параўноўваў яго магчлівую адбудову з завяршэннем будаўніцтва касцёла св. Віта ў Празе ў 1920-я гг., падчас якога адбылася сапраўднае яднанне чэшскай нацыі. Да ідэі аднаўлення Храма грамадскасць вярнулася ўлетку 2007 г. Удзельнікі "круглага стала" "Каму выгодна руйнаванне Гародні?" прапанавалі гарадскім уладам аднавіць "Фару

Вітаўта", а таксама знішчаныя ў пасляваенныя гады фрагменты горадабудаўнічага комплексу вул. Замкавай і Савецкай.

Эпоха Рэчы Паспалітай не займае належнага месца ў беларускай нацыянальнай памяці. У Гародні пра яе найбольш нагадвае постаць вядомага рэфарматара гарадзенскага каралеўскага старасты Антонія Тызенгаўза (1733-1785), які сваёй надзвычайнай актыўнасцю вярнуў жыццё гораду, моцна знішчанаму ў войнах XVII – XVIII стст. Варта адзначыць, што асоба Тызенгаўза не набыла ў памяці гарадзенцаў нейкай нацыянальнай афарбоўкі. У аднолькавай меры яго дзейнасцю ганарацца ўсе жыхары, незалежна ад нацыянальнасці і канфесіі. У пэўным сэнсе гэтая постаць яднае гарадзенцаў, нагадвае пра адзінства гарадской гісторыі і пра штучнасць яе нацыянальнага падзелу.

Помнік Антонію Тызенгаўзу знаходзіцца ў Фарным касцёле, і не ўсе жыхары горада нават ведаюць пра яго. Аднак у апошнія гады гісторыя рэформаў Тызенгаўза набыла "вулічную актуалізацыю" дзякуючы двум "безназоўным" скульптурам, якія з'явіліся на тэрыторыі парка імя Жылібера. Гэта "Грамадзянін XVIII ст." (скульптар У.Панцелееў) і "Дойлід Гарадніцы" (скульптар А.Анціпін). Насуперак уладам, якія, магчыма, пабаяліся персаніфікацыі гэтых помнікаў, цікаўныя да ўласнай гісторыі гарадзенцы называюць іх імёнамі двух славутых дзеячаў з атачэння А.Тызенгаўза, адпаведна навукоўца Жана Эмануэля Жылібера і дойліда Джузэпе Сака.

Выразнымі беларускімі месцамі памяці Гародні з'яўляюцца постаці Васіля Быкава (1924-2003) і Максіма Багдановіча (1891-1917). Красамоўна выглядае пашыраны ў інтэрнэце слоган: "Гародня – горад Быкава". У прыватнасці, пад такім загалоўкам у чэрвені 2011 г. на гарадзенскім блогу S13 з'явілася заметка, якая паведамляла, што ў дзень 87-годдзя з дня нараджэння пісьменніка каля будынкаў, дзе ў розныя часы ён жыў у Гародні, з'явіліся імправізаваныя шыльды. Аўтар выказваў надзею, што калісьці па вуліцах Вялікай Траецкай, Парыжскай Камуны

і Свярдлова з’явяцца сапраўдныя памятныя дошкі. Безумоўна, важным чыннікам таксама з’яўляецца стварэнне і існаванне ў горадзе грамадскага музея В.Быкава.

Яшчэ больш важную ролю адыграла музеефікацыя памяці пра Максіма Багдановіча. Менавіта стварэнне музея паэта разам з грамадскай і культурнай актыўнасцю яго стваральнікаў (у першую чаргу паэткі Дануты Бічэль) стала рашаючым фактарам ператварэння імя М.Багдановіча ў знак беларускай памяці горада.

Музей быў адчынены ў 1986 г., і доўгі час ён быў адным з цэнтраў беларускага культурнага жыцця. Данута Бічэль збірала вакол музея людзей і  як пазней напісаў Уладзімір Арлоў, *“будавала сваю “вёску”, адкрытую для кантактаваньня аднадумцаў”.* Мастакі дарылі свае працы, пісьменнікі – кнігі, гісторыкі дзяліліся рарытэтнымі матэрыяламі і распавядалі пра ўласныя даследаванні. Суполка імя Максіма Багдановіча пры музеі выдавала газету “Рэанімова”.

Убаку ад “беларусізацыі” памяці пра Гародню пакуль засталася постаць Кастуся Каліноўскага (1838-1864), барацьба якога была непарыўна звязаная з горадам на Нёмане. У 1988 г. тут адбылася даволі прадстаўнічая канферэнцыя, вынікі якой прымусілі гарадскія ўлады прыняць рашэнне пра ўстаноўку помніка “беларускаму нацыянальнаму герою № 1”. Пра гэтае рашэнне потым “забыліся”. Толькі ў траўні 2012 г. намаганнямі грамадскасці з’явіўся невялікі даведнік (буклет) па мясцінах Гародні, што непасрэдна звязаныя з паўстаннем і асобай Каліноўскага.

Варта адзначыць, што трансфармацыя месцаў памяці постсавецкага горада ў беларускім накірунку толькі на пачатку 90-х гг. мела пэўную падтрымку з боку мясцовых і рэспубліканскіх уладаў. Пасля 1995 г. сітуацыя істотна змянілася. Сёння толькі грамадзянская пазіцыя часткі мясцовай інтэлігенцыі і актыўнасць беларускай моладзі спрыяюць фар-

маванню беларускіх месцаў памяці. Але нават у такіх умовах гэтыя месцы з'яўляюцца найбольш запатрабаванымі ў горадзе і маюць вялікі патэнцыял для паступовага ператварэння ў нацыянальныя сімвалы.

Красамоўным прыкладам з'яўляецца грамадскае ўспрыняцце скульптуры "Пакроў Прасвятой Багародзіцы" каля кафедральнага Пакроўскага сабора (скульптар У.Панцелееў). Амаль адразу пасля яе ўстаноўкі гарадзенцы пачалі казаць пра пастаўлены *"помнік Еўфрасінні Полацкай".*

Польскія знакі памяці Гародні звязаныя пераважна з эпохай Рэчы Паспалітай, развіццём польскай культуры ў найноўшы час і палітычнай гісторыяй XX ст. Сярод найбольш значных польскіх знакаў, безумоўна, Стары каралеўскі замак як замак караля Стэфана Баторыя (канец XVI ст.).

У гэтым выпадку можна казаць пра пэўнае вяртанне традыцыі. Справа ў тым, што ў міжваенны час кароль Стэфан Баторы быў найбольш папулярнай гістарычнай постаццю для гарадзенцаў. Горад часта называлі *"gródem Batorego",* а Стары Замак – *"Batorowym zamkiem".* Ужо ў 1919 г. цэнтральная плошча атрымала яго імя. У лістападзе 1933 г. у горадзе надзвычай урачыста (з удзелам прэзідэнта Масціцкага) адзначалі 400-годдзе нараджэння С.Баторыя, а праз тры гады – 350-годдзе яго смерці.

Таксама да польскіх месцаў памяці можна аднесці Новы каралеўскі замак першай паловы XVIII ст. Менавіта там адбылося гістарычнае паседжанне сейма, якое моўчкі зацвердзіла другі падзел Рэчы Паспалітай. Пазней Замак стаў рэзідэнцыяй вялікага князя Літоўскага і караля Польскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1795-1797), які пакінуў яго ўжо з прыстаўкай экс. Гэты апошні эпізод у гісторыі Гародні як "каралеўскага горада" таксама вельмі прыцягальны для польскай супольнасці. Сюды падчас паўстання 1794 г. прыязджаў Тадэвуш Касцюшка (1746-1817), што ўшанавана памятнай шыльдай на беларускай мове каля ўваходу ў Новы замак. Дарэчы, тая папулярнасць, якую на-

была постаць Тадэвуша Касцюшкі ў беларускай літаратуры, сведчыць пра яе ператварэнне таксама ў беларускае месца памяці. Праўда, у Гародні гэты працэс не выглядае відавочным...

Аналіз польскіх месцаў памяці горада сведчыць таксама пра тое, што Гародня паступова ўпісваецца ў польскі мартыролаг. Вось, як характарызаваў ролю горада напрыканцы XVIII ст. на старонках сайта Саюза палякаў Беларусі ягоны сябра Юзаф Пажэцкі: *"Найсмутнейшыя падзеі апошніх гадоў Рэчы Паспалітай разыграліся ў* Гародні. *Менавіта тут Таргавіцкая канфедэрацыя, якая была зброяй у руках імператрыцы Расіі Кацярыны II, адмяніла ўсе рашэнні Вялікага сейма разам з адменай векапомнай Канстытуцыі 3 траўня. Уведзеныя ў краіну пры дапамозе таргавічан расійскія войскі ў ліпені занялі* Гародню*"* і г.д.

Патэнцыял польскіх месцаў памяці маюць гарадзенскія касцёлы (Фарны ці Паезуіцкі, Францысканскі, Брыгіцкі і Бернардзінскі), збудаваныя ў XVII–XVIII стст. Кожны з іх апроч непасрэдных канфесійных функцый выконвае яшчэ ролю пэўнага памятнага месца, нагадвае вернікам славутыя постаці і падзеі польскай гісторыі. Значнае месца ў гэтым "канфесійным" ушанаванні нацыянальнай памяці займаюць падзеі Другой сусветнай вайны. У прыватнасці, у Фарным касцёле прыцягвае ўвагу шыльда памяці харцэрам, якія абаранялі Гародню ў верасні 1939 г. пад камандаваннем Брунона Глябовіча.

Важным месцам польскай памяці Гародні з'яўляюцца старыя каталіцкія могілкі, якія яшчэ называюць Фарнымі, заснаваныя ў 1792 г. Пасля Росаў у Вільні і Лычакоўскіх могілак у Львове яны з'яўляюцца трэцяй польскай некраполіяй на ўсходзе былой Рэчы Паспалітай.

На гэтых могілках пахаваная славутая польская пісьменніца Эліза Ажэшка (1841-1910), постаць якой непарыўна звязаная з гісторыяй горада на Нёмане. *"Малодшая сястра Адама Міцкевіча", "гарадзенская самотніца, стражнічка крэсаў", "духовая маці ўсіх бедных, змеценых лёсам, усіх прыніжаных і прыг-*

*нечаных”, “каралева польскай прозы і пакутлівай праўды”*, – так пра яе казалі сучаснікі, а пазней і даследчыкі. Аповесць “Над Нёманам” – адзін з шэдэўраў польскай літаратуры.

У Гародні распачалася біяграфія пісьменніцы. Але тая павага і любоў, якой яна была тут аточаная, не ў меншай ступені абумоўленая вялікай дапамогай, якую пісьменніца аказала ў 1885 г. ахвярам пажару. Яе пахаванне (18 мая 1910 г.) ператварылася ў дэманстрацыю любові гарадзенцаў.

Адным з першых мэтанакіравана займаўся захаваннем памяці пра Элізу Ажэшку заснавальнік Музея ў Гародні Юзаф Ядкоўскі. У артыкуле *“Pamiątki po Elizie Orzeszkowej w Grodnie”* (1929) ён паспрабаваў аднавіць усе гарадзенскія адрасы, звязаныя з яе жыццём і дзейнасцю. У міжваенны час ператварэнню пісьменніцы ў выразнае польскае месца памяці горада спрыяла наданне вуліцы з яе апошнім адрасам імя Элізы Ажэшкі, устаноўка помніка ў парку ў цэнтры горада ў 1929 г. (скульптар Рамуальд Зэрых), а таксама ўвядзенне Літаратурнай прэміі яе імя. У 1936 г. прэмія была ўручаная прафесару Універсітэта Стэфана Баторыя (Вільня), вядомаму літаратуразнаўцу Мар’яну Здзяхоўскаму.

Пасля вайны савецкая ўлада не адразу згадзілася на захаванне памяці пра пісьменніцу. Толькі ў 1949 г. дазволілі паўторна ўстанавіць помнік ужо на вуліцы Ажэшкі. У 1958 г. на сцяне яе апошняга дому з’явілася шыльда: *“Тут з 1894 па май 1910 г. жыла выдатная польская пісьменніца дэмакратка Эліза Ажэшка”*. Менавіта “дэмакратызм” пісьменніцы актыўна прапагандаваўся ўладамі. Л.Аржаева ў нарысе гісторыі Гародні (1964) характарызавала яе як таленавітую польскую пісьменніцу, якая выступала супраць сацыяльнай несправядлівасці, коснасці і застою, сцвярджала, што творы Ажэшкі *“прасякнутыя любоўю да працоўнага народу”*, падкрэслівала яе *“шматлікія кантакты з рускімі пісьменнікамі”* і павагу да рускай культуры. Такі стандартны “савецкі набор” якасцяў вядомага літаратара...

Значна больш увагі і пашаны атрымала пісьменніца ўжо пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі. І не толькі з боку мясцовай польскай супольнасці. У гэты перыяд яе творы часта перакладаліся на беларускую мову, а постаць сталася часткай беларускай гістарычнай тапаграфіі, прычым асаблівая ўвага надавалася кантактам "пані Элізы" з Францішкам Багушэвічам. У 2001 г. у "Доме Ажэшкі", дзе зараз філіял Абласной бібліятэкі, быў адкрыты мемарыяльны пакой пісьменніцы. Перыядычна гасцей збіраюць "Літаратурныя чацвяргі", літаратурны салон "У пані Элізы". Постаць пісьменніцы сёння таксама набыла рысы беларускага месца памяці.

Тым не менш увага да пісьменніцы з боку польскай грамадскасці значна больш відавочная. Сёння "Дом Ажэшкі" і яе магіла – абавязковыя пункты наведвання турыстаў з Польшчы, а таксама як ўскладання кветак супрацоўнікамі Генеральнага консульства Польшчы падчас дзяржаўных святаў. Дарэчы, 11 лістапада 2013 г. кветкі таксама былі ўскладзеныя каля Старога замка і помніка Адаму Міцкевічу (вул. Дзяржынскага).

Польскім месцам памяці Гародні з'яўляецца ўжо згаданая постаць гісторыка і археолага, стваральніка Музея Юзафа Ядкоўскага (1890-1950). Яго адданасць справе вывучэння мінулага горада і апантанасць у абароне ягоных помнікаў стала ўзорам для многіх даследчыкаў. У міжваенныя гады, напоўненыя нацыянальнымі і палітычнымі канфліктамі, ён імкнуўся захаваць навуковую аб'ектыўнасць. Якраз таму ўвосень 2012 г. па ініцыятыве прадстаўнікоў беларускіх грамадскіх арганізацый была ўведзена Узнагарода імя Юзафа Ядкоўскага за вялікі ўнёсак у вывучэнне і папулярызацыю гісторыі Гародні, дзейнасць па захаванню яе гісторыка-культурнай спадчыны.

Відавочна, што і ў выпадку Юзафа Ядкоўскага мы зноў сустракаемся з феноменам пэўнага інтэгральнага культурнага знака, дзе нацыянальны чыннік перастае адыгрываць прынцы-

пова важную ролю, і на першы план выходзіць яго значэнне для агульнай памяці горада.

Вяртаючыся да Фарных могілак, трэба заўважыць, што асаблівае значэнне для іх паступовага ператварэння ў польскае месца памяці мела аднаўленне магілаў польскіх салдат перыяду савецка-польскай вайны 1919-1920 гг., а таксама з'яўленне сімвалічнай магілы Тадэвуша Ясіньскага (1939).

Апошняе сведчыць, што адным з найбольш выразных польскіх месцаў памяці Гародні з'яўляецца абарона горада ад Чырвонай арміі 20-22 верасня 1939 г. і тыя рэпрэсіі супраць гараджанаў, якімі яна закончылася. Гісторыкі згодныя з тым, што ўвосень 1939 г. падчас савецкай агрэсіі толькі пад Гародняй Чырвоная арміі сустрэла годны супраціў. У абароне ўдзельнічала цывільнае насельніцтва, у тым ліку атрады харцэраў. Менавіта ў гэтых баях загінуў 13-гадовы Тадэвуш Ясіньскі, смерць якога стала гарадзенскай легендай. Распавядалі, што параненага хлопчыка чырвонаармейцы дротам прывязалі (*"распялі"*) да танка, які пайшоў у бой. Памяць пра яго жыве не толькі ў Гародні. Яго постаць паступова набывае якасці сімвала польскага змагання супраць "Саветаў". Менавіта Тадэвуш Ясіньскі, як і ўся вераснёвая абарона горада, мае вялікі патэнцыял для ператварэння ў польскі нацыянальны сімвал Гародні.

Але ці толькі польскім сімвалам можа стаць гэтая падзея? Увосень 2009 г. грамадская арганізацыя "Рух за свабоду" пры ўдзеле Саюза палякаў Беларусі арганізавала вечарыну памяці пра трагічныя падзеі восені 1939 г. Многія беларускія выступоўцы ацэньвалі гэтую падзею як "савецкую акупацыю" і казалі пра агульную трагедыю гараджанаў, незалежна ад іх нацыянальнасці і канфесіі. Насуперак савецкім міфам ішла гаворка таксама пра ўдзел беларусаў у змаганні супраць савецкай агрэсіі.

Пра трагедыю савецкага панавання ў горадзе таксама нагадвае Катынскі крыж на Вайсковых могілках (вул. Белуша).

Да габрэйскіх месцаў памяці Гародні належыць Харальная сінагога XIX ст., верагодна, збудаваная на падмурках самай старажытнай гарадзенскай сінагогі XVI ст., і тэрыторыя старажытных могілак на беразе Гараднічанкі. У будынку сінагогі ствараецца Музей гарадзенскіх габрэяў. Некалькі год таму на агароджы стадыёна "Нёман" дзе раней знаходзіліся габрэйскія могілкі, з'явілася шыльда, якая нагадвае пра габрэйскія старонкі гісторыі Гародні з XIV ст.

Таксама выразным культурным знакам габрэйскага горада з'яўляецца памяць пра Халакост у Гародні. Сціплым помнікам на вул. Замкавай пазначаны былы ўваход у гета № 1,,а памятная шыльда паведамляе пра забойства нацыстамі ў перыяд нямецкай акупацыі амаль 30 тыс. гарадзенскіх габрэяў. Пра гэтую трагедыю нагадвае таксама помнік на месцы перасыльнага лагера ў Каўбасіне.

Нявыкарыстаны патэнцыял для ператварэння ў габрэйскае месца памяці горада захоўвае постаць славутага *"Доктара Эсперанта"* Людвіка Лазара Заменгофа (1859-1917), стваральніка мовы эсперанта, г.зв. *Lingwe Uniwersala.* Напрыканцы XIX ст. ён некалькі гадоў працаваў у Гародні афтальмолагам. У 1991 г. на доме па вул. Кірава, 4 дзе ён жыў, была ўстаноўленая памятная шыльда. На пачатку 90-х гг. двойчы ў горадзе праходзілі міжнародныя канферэнцыі эсперантыстаў. У 1996 г. адна з новых вуліцаў Гародні атрымала яго імя. Але потым пра Л.Заменгофа забыліся, і ў сучасным горадзе гэта паўзабытая гістарычная постаць.

Пра рускія знакі памяці складана пісаць, бо яны, звычайна, існуюць у форме "імперскіх" знакаў, звязаных або з перыядам Расійскай імперыі, або з эпохай "савецкай імперыі". Падобна, што іншай Расіі ў гісторыі горада не было.

Знакі памяці Імперыі Раманавых у Гародні – гэта, у прыватнасці, надзвычай урачыстае святкаванне 200-годдзя заснавання Гарадзенскай губерні (2001), помнік генералу Сяргею Ланскому (1814) на старых праваслаўных могілках, шыльда памяці Пятра Сталыпіна (2011), які ў 1902-1903 гг. займаў пасаду губернатара, а такса-

ма... настальгія некаторых прадстаўнікоў мясцовай інтэлігенцыі, чыноўнікаў і праваслаўнага духавенства па праваслаўным Сафійскім саборы ў цэнтры горада і мары пра яго адбудову. Пры гэтым цалкам ігнаруецца той факт, што Сафійскі сабор узнік у выніку гвалтоўнай перабудовы каталіцкай "Фары Вітаўта".

Вельмі часта канатацыю "рускага" набываюць савецкія знакі памяці. У прыватнасці, гэта помнікі вайскоўцам, загінуўшым у Другую сусветную вайну, якая, паводле савецка-расійскага падыходу па-ранейшаму існуе ў тэкстах помнікаў як "Великая Отечественная война". Ці варта тлумачыць, што такая трактоўка апошняй вайны цалкам супярэчыць тым падзеям, што адбываліся падчас гэтай вайны на Гарадзеншчыне, як і ва ўсёй Беларусі?

Горад усё яшчэ жыве паводле савецкага календара. Пасля 1995 г. аднавілася савецкая традыцыя мітынгаў падчас традыцыйных святаў – Кастрычніцкай рэвалюцыі, свята 1 мая, Дня Перамогі. Але не сакрэт, што большасць дарослых удзельнікаў гэтых святочных мітынгаў прыйшлі туды пад ціскам начальства, што школьнікаў на гэтыя святы літаральна "прыганяюць", і яны, звычайна, нават не ведаюць, чаму да помніка Леніну кладуцца кветкі. Уласна савецкія знакі памяці становяцца нябачнымі, неіснуючымі. Гэта датычыць нават новых савецкіх помнікаў, такіх як, напрыклад, помнік савецкім памежнікам (2006). Красамоўна выглядае лёс помніка савецкаму герою Грамадзянскай вайны Васілю Чапаеву (вул. Міхася Васілька). Яго робіць "бачным" толькі тое, што ён ператварыўся ў знак памяці гарадской суполкі чувашоў.

Відавочна, што многія савецкія месцы памяці сёння апазнаюцца выключна па падзеях постсавецкай гісторыі. Іншая тэндэнцыя звязаная з тым, што некаторыя беларускія і польскія знакі памяці (напр., "Фара Вітаўта", Катынскі крыж) сёння ўспрымаюцца таксама як памяць пра савецкія рэпрэсіі ў адносінах да мясцовых жыхароў і да іх гісторыі. Відавочна, што ў адносінах да "савецкага" ў Беларусі назіраецца тая ж самая тэндэнцыя, што і ў нашых заходніх суседзяў.

Пасля распаду СССР і абвяшчэння незалежнасці Беларусі выявілася моцная грамадская патрэба развітання з савецкімі міфамі, якія датычылі мінулага горада і краіны, і фармавання памяці, заснаванай не на камуністычнай ідэалогіі, а на навуковым вывучэнні ўласнай гісторыі. Гэта абярнулася канкурэнцыяй беларускага і польскага нацыянальных дыскурсаў у справе пэўнай "прыватызацыі" гарадзенскай мінуўшчыны. У горадзе пачалі ўзнікаць беларускія знакі памяці, а таксама адраджацца польскія і габрэйскія.

Сёння можна казаць пра відавочныя поспехі "беларусізацыі" памяці горада і памяці пра горад. Нават дзяржаўная гістарычная палітыка, якая ўяўляе сабой пэўную мяшанку пастулатаў "заходнерусізму", савецкай прапаганды і праваслаўнага фанатызму, аказалася не здольнай перашкодзіць гэтаму працэсу.

Аналіз сучаснай сітуацыі ў галіне памяці дазваляе заўважыць з'яўленне і паступовае пашырэнне інтэгральных месцаў памяці, якія яднаюць мінулае розных народаў горада. Гэта праявілася ў памяці пра постаці Антонія Тызенгаўза, Тадэвуша Касцюшкі, Элізы Ажэшкі. Гэтую ж рысу можна заўважыць у трактоўках месца і ролі ў гісторыі горада Старога Замка як замка Вітаўта і Стэфана Баторыя, у адносінах да "Фары Вітаўта" і ідэі яе аднаўлення, і нават у стасунку да падзеяў верасня 1939 г. Вялікі патэнцыял такога інтэгральнага знака ўтрымлівае для гарадзенцаў асоба Кастуся Каліноўскага.

Інтэгральныя месцы памяці – гэта сведчанне паступовага пашырэння ўспрыняцця гісторыі горада як працэсу адзінага для ўсіх яго народаў і канфесій. Абмежаванасць рамкамі ўласнага нацыянальнага дыскурсу не дазваляе зразумець Гародню як шматкультурны і шматканфесійны феномен, якім яна і была на працягу ўсёй сваёй гісторыі.

# БІБЛІЯГРАФІЯ


Акерман Ф. Зь вёскі ў Гародню. Саветызацыя Заходняй Беларусі як працэс акультурацыі / культурнай асіміляцыі мігрантаў зь вёскі // Arche. 2000. № 1-2.

Акерман Ф. Дэмаграфічнае разбурэнне Гародні ў 1939-1949 гг. // Гістарычны альманах. Том 17. 2011. С. 29-63

Акінчыц Р. Гліняныя формы – матрыцы гродзенскага рамесніка другой паловы 17 ст. // Краязнаўчыя запіскі. Гродна. 1993. Вып. 2. С. 55-61.

Акты, документы и материалы для политической и бытовой истории 1812 года, собранные и изданные по поручению Его Императорского Высочества Великого князя Михаила Александровича: В 3 т. / Под редакцией К. Военского. СПб.: Тип. А.Ф. Штольценбурга, 1909-1912. Т. 1: Литва и западные губернии. 1909.

Алексеев Л.В. Археология и краеведение Беларуси XVI в. – 30-е годы XX в. Минск, 1996.

Алісейчык У.В., Звяруга Я.Г., Краўцэвіч А.К., Ткачоў М.А., Трусаў А.А. Гродна. Стары замак // Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць. Мінск: БелСЭ, 1986. С. 78-80.

Алісейчык У.В., Краўцэвіч А.К., Ткачоў М.А., Чарняўскі І.М. Гродна. Манастыр базылянак // Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць. Мінск: БелСЭ, 1986. С. 68-69.

Андэрсан Ф. У гродзенскай турме. Верасень 1863 г. // Горад святога Губерта. Альманах лакальнай гісторыі. Выпуск VII. Гродна, 2013. С. 42-81

Анішчанка Я. Паўстанне 1794: Змаганне за народ // Полымя. 1995. № 5. С. 225-241.

Антонаў І. Успаміны аб польскай акупацыі Горадзеншчыны у 1919-1921 гг.: Малюнкі гвалту і зьдзеку фацетных польскіх паноў на Беларусі: (Мае перажываньні). Б.м., 1921.

Афанасьева Т.Ю., Горячева Р.Ф., Швед В.В. Гродненские губернаторы (1801-1917 гг.): документально-биографические очерки. Гродно: Гродн. тип., 2007.

Баціс М. Ober Ost і нямецкая акупацыя Гародні ў Першую сусветную вайну паводле Дзённіка Курта Кламрота // Гістарычны альманах. 2012. Том 18. С. 42-73

Блашчак Т. Міністэрства беларускіх справаў ураду Літоўскай Рэспублікі (1918-1924) // ARCHE. 2010. № 102. С. 206-305

Беккер Е. Евреи в польских городах во второй половине XVIII века // Еврейская старина. 1913. Вып. II. С. 184-200.

Беркоўскі В. Гродна ў 1812 годзе // Беларусь. 1946. № 4. С. 56-58.

Берлин М. Очерк этнографии еврейского народонаселения в России // Этнографический сборник, издаваемый императорским русским географическим обществом. СПб, 1862. Вып. V. С. 1-94.

Бічэль Д. Хадзі на мой голас. Гародня-Wrocław, 2008.

Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795-1861 гг.). Мн.: Наука и техника, 1966.

Быкаў В. Доўгая дарога дадому. Мн., 2002.

Вашкевіч А. На гродзенскім бруку. Гродна, 2012.
Вашкевіч А., Чарнякевіч А. Польскі Гродна: эвалюцыя горада ў міжваенны час (1919-1939) // Arche. 2010. № 1-2. С. 306-384.
Вольныя муляры ў беларускай гісторыі. Канец XVIII – пачатак XX ст. пад рэд. А.Смаленчука Вільня: Grudas, 2005.
Воронин Н.Н. Древнее Гродно (по материалам археологических раскопок 1932-1949 гг.). Москва, 1954.

Гарадзенскі палімпсест. XII – XX стст. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Горадня, 7 лістапада 2008 г.) // Пад рэд. А.Смаленчука, Н.Сліж. Горадня-Беласток, 2008.
Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX ст. // Пад рэд. А.Смаленчука, Н.Сліж. Горадня, 2009.
Гарадзенскі палімпсест. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры. XVI – XX стст. // Пад рэд. А.Смаленчука, Н.Сліж. Мінск, 2011.
Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XV – XX стст. // Пад рэд. А.Смаленчука, Н.Сліж. Мінск, 2012.
Гардзееў Ю. Да пытання аб гісторыі гродзенскай ратушы (канец XV — XVIII стст.) // Краязнаўчыя запіскі, в. 4. Гродна, 1997. С. 57-65.
Гардзееў Ю. Магдэбургская Гародня (сацыяльная тапаграфія і маёмасныя адносіны ў XVI-XVIII ст.). Гародня-Вроцлаў, 2008.
Гардзееў Ю. Рамантык эпохі Асветніцтва Антон Тызенгаўз. Мн., 2008.
Гардзееў Ю. З гісторыі гарадзенскіх масонаў // Гістарычны альманах. 2001. Том 5. С. 78-104.
Гессен Ю.И. История еврейского народа в России. Т.1. Л., 1925. 244 с.
Гинзбург Г.М. Отечественная война 1812 года и русские евреи. СПб., 1912.
Гістарычны альманах. Тт. 1-18. Гродна, 1998-2012 (рэд. А.Краўцэвіч)
Глинка Ф.Н. Письма русского офицера / Составление, текстологическая подготовка, примечания и послесловие С. Серкова. М.: Воениздат, 1987. 383 с.
Горадня 1916 г. на старонках Дзённіка ротмістра Курта Кламрота (падр. да публ. А.Смаленчука) // Горад святога Губерта. Том VI. Горадня, 2012. С. 41-85
Горад святога Губерта. Краязнаўчы альманах. Выпуск I. Пад рэд. А.Смаленчука. Сейны, 2002.
Горад святога Губерта. Краязнаўчы альманах. Выпуск III. Пад рэд. А.Смаленчука. Гродна, 2007
Горад святога Губерта. Краязнаўчы альманах. Выпуск IV. Пад рэд. А.Смаленчука і А.Вашкевіча. Гродна-Вільня. 2008
Горад святога Губерта. Зборнік краязнаўчых артыкулаў. Выпуск 2011 г. Пад рэд. А.Смаленчука і А.Вашкевіча. Мінск, 2011.
Гостев А., Швед В. Кронон. Летопись города на Немане (1116 – 1990). Гродно, 1993.

Гродно / Еврейская энциклопедия: Свод знаний о еврействе и его культуре в прошлом и настоящем / Под ред. Л. Каценельсона и Д. Г. Гинцбурга. Т. 6. СПб., б.г.изд. С. 791-793.

Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мінск, 1980.

Гумянюк Ю. Прывід даўніх крэсаў (урыўкі з аповесці) // Горад святога Губерта. Выпуск IV. Горадня-Вільня, 2008. С. 49–68.

Давыдов Д.В. Военные записки / Предисл. О. Михайлова. М.: Воениздат, 1982.

Давыдов Д. Дневник партизанских действий 1812 года / Сочинения. Т. 2. СПб., 1893.

Дзярновіч А. Іншадумцы і контркультурная моладзь у Гародні (1950-1970-я гг.) // ARCHE. 2010, № 1-2. С. 543-605

Добрянский С.Ф. Очерки из истории масонства в Литве // Записки Северо-Западного отдела имп. Рус. Географического общества. Кн. 4. 1913 г. Вильна, 1914.

Дорош Н. Православный Гродно. Гродно, 2000

Другая Гародня //Arche № 1-2 2010 г. (нумар прысвечаны гісторыі Гродна)

Дубнов С.М. Евреи в России в эпоху европейской реакции (1815-1848) // Еврейская старина. 1912.Вып. 3. С. 274-289; 1913. Вып. 1. С. 23-50.

Дубнов С. М. Краткая история евреев: Учебник еврейской истории для школы и самообразования. Ч. III. СПб., 1911. 160 с.

Дубнов С. М. Новейшая история еврейского народа (1789-1861). СПб., 1914. 631 с.

Забаўскі М.М. Расійская Дзяржаўная Дума ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі (1906-1917 гг.). Мінск, 1999.

Зайка В. Некалькі запозьненых і некалькі заўчасных думак пра гэбраяў і беларусоў // ARCHE: Габрэйскі нумар. 2000. № 3. С. 36-37.

Зверуго Я.Г. Работы в Верхнем Понеманье // Археологические открытия 1973 г. Москва, 1974.

Здановіч Н., Краўцэвіч А. Старажытны цэнтр Гродна // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1985. № 1.

Зоська Верас. Успаміны // Я помню ўсё: Успаміны, лісты. Укладальнік Міхась Скобла. Гародня-Вроцлаў, 2013.

Иловайский Д. Гродненский сейм 1793 г. Последний сейм Речи Посполитой. М.: Университетская тип., 1870. XXVI, 274 с.

Иоффе Э.Г. Страницы истории евреев Беларуси. Мн., 1996. 294 с.

Историческое описание города Гродно. Гродно, 1860.

Казак Т., Вашкевіч А. Гродзенскія фотамайстры 1860-х-1930-х гг. // Гарадзенскі палімсест 2010. Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2011. С. 463-473

Казак Т. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест 2009. Гародня, 2009. С. 352-372

Кандель Ф. Очерки времён и событий: Из истории российских евреев. Иерусалим:

Тарбут, 1990. 500 с.
Карпачёв А. Феодальные юридики в королевских городах Белоруссии XVII-XVIII веков //Советское славяноведение, 1968. № 6. С. 27-38.
Карпачоў А. Самакіраванне гарадоў Беларусі па “магдебургскаму праву” ў другой палове XVII-XVIII ст. //Весці Акадэміі Навук Беларускай ССР, 1969. № 2. С. 56-64.
Карпюк А. Развітанне з ілюзіямі. Гародня-Wrocław, 2008.
Касатая Т. Кінематограф як частка гарадзенскай штодзённасці пачатку ХХ ст. // Гарадзенскі палімпсест. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры XVI-XX стст. Пад рэд. А.Смаленчука, Н.Сліж. Мінск: Зміцер Колас, 2011. С. 437-439.
Кац Я. Кризис традиции на пороге Нового времени. Иерусалим, 1991. 315 с.
Киштымов А. Гродно и Неманский водный путь. Конец XVIII – начало XX в. // Гарадзенскі палімпсест. 2008. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі / Пад рэд. А.Ф.Смаленчука, Н.У.Сліж. Горадня-Беласток. 2008. С. 136-144.
Квитницкая Е. Д. Центры городов Белоруссии в XVI – первой половине XIX в. // Архитектурное наследство. Москва, 1982. №31. С. 28-50.
Квитницкая Е.Д. Планировка Гродно в XVI – XVIII вв. // Архитектурное наследство. Москва, 1964. №17. С. 11-38.
Кишик Ю.Н. Градостроительная культура Гродно. Минск, 2007.
Кловский Д. Дорога из Гродно. Самара, 1994.
Копысский З. Магдебургское право в городах Белоруссии (конец XV-первая половина XVII вв.) // Советское славяноведение, 1972. № 5. С. 26-41.
Копысский З. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI-первой половине XVII в. Минск, 1975.
Копысский З. Экономическое развитие городов Белоруссии (XVI-XVII вв.). Минск, 1966.
Костомаров Н.И. Последние годы Речи Посполитой. М., 1994.
Краўцэвіч А. Новае даследаванне Старога замка ў Гродне // З глыбі вякоў. Наш край: Гіст.-культуралаг. зб. Вып. 2. Навук. рэд. А.К.Краўцэвіч; Уклад. В.У.Шаблюк. Мн.: Беларуская навука, 1997.
Краўцэвіч А., Трусаў А., Трусаў І. Вяртанне да людзей // Мастацтва. 1993. № 8.
Краўцэвіч А.Унікальная знаходка беларускай зброі // Спадчына, 1990. № 3.
Краўцэвіч А.К. Археалагічныя даследаванні Гродна ў 1970 – 1990 гады // Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 1995. Вып. 3.
Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV – XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой, Мінск 1991
Краўцэвіч А.К. Гродзенскі вакольны горад // Археалогія і нумізматыка Беларусі. Энцыклапедыя. Мінск: БелСЭ, 1993.
Краўцэвіч А.К., Ткачоў М.А. Гродзенскія пасады // Археалогія і нумізматыка Беларусі. Энцыклапедыя. Мінск: БелСЭ, 1993. С. 192.
Кудий С.А. Гродно в 1812 году // Вопросы истории: Межведомственный сборник / Минский государственный педагогический институт. 1984. Вып. 11. С. 134-142.

Курдюмов М. Описание актов, хранящихся в Императорской археографической комиссии // Летопись занятий Императорской археографической комиссии за 1904 г. Вып. 17. СПб., 1907.

Лакотка А. Драўлянае сакральна–манументальнае дойлідства Беларусі. Мінск: Беларусь, 2003.
Латышонак А. Жаўнеры БНР. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2009.
Лисицын В. За тюремной стеной. История гродненской тюрьмы. XIX – 1939 г. Гродно, 2003.
[Лубяновский Ф.П.]. Воспоминания Фёдора Петровича Лубяновского 1777 – 1834. М.: Тип. Грачева, 1872.
Любавский М. Литовско-русский сейм. Москва, 1900.
Лялевіч Я., Трусаў І., Чарнякевіч А. Ад Каложы да Фартоў: гістарычная спадчына Гродна. Мн., 2008.
Ляхоўскі У. Школьная адукацыя ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі (1915-1918). Вільня-Беласток: Інстытут беларусістыкі, 2010.

Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века. Москва, 1974.
Мараш Я.Н., Плешавеня А.М. Гродзенскае гета // Памяць: Гродна. Мн., Беларуская энцыклапедыя, 1999.
Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генеральнаго штаба. Гродненская губерния. В 2-х частях с приложениями. Спб.: Тип. Департамента генерального штаба, 1863.
Міхайлік Л. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921 – 1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест 2011. Мінск: Зміцер Колас, 2012. С. 341-368
Моисеев Г. Мне часто вспоминались страницы далёкого гродненского прошлого / Г.Моисеев // Православный Гродно / автор и составитель Н.Дорош. Гродно, 2000. С.176-177.
Мостовский М. Этнографические очерки России. М., 1874. 149 с.
Мядзёлка П. Сцежкамі жыцця. Мн.: Мастацкая літаратура, 1974.

Орловский Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гродно, 1910.
Орловский, Е.Ф. Гродненская губерния в 1812 году: исторический очерк. Гродно: Губернская типография, 1912.
Оршанский И.Г. Евреи в России: Очерки и исследования. Вып. 1. СПб., 1872.

Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка горада Гродна. Мн., БелЭн, 1999.
Пануцэвіч В. Гарадзеншчына ў нацыянальным руху ў 1918–1919 гадах // Бацькаўшчына, 1964, № 5-6.
Паўлоўская Г. Мадэляваньне сымбалічнага вобразу Гародні ў XX – пачатку XXI ст. // Arche. 2010. № 1-2. С. 517-542
Петрухин В.Я. Евреи в древнерусских источниках XI-XIII века / Архив еврейской

истории. М.: Российская политическая энциклопедия, 2005. Т. 2. С. 143-168.
Плешэвеня А. Каля гродзенскіх фартоў // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка горада Гродна. Мн., БелЭн, 1999. С. 214-224.
Плешэвеня А. Акупацыя (1915-1919 гг.) // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка горада Гродна. Мн., БелЭн, 1999. С. 224-228.
Праходкі па яўрэйскай Гародні // ARCHE. 2010. № 6.

Радзюк А. Р. Ліквідацыя гродзенскага дамініканскага кляштара ў кантэксце палітычных, сацыяльных і культурных змен на Гродзеншчыне ў 30-я гады XIX ст. // Культура, наука, образование в современном мире: материалы V междунар. науч. конф. / ГГАУ. Гродно, 2011. С. 415–419.
Радзюк А. Р. Чалавек за кратамі: гарадзенскія турмы і вязні ў XIX ст. // Гарадзенскі палімсест 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры. XVI–XX ст. Мінск: выдавец Зміцер Колас, 2011. С. 295–328.
Ражанскі Ф. Гродзенская арганізацыя // Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / Уклад, прадм., пасляслоўе і камент. Г.Кісялёва. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1994.
Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861-1862 гг.: материалы и документы / гл. ред. : С. Кеневич. М.: Наука, 1964.
Реймонт Вл. Последний сейм Речи Посполитой. Мн., 1994.
Розенблат Е. Еврейское население Западной Беларуси в хозяйственных структурах вермахта (1841-1943 гг) // Евреи Беларуси: история и культура: сб. научн. Тр. / под ред. И. Герасимовой, Е. Киммеля и Г. Рутмана. Мн.: “АРТИ-ФЕКС”, 1998. Вып. III-IV. С. 108-127.
Росман М. Еврейская община Польши: географические и демографическіе факторы, правовой статус // Главы из истории и культуры евреев Восточной Европы: В 6 ч. Иерусалим: Изд-во Открытого университета, 1995. Ч. 1. С. 1-96.
Россия под надзором. Отчеты III отделения. 1827-1869. Москва, 2006.

Сабалеўская В.А. Габрэйска-хрысціянскі дыялог у Гародні: XIX - пачатак XX стагоддзя // ARCHE. 2010. № 1-2. С. 120-150.
Сабалеўская В. Святочная культура габрэяў беларускай часткі мяжы аселасці ў XIX – пачатку XX ст. // ARCHE. 2011. № 7-8. С. 84-111.
Сабалеўская В.А. Спрадвечныя іншаземцы: старонкі гісторыі гарадзенскіх габрэяў. Гародня, 2000.
Сабалеўская В.А., Баціс М., Буцько У., Крапівіна Н., Паняеў А., Фядосава Ю., Ханф Э., Шлёгель Г. Гародня: сляды габрэйскага жыцця: Праваднік па габрэйскай Гародні // ARCHE. 2010. № 6. С. 344-415.
Сабалеўская В. Аматары лячыцца: санітарыя, хваробы і медыцына ў габрэйскай Гародні XIX- пачатку XX стагоддзя // Гарадзенскі палімпсест. 2010. Асоба, грамадства, дзяржава XV-XX ст. / Пад рэд. А.Ф. Смаленчука, Н.У. Сліж. Мінск: Зміцер КолаС. 2012. С. 207-230.

Сабалеўская В.А. Прадвесце Катастрофы: габрэі Гарадзеншчыны пад час Першай сусветнай вайны // Гістарычны альманах. 2012. Т. 18. С. 74-84.
Сагановіч Г. Невядомая вайна. 1654-1667, Мінск 1995.
Сагановіч Г. Нямецкі падарожнік Самуэль Кіхель пра Горадню часоў Стэфана Баторыя // Спадчына. 2002. № 2-3.
Саяпин В. История общественного транспорта Гродно. Гродно: ЮрСаПринт, 2012.
Саяпин В. HronoГродно. История Гродно на страницах газет. 1913 – 1941 гг. Гродно: ЮрСаПринт, 2013.
Севергин В.М. Записки путешествия по западным провинциям Российского государства, или минералогические, хозяйственные и другие примечания, учинённые во время проезда через оныя в 1802 г. СПБ.: Императорская Академия наук, 1803.
Секретная переписка генерала П.И. Багратиона. Личные письма генерала Н.Н. Раевского. Записки генерала М.С. Воронцова. Дневники офицеров русской армии: Из собраний Государственного исторического музея / Сост. Ф.А. Петров и др. М.: Терра, 1992.
Смиловицкий Л. Катастрофа евреев в Белоруссии: 1941-1944 гг. Тель-Авив: Биб-ка Матвея Чёрного, 2000.
Слюнчанка В. Р. Барысаглебская (Каложская) царква ў Гродне. Мн., 1992
Смалянчук А. Горадня ў Другой сусветнай вайне паводле ўспамінаў яе жыхароў // Горад святога Губерта. Краязнаўчы альманах. Пад рэд. А.Ф.Смаленчука. Вып. першы. Сейны, 2002. С. 8-41.
Смалянчук А. Гарадзенскія мяцежнікі // ARCHE. 2010. № 12. С. 174-185.
Соболевская О., Гончаров В. Евреи Гродненщины: Жизнь до Катастрофы. Донецк: Норд-Пресс, 2005.
Соловьев С. История России в царствование Алексея Михайловича.Т. 1. М., 1877.
Соркіна І. Насельніцтва Гародні паводле апублікаваных матэрыялаў Першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расійскай імперыі 1897 г. // Гарадзенскі палімпсест. XII-XX стст. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Горадня, 7 лістапада 2008 г.). Пад рэд. А.Смаленчука, Н.Сліж. Горадня-Беласток, 2008. С. 112-135.
Субботин А.П. В черте еврейской оседлости: отрывки из экономических исследований в западной и юго – западной России за лето 1887 года. Вып. 2. СПб., 1890.
Судьба Борисоглебской (Коложской) церкви в описаниях Михаила Кояловича и епископа Иосифа (вторая половина XIX в.) // Горад святога Губерта. Зборнік краязнаўчых артыкулаў. Выпуск 2011 г. Мінск: Зміцер Колас, 2011. С. 46-58
Супрон М. Арганізацыя прафесійнай пажарнай службы ў Горадні ў XIX пачатку XX ст. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XV-XX стст. Пад рэд. А.Смаленчука, Н.Сліж. Мінск: Зміцер Колас, 2012. С. 312-321

Тарановский Ф. Обзор памятников магдебургского права западно-русских городов

литовской эпохи // Варшавские университетские известия.№ VII. 1897.
Татаренко А. Недозволенная память. Западная Беларусь в документах и фактах: 1921-1954-е гг. СПб., 2006.
Трусаў А. ды інш. Стары замак у Гродне XI – XVIII стст.: Гіст.-археал. Нарыс Мн.: Навука і тэхніка, 1993.
Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI – XVII вв.: Архит.-археологический анализ. Минск 1988.

Успаміны пра стары Гродна // Горад святога Губерта. Выпуск VII. Гродна, 2013. С. 25-41.
Ціхаміраў А. Саланевічы і Гароднян // ARCHE. 2010. № 1-2. С. 185-193.
Цыпельт З. Грандзіцкая вуліца і Дроўны рынак / З.Цыпельт // Горад святога Губерта. Выпуск IV. Горадня-Вільня, 2008. С. 24-33.

Чарняўскі І.М., Жаровіна Г.П. Нечаканае адкрыццё // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1982. № 4. С. 34-36.
Чарнякевіч А.М. Вашкевіч А.Ф. Гродна якога не было: заходнебеларускі горад як аб'ект гісторыяпісання // Гістарыяграфія і крыніцы па гісторыі гарадоў і працэсаў урбанізацыі ў Беларусі : зб. навук. артыкулаў/Установа адукацыі "Гродзенскі дзярж. ун-т імя Я.Купалы". Гродна: ГрДУ, 2009. С. 397-404.
Чарнякевіч А. Крымінальны свет міжваеннай Гародні. 1919 – 1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест 2011. Мінск: Зміцер Колас, 2012. С. 332-340
Чарнякевіч А. Паміж грызьнёй і барацьбой. Беларускі палітычны нацыяналізм у Горадні (канец 1918 – пачатак 1921 г.) // ARCHE. 2009, № 3.С. 329-410
Чарнякевіч А. "Новая ўлада". З гісторыі саветызацыі Гародні ў гады польска-бальшавіцкай вайны // Гістарычны альманах. 2012. Том 18.С. 85-107
Черепица В. ...Не потерять связующую нить. История Гродненщины XIX - XX столетий в событиях и лицах (исследования, документы, комментарии). Гродно: ГрГУ, 2003. С. 182-183
Черепица В. Движение, потерпевшее крах: "Православные поляки на Гродненщине (1934-1939 годы) // Очерки истории православной церкви на Гродненщине (с древнейших времён до наших дней). Часть II. Гродно: ГрГУ, 2005.
Черепица В. Город-крепость Гродно в годы Первой мировой войны: мероприятия гражданских и военных властей по обеспечению обороноспособности и жизнедеятельности. Гродно: ГрГУ, 2006.
Чернявский И.М. Новый памятник гродненской архитектурной школы 12 в. // Древнерусское искусство. Москва, 1988. С. 73-76.
Чернявский И.М., Пречистенская церковь XII в. в Гродно // Древнерусское государство и славяне, Минск 1983. С. 119-121.
Харэўскі С. Прамоўленае. Вільня: ЕГУ, 2009.
Чернякевич А. Гродненская еврейская община в годы польско-советской войны 1919-1920 гг. // Евреи Беларуси: история и культура: сб. научн. ст. / Сост. И. Герасимова. Мн.: "Четыре четверти", 2001. С. 96-111.

Шаланда А. Род Антонія дэ Кгрыпа, муляра замку Гарадзенскага ў канцы XVI - першай палове XVII ст. // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002. С. 402-414.
Швед В.В., Госцеў А.П. Горадня: Аповяды з гісторыі горада (сярэдзіна 16 – канец 18 ст.). Гродна: Пергамент, 1997.
Швед В.В. Торговля в Беларуси в период кризиса феодализма (1830-1850-е годы). Гродно: ПКФ "Орбикс", 1995.
Швед В.В. Губернскі Гродна: Аповяды з гісторыі горада (канец XVIII – пач. XX ст.). Баранавічы: Баран. Узб. Друкарня, 2003.
Швед В. Данскіх С. Заходні рэгіён Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў. 1805-1815 гады. Гродна:ГрДУ імя Янкі Купалы, 2006.
Швед В.В. Масоны і ложы на землях Беларусі (канец ХУIII – первая чвэрць XIX ст.): біябібліяграфічны слоўнік. Гродна: ГрДУ, 2007.
Шумскі Я. Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944-1953). Беласток, 2012.

Энгельгардт Л.Н. Записки. М.: Новое литературное обозрение, 1997.

Юхо Я., Емельянчык У. "Нарадзіўся я ліцвінам..." Мн.: Навука і тэхніка, 1994.

Якимович Ю. Зодчество Белоруссии XVI-середины XVII в., Минск, 1991.
Яцкевіч З., Урублеўскі В. Гарадзенскі магістрат у XVII ст. // Гарадзенскі палімпсест. 2009г. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX ст. Пад рэд. А. Смаленчука, Н. Сліж, Гародня, 2009. С. 75-117.
Яцкевіч З., Урублеўскі В. Гарадзенскі магістрат у 1743–1767 гг. // Гарадзенскі палімпсест 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XV – XX стст. Мінск, 2012. С. 45-80.
Яцкевіч З., Урублеўскі В. Гарадзенскі магістрат у XVIII ст. // Гарадзенскі палімпсест Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры, XVI–XX стст. 2010 Пад рэд. А. Смаленчука, Н. Сліж, Гародня, 2011. С. 84-120.
Яцкевіч З. Набілітацыйныя прывілеі для гарадоў ВКЛ: Магчымасці і рэалізацыя на прыкладзе Магілёва // Białostocczyzna. 2001. № 1.

Allen J. Autocrasy in Poland and Russia. New York, 1854.
Alexandrowicz S. Gospodarcze, prawne i etniczne osobliwości sieci miejskiej ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI-XVII w. // Miasto i kultura ludowa w dziejach Białorusi, Litwy, Polski i Ukrainy, red. J. Wyrozumskiego, Kraków, 1996.S. 61-89.
Alexandrowicz S. Rola miast i miasteczek w przemianach kulturalnych i językowych na ziemiach Białorusi w XVI-XVIII w. //Наш радавод, кн. 7. Гродна, 1996. С. 243-248; Кн. 8. Гродна, 1999. С. 129-143.

Baron Salo W. The Russian Jew under Tsars and Soviets. New York-London, 1976.
Borowik P. Jurydyki miasta Grodna w XV-XVIII w., Supraśl, 2005.
Busz O. Polska Organizacja wojskowa. Rok 1918 – 1919 // Jednodniówka Koła Związku P.O.W. Grodno, 1936.

Dobroński A. Mieszkańcy Grodna w 1897 roku // Grodno w XVIII wieku. Miasto i ludność (na tle trendów rozwojowych od Średniowiecza do 1939 roku). Pod red. A.Woltanowskiego i J.Urwanowicza. Białystok, 1997.
Durczewski Z. Staryzamek w Grodnie w świetle wykopalisk, dokonanych w latach 1937-1938. Grodno, 1939.

Eisenbach A. Z dziejów ludnośći żydowskiej w Polsce w XVIII i XIX w.: Studja i szkice. Warszawa, 1983. 346 s.
Encyclopedia of the Holocaust / Ed. by Y. Gutman. Tel Aviv – London – New York: Macmillan Pub. Co, 1990. Vol. 1-4.

Galicka I. Dzieje I Państwowego Liceum i Gimnazjum Męskiego im. Adama Mickiewicza w Grodno // Słowo ojczyste. 2008. № 3, 4, 5, 6, 7.

Filipowicz M., Sawicka E. Zbrodnie sowieckie na obrońcach Grodna 1939 r. // Biuletyn Historii Pogranicza. 2005. Nr 6. S. 11-28.

Haumann H. Geschichte der Ostjuden. München, 1990. 212 s.
Haumann H. Historia Żydow w Europie Środkowej i Wschodniej. Warszawa, 2000.
Historia rodziny Piotra Boguckiego – kierownika szkoły powszechnej imienia Stefana Batorego w Grodnie w latach 1926 – 1939, spisana w 2009 roku przez córkę Alinę z Boguckich Adamską // Rocznik Grodzieński. Nr 3. Grodno, 2011.

Gawin T. O bycie Polakiem. Grodno-Białystok, 2013.
Gierowska-Kałłaur J. Zarząd Cywilny Ziem wschodnich (19 lutego 1919 – 9 września 1920). Warszawa: Neriton, 2003.
Gnatowski M. Zgromadzenie Ludowe Zachodniej Białorusi. Białystok, 2001.
Grodno. Informacje turystyczno-letniskowe uwzględniające miasto, okolice i powiat. Białystok: b.r.w.
Grodno w XVIII wieku. Miasto i ludność (na tle trendów rozwojowych od Średniowiecza do 1939 roku), red. A. Woltanowskiego i J. Urwanowicza. Białystok, 1997.

Iwaszkiewicz J. Litwa w roku 1812. Kraków-Warszawa, 1912.
Jędrzychowski Z. Teatra Grodzieńskie 1784-1864. Warszawa, 2012.
Jodkowski J. Cechy grodzieńskie w wiekach dawnych, Grodno, 1926.
JodkowskiJ.Grodno. Wilno, 1923
Jodkowski J. Grodno wczesnośredniowieczne w światle prac wykopaliskowych, dokonanych na Królewskim Zamku Starym w Grodnie w latach 1932 i 1933 // Przęgląd historyczno-wojskowy. Warszawa, 1934. T. 7. Z.1. S. 99 – 115.
Jodkowski J. Świątynia warowna na Kołoży w Grodnie. Grodno, 1936.

Kalendarz informacyjno-propagandowy polskiego stanu posiadania w Grodnie i na

Grodzieńszczyźnie na rok 1938.Grodno: Polska Drukarnia Kresowa, [b.r.w.].
Kasataja T. Sztuka na każdą kieszeń. O początkach kina w Grodnie // Magazyn Polski. 2012. Nr 1.
Kapp M. Zarys dziejów państwowego gimnazjum męskiego im. A. Mickiewicza w Grodnie // Państwowe gimnazjum męskie im. Ad. Mickiewicza w Grodnie. Drugie sprawozdanie za rok szkolny 1928/29. Grodno, 1929.
Kronika miasta Grodna. Grodno, 1928. Zeszyt 1.
Kulikowski A. Lata chłopięce i huk dział. Warszawa, 1999.

Lasek G. Zdrowotność miasta Grodna // Informator miasta Grodna i Grodzienszczyzny. Grodno. 1926.
Lipińska G. Jeśli zapomnę o nich... Warszawa, 1990.
Lisicki J. Strzelcy grodzieńscy. 81 pułk strzelców grodzieńskich im. Króla S. Batorego / J. Lisicki. Białystok, 1995.
Łukomski G. W obronie Wilna, Grodna i Mińska 1918–1920. Koszalin-Warszawa, 1994. 374 s.
Małachowski-Łempicki St. Wykaz polskich łóż wolnomularskich oraz ich członków w latach 1731-1821// Archiwum komisji historycznej Polskiej Akademii Umiejętności. T. XIV. Kraków, 1930.
Małachowski-Łempicki St. Wolnomularstwo na ziemiach dawnego WKL (1776-1822). Dzieje i materiały. Wilno, 1930.
Margolyes M. Grodno / Encyclopedia of the Jewish Diaspora: Memorial Book of Countries and Communities (Belarus). Jerusalem, 1973.
Milewski J. Stefan Batory w tradycji Grodno 1919–1939 // Беларусы і палякі: дыялог народаў і культур. X–XX ст. Гродна, 1999.
Milewski J. Grodno - miasto i ludność w okresie międzywojennym // Grodno w XVIII wieku. Miasto i ludność (na tle trendów rozwojowych od Średniowiecza do 1939 roku) / pod red. A.Woltanowskiego i J.Urwanowicza. Białystok, 1997.
Moroz M. Działalność Józefa Markiewicza w ekonomii grodzieńskiej za rządów Antoniego Tyzenhauza // Białostocczyzna. 1998. Nr 1.S. 15-35.
Niewodniczański T. Grodno-bemerkungen zur panorama-vedute von Adelhauser/Zündt 1568//Lüneburger beiträge zur vedutenforschung. Lüneburg, 1983. S. 103-107.

Omiljanowicz-Szoka C. Moje grodzieńskie lata 1939–1945. Łódź, 1993.
Orzeszkowa E. Listy. Warszawa, 1938, T. 2 Cz. 2.

Postołowicz L. Józef de Sacco - architekt JKMci na Grodzieńszczyźnie // Białostocczyzna, 1995.Nr 1. S. 101-105.
Powstanie Tadeusza Kościuszki z pism autentycznych. Poznań, 1846.
Przegląd statystyczny m.Grodna w latach 1924, 1925 i 1926. Grodna, 1928. 210 s.
Przegląd statystyczny m.Grodna za lata 1922–1923 / Redagował S. Kołecki. Grodno, 1925. 321 s.

Renik W. Dzieje oświaty Grodzieńskiej // Magazyn Polski. 1993. Nr 2.
Renikowa W. Grodno w dwudziestoleciu międzywojennym // Grodno i Wołkowysk w II Rzeczypospolitej: informator wystawy lipiec-październik 2001. Pelplin-Gdańsk, 2001.

Sears R. An illustrated description of the Russian Empire. New York, 1855.
Sawoniewski L. Saga o Grodnie. Wydanie rodzinne. Łódź-Białystok, 1999.
Siemiński J. Walczące Grodno. Wspomnienia harcerza. Białystok, 1990.
Snieżko A. Wydobył z ziemi gród, o którym nikt nic nie wiedział. Wspomnienie o Józefie Jodkowskim. Białystok, 2000.
Sobolewska O. Pogromy i ekscesy antyżydowskie w Grodnie w okresie międzywojennym // Świat NIEpozegnany: Zydzi na dawnych ziemiach wschodnich Rzeczypospolitej w XVIII–XX wieku: Praca zbiorowa / pod red. K.Jasiewicza. Warszawa-London: Instytut Studiów Politycznych, Oficyna Wydawnicza RYTM, Polonia Aid Foundation Trust, 2004.
Spis ludności na terenach administrowanych przez zarząd cywilny ziem wschodnich (grudzień 1919). Lwów, 1920.
Studnicki W. Zarys statystyczno-ekonomiczny ziem północno-wschodnich / W.Studnicki. Wilno, 1922.
Szymański S. Urbanistyczno-architektoniczne formowanie się Grodna w okresie od XIV do XVIII wieku// Rocznik Białostocki. 1970. S. 237-262.
Tomaszewicz Z. Rozwój elektrowni miejskiej w Grodnie // Niemen. 1939. Nr 1.
Triplinn T. Dzennik podróży po Łitwie i Żmudzi. Wilno, 1858.
Urwanowicz J. „Wolność, całość, niezależność" czyli o białoruskim spojrzeniu na insurekcje kościuszkowska // Grifita. 1994. Nr 5.

Waszkiewicz A. Józef Jodkowski. Kilka myśli o człowieku-instytucji, który stworzył Muzeum i był kwintesencją Grodna// Magazyn Polski. 2010. 12 (60).
Weinryb B.D. Neueste Wirtschaftsgeschichte der Juden in Russland und Polen. New Jork, 1972. 282 S.
WojciechowskiJ. Stary zamek w Grodnie. Warszawa, 1938.
Woltanowski A. Grodno w powstaniu kościuszkowskim // Grodno w XVIII wieku. Miasto i ludność.  Białystok, 1997.

Vitoldiana. Codex privilegiorum Vitoldi magni ducis Lithuaniae 1386-1430. Poznań, 1986.
„Zachodnia Białoruś". 17 IX 1939 – 22 VI 1941. Wydarzenia i losy ludzkie. Rok 1939. Warszawa, 1998. S. 340.
Zuckerman A.S. The transformation of the Jews. Chicago, 1984.

